БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя І. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*

# СКАРБЫ ЖЫЦЦЯ

> Я жыць хачу вольным жыццём — жыццём радасці, добрага, вясёлага смеху і ўсяго таго, што побач з другім творыць гармонію жыцця. Я хачу новага, лепшага жыцця. Я крэпка, усімі сваімі сіламі жадаю яго! […] Я скіну, сарву ланцугі свайго старога жыцця і зраблю жыццё новае! Зраблю! Парву ланцугі спрадвечнай гульні-лені, ланцугі глуму, шальмоўства і страшэннай, аграмаднай цемнаты векавечнай…
>
> *Максім Гарэцкі, 1913 г.*

Максім Гарэцкі — класік беларускай літаратуры. Яго імя справядліва ставіцца ў адзін шэраг з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам.

Ужо з самых першых яго апавяданняў было відаць, што ў беларускую літаратуру прыйшоў вельмі сур'ёзны, самабытны пісьменнік, сапраўдны мастак слова. Узяцца за пяро яго прымусіла вялікае жаданне змяніць да лепшага жыццё свайго народа, вывесці яго з векавечнай цемры да святла, да волі.

Ступіўшы ў пачатку XX стагоддзя на шлях літаратуры, Максім Гарэцкі не сышоў з яго да канца жыцця, нягледзячы на вельмі неспрыяльныя ўмовы. Нішто — ні вайна, ні рэвалюцыя, ні беспадстаўныя арышты і ссылка — не змусіла пісьменніка выпусціць з рук пяра. Выбіла яго толькі гвалтоўная смерць. Народжаная высокімі патрыятычнымі памкненнямі, крыштальна чыстая проза Максіма Гарэцкага стала вельмі прыкметнай з'явай у гісторыі беларускай літаратуры, як і яго драматургія, публіцыстыка, літаратурная крытыка, літаратуразнаўства.

Нарадзіўся Максім Іванавіч Гарэцкі 18 лютага 1893 года ў вёсцы Меншая (цяпер Малая) Багацькаўка Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні. У сям'і малазямельных сялян Івана Кузьміча і Ефрасінні Міхайлаўны, акрамя Максіма, было яшчэ чацвёра дзяцей: Іван, Парфір, Гаўрыла і Ганна.

У васьмігадовым узросце хлопчыка аддалі ў школу граматы (1901–1903), што знаходзілася ў суседняй вёсцы Большая Багацькаўка. Пасля ён працягваў навучанне ў «образцовой второклассной школе» ў сяле Вольшы (1903–1905). Тут жа Максім скончыў настаўніцкія класы (1905–1908) і атрымаў права вучыць грамаце вясковых дзяцей,

аднак настаўнічаць не мог, бо быў яшчэ непаўналетнім. Праз год, падрыхтаваўшыся, ён вытрымаў вялікі конкурс і паступіў у Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, дзе навучаўся за казённы кошт.

Цікавасць да мастацкай літаратуры, якая праявілася ў Максіма ўжо ў школе, у студэнцкія гады набыла большую акрэсленасць. Ён многа чытаў твораў А. Пушкіна, М. Лермантава, Ф. Дастаеўскага, Л. Талстога, А. Чэхава, І. Буніна, М. Гогаля, Т. Шаўчэнкі, М. Кацюбінскага, А. Міцкевіча, Э. Ажэшкі, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі. У гэты ж перыяд М. Гарэцкі, разам з іншымі навучэнцамі, захапляўся беларускім фальклорам, браў актыўны ўдзел у абмеркаванні публікацый у газеце «Наша ніва», якую яны выпісвалі.

Выданне гуртавала вакол сябе перадавых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, выклікала цікавасць у моладзі, бо менавіта «Вільня і «Наша ніва», — як адзначыў пазней М. Гарэцкі, — задавалі тон тагачаснаму «беларускаму руху», выдавецкім таварыствам і літаратуры»*. Дабратворныя ідэі Адраджэння, што актыўна пашыраліся перадавымі прадстаўнікамі нацыянальнага руху ў нашаніўскі перыяд, аказалі значны ўплыў на фармаванне свядомасці пісьменніка, выпрацоўку ўласнай грамадзянскай пазіцыі. Яны былі сугучныя думкам і імкненням юнака, яшчэ больш распальвалі ў яго душы агонь адраджэнскіх ідэй. Пад уплывам прачытанага ў М. Гарэцкага абудзіўся прыроджаны талент мастака слова і ўзнікла жаданне пісаць самому.

Пачынаў ён з невялікіх карэспандэнцый, допісаў, нататак, якія пасылаў у газету «Наша ніва». Менавіта на старонках гэтага перыядычнага выдання адбыўся яго творчы дэбют. Першай публікацыяй стала карэспандэнцыя «Г. Горкі, Магілёўск[ая] губ[ерня]». Яна надрукавана 13 верасня 1912 года пад псеўданімам *Беларус*. Яе аўтар расказвае пра Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, пра абітурыентаў, якія вытрымалі экзамены і сталі студэнтамі. З гэтага года М. Гарэцкі рэгулярна дасылае свае допісы ў рэдакцыю «Нашай нівы». Туды ж адрасаваў ён напісанае ў снежні ў 1912 года і сваё першае апавяданне «У лазні», якое было апублікавана 25 студзеня 1913 года за подпісам *Максім Беларус*. Аўтарытэт маладога пісьменніка ў вачах супрацоўнікоў газеты «Наша ніва» ўзрастаў з паступленнем кожнай новай карэспандэнцыі, пра што выразна сведчыць ліст ад рэдакцыі, надрукаваны на старонках газеты 9 жніўня 1913 года: «Максіму Беларусу. Дужа дзякуем за Вашы творы, каторыя Вы нам прысылалі ў апошнія часы. Мы верым, кажучы словамі нашых прадзедаў, што праз Вас «памножана будзе слава слаўнай айчызны нашай», калі толькі агонь, каторы гарыць у Вас, будзе далей разгарацца».

Не памыліліся працаўнікі рэдакцыі газеты, Максім Гарэцкі апраўдаў іх спадзяванні. Ён шчыра служыў «Духу Чыстаты і Праўды», узнімаў «Храм» нацыянальнага «Адраджэння». Сваё творчае крэда ён выразна

* Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры. — Менск, 1924. — С. 283.

выказаў ужо ў самых першых апавяданнях «У лазні» (1912), «Роднае карэнне» (першапачатковая назва «Родныя карэнні»), «Стогны душы», у артыкулах «Наш тэатр» (усе — 1913), «Развагі і думкі» (1914) і інш.

У нацыянальным адраджэнні беларусаў найважнейшае значэнне М. Гарэцкі надаваў асвеце. «Трэба пусціць у народ кніжку», — гаварыў пісьменнік. Для таго каб беларускі народ дабіўся «лепшай долі», «чалавечага жыцця», «каб закрасаваў прад відам другіх народаў сваімі арыгінальнымі, самабытнымі, выразнымі прыгожасцямі», ён лічыў неабходным падняць яго культуру, абудзіць нацыянальную самасвядомасць.

У 1914 годзе ў Вільні выйшаў першы зборнік апавяданняў М. Гарэцкага «Рунь». У кнігу ўвайшлі дзевяць апавяданняў і абразок «Атрута». Большасць з гэтых твораў ужо друкавалася на старонках «Нашай нівы».

Невядома, ці паспеў М. Гарэцкі атрымаць сваю першую кнігу да прызыву на вайсковую службу. Бо ўжо ў чэрвені 1914 года, звольніўшыся з працы каморніка, ён, як згадваецца ў дакументальна-мастацкіх запіскак «На імперыялістычнай вайне», «ехаў у бязлюдным вагоне трэцяга класа па знямелых ад пякоты і пылу і такіх убогіх жмудскіх палях у N-скую артылерыйскую брыгаду…». Там неўзабаве і застала яго Першая сусветная вайна. Маладому сувязісту артылерыйскай брыгады давялося ўдзельнічаць у баявых аперацыях ва Усходняй Прусіі. За бездакорную службу ён быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам IV ступені. Усё ўбачанае і перажытае на вайне М. Гарэцкі занатоўваў у франтавым дзённіку, на аснове якога і былі напісаны пазней «Запіскі салдата Лявона Задумы». У адным з баёў Гарэцкі атрымаў цяжкае раненне, пасля чаго доўга лячыўся ў Вільні, Маскве, Магілёве, на нейкі час быў адпушчаны да бацькоў. У 1916 годзе ён атрымаў накіраванне ў Паўлаўскае пяхотнае вучылішча (Петраград), потым быў камандзіраваны ў Іркуцк, адкуль яго перавялі ў Гжацк. За перыяд знаходжання на вайсковай службе пісьменнік яшчэ двойчы трапляў на фронт. На пачатку 1917 года, калі быў на пазіцыях у раёне пінскіх балот, ён цяжка захварэў. Лячыўся ў палявым шпіталі, а потым у Арле, Маскве, Жалезнаводску.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, М. Гарэцкі ў кожны зручны момант вяртаўся да творчай працы. У 1915 годзе ён напісаў апавяданні «Рускі», «Літоўскі хутарок», «Дзёгаць», «Чарнічка», у 1916-м — «Генерал», «Хадзяка», «На этапе», «Прысяга», «Маці», «Амерыканец», урывак з рамана «Крыж» — «На гаі», у 1917-м — «Знібее сэрца», «Габрыелевы прысады», «Зіма» і інш.

Па стане здароўя салдат Максім Гарэцкі быў камісаваны і з канца 1917 да пачатку 1919 года жыў у Смаленску. Працаваў камендантам жыллёвага аддзела горада, супрацоўнікам газеты «Известия Смоленского Совета…», загадчыкам розных аддзелаў газеты «Звезда». На старонках «Известий…» Гарэцкі, як і многія прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі, актыўна выступаў у друку з востраправблемнымі

публіцыстычнымі артыкуламі, а таксама змяшчаў некаторыя ўласныя апавяданні ў сваім жа перакладзе на рускую мову. За подпісам *Дед Кузьма* 1 мая 1918 года апублікаваў і пераклаў аповесць «За что?» («Ціхая плынь»). Разам з братам Гаўрылам выдаў у Смаленску «Руска-беларускі слоўнік» (1918).

Калі 1 студзеня 1919 года быў абвешчаны суверэнітэт Беларусі, Гарэцкі сапраўды паверыў, што ў хуткім часе «ачуняе» яго родны край і можна будзе ўбачыць сваю старонку роўнай сярод роўных краін Еўропы. Таму ён з усёй шчырасцю падтрымліваў палітыку савецкай улады ў справе развіцця культуры і мовы народаў былой Расійскай імперыі, пра што сведчаць такія яго артыкулы, як «Будем жить!», «Кое-что о нашем быте», «Новая буржуазия», «Берегите!», «Няхай жыве камуністычная Беларусь[!]» і інш., дзе пісьменнік заклікаў «умацоўваць заваёвы» «сацыяльнай рэвалюцыі», верыць у «магутнасць духу правадыроў народных»*.

У студзені 1919 года з рэдакцыяй «Звезды» М. Гарэцкі пераехаў у Мінск, адтуль — у Вільню. Раптоўны захоп горада войскамі панскай Польшчы прымусіў М. Гарэцкага застацца на акупаванай тэрыторыі.

Віленскі перыяд (1919–1923) вызначаецца інтэнсіўнай навукова-асветнай, выдавецкай, творчай дзейнасцю пісьменніка. Ён працуе выкладчыкам на беларускіх настаўніцкіх курсах і адначасова ў Першай Віленскай беларускай гімназіі, з'яўляецца рэдактарам-выдаўцом газет «Наша думка», «Беларуская думка», «Беларускія ведамасці», піша «Гісторыю беларускае літаратуры» (1920), складае «Хрэстаматыю беларускай літаратуры. XI век — 1905 г.» (1922). Падрыхтаваў тут і выдаў «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнічак» (1919). З пад яго пяра выходзяць таксама многія мастацкія творы. У віленскі перыяд у творчасці М. Гарэцкага выразна назіраецца «пераадоленне» «ўласных палітычных ілюзій смаленскай пары»**, пра што яскрава сведчаць яго многія публікацыі.

На старонках газет «Наша думка», «Беларускія ведамасці», «Беларускі звон» у 1921–1922 гадах з'яўляюцца такія праблемныя, вострапалемічныя артыкулы, як «Загадка маскоўскіх камуністаў» («Наша думка», 1921, 14 студзеня), «Гдзе ёсць беларускасць або нашы маленькія жаданні» («Беларускія ведамасці», 1921, 31 кастрычніка), публікуюцца апавяданні «У 1920 годзе», «Апостал» («Беларускія ведамасці», 1921, 14 верасня, 25 снежня), [«Незадача»], «Усебеларускі з'езд 1917-га года» («Беларускі звон», 1922, 18 сакавіка, 1 верасня) і інш. Яшчэ больш яскрава выявіліся змены ў ідэалагічнай пазіцыі М. Гарэцкага ў аповесці «Дзве душы» (1918–1919), дзе аўтар «зрабіў спробу даць мастацкае вытлумачэнне падзей рэвалюцыі і народжаных

---

* Гарэцкі, М. Творы. — Мінск, 1990. — С. 213, 210.

** Мушынскі, М. Максім Гарэцкі // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. — Мінск, 2003. — Т. 1. — С. 397.

ёю працэсаў у грамадскім жыцці, раскрыць ролю нацыянальнай інтэлігенцыі як абаронцаў гуманістычных ідэалаў»*.

Тое, што напісанне «Гісторыі беларускае літаратуры» выпала на долю М. Гарэцкага, не было выпадковым. Яму як выкладчыку беларускай літаратуры была добра зразумела патрэба ў такім падручніку. Гарэцкі добра ўсведамляў неабходнасць навуковага асэнсавання шматвяковага развіцця беларускай літаратуры, мовы, усёй культуры, разумеў ролю гісторыі ў адраджэнні беларускай нацыі.

У падручніку аўтар упершыню на навуковым грунце прасачыў развіццё беларускага пісьменства ад старажытнасці да першых паслякастрычніцкіх гадоў. Былі тут закрануты і пытанні ўтварэння беларускай народнасці, фармавання беларускай літаратурнай мовы. У Вільні «Гісторыя…» перавыдавалася тройчы (1920, 1921, 1924).

Сама Вільня, гэты старажытны беларускі горад, пра які калісьці так рамантычна марыў юнак, адкуль, на яго думку, «свяцілася магутным святлом наша старадаўняя культура» і «расцякаліся па ўсёй краіне жывыя струменьчыкі вызвалення»**, спрыяла творчай працы М. Гарэцкага. Акрылялі яго і змены ў асабістым жыцці. У Вільні ён пазнаёміўся з настаўніцай Першай Віленскай беларускай гімназіі Леанілай Усцінаўнай Чарняўскай і 16 ліпеня 1919 года ўзяў з ёй шлюб. Гарэцкі прысвячаў жонцы свае творы, дапамагаў складаць чытанку для дзяцей «Родны край». 13 сакавіка 1921 года ў іх сям'і нарадзілася дачка Галя, а 15 ліпеня 1922 года — сын Лёня.

У ноч з 19 на 20 студзеня 1922 года М. Гарэцкі разам з іншымі дзеячамі беларускай культуры быў арыштаваны польскімі ўладамі і пасаджаны ў адзіночную камеру Лукішскай турмы. Яго абвінавацілі ў прыналежнасці да партыі бальшавікоў і замаху на дзяржаўную ўладу. Аднак дзякуючы пратэстам грамадскасці суд над ім не адбыўся. М. Гарэцкага «са здзекам выкінулі з Вільні ў нейтральны пас паміж польскім і літоўскім фронтам», як расказваў ён у сваёй аўтабіяграфіі. Пісьменнік апынуўся ў Коўне, адтуль пераехаў у Дзвінск, дзе чытаў лекцыі на Беларускіх настаўніцкіх курсах. У гэты час ён напісаў драматычныя абразкі «Салдат і яго жонка», «Каменацёс», «Свецкі чалавек», «Не адной веры», «Чырвоныя ружы», «Жартаўлівы Пісарэвіч» і інш.

Летам 1922 года пісьменнік вярнуўся ў Вільню. Аднак актыўнаму дзеячу беларускага адраджэння заставацца ў горадзе стала небяспечна. Таму ў кастрычніку 1923 года М. Гарэцкі на падставе атрыманага ў савецкім пасольстве ў Варшаве дазволу разам з сям'ёй пераехаў у Мінск.

Да пачатку 1926 года выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Камуністычным універсітэце БССР, чытаў лекцыі на рабфаку БДУ. Па заказу Камісарыята Асветы яму было даручана распрацаваць

---

* Мушынскі, М. Максім Гарэцкі // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. — Мінск, 2003. — Т. 1. — С. 397.

** Гарэцкі, М. Прысады жыцця. — Мінск, 2003. — С. 187.

новы курс «Гісторыі беларускае літаратуры». У 1924 годзе падручнік выйшаў у Дзяржаўным выдавецтве. У параўнанні з папярэднімі выданнямі ў новым падручніку М. Гарэцкі ўдакладніў перыядызацыю гісторыі беларускай літаратуры, істотна змяніў кампазіцыю, уключыў новы раздзел, які прысвячаўся разгляду вуснай народнай паэзіі. Аўтар пашырыў таксама агляд творчасці многіх пісьменнікаў, увёў у падручнік новыя імёны беларускіх літаратараў, разгледзеў новыя творы нашай літаратуры, што выйшлі паміж выданнямі «Гісторыі…». Напрыклад, належнае месца было адведзена творчасці У. Галубка, Ц. Гартнага, дадзена высокая ацэнка паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа. У новым выданні «Гісторыі…» М. Гарэцкі знаёміць чытача таксама і з творчасцю папулярнага ў той час паэта М. Чарота, расказвае пра літаратурна-мастацкае згуртаванне «Маладняк», дае кароткія звесткі пра тых, хто звязаў свой лёс з развіццём літаратурнай крытыкі, публіцыстыкі, навукова-папулярнай літаратуры. У канцы кнігі пад загалоўкам «Назваслоўе» аўтар змясціў тлумачальны слоўнік літаратурных тэрмінаў і паняткаў і г. д.

Крыху больш як шэсць гадоў, пражытых у Савецкай Беларусі, былі для М. Гарэцкага надзвычай плённымі. У 1925 годзе ён стаў правадзейным членам Інбелкульта. Пэўны час выконваў абавязкі навуковага сакратара Літаратурнай камісіі, узначальваў Слоўнікавую камісію. З 1926 да 1928 года працаваў у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, дзе ўзначальваў кафедру беларускай мовы і літаратуры. Пасля вяртання з Горак у Мінск быў прызначаны вучоным спецыялістам Інстытута навуковай мовы Інбелкульта.

Шмат увагі М. Гарэцкі ўдзяляў у гэты час літаратурна-мастацкай творчасці. У 1926 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшлі яго аповесці «У чым яго крыўда?», «Ціхія песні» («Ціхая плынь»), дакументальна-мастацкія запіскі «На імперыялістычнай вайне», зборнік «Досвіткі», новае выданне «Гісторыі беларускае літаратуры». Паралельна з працай над мастацкімі творамі М. Гарэцкі актыўна выступаў у друку са шматлікімі літаратурна-крытычнымі артыкуламі. Яго агляд творчасці маладых пісьменнікаў «Маладняк» за пяць гадоў» у 1928 годзе выйшаў асобным выданнем.

Гэта быў сапраўды творчы ўздым пісьменніка. Творы яго вызначаліся разнастайнасцю тэматыкі, адметнасцю формы і зместу, вельмі каларытнай мовай. Але М. Гарэцкі не спыняўся на дасягнутым. Завяршаючы распачатае, ён гарэў жаданнем узяцца за напісанне ці не самай галоўнай сваёй кнігі — «Камароўскай хронікі». Для збору матэрыялу для яе ён у 1926 годзе едзе ў Сібір і на Далёкі Усход, каб пазнаёміцца з жыццём беларусаў-перасяленцаў. Пасля гэтай паездкі нарадзіўся цыкл апавяданняў «Сібірскія абразкі» — адзіны нават на сённяшні дзень мастацкі твор пра лёс беларусаў, якія пакінулі родныя мясціны ў пошуках лепшага жыцця і выехалі далёка за межы Бацькаўшчыны.

Істотнае месца ў творчай біяграфіі М. Гарэцкага займае перакладчыцкая дзейнасць. Ім, як і Я. Купалам, амаль адначасова быў зроблены

пераклад выдатнага помніка літаратуры ўсходніх славян «Слова аб палку Ігаравым». М. Гарэцкі пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. Горкага, Ю. Лебядзінскага, А. Фадзеева, У. Арсеньева, Е. Яраслаўскага і іншых. Займаўся і аўтаперакладам.

Важнае значэнне надаваў М. Гарэцкі збіранню і апрацоўцы фальклору. «Даследаванне нашых вусных твораў шмат чаго вытлумачыць нам у гісторыі культуры — як агульнай, так і нашай, і дасць нам належныя падставы ў справе гістарычнай паэтыкі, — гаварыў М. Гарэцкі. — Гэтае даследаванне раскрые нам сутнасць самабытнабеларускай паэтычнай творчасці. Яно будзе дапамагаць нашым паэтам і пісьменнікам тварыць і працаваць па-беларуску з належнай тэарэтычнай свядомасцю і тэхнічнай дасканаласцю. Яно высветліць наш фальклорны матэрыял так, што і школа наша зможа карыстацца ім у належнай меры і з належным падыходам»*. У 1928 годзе разам з А. Ягоравым М. Гарэцкі выдаў асобнай кніжкай «Народныя песні з мелодыямі», у якую ўвайшлі 318 песень, запісаных ад Ефрасінні Міхайлаўны, маці пісьменніка.

У Мінску, Горках значна пашырылася кола знаёмых, сяброў М. Гарэцкага. Яго сям’ю наведвалі З. Бядуля, А. Якімовіч, У. Дубоўка. Асабліва цёплыя адносіны склаліся з сем’ямі Я. Купалы і Я. Коласа.

У другой палове 1920-х гадоў сацыяльна-палітычнае і нацыянальна-культурнае становішча ў краіне прыкметна пагоршылася. Пачала згортвацца беларусізацыя, мацнеў цэнзурны кантроль за друкаванай прадукцыяй. У гэтай сувязі Галоўлітам былі зняты асобныя кавалкі тэксту з дакументальна-мастацкіх запісак М. Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне», якія выйшлі асобнай кнігай у 1926 годзе. «Зборнік апавяданняў», падрыхтаваны ў 1928 г. і здадзены ў Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, наогул не пабачыў свету. Між тым гэта была прыкметная вяха пісьменніка на шляху да асваення буйной эпічнай формы, да ўдасканалення творчага майстэрства. Зборнік з’яўляецца істотным звяном у ідэйна-мастацкім кантэксце творчасці М. Гарэцкага і нясе ў сабе адметныя рысы структурна-жанравых пошукаў нацыянальнай літаратуры 1920-х гадоў.

Разам з тым «Зборнік апавяданняў» Максіма Гарэцкага — гэта пачатковы этап у ажыццяўленні грандыёзнай задумы па стварэнні шырокага эпічнага палатна, у якім пісьменнік хацеў адлюстраваць лёс народа на сумежжы двух стагоддзяў, паказаць сувязь чалавека з сваім родам, з гісторыяй, з часам. Ажыццявіць гэтую задуму М. Гарэцкі, як вядома, меўся ў «Камароўскай хроніцы» і часткова здзейсніў у рамане «Віленскія камунары».

Паводле успамінаў жонкі М. Гарэцкага Леанілы Усцінаўны Чарняўскай, «Зборнік…» застаўся не выдадзеным таму, што «палітрэдактар Будзінскі даў адмоўны водзыў». Гэты рэальны факт быў пакладзены

* Гарэцкі, М. Творы. — Мінск, 1990. — С. 276.

пісьменнікам у аснову апавядання «Ашуканы палітрэдактар» (1929), якое ён уключыў у новы празаічны цыкл пад назвай «Люстрадзён». У гэтым творы аўтар вельмі трапна высмеяў асобныя негатыўныя праявы літаратурна-грамадскага жыцця краіны канца 1920-х гадоў, з выкарыстаннем сродкаў сатыры па-майстэрску намаляваў яскравыя вобразы бюракратаў-выдаўцоў, абмежаваных ахоўнікаў савецкай цэнзуры, прыстасаванцаў, людзей «тутэйшых».

З вялікадзяржаўным шавінізмам і многімі праблемамі, народжанымі ім, М. Гарэцкаму даводзілася сутыкацца не раз. І з дапамогай мастацка-публіцыстычнага слова ён выкрываў розныя рэцыдывы, сваёй магутнай зброяй — пяром — вёў з імі барацьбу.

Аднак у літаратурным асяродку ўжо «пачаў разгульваць вульгарны сацыялагізм». Над Гарэцкім збіраліся цёмныя хмары. У друку пачалі з'яўляцца публікацыі, дзе пісьменнік называўся «нацдэмам», а яго патрыятычныя пачуцці расцэньваліся як «нацыяналістычныя», варожыя сацыялістычнаму ладу жыцця.

18 ліпеня 1930 года М. Гарэцкі беспадстаўна быў арыштаваны органамі АДПУ і пасаджаны ў мінскую турму. Сфабрыкаваныя абвінавачванні ў прыналежнасці яго да так званай контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» пісьменнік не прызнаў. І ўсё ж у красавіку 1931 года ён быў асуджаны да пяцігадовай высылкі ў Вятку (з 1934 года — г. Кіраў).

Творчы ўзлёт М. Гарэцкага быў перапынены ў самым яго апагеі. Вынесены прыгавор рэзка змяніў усе жыццёвыя і творчыя планы пісьменніка, прымусіў яго пайсці, як прызнаваўся ён у сваіх запісах, «па незнаёмых каляінах чужога царства, як бяздомнага валацугу». Яму давялося працаваць рабочым на будоўлі лазні, чарцёжнікам на фабрыцы навучальных дапаможнікаў, тэхнікам-каштарыснікам, выконваць самыя розныя абавязкі, якія не спрыялі творчай працы.

Нягледзячы на невыносныя ўмовы жыцця, М. Гарэцкі ўсё ж знаходзіў час для творчасці. У Вятцы ён першапачаткова прыводзіў да ладу тое, што было распачата раней. Апрацоўваў матэрыялы «Камароўскай хронікі», «Віленскіх камунараў», дзённікавых запісаў, што атрымалі назву «Кіпарысы». У гэты ж перыяд у М. Гарэцкага нарадзілася задума напісання новага твора пра яго скразнога героя — Лявона ў выгнанні. Ён працуе над «Лявоніусам Задумекусам», піша апавяданні «Юбілеуш», «Як удава».

Праца над раманам «Віленскія камунары» ішла найбольш інтэнсіўна і мэтанакіравана, бо яна яшчэ цепліла надзею пісьменніка на змену абставін і адначасова была пэўным кампрамісам з боку аўтара. Асвятляючы тэму рэвалюцыі, ствараючы вобразы камуністаў як мужных і адважных барацьбітоў, змагароў за светлую будучыню, М. Гарэцкі імкнуўся не толькі сцвердзіць сябе як пісьменнік, але і паказаць сваю прыхільнасць да рэвалюцыйных ідэй, чым спадзяваўся выклікаць давер да сябе ў адказных асоб, якія маглі б змяніць яго трагічны лёс.

Пры напісанні рамана М. Гарэцкі, паводле яго слоў, «баяўся, каб не зрабіць якой памылкі» ў асвятленні тых ці іншых падзей. Ён баяўся, каб не сказаць чаго лішняга, такога, да чаго можна было б прыдрацца Галоўліту і іншым інстанцыям. Напісаўшы твор на рускай і беларускай мовах і адаслаўшы абодва варыянты ў Маскву і Мінск, пісьменнік жыў надзеяй убачыць раман апублікаваным, спадзяваўся на вяртанне свайго сумленнага імя.

Але падзеі, якія разгортваліся наўкол, сведчылі пра адваротнае. Кожны дзень М. Гарэцкаму даводзілася сутыкацца з антычалавечнасцю, антыгуманнасцю. На яго «прашэнні міласціны», якія заключаліся ў пошуках жылля і працы, просьбах аб пераводзе бліжэй да родных межаў, аб дазволе наведаць бацькоў і г. д., даваліся адмоўныя адказы. Кажучы словамі аўтара, прашэнні заканчваліся атрыманнем «гнілога гарбуза».

А цягнікі ішлі і ішлі. З кожным днём расла колькасць ссыльных.

Гады, пражытыя М. Гарэцкім у выгнанні, сталі для яго часам суровых выпрабаванняў, духоўных і фізічных пакут.

Абсурд, з якім давялося сутыкнуцца пісьменніку, павінен быў зламаць яго або яшчэ больш загартаваць. Здарылася апошняе, бо М. Гарэцкі ўсвядоміў абсурднасць жыццёвай сітуацыі, «глядзеў на яе ва ўпор»* і пры гэтым заставаўся самім сабой. А. Камю пісаў: «Вайну немагчыма адмаўляць. На вайне або гінуць, або выжываюць. Так і з абсурдам: даводзіцца ім дыхаць, прызнаваць яго ўрокі і ўвасабляць іх у жыцці. У гэтым сэнсе творчасць ёсць найвышэйшая радасць абсурду. […] Твор мастацтва аказваецца адзінай у гэтым свеце магчымасцю ўмацаваць сваю свядомасць і зафіксаваць яе прыгоды. Тварыць — гэта жыць двойчы»**. Пра тое ж гаварыў і Ніцшэ: «Мастацтва, і нічога, акрамя мастацтва. Мастацтва дадзена нам, каб мы не памерлі ад праўды»***.

Творчая праца, якую М. Гарэцкі называў «выспай Патмос», заўсёды была для пісьменніка «стравай» для душы. У выгнанні патрэба творчасці стала для яго яшчэ больш вострай і неабходнай. Бо менавіта ў ёй Гарэцкі знаходзіў ратунак, душэўную раўнавагу, сховішча ад тых нясцерпных умоў жыцця, якія часам прыводзілі да адчаю.

«Я адзін. Іскаркі сыплюцца з воч. У галаве так лёгка, лёгка. Зараз канец, зараз…

Успомні пра выспу Патмос! Там ратунак, збавенне!» («Скарбы жыцця»).

«Шукай свой човен залаты! — неаднаразова гаварыў сабе аўтар. — Едзь на выспу Патмос. Даўно там не быў. Духам аскудзеў.

---

* Камю, А. Творчество без будущего / Камю, А. Творчество и свабода: Статьи, эссе, записные книжки. — М., 1990. — С. 64.

** Тамсама. — С. 89.

*** Тамсама.

О сонца светлае-прасветлае! абагрэй ты мяне!
Далёкая выспа Патмос! Там прытулак…».

Усё, што напісана М. Гарэцкім на творчым мацерыку на гэтым этапе, дазваляе адчуць, як хвалі абсурду, наплываючы адна на адну, адбіваліся на мастацкіх намерах пісьменніка і з кожным разам павялічвалі сілу яго ўнутранага бунту. Паказальнікам найвышэйшай ступені такога бунту з'яўляецца «філасофская прытча» (М. Мушынскі) «Скарбы жыцця». «Скарбы жыцця» — гэта прарыў творчай ідэі аўтара, якая не знайшла рэалізацыі ў «Лявоніусе Задумекусе» і ўвесь час не адпускала яго ад сябе. Зыходным момантам творчага выбуху М. Гарэцкага стала смерць маці — Ефрасінні Міхайлаўны. Страта блізкага і роднага чалавека яшчэ мацней абвастрыла ў яго адчуванне жыццёвай абсурднасці. Знаходзячыся ў выгнанні, ён не змог выканаць свой апошні сыноўні абавязак, не змог правесці яе ў апошнюю дарогу, не змог ажыццявіць яе святую надзею «пабачыць усіх сыноў разам», не змог замяніць яе «на баявым пасту». Невыносны свой боль М. Гарэцкі выказваў на паперы, якая на той момант замяняла яму суразмоўцу, давала магчымасць выгаварыцца, аблегчыць душэўны цяжар:

«Ніхто не ведае, што гора ў цябе.
Ніхто не ведае, што цяжка табе.
З кім табе гора падзяліць?
З кім табе цяжкасці аблегчыць?
Людзі сцюдзёныя, чужыя… Што ім да цябе?
Песень хаўтурных не пачуеш. Гутарак спачувальных не будзе.
І толькі весткі благія з усіх бакоў.
Паўночніка гоняць на паўдзён.
Ты — "сабака пабіты"…»

Маці для М. Гарэцкага была сімвалам высакароднасці, дабрыні… Яе вобраз у пісьменніка асацыіруецца з вобразам Божай Маці, ікону якой ён бачыў на куце ў бацькоўскай хаце: «Абраз маткі-пакутніцы з пахіленаю на дзіцятка галавою бачыць будзеш — высока, сумна, паважна».

М. Гарэцкі як чалавек шырокага светапогляду, чалавек-аналітык, псіхолаг не мог не зразумець абсурднасці сітуацыі і трагічнасці часу, як не мог не адчуць і таго, што ён — «заложнік» гэтых абставін. У «Лявоніусе Задумекусе» праз алегарычнае апісанне сну пісьменнік вельмі выразна перадае сваё разуменне драматычнага становішча творчай інтэлігенцыі, ён называе і непасрэднага віноўніка «начнога разбою»: «Мяса конскае. Вусаты з чорнымі вачыма, гаворыць прадмову нацдэмам, смяецца ён з іх, нічога ім не дасць…»

Зразумеўшы безвыходнасць свайго становішча і адчуўшы палітычную сітуацыю ў краіне, М. Гарэцкі вонкава зміры ўся. Аднак ідэя, якой ён прысвяціў сваё жыццё, засталася няскоранай, як і засталася нязменнай яго вера ў народ, у жыццестваральную сілу, у здольнасць выявіць і ліквідаваць карані зла. Вялікія спадзяванні пры гэтым ён ускладаў на маладое пакаленне: «Багатае кіно было ў мяне перад вачыма, — пісаў Гарэцкі, робячы «агледзіны» «скарбаў жыцця» свайго. —

Убачыў я вайну і мір, і смех і жаль, і праўду і няпраўду, і пакапаныя старыя карані, і на іх месцы маладыя парасткі.

Ідуць дажджы, і веюць сухавеі, і чорныя страшныя градавыя хмары праходзяць над полем. А ніва ціха зелянее.

І было мне радасна і сумна…»

Гарэцкі-ссыльны, як і Гарэцкі-франтавік, лічыў сваім грамадзянскім абавязкам занатаваць, зафіксаваць усё ўбачанае і перажытае. Аднак жыццё дыктавала свае ўмовы, прымушала шукаць новыя формы і метады ў адлюстраванні рэчаіснасці. І ён знайшоў іх у «Лявоніусе Задумекусе», у творы пра жыццё пісьменніка-выгнанніка, прататыпам якога быў ён сам.

Праца над гэтым творам ішла марудна, не прыносіла задавальнення. Нанова перажытыя драматычныя моманты жыцця, узноўленыя ў памяці, прыгняталі М. Гарэцкага маральна. Выказацца на поўную сілу — так, як хацелася, не было магчымасці. Усё разам узятае прывяло пісьменніка да рашэння «адлажыць» працу, а праз некаторы час нарадзіла ў яго думку аб напісанні на тым жа матэрыяле новага твора — толькі са значна пашыраным абсягам зместу, з больш высокім каэфіцыентам абагульнення, глыбокім філасофскім роздумам над мінулым і сучасным, над пражытым і здзейсненым — роздумам «аб сутнасці з’яў жыцця».

«Усё жыццё праляцела, як адзін дзень. Усё яно — як на далоні. […]

Цану рэчам пазнаў. Людзей да самых глыбінь уведаў. Жыццём даражыць навучыўся. І да смерці сябе рыхтаваць я ўмею. Каб прыняць яе меч хоць калі, і без пары, і без усякай патрэбы.

Дык слава жыццю!

Слава і смерці!»

Гэтыя радкі якраз і належаць новаму твору — «Скарбы жыцця».

Працу М. Гарэцкага над «Лявоніусам Задумекусам» і «Скарбамі жыцця» можна параўнаць з вядзеннем дзённіка салдатам-франтавіком на перадавых пазіцыях (у акопах паміж баямі, у зацішку паміж перастрэлкай), дзе кожную хвіліну падпільноўваюць небяспека, смерць. Розніца ў тым, што ў першым выпадку (на фронце) непасрэдны вораг вядомы, у другім (у ссылцы) ён схаваны, і невядома, пад якой маскай і калі можа з’явіцца: «Падазрона гляджу па баках, асцярожна рыхтую запас тлумачэнняў: можа, госці залучаць, а хто яны будуць?»

Для М. Гарэцкага характэрна адна вельмі істотная рыса — не прымаць нічога напавер, а дакопвацца да сутнасці, спасцігаць квінтэсенцыю той ці іншай з’явы або падзеі. У «Скарбах жыцця», пераглядаючы гістарычны ход падзей, ён імкнецца зразумець трагічнасць становішча, якое склалася ў краіне, намагаецца зразумець, чаму так сталася, што «чалавек чалавеку — звер» і «навошта гэта патрэбна». Як кадры кіно, у аўтара ва ўспамінах праходзіць гісторыя роднага краю, яго народа. Тут і сівая мінуўшчына з яе курганамі і ўзгоркамі, з карчомкамі і начлежкамі, тут і паступовае набліжэнне да тых падзей,

сведкам якіх быў сам аўтар: «Гарматы грукаюць. Агонь. Перапалка. Галасы. Стогнуць… Трупы…»

І на гэтым фоне ў пісьменніка перад вачыма ўсплывае «птушачка ў ціхім блакіце светлых нябёс», што з'яўляецца сімвалам духоўнай чысціні і ўзвышанасці, выклікае жаданне ўзняцца над жорсткасцю і звярнуцца да такіх адвечных агульначалавечых паняццяў, як «Бог, любоў, павіннасць, праўда, ідэал».

Перабіраючы ў памяці падзеі імперыялістычнай вайны, не забываў, відаць, М. Гарэцкі і тыя пытанні, якія задаваў герой дакументальна-мастацкіх запісак «На імперыялістычнай вайне»: што прынясе беларускаму народу вайна, «за які родны край» і наогул — за што ён і падобныя яму ваююць? «А не здарыцца так, што, дастаўшы перамогу на фронце, расійская рэакцыя ўзмацуецца і загне нас у яшчэ горшы рог».

«Тупат агромністай грамады», які ўзнікае ва ўяўленні пісьменніка, выклікае новы «абраз» жыцця. Чуецца спяванне беларускай «Марсельезы», «Інтэрнацыянала». «Віхор вечных прастораў», што вее над краінай, прыносіць новыя змены. М. Гарэцкі імкнецца спасцігнуць не толькі сутнасць гэтых перамен, але і з вышыні мінулых дзесяцігоддзяў паглядзець на іх вынікі. Ён намагаецца асэнсаваць, чаму столькі гора, пакут выпала на долю яго народа. Чаму ён такі бяссільны, бездапаможны, інертны. І ў лаканічна-вобразнай форме, з дапамогай сімволікі і алегорыі стварае панарамны малюнак лёсу беларусаў: «Праз усе вякі, праз усе эпохі еў я толькі крошкі, што ўпадалі мне са стол паноў жыцця майго. І на гэтых крошках моц мая ўзрастала. Каго ж я такою моцаю адалею?»

Прыведзены тэкст сваім зместам і пафасам вельмі блізкі да верша Янкі Купалы «Перад будучыняй», дзе паэт, у прыватнасці, пісаў:

А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ў пол.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Там чутна: Беларусь! Там — Незалежнасць!
А там — «Паўстань пракляццем»… Ну, а мы?
Мы ў страху… дум крутня… разбежнасць…
Без толку крыллем лопаем, як цьмы.

Хацелася б адзначыць, што «Скарбы жыцця» шмат у чым пераклікаюцца з творамі Я. Купалы. Напрыклад, з яго вершамі «Паязджане», «Спадчына», з драматычнымі паэмамі «Адвечная песня», «Сон на кургане», з паэмай «Курган»… Гэтая блізкасць бачыцца ва ўмоўна-сімвалічнай і алегарычнай формах адлюстравання жыцця, у трагедыйнай завостранасці твораў, у іх філасофскай заглыбленасці, а таксама ў асэнсаванні нацыянальных і агульначалавечых, эстэтычных і палітычных праблем.

І «лесу шэлест верасны», і «песня купальскае ночкі», і «стары амшалы тын», і «пасохлая ніва», і «жытні каласок» — усё гэта ў разуменні пісьменнікаў — спадчына, тыя скарбы, якія з'яўляюцца крыніцай жыцця, ратункам ад трагічнай адзіноты, якую даводзіцца зведаць чалавеку, знаходзячыся сярод жывых людзей, ці, інакш кажучы, «сярод сваіх і чужакоў».

Як і купалаўскі лірычны герой Сам, Гарэцкі-выгнаннік перажываў складаны драматычны перыяд духоўных блуканняў. Ён шукаў адказу на балючыя пытанні жыцця, імкнуўся разабрацца ў самім сабе, пераглядаў пройдзенае, «на новы шлях хацеў павярнуць…». Але яшчэ і яшчэ раз праверыўшы сябе, ён прыйшоў да поўнага ўсведамлення, што не можа здрадзіць сваім перакананням, свайму сумленню, свайму жыццёваму крэда: «Дзяды-прадзеды мае жылі ў цішы, жылі ў глушы. Як жа было мне гэты гоман агарнуць? Круцельства гэтае прыняць? Розумам прымаў, і здольнасці аказаў… Сэрцам — ніколі».

Умоўна-сімвалічная і алегарычная форма выказвання давала пісьменніку магчымасць ва ўмоўных вобразах, карцінах, фантасмагарычна-алегарычных сцэнах увасобіць мінулае і сучаснае, паказаць трагізм рэальнага жыцця, выказаць сваё разуменне тых ці іншых сацыяльна-палітычных падзей. Абраны пісьменнікам метад у пэўнай ступені быў своеасаблівай канспірацыяй. Аднак, нягледзячы на знешнюю прыхаванасць, створаныя М. Гарэцкім «абразы жыцця» даюць магчымасць выразна адчуць гістарычны рух падзей і ў гэтым жыццёвым кругабегу ўбачыць лёс Беларусі. А лёс яе няпросты і нялёгкі. У гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі тэрыторыя Беларусі была нібы палігонам ваенных дзеянняў. «Пасохлую ніву» яе «тапталі, дратавалі», «светач жыцця» «гарэў цьмяна», «томна было жыць».

З прыходам мірных часоў «чорная заслона» нібы прапала, «дыхаць» стала лягчэй, «вольныя вятры веялі» «свежым павевам. Новая эпоха мярэжыла ў тумане…».

Перад спакутаваным народам, які так марыў пра выхад на «шырокадалёкае, роднае поле вольнага жыцця», адкрыліся новыя шляхі: «шырокія і вузкія, светлыя і цёмныя». Патрэбна было толькі выбраць, якім з іх пайсці. Выкарыстаны аўтарам традыцыйны народна-казачны прыём, які М. Гарэцкі напоўніў канкрэтна-гістарычным зместам, даў магчымасць пісьменніку выказаць думку, што кірунак быў выбраны памылковы. З-за «бяссільнасці сваёй спрадвечнай» беларускі народ быў «спакушаны» і «атручаны» «д'ябальскай маною» і пайшоў за ўяўным прывідам шчасця: «Сеў на шумнабежны воз і на крылах шпаркасці яго ў новыя, нязнаныя прасторы паляцеў».

М. Гарэцкі вядзе апавяданне ад першай асобы. За яго «я», аднак, выразна бачыцца ўся Беларусь, яе народ.

На самым пачатку 1920-х гадоў, калі распачалося культурна-нацыянальнае ажыўленне, здавалася, што сапраўды ўсё накіравана на развіццё беларускай мовы, культуры, навукі, народнай гаспадаркі. Станоўча

была ўспрынята вестка аб утварэнні СССР, аб уваходзе Беларусі ў яго склад. Прыхільна да такіх значных падзей ставіўся і М. Гарэцкі. У «Скарбах жыцця» ён расказвае пра гэта ў алегарычна-сімвалічным малюнку «балю ў хаце-пяцісценцы»: «На баль у хату-пяцісценку я прыйшоў. Сядзеў вясёлы. З правага боку быў у мяне паважаны сват. З левага боку была ў мяне харошая свашка. І сам цымбаліста быў ласкавы са мною.

Па хаце ж, прад вачыма ў мяне, пайшоў пышны карагод. Усе яны былі ў белым, вышываным, у кралях і маністах, у вянкох з каснікамі. Самавітыя, раджайныя… І ўсе — жонкі знатных гаспадароў».

Але радасць была нядоўгай. Яна згасала адначасова з паступовай стратай рэспублікай сваёй самастойнасці і ўсё большым разгулам самаўладства, што выклікала ў пісьменніка сумненне ў жыццяздольнасці ўтворанага Саюза, у яго перспектыве: «І вось прыгледзіўся я — і скура сшорхла ў мяне ад жаху… Жоўтыя, мёртвыя твары… Мерклыя, згаслыя вочы… Ходзяць — трупы жывыя… І зацягнулі па-вясельнаму жудасную мёртвую песню:

— Зя-лё-ны вя-но-чак!..»

Разгул сталінскіх рэпрэсій М. Гарэцкі ўвасобіў у сімвалічным вобразе пажару, які «страшнымі клубкамі агнявымі» перакідаўся з адной мясцовасці на другую, «з вёскі на вёску» і выклікаў страх, «што ўсё жывое загарыцца, задыміцца, і дым задушыць усё жывое…».

Прыляцеў «агонь» і да жытла пісьменніка. І гэта здаралася яшчэ не адзін раз. Спачатку быў арыштаваны Максім, а праз дзень і яго малодшы брат Гаўрыла. Вялікае гора, бяда абрынулася на сям'ю Гарэцкіх. Моцна перажывалі іх бацькі і родныя. Каб паказаць драматызм усяго таго, што здарылася, пісьменнік звяртаецца да фальклорных традыцый, выкарыстоўвае алегарычна-фантасмагарычны прыём: апісвае рэальныя падзеі праз сон, паўдрымоту, праз такі стан чалавека, які не то дрэмле, не то ўспамінае, не то ўяўляе. Пры гэтым ён выкарыстоўвае такія народныя прыкметы-вестуны нядобрага, як «чорнае жыта», «вошы», «убогія хвойкі», «чорнае вуголле»… Эмацыянальнасць, усхваляванасць, напружанасць мове пісьменніка прыдаюць рытарычныя звароты, воклічы, словы-паўторы: «О, гора мне, гора мне!», «Божа мой, Божа мой!», «дымы дымяць», «скрыгоча, скрыгоча», «мучае мяне, мучае» і інш.

Многае ў судовых справах, як цяпер стала вядома, было сфабрыкавана. Былі лжэсведкі, былі і зломленыя муштрай і здзекам людзі, якія згаджаліся з усім, што ім прыпісвалі. Былі і такія, хто дзеля свайго выратавання «тапіў» іншага. З падобнымі выпадкамі даводзілася сутыкацца і М. Гарэцкаму. На допытах пісьменніку, відаць, прапаноўвалі розныя варыянты «аблягчэння» становішча, пра што можна меркаваць з тэксту:

«Направа — чырвоныя кветачкі перад хаткаю невядомаю грудком запякліся.

Налева — страшнае бяздонне… зірнеш — да зямелькі прысядзеш…

Беражком, па самым краёчку, як па гострай брытве, трэба ісці…».

М. Гарэцкі мужна вытрымаў усе турэмныя выпрабаванні і пайшоў на новыя, якія яго чакалі ў ссылцы, пайшоў так, «як усе людзі ходзяць», каб «нішто не мулілася» яму «ў сумленні» яго.

Пасля доўгага перасыльнага шляху 25 чэрвеня 1931 года ён выйшаў на «свабоду», свабоду, якая называлася ссылкай.

«Выйшаў я з муру жыцця свайго на сонца, на вольнае паветра, на ясны свет. Зялёныя дрэвы дзён маіх зашумелі мне борам; прыгожыя кветкі ўчуццяў маіх зацвілі мне лугам. Ступіў я крокаў пяць жыццёваю сцежкаю сваёю і раптам усміхнуўся ад радасці па-дурному».

Сапраўды, радасць была нядоўгай, а «свабода» абмежаванай. Толькі прырода: сонейка, ветрык, траўка, дрэўцы ласкава прывецілі выгнанніка, на міг аблегчылі яго душэўны стан, перанеслі ва ўспамінах туды, дзе яго «дом», «дзе яго род», «дзе шляхі яго мінулыя». Аднак ужо ў першы дзень пісьменніка чакалі складаныя праблемы. Даводзілася начаваць дзе давядзецца, харчавацца як давядзецца. Самым вялікім выпрабаваннем для М. Гарэцкага, як чалавека, які аддаваў перавагу «патрэбам душы», была праблема духоўная. Статус ссыльнага прыгнятаў яго маральна. «Людзі цураюцца мяне, каб не запэцкацца аб мяне, — з болем і крыўдай адзначаў пісьменнік. — Хто ўспомніць мяне ў ганьбе і выгнанні? Хто прышле мне пару цёплых слоў. Ніхто, ніхто… Хіба гэткі ж баніта, астракіста…»

«Сонца лета» пісьменніка «прыпякала» яго, хацелася выпіць жыватворнае вады, душа прагла чыстага, свежага, прыгожага. Навучальныя ўстановы, бібліятэкі, каля якіх кожны дзень даводзілася праходзіць М. Гарэцкаму, нагадвалі аб яго ранейшым жыцці, аб яго прызначэнні.

«Белыя (педінстытут. — *Т. Г.*) і чырвоныя (педтэхнікум. — *Т. Г.*) камяніцы, і чырвона-бурыя дахі камяніц і вялікіх драўляных дамоў казалі мне казкі аб прыгожым жыцці чалавека.

Яны клікалі мяне хутчэй далучыцца да іх, хутчэй стаць на тэй дзялянцы, дзе разлічаў я знайсці сваю страчаную радасць жыцця. І хацеў я хутчэй забыцца на час блазенства свайго. Хацеў хутчэй забыцца на слабасць сваю, што прычапілася да мяне…»

М. Гарэцкі быў пазбаўлены магчымасці займацца выкладчыцкай або навуковай працай. Яму даводзілася выконваць цяжкую, непасільную для яго работу (капаць катлаван пад лазню, вазіць на высокую гару пясок у тачцы). Балюча было глядзець М. Гарэцкаму на жанчын, якія працавалі на будоўлях, пераносілі цяжкія грузы і ў спякоту, і ў люты мароз. Ён міжволі ўспамінаў сваіх бацькоў, што ўсё жыццё працавалі, у кожным хлопчыку ці дзяўчынцы бачыў сваіх любых і дарагіх дзетак Галю і Лёню. Усё, што адбывалася навокал, Гарэцкі браў блізка да сэрца. Ён «думаў аб будучыні краю, аб працоўным імпэце рабочае клясы, аб пяцігодцы, аб жыцці ў капіталістычных умовах, аб сваім лёсе».

З кожным днём М. Гарэцкі ўсё больш пераконваўся ў недасканаласці існуючага ладу жыцця, у дысгарманічнасці рэчаіснасці. Для таго

каб раскрыць трагічнасць жыццёвых калізій, ён выкарыстоўваў іншасказанне, горкі сарказм, хаваў сапраўдны сэнс у падтэксце: «І чуў маральнае здаваленне, — пісаў Гарэцкі ў зашыфраваных мясцінах «Лявоніуса Задумекуса» аб працы на будоўлі лазні, — што так працуе, бо гэта ж робіць ён для вялікага сацыял. будаўн. Працуе, як гаспадар, як на сваім, але без усякага ўласніцкага нахілу…

Жыве блазенны, жыве! Будуе новае жыццё… Дом для венікаў жывым з помнікаў мёртвых».

Па-мастацку, больш вытанчана і скрытна ён гаворыць пра тое ж самае ў «Скарбах жыцця»: «А ўнізе, далёка ўнізе, кволыя белыя мурашачкі насілі па марах вельмі цяжкіх паноў. І зразумеў я, што там грамадства маё, што і мой лёс — толькі гэтых паноў насіць…»

«І ішоў і руйнаваў, ламаў і крышыў мінулае сваё, жылля сваё рваў, услаўляючы прамудры лад жыцця. І радаваўся і весяліўся, што гэткі я герой».

«З цяжкім возам уз’язджаў на высокую гару тысячакратна… з радасцю ўслаўляў прамудры ход жыцця».

Існаванне М. Гарэцкага ў такіх умовах было магчымым толькі дзякуючы высокай маральнай і духоўнай мужнасці пісьменніка, яго «бескампраміснаму выяўленню наяўных супярэчнасцяў», «паслядоўнаму непрыманню ўсяго таго, што з’яўляецца варожым уяўленням чалавека пра сапраўдныя, маральныя высновы быцця»*. І ў гэтым яму дапамагала творчая праца. Ва ўспамінах, якія надавалі пісьменніку «вялікую моц», Гарэцкі пераносіўся туды, дзе «шаптала родная ніва», «сінелі ціхамірныя васількі», дзе было ўсё так люба і дарага — што з’ўлялася сэнсам жыцця.

«Судзі мяне, судзі мяне кожны і ўсякі! Судзі мяне судом сваім, кожным і ўсякім… Карай мяне карамі сваімі, карай…

Толькі прашу цябе: не выбівай з маіх худых і кволых рук гэтага маленькага пучочка васількоў…

А выб’еш — буду азірацца на іх з сумам і жалем вялікім, перавышаючым мае слабыя сілы…

Як мне забыцца на іх, пакінутых там, адзаду, на дарозе, у пыле і ў брудзе, на цярнёвай дарозе, якою народ мой ішоў…»

Сталінскі тэрор набіраў усё большую сілу. Для вельмі многіх «зрабілася невядомым, дзе ж тая праўда і дзе ж тая мана, і якою сцежкаю трэба ім ісці і якою не трэба». Сярод людзей быў пасеяны недавер: «Сябры мне казалі, што яны мне сябры, а самі на дах мой узлезлі, хату маю з даху падпалілі». Начны стук у дзверы заўсёды выклікаў страх, бо ў любы момант маглі прыйсці з «мандатамі сваімі, узброеныя і сказаць: «Блазеннага і багаданага трэба нам». І шпокнуць у паветра… Рыхтуйся, блазенны, у далёкую дарогу…»**

* Майхрович, С. Белорусские революционные демократы: Важнейшие аспекты мировоззрения. — Минск, 1977. — С. 83.

** Гарэцкі, М. Блазенны / ЦНБ НАНБ. Ф. 7. — Воп. 2. — Адз. зах. 20. — Арк. 94. Аўтограф.

За кожным абзацам, а часам адным словам, у «Лявоніусе Задумекусе» і «Скарбах жыцця» М. Гарэцкага раскрываецца панарамны малюнак змрочнай рэчаіснасці, пазнаюцца рэальныя асобы. «Цярплівай Ласкай» ён называе сваю жонку, «дубам цёмналескім» — бацьку, «белай бярозкай» — маці. «Мядзведзь ходзіць, Пралеску водзіць… — так піша М. Гарэцкі пра свайго малодшага брата Гаўрылу і яго жонку, якая раздзяліла з ім лёс выгнанніка і жыла разам з мужам у Мядзведжагорску. — Пралеска Мядзведзю там заспявае… Мядзведзь там радасна зарычыць…» Такія лірычныя адступленні, на першы погляд, зніжаюць напружанасць твора, але рэальны змест, якім яны напоўнены, яшчэ больш выразна перадае трагізм лёсу выгнаннікаў, іх сем'яў — трагізм роднага краю.

«Скарбы жыцця» — «лебядзіная песня» М. Гарэцкага, споведзь яго душы, тастамент нашчадкам. Гэтая «філасофская прытча» ўвабрала ў сябе ўсё найлепшае, чаго дасягнуў пісьменнік у сваёй папярэдняй творчасці. Яна з'яўляецца глыбока сацыяльнай і патрыятычнай, напоўнена высокім грамадзянскім гучаннем. Сюжэт твора выходзіць далёка за межы асабістага жыцця Гарэцкага. «Скарбы жыцця», як і «Лявоніус Задумекус», мае вартасці рэдкага для беларускай літаратуры 1920–1930-х гадоў дакумента, дзе ў мастацкай форме адлюстраваны драматызм сацыяльна-палітычнага стану краіны, паказана маштабнасць размаху сталінскіх рэпрэсій, той знішчальны «пажар», што нанёс незаменныя страты беларускаму народу, нацыянальнай літаратуры, навуцы, культуры.

«Лявоніус Задумекус» і «Скарбы жыцця» сведчаць пра высокую мастацкую сталасць аўтара, шырокія абсягі яго мыслення, пра яго вернасць сваім перакананням, ідэі свабоды.

«Дык слава жыццю!

Слава і смерці!» — апошнія радкі «Скарбаў жыцця», у якіх заключаны глыбокі філасофскі змест, дзе смерць бачыцца не столькі як ратунак, збаўленне ад невыносных умоў жыцця, колькі як выклік «кіраўнічай частцы істот», тым, «каму Бог розуму не даў», як адзіны магчымы спосаб вырашэння супярэчнасцяў, калі не здрадзіць сваім жыццёвым прынцыпам і ідэалам — адзіная дарога ў бяссмерце.

Творы, напісаныя М. Гарэцкім у выгнанні, узаемазвязаны і ўзаемаабумоўлены, яны дапаўняюць адзін аднаго, адлюстроўваюць пэўныя этапы працы, «канчатковы сэнс ім надае… смерць іх творцы. А самае яркае святло на іх пралівае яго жыццё»*. Спасціжэнне многіх творчых пошукаў і знаходак М. Гарэцкага немагчыма без уліку жыццёвых абставін, без разумення адносін да іх самога творцы.

Пасля заканчэння тэрміну высылкі М. Гарэцкі не адважваецца пераязджаць у Мінск. У жніўні 1935 года ён звяртаецца ў аблана ў Смаленску з просьбай працаўладкавання. Атрымлівае накіраванне ў сярэднюю школу ў Пясочню (з 1936 года — г. Кіраў Смаленскай, цяпер Калужскай вобласці). Выкладае там рускую мову і літаратуру.

---

* Гинзбург, Л. О. О литературном герое. — Л., 1979. — С. 13.

Канец 1935-га, увесь 1936 год у творчай працы М. Гарэцкага можна назваць адносна спрыяльным: пісьменнік будзе займацца выкладчыцкай працай у школе, будуць пісацца «Памінальніца», «Камароўскі летапісец», увесь сабраны матэрыял пачне набываць адпаведную аўтарскай задуме форму, пачне складвацца ў пяць «Сшыткаў» пад агульнай назвай «Камароўская хроніка». Станоўча адаб'ецца на мастацкай рэалізацыі даўняй задумы пісьменніка яго пераезд з сям'ёй у Пясочню. Праца ў школе, магчымасць наведаць родныя мясціны, сустрэцца з бацькам і блізкімі яму людзьмі, запісаць ад іх тое, чаго не паспеў зрабіць раней, на нейкі час дасць М. Гарэцкаму хоць і не вельмі пэўную, але ўсё ж надзею, надзею на вяртанне да паўнацэннага жыцця, актывізуе яго творчыя сілы. Аднак прывід магчымага чалавечага шчасця быў нядоўгім. Хваля новага жыццёвага абсурду дагнала М. Гарэцкага на пачатку 1937 года, пасля таго, калі ў газеце «Известия» была апублікавана заказная правакацыйная карэспандэнцыя адносна даклада, прачытанага пісьменнікам у дзень памяці У. Леніна. Гэтага хапіла, каб запушчаны яшчэ з большай сілай карны механізм (канец 1936 года) супраць асуджаных у 1929–1931 гадах і адбыўшых тэрмін пакарання, не прамінуў і М. Гарэцкага.

У ноч з 3 на 4 лістапада 1937 года пісьменніка зноў арыштавалі. 5 студзеня 1938 года пастановай тройкі НКУС Смаленскай вобласці яго прыгаварылі да расстрэлу. Прысуд быў выкананы 10 лютага 1938 года ў Вязьме. Рэабілітаваны М. Гарэцкі 15 лістапада 1957 года.

Жыццё і творчасць М. Гарэцкага ў далечыні ад родных абсягаў — прыклад самаадданасці, нескаронасці, непадуладнасці рэпрэсіям, вернасці сабе і самым высокім ідэалам.

Лёс М. Гарэцкага вельмі нагадвае лёс купалаўскага Гусляра, якога за непаслухмянасць «моцным свету гэтага» закапалі жывым у зямлю. Прасякнутая бязмежнай любоўю да роднага краю, «песня» М. Гарэцкага таксама прыйшлася недаспадобы новым валадарам — сталінскім апрычнікам, і жыццё пісьменніка было жорстка абарвана. Сёння паэма Купалы «Курган» гучыць як рэквіем па загубленых талентах, як «магутны харал у гонар» іх бяссмерця.

*Тэрэза Голуб*

# АПАВЯДАННІ

## РОДНАЕ КАРЭННЕ

### I

…А яшчэ трэба паведаміць цябе, даражэнькі сынок наш, — чытаў, лежачы на цвёрдай канапе пасля абеду, бацькоўскую пісульку студэнт-медык Архіп Лінкевіч, — што ў новай нашай хаце жыць мы дужа баімся…

Архіп пацягнуў раз-другі папяроску, абтрос попел на бляху, буркнуў пад нос: «Што за дзіва?» — і, зацікаўлены, пачаў разбіраць далей закаручкі запэцканага чарнілам пісьма:

…Здаецца, ні разу не было таго ў нашым сяле, што дзеецца цяпер у гэтай хаце…

— Ну й пісара ж знайшоў бацька сабе, — уголас загаварыў Архіп, ніяк не могучы разабраць слова ў пісульцы.

Ён ізноў зацягнуўся, вылаяў у думцы пісаку, што, нягледзячы на добры сялянскі пачастунак і пяць капеек, так дрэнна піша пісьмы, саўсім нечытэльна, і задумаўся аб далёкім родным сяле, аб міленькіх старэнькіх сялібах і садку, што сам з бацькам садзіў колькі гадоў назад.

«Як многа слаўнага ў нашых вёсках, сёлах, а тым часам як яны непарушна-мёртвыя ў жыцці. Час ідзе — угары, у воздусі лётаюць аэрапланы, дырыжаблі; пад вадой жывуць людзі, як на зямлі; перагаварываюцца на тысячы вёрст; даходзяць да таго, што думаюць замаражываць чалавека на колькі трэба часу і ўзноў аджыўляць яго; усё ідзе шпарка ўперад, толькі нашу вёску, як абросшы мохам камень каля шляху, з мясціны не скранеш… Сумна, сумна».

«У дваццатым вяку баяцца жыць у новай хаце. А чаго? Ну, пэўне, чэрці не даюць». Так думаў-сумаваў студэнт.

…Мы ўжо й папа прывозілі і свянцілі яе, але нехта засеў у ёй і не дае начаваць… — прачытаў ён і аж зазлаваў:

— Выдумаюць сабе ўсякіх дурацкіх зданнёў дый, быццам дзеці, забаўляюцца. Як бы рабіці, няма чаго. Э-эх!

…У прошлы чацвер пайшоў батрак начаваць у ёй, бо там халадней, а ў старой хаце аб цяперашнюю летнюю пару дужа душна, дый мухі спакою не даюць. А лавак у ёй мы шчэ не паставілі, дык ён і лёг на грубцы, бо мы цяпер яе не топім, і спаць там хораша…

Студэнту было троху смешна.

…Якое ўжо, не пры нас будзь казана, ліха здалося яму там, — пісалася далей у пісьме, — ці ён, можа, вечарам з дзеўкамі пераждартаваў, ці, часам, да Міхаля ў карчму збегаў, хто яго там ведае, а толькі не паспелі мы заснуць у старой хаце, як раптам заляскаталі нашы вокны так, што мы аж адразу папрачнуліся і надта папужаліся. Матка й кажа да мяне: «Нупрэй, Нупрэй, ці не біць нас хто лезе, што гэта робіцца?» А я — шусь! да акна, гляджу, ажно гэта батрак у адной сарочцы, без шапкі, босы, як адурэўшы, крычыць нема: «Дзядзічка, адчыняй хутчэй!» Адчыніў я акно, упусціў яго, а ён трасецца, зуб на зуб не трапляе… «Што такое? Што такое?» — запыталіся мы. «Нехта ў новай хаце з печы мяне зваліў». «Злодзей, можа, ды там жа красці няма чаго», — сказаў я, але батрак кляўся, бажыўся, што ў хату чалавек залезці ніяк не мог, бо ён на ноч залажыў чэп у прабой, засадзіў кіёк і слісак з клямкі выцягнуў. Ніхто ўлезці не мог… А нехта, нявідзімы, слізкімі, як вужакі, халоднымі рукамі схапіў яго за ногі і махануў з печы на мост. І сапраўды ў батрака быў збіты бок і абдзёрты аб цэглу рукі…

— Нячысцікі завяліся там, ці што? — злосна смяяўся студэнт і падумаў, што батрак пабіўся з хлапцамі за дзевак і паддурыў старыкоў чартаўнёй, як найлепей.

Архіп устаў з канапы і засігаў па святліцы ў задумленні. Затужыў троху. І ўспомніў старога дзеда Міхалку, на каторага ўсе казалі, што ён тры гады бегаў ваўкалакам. Сам Архіп некалі даваў гэтаму веры.

— Што за народ наш, беларусы? — уголас задаў ён сабе пытанне і размеркаваў, што доктарам будзе служыць на Беларусі і будзе збіраць матэрыялы аб духоўным жыцці свайго народа.

…А надоечы пайшоў начаваць ужо я і батрак, удвух. І таксама прыбеглі ноччу ў старую хату, бо я прачнуўся, чуць не акалеўшы, пад зэдлікам, хоць заснуў на зэдліку, а на батрака нехта ўзваліўся і душыў…

— Незразумела, уцяміць не можна, што за штуковіна такая, — ламаў галаву медык, і на глыбіні яго душы пачалі капашыцца вобразы таёмнага, страшнага, шчыра-беларускага…

Не дарма быў Архіп — выліты яго дзед, што да смерці заўсёды крэпка маліўся Богу і тым часам лашчыў, як можна, дамавых, лесавых, вадзяных.

…Мы ўжо ставілі ў куце й «пратэсы», псалтыр чыталі і псальмы[1] пелі, — нічога, рады няма, усяліўся нехта ў хаце і не дае спакою. Ці не параіш ты чаго, а то хоць хату разрый…

Архіп задумаўся яшчэ больш. Дачытаў пісьмо, дзе пісалася ўжо, што кароўкі, дзякаваць Богу, пагулялі, малака даюць многа, жарабё прадалі Зэліку, падсвінак здох, яблык урадзіла дужа-дужа многа. А потым ішоў цэлы ліст паклонаў «ад белага ліца да сырой зямлі».

Студэнт памаўчаў троху, шчакануў пальцамі і тут жа падскочыў ад раптоўнай думкі — паехаць самому дамоў на гэтую чартоўшчыну.

«Яблык, гуркоў, суніц, чарніц, маліны, грыбоў цяпер там… На сенакосе з касою гуляну, як у старыну калісь, з дзяўчаткамі знаёмства старыннае ўспомню, — пацяшаўся студэнт, — а старыя будуць рады-рады!»

Думкі-хмары яго разляцеліся.

«К чорту ўрокі, перадам вучанікоў таварышам, хопіць грошы, а то яшчэ зараблю ўзімку, як-небудзь узнясу за права вучэння, а цяпер жа ў нашай вёсцы — сяле закутным — рай!»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На другі дзень Архіп ужо тросся на жалезнай дарозе.

## II

— Ну й коні ж твае! З крупадзёркі на шкуру прадалі, ці што? — запытаўся Архіп у балагольшчыка, дзівуючыся, што едуць яны — цішэй некуды.

— А як жэ… Быц вы тое ведалі, пане Лінкевіч, ведама, сто ш крупаджоркі…

— Ну, ну, паганяй, а то мы й к ранню не давалачомся.

— Гэ-гэ-гэ! Нэ-э, паслі, мае лярвацкі, — зацмокаў жыд, сцёбаючы пугаю па зямлі. — Даеджым, пане, даеджым! Гэ-гэ-гэ… Нэ!

Коні лавілі пугу хвастом, дрыгалі нагамі і гультайліва траслі па калюгах балагольскую будку.

Лес кончыўся. Выехалі на поле. Дарога пайшла роўная. Архіп залюбаваўся прыгажосцю летняга вечара. Сэрца ласуна

да красы забілася дужэй у маладых грудзях яго. Наўкруг было так ціхамірна і так па-нябеснаму святочна і прыгожа. Цямнела. На захадзе гарэла зара.

— Джу-нгу-у… — паляцеў жук.

— Мэ-э-э… — замаркатаў угары каля балота дзікі баран (чэпік), сеў недзе на купіне.

Абапал дарогі было жыта ў копах і на карэнні, што не паспелі яшчэ зжаць. З аржанішча нёсся прыемны жытні пах. З логу ціхі, цёплы ветрык тхнуў сенам. На небе паказалася зорачка, другая, трэцяя…

— Го-го-го, — каціласяˈ далёка па лесе.

— Трполя, трполя, тпроля… — клікаў нехта жарабя.

Чутна ўперадзе на дарозе: «Скры-гы-ы… скры-гы-ы…» — вязуць нешта, ці снапы, ці сена, а можа, й хвораст. «Нэ, нэ!» — бадрыць коней паваждай, а яны цяжка йдуць па пыле, толькі — шлёп-шлёп, шлёп-шлёп — чуваць здалёку. Чарнеюцца вазы далёка, бліжэй, во, адразу вынырнулі:

— Добры вечар! Ці далёка тут да Белі?

— А вёрст пяць набярэцца.

— З гакам, — дадае з-за воза другі голас.

— Нэ-э-э! — паехалі далей, і зноў: скры-гы-ы…

На дарозе гоман. Ідуць, з поля людзі, за гэткі дзянёк пазамарыліся, напрацаваліся.

З-пад лесу нясецца-коціцца песня — жнеі ідуць ад Хаіма з падзёншчыны. І праца не бярэ маладых, красных на здароўе, круглавідых дзевак… О! песня; яны пяюць:

Загарэлася вячэрняя зара…

А з другога боку ідуць са свайго поля жнеі, там пяюць:

Добры вечар, гаспадынька мая!..

Маладыя, зычныя галасы смакуюць спеў, і ён ірвецца са здаровай душы ў дужым, не хворым целе:

Ці зрыхтвана вячэрыца твая?

Водгалас доўга ляціць па лесе. Эх! І пагода ж, пагода будзе на заўтра.

І жнеі, і гоман, і песні астаюцца патроху… Праязджаюць ціхую вёску; агнёў няма, сабака недзе гаўкнуў і змоўк, у пунях,

хлявах жвуць каровы, а гаспадыні старыя, што зараней з поля прыйшлі, там з даёнкамі: цур-цур, цур-цур…

Праехалі мосцік, ярына пайшла, а на полі цямней ды цямней. Усё неба зорамі гарыць, дзіўнае, пекнае! Чароўнае хараство разліта ў ім…

— Драў-драў-драў… — сквярэцца драч; і ён сціх.

Ціха-ціха…

Не, во чуваць збоку шчэ — павялі начлежнікі коні ў лес пасвіць. Смяюцца, рагочуць, жартуюць. Нейкі скалазуб сумысля вугнава зацягнуў прыпеўкі:

Не хадзі ты па балоту,
Не мачы ты ног, ног…
Не любіся з багатаю —
Не паможа Бог, Бог…

— Ай-я-я-я, я-я-я, — якоча, прыстаўляецца каторы-та хлапчук.

Багатая — гарбатая,
А к таму ж і пышна,
А бедная, дык чэсная,
Як у садзе вішня.

— Трым-трым, трым-трым, — у такт басуюць другія хлопцы, вясёлыя, радыя.

Усё ў полі супакоілася. Ані гуку. Архіп быў у добра-далікатным настроі. «Краіна родная мая…» — мармытаў-пяяў ён ціхенька і думаў-думаў, што будзе праз дзвесце, трыста, чатырыста гадоў тут, наўкола? Калісь тут лясы былі дрымучыя, непраходныя, у лясах людзі пням маліліся і жылі са сваей доляй-нядоляю. Ішло жыццё, высякаліся лясы. Загарцавалі па тутэйшых месцах людзі ваенныя-ратныя, шмат костачак маскоўскіх, польскіх, казацкіх палягло «паміж пустак, балот беларускай зямлі…»[2]. Шведы, французы знаходзілі сабе тут вечны спакой. Божа, Божа, як гэта ўсё страшна і цікава!

— Паніч, — загаварыў балагольшчык з нейкім жахам, — вы, мусіць, ведаеце, што ў гэтым балоце, што налева, калісь-то ў даўныя гады цэлы горад за нешта праваліўся скрозьдоння. У ноч купальскую чутны званы падземныя, а каля кургана, дзе манастыр быў даўней, іншыя чулі, як манахі ў скляпах абедню правяць…

— А хто ж гэта чуў? — запытаўся студэнт.

— Усе. Як гэта — хто? Каму траплялася познай парой бываць тут, апынуцца… Бывае так яшчэ, кажуць: агонь нейкі над балотам бегае. Ты за ім — ён ад цябе, ты бліжэй — ён уцякае. Сіненькі такі, невялічкі аганёк. Кажуць, грошай схавана тут багата пад нейкім вялікім закляццем.

Не дакончыў балагольшчык свае гутаркі, як далёка на полі паказалася на самай зямлі полымя… Гарыць нешта… То шугае ўверх яно, убок, то без сілы збягае ўніз.

Чорная сцень, як чалавецкая фігура, прабегла па ім раздругі.

Праз некалькі часу полымя ўспыхнула ў другім, у трэцім месцы…

Балагольшчык змоўк ад страху. Коні вышэй паднялі галовы і закруцілі вушамі. Сам Архіп пачуў, як закалацілася ў яго сэрца і прыліплі на лбе валасы.

— Што за глупства? — уголас загаманіў ён, каб разумна абмеркаваць, адкуль жа тут агонь у столькіх месцах: начлежнікаў на парыні быць не можа, а яшчэ што ж?

Балагольшчык ціха зацмокаў на коней, дыргануў вожкі і нешта ціха шапнуў коням, а тыя пабеглі шпарчэй.

Архіп здзіўлена глядзеў у поле, у цямноту.

«Ось так чартаўня. Ну й уцям тут, што за справа. І калі мне робіцца неяк нядобра, то што б было з нашым батраком? І чэрці здаліся б», — раздумляў студэнт, каб неяк выбачыць сабе сваё спужанне.

Ён яшчэ доўга-доўга ўглядаўся на полымя, а яно было ўжо цішэй, не шугала так угару і патроху знікла саўсім.

Балагольшчык маўчаў, пакуль не пад'ехалі к самай хаце Лінкевічаў. Там ён, узяўшы грошы і пажадаўшы спакойнае ночкі, дабавіў неяк недаўменна:

— Дый зданнё ж! — і паехаў начаваць к Міхалю ў карчму.

## III

Архіп спаў доўга і смачна. Ноччу сніў нешта, хто яго знае, якое, але, прачнуўшыся, нічагусенька не помніў. У хаце нікога не было, толькі чутна — у прысценку за дзвярмі матка ляпала ў качарэжніку вілкамі. Блінамі пахла… Сонейка гуляла снапамі святла па настольніку і па старэнькіх абразах. У куце гарэла лампадка. На вуліцы, чутна, гаманілі, седзячы на бярвенні, старыя і хлопцы.

«Ага, сягоння ж свята», — успомніў Архіп, пацягнуўся і сеў.

— Ці ўжо прачхнуўся? Паспаў бы ты, сынок, болей: з дарогі замарыўся, — гаварыла маці за сцяною.

— І так выспаўся, як пяньку прадаўшы, — вясёла адгукнуўся Архіп і пачаў адзявацца.

У галаве таўпесіліся думкі аб горадзе, таварышах, уроках, к ім падбаўлялася дзіваванне, што за зданнё ўчора было і якая чартаўня завялася ў новай хаце. На сэрцы было ўсё ж такі радасна і спакойна ад цёплае вясковае абставы.

— Ну і сібірнікі, расколы!.. На галаве пачынаюць хадзіць, — галасна і сурова загаманіў нехта на вуліцы, падышоўшы да кучы мужчын.

Архіп прыслухаўся.

— А што? Чаго ты? — запыталіся ў сердзюка.

— А што ж? Ну ці можа гэта быць? Семдзесят гадоў на свеце пражыў, а гэткае пракуднае дый, папраўдзе, паскуднае з'явы не бачыў. Вы тут во седзіцё і нічога не ведаеце, а ў полі ноччу немаведама што парабілі арыштанты нейкія. Янка! Схадзі ў поле, пашукай барон сваіх… І ты, Самусь, і ты, Гаўрыла…

— А што? Якое там ліха шчэ з баронамі?

— А такое, што нейкія шэльмы іх ноччу спалілі.

На вуліцы падняўся тлум, крык, гоман.

Архіп уцяміў.

«Дык вунь там якое полымя шугала? Добрае зданнё!»

Тым часам матка накрыла ўжо стол, палажыла бліны, паставіла скавараду з яечняю.

Прынёс бацька паўбутэлечку, і хоць не хацелася грашыцца старым (абедня яшчэ не адышла), але дзеля дарагога, любага сына і яны селі снедаць.

Пацякла бясконцая, прыемная гутарка аб тым, аб сім і аба ўсім.

## IV

Доўгі дзень прайшоў — і не ўгледзіць калі. Схадзіў Архіп у поле, пабыў у лесе, даведаўся дзе-каго з бліжэйшай радні, абгледзеў сад.

Увечары ён захацеў беспрыменна ісці начаваць у новую хату. Узяў кажух, табаку, падушку. Бацьку таксама пажадалася пайсці з сынам: пайшоў і ён.

Новая хата была ў канцы саду, недалёчка ад шляху і блізка к рэчцы. Пабудавана была добра; Архіп ладна зарабляў леташні год урокамі, у сябе грошы меў і яшчэ сабраў бацькам на хату.

Пайшлі, агледзеліся. Бацька паклаўся на халодненькай грубцы, а студэнт лёг на лаўцы каля акна. Дзверы ён запёр, а акно, дзе ляжаў, адчыніў для свежага паветра.

Пад акном шамацела лісце на яблыньках і дулях. На небе збіраліся хмары, недзе далёка-далёка бліскала маланння.

Архіп закурыў, расшпіліў гузікі і адвярнуў каўнер кашулі, каб не было так душна.

— Архіп, не забудзься ж акенца зачыніць.

— Добра, тата.

Бацька прывык уставаць рана, звечара хутка заснуць мог.

І цяпер скора захроп.

Архіп ляжаў, курыў і думаў…

«Як, у істоце, усё каля нас дзіўна, няясна… Навука? Што ж навука? Яна, скажам, дае малюпаценькія адказы, якім парадкам робіцца што ў прыродзе. Ну і ўсё. Наўчоныя людзі падлічылі, колькі важыць зямля, ці далёка ад зямлі месяц, сонца; яны ведаюць, па якіх дарогах бегаюць планеты, а няхай дадуць яны адказ, хто пусціў іх у гэткі гарманічны ход, няхай яны знойдуць першапрычыну ўсякае істоты. Навука ведае, што за жывучкі, няўгледныя простым вокам, робяць хваробы, яна ведае, што ўжываюць клетачкі, з каторых складаюцца людзі, жывёла, расліны, але што ж? Як бы даў адказ ён, Архіп, студэнт-медык, на пастаяннае пытанне ў «пісьменных» людзей дзядзькі Якуба: «Чаму чалавек расце-расце гадоў так да дваццацёх, а далі, як ты яго ні кармі, у росце не прыбаўляецца. Здаецца, і есць таксама, а другі і смачней, чымся змалку, а росту няма такога, як раней. Што за прычына?» Эге ж. Наўчоныя ведаюць цяпер, як чалавек зараджаецца, з чаго ён складаецца, і многа чаго іншага ўцямілі. А няхай жа во яны самі набяруць з зямлі, чаго ім трэба, і створаць чалавека. Не, навука ніколі не дасць, бо не можа даць, адказу на праклятыя пытанні. Ды ў яе і цэль зусім іншая».

І Архіп успомніў, як ён з вялікім жарам і шчырай ахвотай пачынаў вучыцца, бо думаў, ды што думаў, — крэпка верыў, што ў кніжках усё ёсць, кніжкі ўсё раскажуць, не толькі як яно, але і адкуль яно.

І вось ён «укусіў» ад кніжнае мудрасці… Папраўдзе, знайшоў такія і гэткія адказы, але ж — Божа! — пэўнасці аніякай няма, няма. Хто даў гэтыя адказы?

Тыя ж людзі. Угу! Бог адзін, а вер колькі на зямельцы Божай?

Архіпу было сумна і неяк трывожна.

«Мы не ведаем, што будзе пасля нашае смертухны, а на гэтым свеце на ўсё адгадкі знайсці не *можна*, шукай не шукай. І шчасліў той, хто мірыцца лёгка з гэткім будаваннем жыцця або хто бадай што не думае аб гэтых «шалёных» пытаннях, ці ў беганні за кавалкам хлеба забывае аб іх, шчасліў ён. І гора, вялікае гора таму, хто захоча хоць на адзін момант, адным вокам зірнуць на той бок заслоны! Яму адзін шлях к разгадцы, шлях страшны і, галоўнае, няпэўны, няпэўны шлях, і гэты шлях — смерць».

Закурыў другую папяроску.

«І то яшчэ дзіва: няхай бы людзі далікатныя, чуткія, не запрацаваныя ад цяжкае працы, няхай бы яны гібелі ад гэткай мукі; дык не, дык жа народ просты, народ, каторага лаюць «цёмным», чаго ён, гэты шэры, аднатонны народ, па глухіх кутках, у лясах сваіх, сярод балот і пнёў, чаму ён мучыўся і мучыцца ад той жа болькі?»

Архіп зачыніў акно. Яго пачынаў ужо марыць сон. А ўсё думалася: «Нічога не ведаем, не ведалі і ведаць не будзем… Сэрца пачне біцца дужэй і сціхне, а нешта чорнае, вялікае стане прад вачамі, нейкія ўзоры мітусяцца, і так добра, ладна ляжаць. Навука, чэрці, зданнё… Нічога не ведаем… Бог, чэрці, душы… Не ведаем…»

І Архіп заснуў.

І на дварэ глуха грукатаў гром і бліскала, то й глядзі, маланння. Збіралася бура. Яблынькі галлём — шу-шу-шу — ціхенька шумелі. Архіп спаў.

## V

Лес гулка гаманіў. Макухі дрэў трывожна, неспакойна так нахіляліс то дужа хутка, то паважна адна к другой і шапталі нешта сваё, лесавое. Дарожка паміж густых елак усё вузела і вузела — ані прайсці, ані пралезці, ані прадрацца праз калючыя зялёныя іголкі.

Сухое дрэва страшна і балюча скрыпала, быццам выказвала бяду, і гора, і ўсякае ліха. А яшчэ далёка-далёка…

— Баў… — гудзе звон на колькі вёрст уперадзе, гукае к сабе, заве, кліча. А як жа дайсці туды?

— Баў-баў-баў, дзілінь-дзілінь-баў, — дробна аддаецца ў вушах. Шуміць лес. Зарагатаў злы дух, заплакаў жаласна, закугакаў і зліўся ў адной жудасна-сумнай песні скрыпучага дрэва.

Блішчыць аганёк пад кустом, во-во другі пад старою бярозаю, а во трэці каля чорнага пня, во й яшчэ адзін, яшчэ, многа, многа, зданнё…

«Што гэта я, — думае сабе Архіп, — то ж чарвякі купальскія свецяцца: чаго ж баяцца мне? Пайду на звон шпарчэй, нанач дабяруся, дацягнуся».

— Троп, троп, хр… гкрдзбдзр… — кажан каля самюсенькага вуха шпоркнуў.

— Цзы-ыць, цзы-ыць… — без канца плача аб нечым камарок здохленькі і не дае спакою.

Зайшлося сэрца ў Архіпа: схапіў ці не схапіў кажан волас з галавы ў яго? Занясе ён той валасок на скрыпучае сухое дрэва, зашчэміць яго там паміж скабак калючых… І будзе сохнуць, як дрэва тое, Архіп: датуль будзе хварэць-прападаць, пакуль дрэва скрыпець будзе; заваліцца, бахне аб зямлю яно — і Архіп памрэ.

Расступіўся лес. На палянцы стаіць Архіп. Бачыць — што гэта? Хата іх новая перад ім, на аднойназе круціцца, скача, верціцца…

«А-а, гэта я сон бачу, гэта я сню ўсё… — уцяміў Архіп, — але ж які дрэнны сон, хваравіты. Нячысцікі, мусіць, кіруюцца спужаць мяне, што не веру ў іх, — смешна яму стала дужа. — А хораша спаць, няма ўжо зданнёў».

«Скрыпела дрэва нейкае? — прыпамінаў Архіп. — Ай не, то ж бацька на печы храпе сабе».

«Засну крапчэй, — падумаў ізноў. — А дзе ж музыка чутна такая жалобная-пакутная?..»

«Ай-я-я-яй…» — ташнуе Архіп.

Жалі, болю, суму, тугі непазбытай у тых гуках дзяваць некуды, а музыка ўсё бліжэй ды бліжэй.

Грае-грае ліра старэцкая аб часах мінуўшчыны-старадаўшчыны. Спявае сляпы старац-музыкант, перабірае, не хапаючыся, па струнах тых, гучна-маркотных…

А не струны гудзяць-пяюць тое, а чалавецкія галасы чутны там. Далёка, угору, думна так у паднябессе паднімаецца голас сярэдні, не таўсты і не тонкі, не слабенькі, аб нейкай долі-нядолі спявае ён, плача, плача, галосіць, уніз спускаецца, клоніцца, у адзін енк-плак зліваецца з другім, таўсцейшым, дужэйшым нездаволеным голасам, што не хоча бачыць, як крыўда-няпраўда на свеце пануе… А трэці, чутна, кволенькі галасок, як дзіцятка малое, заходзіцца-залівaецца, да Бога і Маткі Прачыстае шле ў тонах цудоўных мольбы-просьбы дзіцячыя простыя-чыстыя…

Штосьці падымаецца на сэрцы ў Архіпа ад музыкі гэтае: плакаць, стагнаць, слёзы ліць жадаецца, думкі любыя выплакацьвыгукаць бажаецца, і млосна-мляўка так робіцца… Шчыміць у грудзях маладых, жалка-жалка, усе людзі добрыя, ладныя, любыя, а як мучаюцца, бедныя!..

У спрэчкі з чорным, страшным-няправым ідуць музыкі-скамарохі ў гранні сваім — і кіпіць-б'ецца сэрца хлапецкае… Эх! Пайсці і сілу сваю на ўвесь свет паказаць, прагнаць крыўдзіцеляў, вытурыць іх ад людзей бедных, шчырых, змірных і пакорліва-прыяючых, людзей родных і балюча скрыўджаных.

І добра на зямельцы будзе ўсім! Усе родныя, радыя, усе дужыя, ладныя. Свеціць сонейка, а ў гайку птушачкі пяюць вясёла так, ладненька, а красачкі цвітуць, пахі-араматы прыемныя, любыя носяцца, шуміць жытцо высокае, доўгакалосае, шэпча думу святую, ціхую каласамі буйнымі, падзяку пяе працы мужыцкай, а не «мужыцкай» — сялянскай працы, справядлівай…

А ў хаце відней ды відней, але скуль жа святло гэта прадзіўнае? І музыка дужэй усё чуецца, шырыцца яна і бліжыцца.

Чуваць ужо і спевы хаўтурныя, цяжка — ціха-плакучыя. Вые нехта, заходзіцца… дзявоцкі плач то, няўцешны, пэўна што.

Зірнуў Архіп на хату, бачыць — падлога каля печы расступаецца, і выходзіць, падымаецца труна аграмадная з пакрывамі чорнымі. То падымаецца, то схаваецца; то падымаецца, то схаваецца…

Валасы дыбам у Архіпа становяцца. Хоча ён падняць галаву, пабачыць лепей труну страшную — цяжка, галава не падымаецца. Хацеў рукою крыж на сябе палажыць — рука, быццам палка, не шавеліцца. Крычаць-гукаць, «ратуйце» зваць памкнуўся ён — ані каліва голасу няма, як і не было яго ні разу, толькі дух цяжкі ў рот набіраецца, паветра смярдзючае ўвакруг усюдых.

Добра спіць Архіп, дзіўна спіць Архіп.

А на дварэ маланння бліснула вялікая, вострая, жудасная, загрымеў гром, па ўсім небе вялікі грукат-грымот пайшоў, у самыя далёкія канцы глуха і дробна пакаціўся, пасыпаўся і раптам: трах-тара-рах-рах… — трэснуў-стукнуў пярун.

Ірвануўся Архіп з усіх сіл сваіх, з усіх жыл сваіх, і праз страшны сон з лаўкі на зямлю паляцеў, больна аб мост урэзаўся.

Прачнуўся Архіп: смоллю пахне, гарыць нешта, бацька з печы саскочыў, крык падняў.

— Сыночак, Архіп! Бяры падушку: пярун, знаць, ударыў, гарым…

Аглухлы падняўся студэнт сярод гулу вялікага. Добра яшчэ — не ў хату, а ў сенцы полымя адразу свіснула. Высадзіў

Архіп бацьку ў акно і сам скочыў, а полымя ўжо ў вокны з сянец так і лезе-рвецца, адразу ўсе вуглы абхапіла, во ўжо і ў хату кінулася…

— Баў-баў-баў… — зазваніў вартаўнік у званіцы.

— Тата, татуля, табе не пашкодзіла? — Архіп у бацькі запытаўся.

— Не, дзякуй Богу, анісколечкі. Толькі звон у вушах, аглушыла троху. Ну, ці трэба ж ткі гэта! А Божухна, авохці, а вой-я…

— Татка, куды ж ты?

— А? Гэта я дзівуюся, як шугае, пойдзем, ідзі, а то матка ўбачыць, спужаецца, ці жывы хоць мы пазаставаліся.

— Пажар! Пажар! Ратуйця! — крычаў ужо нехта на сяле. Заварушыліся людзі, збягаюцца.

— Дзе, хто гарыць?

— Новая хата ў Лінкевічаў.

— Ці там?

— Няго ж — не, вун, ай-ай…

— Падзівуйся, во шугаіць, і помачы не дасі.

— Якая тут помач: пярун чорта забіў.

— А маўчы ж ты, ай сказіўся? Процi ночы…

— Добра, што воддаль двароў пабудавалі: на сяло не перакінецца.

— А не, няхай Бог крыець.

Немалыя клубкі дыму чорна-сівага выбіваліся праз страху новую саламяную, чырвоныя язычкі полымя з хціваcцю і прагавітасцю рупліва лізалі бярвенне, кідаліся ўбок і наводзілі сваёй маўклівай і незразумелай руплівасцю-рухавасцю думку аб вечным і безадказным, думку: адкуля ўсё і што яно?

Сцены траскаталі і абвальваліся патроху. Бура прайшла. Дзікі віхор змяніўся ціхенькім прыяйным ветрыкам. Зашамацеў па лісці дожджык. Далёка за панскім лесам бліскала заціхаючая маланння.

— Ну, скажы ты! Бог ведае, к чаму й што? І гэта здарэнне: пярун ударыў, людзі жывы асталіся, а хата згарэла. Мабыць, і стары Лінкевіч не будзе надта клапаціцца па ёй: згары лепей яна, чымся цярпець у ёй гэткае страхаццё. Злыдні ў ёй былі-ткі.

— Ай, не гавары ты, кум; можа, тое праўда, а можа, батрак набрахаў, што яго з печы скінуў нехта. Хвароба яго ведаіць.

— А сам Нупрэй Лінкевіч? Ён жа сам казаў, што заснець на зэдліку, а прачхнецца пад зэдлікам.

— А мала што бываіць. Зэдлік вузкі, нізкі, вось і зваліўся стары.

— Ну, браце, тут не так… Пачуў бы ён.

— Што? Ці ж я не казаў? Як вільчылі гэту хату, дык ішоў нейкі старац. Ну, ладна; майстрам давалі гарэлку — трэба, калі па-гаспадарску, і старцу б даць, пачаставаць. Не далі. Пэўне, і падчараваў. У яго вочы такія чырвоныя, чараўніцкія, кроўю паналіваліся. Я так і падумаў, што ён вядзьмак, што не падаруіць.

— А дось табе, дзед, лухту пароць. Падчараваў, падчараваў… Яшчэ што выдумай.

— Думай як сабе хочаш, дзіцятка, а я добра ведаю, што яно так.

— Дык жа вот, гадоў дваццаць назад, як асінавым калом прабівалі, не тут будзь казана, што выходзіў з магілы кроў ссаць, нябожчыка, дык гэта…

— Не гавары… Ноч цяпер, бура, гай-магільнік недалёчка, дось… не гожа, не варта. Як слова, не ведаеш?

— Пойдзем, браткі, спаць.

## VI

Ужо з паўмесяца пражыў Архіп у двары сваім, у роднай старой хаце бацькаўскай.

Грошы-страхоўку выдалі за хату, што згарэла, але каб лес купляць, і не гаварылі пакуль што: задумалі сяляне на хутары выйсці.

Людзей прадпрыімных, рухавых і здольных душыла жыццё абчэственскае. Ані паляпшэнне якое ў полі зрабіць, ані лепшага сорту жыта пасеяць, ані дабрэйшую жывёлу прыдбаць. Трэба было б з аборкаў ваду спусціць у парыні: сяляне рупныя згодзіліся, а гультаі і тыя, што на сваёй зямельцы не жывуць, а пастухамі, батракамі, леснікамі ў паноў ды жыдоў жывуць, упнуліся, не далі праз свае шнуры канаў капаць. Што ты з імі, малаўчонымі, рабіць будзеш? «Возьмем уругу ў пана, братцы, — казалі добрыя гаспадары, — жывёла на парыні, як на бубачках, як на таку, ходзіць, што яна з’есць там, якую трасцу?..» «А на якое ліха мне твая ўруга, калі ў мяне адна карова? Дзень якнебудзь і на парыні прашлындаіць без пашы твае, а к вечару жонка мех травы з панскага лесу прынясе ды накорміць, і ўсё тут», — разбіваюць увесь саглас вузкашнуровыя, адходжыя ды рохлі-гультаевічы. А за кожную драбніцу брэшуцца, за шкоду няўмысную і незаметную лаюцца, як агалцелыя.

Эх, беднота, беднота, беднота!

Да чаго ж ты даводзіш чалавека! І жалка, горка, і крыўдна…

З лепшых людзей робіць цар-голад звяроў, сумлення не маючых.

Пачалі сяляне варушыцца, аб хутарах зюкаць.

Архіп нічога пра тое з сялянамі не гаварыў, баяўся: пачнуць апосля дапякаць бацьку: «А-а, твой сын падбіў на хутары, панам зрабіўся, па-панску жыць захацеў; будзе доктарам, накалупае грошай і скупіць хутары гаспадароў бедных, заняпаўшых, будзе маёнтшчыкам, жывадзёрам».

Як агню, баяўся такіх гутарак Архіп і жыў у бацькоў ціха, змірна, у гаворкі вялікія не лезучы.

Радавалася сэрца старога бацькі яго, як пойдуць на сенакос яны: хлапец-работнік Восіп, сын і сам стары Нупрэй.

Сала возьмуць, бліноў матка напячэ, вады ў біклажцы наберуць, выйдуць утрох на дзесяціну ў Дуброўках, у паноў дзе сенакос купілі.

Восіп уперадзе, а студэнт ззаду, не паддаецца, гонар мае. Толькі й чутно: ужык-ужык-ужык…

Скіне студэнт і брыль з галавы, і расшпіліцца, і распяражацца, хоча плячо ў плячо з работнікам харошым ісці. Вясёла! Вецер сарочку паддувае, халадзіць. Скакунцы — стрык-стрык-цырр… — песеньку пяюць. Пад кустом жупаны ляжаць і пясчанка з бруском стаіць, і Разбой іх сцеражэ, звіўся там. Бяроза сцень кідае, халадок дае. Пакошанай травою прыемна пахне, а наўкола красачак прыгожых і стаіць і ў пакосах ляжыць многа-многа!

Стары Нупрэй сядзіць сабе на пні ды — кляп-клёп, кляп-клёп — касу клепіць і радасна на сына пазірае: малады, вучоны, прыгожы і добры такі. Сам земскі, сам к яму з рукою здароўкацца першы падыходзіць. І мужыкоў, сваіх людзей, сынок не цураецца, земляка, калі трэба, усюды абароніць і чужога не скрыўдзіць…

Добра і студэнту забыцца на думы гарадскія-сівыя, паэзіяй народа роднага пачаставацца, душу засмучоную ажывіць.

І толькі зданні гэтыя… Пытанні дрэнныя… Туга тая… А што! Нічога, нічога… До. Ці не дапытацца Восіпа, хто кідаў яго? Ці не пайсці на могілкі са стрэльбаю начаваць?

Фу! Смешна…

Але ў чым жа справа і чаму яны ўсе маўчаць аб тым, як ён прыехаў?

Яны спакойны: яны ведаюць, што нячыстая сіла ёсць, але калі яна не дакучае, то ім і дзела мала да яе. Што ім даходзіць, адкуля яна?

Дый студэнту неяк усё больш не наўме тое, таёмнае. Некалі за працаю ці то за чым другім. У вясковым жыцці некалі, можа? Бяжыць час у роднай хаце.

Згарэла тая хата, і зданні забывацца сталі. Ат, проста прыдалося бацьку… Ну? А Восіп смяецца. Напаіць яго, каб праўду сказаў? А некалі неяк усё: то тое, то другое, і зданні забываюцца. Ды Архіпу не саўсім. Чаго прыехаў? А вось… бацькоў даведацца. Люба тут! Люба жыць сярод працы, свяцейшай усіх прац, — працы земляроба. Люба мець здаровае цела і здаровы дух. А і тут дакучаюць «пытанні шалёныя»… А бывае — ды ну іх! не да іх — некалі. Папрацаваць, аддыхнуць, пажартаваць і зноў узяцца за працу прыемную. Не ў горадзе, у сяле. Люба тут. Люба ў вечар цёплы, і ціхі, і добра-пагодлівы снапы вазіць. Люба раніцай у рацэ, у рацэ з вадою лёгкаю, не дужа халоднаю пакупацца. А днём гуркоў у градах пашукаць, пасмакаваць або яблык салодзенькіх, мядуначак невялічкіх пакаштаваць. А ўранні ў святы дзень устаць і ў лес пайсці, грыбоў насабіраць (мо леснікі не абдзяруць), а потым — у царкву, у госці пайсці, а вечарком, скрыпку ўзяўшы, на вуліцы пад хатай пасядзець, сыграць скокітанцы ды песні-весялушкі розныя. Іграе Іван на гармоніку, а Цімох на дудцы мастак; танцуе студэнт з дзяўчынкамі-хахатушкамі, сарамліва-смелымі, здарова-прыгожымі.

Ідзе час, зараз да горада рыхтавацца пара… Сумна тады робіцца.

А толку пра зданнё-страхаццё так і няма. І бацька з сынам неахвотна гаворыць ужо пра тое. Баіцца за сына ядынага, дрыжонага. Бо баіцца стары, што надта пачаў цікавіцца сынок незразумелым, таёмным, страшным, незямным.

* * *

— Ой, Нупрэй, паглядай за сынам, — гаворыць сват Яхім, сівы разумны дзед, — пара яго апаслівая, маладая. Ніхто шчэ лбом сцяну мураваную прабіць не здолеў, а галовы разбівалі многія, ой-ой, многія, як падумаеш. Вялікія навукі прайшоў Зроіл Давыдзёнак, што ўсё на галоўнага ра́біна навучаўся, а пачаў задумвацца, пачаў — і ось табе на: у адной доўгай кашулі ходзіць цяпер па Шамаву з кійком, галавою круціць ды ўсё нешта гамоніць, бурчыць сабе пад нос: «Адэной, Адэной, адгукніся

Зроілу. Дзе ты схаваўся ад Зроіла? Ага, ага, ну няма нічога». Аж страшна становіцца. Такі разумнейшы за ўсіх жыдоў шамоўскіх быў, а во адурэў, бядача, ад гэтай думы заўсёгдашняй.

Бярэжч трэба Архіпа: мала з нашага сялянскага роду ў людзі наўчоныя выходзяць, а калі й выйдзе каторы, дык барані Ты яго, Божухна! Бо трудненька такому адразу прырасці ў іншым стане людзей, паркалёвых людзей. Праз тое трудненька, што як-ніяк, а роднае карэнне глыбока сядзіць у ім. Ось і мучаць яго пытанні розныя: чаму я — пан, а брат мой, брат, каторы сто раз больш мяне працуе, пот лье, у каторага рукі ў мазалях і закарэлі, каторы век сумуе, ды гаруе, і ў гарэлцы душу топіць, думы залівае, гэты брат, родненькі сын мае мамачкі роднае, ён — мужык, мужык, эх! Во і мучаецца чалавек: чаго на свеце так папарадкувана? Далі-болі, адкуля свет, адкуля што. Бога шукаць пачынае, як той Зроіл. Глядзіш: дыбаў, дыбаў чалавек па гэтаму каўзялю, — пасклізнуўся, заваліўся… І навука не паможа, а зможа такога, бо прырода і навуку адолевае.

Так гаворыць сват Яхім, а кум Міхась дадае к таму:

— А падумаць: колькі турбот, болек і працы бясконцай трэба вынесці бацькам, пакуль-ткі сынок ці дачушка на ногі стане! Ды другі ж на ногі стане — бацькоў успомніць: сам вучыцца ці служыць дзе і бацькоўскую старасць к сэрцу прынімае, клапаціцца памагае, як, скажам, Архіп. А другі ж, бывае, і бацькоў адрачэцца! Вучы яго, такую дрэнь. Ого! Ці мала іх гэткіх, далёка шукаць не трэба…

— Дык што ж рабіць, сваток? — да Яхіма звяртаецца Нупрэй. — Жывём як Бог даець.

— А што ж? Трэба жыць. Перша-наперша трэба, каб бацькі ўкладалі ў галаву гэтым хлапцам-вучням тое, што няхай яны не саромяцца нашых мужыцкіх меркаванняў пра Божы свет слухаць. Няхай сабе мы на пагляд шэры, а, браце, душа можа быць і пад шэрым жупаном не шэрая. О! Помню, бывала, прыедзець к нам у сяло на лета, ці ўзімку калі, з Пецярбурга пан Беляеўскі. Вучаны многа, кніжкі сам складае, друкуе, а са мной так, бывала, як пойдзе, як пойдзе гаварыць, аж захлібаецца. Бачу — перада мною, мужыком, думкі лепшыя выкладае. «Я, — гаворыць, — толькі ў вас і аддыхаю і спачын знаходжу. У вас, сялян, усё кіруюцца праўду знайсці ўва ўсім. Пастух, які-небудзь, слова прамовіць з панам не можа — забіт ці ўжо натура такая ў яго да схоўкі прыхільная, — а каб пабачыў яго душу пісьменнік які, ці там архірэй, ці хто такі, ён бы здзівіўся і пазайздраваў». Во як пан казаў.

Нядбаласці, звярынства, гразі многа. Але дзе ж гэтага няма? Бяднота нас адалявае.

— Ведама, што яна.

— А паглядзі ты, сваток, на панскае жыццё. Яно ж найболей такое, што горш… сабацкага. Распуста, паскудства. Толькі што ў іх дзееца ўсё пад цёмнаю дзяругаю, з-пад дзяругі гэтай і жыццё праўдзівае мала відаць.

— Яно-то так, няўжо ж.

— А нашы хлопцы, што ў свет, у людзі йдуць, яны ад вёскі адпаўзаюць… Прыедуць у госці з чыстаты, з хлеба белага на пушны; як пабачаць тут, як мадзеем мы па родных кутках, робіцца ім і халодна, і непрыхільна, і прыкра. Паедзець назад, закруціцца там у вадаверці гарадской, агалцееець, у вёску ўжо ані блізка, мужыка чураецца, хоць і мучаецца, пэўне, каторы. А дзеткі яго ўжо карэння нашага роднага не маюць у сабе, тыя і ў лічбу не йдуць.

— Сваток, калі ж будзе па-іншаму, калі, у які час будзе, га?

— Будзе. Але, гора, не пры нас. Ты ж паглядзі, недалёчка хадзіць, у палякоў, у латышоў, што тутэйшыя фальваркі пакуплялі: жывуць, нельга казаць, што б на вялікіх кавалках, а жывуць неяк чысцей, і газеты чытаюць, і дзетак па розных гімназіях ды гаспадарскіх вучылішчах вучаць. Падрастаюць трошку гэтыя дзеці — дзівіся, як твой Архіп, самі зарабляюць і вучацца. Адзін доктар, другі аграном, трэці вучыцель ці што другое… Радні не адракаюцца, братнюю руку заўсёды дзержаць і йшчэ пляменнікаў ды пляменніц за сабою ў людзі цягнуць.

— Пажывём — паглядзім. Шукаюць нечага і нашы маладыя… ажно часам хныкаюць, стогнуць.

— А-а! Наша старое ўжо ім не надта падабаецца.

— На тое ж маладыя.

— А праўда, і шкода іх, што яны знайдуць?

— Пажывём — паглядзім.

— Калі дажывёмся.

## VII

На станцыю павёз Архіпа той жа сват, сівы дзед Яхім. Ездзіць з дзедам было дужа ладна: чаго ён не раскажа, не нагаворыць, і ўсё разумна, к толку, лішняга не пачуеш ад старога.

Мінуўшчына, як у люстры, праходзіла прад вачамі студэнта ў час Яхімавых апавяданняў аб старыне.

Ехалі ўжо даўно. Сцямнела. Архіп маўчаў, успамінаючы, як пражыў дома да восеннай пары. Дзед, набіўшы піпку табакаю, курыў і гаманіў з конямі.

Дарога ішла па старым казённым лесе. Цёмна, пара няранняя. Дрэвы, як чорныя, нямыя веліканы, абступілі дарогу з абодвух бакоў і сходзіліся ўперадзе. Коні пад ласкавую, бадрашчую гутарку дзеда рухава і асцярожна беглі па чуць бялеючай толькі перад самым носам лесавой дарозе.

Дзед ціхенька сцёбаў пугаю і думаў, каб даў Бог хутчэй перабрацца праз лес і выехаць на поле. За вярсты паўтары направа цягнулася Вялікая Патапеча: балота, мох, купнік, зараслі. Там яшчэ вадзіліся ваўкі, і ўвосень і ўзімку праязджаць без прыпасу было страшнавата.

Архіп думаў аб матцы. Якая яна спрацаваная, вочы ўваліліся, уся быццам шчапіна, а ўсё капашыцца, клапоціцца. Праваджала яго… Дзяржалася доўга, але такі слёзы пацяклі самі… Буйныя-буйныя, як боб. «А можа ж, я і не ўбачу больш цябе, мой сынулечка, мой Архіпачка…» І ноччу, мусіць, плакала. Эх-хо-хэ!

— Гаў-ву-ву… — глуха і нема завыў хтось далёка на Патапечы.

— Дзедку! Чуеш? Выюць… Ваўкі?

— Ды не, не, сабакі дурэюць у Буліне; там вялікая вёска Буліно.

Коні паднялі вушы і спуджана азірнуліся. Цёмны лес шумеў.

— Гаў-гаў-гаў-у-у, — пачулася ўжо многа бліжэй.

Коні, віхляючыся і з сторчма стаячымі вушамі, ступалі пасярод самай дарогі-праезду, туліліся і вадзілі галовамі па баках, адкуль моўчкі пазірала чорная цемень. Гняды ціха храпануў.

— Дзядуля! ваўкі!..

— А калі й ваўкі, ці мы іх баяцца будзем? Прыйдуць, паляскочуць зубамі ды і пойдуць, куды ім паказана, — без клопату сказаў дзед.

— Што вы, дзядуля? Паганяць коней трэба: мо ўцячом… А то станем ды цяпло раскладзём, да свету не падступяцца.

— Нічога, абойдземся й так. Я загавор ведаю…

Дзед саскочыў з калёс і замуздаў гнядога. Конь біў капытамі па зямлі і званіў зубамі аб груздзілы.

— Ну, Архіп, трэба толькі коні дзяржаць, — усаджваўся дзед на калёсах.

Збоку бліснулі аганькі, пара, другая… Коні храплі, маталі галовамі, ірваліся. Ваўкі падбеглі к самым калёсам і, падскокваючы перадам, кульгалі і сярдзіта бліскалі вачамі.

Людзі маўчалі; коні дрыжалі, як у трасцы…

Ваўкоў было штукі чатыры. Яны беглі з бакоў і спераду і торкаліся мордамі ў ногі коням, але не чапалі. Коні ўсё трасліся і кідаліся. Каб не новыя вожкі і не жалезныя груздзілы ў руцэ, яны пабеглі б як шалёныя.

Лес пачаў радзець, дрэвы расступіліся, на паляне каля дарогі выплывала нешта вялікае, цёмнае. То была леснікова хата.

Ваўкі прабеглі ўслед, моўчкі нюхаючы конскія морды, з паўвярсты, можа.

Адстаў адзін, другі… Каля леснiковай хаткі не было ніводнага.

— Ну, к лесніку, Архіп, заязджаць, па-мойму, не варта. Зараз выедзем на поле, а там і станцыя, толькі на курганок падымемся.

— Добра, дзядуля.

— Скора й машыну пачуем, калі закрычыць. А к поезду, пэўне, патрапім.

Дзед кіраваўся, каб як развесяліць студэнта.

— Ну, ці ж не казаў я, што ваўкі не зачэпяць? — загаманіў ён.

А з Архіпам штосьці рабілася асаблівае. Успомнілася яму і новая хата, як батрака нехта скінуў, пажар ад перуна, прыпомніў ён і страшныя апавяданні аб ваўкалаках, ведзьмах, чараўніцтве. Усё яму было няўцям. Аж тут і гэтыя ваўкі… Дзіва! У лесе набеглі, круціліся, морды конскія нюхалі, а не завалілі. Што гэта? Загавор? Чараванне? Гіпноз?

Раптам з нейкім абурэннем звярнуўся да дзеда студэнт:

— Дзедку, родненькі, дык што ж гэта? Скажыце, у чым прычына? Што тут к чаму, як жа?..

— Што? Пра ваўкоў? Дык тут жа няма нічога дзіўнага. Я змалку ведаў гэту павадку ваўчыную. Бывала, пасеш каля лесу статак, — а раней лясы былі вялікія, дрымучыя, ваўкоў ды і ўсякага звера было без ліку, — выбегуць яны, зверуганы, здаецца, адразу ўсё б праглынулі, зжорлі, прорва іх вялікая. Выбягуць яны, і тут ад злой радасці, што напалі на паядуху, як сціснуць зяпу — разявіць не могуць: бегаюць каля жывёлы, мордамі яе толькі — таўхіль! — падтаўхіваюць, носам па горле мацаюць, а зарэзаць аніяк не здолеюць… Пакуль хіба не адбягуць куды далёка. Зубоў расцяць ім тады нельга. Ну, вядома, бывае гэта з імі, калі яны надта прагаладаюцца і раз’юшацца так, што болей некуды.

— А цяпер? І цяпер таксама? — зацікавіўся дужа Архіп.

— І цяпер, мусіць, так, слава Богу. Я табе толькі не казаў, пужаць цябе не хацеў, а ў мяне сякера на ўсякі выпадак схавана. Думаў: уцячы не ўцячом, а можа, яшчэ зяпы ім сутарга звядзець, а калі ўжо Бог дапусціць, сякерай бараніцца буду. Аж яно памойму і здарылася.

— А-а… Вунь што-о, — расчаравана троху, але ўсё ж з дзіваваннем працягнуў студэнт.

— А ты б што думаў? Я ж не чараўнік які… Хэ-хэ!

— Дзядуля! А вы ж даяце веры чараўніцтву?

— А-аё! Ахвота табе гаварыць пра тое, пра што не трэба… А хто ж яго ведае! Ці мала чаго кажуць. Братка мой! Усё адно адказу не даб'ешся. А думаць пачнеш — адно спакой згубіш.

— А Божа! Дык няўжо ж так праз гэты, выбачайце, свінячы спакой калодаю гнілою жыццё пражыць і нічым не цікавіцца?

— Чаму? Я таго не кажу; пэўне, без цікавасці — што за чалавек? Але гэта… Мяне во дзівіць вучыцель Балазевіч: на ўсё адгадкі знайшоў хлапец. Бога няма, памрэш, згніеш, вось табе і ўсё… Ну ці не дурны! А здаецца, і дзяцюк нічога сабе, рахманы.

— Дык як жа, дзедку?

— Як? А так, што, колькі трэба, ведай, а ў вялікае не залазь, а то каб шыю, бывае, не скруціць. І не думай, што яно такое простае… Што няма нічога…

— Вы, дзядуля, як былі маладзей, не казалі, мусіць, таго?

— А што — «маладзей»… Як быў я маладзей, ішоў я раз апоўначы каля могілак, а была там свежая магіла: надоечы пан войт памёр. Даўся ён, гэты войт, пры жыцці людзюхнам. Жорсткі чалавек быў, нікому не даравяў, няхай ужо свят ляжыць. І ўміраў доўга і страшна, памерці ніяк не мог, мучыўся дужа. Іду, значыцца, я сабе з качарэжкаю, адганяю думкі аб нябожчыку, а яны так і лезуць. Не гляджу туды, дзе гэта магіла, а нехта як падбівае: «Зірні, зірні, што тама?» Не ўцерпеў я, скасіў вочы: зірк! Аж на магілцы, над насыпам — белы як у тумане чалавек стаіць, быццам то й на пана войта паходж, да яго ў падобі. Закалацілася ў мяне сэрца, ногі занямелі, валакуся як нежывы, дыхаць дайжа баюся. А тое дрыжыць-дрыжыць, трасецца, як во паветра, калі ў пагодны дзень сонечны; толькі яно белае, быццам папера. Не ведаю, як я ўжо да хаты даваloкся, белых валасоў, праўда, заўтра знайшоў, хварэў ці мала, хадзіў як у воглуме.

Дзед памаўчаў. Студэнт прыціх, але-ткі запытаўся:

— Дык што?

— А што? Каб на другога — не ведаю, што было б. А я ўжо праз гадоў дваццаць ад пана Беляеўскага чуў, што траплялася

гэткае бачыць і другім; гавораць іншыя наўчоныя, што гэта, як пачынае чалавек у магіле ўжо тлець, дык з яго праз зямлю наверх выходзіць нешта, — забыўся названне, не наскае слова, — і збіраецца ў кучу такую ж, якой формы чалавек быў, што там пахован…

— Фосфар, хіба… Ведаю.

— А можа, й так, забыўся, наймення не помню.

— А-а… — працягнуў студэнт у задумленні.

— Можа, калі-небудзь і аба ўсём, што каля нас незразумелага, даведаюцца людзі. Бог ведае.

Дзед замоўк. Коні весялей пабеглі, бо лес далёка астаўся цёмнай грамадай адзадзе, а дзесьці справа, дужа далёка, галасіла машына. А вакзал быў недалёчка.

— Адно астанецца людзям навекі святою загадкаю — гэта Тварэц наш Найвышні. Каб не было дано людзям гэтай загадкі, не было б чалавецкага жыцця… Прапалі б людзі.

«Іш, які дзед, — памысліў Архіп, — не дарма ж назбіраў поўную багаўню богамаленных кніжак, не дарма ж і ў базыльянцаў некалі вучыўся ў Мсціслаўлі».

А дзед у гэты час маўчаў, думаючы важную думу. Абразы мінулага луналі прад памаладзеўшым старыком. Ён, падумаўшы, загаманіў:

— Дык вось, Архіп, любы ты мой! Бачу я, крэпка ў табе роднае карэнне наша. А мне, старому, уміраць трэба. Едзеш ты ў свет далёкі. Смерць мая з-за кургана ўжо смяецца: мо і не пабачымся болей, дык вось, будзь ласкаў, звярні ты ўвагу на маю старыкоўскую гутарку. Першае, што скажу я табе, гэта — чытай, галубец, у кніжках і ў разумных людзей пытайся, як жылі даўней нашы тутэйшыя людзі… Споўніш гэты загад — у жыцці не ашукаешся, будзеш ведаць, што рабіць трэба. І ніякая, братка, чартаўня, ніякія думы чорныя не змогуць цябе. А другое: часцей у роднае гняздзечка залятай, дык не будзе яно здавацца табе страшным, і не пабяжыш ты, спужаўшыся, уцякаць ад яго, калі, часам, пачуеш ад каго дурнога або цёмнага і скрыўджанага нараканні няправедныя, пахабшчыну на справу і працу тваю. А яшчэ дадам: не забывай ты ў горадзе, дайжа ў добрай таварыскай бяседзе за салодкімі напіткамі ды смачнымі дарагімі стравамі, не забывайся ты запытаць у сябе: «А можа, цяпер у каго скарынкі хлеба няма?» І ведай тады, што адным енкам ды стагнаннем бядзе людской не паможаш… Помні, што каб другога вызваляць, трэба самому крэпкім быць, на сілы не ўпадаць, а то і самаго затопчуць… Толькі ты не гневайся, што я табе наказы раблю…

— Што вы, дзядуля! Мне так люба, лягчэй мне.

— А чартаўня… Можа, яна і не такая незразумелая, як нам здаецца… Унукі нашы больш за нас ведаць будуць.

— А ўсё ж крыўдна, дзядуля, што людзі сляпыя такія.

— Гэта ў пары такой цяпер ты! А шчэ горш тое — рос ты змалку сярод нас, цёмных, у лесе, дзе шчэ мой дзед маліўся каля асінавага пня богу Дуплінскаму-Ільінскаму. Вось яно і гаворыць у табе. Нічога, прывыкнеш сярод паноў — абойдзецца…

— А не-е, дзед! Чаму ж тады…

— Ку-гу-гу-гу… — загудзела машына, глушачы словы студэнта. За гоні стаяла станцыя, па насыпе бег пасажырскі поезд.

У цёплых, добрых бягучых хатках ехалі людзі, ехалі са сваім горам і радасцю.

— Ча-чах, ча-чах-стук, — шпарка дужа грукаталі-чахалі, — чах-чах, ча-чах-стук, — тахалі колы вялікія пад вагонамі.

Падуў ціхі ветрык, заківаў лазу над канаваю і траўку змірную прыдарожную.

«І трыста, чатырыста гадоў назад таксама дуў ён тут, ветрык, і таксама калыхаў-цалаваў траўку сумную і маўклівую… толькі цуда-машыны не было», — памысліў студэнт і замаркоціўся…

*1913*

## ЛІРНЫЯ СПЕВЫ

Цёмна ў лесе глухім, як у магіле.

Неспакойна трапечуцца лісточкі на бярозах, і трывожна гудзяць макаўкі сасновыя. Нярана ўжо, час а поўначы, а гэта ночка купальская…

Блісну ў аганёк каля чорнага пня. Што тама? Ці грошы заклятыя на зямлю выходзяць, ці, можа, чарвячок купальскі свеціцца?

— Ку-га! Ку-га! Ку-га-га… — страшна раптам заскігатала нешта за балотам у гушчарніку. Ой, што там? Ці русалка на веццю бярозавым гутаецца, ці сава лепавухая зайчыка гукае к сабе, заесці хоча?

Вось цяжка залопала крыллем нейкая птушка ў суччы і ў пушчы знікла. Адкуль яна ўзялася аб такой пары?

Ох, добра, — ветрык свежы падуў. Ківаецца ля дарогі над калюгаю лазовы куст, а там, за ім, нехта чорны выступае… Пень абгарэлы там, ці што яшчэ.

Нярана ўжо, час а поўначы, а дарожка нявідная ўсё цягнецца без канца па цёмным лясу. Калі йшчэ тое поле Залясянскае, а страшна тут аднаму.

Карэнне па дарозе парасло, няможна шпарка бегчы. А чорна ўсё, ані жывой душы.

— Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! — шэпча Янка, узіраючыся ў цемень лесавую; не хоча ён думаць аб нечысці паўночнай, паціху шчупае кійком дарогу перад сабою, ступае нячутна, але каб скарэй. А валасы на лбе мокры і сцюдзёны.

— Дай, Божачка, толькі акопы мінуць. Толькі акопы, акопы…

А тыя акопы, знямеўшы, спяць у чорнай цьме.

Каб не мова людская, дык ніхто б і не ведаў, што калісьці тут слаўнае Замчышча князёў Саламярэцкіх было, жыццё кіпела. Грымелі гарматы, курыўся дым ад пораху, і лілася чалавецкая кроў. А ў святы вялікія хмель-віно ў чарах пенілася,ігралі гуслі-самагуды, пялі старэцкія ліры, стогн стаяў ад гоману людскога, і многа чаго дзеелася, што ўжо навекі пахавана для пазнейшых часоў.

Высака дзяржалі князі Саламярэцкія знамя зямелькі свае, знамя бела-чорна-чырвонае, не згібалі галавы прад цяжкаю сілай Маскоўшчыны, не хіліліся і прад хітраю прычэпкаю — Польшчаю…

А цяклі часы, упадалі на сілу магутныя, і нечакана ўзнасіліся ўгару непрыметныя, уміралі князі слаўныя, выраджаўся князёўскі род. Памёр маўчлівы сівавусы Мсціслаў, і асталася на ўвесь род адна наследніца — дачушка яго дрыжоная, ненадзейная княжна Ганначка.

Прыгожая яна, як краска Божая, а розум дзявоцкі і сэрца мела дзявоцкае…

Моліць Бога стары поп, мніх Грыгоры: «Удзяржы ўладу князёў маіх, прасвятлі вочы княжны маёй на карысць усіх радзімічаў…»

І гаворыць мніх Грыгоры прыгожай Ганне-княжне: «Ох, ты мае княжна-дзіцянё, Божая служэбніца, а падданых сваіх заступніца, слаўная ты наследніца слаўных князёў Саламярэцкіх, не дапускай ты к сабе паніча польскага, княжыча Уладыслава Ваябойскага, не слухай ты салодка-атрутных прамоў спранджыстых настаўнікаў яго, беражы пасад прадзядоўскі і веру сваю святую праваслаўную беражы…»

Слухала папа, не гледзячы на яго, княжна маладая.

І без адказу ішоў ён, стары, маліцца Богу ў ціхай цэркві, пабудаванай шчэ старым князем Лугквенім.

А княжна Ганна часцей ды часцей да сябе Уладыслава, княжыча Ваябойскага, дапускае, часцей ды часцей яму ў вочы маладыя пазірае…

Не цвёрда стаіць пасад князёў Саламярэцкіх, у апасцы ад лаціны і вера праваслаўная. А ходзяць чуткі — маскоўскі ўладар сваю раць на Літву Рускую паслаў пад старыя муры старога Саламярэцка.

— О Божа наш! О княжна мая! — стогне поп, мніх Грыгоры. Няма ўжо яму на што спадзявацца.

Дарма! Усё канец мае…

Сыплецца цэгла, і пыл ідзе над сценамі замчышча, гудам гудзіць пад кулямі маскоўскімі Замкавая Гара, заслаў дым усё поле ваеннае, равуць валы вайсковыя, іrзуць коні літоўскія, гудзяць званы хаўтурныя, льецца кроў…

Плачуць маткі па сынах сваіх, а дзяўчыны плачуць па любых сваіх, туга вялікая агарнула дзяцей Саламярэцка, льецца кроў…

А ў падземным ходзе-лазе з-пад родных муроў-скляпоў у Цёмны Лес нясуць княжну Ганну вусатыя, у кунтушох і з пяром на шапцы, дружыннікі княжыча Уладыслава. Пакідае бацькаўскае гняздо астатняя галінка з вялікага радаводнага дрэва саламярэцкіх князёў.

Незабавам… Вось ужо чутны плескачы і гоман ручая сцюдзёнага, вось і дуб векавы, а каля яго і ход-лаз падземны на зямлю выходзіць. Як самлела княжна Ганна ў Замчышчы, так і цяпер непрытомна йшчэ. Але патроху-паціху расплюшчыла вочы дзявоцкія, памаленьку, з нудою, усё ўцяміла. Абхапіла ручкаю белаю невялічкай касу доўгую, чорную, што ў дарозе сплуталася, прыціснула да грудак сваіх і слязамі, як каралі добрыя, буйнымі змачыла іх, шэпча сама: «Пасад мой… Уладзя, Уладзя, забарані мяне…»

— Гэ-гэй! Стойце, стойце, патрывайце, ляхі!.. — чутна, — задыхаўшыся, бяжыць нехта ззаду. Аж гэта поп Грыгоры. Бяжыць угрунь, вочы гарацьгарыць, белы сам, як смерць, у руцэ святы крыж дзяржыць…

— Ці… ці не… ці не ўнучку славетнага Лугквеня, князя нашага, у стане ляхаўскім віджу я? Ці то праўда, ці то здаецца мне, што заране так княжна Ганна Саламярэцкая з роднага кута ў чужадальнюю старонку ляціць?..

— Маўчы, манах! — прастагнала княжна.

— Няможна маўчаці мне, што не маўчаў пад гром гармат і кульны свіст на маскоўскіх і польскіх палёх з князем Лугквенім і сынам яго Мсціславам, няможна мне маўчаць і прад іхным дзіцёнкам… Куды бяжыш, княжна? Яшчэ моцны муры саламярэцкія, не паломаны паркан замковы, яшчэ ёсць гарбузы і арэшкі на маскоўцаў у скляпох нашых, і не гнуцца шчэ нашы людзі, княжна! Многа скарбаў дзядоўскіх захована ў нас, немалы шмат золата і каменняў драгацэнных у святынях нашых, — адкупімся ад Маскоўшчыны, а не пабяжым шукаці помачы ў лацінікоў, куды дзяды нашы не бегалі і нам заказалі…

— Манах! Маўчы! Уладыслаў мой любы абароніць наследдзе бацькоў маіх…

— Абароніць… Княжна, княжна! Так абароніць, што парушацца косці князёў нашых у трунах і попел іх разляціцца. Не хочыць Польшча Русь Літоўскую сястрой роўнай лічыць, дык не будзіць ні Літвы, ні Польшчы, а будзе магутная бесканечная Маскоўшчына. Гора нам! Не бяжы, княжна! Адкупіся пакуль што ад маскоўскіх ваявод, а там што Бог святы дасць. А пакінеш Саламярэцк цяпер, — не будзе ўжо, не будзе нашага незалежнага Саламярэцка…

— Не… гэй, хлопчэ, гукні дружыну, вядзіце коні… Ступай, Грыгоры!

Страшны стаўся поп сівы. Высака ўзняў святы крыж, падняў рукі і на калені зваліўся. Балюча паглядзеў услед княжне Ганне і на неба зірнуў.

— Божа наш! — крыкнуў ён. — Судзі нас, судзі мяне… Канец нам. Наша княжна пакінула нас, сплутала з Польшчаю і Маскве аддала. Вун склычыліся ў бягні валасы яе, дык ніхай жа расклычыць іх. Ніхай расплутывае, аж пакуль і мы з Масквою ды Польшчаю расплутаімся…

Задрыжэла зямля, полымя шуганула са ўсіх бакоў, пад грукат гармат і стогны байцоў шухнула ўсё аж на мілю кругом у зямлю наскрозьдоння…

Прайшло многа вякоў, і толькі акопы, старыя акопы — сведкі старадаўшчыны, асталіся. А ў ночку таёмную купальскую чутны там званы глухія, жалобныя, і грукат гармат, і енкі скалечаных, і спевы манастырскія, і дзявоцкі плак няўцешны.

Страшна тут, а йшчэ далёка Янку да поля таго Залясянскага, а вось-вось і акопы старынныя.

— Гру-гу-гу… — усхапіўся вецер, і захістаўся лес, завыў, застагнаў. Падгібаюцца ногі ў Янкі, і відзіць ён воддаль дарогі

каля глаўнейшага акопа чырвонае нешта: ці маладзік усходзіць там, ці агонь гарыць, можа, цяпло хто расклаў.

— І васкросніць Бог, і разбягуцца ўрагі яго… — чуць кратаючы сухім языком, зашаптаў Янка, і цяпло стухла на міг. Але раптам асвяціўся лес; зірнуў Янка — скрынка вялікая стаіць, на ёй дзяўчына валасы чэша, ды ніяк расплутаць не можа, а па баках яе два чорныя сабакі на ланцугах рвуцца.

Хацеў Янка пераксціцца, ды загледзеўся ён на дзяўчыну, шкода яму стала яе.

Маладая, белая, прыгожая, толькі вочы хавае, а слёзы буйныя, як раса ранняя, па шчаках цякуць. Косы, як вужакі, абхапілі галаву і грудзі, і часам як агонь ад іх пыша.

— Распляці-і мне, распляці-і мне… Усё, усё табе аддам, навекі шчаслівў будзеш, а сабак, слуг маіх верных, не бойся. Ой, пашкадуй ты мяне, распляці ж, распляці мне косы мае, о-о-о!..

Закалацілася сэрца ў Янкі, падышло пад горла ад жалю, і слёзы накруціліся.

А сабакі так і гаркочуць, так і выскаляюцца, агонь з рота пыша, а зубы што кляцы жалезныя.

Распеpaзаў Янка свой чырвоны пояс: «Ніхай крапчэй сабак прывяжыць», — падумаў і кінуў княжне маладой.

Загрымела скрыня, зазвякалі грошы ў ёй, як шалёная: «Ой! баліць!» — крыкнула княжна, быццам той пояс агнём пеканўў яе.

— Зачапіў ты мяне, а не вызваліў, буду я мучыцца яшчэ столькі, — заплакала яна жалобна і злосна, — будзь жа ты праклятым, як праклята я! — дабавіла і знікла пад зямлёю са скрыняю, з сабакамі і з паясам Янкі…

Знямеў Янка.

А ўжо чорна наўкруг, як і раней, лес шуміць, заблішчэў скора і просвіт поля Залясянскага.

Чыя ліра плакучая, чыя чутна там каля цвінтару муровага пад старой ліпінай дупліняcтаю? Што гэта за старац сляпы з белымі, як воўна белая, валасамі і мутнымі невідушчымі вачамі іграе там? хто ён гэты, што пяе аб княжстве саламярэцкім?

— То Янка Пракляты.

Адкуль ён, хто ён — ніхто не ведае ў тутэйшых месцах.

А калі запытаюцца ў Янкі людзі:

— Гдзе ж твая, дзед, радзіна?

— У Бога, — сумна і паважна адкажа ён.

— А ці меў жонку, дзед, а дзеткі ці ёсць?

— Пахаваў жонку, пагарэлі на пажары дзеткі, пагарэла дабро, і хатка, і конікі, і кароўкі, і ўсё. А зямелька неўрадліва мая…

— Які ты жалобны, дзядуля, — скажуць яму, а ён паводзіць прад сабою невідушчымі вачамі, падтрахне хатыль на плечах, ліру абправіць, крэкне:

— Дзякуй Богу за ўсё, усё пад ім, а ён адзін бяссмертна над намі, — і пад ліру сваю старэцкую запяе сумную-сумную песню аб княжне Ганне Саламярэцкай, і аб часах Літоўскай Русі, і аб уладарстве князёў саламярэцкіх над радзімічамі.

Плача ліра, і плачуць бабулькі убогія, і маладухі, і прыгожыя дзяўчынкі…

*1914*

## ЛІТОЎСКІ ХУТАРОК

### І

Худое лета выдарылася хутарку. Сядзеў ён паміж гор, і ўся ярына выгарала. Дый жа ставок, што сінеў пад гарою, блізка што высахнуў, а ў студні даўно вады не было. Глiністая дарожка, што вілася ад хутарка ўніз, вакол стаўка да Вержбалоўскага шасэ, закамянела і патрэскалася.

Па вясне хадзілі чуткі, што будуць у тутэйшых ваколіцах вялікія дзяржаўныя манёўры, сам імператар прыедзе. Газеты ж прыходзілі толькі кунігасу (свяшчэнніку), ды і то рэдка, і вайны ніхто з хутарцоў не спадзяваўся.

Калі ж познаю начою з фанаром у руках прыскакаў на хутарок конны ад гміны і забарабаніў у вакеніцу, уся сямейка мігам ускочыла і спалохалася. Нібыта прыйшло заканчэнне злыбед усяго лета.

А калі пасланец уваліўся ўвесь у пыле ў хату, рупліва дастаў паперу і загадаў гаспадару хутарка Яну Шымкунасу той час запрагаць каня і ехаць у гміну для патрэб мабілізацыі, бо абвешчана вайна з прусамі, — у хаце прайшоў жах і запанавала смяценне.

— Так… вайна, знача, — неслухмяным языком сказаў Ян і пачаў рыхтавацца.

Усе маўчалі. Ніякіх выгукаў, ніякіх пытанняў. Толькі гаспадыня, старая Даміцэля, адразу ўзяўшы ў думку сыноў сваіх:

Блажыса, што апошні год у войску служыў, і Дамяніка, што ў шахтах быў, усхліпнула і дрыжачым голасам сказала дочкам:

— Збірайце бацьку ў дарогу.

Большая, Монця, узняўшыся на падушцы, з падпёртаю шчакою, быццам застыгла ў думках, а меншанькая, Ядвіська, нервова заклапацілася па хаце.

У гэту ноч ужо не заснулі.

А на другі дзень, як свет, пацяклі па ўсёй ваколіцы жаночыя слёзы, былі хліпанне і выццё, малітвы і кляцьба. Праваджалі запасных. Звон бажніцы (цэрквы) смутна і багамаленна гукаў усіх пад'ярэмных пад купал храма да ног раскрыжаванага за словы любові і міру.

Плакаў зморшчаны сівенькі кунігас, благаслаўляючы духоўных дзяцей на шлях брані, заказуючы храбрасць у баі і літасцівасць да зможанага ворага; плакала, уздрыгваючы ўся, колькі было людзей, бажніца.

Іства хрысціліся і малебным поглядам прыліпалі да абраза Спасіцеля ў цернявым вянку і не ўтрымлівалі буйных слёз пагуканыя запасныя.

А на вуліцы — цёплае сонейка; пяюць без клопату птушкі, гудзяць у ліпняку пчолы. Усё — як усягды. Не даецца веры навінам.

Правадзілі… Доўга стаяла асірацелая таўпа з сівенькім кунігасам наперадзе. І ўсё яшчэ махала тым любым, што пайшлі спраўляць крывяныя хаўтуры.

— Су дзеў, су дзеў!.. (з Богам!), — доўга шчэ адгукаліся тыя, махаючы шапкамі.

— Прашчайце! прашчайце!

Схаваліся за ўзгорак.

## II

Мабілізацыя канчалася.

Ля хутарка на горцы стаяла паўбатарэя: вартавала мост ад ворага з паветра.

Некалькі вольных ад дзяжурства салдатаў, нібы забыўшыся, што вот-вот можа быць пераход, бойка і той свет, чаёўнічалі сабе ля вогнішча, скалілі зубы, хадзілі дажа купацца ў лужу на ставок ці шчыпалі гарох. А то, абышоўшы далёка кругом, падбіраліся да сям'і хутаранаў-літвінаў, што жалі авёс, і пачыналі заводзіць з імі знаёмасць.

Салдаты-назірачы дзівіліся ў біноклі ці трубу Цэйса і, рагочучы, абвяшчалі, што «наша бяроць», чорненькая ўжо смяецца, а беленькая не хоча і не глядзіць — усё жне.

Потым хапаліся за працу: касілі, вязалі і насілі снапы. Ярмашчук і Дудзік жалі, і ўсе ўвесь час смяяліся з дзяўчынамі і вялі гутарку з панам-татулем, катораму падабалася работа салдат, іх вясёласць і жарты і велічанне панам.

— Няго сюды, да мяне на хутар, можа прыйсці герман? Няго тут на маім родным полі, блізка хаты маёй страляць будуць? І тутака ляжаць будуць забітыя? Не, не можа таго быць! А то што ж тады? — во праз што млела сэрца ў старога.

— Не клапаціцеся вы, татуля! Не прыйдзе да вас герман. Мы яго так турнём, — супакойваў яго бойкі, курносы, папсованы воспаю кастраміч.

— Ты не ведаеш, братка: прусы — народ кітры (хітры), — трывожыўся стары.

Увечары салдаты гасцявалі ў хутарку.

Нягледзячы на тое, што дзяўчаты гаварылі з «москолюсамі» ўбогай мяшанкай руска-польскіх слоў, салдаты, дзякуючы магнэчнай сіле прыгажосці, пачувалі ў сабе паўнату шчасця ад знаёмства з імі.

Праўдзівая прыгажосць сярод літовак страчаецца не часта, але прынадных дзяўчынак на Літве даволі.

Чорненькая Ядвіся не была так прыгожа, як большая, Монця, але яе бойкія, вясёлыя чорненькія вочкі, чырвона-смугленькія з ямачкамі шчочкі, дзяціна-капрызны са смяшком склад вуснаў, маладыя, круглыя ручкі, гібкасць і крутасць паланялі салдатаў, не ведаўшых, чым і як ёй дагадзіць.

Беленькая Монця мела больш строгую красу і была сур’ёзней і неяк задумней. Гэта быў тып літвінкі. Прадаўгаваты тварык з шэрымі, сумнымі, удаўжонага разрэзу вачамі; круглы, але правільны нос; рот з рысамі, лёгка даючымі пакорліва-сумную ўсмешку; роўныя, белыя зубы, доўгая, багатая белакурая з завіточкамі каса.

Не кожны салдат рашаўся жартаваць з Монцяю.

— Куды паненкі схаваюцца, як прыйдзе германец? — вёў за ядою гутарку малодшы феерверкер Сініца.

— А чаго мы схаваюцца? — бліскае чорненькімі вочкамі Ядвіся. Ах, каб ёй яшчэ троху слоў. — Я не бус (не буду) схаваюцца… Прусы — народ лабай гражус… прыгожы (прусы — народ дужа прыгожы).

Уся хата дрыжыць ад звонкага, адылі закароткага смеху. Толькі задумная Монця ледзь усміхнулася на словы смяшлівае сястронкі.

Пачалі развітвацца. Салдаты дастаюць «пінегу» (грошы).

— Не, не… Грэх браць у салдата. Наш Блажыс таксама ў войску. Вы ідзіцё на смерць за ўсіх. Не.

І адварочваецца ад платы.

Але хто заможней, пакідае грошы на стале.

— Добрыя людзі, — кажуць у хаце после іх, — вясёлыя.

— Добрыя людзі, — кажуць салдаты па дарозе, — сумленныя людзі.

А тым часам трывога аб крываvую будучыню ўсё расла, даходзіла да хутарка і сяліла там смутак і клопат, хоць ужо ўсе трохі і прывыклі, што вайна.

Стары, седзячы іногды ўвечары ля салдацкага вогнішча і сапучы піпкаю, гаварыў, шукаючы спагады і даючы і не даючы веры самому сабе:

— Баюся, што хлеб сабраць не паспею. Збяру ў гумно, што ёсць, а прыйдуць свае ці чужыя — і спаляць.

— Не бойся, — супакойваў салдат. — Хто цябе будзе паліць? Мірных жыхароў чапаць забараняецца.

III

І вось два ворагі-асілкі сышліся. Нарання будзе бой. Сталі закопвацца ў зямлю.

Ночы з пазіцыі прыйшлі да хутара салдаты (не тыя, што сцераглі мост, тыя ўжо даўно былі дзесьці ўперадзе). Пачалі ламаць вароты, дзверы, платкі на будоўлю бліндажоў.

Ян выйшаў з хаты.

— Няможна! Не далі! Я не далі, — казаў ён салдату, што цягнуў вершкавую дошку-паліцу.

— Няможна? Возьмем… Вайна, дзядуля. Табе заплацяць.

Салдаты ідуць і ідуць.

Ян нікога не разумее. Учора ён раздарыў шмат хлеба і сала. Так, па-хрысціянску, без грошай. І прыемна самому было. Яму і цяпер не шкода. Толькі нашто ўсё руйнуюць. Прыкрасць. Без вайны зглумуюць.

Надышоў дзень. Калоны войска ідуць туды і сюды. Грымяць цялежкі, кухні, гарматы. Скачуць вершнікі. А ранне такое сонечнае, цёплае. Прыпякае. Неба сіняе-сіняе. А ўдалі над лесам выплываюць знедкуль белыя клубочкі дыму. Пакажуцца і паволі расплывуцца. Там жа нешта гудзіць, як далёкі ціхі гром.

— Што то, зямляк? — пытаецца літвін у сумятліва бягучага пехацінца.

— Што то? — ізноў пытаецца ён тэлефаністаў, што шпарка разматваюць шпульку з кабелем.

— Што? Шрапнелі… Уцякай, дзед, назад!

Ян узняў далонь над вачмі і пільна ўглядаецца ў тыя белыя клубочкі высока над лесам. Не, ён не кіне свае сялібы, свае гаспадаркі. І ён спакойны: жонка і дочкі з вузламі і пакункамі яшчэ досвіткамі пайшлі ў касцёл, далёка ў тыл.

— Тра-рах!

Ян здрыгнуўся мімаволі і як толькі не зваліўся на дол ад раптоўнасці. Сабачка жалабна заскігатаў і кумільгам рынуўся пад вароты. Аграмадны чорны стоўб зямлі і газаў уздымаўся на пакаце гары, а міма ляцелі і клаліся на палату чарапкі: дзвыгд!.. пук! — пелі і пукалі яны.

Ян палажыў рукою крыж на сябе і зайшоў за вугал, прыхінуўся да сценкі. Чуваць, як за гарою быццам чым хлопаюць ці бабы на падоле бялізну перуць; перш рэдка і дзе-нідзе: тах! тах! А потым усё часцей і часцей, і пасыпалася дробна, як гарох аб сцяну: хлоп-лоп-лоп!

— Са стрэльбаў, — сказаў сам сабе стары.

Сэрца стукала. Чуе: запрацаваў кулямёт, роўна і доўга: тра-та-та, а збоку і адзадзі, у лагу, куды ўчора артылерысты цягалі дошкі, круглякі і жэрдзі, разам у цішы пачулася рэзкая, дужая каманда:

— А адзін патрон, беглы агонь!!

Разам, аглушаючы, тарарахнуў залп усёй батарэі. Ян нейк ненаўмысна пабег у хату, стаў, кіраваўся абдумаць і зноў выбег за вароты.

— Гэта ж свае… чаго баяцца.

І потым ужо цалюткі дзень, да канца бою, стары не мог апамятацца і агоўтацца і зрабіцца такім, як заўсёды, і думаць, як заўсёды. Нібы плёнка нейкая заслала вочы, нібы ўва сне плыло ўсё ў бяздонне часу, толькі ні на каліва не пакідала балючае пачуццё чакання канца бою, чакання ночы і нейкая прыглушаная трывога аб сабе і аб жонцы з дочкамі і аб сваіх салдатах.

Беглі міма пехацінцы, скакалі патронныя двухколкі, прагрукатала з лагчыны на новую пазіцыю батарэя, на хутар пляліся лёгкараненыя. Стары паіў іх вадою, падаслаў у хаце і на двары чысценькай, сёлетняга першага абмалоту, саломкі.

Блукаючы, абы не сядзець, ён за дваром набрыў на забітага. Перш хацеў вярнуцца і не зірнуць, ды нешта цягнула туды.

Стаў і глядзеў, глядзеў, бутуваўся папарадкаваць думкі, уцяміць, але думка была неслухмяна ці затупілася, і ён такі аклумлена дзівіўся доўга на аскаленыя зубы, крывяны твар і раскінутыя рукі.

К ночы, калі пачало заціхаць, успомніў Ян, што ўвесь дзень нічога не еў і не карміў скоту.

Ноч. Ранне. Ізноў сонца, ізноў дзень. Не даецца веры, што ўсё ціха.

Немцы адышліся. Уранні ў садзе Шымкунаса сівавусы палкоўнік гаманіў з некім па тэлефону:

— Няма сілы падабраць. Ляжаць цэпкамі, калонамі. Бог іх ведае, ці забіты так, ці параненыя спаўзліся ў адзін груд. Трупаў не менш трох тысячаў на адной маёй пазіцыі. Можа быць, тыл падбярэ.

Ян чуе і не можа цяміць: ці шмат то ў адным грудзе забітых і як яны спаўзліся?

Прыйшла жонка са збялелай проці звычайнага Монцяй і нервова-сумятлівай Ядвіськай.

Яны праседзелі ў касцёле і не бачылі бою, толькі маліліся, плакалі і пужаліся кананады.

У хаце Монця села ля вакна, па-свойму падпёршыся рукою. Без слёз плакала сухімі вачамі.

Ядвіська разоў дзесяць вылятала за садок і з-за вуголчыка дзівілася на палатняныя насілкі з капкамі крыві і барадатых, у пыле, санітараў з чырвоным крыжам на рукаве, на нерухомых сініх нямецкіх салдатаў у жоўтых ботах з гваздамі, на фурманкі, дзе крахтавалі, стагналі раненыя, на шпаркі самакат, што курыў то ў той бок, то ў той, па шляху.

Убачыла, як санітар папярэдне пары троху сунуўся на камлыжку, а насілкі варухнуліся, ранены ледзь утрымаўся, і ўсміхнулася.

Схапіла жменьку валасоў і моцна рванула сябе за смех.

Ян ездзіў з падводаю збіраць на пахаці забітых.

Перад вечарам вярнуўся маўклівы і замораны.

На роспыты сям'і адказваў марудна і неахвотна. І кажучы аб другое, бачыў перад сабою ашклянелыя вочы, рукі са сціснутымі кіпцямі і ўзнятыя ўгору і кроў. І як ён, прывёзшы іх да брацкай магілы, па загаду санітараў хапаў за ногі, як за дубцы, і кідаў з калёс у яму, нібы дровы.

Салдаты часам поркаліся ў нямецкіх рыжых і касматых ранцах, даставалі салодкія жоўценькія сухаркі і частавалі Яна.

Ён папробаваў, і цяпер яму прыкра і мляўка.

IV

Заціхлі гарматы: пасунуліся на захад. Хутарок астаўся ў тыле. Пайшлі…

Хутарцы ўздыхнулі вальней. І думалі, што навальніца мінула. Ждалі лістоў ад Блажыса, але пошта была раскідана той навальніцай, і Даміцэля блізка месяца дарэмна штодня ўранні і ўвечары ў малітвах пыталася, ці жывы сыны яе? Лістоў не было, вешчых сноў не снілася, трывога не міналася.

Ян колькі разоў падвозіў хлеб на пазіцыю. Вярнуўшыся, шмат расказваў у двары аб тое, што бачыў.

Крэпка верылі ўсе, што не адыдуць ужо нашы і не прыйдуць сюды немцы.

А мінуўся месяц, і вестка аб адступленні ўразіла хутарок больш, чым некалі вестка аб вайне.

Тры пары, дзень і ноч, гудзіць маць-зямля. Дымяць пажары. Чырванее неба. Выюць сабакі. Тарарахкаюць пушкі і павозкі.

— Рускія ўцякаюць…

Вот з аднаго хутара выйшла гаспадыня, старая літвінка, зірнула на лог свой, акопамі зрыты і гэтак кінуты, пачула жалобнае мычанне непакормленага ў сумяціцы скоту, абхапіла галаву рукамі і завыла сама, як той бедны сабака.

А ў касцёлах, бажніцах — трывожны звон, у званіцы навалена вузлоў спалоханых уцекачоў, там богамаленцы і сівы дзядок — кунігас. Дрыжачымі рукамі благаслаўляў тых, што па дарозе забягалі са стрэльбамі ў руках, каталікі.

Курыў па полі дожджык і, урэшце, паліў як з вядра. Клум, гразь. Адзадзі страляніна, і збоку лятуць ужо снарады. Там нейкія крыкі, вазня, уцекачы-жыхары з цэлым возам убогага шкумацця поўзаюць у гразі ля калёс і беднага каня, што прыстаў у патапечы.

А ў хутары Шымкунаса голаснае выццё. Блажыс ішоў са сваім палком міма роднай хаты і забег да сваіх на пяць мінутак.

— Што нам рабіць, сыночак, што? — Кладуць яму ў торбу сала і каўбасу, сыр і хлеба.

— Сам не з’ясі, таварышаў пачастуеш, — нечым будзённым чуецца сярод гора і плачу.

І не пускаюць таго з хаты. Матка і Ядвіська прыніклі да яго і выюць; ужо Монця падае торбу і роніць слёзы, а бацька ўсіх супакойвае і сам плача.

— Ужо не ўцеч вам, — кажа сын, — выкапайце за двaром ямку і накрыйце тоўстым бярвеннем з зямлёю. Калі будуць біцца,

хавайцеся туды, а пакуль што хоць у паграбніцу. Бывайце, бывайце! — Цалуе бацьку, хапае матчыны рукі, абшчапіў сясцёр, схапіў стрэльбу і торбу і пабег даганяць свой полк.

— Калі што, дай вестачку, Блажыс!

А наўкола сяліб і ўздоўж шасэ ўжо рыюць зямлю нямецкія гарматы.

Ядвіся палезла на вышкі, кінулася на сена і аддалася панаванню гора.

Нітка думак парвалася, і дзяўчынка плакала доўга і няўцешна, чуючы толькі, што на свеце робіцца нешта незразумела страшнае, што на хатку прыйшло незвычайнае няшчасце, што герман іх забірае.

Выплакалася Ядвіся ўволю і троху прыціхла, у пакоі з прыемнасцю палепшанага пацягнулася на мяккім пахучым сене, закінула рукі за галаву, глыбока ўздыхнула і прыслухалася.

Гарматны гул не сціхаў, але далятаў здалёку, як глухі гром, глухімі раскатамі.

Наўкола ж блізка ўсё было ціха. З хаты не чуваць было ані гуку.

Шкло акенца на вышках ледзь дрынчэла і званіла, калі мацней гудзеў гул. Мусі, дожджык ішоў: акенца было затуманена дробнымі капачкамі, запацела.

На вышкі залезла кошка, упёрлася зялёнымі зрэнкамі на дзяўчыну, падняла хвост і замяўкала.

— Кыць-кыць-кыць, — паманіла Ядвіся, але вуха яе раптам уразілася рэзкім хлопаннем унізе, блізка возера.

Яна мігам скочыла, падбегла да шыбкі, працёрла яе ад туману і глянула на поле.

Дожджык ішоў. Людзей не было відаць, але паміж гор то тут, то там хлопала, і на міг віднеўся клубочак пару, як ад дыхання ў мароз.

Прыгледзеўшыся, убачыла Ядвіся, што за хутарам, куды пайшло рускае войска, па ўсім полі, у лагчынах і па адхону гары пераскаквалі, як вераб'і, адбягалі назад і прысядалі, нібы перапырхвалі, шэрыя са штыкамі і старэцкімі хатылькамі фігуркі. І ўсё нешта хлопала.

— Матка Боска! То ж яны страляюць, — спалохана даўмелася Ядвіська і заламала, аж хрэснулі, пальцы.

Адна шэрая, абчэпленая торбамі кароценькая фігурка бегла саўсім недалёка ад пруда, па канаўцы ля шасэ. Во прысела, выставіла стрэльбу да лесу, рэзка хлопнула, — і раз, і два, і тры. Усхапілася і шпарка-шпарка пакацілася ад хутарка.

Ядвіся не мела сілы аглянуцца. Во фігурка ўзмахнула ўгору рукі і кінула стрэльбу. А воддаль яе і блізка пыл на раллі там, тута курыцца, як пыл на дарозе, калі пачынаецца буйны дождж. Прысела фігурка, потым сярдзіта пачала рваць з сябе тыя торбачкі; ізноў ускочыла, схапілася за грудзі, замяталася туды-сюды ў бакі, кінулася ніц на дол і асталася ляжаць нерухома. Шлёпалі тыя буйныя каплі па возеры, раскідаючы дробныя пырскі, і ўкола возера ўжо ляжала яшчэ некалькі такіх фігурак.

Пачуўся з-пад лесу грукат, конскі тупат, страляніна і крык.

Ядвіся прыльнула вокам да ваконца і ўбачыла: ад лесу на шасэ важка імчыцца конніца ў сініх мундзірах з флажкамі на канцы пік.

Ту-ту-ту-тук!.. — як гарохам, забарабаніла па сцяне хаты.

— Ядвіся! Ядвіся! — даляцеў голас са слязамі, крыклівы знізу.

Дзяўчынка кінулася да лесвічкі.

Дзы-ынз! — пасыпалася вакенца, і ў дзіру са злыбедным свістам уляцела яшчэ некалькі куль.

Не паспела Ядвіська дабегчы з бацькам да поґраба, як да хутарка наўскачка падляцелі нямецкія кавалерысты.

— Прусы, — уздрыгнула і акамянела дзяўчына і ўжо не магла адвесці застылых вачэй ад тых. Ногі неспадзявана аслаблі, дажа згібаліся, зрабілася сцюдзёна. І Ядвіся проці волі хрыпла і дужа ціха шапнула, узняўшы руку: — Не рушце!..

## V

У Янавай хаце за сталом сядзяць нямецкія пехацінцы. П’юць кофе, малако, ядуць хлеб з маслам, яйкі. На лавах навалены шынялі, ранцы. У кутку — стрэльбы. На масту пасцелена салома. Каля столу стаіць Ян і гамоніць з салдатамі. Ад печы да столу бегае Ядвіська. Монця з маткаю на печы. Салдат-жыд перакладае таварышам, што кажа гаспадар па-літоўску.

— Во, дзед, — кажа адзін салдат, — у вас, у Расіі, баюць, што ў нас ужо есці няма чаго. На-ка табе кавалачак хлеба, ці не бялей наш будзе, ха-ха. Скажы яму, Глюкман.

— Бярэце, бярэце, гаспадар, што ж, — гаворыць Глюкман, — пакаштуйце нашскага хлеба.

Ян віхаецца і бярэ.

— Дзякую, браткі. А мы да чорнага прызвыклі.

— Дадай, Глюкман, што калі ў нас не хопіць хлеба, мы ў рускіх адбяром… Дзяўчына, даліце кофе!

Ядвіся зразумела, пачырванела і ўсміхнулася.

— Зараз, пане, зараз.

— Старому што ні кажы, ці ён вінават?

— Па-вашаму, Цымерман, стары не вінават? А ён жа паляк, ён не рускі, ён і гаварыць па-руску не ўмее, а чаму ідзе з рускімі на нас? Як ён жыве пад уладай рускіх? Як батрак; хлеба няма, а як брудна. І яны ўсе тут таксама. А ў Германіі ён чалавекам быў бы.

— Ведаеце, — заступаецца Глюкман, — ён паляк, але тутэйшы: па-польску тож не разумее, гаворыць па-літоўску. І ён нічога таго не разумее, дарма вы на яго. Ён жыве і жыве. Я жыў у Расіі, дык я знаю. Праўда, усе тут так. Яны простыя людзі, яны не разумеюць.

Маладзенькі хлопчык шэпча вусатаму брудэру:

— А гэта дзяўчонка нічога сабе, адылі што на печы, яшчэ прыгажэйшая.

А вусаты чуе і кажа:

— Глюкман! Растлумач запечнай дзяўчыне: няхай не баіцца, мы не з’ямо яе, няхай не хаваецца.

— Ай, ну што там, — кажа ім жыд, — пакіньце вы іх чапаць, ну, простыя, бедныя сабе людзі, і ўсё.

На двары чуецца гоман і стук. Уходзіць дзяншчык і крычыць:

— Ідзіце вы! Тут будзе кватэра панам лейтэнантам.

Салдаты нездаволена спыняюць абед і рыхтуюцца выхадзіць. На стол кідаюць маркі. Іншыя датыкаюць пальцамі каскі і смяюцца Ядвісі. Дзеншчыкі ўжо знайшлі галень і даюць у руку дзяўчыне, каб мяла. Уходзіць у хату афіцэр, ззаду яшчэ два.

— О-о-о! Тут нам будзе, паны, нядрэнна. Бруднавата, ды што зробіш?..

— Дый наконт дзяўчонак надта ж ладна! Дзівеце, што за матэрыял.

— Дзеля паляпшэння заняпалых народаў і дзеля найлепшага прывіцця высшай нашай культуры фізічным шляхам.

— Паны! Заўсёды вы так. Яны ж могуць разумець па-нямецку.

— Эт! Адразу відаць, што вы не дужа даўно змянілі штацкі гарнітур на ваенны… Вы нас не разумееце.

— Ці я магу саромецца, — кажа другі, — гэтых дзікароў.

— Ну, літвін, забірай сваіх хатніх і выхадзі ў другую хату.

Так запанавалі на хутарку ў Шымкунаса немцы.

— Ну, што, як там, — пыталіся рускія салдаты ў сваіх разведчыкаў, што хадзілі далёка за Нёман.

— Ды як там, — адказвалі разведчыкі, — танцуюць немцы ў Марыампалі пад грамафоны, мірным людзям за ўсё-ўсякае штых да грудзей, а дзяўчын ды маладзіц крыўдзяць.

## VI

Прайшло роўна два тыдні. І зноў рушылі на захад шэра-бліскучыя тупацячыя рускія грамады. Сумныя малюнкі!

Крыжы на полі, на краях лесу, ля дарогі за канаваю. Змывае дождж слабыя карандашныя надпісы: «Тутака пакояцца рускія воіны, забітыя пры здабыванні места С. 4 жніўня 1914 года». Відавочна, у адной магіле пахаваны і немцы, бо на адной з іх стаіць другі крыж з надпісам: «Тутака пакояцца германскія воіны, забітыя пры абароне места С. 4 жніўня 1914 года». Яшчэ колькі сігоў і дошка: «Магіла воінаў-жыдоў».

Іншыя крыжы са звязаных кіёчкаў. І ўжо пахіліліся, і ўжо борзда заваляцца. І згубіцца месца апошняга супакаення воіна.

Цягнуцца акопы немцаў. У іх — пярыны, лаўкі, сталы, бляшаныя печкі, гаршкі з літоўскіх хат. Валяюцца пляшкі, гарахвяныя кансервы, папера ад шакаладу. Пачкі патронаў. Цэлыя кучкі гільзаў. Цягнуцца рады дроту.

Асенняе сонца спакойна гуляе. Ветракі-млыны заснулі. Пустынна. Аднак там, тут пачынаецца сонны рух. Жыхары, як пчолы вясною з вулля, асцярожна выпаўзаюць.

Во, збоку шасэ калдыбае дзед. Падняў з зямлі каску, раздушаную катком, падзяржаў двума пальцамі і кінуў у канаву. Двое хлопцаў збіраюць гільзы. Паднялі паломаную стрэльбу, але ўбачылі салдатаў, кінулі яе і пабеглі ўцякаць.

На гаці ў яме ляжыць здохлы конь. Раздуўся, як гара, і ўжо смярдзіць. А ў багне пакінута пустая снарадная скрынка. А на ўзгорку — доўгая алея старых ліп, дзеля чагосьці без усякае жаласці ссечаных. Яны загарадзілі дарогу.

— Мы ведалі, што незабавам прыдзеце. Але чаму адступілі? Хіба яго сіла больш? Кінулі нас…

— Зразумей, дзед, што іншы раз трэба адысці дзеля даспеху ў вайне.

Слухае дзед і маўчыць.

— Ну, што: крыўдзілі вас?

— А, Божа мой. Усё ўзялі: блізка ўсіх коней, каровак, зімовую адзежу. Спрачацца няможна было — забілі б. А да начальнікаў

не даступішся. І ўсё паелі: кароў, свіней рэзалі, гусей, курэй. Прымушалі яшчэ пух дзеля іх абдзіраць.

Бульбы не любяць. Пыкі вы якія! Нашы салдацікі, калі бяруць — перша за ўсё бульбу, а ім пісклят трэба, пірагоў.

— А страху колькі! Учора, як выганялі вы іх, мы ў пограбе сядзелі. Дрэвы ад стрэлу хісталіся. Бу-бу-бу. З рання да ночы бухае, а мы седзімо не піўшы, не еўшы ды смертухны чакаем.

— Ну, цяпер турыце яго нашчэнт, а мы адзадзі будзем ісці: скацінку сваю шукаць.

— І ўсе злыя германы. Адзін толькі трохі заступаўся, сароміў сваіх. А яны лаюць яго.

Знаёмы хутарок…

Па адхону гары — ямкі ад снарадаў. У сцяне хаты — меціны ад куль.

Бегае сабака і бесталач гаўкае. Тут вялікае гора.

Не чуваць вясёлых галаскоў прыгажух-дзяўчатак. Монцю немцы павялі з грудам літоўцаў нібы акопы капаць, а Ядвіська хворая, непрытомная ляжыць, трызніць, бедная:

— Не рушце! Не рушце! Ратуйце!

## VII

На Вержбалоўскіх пазіцыях немцы ўмацаваліся і сталі. Жыхары з бліжэйшых хутаркоў уцяклі назад, пагналі з сабою скот. Ян Шымкунас выправіў сям'ю, а сам астаўся ў хутарку пад абстрэлам.

Цэлы дзень сядзеў ён, напрануўшы жупан, у сцюдзёнай хаце, а ўвечары выходзіў з двара і пудліва пытаўся, страчаючы салдатаў:

— Не хоча адступаць герман?

Быў строгі наказ войску мірных жыхароў не чапаць, а за ўсё плаціць. Але, адстоіўшы тут месяц, у дні, калі не паспяваў да часу фуражыр з хлебам, траплялі салдаты на хутаркі.

У адно ранне Ян дагледзеў, што нехта начою падушыў яго пчол і паламаў калодкі, шукаючы мёд.

Праходзілі міма салдаты, і Ян, ні да каго не звяртаючыся, жаліўся:

— Ах, Божа мой! Не пашкадавалі маіх пчолак. Чужы пакрыўдзіў, і свае ж не даруюць.

Маўчалі салдаты.

А калі ў іншы вечар прыходзіла да старога Даміцэля, раскладала на стале хлеб і што варанае ці крышыла сухі сыр у цёплую ваду і падкрапляла мужа, ён гаманіў з ёю, што і бульба

з ямаў прападае, і кублы ў садзе, што былі вынесены ад пажару, паломаны.

Але ў той быў больш балючы клопат:

— Дзе то наша Монценька? Ці жыў то Блажыс? Чаму нічога не піша Дамянік і сам не едзець? — плакала яна.

Вярнула-ткі дзяўчына, але не борзда, цераз месяц адышлі немцы яшчэ дальш, і вярнуліся з палону работнікі-літоўцы. Прыйшлі дзяўчаты і маладухі.

Ішлі, бяднягі, ледзь жывыя: нага за нагу. Чорныя, што зямля чорная.

Няможна было пазнаць Монцю.

Сляды мук, пеpажытага сораму і гвалту адбіліся страшным выглядам на твары.

На роспыт маткі, з плачам абшчапіўшай яе, Монця прараніла шапатком некалькі слоў праз сілу. Па збялеламу і цьмяна-бруднаму твару цяклі слёзы, пакідаючы палоскі. Адзежа зрабілася шкумаццём.

Дзяўчына прытулілася да хворай сястры, потым адарвалася, схапіла матку за руку і завыла:

— Мамулечка! Няхай бы забілі мяне, чым так зрабілі мне…

Цераз колькі дзён матка, баючыся, каб саўсім не выйшла з розуму дзеўка, павяла яе да кунігаса.

Ківаў ён жалобна сівенькаю галавою:

— Калі будзе, то і твой гэта дзіцёнак, Монька. Маліся Матцы Божай.

— Не хачу я яго, — залівалася слязамі Монця.

— Маліся, Монечка, — Бог дасць дзіва, і ўсё абыдзецца так, як Богу заўгодна.

— А калі не будзе дзіва? Не магу я маліцца і жыць не хачу.

— Монечка! Дзетачка мая, — супакойвала матка, не ведаючы, што рабіць, а стары кунігас клаў далоні на галаву няшчаснай і ўзнімаў угору вочы і маліўся, аж дрыжучы ад нервовага парушэння: від гэтых мук яго паствы кроіў яго сэрца.

Прайшлі спакойна, хоць і нявесела Каляды. Зіма была дужа сцюдзёная, ветры вялікія, незвычайныя гурбы і сумёты. Белым пакрывам пахаваў Бог бруд зямлі, апаганенай грэхам чалавека — убійства і разбурэння ў прыродзе. Па чутках з фронту думалася людзям, што надоўга застылі дзве варожыя сцяны і, мусі, не парушацца да вёсначкі. Дык другое адступленне было падобна да грому на сінім бязвоблачным небе.

Батарэя, што сцерагла некалі мост, патрапіла, уцякаючы, на старую дарогу.

Феерверкер Сініца збочыў ад шасэ да хутарка.

Няможна пазнаць, што той самы. Палова будоўлі згарэла, толькі хата дзівам уцалела. На двары, сярод абгарэлага, чорнага будавання — здохлая ці забітая сучачка. Страха ў хаце прабіта. На печы сядзіць саўсім ужо сляпая Даміцэля. Яна разгарнула на нагах, як дзіцёнак, ліст з Масквы ад раненага сына Блажыса. Дзіра ў столі вялікая, адтуль свеціць. Хата сцюдзёна, як пуня. Тут жа дзядзька Ян. Сядзіць ля стала на шклянках ад пабітага вакна, папраўляе саламянае заткала ў вакне і сапе ў піпку, дзе замест табакі — хлоп са сцяны. Даўно ён не галіўся, не часаўся, змарнеў.

Ян сумна паглядае на адыходзячае рускае войска і часам нешта шапоча.

— Здароў, дзядзька Ян! Ах, як жа ў вас…

— Ад учарашняга бою, братка.

— А дзяўчаты вашы дзе?

— Уцяклі ўчора, ды ўжо, мусі, не паспеюць на машыну.

Як наўмысна, і яны з вузламі на парог.

— Добры дзень! Ці пазнаеце? Чаму вярнуліся?

— Куды мы пойдзем ад цэваса (бацькі) і мамы? — і заплакалі абедзве.

— Чаму ж раней не ўцякалі?

— Чаму? Так… не ведалі. — І па тону гэтага адказу няможна ўцяміць, чаму літовец так прыкут да свайго гнязда і ці сапраўды ён не ведаў.

— Ну, бывайце здаровы. Страху папраўляйце. Лікісвейкас!

— Су дзеў! — а самі плачуць, як пакінутыя на загубу.

Сініца пагнаў каня.

Возера замёрзла, але ўсярэдзіне былі паваркі на лёдзе і блішчэлі на чырвоным ад марозу сонцы. Блішчыць снег. Варона акалелая знедкуль узялася. Па снегавой дарозе коламі гармат глыбокія выбіты калюгі. Асцярожна спускаецца з гары калона войска адступаючага, як нейкая шэрая ўстужка, толькі трапечацца і безупынна паўзе.

Адзадзі і справа гудзіць глухая, асцервянелая, нястрыманая кананада.

Хутарок цямнеючаю плямаю астаецца далёка адзадзі.

*1915*

# ДЗЁГАЦЬ

## I

У глухім павятовым горадзе, у цёплы маёвы вечар, гуляюць на бульвары.

Кусты бэзу і акацыі пояць паветра мляўкім, п'яным водарам. У ліповым лісці гудзяць хрушчы.

Сярод увабранага панскага натоўпу гуляе з кавалерамі і Юлечка Пухальская, курносенькая, круглавідзенькая, здаровенькая гімназістачка.

Яна тут, у N, гасцюе ў бяздзетнае цёткі свае, фельчарыхі. А вучыцца яна ў гімназіі ў сваім родным, павятовым таксама горадзе, адкуль па яе гэтымі днямі павінен прыехаць бацька.

І яна хоча нагуляцца, колькі можна, перад ад'ездам.

А ўвосень вытрымае пераэкзаменоўку з матэматыкі — і сямікласніца…

— Ай, не кажыце… Ай, як паеду, дык і ўсё, — страляе яна вочкамі ў правы бок, дзе асістуе пухлы гімназіст з прышчыкамі на падбародку.

— За што вы мяне крыўдзіце? — уздыхае і мнагазначна адказвае кавалер.

З левага боку ў яе — два кавалеры, вучні тутэйшае сельскагаспадарчае школы, кароценькі і доўгі. Кароценькі ідзе бліжэй да Юлі, і, відаць, ён пазнаёміў і памагае ў тых справах свайму даўгому, маўкліваму і дзікліваму таварышу.

— Без чыгункі, гэтага, дужа дрэнна, а ў нашай губерні, гэтага, блізка што ўсе павятовыя гарады, гэтага, без чыгунак, — вымучыў-ткі доўгі што сказаць.

Усе чакалі, калі ён скончыць, а ён аж угрэўся, пакуль скончыў.

— А па вас, Юля, сваіх коні прышлюць з фальварка ці прыйдзецца ў дыліжансе ехаць? — спытаўся кароценькі. Яму гімназіст казаў, што ў Юлінага бацькі ёсць свой маёнтак.

— Ай, я і сама добра не ведаю, — прамовіла і нешта змоўкла. — Ай, мусіць, з дому прышлюць коні.

Яна хацела сказаць: каня, ды ўсё роўна сказала «коні». Ці яны праваджаць прыйдуць? Яна не скажа, калі паедзе.

— Як я вам зайздрошчу, Юля. Паедзеце ўлетку ў свой фальварак, а там, пэўна, рэчка, лес, ягады, птушачкі, краскі, ай, ай… — звінеў кароценькі. — Я там залез бы ў кусты і сядзеў бы з кніжкаю цалютанькі дзянёчак, каб ніхто і не знайшоў…

— Што мне да ўсяго таго, калі я з паннай Юлечкай астатнія, можа, разкі гуляю ўжо, — ціхенька і наўмысля невыразна сказаў гімназіст, залішне пахіліўшыся да дзяўчыны.

Хлопцы з другога боку нічога не ўчулі, а Юля: «Што? Што?» — і прыкінулася, быццам не ўсё зразумела, але радасна, дробненька засмяялася. І сэрца ў яе трошку замлела.

— Вазьміце і мяне ў свой фальварак, — неспадзявана адважыўся пажартаваць і цыбаты кавалер.

## II

Шляхціц Пухальскі жыў у горадзе і пісаўся мешчанінам, але, маючы за горадам кавалак зямлі, ён, як звычайны земляроб, капаўся ў зямлі, жыў з зямлі і, хоць хадзіў у ботах, нічым не розніўся ад акалічнае лапцёвае шляхты і заможных мужыкоў.

Па жонцы ён меў заможную радню. І Юльку сваю пачаў вучыць, што дужа таго хацела і троху памагала фельчарыха, родная сястра яго жонкі, і што не даў Бог хлапцоў. Яна ж, тая цётка, і хрысціла Юлю.

У суботу па абедзе ў поле ён не паехаў. Пусціўшы каня на атаву за садам, ён пачаў рыхтаваць калёсы. Выцягнуў іх з-пад павеці, завярнуў, заслаў саломкаю.

— Вось сёння яшчэ пасеяў бы што, дык час дарма трачу дзеля твае круцелькі, — казаў ён жонцы, шукаючы пад павеццю мазніцу.

Жонка навыбірала бярэмца трэсак, пякла багатай сястры розныя пампушкі на гасцінец, і прыстоела.

— Такая мая круцелька, як і твая. Было не аддаваць дзеўку ў навуку. Таму што не дзявоцкая заняція… Вось і мне помач бы ўжо была, а то гэткія выдаткі на яе, і ўсё мы адны, старыя, мардуемся. Мне яшчэ трэба яе абмыць, абшыць, пакуль з той навукі якая карысць выйдзе.

— Ну, засакатала. А чаму хлопца не радзіла, а падаравала лялю, як сама.

Пухальчыха пабегла ў хату падкідаць трэскі, каб не спусціць у печы, а сам пан Пухальскі падсунуў пад перад жэрдзь, падпёр яе дугою і пачаў выцягваць загваздку. Ён ужо быў даволі стары чалавек, і паднімаць калёсы рукою без такой прыснады было яму цяжка.

Загваздка прыкарэла ў каланіцы і не вылазіла. Пухальскі пашукаў лычка, зачапіў яе лычкам, сагнуўся і пацягнуў. Загваздка

раптам выскачыла, дуга завалілася і падняты перад калёс стаў на зямлю — стары ледзь паспеў адхінуць галаву.

Ён пачухаў патыліцу і паклікаў жонку.

Тады паня паднімала калёсы, а пан знімаў каток і шпарка вазёкаў па восі дзёгцевым квачам, каб не сцякло многа дзёгцю без карысці на зямлю.

Так старыя падмазалі калёсы, пракацілі іх троху па падворку, каб дзёгаць разышоўся па трубцы і не капаў.

Дарога мелася не блізкая, вёрст з паўсотні.

Пакарміўшы каня і справіўшыся на двары, прыйшоў Пухальскі ў хату, пасварыўся троху з жонкаю за муку, пагаліўся, памыўся з мылам, надзеў белую кашулю і даматканую суконную тройку, папалуднаваў і, наказаўшы жонцы, як і што ў двары, надвечар выехаў на сваім сіўчыку па дачку.

III

Свята Пухальскі прагасцяваў, хоць, праўда, сядзеў найболей каля навязанага сіўчыка ў садзе.

А ў панядзелак, рана-параненьку на фельчаравым падворку, ужо стаяў запрэжаны ў калёсы сіўчык. Ён добра нагадаваўся занач, цяпер тупаў капытам, махаў галавою і сцёбаў па баках хвастом, захацеўшы ў поле на дарогу да свайго дома.

Калёсы зноў былі толькі што падмазаны, і з каткоў капаў бурштынавымі капкамі дзёгаць. Ён мяшаўся са свежаю ранішняю зямлёю і даваў прыемны водар, ад якога было так ціхамірна і радасна.

На калёсах была ўжо разаслана гунька, ляжала адзаду для мяккасці пярына, ляжаў наперадзе мужчынскі жупан, пад ім — атава, на ім — пуга. Толькі сесці — і паехаць.

Тым часам цётка пасадзіла Юлечку яшчэ раз і прымушала з’есці на дарогу піражок і выпіць шклянку малака.

Юлечка мусіла сесці, але піла і ела без усякага смаку. Сэрца ў яе шчымела і млела перад ад’ездам.

Учора яна таксама гуляла на бульвары і развіталася там з усімі кавалерамі. Праваджаць сябе ім забараніла. А сёння, прачнуўшыся, была ў дрэнным гуморы.

Нарэшце, так-сяк стрымаўшыся, развіталася яна з цёткаю, і пачалі выходзіць.

Першы выйшаў пан Пухальскі. Ён добра выспаўся, наеўся і напіўся, і нават пакінуў шкадаваць, што змарнаваў суботу і

яшчэ змарнуе панядзелак. Ён падзякаваў куме і куму за Юлю і гасціннасць, запрасіў іх да сябе прыязджаць улетку і зусім здаволены адчыніў вароты.

Тут, зірнуўшы ў ліпнік, што пасадзіў пры сваім ганку кум фельчар, Пухальскі ўбачыў на лавачцы трох хлапцоў-вучняў з пукамі наламанага бэзу. «Чаго яны тут круцяцца?» — падумаў стары і пачаў выводзіць каня на вуліцу.

Юлечка з цёткаю выйшлі на ганак. Юлечка зірнула на вуліцу і моцна пачырванела… Усе тры яе кавалеры з пукамі бэзу падыходзілі ад лавачкі да ганку. Яны ветліва пакланіліся цётцы і ёй.

— Выбачайце, панна Юля, мы хацелі зрабіць вам сюрпрыз, — сказаў гімназіст, падаючы ёй кветкі, і нават расшаркаўся, як не на вуліцы.

— Мой лепшы! — сказаў кароценькі, падаючы свой пук.

Яго доўгі таварыш маўкліва сунуў ёй свой букет у рукі.

— Ну, з Богам, дзетка, — прамовіла цётка.

Юлечка, не глядзячы па баках і неяк па-хлапецку не стаўшы на каток, скокнула на калёсы, падкомкала пярыну, абгарнулася хусткаю, утупілася і без радасці сказала:

— Дзякую, дзякую…

Сеў і бацька, сіўчык памкнуў, Юлечка адхіснулася, — паехалі.

— Пішы, Юля! — крыкнула цётка.

А вучні яшчэ ішлі па баках. Гімназіст несумысля наступіў на дзёгаць, што капнула з катка, і цяпер няўпрыцям дрыгаў нагою, каб адкасацца ад яго, але да падэшвы падліпла вельмі добра, і яму было прыкра, што зусім гэтая Юлечка Пухальская не такая, як ён думаў.

Кароценькі махаў рукою, а доўгі адзаду маўчаў і ўжо патроху аставаўся.

Нарэшце ўсе яны засталіся, а фурманка з Юлечкаю паехала за горад шыбчэй.

Букеты недалужненька ляжалі на жупане. Пухальскі паглядзеў на іх, пасапеў носам і спытаўся, хаваючы свой смех пад вусы:

— Ці мякка сядзець, вяльможная паненка?

— Мякка… — буркнула Юлечка і адвярнулася, каб не заплакаць.

Сонца паднімалася. Сіўчык махаў галавою і пыліў нагамі. Пыл і дзёгаць давалі прыемны дарожны пах.

Горад блішчэў адзаду, а наперадзе і з бакоў цягнулася шырока-далёкае меланхалічнае поле. На небасхіле сінеў лес.

Жаўранак купаўся ў вышыні і цюрлюрлюкаў сваю песню.

Фурманка пыліла…

*1915*

## ЧАРНІЧКА

Над пахмураю, мокраю зямлёю павісла шэра-цёмнае, нуднае восеньскае неба.

Пустая вуліца маўчыць. Людзі, калі ўдварэ, дык сядзяць па хатах. І коні ў пуні, бо ў полі зямля замерзла, і толькі сёння троху адтала і пакрылася ліпкаю гразёю. А ў лагчынах яшчэ бялеецца, па лагу і блізка лесу, рэдкі снегавы налёт.

Смутна гудзіць абголены гай на ўзгорку. У незахістанай ані сувалкаю, ані чым на зіму плятнёвай пуні рыкае карова.

Ля аднаго двара, прывязаны да банькі ў шуле, стаіць запрэжаны ў «бяду» ціхі і спакойны гняды конь. Спусціў ён галаву, звесіў вушы і не есць. Жмуток балотнага сена сіратліва рассыпаецца перад ім па ветру. На «бядзе», на пажоўклай сухой гарохвіне, нейкі мех, запэцканая, закачаная торба і рыжае, аржавае сена гнядому каню.

У невялічкае, з беднымі балонкамі вакенца часта пазірае з хаты на свайго коніка чарнявая маладзенькая манашка…

* * *

Іх дзве. Паслалі іх з манастыра збіраць па вёсках восеньскую каляду.

У гэтай хаце папрасілі яны абедаць. Разагрэліся.

Старэйшая,васпаватая, курносая, утупіла вочы ў стол і не ўзнімае іх з-пад чорнае наміткі. Слабенькая ружовая краска рэдзенька выступіла ў яе кропкамі і жылкамі па шчоках там, дзе ягадкі. Лыжку па лыжцы нясе яна пацiху варыва і падстаўляе кусанік акуратна, каб не было капак на стале.

Маладзейшая — смялей. Расчырванелася за ядою, з-пад змятае, зліналае намітачкі выбілася чорная жменька валасоў. Вусны пухлы і чырвоны. Зняцейку яна сарамліва ўскіне часам чорныя бліскучыя вочы на маладога хлопца і зноў патупіцца.

У хаце старых няма, разышліся. Толькі хлопец на лаўцы ды маладзіца на палу — села карміць дзіця, не саромліва, а з правам маці, разгарнуўшы цьмяна-белыя грудзі.

«Як ён пільна ўзіраецца на мяне, мірскі чалавек! То ж, мусіць, не сястра яго, а жонка», — думаецца маладой манашцы.

А ён спакваля круціў цыгарку і пачаў агонь выкрасаць.

«Чаго ён усё паглядае на мяне», — падумала і ў вакно ізноў зірнула, ці стаіць конь.

Стаяў, як заснуў, гняды конь; пуста і хмарна было на вуліцы; вецер клычыў жмуток балотнага сена. І трэба было згадзіцца, што восень на дварэ, а нейкае невыразнае нездавальненне варушылася на сэрцы, і чагосьці сярод восеньскага смутку жадалася.

— Не бойся: на нашай вуліцы ўсё дабро цэла будзе… Чаго такая палахлівая? — сказаў, адвёў ад яе вочы, зацягнуўся і выпусціў шмат дыму.

— Каб часам конь не адвязаўся. Збяжыць, тады што нам? — сказала маладзенькая манашка.

А старэйшая непрыкметна таўханула яе пад сталом і змірэнна, як псальму чытаючы, прабубнела ў нос:

— Нам жа грэх вялікі перад госпадам Богам будзе, калі ўвядзём каго ў спакусу дабром сваім, што падалі нам людзі добрыя на манастыр яго…

— Ну, каму ваша дабро патрэбна… Каб вас саміх хто не ўкраў, — пажартаваў ён і трошку пачырванеў, што, можа, сказаў ім лішняе.

Ніжэй схілілася старэйшая манашка, а маладзенькая ўсміхнулася нясмела і прыгожа.

— А я цябе… цябе, — кіўнуў ён на маладзейшую, — здаецца, бачыў, як манастыр ваш глядзець хадзіў…

— Нічога, прыгожа там у вас… у вясну. Ліпы прыгожыя… Манашкі ёсць прыгожыя… — і зноў зацягнуўся і глядзеў убок, як быццам засаромеўся, што не смее сказаць, каб як далікатней.

— І я ўжо дзівілася, — адгукнулася з запечку маладухамаці. — Ёсць такія маладзенькія… Ча’йта ўжо так ідуць? Ці сіротак туды бяруць гадаваць змалку, ці то, кажуць, дзеля хлеба, дзеля спакою каторая ў манашкі ідзе?

— У нас не павінна быць такіх, — панура адказала старэйшая. — У нас маці-ігуменння сурова жыціе блюдзець…

— Ах, праўда што: сурова, — вясёла засмяяўся хлопец. — Ехаў я неяк з гораду міма вашага поля, а чарнічкі пшаніцу палолі. З-пад узгорачка не відаць, ці едзе хто. Дык яны спярша песні і прыпеўкі пялі, а потым як пачалі борыцца… хапаюць адна адну, качаюцца, рагочуць.

— Што ты, што ты, чалавеча! У нас за працаю псальмы пяюць, — усхапілася старэйшая і троху памаўчала. — А мірскім людзям усё так. Яны й Богу маліцца прыйдуць — граху нанясуць. У царкве не моляцца, а, а…

— А на прыгожанькіх чарнічак заглядаюцца, гэта праўда, — засмяялася і маладуха і ласкава, з пяшчотаю паглядзела на сваё ўжо накормленае дзіцятка.

Пачырванела, як мак добры, маладзенькая. Змоўкла старэйшая. Паабедалі і доўга хрысціліся і кланяліся перад абразамі, потым дзякавалі і ківалі галавою маладусе і з нейкаю перашкодаю яму.

У маладой, пад тою сціпласцю і нуднаю пабожнасцю, усё штосьці мітусілася і іграла…

* * *

Пусты восенны шлях. Поле бязлюднае. Зелянее рунь. Едкі вецер налятае з-пад голага, як быццам рэдкага цяпер, лесу.

Марудна і спакойна цягне гняды конь «бяду» па калюгах глыбокіх. Як машынная цацка, з боку на бок ківаецца чарніца на «бядзе», калі то тое, то тое кола па чарзе то праваліцца ў калюгу, то выскачыць на груду.

Чырванее край неба — мароз дакляруе. Чыйсьці лён, на лагу пасцелены, уліп у дол — час паднімаць яго, сушыць, церці, бавячы дні ў доўгія піліпаўкі.

Далёка яшчэ Каляды. Як нудна!

Маўчыць на возе старэйшая чарніца, з чырвоным кірпатым носам; ківаецца і глыбей хавае рукі ў шырокія рукавы. Мусіць, задумалася пра жыццё свае і што скажа ігуменні пра дарогу. Шчупянецца і пачынае варушыць вуснамі, механічна і завучана шэпчучы словы малітвы.

А маладзейшая лёгка ідзе побач тых калюг па змёрзлай, калянай мураўцы. Прыціхла, быццам засмуцілася.

Аб чым яна думае?

Часам апошняя бліскавічка радаснай усмешкай прабяжыць па пухлых вуснах і зноў, яшчэ глыбей, захаваецца пад наўмыснай стродкасцю…

Аб чым яна думае?

Мусіць, думае: «Больш мяне па каляду не пашлюць…»

*1915*

# ЗІМА

*Навуму Сапранкову*
*прысвячаю*

## I

Замятуха пад вечар закруціла ўва ўсе бакі.

У пунях на розныя галасы скігіталі надворныя свінні. То тая, то тая карова жаласна мычэла, трасучыся калматаю хрыбцінаю ад сцюжы над жытняю саломаю.

Была пара даваць жывёле нанач і паіць коні. На дварэ змрочыла.

У Петраковай хаце, скрозь запушаныя снегам шыбы, троху святлела.

Дзед Пятрок, седзячы ў жупане, даплятаў лапаць і сварыўся, а баба Петрачыха касцястымі і худымі, цьмянымі, нібы ад загару, рукамі мяшала ў цэбры мякіну. Маладуха-нявехна — белая-белая, як папера, — прала на ўслоне кудзелю і маўчала, як нямая ці якая пакутніца.

Белавалосая дзяўчынка стаяла ля полу і хлабасцінаю адганяла курэй ад кормнага вапрука, што чмякаў з жолабу, раскідаючы па зямлі каля сябе цеста.

На падлозе, у запечку, хлопчык у штоніках на матузках цераз плечы і пузатая дзяўчынка на крывых, выгнутых дугою ножках, гулялі ў лялькі і то лашчыліся, то сварыліся, заціхаючы, калі дзед Пятрок пачынаў гаманіць дужэй.

— Картэўнікі! Паабедаць некалі прыйсці з гульні, а коні паіць і не думаюць. Ну, хлопчыкі! — злосна бурчэў стары.

— Усе гуляюць, ну і наш там. Пайшоў бы ды гукнуў яго, — казала старая.

— А кы-ыш! Мам, зірні-тка ты, усе куры з падпечча вылезлі.

— Мая лялька! Мая лялька!

— Ай, каб ты здох!

— Не бі-іся!

— Хру, хру, хру… Чух-чух, чух!..

— Куд-куд-ку-дак!

— Ціху! Мурзатыя, вапра ўпудзіце. Трасца таму настаўніку, як ён вас у школу не ўзяў: хоць бы троху спакой быў. «Позна прывялі…» Да настаўніц бегаць табе не позна, хоць бы скрозь

ноч. А ты, Варка, хлабасцінаю не махай: певень шыбу высадзіць. Узляцеў куды, пракляты…

— А кыш, кыш!

— Стой, стой, дзетка, не гані! — схапілася маладзіца.

— Брак!

— А Божачка ты мой, міласлівы, — захныкала старая, — ізноў пабілі міску, новую міску. Няхай бы вы сабе галовачкі пабілі. І ты ж тут, матуля, сядзіш, нічога не бачыш. Ці напрадзеш ты сабе кашулечку на той свет ці не. Ай, даўно я тры капейкі аддала за міску, каб вы сваё здаровейка аддалі.

— Чух, чух! Хру-хру!..

— А, мамачка, не буду! А, родная, не буду. А баліць, баліць! — безнадзейна загаласіла дзяўчынка.

— Ганіце вы хоць вапра, ці што. А-а, Божухна, за што караеш? — бедаваў стары.

У расчыненыя дзверы ляцелі белыя сцюдзёныя камы марозу. Маўклівая маладуха, сцяўшы зубы, клала і клала рубяжы матузамі на хударлявенькай дзіцячай спінцы. Вапрук чухаў і йшоў і не йшоў з хаты ў цёмныя сенцы. Старая падбірала чарэпкі і кляла. Стрыкаценькая курачка скокнула з лаўкі на край паліцы, і адтуль пасыпаліся на суднік Панасавы соннікі і аракулы. Певень дзюбаў, што раскідаў вапёр, і ўжо без клопату сакатаў і кокаў, не зважаючы на дзяўчыну, што пішчэла, забіўшыся пад лаву. Меншыя дзеці залезлі за комін і прытуліліся, пакуль улашчыцца матка, да якой належала ўлада караць іх па загаду заканадаўцаў: дзеда, а найгорш — бабы, і пакуль зачыняць дзверы ды ўсё сціхамірыцца.

— А як прыйдзе татка з шахтаў, дык я яму скажу, што ты майго коніка пабіла, — во, а што? — шаптаў хлопчык.

— А я скажу яму, што ты на бабу пляваў, во, а што? — не здавалася сястрычка, з небяспекаю пазіраючы на хату, дзе была маці.

## II

— Звонкі козыры, — здаў Паўлюк і абцёр з лобу пот.

— Пад тваю цёмную, — сухім голасам сказаў Валента Івану, зірнуўшы на яго шпаркім цішком, і забарабаніў кіпцямі па стальніцы, каб не так заўважылі, што рукі ў яго тыхаюць.

На гэты раз да яго прыйшла добрая карта, пасля доўгай незадачы, і яго пачынала трусіць усяго.

Іван крыва ўсміхаўся, распасцёр у руцэ карты, быццам захінуўшыся ад тых, што стаялі адзаду за ўслонам і пільнавалі гульню з-за яго плеч, і дужа важна глядзеў у карты, цмокаючы ад думы языком.

Усе нецярпліва чакалі, што за ход ён размяркуе і ці хутка пойдзе, хаця ўсякі сабе ведаў, што Іван маўчыць толькі так, ад узрушэння. Уваччу яму мітусіліся чырвенкі і званенкі, і ён адно думаў, што, мусіць, прайграе. І што ж такое. Чаму быць, таму не мінаваць, толькі дрэнна неяк робіцца.

— Ну, думай ты, — не трывалася Панасу Петрачонку, — коні паіць пара, — казаў ён, скрабаючы за каўняром. Яму было ўсё роўна: ён сёння ні выйграў, ні прайграў.

Усе былі ў жупанах, апрача самога Паўлюка, як гаспадара хаты, а гульня ішла скрозь увесь дзень, з рання. Курцы смалілі махорку і цыкалі слінай на сяродак хаты. На кону ляжала капеек пяць медзі.

— Хадзі перш гэтаю карцінаю, — налягаў тым часам на Івана той, хто не меў сваіх грошай і дзівіўся з-за пляча.

Іван прайшоў.

— Языкі ў вас свярбяць, — пабіў Валента і наваліў, — не гуляеш, дык не лезь, — дадаў ён і разгледзеўся, што выйшла.

— Так, так, так! — закрычалі разам усе падказнікі, — прыцісні, Іванюха, — падпырхнулі яны; адзін нават схапіў яго за руку і паклаў на карты, каб была справа скончана.

Іван як бы і сам меўся так зрабіць, адылі туга цяміў і здаўся на іхнюю волю; ён усё ўсміхаўся і цмокаў языком па-дзіцячаму. А памагачы яго не драмаў: ізноў схапіў у Івана карціну, высока замахнуўся і з усяе сілы хлэснуў ёю па Валентавай карце.

— Што? Як гэта? — упёрся вачмі, як бык, Валента.

— А так гэта! Чым ты пабіў? Табе трэба было краляю прайсці і тузам адказаць, а так ты без козыра, а Іван каралём забраў.

Валента ўзвярыўся. Як мог ён так памыліцца? Храсценны ніжнік з далікатнаю пагардаю пазіраў міма Валенты з грудка картаў.

— Чым жа ён пабіў? Разумны вы дужа, — пачаў перакідаць карты Валента.

— Як чым? Ніжнікам казырным…

— Нізьнікам казыльным, — запаліўся крывёю Валента і высалупіў язык, зло дражнячы іх: вялікія вы разумцы, не гуляеце, а лезеце не ў сваё.

Спрэчка зацягнулася. Паважнейшыя гульцы маўчалі, не кажучы ні ў той бок, ні ў той. Усе не любілі Валенту за яго розум,

радаваліся яго абмылцы і з ахвотаю злаялі б яго, ды ведалі, што ён гарачы і брахлівы.

На тую часіну ў хату ўскочыла Куліна Іваніха і шпарка падбегла да стала.

— Каб ты свету Божага не бачыў, як, апрача картаў, нічога не бачыш. Каб ты з услона не злез, як ты з-за іх не вылазіш, удвору не йдзеш. Гультай ты, каб табе, каб ты, га-го-го, — як з торбы гарох, пасыпала яна.

Мужык як торчма не зляцеў з зэдліка. Грошы з кону апынуліся ў Валентавай кішэні, а падраны Кулінаю храсценны хлап разляцеўся па сталу і пад загнет. Выйшла нешта надзвычайнае для ўсіх.

Паказаўшы такую расправу, баба на момант сама здзівілася сваёй рызыцы, ды не марудзіла, пакуль не прыйшоў паварот фартуны.

— Удвору ідзі, машэльнік! — крыкнула яна ў парозе і так ляпнула дзвярмі, што аж шыбы задрыжэлі.

Гульцы позна шчупянуліся.

— Ну, каб, барані Бог, мне такая жонка: я ж бы яе вывухрыў, па век жыцця закаялася б такія фокусы рабіць, — сказаў спакайнейшы нехта.

А гульня збунтавалася.

Гульцы жартліва лаялі баб, што яны ўсе такія чамярыцы, напраўду лаялі і без таго пакрыўджанага Івана:

— Родная жонка знушчаецца — дажыў чалавек!

Падабралі карты, злажылі няшчаснага ніжніка і пачалі злепліваць яго папяроснаю папераю.

— Як то знушчаецца, — пакінуў цмокаць языком Іван, — я ёй цяперацька пакажу сваю натуру: уранні да віднага буду ляжаць, не паеду ў шуркі, няхай сама едзе. Што ёй, калі гуляю… На свае, не на чужыя, хваліць Бога, — казаў ён, каб заглушыць тое, што грызла яго: «Во табе, во табе. Людзі смяюцца…»

Пачалі расплачвацца.

Антон дрыжачымі рукамі аддаваў дваццаць капеек. Цімох наўмысля смяяўся, хоць было не да смеху.

— Валента! — сказаў Панас. — Аддай мне грошы, што ты з кону схапіў. Іван мне якраз столькі вінават.

Валента раптам і нечаспадзявана наліўся крывёю і ўзяўся спаганяць злосць на Панасу.

— Трасцу я табе дам! Нашто хлопцы Івану падказвалі?

— Сумлення ў цябе няма, Валента, — сказаў Панас. Ён не любіў сварыцца, а быў дужа крыўдлівы, і пераважыць спрэчку было яму цяжка. — Няхай табе Бог аддасць…

Сказаў і ціха выйшаў з хаты. З гнётам у душы пайшоў удвору. Апрыкліла і свая хата. Бацька заразаў яго паўсёдным злым нараканнем. Не хацелася бачыць маўклівую братову, слухаць бясконцую сумяціцу дзяцей. «І гэта жыццё? Варта жыць сярод такіх людзей, як Валента? Эх, кінуць бы яму грошы ў вочы і нічога не казаць. Мне, ведай, не грошы дарагі, а справядлівасць», — тнулася ў галаву Панасу. «Не варта было і чапацца і садзіцца», — муціла яго. «Хварэй яно, такое жыццё, такія людзі. Лепей на край свету з'еду…»

Вуліца маўчала, шэрая і пустая. Замятуха мяла… Раўла ў Максімавым двары карова. Скрыпнулі ў далёкім гумне вароты. Нечыя калматыя коні, павесіўшы галовы, стаялі сярод вуліцы — ці піць хацелі, ці аб чым тужылі сярод стужы і ўспаміналі краснае лецечка.

Завеяныя сумётамі хаты, сярод аснежаных палёў і пералескаў, глухія, ад усяго свету далёкія, халодныя, поўныя зрання чаду і нудныя, нудныя зімавалі зіму.

І няможна было даць веры, што ёсць нешта, апроч зімы, што зіма скончыцца.

Абсаджаная яловымі лапкамі зімовая дарога быццам замарудзіла ўцячы далёка. Турботна цягнулася ад хат туды, туды…

І яе замарозіў мароз…

III

А хаты былі вёрст за сем ад сяла і, значыцца, ад бліжэйшае манапалькі.

Карыстаў з дальнасці хіба толькі адзін Іван: быў бедны чалавек і гандляваў гарэлкаю.

На Каляды, на Вялікдзень, на Святыя Дзяды мужыкі пераходзілі край. Край быў у іх паміж таго, што самі куплялі к свяцечку ў манапольцы, і паміж таго, што мелася на сховах у Івана. А бывалі ў каго зняцейныя госцікі, і клапатлівы гаспадар ішоў да Іванькі. Іван быў сумленны чалавек і зарабляў толькі пяць капеек на бутэльку.

З давён-даўна аднаму яму належала тут права на тое рамяство. І вось прыйшла бяда. У нядобры час даведаўся герой наш, што брат яго родны, адпушчаны з войска, падпусціў яму канкурэнцыю.

І ногі, і рукі ў Івана звялі. Ён, быццам хворы, патроху ўзлез на пол, сцягнуў з палацяў падраны жупан, разаслаў яго ля коміну і, мімаволі застагнаўшы, лёг і заціх.

Справа была даўно па абедзе ў троху святы дзень, калі ўсе людзі вясёлы і збіраюцца на гульні.

Як слова, хто арэшыну тоўстую расшчапіў, усадзіў туды Іванава сэрца і зашчаміў яго.

«Адны крыўды, толькі крыўды», — думаў Іван.

У хаце было ціха, Іваніха моўчкі закалыхала дзіця, злосна сцебанула дзягаю мышастую старую котку, што хацела напіцца вады з карца на лаўцы. Котка пырскнула пад печ, а Іваніха села ля вакна і пачала глядзець на вуліцу. Замёрзла вакно так, што снег хлопам ляжаў на шыбах. У малюпаценькую незамёрзлую дзірачку блізка рамы яна нічога не магла разгледзець і сярдзіта клала падбародак то на тую, то на тую руку і дыхала на вакно белаю параю.

— А мы, калі так, — з няпэўнасцю ў голасе звярнуўся да яе мужык, — на два грошы спусцім.

Сказаў і прыслухаўся.

Іваніха, відаць, мелася адказаць, але не знайшоўшы, мусіць, слоў да чыну, непрыемна маўчала.

Жальба апанавала Іванаву душу. Скрыўджаны быў да канца-краю і кім жа? — братам сваім родным.

Мулка ляжаць на печы. Закрактаў ён і лёг на другі бок. Падцягнуў пад галаву валенец, каб мякчэй. Калматая галава, чорнавалосая, спрадвеку нечасаная, пакутна ляжала на сівым стоптаным валенцы, як кудлаты Жук на старой анучцы. Чырвоны нос ціха сіпаў у злямчаную бараду. Па новай, як бубен, сарочцы, яшчэ не абмятай, без клопату людскога, поўзаў жоўценькі, вусаты і шпаркі прус, як па мёртвым целе.

Іван тужыў. Учора ўвечары пайшла добрая карта, думаў адгуляцца — на табе, халера прынесла жонку.

Сёння рыхтаваўся павучыць Куліну слухмянству, але агульная бяда не давала ўжо на тое права.

Ні слова не сказаў гаротнік. І прыходзілі яму, часам, зухаватыя, вялікія думкі: выпіць самому ўсю гарэлку, што была на продаж, і ўважыць карысны гандаль брату, злосніку-канкурэнту. Незвычайна скончыць справу. І паказаць жонцы, што ўва ўсім чыста вінавата яна…

Палохаўся тых дум сваіх Іван.

Ні слова не сказаў: няхай…

А шыбы зверху адтайвалі на ноч. На дварэ было ціха. Мароз лягчэў. Укачалася дарога. Нехта паехаў у госці ці ў сваты. Снег марудна круціўся ў сумным зімовым паветры.

## IV

Пятніцу Ляксей Ляксеевіч, настаўнік тутэйшай земскай школы, лічыў за свой шчаслівы дзень. Дзеля таго ён не пайшоў у сяло да настаўніц, а засеў за стварэнне нацыянальнай літаратуры.

Тым часам сённяшняя пятніца ўздумала, мусіць, падурэць ад нуды і пасмяяцца з свайго ўлюбёнчыка: усё пайшло наадварот. Дармо кіраваўся Ляксей Ляксеевіч прыкінуцца вясёлым і ўдачлівым — яшчэ з рання, калі пятніца павінна была найбольш спрыяць яму, нейкая млосць паціхеньку, неадчэпна і з подлаю навальнасцю наліпала на яго.

Ён з прыкрасцю перабраў у думках усіх знаёмых інтэлігентаў і аж плюнуў: надоечы ў бацюшкі, калі ішла гульня ў флірт дапасованымі на тое карталюшкамі, N-я настаўніца лезла да яго з сваімі заляцаннямі і нараканнем на адзіноту душы. Хай ты прапала! Перад ім паўстаў нявыструганы і курносы твар яе. «Не твар, а гаршчок, будзь ты няладна», — пакруціў ён галавою і мімаволі ўстрахнуўся, нібы скідаючы тое, што наліпала.

Перад творчасцю пайшоў у парог памыць рукі і толькі злосна пабарабаніў шпунтам, лаючы Яхіма: ізноў, д'ябал, збег на вечарушкі, не наліўшы вады.

Вечар толькі пачынаўся, і настрой не дакляраваў яго кароткім. Настаўнік сеў за стол, закурыў папяросу і думаў узяцца за працу.

А з рагавой хаты, з вуліцы, глуха даляталі крыкі гульцоў і выццё гармоніка. Нейкая п'яная гурба пратупала, як гурт валоў, пад вокнамі, з вясёлым смехам, лаянкаю і саромнымі жартамі.

Разгарнуў адказ рэдактара і соты раз удумваўся ў хітра захаваны сэнс кароткіх радкоў. «У нас дробных вершаў і так даволі; прысылайце што лепшае». Узяўся за аскандалены верш. «Якой яшчэ трасцы трэба таму рэдактару? Няўжо тое, што друкуецца, лепшае за маё?» — думаў ён, чытаючы.

Ціха, маркотна ў мяне на душы!
А ў сэрцы — пустыня жвірова.
Няма ані веры, ні добрае кладкі,
Каб як перабрацца на іншы бок рова,
На той, а дзе воля, змаганне і доля.

Дзе толькі не бачу братоў я сваіх,
Братоў-беларусаў бяздольных —

Ці ў полі, ці ў хаце, ці ў карчме п'яных,
Я думкамі плачу… Мне больна, ой, больна!

*Леў Парнаснік*

Праца не йшла. Прыкруціўшы эканомна кнот у лямпе, лёг ён на скрыпучы ложак, залажыў рукі пад галаву.

Завіруха за сцяною круціла і шугала, налятаючы на хату. Заліхвацка іграў гармонік. Лунал і зыкі вясёлай гульні.

«Чорт ведае, як нудна, вось табе і пятніца», — падумаў Ляксей Ляксеевіч.

І чуў, як нехта ўсё шамаў пад вокнамі: дзеўкі хацелі падзівіцца на паніча ці зайздросныя хлопцы пільнавалі іх?

І Ляксей Ляксеевіч размеркаваў сабе канчаткова: годзе пісаць вершы! А то во пусціць другі брат-беларус па п'янай справе шубінаю ў вакно, тады паплачаш. І як там тантаруюцца — проста з галавы сходзяць. А ён тут сядзіць адзін, як у вастрозе.

І раптам вялікае насунула ў чарзе дум. Ён успомніў другую, Праўдзівую Пятніцу, калі задумаў пісаць доўгі раман, у якім спадзяваўся ахапіць жыццё Беларусі з усіх бакоў, ува ўсе часы і да самых драбніц.

Была тая пятніца на пачатку зімы, добрая, вясёлая. Белы, мяккі снег ішоў з рання. Укрыў усё надвор'е белаю, пуховаю дзяругаю. Пад нагамі, калі ідзеш: хруп-хруп, хруп-хруп. Прыемна і лёгка. На вецці дрэў снег павіс, расцягнуўся белымі, пушыстымі жгутамі; звесіўся на малых пруцінках прыгожымі жгуцікамі. Згары патроху яшчэ ляцяць дробным хлопам сняжынкі. Наверсе — плёнка снегавая, і немаведама адкуль паўзуць з мутнага бяздоння пчолы снегу, — як рой. Ляцяць уніз і непрыкметна, мякка сцелюцца…

— Дзеці! Дзеці! Зірніце ўгору на неба! — радасна гукаў тады Ляксей Ляксеевіч сваю школьную драбязу, задраўшы галаву і стоячы ўсю перамену на ганках у паліце нараспашку.

Аж задрамаў. Разам прахапіўся і рынуўся да стала.

«Пачакай жа! Дакажу і я сваю славу!» — сцяў ён абсадку, абмакнуў пяро, разгарнуў рукапіс рамана на трэцім, яшчэ не скончаным раздзеле і хацеў пісаць ужо далей, але, каб падагнаць сябе пад адзін стыль, пачаў тое-сёе перачытваць і такім чынам настройвацца.

Раман свой ён яшчэ ніяк не назваў, а першай частцы даў назву «Утопія». У гэтай частцы, у першых двух з паловаю раздзелах, пісаў ён аб тым, што недзе некалі аднаму беларуска-

му пісьменніку прысніўся сон. І снілася яму тое, што будзе на Беларусі праз дзесяць год.

Снілася яму, што школа ў вёсцы мураваная, пад жалезным, пафарбаваным у зялёнае, дахам, і ў ёй асобная і добрая кватэра для настаўніка. Усе сяляне пасылаюць сваіх дзяцей у школу і просяць, каб вучылі там роднаю моваю, значыцца, па-беларуску. Усе дзеці прыходзяць у школу ў ботах і маюць у здавальняючай колькасці падручнікі, паперу і алоўкі. Усе дзеці маюць у кішэнях насатачкі і кажуць настаўніку, што бацькі іхныя паслухалі яго рады і накуплялі паліваных талерак, каб есці не з аднэй міскі, а падстаўляць кожнаму члену сям'і асобную талерачку.

Цяпер хацеў Ляксей Ляксеевіч прыпісаць, што ўсе паны, спалохаўшыся здані рэвалюцыі, добраю воляю аддалі сваю зямлю сялянам…

«Вось калі будзе здаволены рэдактар!» — мімаволі ўсміхнуўся ён і хацеў ужо пісаць, але потым задумаўся, як бы гэта хітрэй выразіць, каб не прычапілася цэнзура…

Думаў ён, думаў — і рука яго пачала выкручваць спярша збоку, а потым і па ўсёй чыстай старонцы розныя фінціфлюшкі.

— Вось тут і пішы, — горка прашаптаў Ляксей Ляксеевіч і аблёгся галавою на левую руку, а праваю ўсё круціў на паперы розныя хвосцікі.

«Трэба перачытаць яшчэ раз, — падумаў ён, — можа, тады з разгону напішацца і далей… А, нарэшце, хіба так важна, каб праз увесь раздзел быў аднастайны стыль. Няроўнасць будзе сведчыць аб глыбокай узрушанасці ў аўтара…»

Прымушаючы сябе, пачаў ён перачытваць яшчэ раз.

Раней раман здаваўся яму задуманым вельмі добра. Форма таксама зусім здавальняла, часам нават ён дзівіўся, што так добра выходзіць. Раней ён шчыра цешыўся, што яго раман пераверне дагары нагамі ўвесь побыт сялян і, галоўнае, будзе сацыяльна і нацыянальна ўсведамляць беларусаў. Цяпер жа, чым далей ён чытаў, тым болей бачыў, што раман зусім слабы, думкі мізэрныя, форма цяжкая…

Яго агарнуў страх, што ніколі нічога добрага з-пад яго пяра не выйдзе.

Яму зрабілася сорамна, брыдка.

Прапала ўсякая ахвота пісаць, не было цярплівасці нават дачытаць напісанае.

І Ляксей Ляксеевіч шvіргануў абсадку на рукапіс са злосцю і нянавісцю, аж пяро дзеўбанулася ў паперу і скруцілася, атра-

мэнт пырскнуў на ўвесь стол, і абсадка стала дыба і захісталася туды й сюды…

Вось табе і пятніца!

V

— Не, не рассохнецца, — вясёла казалі дзяўчаты, налічыўшы ў качарэжніку цот з вілак, кійцоў, чапялення і качэргаў.

— Столькі на запоінах выпілі, ды каб рассохлася, во! — разважалі маладухі.

І смутныя вясельныя песні пяялі яны маладой да самага вяселля.

У суботу былі заручыны, і на дварэ пачалася адліга.

Зусім адталі вокны. На момант брызнуў з-за хмар снапок сонца. Мяккі снег качаўся ў камы, і хлопчыкі наляпілі дзядоў. Гнядыя коні не пайшлі з вадапою ў пуню, а пабеглі за хаты, па снягу, пабрыківацца.

На другі дзень, калі маладыя прыехалі з-пад вянца і пачаўся змрокам найбольшы баль, з стрэх капала і пяялі пеўні.

Уся вуліца памякчэла, пасвятлела, была поўна гукаў ад адлігі і звону ад гульні.

Вясельныя паязджане занялі повен двор. Хрупалі сена коні, бразгаючы званочкамі і балабонцамі. Туды і адтуль хадзілі людзі са смехам і жартамі, шнырхалі пад нагамі дзеці, кідаючы снежкамі, і лунаў вясельны гоман. А ў хаце ігралі скрыпкі і бубнелі бубны, пяялі і гручэлі гулёбнікі, клумілі-гаварылі хмельныя госцікі.

— Даруйце, даруйце князіню маладую! — на ўсю сілу грымеў вясёлы дзед Пятрок.

Ён быў узят за свата і троху ўпіўся. А ганарыста высока махаў кружэлачкай, абверчанай у белую хусцінку, на якую клалі падарункі.

Музыкі йгралі адну з лепшых беларускіх полек, і ўсё ў хаце хадыром хадзіла. Валента, важны, быццам і не п’яны, з адлігаю ў сэрцы, памагаў музыкам: шырока раскірэчыўшы ногі перад скамарохам, што басаваў, ён двума пруцікамі з лучыны барабаніў у такт па струнах.

І Панасава душа іграла польку. Чуццём пачуў узаемнасць ад роднае сястры маладога, свецкай, у гарадскім плацці і з гарадскою гаворкаю, і горда паглядаў на свае лакіраваныя боты і бліскучыя калошы. На ім — сацінетавая сарочка з кішэняю на

грудзях; з кішэні звісае шнурочак; у кішэні цікае. А паненка яго, з высока ўзбітымі валасамі, у грабянцах, далікатна льнула да інтарэснага хлапца.

Падходзілі да Петраковае талеркі людзі і за падарункі гарэлачкай частаваліся; закусвалі салодка-густа-вязкім пернікам. Маладую надаралі…

— Дай жа, Божа, каб наша княгінька маладая за мужам у шчасці, у радасці жыла, дзетак-галубятак прыждала, на іхным вяселлейку ў ахвоту пагуляла. Няхай жа Божачка дасць усё лепшае.

— Пі, пі ўжо, кума, ды другіх дапушчай.

— Налі, сваток, за падарунак!

— Даруйце! Даруйце!

І Куліна, і Іван следам за ёю да талерачкі гуськом падходзяць. У Івана на шыі новы шалік, шэранькі, а ў Куліны — вялікая кашаміравая хустка з махрамі. Прапусцілі колькі чарачак і — забалбаталі, як гусакі. Ударылі музыкі «скакуху»… Панёсся Іван за Кулінаю ў тан. Расступаўся круг. Рогат падняўся. Заплёскалі бабы ў ладкі, а Куліна гарохам так і адбівала ў крузе. Пусціўся Іван упрысядкі, толькі шалік віхляўся; гоп-гоп! нагамі выбрыківаў і скакаў да жонкі, а тая, як курачка, бачком-бачком, уцякала, адылі ўсё тут мітусілася і дражніла яго. Ён раптам — скок на ногі, крутнуўрукою над галавамі ў дзівакоў і, як арол на галубку, кінуўся на Куліну, лёгка падхапіў і кумільгам закруціўся з ёю.

— Мяцеліцу, мяцеліцу!

Урэзалі музыкі мяцеліцу, і ўсё закруцілася па хаце, у каго душа была. І запяялі:

Дуе, вее мяцеліца,
Чаму стары не жэніцца?..

Як з кірмашу вырваўся Іван з жонкаю.

— А дзякуй табе, жоначка, што і радзіўся і ўзрасціўся, — так не скакаў, як сёння.

— А каб табе, мужычочак, цвёрда на язык, як ты хвалішся, а ўсе ножачкі мне адтаптаў; ці не ў ваўкоў ты скокам навучыўся, галубок? — як ніколі жартавала з ім яго Кулініца.

Тым часам пабеглі па настаўніка — запрашаць яго на чэсць.

— Чаго ён там сядзіць, як барсук, — казаў сват Пятрок, — чалавек ён малады, няхай пагуляе, да дзетак будзе ласкавейшы.

Пайшоў да яго Панас з маладым, а следам пацюхала Петрачыха. Доўга адмаўляўся і так і сяк настаўнік, што надакучыла,

як бясконцая казка, маладому і надта спадабалася Петрачысе. Але-ткі падхапілі малайца падпашкі і, як ні ўпіраўся, павялі, а Петрачыха злёгенька піхала яго ў спіну.

Пасадзілі Ляксея Ляксеевіча на кут, побач з хроснаю маткаю маладой, падсунулі яму каўбасу, міску сцюдню, паклалі пірага, а сват Пятрок апанаваў яго з гарэлкаю, як чорт грэшную душу. Дзяўчатам карціла, і яны, быццам няўмысля, дзівіліся на кут ды зараз адварачваліся да хлапцоў. Дзед Пятрок завёў доўгую і няскладную гутарку аб сваёй маладосці, навучаў настаўніка, як трэба жыць на свеце, і не забываўся наліваць чарачку па чарачцы і частаваць яго. А той спярша саромеўся піць, не ведаў, чым браць тую кілбасу, але, хапіўшы чаркі тры, пусціў у ход рукі і ўжо час ад часу паглядаў на свата, чакаючы яшчэ кілішка. І язык яго пачаў казаць дзеду Петраку пра жыццё настаўніка. І во — абодва гаварылі і абодва не слухалі, што казаў адзін аднаму. Так, добра паказаўшы старым выпіўкай сваю блізкасць да народа, настаўнік загадаў сабе паказаць тую ж блізкасць і маладым. І так разышоўся, што вылез з застолля і, трошку пахіснуўшыся, думаючы, што нікому тое непрыкметна, выйшаў на круг, тантурыста ўзяўся ў бокі, кіўнуў да сябе сваёй былой вучаніцы, якая летась скончыла школу, і пусціўся з ёю ў скокі. З прыемнасцю дзівіліся на такую з'яву людзі і здаволена казалі: «Наш чалавек». А Панас, расчырванеўшыся, хадзіў паміж народа і хваліў Ляксея Ляксеевіча. «А што, ці не мая праўда, што ўсе людзі роўны?.. Я не раз казаў, што і я хоць і скончыў царкоўнапрыходскую школу, аднак жа не запанеў і са звычаяў наскіх не смяюся, а люблю іх. Я, як і ўсе людзі, з усімі і гарэлку п'ю, і ў карты гуляю, і на вяселлі хаджу. Вось я і Ляксея Ляксеевіча прывёў. Каб не я, можа б, ён і не пайшоў. А я і з вучоным вучоны, і з няўчоным няўчоны». Настаўнік, стаміўшыся, запыхаўшыся, з мокраю лабацінаю, з хадыром у галаве, адышоў з сваёю дзяўчынаю ў гурток маладых і, махаючы ёй і сабе пад нос хусцінačкаю, заікаста казаў да яе: «Ты толькі будзь, Ганнуся, такая, як твой настаўнік; жыві так, як ён заўсёды вучыў цябе, — і заўсёды і ўсюдых будзе табе добра». Ганна саромліва спушчала вочы, няўзнаку адхіналася ад гарэлачнага паху і з нецярплівасцю чакала, калі настаўнік адыдзе ад яе, а сама ўцячы не смелілася.

Пакуль ішла ў іх размова, да кругу штурхалася сярод людзей Петрачыха, цягнучы за рукаў сваю маўклівую нявестку.

— Пойдзем, пойдзем, мая рыбухна! Разам працуем, разам паскачам. Няхай палюбуюцца добрыя людзі, як мы гуляем.

І пусцілася старая задам, скачучы як сарока: пляскала ў ладкі і вясёлымі вочкамі пільна ўглядалася ў маладуху, а тая, падхапіўшы крайчык свайго хвартуха, а другою рукою плаўна махаючы ля галавы, плыла за свякроваю з ледзь прыкметнаю ўсмешкаю, у якой паўсёдная ціхая пакута ішла цяпер на спатканне весялосці і паддавалася ёй.

Старая запяяла старым, дрыжачым і ласкавым голасам:

Ты, нявестачка,
Ты — лябёдачка!..

А маладуха зараз падхапіла:

Матка ж мая старэнькая,
Як галубка сівенькая!

І ўсе былі здзіўлены, што ў гэтае ціхае і маўклівае Петраковае нявесткі такі чысты і звонкі голас.

Ляксей Ляксеевіч ледзь не заплакаў, што яна так добра вядзе, як ён ніколі не чуў нават ад настаўніц.

— Жыве наша Беларусь, — сказаў ён Ганнусі і сціснуў яе за рукі на ўсю сілу, — жыве, Ганулька, не траць веры!

Пятрок распіхаў усіх, падышоў бліжэй і прыемна казаў:

— Люблю! Дый люблю ж! Ай ды бабы мае! Ведай Петраковых!

## VI

Ціха і маркотна было зрання. Сумётамі белымі, белымі, сіняватымі, касымі і з высокімі, аж да стрэх, грэбнямі замяла, засыпала завіруха маўкліва-акалелыя хаты за доўгую, завірушную ноч.

Бясконцыя, цемнаватыя досвіткі развеяліся ў шэрую раніцу. Скрыпае ля студні снег. Засыпела, захрыпела, як папсаваная дудка, замёрзлая вага. Ляпнулі вёдры. Панурыя гнядыя коні выйшлі за вароты і стаялі доўга ля замёту. Забляяла ў няшчыльнай пуні авечка і крутнула хвосцікам, нюхнула і потым лізнула дрыжачае, не абсохлае ягня з замёрзлымі белаватымі вушкамі, што акацілася пад свет. Гаспадыня ў лапленай кохце, са збітаю на бок хусткаю, закручанаю, як турэцкая чалма, упоцемку, стала спіною да шчыліны ў сцяне, адкуль вее снегавым пылам, і чырвонымі ад сцюжы, карэлымі ад працы рукамі трасе

над паскуднаю авечкаю і дробненькім ягнём дзіравае рэшата і з роту пырскае, скрозь яго, свянцонаю вадою.

А ў тым канцы хат, уверсе, над стрэхамі, пацягнуўся белаваты дым з коміну і разбягаецца ў марозным развіднелым паветры, навакол застыглага вецця на бярозе, і робіць тое бярозавае ўбранне з бліскучых сняжынак яшчэ прыгажэйшым.

Ныраючы ў замётах, выйшаў з-за рогу грудок дзетаквучанічкоў з торбачкамі цераз плячо, у якіх кніжкі.

Так, паціху, паволі, спакваля пачынаецца зімовы будні дзень.

Ну, нічога: блізка Масленка!

*1915, 1917*

## ХАДЗЯКА

А полудні мутнага, шэрага, нуднага і кароткага дня самай познай восені па шляху, што з гораду, два салдаты вялі хадзяку. Усё быццам заснула ці задрамала. Па зялёнай руні там-сям хадзілі коні. Цяпер іх ніхто не пасвіў, не даглядаў.

Не сёння-заўтра, з вечара ці ўночы, вываліць снег і белым пахавае і мёрзлую груду, і гразь, і рунь, і пачнецца зіма.

Жывёла — і тая чуе. Свінні ў адзіночку забягаюць далёкадалёка ад гумён і гародаў на жыта, на лог, пад дубы, рыюцца ў лісці і так пільна кіруюцца, рупяцца, нібы хапаюцца загнаць запас на зіму.

— Вось, воўчае мяса, куды ад вёскі забегла, — сказаў пярэдні салдат на адзінокую чорную свінню, што рылася на зялёнай руні далёка ад хат.

Ён перакінуў вінтоўку з рукі на левае плячо і хацеў чымнебудзь парушыць невясёлую цішу восені: пахлопаў вязёнкаю аб ляжку, смыргануў пад чырвоным кончыкам задзёрыстага носіка і расправіў колкія, шылцам, вусікі.

— Вунь бяжыць дзяўчынка зганяць, — дадаў другі, што ішоў адзаду ў хадзякі, маладзейшы, мурлаты і чырвоны, без вусоў. — Нашых нешта раз забралі панскія леснікі, увосень таксама, з жыта, па два рублі за лыч мусілі заплаціць. Якраз перад маім прызывам — памятую.

Толькі хадзяка ўвесь час маўчаў, як бы лічыў ні да чога гутарку з сваімі канваірамі. Ён, бядак, пазяб. Падлажыўшы кіёк пад паху, глыбей сашчэпліваў старыя худыя і дрыжачыя рукі ў

абадраных рукавах выцвілага, залапленага, пасівелага, а некалі чорнага панскага пальцішка. Стаміўся і шкрабаў скурацянымі зношанымі апоркамі па дарозе. Яго мяжджэрысты, печаны твар пачырванеў, што было відаць і скрозь сівенькую, рэдкую і шорсткую шчаціну. А кароткія і тоўстыя, быццам жгуты, вусы, жоўтыя ад табакі, нервова краталіся пад загнутым гарбатым носам.

Але, падыходзячы бліжэй, ён быццам ажывіўся і не так нізка хіліў касцістыя плечы пад убогім хатыльком. Схапіў кій з-пад пахі ў руку і дужэй цюкаў ім па зямлі і цікавей углядаўся навакол.

Тым часам падбегла бліжэй дзяўчынка, але пакружыла ваўчком за бярозамі па жыце. І цікава пільнавала вочкамі салдат і абадранага старца.

— Гэй, дзяўчынка! — гукнуў мурлаты, — як завецца ваша вёска?

Яна нічога не адказала і пабегла шпарчэй і далей убок.

Калі яны падыходзілі да лазні, адтуль з прымыльніку выйшлі хлопцы з дзедам і пачалі з цікавасцю прыглядацца. З лазні чуваць былі галасы, гоман і стукат мяліц.

Тодаравы мялі свой лён.

— Некага вядуць, — сказаў дзеду меншы хлопчык.

— Вядуць, — адказаў дзед Тодар, прыглядаючыся слепаватымі вачмі. Сэрца ў яго білася, бо ён падумаў, ці не вядуць са свету па этапу ўнука, што быў на заработках.

— Стой! — скамандаваў старшы салдат. Абодва сталі і знялі стрэльбы. Спыніўся і хадзяка і падпёрся кійком, безуважна і хмура гледзячы.

З прымыльніку выйшлі ўсе і падступіліся бліжэй.

— Чалавека вам прывялі, калі прызнаецеся да яго, — сказаў мурлаты і ўсміхнуўся.

— Нам? Ці ён наш? — пытаўся дзед Тодар: — Нешта не ведаю такога…

Хадзяка пераступіў з нагі на нагу, хлопнуў убогімі шкрабанікамі, стукнуў кійком па зямлі, для чагосьці кратаў вусамі, як прус на сцяне, зірнуў на ўсіх з-пад калматых броваў і ўтупіўся ў зямлю.

— У паперах ён пішацца: Янка Непамятушчы… І заяўляе, што родам з вашае вёскі, — сказаў стары салдат.

— Не, не ведаю… — спалохана прамармытаў дзед Тодар.

— Пойдзем да старасты, калі так, — скамандаваў старшы, і мурлаты разам з ім узлажыў вінтоўку на плячо. Хадзяка пад-

сунуў кій пад паху, глыбей сашчапіў рукі — маўкліва пайшоў між імі, шкрабаючы нагамі.

Тым часам ад хат пачалі збірацца мімаходныя людзі. Усе абступілі беднага хадзяку і дзівіліся, як на воўка, мацаючы яго з усіх бакоў. І так грудам ішлі.

Калі падышлі да Лявонавае хаты, хадзяка раптам стаў.

— Ну? — спытаўся салдат. Усе прысталі дапытліва.

— А во тут раней карчомка была. Еська гарэлачку прадаваў.

— Праўда, некалі была тут карчма… — дужа здзівіўся дзед Тодар і паківаў галавою: — Была, была… ведае, гм.

Пайшлі далей.

* * *

У стараставу хату на незвычайнае для ціхамірнага тутэйшага жыцця здарэнне набухталася паўнютка людзей.

Старыя паселі на лавах, паважна думаючы ў калматыя бароды. Маладзейшыя тоўпіліся ў парозе, а малеча, разявіўшы раты, вытрашчылі вочы на хадзяку і піхалі адзін аднаго наперад.

Хадзяка сеў на зэдлік і быў безуважны да ўсяго на свеце. Побач селі абодвы салдаты.

— Давай ты яму веры! — казаў, гледзячы міма, высокі рыжы Астап, які быў у шахтах і ведаў свет. — Давай ты яму веры, калі яны, такія, усё жыццё сваё так бадзяюцца. У Сібіры кажа, што з нашае вёскі; не прымем да сябе, ён даложыць начальніку, што — са Смаленшчыны, прыгадае сабе якую знаёмую вёску, адкуль меў таварышаў ці сам быў калі. У Смаленшчыне скажа, што — з Меншчыны. Так яго і цягаюць па казённым хлебе… Ды каб я так жыў, колькі ён з нашае вёскі. Дык, мужчыны, думайце: прыняць яго ці не прыняць.

Салдаты курылі, мужыкі курылі. Шызы дым навіс і лез у глоткі. Хадзяка, закурыўшы, зайшоўся кашлем, душыўся, схапіўшыся за грудзі. Там у яго хрыпела, як слова ў мяхах у каваля.

— Вунь, вунь, — уступіўся за яго кароценькі лысенькі Дзёма, — добра ў людзях, хрыпіць у грудзях. А як ногды грэх возьмем на сябе: свайго не прымем? Чалавек за тысячы вёрст цягнуўся на бацькаўшчыну, каб легчы на вечны супакой бліжэй да дзядоў-прадзедаў, а мы пратурым яго…

Хадзяка ўсё хрыпеў.

— На, на пацягні дымку з піпкі, лягчэй аддыхаеш, — сунуў яму ў зубы сваю піпку ласкавы Дзёма, прычапіўшыся да яго, як смала.

Хадзяка аддыхаўся, злез з зэдліка…

Блазнота з жахам рынулася ў бакі і зачапіла страхам дзяўчат і баб.

— От-то, дурныя, — пачалі іх сароміць.

— Ведаем мы іх, такіх, — гаманіў Астап. — Працаваць не хочуць, усё жыццё пражыруюць у свеце, а як пастарэе, знядужае, дык бяры яго, кармі, садзі на свой карак. Калі панаваў, тады, нябось, мы яму былі непатрэбны, тады ён і не ўздумаў на нас. Якую карысць ён даў нашаму вобчаству, ну якую? — напіраў ён на Дзёму.

Дзёма адступаў, хоць і з боем.

— Свайго, нашага прагонім, от што, — махаў ён пад носам Астапу рукамі, як вятрак крыллем.

— Дык прыняць ці не прыняць гэтага невядомага нам чалавека ў сваё вобчаства? — пакрыў усе галасы стараста, выйшаўшы на пасяродак хаты і выставіўшы нагу ў жоўтым японскім боце.

У хаце зрабілася зусім ціха.

Хадзяка яшчэ ніжэй пахіліў сваю галаву і ні на кога не глядзеў.

Стараста ўзяўся адной рукою за чорную бараду і чакаў адказу.

— Каб ён, гэта, маладзейшы троху быў, — першы пачаў гамонку старым ціхім голасам дзед Тодар, — дык няхай бы зіму качаўся на печы, а ўлетку раёў сцярог бы ў мяне.

— А сам ты што будзеш рабіць? — перапыніў яго Астап зняважліва.

Хадзяка падняў на Астапа вочы.

— Ну, што ты, стары, глядзіш на мяне, як воўк? — нібыта мякчэй, але варожа, сказаў Астап, троху адхіляючыся ад хадзякавага погляду. — Ну, што ты глядзіш? Цягаешся, валаводзіш людзей, язвіна ты сібірская…

— Як ты сказаў? — глуха і з крыўдаю спытаўся ў яго хадзяка, пасунуўшыся з зэдліка на хату.

Дзяўчаты, якія былі, запішчэлі, дзеці кінуліся наўцёкі да матак і напалохалі ўсіх баб, а мужчыны — хто ўтаропіўся, хто што.

— Ці бачыў? Пакрыўдзіўся… — халадней прамовіў ласкавы Дзёма.

Астап дужа збянтэжыўся, а потым падступіў ізноў і меўся ізноў нешта сказаць.

— Не маеш права ні біць ні лаяць арыштаванага… ведаеш, — сурова падняўся старшы салдацік. — Я за яго адказваю перад начальствам… Што яшчэ такое?

Астап вінавата адсунуўся. І тады стараста спакойна сказаў, абвёўшы ўсіх вачмі і ўхільна зірнуўшы на хадзяку:

— Дык не прымаем цябе, чалавеча! Ідзі ты туды, дзе век свой жыў. Хто цябе ведае, хто ты такі.

— Я і сам у вас не застануся, — падняўся хадзяка і ўжо болей не сядзеў. — Не застануся, бо ўсё тут не такое, як было даўней. І людзей тых даўно няма… А я думаў: во разжывуся, дасць Бог, намыю золата, царкву тут збудую, каб не хадзілі за дзесяць вёрст. А вы тут цяпер во якія…

Усе яго слухалі моўчкі — не ведалі, ці ён праўду кажа, ці ён з іх смяецца.

— Ды ўжо ж гадоў сорак як новую царкву маем… бліжэй… за пяць усяго вёрст, — вінавата прамармытаў дзед Тодар.

— Ну, што ж, пераначуем і павядзём назад у горад, — сказаў старшы салдат. — У каго нам начаваць? — звярнуўся ён да старасты.

— Хадзіце, землячкі, у маю хату, абначуйце ў мяне, — адгукнуўся дзед Тодар, пакуль стараста думаў.

І ўсе пачалі разыходзіцца.

Дзед вёў гасцей у сваю хату і, ішоўшы, ласкава казаў:

— Як жа мне, землячкі, не прывітаць вас: я ж гэта быў спалохаўся, што ўнука майго з свету вядуць… Унук жа мой у свеце зарабляе, добры хлапец, — як не чуе, так няхай не вадзіць… А ў мяне і хата цёплая. Я заўсёды рад прывітаць падарожніка. Абначуйце ў мяне, а заўтра сабе і ў дарожку…

Хадзяка маўчаў і сумна і нядбала шкрабаў скуранымі сваімі апоркамі па зямлі. Схіліў галаву — ішоў, здаецца, не маючы ніякае цікавасці да ўсяго, што было наўкол яго.

Салдаты ж не слухалі ні старога гаспадара, ні старога хадзякі. Яны з салодкасцю чулі блізкасць цёплай хаты, гарачай стравы і ўсяго адпачынку.

Бо ўжо цёмная ноч восені ахоплівала надвор'е, было трэба запальваць па хатах святло, а сцюдзёны вецер гуляў у пустым полі і налятаў адтуль у вуліцу.

Вечаровая восеньская золь ціснула сэрца.

— Не ўздумай начою ўцякаць, — пажартаваў мурлаты.

— А ты сцеражы, — адказаў яму хадзяка.

— Уцякаць… смейцеся вы з яго, старога, — уставіў сваё лагоднае слова і дзед Тодар.

*1916*

## ГЕНЕРАЛ

### I

Ён быў ужо старэнькі.

Галіў, на ангельскі манер, бараду і вусы, і таму не можна было з пэўнасцю сказаць, колькі яму гадоў. А пад вачмі — жоўтыя зморшчаныя мяшочкі, на макушцы — рэдзенькія валасы, сівенькія, мяккія, набок зачасаныя.

Рукі ў яго то прыкметна іншы раз, то непрыкметна дрыжэлі.

У стройненькім мундзірчыку на ангельскі фасон і ў штанах галіфэ, з белым каўнерчыкам на шыі і ў манкетах у кратачкі на тонкіх худых руках, ён выглядаў дробненькаю, старэнькаю, але фарсістаю чысцёшкаю.

На грудзях жа ў яго была высокая баявая ўзнагарода: Георгіеўскі крыж[1].

Ён сядзеў у кабінеце, зробленым з гасцінага пакоя ў аграмадным старасвецкім панскім доме, дыміў цыгараю і часам сёрбаў маленькаю сярэбранаю лыжачкаю чорную сцюдзёную каву.

Яго працоўны дзень пачаўся даўно, але было яшчэ рана: першая гадзіна. Дывізія стаяла ўжо колькі месяцаў, без асаблівых прыгод, на адным месцы, і было нудна.

Ён прыдумваў і не ведаў — чым заняцца…

За вокнаміківалася мокрае галлё, то больш, то менш прапускаючы да шыб мокрага надвор'я.

Часам глухі гул, як далёкі гром, далятаў сюды, лыжачка звінела аб брыж у шклянцы, і мімаволі, падсвядома і незлавіма з'яўляліся і знікалі нейкія трывожныя ўспаміны і адчуванні.

Часам дзверы нячутна адчыняліся і ўваходзіў высокі і прызвычаена-зграбны, але безнадзейна тошчы ад выпітых салодкасцей жыцця ад'ютант з паперамі. Ён бразгаў банькамі, стукаючы бот аб бот, баўтаў аксельбантамі і штосьці пытаўся ў яго правасхадзіцельства, ціханька б'ючы пальцам з даўгім кіпцем па сваёй важнай паперыне… Ізноў бразгаў, крута і вёртка паварочваўся і таксама ціхенька выходзіў.

І тады, пакуль адчыняліся і зачыняліся дзверы, далятаў сюды шум ад людской гаворкі, шчоўкання друкавальных машынак і стукання падкаваных салдацкіх ботаў па старасвецкім дубовым паркеце.

Адкінуўшыся на падушку ў крэсле і выцягнуўшы пад стол дробненькія ногі, генерал пускаў сіні дымок і думаў…

Перад ім ляжалі апошнія загады вышэйшага камандавання, тэлеграмы, газеты і лісты. І ўсё было так аднастайна і нецікава… Нейкія цёмныя чуткі ў сталіцы… Бясконцая пустая гаварыльня ў Думе… Зноў пытанне аб мэтазгоднасці далейшых адыходаў на лепшыя пазіцыі… Ізноў разважанні аб катастрафічным зніжэнні баявой якасці новых вайсковых фармаванняў…

«Самае горшае ў кожнай справе, — думаў генерал, — калі пакідае людзей творчы настрой, калі здаецца, што ўсё ясна, усё скончана, усё, што можна, зроблена, і ніякіх асаблівых магчымасцей няма. І тады нудна…»

Ён мімаволі ўздыхнуў. Потым, не заўважаючы, пазваніў і, калі з'явіўся ад'ютант ізноў з паперамі, сказаў яму, каб падагналі аўтамабіль ехаць на пазіцыі.

— Абед, ваша правасхадзіцельства, гатоў, — сказаў ад'ютант.

— А… ну, усё роўна, — апатычна згадзіўся генерал і перайшоў у сталовы пакой.

У часе абеду, калі ад сытасці прыходзіць гумар, ён яшчэ больш засумаваў. Вясёлы падпалкоўнік, начальнік штаба, быў у водпуску. На абед былі запрошаны, паводле даўніх традыцый, новапрыбылыя афіцэры. Але цяпер гэта былі сарамяжлівыя і нязграбныя прапаршчыкі. Генерал пачуваў сябе дрэнна, бачачы, як не ўмелі яны абыходзіцца ў афіцэрскай кампаніі, чырванелі і марудзілі, каб не зрабіць чаго не так, і стараліся рабіць усё як найлепей, а ўсё ж ткі, забыўшыся, елі з нажа і бралі хлеб відэльцамі…

«І гэта нашы афіцэры! — сумна падумаў генерал. — Сапраўды, хіба з такімі афіцэрамі можна дайсці да перамогі?» — мімаволі горка патрос ён галавою.

Абед скончыўся дужа скора. Генерал еў зусім мала. Ён зараз выйшаў, сеў у аўтамабіль і адзін, нават без ад'ютанта, паехаў у штаб N-скага палка, які стаяў цяпер на пазіцыі.

— На наша правасхадзіцельства напала мерлехлюндзія, — сказаў ад'ютант доктару, калі аўтамабіль знік у туманнай пеляне. — Ці не хочаце, пане доктар, партыйку? — спытаўся ён, узяўшы доктара падпашку, і павёў яго ў генералаў кабінет за шахматны столік.

— Адну партыйку можна, — сказаў доктар, ідучы. — Нервачкі ў нашага правасхадзіцельства таво-с… — дадаў ён, троху прайшоўшы і падумаўшы, і паправіў на носе акуляры і пагладзіў сваю вялікую калматую і чорную земскую бараду.

## II

Дарога ішла дробным лесам і па шэрых, мокрых, зазімавалых палянах. Збоку, у пакопаных канавах і ямках, было поўна вады з лядочкам па краях. Цягнуўся альшэўнік — цэлы і пасечаны сапёрамі, калі ладзілі дарогу.

У паветры вісеў туманны, дробны дожджык. Гэтая імжака курылася і курылася без канца. У некаторых месцах, у лесе, на палянах, з яго зліваўся дым. Там вольныя, уперамешку з салдатамі, капалі акопы, і генерал, паглядзеўшы на іхную работу, падумаў, што яны больш кладуць цяпло, кураць і гамоняць, чым капаюць.

Часта трэба было абганяць абозныя фурманкі. Яны павольна зварочвалі з сярэдзіны дарогі бліжэй да канавы. На кожным возе сядзеў барадаты салдат, ускінуўшы сабе на галаву торбу ці што другое ад імжакі. Спалохана, але някрутка скідаў ён торбу і прыкладваў руку да казыра.

«Самае горшае ў кожнай справе, — зноў разважаў сам з сабою генерал, — калі няма да чаго імкнуцца, калі няма куды ляцець, няма размаху…»

У штабе палка спыніліся толькі для таго, каб узяць праваджальніка. А палкоўніку ехаць з сабою адмовіў генерал, чым яго здзівіў і пакрыўдзіў.

— Вы мне даруйце, палкоўнік, — лагадней сказаў генерал, заўважыўшы яго крыўду. — Я ведаю, што ў вас у палку ўсё ў найлепшым парадку… Мне проста хочацца пабыць аднаму і не турбаваць ні сябе, ні людзей лішнімі службовымі гутаркамі…

Але палкоўнік не зразумеў і яшчэ болей пакрыўдзіўся.

Паціху кранулі і праз колькі хвілін уехалі ў дымны сасоннік, дзе віднеліся перадкі, зямлянкі, конскія морды, людзі перабягалі.

Тут стаяла батарэя.

Генерал выйшаў з аўтамабіля і пайшоў да зямлянак. Дзяжурны, спужаўшыся, кінуўся на спатканне, потым павярнуўся і пабег да камандзірскай зямлянкі. Адтуль, з погляду спакойна, выходзіў у крытым кажушку вусаты капітан, рыхтуючыся рапартаваць.

Але генерал, яшчэ не даўшы яму падысці, хмура спытаўся:

— Чаму вы, капітан, не назіраеце на сваім пункце?

Той марудзіў адказам і пачынаў ненавідзець генерала і злаваў на сябе, што апошнія часы апусціўся і ўсё пралежваў у зямлянцы, думаючы, як бы найлепей і дзе прарваць праціўніку фронт.

З батарэі генерал конна паехаў з капітанам на камандзірскі пункт, дзе нецікава падзівіўся ў трубу Цэйса[2], нічога не разгледзеўшы ў тумане, і адтуль пеша, з адным салдацікам, пайшоў у перадавыя пяхотныя акопы.

Там ужо мелі тэлефанаграму, што ён прыехаў, і чакалі яго.

Ішоў з маладым салдацікам, бязвусым, а ўжо з унтэрафіцэрскімі нашыўкамі, і дужа хацеў разгаварыцца з ім.

І хоць салдацік бойка і зусім не саромеючыся адказваў яму, гутарка не ішла.

Генерал спытаўся, якой губерні, хто ёсць дома, ці часта пішуць, і ўсё ж такі не чуў у яго адказах тых прыемных, дрыжачых нотак, на якія спадзяваўся і якія з'яўляюцца, як ён думаў, калі паважаны, любы начальнік пытаецца што-небудзь інтымнае ў свайго ніжэйшага падначаленага.

Генерал не ведаў, аб чым яшчэ пагутарыць, і быў рады, што ўжо прыйшлі.

Ён ласкава паздароўкаўся з камандзірам, людзьмі і начальнікамі. Салдаты хоць і з цьмянымі тварамі, але звычайна-вясёлыя, прапускалі яго, як яму здавалася, добрым і ўдзячным поглядам, што ён, генерал, даведаўся іх тут.

Жыць можна было… Вялікіх маразоў яшчэ не было.

Па начах ужо будаваліся бліндажы і зямлянкі. Пад сценку да супраціўніка салдаты падкапаліся лісінымі пячуркамі, вылажылі дно і сценкі елкаю і саломаю з лёнам з пакінутага хутара і завесілі палаткамі.

Для ночы былі, таксама ў сценках, падкопаны печачкі. Ад праходу ішоў акопчык да калодзежа і другі — для сцёку вады.

Салдаты падскоквалі з нагі на нагу, стукалі валенцамі, але можна было трываць.

Праходзячы, генерал раптам спыніўся каля аднаго маладзенькага салдаціка, даўганосага, з жаўтаватым худым тварам і пасінелымі вуснамі.

— А хлеб у цябе ёсць? — спытаўся ён у яго.

— Няма, ваша дзіц! — даволі бойка адказаў гэты несамавіты на выгляд хлопчык і зараз дадаў, мімаволі трошкі зірнуўшы ў той бок, дзе стаяў ротны: — Але сёння прывязуць, ваша дзіц!

— Малайчына! — ласкава шлёпнуў яго генерал па плячу.

— Рад старацца, ваша дзіц! — старанна крыкнуў салдацік і ўвесь выцягнуўся ў струнку.

— Сёння павінны падвезці хлеба, — адважыўся ўмяшацца ў гутарку ротны камандзір.

Гэта быў несамавіты на выгляд прапаршчык. «Пэўна, з настаўнікаў», — падумаў пра яго генерал.

— Учора чакалі, ды нешта выйшла ў дарозе, ваша правасхадзіцельства! — дадаў прапаршчык і ледзь не заблытаўся на даўгім слове.

— То-та яны такія цьмяныя, — патрапаў генерал салдаціка па шчацэ і быў рад, што так сказаў і так зрабіў і што гэта салдатам спадабаецца і падніме ў іх настрой.

«Нічога, — падумаў генерал, — і ў кожнай, здаецца, самай безнадзейнай справе можа раптам, немаведама адкуль, узяцца гэткі творчы настрой, што людзі з налёту робяць самае немагчымае самым магчымым».

## III

Генерал павесялеў, і яму захацелася паехаць ужо назад, заехаць на батарэю і ласкавей абысціся з капітанам, зайсці да палкоўніка і яшчэ раз пахваліць яму яго полк, а ўвечары, у сваім цёплым кабінеце, згуляць з ад'ютантам і доктарам партыю ў шахматы, аднаму супроць дваіх, і выйграць.

Раптам ён успомніў, што не паглядзеў яшчэ тут поля абстрэлу. І ўзяў бінокль і пачаў углядацца ў мокрую, туманную пялёнку, што вісела наперадзе перад акопамі.

У бінокль відаць былі ў тумане нямецкія бліндажы. Там з іх віўся дым. Відаць былі загародкі, драты. Можна было разгледзець могілкі, крыж і раскіданае бярвенне ад згарэлае хаты.

Зірнуўшы туды, куды яму паказваў, выставіўшы руку, стары барадаты салдат, генерал убачыў скрозь туман, як два немцы нешта капалі, кідаючы ўгару зямлю, а трэці курыў, вытыркнуўшы галаву з-за бруствера.

— Што ж, вы страляеце па іх? — спытаўся генерал.

— Не, ваша дзіц, — адказаў старшы назіральнік, — па загаду з брыгады павінна страляць батарэя, калі іх шмат збярэцца на работу. А мы страляем рэдка…

— Чаму?

— Яны папраўляюць бліндажы і дрот больш уначы, а ўдзень паказваюцца рэдка.

— Дайце-ка мне вінтоўку, — папрасіў генерал.

Ён доўга цэліўся, нарэшце стрэліў.

Хоць быў туман, стрэл прагучэў зычна, але як бы незнарок і адзінока. У адказ нічога не было.

Тады генерал падумаў, што хоць салдаты маюць добры выгляд, але пры гэткім нецікавым стаянні, нават без добрай перапалкі, у салдатаў траціцца храбрасць і яны прывыкаюць берагчы сябе.

— А па брустверы ідучы, добра відаць поле вашага абстрэлу? — спытаўся ён у камандзіра роты.

— Лепей троху, толькі ўдзень небяспечна, ваша правасхадзіцельства, — адказаў ротны і зноў ледзь не заблытаўся на гэтым доўгім і цяжкім для яго слове.

Генерал паглядзеў на яго і адчуў нястрымнае жаданне штурхануць яго некуды ці нешта зрабіць яму такое, каб ён не быў такі разлезлы. У гэты момант генерал так не любіў прапаршчыка, што гатоў быў яго ўдарыць.

Але неспадзявана для сябе самога і для ўсіх крута адвярнуўся, узышоў на прыступачку і, абапёршыся салдаціку на плячо, сказаў:

— Памажы-тка, брат…

І ўскочыў на бруствер. Пайшоў па брустверы спакойна і проста.

Зьнь, зьнь… — той жа час праляцелі над галавамі адна па адной дзве кулі, а з боку нямецкіх акопаў дакаціўся гул стрэлу.

— Страляюць. Небяспечна, — сказаў нехта.

«Каму патрэбна гэта дзівацкае выстаўленне сябе пад кулі? Здурнеў ён, ці што? — з абурэннем паглядзеў на генерала прапаршчык. — Але ж і мне трэба з ім ісці па брустверы, і мне трэба», — думаў ён, чуючы, як забілася сэрца.

Генерал зірнуў на яго і злосна падумаў: «Вучыцялішка… з тых, што ядуць з нажа… Шкадуе сябе».

Той раптам скочыў угару і стаў адзаду ў генерала, таксама высока і таксама небяспечна, і момант стаўся тут гадзінаю. Можа, ступіў ён два разы, як раптам перакуліўся і сунуўся ў акоп.

— Во… — вырвалася ў аднаго салдата.

Генерал скочыў услед і разам з другімі кінуўся да ляжачага.

Ён схапіў за руку мёртвага і крыкнуў:

— А дзе фельчар?

Забіты ляжаў, падагнуўшы ногі і адкінуўшы руку ў замшавай з белым баранькам рукавіцы. Шапка з’ехала, і былі відаць беленькія, зачасаныя набок валасы. А бародка, паголеная, рап-

там адзначылася шэраю бруддзю. Санкі трохі скрывіліся набок, а пад шапкаю відаць было трошку ліпкай крыві на мёрзлым, сухім акопным дне.

Прыбег фельчар са сваёю торбачкаю і, асцярожна абышоўшы генерала, сагнуўся і прыклаў вуха да грудзей таго.

— Сканаў яго благароддзе, ваша дзіцтва, — сказаў ён генералу так, як бы хацеў дадаць: «Я не вінават».

Генерал няпэўна ўзлажыў рукі забітага на яго грудзі, потым, не хапаючыся, паважна зняў шапку.

— Вечны спакой, — прашавяліў ён.

Потым, пачакаўшы і дрыгнуўшы ў задуме мускулам з левага боку санак, зноў апусціў шапку, сагнуўся і пацалаваў у мёртвы лоб.

— Слава загінуўшым сынам бацькаўшчыны! — дадаў і доўга няўмела надзяваў шапку.

А кулі пераcталі дзвінаць. І ўсё зноў было ціха і мокра ў паветры. А далёка, каля лесу, на флангах, няможна было разабраць — дым ці туман.

*1916*

## ПРЫСЯГА

### I

Цесна жыць на свеце!..

Дзеялася тое даўно, яшчэ за паншчынай. Развялося шмат цімакоў. Цімачылі ад паноў абы-куды: хто бег на Украіну, хто ўцякаў у вялікія месты, а хто басцяўся па лясах.

Любіў залучаць цімацкі люд у глухія выселкі, дзе можна было прыбіцца да мужыкоў і жыць, хаваючыся ад начальства.

Забягалі вось так цімакі і ў Пнеўшчыну, невялічкія, убогія выселкі, дзе надта для іх мясціна выгодная. Далёка навакол разлягаецца пушча спрадвечная. Далёка да панскага двара і да ўсякага начальства, а якія дарогі ёсць, то зусім малапраезныя. Такая глухамань, што ўвушшу заўсёды лес шуміць, дрэвы стогнуць і гамоняць. Уночы тут звярынае выццё і яшчэ нейкі невядомы рогат у лесе. А як сціхне, здаецца, быццам сапраўды ходзяць асілкі ў лясным гушчары, — вялікія, з тое дрэва, але ціха шамаюць.

Узімку прыбылі ў Пнеўшчыну тры цімакі і прысталі ў парабкі к Тарасу, бо ён самы заможны гаспадар. Адзін цімак быў дзед, другі — сярэдняга веку мужчына, хворы, апухлы, а трэці — малады хлапец. Не першына была, што ў выселках цімакі хаваліся, аднак жа гэтую тройцу Тарас надта неахвотна прымаў, быццам чуў бяду. Але дужа прасіліся гаротнікі, дык ён і згадзіўся ўзяць іх да сябе за здольнікаў.

Прыйшла вясна. Абжыліся троху цімакі, адпачнулі і з радасцю віталі цяплейшы час. На сэрцы ў цімака заўсёды сцюдзёная зіма, вось ён і рад усякаму цяплу і светласці.

Сплылі ўжо астатнія крыгі па рацэ. Пагрымеў гром і пашчапаў пасохшую, трошку ліпкаватую зямельку на густое павучынне, даўшы людцам знак, што і араць пара. Хоць у полі, у аборках яшчэ поўна вады, але травяныя каснікі пад ёй ля берагоў добра зазеляneліся. Над балотным купнікам, у веснавым паветры, з самае раніцы ўжо купаюцца шпаркія кігікаўкі са сваім несціханным крыкліва-дакучлівым: кі-гі! кі-гі! У лядзе ж, сярод пнёў і леташняга карчэўя, забуяла той парою белая буквіца, бутоны свяжусенькія… Адылі і жоўтыя краскі зацвілі. У полі яравым абы-дзе і таўкачыкі раслі. Лес папукаўся. Прыняліся людзі араць.

Дзень згону ў нядзелю адбывалі панам. Але на дворныя заворыны, хоць быў чацвер, пагнаў войт усіх чыста з Пнеўшчыны. Наўмысля сам прыязджаў, крычаў, што высялковыя зусім ад рук адбіліся, робяць толькі сабе, — сагнаў усіх і патурыў у двор. Паехаў і Тарас. А цімакі яго, пачакаўшы, пакуль войт аддаліцца ад выселак, вылезлі з гумна, дзе зазвычай хаваліся ў саломе, паснедалі і пайшлі на поле рабіць гаспадару. За ўзгоркам, ля пушчы, каб на воку не быць, завінуліся яны аблогу драць: дзед на кані з сахою, а тыя два з матыкамі ля пнёў.

Ціха і пуста навакол. Яны працуюць, а там яшчэ, за якія гоні, стары Яхім статак пільнуе. Болей няма нікога ў полі, усе на згоне ў панскім двары.

Прыемна ісці за сахою па свежай баразёнцы, а злашча, калі побач лес зелянее першым ліпкім лісцейкам. На дрэвах птушачкі пяюць, у балоце жабы квокчуць, сонейка ж як прыгрэе, дык на лузе траўка прост пад вокам прабіваецца. Усё жывое парыцца і лезе ў гару да сонца. Падзьме ціхі цёплы ветрык, і з вербалозу жоўценькі, як вуцяняткі, пух сыплецца. Хараша! Хараша! Шуміць зямля, але ціхусенька на сэрцы.

Хлапец скінуў шапку, потым сеў, разуўся і ўзяўся за працу лягчэйшы, басанож. Дзед з’ехаў у нізінку, паклаў саху на бок,

даў каню волю на траве, а сам дастаў піпку, выцягнуўшы босыя ногі на гладкай машастовай траўцы. Сярэдні тым часам прыкрыў вочы далоняю проці сонца і глядзіць на поле, дзе б напіцца. Аж раптам бачыць ён: бяжыць нехта з-пад хат угрунь і махае на ратаяў рукою…

— Гэй, Янка, падзівіся ты маладымі вачыма! — сказаў сярэдні цімак хлапцу голасна ад невядомае трывогі.

— Нам знакі падае! — адказаў той і крыкнуў трэцяму: — Дзядуль, глядзі, во!

Усхапіўся дзед, сышліся ўсе трое разам і глядзяць.

— Уцякаць трэба, вось яно што… — зразумеў стары з нудою на сэрцы.

А чалавек бяжыць, бяжыць па адхону з гары — то на іх махне, то на хаты аглядаецца.

— Тарас бяжыць, — пазнаў Янка.

— Адпрагайма! — крыкнуў таварышам дзядок.

Шпарка адкруцілі гужы, рассупонілі, а хлапец, перавярнуўшы, зняў хамут. Пацягнулі саху ў кусты. Прыскочыў Тарас:

— Ну, бра-ткі… ха-ваў… пакуль можна… Уцякайце: прыехала равізія… Ловяць цімакоў…

Хапіўся за грудзі сярэдні, збялеў Янка, а дзед скрыгнуў зубамі. Трэба ўцякаць. Самі не ведаюць, навошта адпрагалі, навошта саху ў лазу валаклі. І зноў хапіліся каня Тарасу запрагаць; з матыкамі не ведаюць, што рабіць.

— Бяжыце, бяжыце, браточкі, — гоніць іх гаспадар. — Сам рады дам.

Кінуліся і пабеглі, а ён пагнаў баразну.

Ледзьве паспелі схавацца ў лесе, як зазвінелі балабонцы з-пад хат. Едзе на дрожках пан афіцэр з казакамі. За ім цягнецца груд дзесяцкіх. Грымяць усе чыста к беднаму Тарасу. А ён на свайго карага нокае, як надта ля працы завінуўшыся, а сам сабе думае: «Памажы, Госпад Бог, казаць усё так, каб да праўды падобна хоць троху было…»

Раптам і абсох. Аж захаладзеў.

Пад’ехалі.

— Гэй, — крыкнуў Тарасу пан яшчэ здалёк, ды той і так ужо стаяў; скінуў шапку і бяжыць насустрач у руку цалаваць.

— Памажы Божа! — пасмеў нехта з дзесяцкіх сказаць ратаю на яго працу. Сказаў і застыдаўся свайго голасу.

— Цімакоў хаваеш — га?! — грозна крыкнуў пан, яшчэ седзячы на дрожках.

— Не, вашмосць, я не хаваю… — заплюскаў вачыма Тарас і кінуўся прад ім на калені.

— Брэшаш, пся крэў твая! Вяжы яго!

— Пане! Яснавяльможны пане… — не ведаў, што тут казаці Тарас. Не чакаў, што гэтак знецяйку схопяць яго. — Змілуйся, паночак залаценькі… родненькі… Божа ж мой, Божухна!..

— Ціха!!

Толькі костачкі затрэскалі, як скруцілі яму рукі за спіною і звязалі яго вяроўкаю. Тады начальнік злез. Грубенькі і кароценькі, чырвоны, як яблычка, бліскаючы гузікамі, падышоў ён к Тарасу і тыцнуў пад нос кулаком у пярчатцы. Уеўся вачыма ў безабароннага чалавека, памаўчаў, набраў у грудзі паветра ды як рыкне:

— У Сібіры згнііеш! Здохнеш, як пёс, ля тачкі! Хаваеш панскіх цімакоў! Дзе яны, га! Кажы… дух з цябе выпру!!!

Схапіў Тараса абедзвюма рукамі за грудзі і калоціць на ўсю сілу. Маўчыць Тарас.

— Нічога не ведаю… Нічога не скажу… — гэтак часам прашэпча, але ізноў маўчыць, толькі галава барадатая баўтаецца, як той зачне трасці.

— А, так! Добра ж! — кінуў урэшце пан. — Добра ж, — кажа, — пабачым, як-то ты не ведаеш. Марш назад!

Скамандаваў, сеў на дрожкі, і ўсе ізноў пасыпалі за ім, пасунулі да хат.

«Не, не скажу, нізашто не скажу, — разважаў на дарозе Тарас. — Хоць да смерці хай заб’юць, але не прызнаюся». Як так падумаў, то і на сэрцы весялей зрабілася.

Тым часам прыехалі на вуліцу і сталі наўпроці Тарасавае хаты. Там ужо сабралася троху людзей; сярод баб і дзяцей выла і кідалася Тарасіха са сваім малым на ўлонні, але ж яе хапалі за рукі і гэтак не пушчалі. Зараз прыцягнулі на вуліцу вялікі зэдаль і побач з ім паставілі начоўкі з мочаным бярозавым галлём. Відаць, ужо раней аб гэтым паклапаціліся, пакуль вялі арыштаванага з поля. Як убачыў бедны Тарас, што яму рыхтуецца, аж задрыжаў, і рукі, ногі памлелі, хацеў нешта сказаць, дык язык не варочаецца. Прыхінуўся, звязаны, да хаты. І свет быў не міл, хоць сонейка свяціла. Меліся ўжо пачынаць, але начальнік стаў штось марудзіць, задумаўся. Народ і казакі ўзіраліся на пана, не ведаючы, аб чым так замаркоціўся.

Тады ён дастаў з кішэні кавалак паперы і алавік, сеў на прызбу і на калене напісаў запіску. Паклікаў на ківы аднаго казака і сказаў, аддаючы цыдулку:

— За гадзіну вярніся мне з папом.

Скочыў казак на каня, перавёў яго з размаху нагаём і закурыўся пылам-дымам, як шалёны.

Усе толькі думаюць, што гэта дзеецца.

А Тарас, з замлелымі рукамі, спусціўшы галаву, стаяў засмучоны і паважны, як быццам незацікаўлены. Толькі часам мімаволі дрыжала ў яго нешта на шчацэ, калі з хаты вылятала жончына і дзяцінае выццё і галасы дзесяцкіх; яны там то наўмысля голасна крычалі на бабу, то ціха, з пачуццём гаварылі з ёю.

Пан афіцэр сядзеў на прызбе, паліў цыгару і часамі ўсміхаўся сам сабе ў вусы. Адылі пачаў пісаць на прынесенай з гумна калодцы пратакол. Дзесяцкія расклалі на бярвенні свае хатылькі і елі хлеб з соллю. Час цягнуўся надта доўга.

## II

Цяжка вырвацца з ланцугоў цямноты!

Затарарахала ў капцы вуліцы брычка, і ўсе паглядзелі туды. Ехаў верхам казак-пасланец, а следам за ім на брычцы старэнькі поп. Зашавяліўся народ — троху з палягчэннем, што ўжо годзе чакаць, а найболей з трывогаю і няведаннем. Калі сівенькі войчанька ў чорнай старой расцы ўвайшоў у хату і зашуршаў па зямлі скурацянымі лапцікамі, а казак нёс за ім клунак з царкоўнымі паратамі, — тады сярод людзей павісла важкае чуццё нез’яснёнае нуды. Абраз гэты нагадваў ім хаўтуры.

Афіцэр аб нечым пашаптаўся са свяшчэннікам. Шмат хто з мужчын заўважыў, як войчанька непрыемна ўразіўся і намагаўся схаваць тую прыкрасць у сваіх глыбокіх, запалых вачах.

«Прысяга… прысяга…» — пайшло хадзіць страшнае слова па людзях.

— А кадзіла не забыліся ўзяць? — з цікаўнасцю звярнуўся пан да казака, калі той развінуў на лаўцы клунак.

— Так точна, вашскародзь, узялі, — адказаў казак.

— Кадзіла я прывёз, пане начальнік, бо гэтак папісалі, але яно тут не патрэбна, — мякка сказаў свяшчэннік афіцэру.

— Хай будзе, хай будзе! — запярэчыў яму пан, а нахіліўшыся, дадаў на вуха: — Гэта ім для ўражання.

Казакі высунулі стол на пасяродак хаты і накрылі яго чорным сукном. Соцкі падышоў з кадзілам к печы, выняў заслонку, выкаціў чапялою колькі вугалёў дый, абхухаўшы ад попелу, насыпаў іх у кадзіла і падаў яго свяшчэнніку. Той дастаў з кішэні ладану і сыпнуў на вугалі. Соцкі аддаліўся ізноў у парог і пачаў дзьмуць, бразгаючы ланцужкамі. Прыемны, але хаўтурны дымок расплываўся па хаце і кіраваў людзей на пакутныя думкі. Хто шавяліўся, хто заціх ад нейкага страху. Тарас збялеў, як крэйда, і глыбока дыхаў. Усялякія думкі роіліся ў галаве. Кавалкі

ўспамінаў, абломкі абразоў збіваліся ў нейкі балючы груд, у нейкі прыкры, беспарадачны громазд. Давілі галаву. Не было яснасці. Нешта карціла. Як зрабіць: так ці гэтак? Што такое? У чым справа?

Станавіліся ўваччу цімакі…

Увечары, калі ўсе людцы, павячэраўшы, спаць клаліся, калі з цёмнага поля плыў з веснавым ветрыкам арамат свежае зямліцы, калі жабы квохалі і кумкалі, як п’яныя, ад салодкасці, тады стары цімак цішком выхадзіў у сад пад яблыньку крывую, кідаўся на калені, вачыма на ўсход, сашчэпліваў рукі і маліўся — краіў сваё беднае сэрца. Маўчала і цямнела прыгожае веснавое неба, і дзядок драпаў свае худыя валасатыя грудзі. Падгледзеў тое маленне Тарас і не раз бачыў яго, ды нікому нічога не казаў, бо хто гэтага не ведае ці не разумее?

Сярэдні ў такі час ніяк не мог заснуць і варочаўся на палацях, то кашляў, то сціха ўздыхаў. Не любіла Тарасіха, што ён крэкча; а то яшчэ злезе з палацяў і пачне ўпоцемку шукаць карца на судніку, мацае, стукае, часам аберне што, — смага яго мучае.

А хлопец-цімак сядзіць, бывала, на вуліцы да позняе пары і ўсё на дудках адну песню грае і грае.

Усё тое станавілася Тарасу ўваччу.

А ўжо налажыў на сябе войчанька эпітрахіль, узяў крыж у рукі, крэкнуў, агледзеў людзей у хаце і пачаў казаць:

— Брація ў Хрысце! Клясціся страшна. А клясціся імем самога Бога, клясціся перад яго святым лікам, гэта… гэта… прысягацца, браткі, яшчэ страшней. Не дай Божа прысягацца без пільнае патрэбы ані вам, ані дзеткам вашым. Ды яшчэ найстрашней тое, што назваць і то язык мой не паварачваецца, гэта — прысяга няпраўдзівая… Найцяжэйшы, смяротны грэх, загуба душы і цела на гэтым і на тым свеце! Крый нас, Божа, засцеражы, забарані! Знацца, чалавек, калі ён фальшыва прысягае, то быццам гаворыць сабе і людзям: «Вось я не баюся Бога і стаўлюся з ім ароўні, як той пракляты сатана». Госпад Бог за гэтакую д’ябальскую гарэзасць зніштажае, сцірае з твару зямлі, як нягодную пылінку. Бо гэта, браткі, ёсць ашуканне Стварыцеля, юдзінае цалаванне. І за няпраўдзівую прысягу, — ці ж вы не ведаеце, — Бог карае чалавека яшчэ на гэтым свеце. Спамяніце, як загубіў сваю грэшную душу нябожчык Тодар Бычанок. За фальшывае прысяганне ён аслеп, а ўсе яго дзеткі няшчасныя паўміралі ў адзін год. А Клім Тамашонак? Здох у яго конь і карова, і сам уцалеў толькі за тое, што шчыра пакаяўся народу ў фальшывай кляцьбе. Брація! Страшна гэта, страшна, страшна!..

Скончыў войчанька, і тады пан афіцэр дадаў гэтак:

— Чуеце, хлопы! Тарас упэўнівае, што цімакоў у яго няма, што ён іх не хаваў і што са згону ўцёк так сабе, немаведама чаго. Дык вось, яшчэ ён мае час прызнацца. А не захоча, — хай прысягне і чакае кары боскай!

Усе зірнулі на Тараса.

На лобе ў яго заблішчаў драбнюсенькі пот. Вочы як утупіў, так і не падняў. Маўчаў, быццам занямеўшы. З закручанымі назад рукамі слабеў, слабеў, хіліў голаў і плечы. Хто б даў веры, што за пару гадзін так саслабне дужы мужчына?

— Развяжыце яго!

Страшное, напружанае і ад свядомасці, што не доўга так хістацца, адчайнае змаганне ахапіла земляроба. Не ведаў, што тут грэх і што не грэх.

— Не прысягай, браце! — шапнуў яму дзесяцкі, адкруціўшы з рук вяроўку.

І паляцела сэрца ў чалавека ўніз, уніз, як бы няма зямлі над нагамі. «Прызнаюся!» — надумаў і рашыўся.

У гэты міг нейкі другі дзесяцкі пільна паглядзеў яму ў вочы і нічагутка не сказаў.

І замоўчаў Тарас. З туманам уваччу, падняўшы для прысягі руку, падыходзіў к сталу, да чорнага сукна з металічным раскрыжованым Богам і святою кнігаю ў бліскучай цвёрдай вокладцы. І неўспадзеўкі скапыціўся і ледзь не заваліўся: аборына раскруцілася на назе, і ён другой нагою ступіў на яе канец.

— Скажу! — раптам прашавяліў ён вуснамі, але спазніўся: не пачуў яго ніхто, а войчанька сівы завёў ужо тое, што належыцца. Прысяга пачалася.

Прыціхла і пакарылася Тарасава душа.

Маўкліва стаялі цёмныя людцы. Скрозь адчыненае акно дыхаў цёплы вясновы ветрык, і верабейка ціўкаў на страсе. Сонейка, як заўсёды, гуляла на балонках. На падворку круціліся і порскалі ў саломцы парасяткі, а ля іх без клопату хадзілі куры.

## III

> Лепей пакланіцца ды ўцячы…

Так прысягнуў Тарас.

Увечары, калі ўсё троху супакоілася, прыйшлі з лесу цімакі. Даведаўшыся аб усім, пакланіліся яны ў ногі чалавеку, ды не пасмелі паглядзець яму ў вочы.

— Што ж, браткі, заставайцеся надалей, — казаў непаслухмяным языком да іх Тарас, — жывеце, бо цяпер жа ўсё роўна…

Ніякага адказу не далі на тое цімакі, — ні дзед, ні хлопец, ні сярэдні. Маўкліва пазбіралі сваё ўбогае рыззё, насунулі на плечы хатылі і пацімачылі скрозь цёмну ноч па глухой пушчы, у дальшы свет. Было ім часам жудка. Здавалася, што ззаду стаяць вочы… А ў тых вачах — боская кара за прысягу. І ўцякалі нешчаслівыя ад яшчэ болей нешчаслівага…

Уцякалі, спавітыя спрадвечнаю цямнотаю, спрадвечнымі забабонамі, вызваліцца ад якіх яшчэ не мелі сілы…

*1916*

## НА ЭТАПЕ

Увосень 1915 года, разам з іншымі салдатамі з розных запасных частак і шпіталяў, я варочаўся на фронт і ішоў пехатою, ад этапа да этапа, шмат вёрст глухімі палескімі дарогамі.

Вось падыходзілі мы аднойчы, яшчэ не позна вечарам, пад глухую, але досыць вялікую паляшуцкую вёску, дзе быў этап. Страшэнна змарыліся за дарогу і паціху дыбалі сярод убогай восеньскай прыроды.

Відаль была адна і тая ж самая за ўсю дарогу, звычайная, але прыгожая відаль: імглявае балотнае надвор'е, грудкі маркотнага алешніку з бакоў праезду — то ўздоўж ля рэчкі, то найгусцей ля дрэннага паломанага мосту… І так — уся дарога.

Можа, троху толькі чуецца, што пазіцыя падсунулася бліжэй да нас. Болей акопаў, хаця ж таксама абсыпаных, неакуратных; болей драцяных загародак; хаця ж таксама плеценых, ды недаплеценых, з каламі ўбітымі, ды абы-як, а найбольш кінутымі валяцца ў канаве.

Усё больш цямнее… Холад… Сыплюцца якіясь крупкі, белыя, крамяныя, рэдзенькія…

А-ткі этап!

У вёсцы каманду нашу, даўшы ёй павячэраць, развялі па хатах: куды — сем, куды — пяць, куды — колькі чалавек. Нас у хаце было трое: брухаты, чорненькі, як сажа, армянін-падпрапаршчык N-скага палка нашае дывізіі, потым малады і зусім наіўны хлапец-артылерыст у абшарпанай ля ботаў шынельцы, а трэці я.

Непрыветна спаткала нас старая гаспадыня, бабуля-качарга, відаць, зласлівая страшэнна, але маўклівая наўздзіў. А можа

быць, што я наконт яе і памыліўся, бо ўсё пасля здалося мне іначай… Сям'я была ў іх невялічкая, таксама трое: маці, сын і яго жонка-маладуха. Але спачатку, як мы прыйшлі, па хаце моўчкі соўгалася ў парозе, ад печы і да лавы, толькі гэтая маўклівая і негасцінная бабуля ў кажусе. На нашы наўмысна вясёлыя салдацкія вітанні (каб лягчэй убіцца ў ласку) яна, здаецца, нічога не адказала, а прабурчэла нездаволена, што ў іх самім і то няма дзе змясціцца, што ў іх няма святла, няма саломы на подсцілку, і яшчэ нешта бурчэла. З усяго было відаць, што старая мае вялікую ахвоту як-небудзь адбіць нас ад свае хаты. Папраўдзе, хата была дужа цесненькая і мізэрная. Але мы гэтак змардаваліся за дзень дарогі, на той макравай золкасці, на тых пясчаных ямках і карчах збоку гразкае дарогі, што быццам і не чулі яе бурчэння. Тады яна змірылася, змоўкла і некуды пайшла.

Не паспелі мы раскласці хатылі і закурыць, пасеўшы за сталом, як дзверы адчыніліся і паказаўся высокі, стройны мужчына-паляшук у сваёй народнай вопратцы. Ён смела і лёгка пераступіў парог і сказаў агулам да ўсіх сваім гордым, як мне здалося, голасам:

— Добры вечар, землякі!

Армянін наш гэтым часам запальваў, дастаўшы з свае торбы, свечку і ляпіў яе на крайчыку стальніцы, а маладзенькі артылерыст (родам ён быў з Валыні) сядзеў на лаўцы, што бліжэй ля полу, і памкнуўся быў прывітацца з чалавекам за руку… Гаспадар жа крута павярнуў направа і зручна і лоўка сеў на пол. Ён вольна і прыгожа паставіў нагу на суножку, дастаў з-за пояса капшук і пачаў, паглядаючы ў наш бок, закурваць.

Артылерыст няўзнаку адкінуўся назад і зараз жа сагнуўся засаджваць не прынятаю гаспадаром рукою вушкі ў халяву бота, а падпрапаршчык, як старшы, голасна і нібы безуважна да гаспадаровых манер, сказаў, картавячы сваёю армянскай вымовай:

— Можна пазнаць, што гаспадар!

— А ўгадалі, пане падпрапаршчык! — з спакойным гонарам азваўся паляшук і красаў агонь, хаця ж, прынамсі, з эканоміі мог прыкурыць у нас. Пусціўшы першы дым, ён дазволіў сабе больш уважна прыгледзецца, што мы за людзі.

Я заўважыў, як колка адпіхнуліся яго вочы ад сласналюбных армянінавых вачэй, як грэбліва ці то з якімсьці пахованым жалем скаўзанулі яны па абшарпанай артылерыставай шынельцы і пытліва, на адзін момант, спыніліся на мне.

Хаваючы свае курыльныя прылады ў невялічкі стракаценькі кісет, яшчэ новенькі і вышываны з любасцю жаночаю рукою,

паляшук ураніў на зямлю кнот. Вельмі крутка сагнуўся і падняў, а тады выпрастаўся ля полу на ўвесь рост…

Хацелася даўжэй любавацца на яго.

Быў ён стромкі, зграбны і самавіты. Тутэйшая паляшуцкая вопратка, гэтая шэра-бялявая світа, кароткая і гладка сцягненая ў паясе, як чаркеска, незвычайна хараша прыйшлася да яго.

* * *

Цераз колькі часу вярнулася гаспадарова маці, а з ёю прыйшла з работы і яго жонка. Яна была на падзёншчыне ў камендата: разам з іншымі маладзіцамі і дзяўчатамі вязала з камышу пукі пакрываць салдацкую страўню ці што яшчэ.

Жонка яго, пакуль не распранулася, выглядала звычайнай маладзіцай-паляшучкай. Пасля ж, як сям'я села вячэраць, а мы, начлежнікі, глядзелі на іх збоку, седзячы з двух бакоў на лавах і бавячыся курэннем і гутаркаю, я лепей разгледзеў Праксэду — такое было ў яе імя. Дужа доўгія і чорныя вейкі… Твар — авальны, тонкі і мяккі, толькі троху цьмяны, як ва ўсіх тутэйшых жанчын, але прыгожыя вейкі рабілі гэты твар надта цікавым і харошым. Карцела ўвесь час глядзець, як яна вячэрала і зрэдку ўскідала тымі чорнымі пушыстымі вейкамі, кладучы лыжку ці кусаючы хлеб. Мусіць, яна пачула, што мы на яе глядзім, а падпрапаршчык сапраўды так і прыліп да яе, гледзячы, і тады яна трошку пачырванела і ад непакою ажывілася. Гаспадар пазіраў у міску і пераказваў высокім, лішне дужым і паважным голасам аб розных непарадках у тутэйшым жыцці ад вайны і пастою этапнага каменданта. Артылерыст саромеўся глядзець так, як падпрапаршчык, але і ён уталопіўся ў харошую…

А мне было і прыемна, што ёсць такія жанчыны ў маім народзе, а разам і сорамна было за таварышаў, якія не маюць належнае павагі да тутэйшых людзей, быўшы самі нетутэйшымі і звыкшы на этапах быць лішне свавольнымі. І было трывожна за гаспадара: надта ўжо дзіўным часамі ён здаваўся… І надта ўжо падвышаным голасам гаманіў. Адна старая сядзела моўчкі і насупіўшыся, як была і раней, і не паказвала сваіх пачуццяў.

Гаспадар разгаманіўся, нават лішне стаў зюклівы. І паспеў нам пахваліцца, што ён таксама салдат, але дастаў чыстую адстаўку, бо ў яго перабіта ключыца. «Хто б мог падумаць?» — паглядзеў я на яго. Далей — што ён мае чатыры Георгіеўскія крыжы, поўны Георгіеўскі кавалер, — і гэта было для ўсіх нас яшчэ

большаю неспадзяванкаю. Ён жаліўся на няпраўду і непарадкі, бо вызначылі яму пенсію толькі другога разраду, а здольнасць працаваць ён страціў зусім. І я аж падумаў: «Няўжо так?» З гэтае жальбы ён перавёў гутарку на «кручкоў-гарадавых», якіх не бяруць на фронт, на марадзёраў-абознікаў, якія таксама «зажырэлі» ў тыле, і на рознае тылавое начальства, якое прыцясняла яго сям'ю, калі ён быў на вайне. Ён жаліўся, што яго жонку і матку ганялі на работы, і бывала, што з канём, і не давалі жыцця салдацкімі пастоямі… «А тым часам, вось, суседзька наш, князь Друцкі-Любецкі, мае колькі тысяч дзесяцін, ані яго людзей на работы бралі, ані яго коні ў фурманкі гналі», — з гневам і абурэннем вылічаў ён свае сялянскія крыўды.

І ў такі момант проста вочы мае расчыняліся на яго з радасным подзівам. Было дужа люба яго слухаць…

* * *

Яны павячэралі і рыхтаваліся спаць: маладуха слала пасцелі, а старая парадкавала ў печы і ля печы. Мяне цікавіла, ці будзе гаспадар маліцца нанач.

І што вы думаеце — ён не маліўся! Гэта быў для мяне рэдкі выпадак, што селянін клаўся спаць не маліўшыся.

Ды вось, калі мы ўдвух, я і артылерыст, ужо ляжалі на саломе сярод хаты, пакрыўшыся шынялямі, а падпрапаршчык расцягнуўся на лаўцы, курачы і жмурачы, як кот, вочы на босую Праксэду, — гаспадар загаварыў лішне нервова…

Я не чуў добра, з чаго ён прычапіўся да маральнага ўзроўню сучаснага свету, але мімаволі звярнуў увагу на яго ўзрушанасць у голасе, калі ён сказаў:

— Распуста цяпер такая, якую прадказалі пракокі на канец свету. У Маскоўшчыне і даўней праве было тое самае: кожная салдатка жыла ў распусце. Нашы белароскі, — сказаў ён, — як-та далікатнейшыя, змірнейшыя. Ды цяпер, як насунуў сюды фронт, і ў нас тое самае…

Мяне зацікавіла, што ён і нацыянальна адрознівае сябе, хоць і кажа белароскі, а не беларускі. Але прарокі і канец свету не вязаліся з тым поглядам, які ў мяне ўжо складаўся на яго.

Праксэда маўчала, і маці маўчала. Яны, калі ён казаў аб распусце, быццам прыціхлі, пакарыліся, цішэй сталі варушыцца — адна з падушкаю ў руках ля полу, другая з галлём ля печы.

Ён сядзеў на палу, марудна разуваўся, заняты сваімі неспакойнымі разважаннямі, і казаў, як мне здалося, з наўмыснаю

пэўнасцю — нібы загадзя ведаў, што яму не паверацць. І пэўнасць тая была нездаровая і паказвала яго ў людскіх вачах горшым, чым ён мог бы быць…

— Якраз на Вадохрышча ў 1914 годзе, — раптам пачаў ён апавядаць штосьці новае, — на Вадохрышча, позна ўвечары, у якой 12-й гадзіне ўночы, на шумнай — вядома, каляднай — вуліцы раптам зрабілася мёртва-ціха. Я з сватам толькі што вярнуўся дамоў. Што такое? Выйшлі на двор — аж там ві-і-ідна-відна, святлей як удзень. Спалохаліся мы, выбеглі з двара на вуліцу. І бачым: на небе, з усходу на захад, у белым-белым, светлым ззянні, але як у тумане, ідуць, ідуць, ідуць… У каго ў руцэ шабля, у каго стрэльба ці якая іншая зброя, кулямёты на каточках цягнуць… І напіс там, дзе прайшлі, вялікімі чырвонымі, аж гарацць, літарамі — гады: 1914, 1915, 1916… З'явяцца літары і змеркнуць патроху, з'явяцца і змеркнуць… Не паспеў я добра прыгледзецца, як раптам жа ўсё — шух! Шухнула, і зноў цёмна…

Як ён перастаў казаць, уся хата маўчала, і ў цямноце (бо святло ўжо пагасілі) толькі папяроса ў падпрапаршчыка зрэдку пыхала чырвоным бліскам. Усе маўчалі, аж прыкра было. І я думаў: нашто ён сплёў гэты пляцень? Не проста ж так сабе, а з нейкаю мэтаю? А з якою? Хоча страхамі адвярнуць нас ад распусты, абараніць сваю жонку? Не верыць жа ён сам у сваю байку… «А можа, ты кантужаны і пляцеш цяпер плятні ад хворага розуму, паўчыўшыся троху некалі ў царкоўнапрыходскай школе?» — хацелася мне спытацца ў яго, але далікатнасць не дазваляла. Сусед мой, артылерыст, уздыхнуў (ці то пазяхнуў) і ціханька, неўспадзеўкі для мяне затросся дробнаю дрыготкаю — звычайна так бывае з нервовымі ці дужа змучанымі людзьмі.

— Давольна та сказываць бабушкіны сказкі, дюша мой! — сказаў падпрапаршчык, шумна адвярнуўся да сценкі, закрактаў, засоп…

Я чакаў, што скажа на гэта гаспадар. Доўга чакаў, але ён змоўк. Я таксама не адважыўся парушаць цішыню, і ўся хата заснула — у цямноце, пад свіст восеннага ветру за сценамі і ў коміне.

* * *

Уранні, яшчэ цёмненька, мы выйшлі з хаты на зборны пункт і зараз рушылі ў дарогу. Так што я не паспеў ужо прыгледзецца да

гаспадара на дзённым святле ці прыстаць да яго з распытваннямі. Толькі мімаходам, ішоўшы на вуліцу міма павеці, заўважыў я, што там, пад павеццю, дзіўны гэты паляшук прыглушаным голасам, халяруючы, зусім не такі, якім здаўся мне спачатку, дапякаў маладую жонку каля церніцы з лёнам за нейкую памылку ў рабоце, а можа, за што іншае…

І цяпер, чуючы яго раздражнёны голас, я падумаў, што чалавек гэты страшэнна зайздросны да свае жонкі, а можа, і мучаецца за нейкія яе памылкі за час, калі ён быў на фронце, а ў хаце ў іх начавалі такія ж пераходныя салдаты, як і мы.

***1916***

## ГАБРЫЕЛЕВЫ ПРЫСАДЫ

*Брату Гурыку прысвячаю*[1]

Дзён пяць ужо дрэннае надвор’е.

Цяжкія чорна-сівыя хмары навіслі над зямлёю, пахавалі горы, зліліся з мокрым лесам і то там, то тут мутнеюць, палавеюць і сыплюць пылам драбнюсенькіх капачак.

Часам дужэй падзьме знекуль вецер; раздзярэ мутную дзяругу хмар і патурыць па небе шкумацце аблок. Дажджавы туман курыцца далёка-далёка ўскрай неба, а навакол пасвятлела; уцякаючы да гор, пашуршэў астатні раз дожджык па галлю, яно зашумацела, сціхла — і паказаліся ніжэйшыя горы, зялёныя там, дзе лес, і шэрыя, скалістыя, дзе няма яго; а макушка гары-асілка Бештау[2] ўся ў шпаркіх лятучых дымных аблачынках і патроху раскутваецца з іх.

Недалёчка ад сонца відаць ужо сіняя палянка чыстага неба, атачоная празрыстымі, белымі краямі парваных хмар.

Шумяць кляны. Стройныя елкі няўважна і супакойна ледзь калыхнуцца зялёнымі лапкамі.

Ізноў цямнеюць далі, сінеюць і туманяцца горы; ізноў збіраюцца дымна-сівыя грамады, хаваючы неба; ізноў палавеюць яны — і пасыплецца, як скрозь сіта, драбнюсенькае мокрае курыва.

Гэтае надвор’е канца курортнага сезону ўсё пільней кіруе думкі да абразоў роднага краю.

Сумна мне. Хворы я…

Прыйшоў вялікі час, і вялікай працы чакае краіна.

Мала я жыў, мала зрабіў. Хворы, капаюся ў мінулым, падводжу ўбогія рахункі. Не ведаю, куды павядуць мяне мае жыццёвыя дарогі…

І ўзышло на думку: нябожчык стары Габрыель і яго прысады…

Прах яго, пэўна, перасыпаўся са жвірам, а магільны курганок згладзіўся. Пройдзе яшчэ колькі дзесяткаў гадоў, і падарожны чалавек не запытаецца, чаму прыгожыя прысады на N-скім шляху завуцца Габрыелевымі, які невядомы Габрыель даў ім сваё імя.

Быў грэшнік, баламут, п’яніца, картэўнік і гуляка. Яшчэ змалку атручаў жыццё сваёй ціхай, добрай матцы і ганарліваму, нарaвістаму бацьку. Вучыўся і не давучыўся. Хацеў прадаць душу чорту, але чорт не прыйшоў браць яе, дык пакінуў верыць Богу і ксяндзу. Загубіў харошую кузынку: з’ехала ў свет немаведама куды і, кажуць, пайшла там у манашкі. Рабіў самагубства, але дактары ўратавалі яго. Жаніўшыся з дачкою прыезджага аднекуль з свету аднадворца-старавера, паспакайнеў і заняўся быў грамадскаю справаю: пасварыўся з начальствам, панствам і духавенствам, навёў страху на гандляроў; а сялян замуштраваў, ганяючы па розных «прысутствах», шукаючы ім праўды, і кончыў тым, што пачаў страшэнна піць…

Мімаезны гандляр-перакупнік, смаленскі рызнік (па-тутэйшаму трапашнік), лясны купец, прыблудны басяк, панскі ляснік і свецкі паніч — усе каму не лень пілі з дзівачным Габрыелем. Ён апух, без пары пастарэў, зрабіўся лысы. З жонкаю і дзецьмі — а дзеці ж падрасталі — рэдка размаўляў па-людску ў цвярозасці, а не даваў ім супакою прычэпкамі, калі дужа ўпіваўся. Пасля хлопцы-шахцёры на станцыі наўчылі яго, старога, гуляць у карты, і зрабілася яго хатнім яшчэ горшае пекла: голад і ўсякія нястаткі, а падчас каіты — мукі ад яго недатклівасці, раздражнёнасці і проста хваробы. Набліжалася старасць, і Габрыель троху-патроху зводзіўся дашчэнту… І садзіць бярозавыя прысады на шляху таксама губіла ўжо для яго свой ранейшы сэнс, пераходзячы ў звычайную прызвычку старога дзівака…

І вось Габрыеля даўно-даўно ўжо няма; збяднелы, выкарміў быка на продаж і вёў яго на вяроўцы на кірмаш — бык забіў яго на дарозе. І жонку яго, пакутніцу Габрыеліху, «сталаверку», даўно пахавалі. Кавалак зямлі і жылы будынак пад саламянаю, зялёнаю ад моху, стрэшкаю адышоў да N-скага ксяндза, калішняга апекуна над двума Габрыелевымі сынамі, што цяпер

бадзяюцца дзесь па свеце, і трапіў такім чынам у практычныя і надта практычныя рукі Ісака Скорабагатага з N. Новы жыхар жыве і цяпер у гэтым доме, не папраўляючы яго. Не падумае паправіць Ісак Скорабагаты і пазрытыя могілкі, што не ўваходзіць у ўмову аб пасэсіі з панам ксяндзом і падстаўнікам. Не едуць сыны, службовыя людзі, з чужыны, і толькі бярозавыя прысады шумяць маркотную памяць свайму пасадніку вечнай памяці нябожчыку Габрыелю.

* * *

У малых дзіцячых гадах хварэў на нейкую цяжкую хваробу маленькі Габрусік. Пасля пералому да лепшання, перад сонечным ранням расплюшчыў ён апухлыя павечкі, і вока яго пала ўніз, на падлогу, на каравую, каляную анучку. Нянька сушыла і кінула, пабегшы да яго маленькага брацiка. І каравая анучка была заліта першым залатым снапом сонца. Габрусік задрамаў у томнай, хваравітай дрыгоце і сасніў нешта дзіўнае. Не быў гэта сон у звычайным разуменні, бо, здаецца, ніводнае пачуццё, ні паасобку, ані разам, не мела тут удзелу, а было нейкае асаблівае пачуццё ўсяго «я», усяе душы, усяго цела. Сніў… не, не сніў, а ўсёю істотаю чуў нешта аграмаднае, масіўнае і разам каравае, з гострымі, колкімі, цвёрдымі, як скаліна, краямі. І яно складала ўвесь свет. Быў часткаю яго… Яно было ўва ўсім яго целе. І наўкола ва ўсякай істоце… Нейкі жах ахопліваў ад таго, што чуў у сабе гэтую каравую, чорна-бліскучую грамадзіну. І вось, з невыслоўнай салодкасцю, момантамі кароткімі і бязмернымі, пачуваў, як з яе, бязвобразнае і безабразнае, неспадзявана вытвараюцца простыя, стройныя лініі, гладка выструганыя сцены, нешта гарманічнае, музыкальнае, харошае і прыемнае незвычайна. І не… не ў лініях, гладкіх баках і формах вытваралася гэта гармонія, не вачмі бачылася, не дотыкам чулася яна, а ўсёю яго істотаю, невыказным чуццём розуму і ўсяго цела. Моманты кароткія і бязмерныя… І знікае гармонія, ізноў жахае каравае, чорнае і аграмаднае, усясветнае. А найсаладзейшая салодкасць разліваецца ў целе, калі на моманцік прымае каравае стройнасць жаданую… І ўрэшце знікла чорная грамада; рассыпалася мільёнамі іскрачак у бяздонні, — і, напалоханы і радасны, чуючы, як страшна тыхае сэрца, прахапіўся ён да сапраўднасці…

* * *

Прысады свае пачаў садзіць ён з малой прыгоды.

Ішоў аднойчы вясною ўночы па шляху і неспадзявана напаў на беднага селяніна над спілаванаю бярозаю. На другі дзень ён разам з гэтым бедным чалавекам высадзіў бярозкамі з свайго бярэзнічку цэлы канец старога шляху, дзе прысады даўным-даўно былі звёўшыся…

А пасля садзіў адзін, штогоду…

— Усё ж роўна ўсохнуць. Каровы высмыгаюць, — казаў мімаезны чалавек, асцярожна смеючыся і ветліва, ды з аглядкаю вітаючы пракуднага Габрыеля, — гэта старым людзём ці асілкам неяк здалося, — дадаваў ён.

— І мы ўсохнем. І нас чэрві высмыгаюць, — непрыхільна адказваў яму, хмурачы бровы, стары дзівак.

Мімаезны чалавек нешта мармытаў і рупіўся зручней сцебануць брухатую сваю кабылу.

Шмат усыхала дрэўцаў. Злоснікі псавалі іх. П’яныя кірмашоўцы вываравалі калёсамі, — Габрыель садзіў ізноў.

Ішоў час — і выраслі яны. Далей пад N. рэдка-рэдка дзе стаіць старая кацярынінская бяроза[3], і ўжо ўзімку высаджваюць там дарогу яловаю лапкаю. Будзённыя бедныя людзі звялі красу на свае патрэбы. А Габрыелевы прысады выраслі, сплялі ўгары густа-густа вецце сваё; вабяць у прыгожую вясну вока людское, улетку даюць падарожнікам і старцам прыемную прахалоду — і шумяць-шумяць песню вечнасці… А ўзімку, як зачарованыя, белыя, змёрзлыя, у бліскучае серабро ўвабраныя, паказваюць дарогу да дому беднаму коніку, каб вёз п’янага гаспадара ад лютае смертухны.

* * *

Восень. Апусцеў стары парк. Нудна шуршыць лісцё па алейках. Жоўтае, пасохлае, куды вецер падзьме, пакутна і безнадзейна ляціць яно. Шэрыя хмары збіраюцца. Вецер робіцца маркотным.

І ў тон засмучонай восені задрыжэла і заварушылася апалым лістам у глыбокіх сховах душы.

Лячу думкаю да краю роднага, да прысадаў тых.

За тысячы кіламетраў бачу іх…

Абсыпалася пажоўклае лісце, праляцелі на поўдзень даўным-даўно апошнія журавы, восеньскі вецер хістае галінкі ў прысадах.

Ціха і глуха.

Хіба часам галодная варона каркне там. Хіба часам няшчасны бедны чалавек прапляцецца на разбітых калёсах, на худой клячы па каменнай грудзе або глыбокай гразі, маючы за пазухаю паперу ад начальства аб забітым на вайне сыне. Абголеныя восенню прысады лішні раз падгледзяць тады пахаваныя чалавечыя слёзы.

Многа бачылі яны на вяку сваім і найболей у завірушныя апошнія часы. І ўсё маўкліва прымаюць на сховы, пакуль прыйдзе пясняр, распытаецца ў іх і песню зложыць.

А можа, у цёмную восеньскую ночку прыедзе гаротнік, згубіўшы лепшае сваё, і як жыццё ссекла радасць яму, так ссячэ і ён тую бярозку ў прысадах і знішчыць частку вечнае думкі і хараства.

Прысады, прысады жыцця майго! Дзе вы?

*1917*

## СТРАШНАЯ МУЗЫКАВА ПЕСНЯ

Дзеялася тое за прыгонам.

Быў у таго пана, акрутнага і злога пана Дастаеўскага, малады музыка.

Звалі яго Арцём Скамарох.

За тое — Скамарох, што ўвесь род іх — скамарохі. Бацька, дзед і прадзед умелі іграць на скрыпцы і былі скамарохамі для ўсяе акругі.

Ніводнае вяселле без іх не абышлося. Спачатку дзед іграў, даючы прыклады сыну. Потым бацька замяніў, водзячы з сабою па ігрышчах і кірмашах, дзе трэба і не трэба, свайго малога Арцёмку.

Але вось памёр дзед, памёр і бацька з маткаю. Застаўся дзяцюк адзін, сірата. Тады пан Дастаеўскі ўзяў яго да сябе ў двор.

Іграць жа хлопец умеў так, што бацьку і дзеда перайшоў. Не простыя дастаў ад долі пальцы.

Ды толькі меў і свае гонары Арцём. Вядома, наш брат-мужык, панскі падданы, а ў ім гонар быў зусім нянаскі. Такі ганарлівы быў хлапец, што нават пан сцярогся рабіць яму якую крыўду. Такі ганарлівы: як не захоча іграць, то ці ўпрашай яго, ці пагражай яму, — не стане іграць, дый годзе!

І вось аднойчы прывёз пан Дастаеўскі з Варшавы новую палюбоўніцу-палячку.

Палячка тая вазьмі дый улюбіся ў нашага музыку. Узяла на вока простага дзецюка.

Каб не быў такі ганарлівы, то рэч у той мінулы час звычайная. Пан бавіцца з палюбоўніцай, а палюбоўніца яшчэ каго ў сэрцы мае.

Аж тут выйшла цэлая гісторыя. Арцём дзяцюк быў гэткі: як не любіў, то і прыкідацца не хацеў…

Выедзе пан Дастаеўскі да Варшавы, або ў госці да суседзяў, або на ловы ў пушчу, — палячка толькі таго і чакае. Гукне мальца да сябе і просіць, каб ёй іграў.

Пакуль Арцём не ведаў, у чым справа, іграў палячцы розныя наскія песні, да якіх мела яна вялікую цікавасць, бо ніколі раней не чула іх. Нават гаманіць па-наску трохі нялася, каб, знацца, лягчэй апанаваць яго.

Але, як зразумеў музыка, што не простым вокам глядзіць на яго панская палюбоўніца, што нездарма распушчае перад ім свае даўжэнныя, чарнюсенькія, быццам вугалле, косы, што не так сабе хмурыць свае бровы, што не абы-чаго ў яе на бел-румяным твары якоесь нецярплівае, капрызнае ламанне, — як заўважыў усё гэта, страціў ахвоту іграць ёй песні.

А дзяўчына бачыць, што хлопец ганарлівы, — і пэўнасць страціла сваю.

Вядома, як жанчына страціць пэўнасць, то робіцца як бы якая непрытомная. То плача, то смяецца, то злуе-халяруе, нічога ў свеце ёй тады ўжо не смакуе, і кожны лёгка заўважыць яе каханне.

Палячка была з людзьмі абыходлівая, і шмат хто шкадаваў яе, бо ведама ж: і ў панскай палюбоўніцы ёсць чалавечае сэрца і яна ж на сваім хлебе — чалавек.

Шкадуюць людзі палячку, наракаюць на Арцёма за ганарлівую натуру.

А музыку нашаму дадзела тое горш за рэдзьку. І сам ён шкадаваў прыгожую палячку, ды раз на злосць усім сказаў камусьці гэтак: «Не хачу за панам падбіраць… Няхай яна сабе другога пашукае!»

Злыя людзі вазьмі і дакажы палячцы.

От жа выйшла гісторыя, зусім, як у той Бібліі аб Язэпе тым Прыгожым і начальнікавай жонцы[1].

Прыехаў пан, палячка з роспачы і назводзіла яму на беднага музыку. «Так і так, — кажа, — лез гэты хамуйла да мае красы».

Але пан сцяміў, што справа, мабыць, трохі іначай выглядае.

Гукнуў ён да сябе Арцёма, запёрся з ім вока на вока ў кабінеце і ну яго пытаць:

— Скажы, хаме, чым ты прывабіў да сябе маю палячку?

Маўчыць Арцём. І што тут скажаш?

— Хочаш ты, хаме, з ёю ажаніцца? — ізноў пытаецца ў яго пан.

— Нізашта ў свеце, найласкавейшы пане, — цвёрда адказвае Арцём.

— Цо ж я бэндэ з вамі робіл? — як бы раіцца з ім пан: — Іграў ты ёй хамскія песні?

— Іграў, паночку!

— То выбірай, галгане: або жаніся з ёю і сядай на хлопскую там гаспадарку, або маеш іграць ёй што хоцькі… адну ноч?

— Жаніцца — ніколі не жанюся, а іграць — на тое мне і пальцы служаць.

— Добжэ мувіш, хаме, — пасміхнуўся пан, — паментай жэ о тэм!

А за колькі дзён здзеялася неспадзейнае няшчасце: захварэла палячка і памёрла…

Мабыць, паднёс атруты пан.

Прыбралі яе на той свет у багатыя панскія ўборы, паклалі ў вялікай зале на чорны стол, запалілі свечкі…

Наступіла ноч, кліча пан музыку са скрыпкаю.

— Паментаеш, хаме, цо мне мувіл?

— Памятаю, найласкавейшы пане.

— Ну, то ідзі іграй цэлую ночку нябожчыцы, каб яе душа не вельмі сумавала па гэтым марным свеце…

Спалохаўся наш музыка, думае: жартуе пан… Не!

— Ідзі, ідзі, — кажа, — галгане, такая ж была ў нас умова.

Пайшоў Арцём у залу, і зачынілі яго там аднаго з палячкаю.

Жудасць ахапіла людзей, вялікі жаль мелі да музыкі і баяліся, што ў той зале пры нябожчыцы прыйшла-ткі на яго загуба.

Спаміналі цяпер розныя страшныя пераказы: як уставалі памершыя з труны, каб загубіць таго, каго ў жыцці дужа любілі.

Сталі нават шаптаць, што палячка была чараўніца, старая кракаўская ведзьма, якая ўдалася прыгожай панскай палюбоўніцай, каб загубіць нашага музыку.

Казалі нават, што і сам пан Дастаеўскі спутаўся з чарцямі, якім даўно карціла звесці са свету слаўнага музыку. Вядома,

чарцям няма спакою ад добрага музыкі, бо ён сваім харошым граннем робіць людзей лепшымі, верне іх на добрыя думкі.

А было ўсё гэта пад канец лета, калі з надыходам восені наступае самая вядзьмацкая пара.

Што ж тым часам рабіў Арцём?

Прыйшоў ён да труны, памаліўся за ўмершую душу і ўзяўся настрайваць сваю старую скрыпку.

Тады адчыніў напята акно і даў першы гук на струнах…

Як нейкі боль, як нейкі стогн, раздаўся гук у садзе, сярод адцвіўшых красак, сярод агорнутых цішою ночкі дрэў, пачуўся ён у сэрцах панскай чэлядзі і даляцеў да пана, што сядзеў у кабінеце пры чарцы старога віна.

Усё прыслухала: што будзе іграць музыка нябожчыцы на развітанне?

Памаўчаў трохі музыка і паволі, сціха, маркотна зайграў «Вечную памяць».

Дужэлі гукі, раслі, і вось здавалася, што цэлы хор папоў адпявае чалавека.

Яшчэ дужэйшымі рабіліся гукі, і дзіўна было ведаць, што там усяго толькі адна скрыпка так пяе…

Не хор папоў пяяў там, а быццам тысячы панурых галасоў зліліся ў адным хаўтурным гімне.

Слухаючым тую песню жаль было марнай чалавечай долі, мізэрнымі былі раскошы гэтага свету, нікчэмнымі нашыя сваркі і звадкі: «Суета сует и всяческая суета», «Прах еси и прахом отыдеши»[2], — пяялася ў той песні.

Але скончыў музыка маліцца, памаўчаў трохі і зайграў штось іншае. Трудна было адразу ўхапіць, аб чым гаворыць яго скрыпка, але чулася нешта знаёмае, даўна вядомае, даўна перажытае. Як бы там лес шуміць, як бы завіруха ў полі гудзіць, ізноў жа як бы жнеі пяюць. Зайграў, значыцца, музыка аб штодзённым жыцці чалавека. Кашаль б’е старога дзеда, гоман якісь людскі, як бы сварка бабская, кугаканне дзяцінае… І такое выразнае, дарма што скрыпка, быццам сапраўды хворае ці галоднае дзіцятка заходзіцца. Так плача, так плача, што вытрываць аж трудна, хочацца бегчы да яго, каб суняць тое плаканне. І чуецца, што сунімае матка: «А-а, а-а, малое! а-а, а-а, беднае!» Патрошку сціхае дзіця, калыша яго матка, скрыпаюць пачопкі цераз даўгую ночачку, скрыпаюць і скрыпаюць як бы вось тут во, каля цябе, дарма што гэта адно скрыпка даказвае пад музыкавымі пальцамі. Звычайныя песні іграў музыка, але слухаў бы яго, слухаў без канца-краю.

Не плач, маё дзіцятка, а цыц, маё родна.
Вунь там войт ідзець,
На татку, на мамку ён бізун нясець,
У тым у бізуне скураты увіты,
На тым на бізуне слёзкі паліты…

І шмат чаго іграў музыка аб сваёй нядолі змалку дзён.

І так, песня за песняй, сыграў усё жыццё сваё.

Цёмная ноч стаяла на дварэ, а як іграў, то быццам расплывалася цямнота: то жніво перад вачмі, жнеі пяюць, то ў сенажацях косы звоняць, то ў супрадках вераценцы трынкаюць, то на ігрышчы «Лявоніху» хлопцы з дзеўкамі скачуць.

І нікому не здавалася дзіўным, што ля труны нябожчыцы іграе ён не толькі хаўтурнае, але і штодзённае, бо ўсё пакаралася пальцам музыкавым; усё было толькі хараша — ці яно святое, ці грэшнае.

Аж так і да паўночы падышло.

Дайшоў музыка да тае нешчаслівае часіны, як іграў палячцы наскія песні.

Трубіць паляўнічы рог, гаўкаюць ганчакі, — гэта, значыцца, выязджае пан на ловы.

Смяецца палячка, як бы званочак сярэбраны, — гэта яна цешыцца, што Арцём да яе ідзе. Пакацілася ад скрыпкі смутная жніўная песня, гэта ён пачаў іграць ёй наскія песні.

Песню за песняй іграе скрыпка, і такая жальба, такая жуда чалавечае душы была ў тым гранні, што сэрца ад болю ўсім сціскалася, белы свет не мілы рабіўся, жадалася чагось няведамага, чаму ніколі на свеце не бываць. Разліваецца ў слёзах скрыпка, плача аб марнасці таго свету, дзе адзін любіць, а другі — не. Так іграў.

Але вось перабіваецца іграннe на новы тон. Выплывае на паверх магутны гук, горды, неперaможны, пад якім ледзьве чуваць і тыя песні жніўныя, і тое мучанне паляччына. Зайграў Арцём аб сваёй гордай, адзінокай душы, зайграў аб сваёй музыцы. Грыміць няземны гімн, аж увесь свет ад тых гукаў дрыжыць… Па-над усім вышэй стаіць музыкаў гімн, няма той сілы ў свеце, якая б яго сходала.

Раптам зарагатала з кабінета панскага нешта нялюдскае, дзікое… Пан рагоча, вые, смяецца! А музыкаў гімн, не зважаючы, плыве шырокай хваляю ў паветры цёмнае начы, як тая магутная бурлівая рака ў паводкі.

Сціхла рагатанне, і сярод музыкі раптоўна: бух!..

Сціхла і музыка. Бягуць людцы да пана ў кабінет, глядзяць: аж ён ляжыць з разбітымі мазгамі, пісталет турэцкі пры ім уронены ляжыць.

Здужала яго нячыстую сілу Арцёмава ігранне, — застрэліўся наш пан!

Пахавалі яго з палячкаю разам; Арцёма ж болей мы не бачылі: сышоў ад нас у свет, няведама куды.

Вось які быў калісь музыка, вось якое-што часам дзеялася за прыгонам.

*1921*

## ФАНТАЗІЯ

Клубок Зямлі, агорнуты крывавым туманом і згараючы ў ім, рабіў свой вечны шлях у сістэме Сонца.

Найгусцей прыпаў туман на прасторы Беларусі.

Пад гулкі грукат гармат, траскатанне стрэльбаў і кулямётаў, пры водбліску страшных пажарышчаў раздаваліся дзікія воплі і балючыя стагнанні забіваных, рэзаных, паміраючых з голаду людзей.

Могілкі і турмы перапоўніліся. Грэх спавіў кожнае сэрца. Крывёю і слязьмі пазаплывалі вочы.

Сцені памёршых продкаў у смяротнай нудзе стаялі над распятай краінай і адварачываліся ад сваіх затопленых смуроднаю запечанай крывёй могілак.

З расцерзаным да краю сэрцам вялікага гуманіста вылез у пацемках з няведамай патомкам ямы панураны Францыск Скарына і падаўся ў начавым паветры да свайго радзімага Полацка.

Даўгія, шырокія полы мантыі доктара лекарскіх і вызваленых навук развяваліся ад ветру, а яркі арэол наўкола сумнай галавы то разгараўся, то змяркаў.

Пралятаючы над слаба асвятлёным дзеля боязні аэрапланаў Менскам, сцень доктара шукаў вачмі таго шпіталя, дзе ляжаў пры смерці хворы з галадухі Янка Купала[1].

Пабачыўшы над цёмным домам ззячую кружэлку арэолу песняра, сцень спусціўся ў ціхую палату і стаў над сваім нядужым сябрам.

— Як маешся, мой браце? — без слоў спытаўся доктар у стагнаўшага паэта.

Хворы з трудом заварушыўся і сумна паглядзеў на гуманіста.

— Не мукі цела страшны, — прачытаў Францыск Скарына ў кроткіх галубых вачах, — баліць душа.

— Лячу ў Полацак, хачу даведацца, што цяпер там? — сказаў цераз невялікае маўчанне доктар.

— Скрозь адно… Што тут, што ў Вільні, што ў Смаленску і скрозь на Бацькаўшчыне мілай… — пакратаў перасохшымі ад смагі вустамі паэт.

Доктар засмучона схіліўся галавою да грудзей і доўга так стаяў.

— На сход! — сказаў у непрытомнасці Купала і збудзіў ад чорных дум паніклы сцень.

— Каму і на які? — азваўся рэхам сцень. Памаўчаў і прамовіў горка: — Магутны кліч твой раздаецца ўжо даўно — і скрозь, ад краю ў край, па Беларусі… А шмат з'явілася? Народ за доўгія вякі няволі аглох і зрабіўся нячулым.

— Што рабіць? — ізноў, як у гарачцы, застагнаў Купала.

— Што рабіць? — перапытаўся доктар, — тое, што ты і робіш. Але каб зразумеў народ наш паспаліты патрэбу сходу, ці не сабрацца спачатку толькі нам, будзіўшым яго на дабро ўсе вякі і кожны час?

— Добра… — прашаптаў паэт і сціх.

Сцень вылецеў з палаты і не падаўся далей к Полацку, а павярнуў назад к Ашмяншчыне.

Здалёку ўвідзеў ён на могілцы ў Жупранах вялікі яркі арэол народнага баяна.

Францыск Скарына спусціўся ля касцёла і чыркнуўся няўмысля палою мантыі аб спячага п'янога легіянера.

— Пся крэў! Холера! Быдло бялорускe! — закрычаў патурбаваны доктарам жандар, а яму рэхам адазваўся з-пад зямлі жудасна-балючы стогн бацькі адраджэння.

— Не стагні, мой браце любы! Барзджэй бяры ты сваю «Дудку» й «Смык»[2], пойдзем на сход склікаць! — сказаў яму заместа прывітання доктар.

З магілы ўзняўся сцень вусатай постаці.

— Засіпла мая дудка, а смык не маець скрыпкі… — безнадзейна пажаліўся Багушэвіч і дадаў, падумаўшы аб сваёй музе:

> Каб ты так іграла,
> Каб немарасць брала!..[3]

— Твая «Дудка» грыміць, мой браце, на ўвесь край, а да «Смыка» дарабіла ж «Скрыпку» Цётка[4]. Пойдзем зараз у

Лідчыну на той вясковы могільнік, пабудзім на сход найперш яе, бо гэтая руплівая сяброўка склікаць умее найлепш за ўсіх.

І два сцені паляцелі побач у Лідчыну.

Поўная запалу і энергіі, хаця худзенькая і бледная, ляцела ўжо сама да іх пяснярка і паэтычна, ціханька пяяла ў адказ на свае думкі:

Можа, хто з дзетак скруце жалейку,
Унучку паломанай ліры.
І так заіграе, што ўсенька зямелька
Пачуе мой одгалас шчыры…[5]

— Ах, браточкі-галубочкі! — загаманіла яна без дальніх слоў. — Трэба так: адзін на ўсход, другі на захад, а я з тым-сім паклічу тых, што спачываюць на чужыне, — і зараз паняслася.

Неўзабаве сцені памёршых і духі жывых сцякаліся на свой Парнас з усіх бакоў.

Пакашліваючы, брыў з далёкай Ялты калматабровы Максім Багдановіч. Спяшаўся, як заўсёды, з Галіцыі, з сваей магілы ў Закапаным, запыханы Іван Луцкевіч. Глабаўся з-пад груду трупаў брацкай магілы ў Коўне Лявон Гмырак. Шыбка йшоў у хутры і ў зімовай сібірскай шапцы з Кракава даўгі Алесь Гарун. Важна і спакойна пасуваўся з Меншчыны пан Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Як непрытомны прыбліжаўся з Кіева празрыста-белы Сяргей Палуян з сінім шнурам на шыі… Прысадзіста калдыбаў развaжны каранасты Карусь Каганец. Там ішлі яшчэ й другія.

А клубок Зямлі, згараючы ў крывавым тумане, ляцеў а ляцеў сваім вечным шляхам, як бы нічога не было.

*[1921]*

## СУПАКОЙ

Пан Сташэўскі быў меланхолік, і таму тапіў сваю нуду ў гарэлцы, пасля чаго яму лягчэла.

Найгоршы настрой бываў у яго перад запоем. Тады пан Сташэўскі найвастрэй адчуваў, што ён не толькі расійскі ўрадовец, але таксама — віленскі паляк, шляхціц з роду ў род, значыцца, павінен штось рабіць на карысць укаханае мацеры Польшчы.

Тады ён за абедам пачынаў лаяць папоў і ўсіх схізматыкаў, коса пазіраючы ў бок свае праваслаўнае жонкі, а ўрэшце з невінаватым зрокам пытаўся ў яе па-польску, хоць зазвычай размаўлялі па-расійску:

— Поведзь мне, кохана Лёлю, чы то ўніятэм был твуй дзед чы прадзед?

— Яшчэ дзед быў уніятам, — з ціхаю пакораю адказвала жонка.

— Чэму ж то он пшынял вяру ад казакув, а не ўцалілся да найсвянтшэго папежа?

— Або я ведаю? — яшчэ цішэй прамаўляла тады яна.

— Ненавідза схізматыкув!! — раптам стукаў пан Сташэўскі лыжкаю аб брыж талеркі і ў страшэннай злосці падымаўся і выходзіў з застолля.

Ён накідаў пальто на плечы, моцна бразгаў дзвярмі і выходзіў з дому. Паліто апранаў у рукавы на сходах, а зашпільваўся выходзячы на вуліцу.

Прападаў ён на цэлы дзень і позны вечар.

* * *

Пані Сташэўская з той жа ціхаю пакораю супакойвала дзяцей: Ядзеньку, старэйшага — Казю і самага меншага — Мечыка, — смялей клала ім на талеркі недаедзеныя мужам кавалкі мяса і задумліва глядзела на іх, сама не маючы апетыту. Хлопчыкі прагавіта, без боязні, глыталі, цмокалі і абсмактвалі, а Ядзенька старалася цішком паглядзець маме ў вочы.

Тады мамачка брала яе да сябе на калені, леваю рукою трымала асцярожна пад ручкі, каб не пакамячыць сукеначкі, а праваю — гладзіла яе альняныя валосікі. Ядзя прыпадала да грудзей задуманае мамы і моўчкі сядзела з ёю, пазіраючы ў бяздумную далечу, аж пакуль хлопчыкі не пад’ядалі і трэба было прыбіраць са стала.

Па абедзе хлопчыкі беглі з нянькаю на падворак, на вуліцу, у сад, а Ядзя з мамаю заставаліся ў хаце, бо хадзілі гуляць да абеду.

Агледзеўшы цесненькую кватэру, ці ўсё ў парадку, праверыўшы, ці зачынены надворныя дзверы, пані Сташэўская ішла з дачушкаю ў спальны пакой і клалася адпачыць.

Пры ёй ляжала Ядзя — і ў дрымотнай цішы, надыхаўшы цяпла ля мякенькіх маміных грудзей, дзяўчына засынала.

Пані Сташэўская накрывала соннае дзіця шэраю вялікаю хусткаю, з негасцю прыгладжвала жменьку валаскоў на сіняй

жылцы на вісочку, цалавала там, і ў лобік, і ў дробненькую ручку. А пры гэтым супроць волі ўспамінала праўдзівага Ядзінага бацьку, маладзенькага белакурага падпаручыка, забітага на японскай вайне.

Яна ляжала і пазірала ў кут, дзе вісеў яе праваслаўны абраз Канстантына і Галены побач з каталіцкім Маткі Боскай. Такі самы, толькі малюсенькі, абразок Канстантына і Галены дала яна яму, калі выязджаў на вайну… Яна звала яго Косця, а ён яе Леначка… Усё тое даўно мінулася. Яна часта ляжала так па абедзе, на шырокай і мяккай пасцелі, бо не было ёй куды пайсці і да іх ніхто не хадзіў, за тое, што пан Сташэўскі п’яніца. Ёй прыемна было ляжаць і ўспамінаць… Цяпер гады яе праходзяць, і спаміж знаёмых няма нікога, хто б за ёю паўхажваў — ласкава і далікатна, цалуючы ў ручкі, а часам, па дружбе, і ў губы. Большага яна не жадала. Яшчэ ёй хацелася, каб муж яе меней піў і каб былі здаровы дзеці.

Ядзя хутка прачыналася, але потым ціхенька гуляла з лялькамі ў другім пакоі, каб мамачка спакойна адпачывала. Мамачка ж не спала, толькі ляжала, і ўжо слухала, ці не ідзе хто па сходах.

Прыходзіла нянька з хлопчыкамі, прыносіла з імі шум, свежасць і водгалас людскога староннягa жыцця.

* * *

Марудна цягнуўся вечар, хоць троху і было баўнага занятку ў тым, што супакойвалі крыклівых і бітлівых Казю і Мечыка, рыхтавалі вячэру і гутарылі на хаду з пані Міхаловаю, старой і беднай паняю, што жыла на адным з імі падворку і кожны дзень прыходзіла пазычаць не тое, дык гэта.

Пры Міхаловай хвалілася навінамі і маўклівая нянька-ліцвінка. А навіны чула яна ў скверы ад знаёмае пані, што прыводзіла гуляць сваю дзяўчынку.

— Карошую, как наша Ядзюнька, — заканчала свае размовы ліцвінка, і ўсе тры субяседніцы разыходзіліся па сваіх кутках.

Калі ўжо спалі ўсе дзеці і з імі нянька-ліцвінка, калі ўжо пані Сташэўская не ведала, што б ёй такое пачытаць, лёгшы ў ложак, і думала, што Стась яе сёння зусім не вернецца, — ён прыходзіў… Грукаў нагамі па сходах, мацаў рукамі па сценцы, каб не зваліцца, бо йшоў моцна выпіўшы.

Жонка асцярожна зачыняла дзверы, каб не дужа дзвінкнуць замком і не ўзбудзіць дзяцей і нянькі, а пан Сташэўскі хапаўся, хістаючыся, за яе шыю, лез да яе вуснаў з сваімі мокрымі

абвіслымі вусамі і неслухмяным голасам, падыхаючы страшэнна брыдкім пахам віна, марматаў ёй ласкавыя і вінаватыя словы:

— Моя кохана Гэлю! Я люблю! Я і схізматыкаў люблю, і папоў люблю… Лю-блю, дда!

— Добра, добра, Стасік… Распранайся.

— Добра? Ну, то найвэнцэй то цебе, кохана Лёлю, жалую! Дда. За ўсё даруеш, Лёленька? Прасці міня, да-рагая Гэлю! Я свіння, я выпіў, да!

Яна клала яго спаць. Але, трошку паляжаўшы, ён перапаўзаў на яе ложак, лашчыў яе, хоць і не меў ужо вялікае ахвоты лашчыцца.

А яна гладзіла яго маруднаю рукою па галаве, па шчацэ.

І ўсё было ціха і супакойна…

***1921***

## УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД 1917-ГА ГОДА

Вясною 1918-га года, прыгожым цёплым раннем, дакляраваўшым добры дзень, пакінуў я Смаленск, выязджаючы дамоў на лета.

Падвазілі мяне кааператыўшчыкі, прыязджаўшыя ў Смаленскі Саюз па тавары.

Знайшоў я іх проста на рынку, дзе па нашскіх шэрых вопратках, па мяккаму абліччу, па гаворцы і нават па конях і вазах пазнаў, што людзі з нашага боку.

Яны ўсе аказаліcь з воласці сумежнай з нашай, і адзін з іх зараз згадзіўся падвезць мяне за самыя малыя грошы.

Чалавечак гэты быў з сухой рукою, шапку насіў ссунутую з лобу назад, гаварыў казліным тэнарком і быў надта зюклівы. Зваўся Кузьма.

Вёрст дваццаць праехалі ўжо мы, а ён не сціх ні на мінутку і шмат чаго паспеў пераказаць аб цяперашнім жыцці ў нашых краях.

Разы два пачуў я ад Кузьмы, што іх кааператыў завецца «Беларус». Гэта мяне здзівіла. «Але, — падумаў я, — гэта, відаць, не мае ніякіх звязкаў з нашым адраджэннем», і з той назовы разінуўся на мяне страшэнны чупірадла яць (ѣ) і закруціліся сабачымі хвастамі два русіфікатарскія эсы (с)…

Але ўсё ж было цікаўна. Аб'ехаўшы бязмальна ўсе буйнейшыя на бацькаўшчыне гарады, я толькі ў Магілёве відзеў гасцініцу з назваю «Беларусь», а то скрозь нічога не было ў падобных на-

зваx, што б нагадала імя беларуса ў «Сѣверо-Западномъ Краѣ Россіи матушки». Былі «Масквы», «Краковы», нават «Парыжы» і «Неапалі», а «Беларусі», за адзіным выключэннем, не было. Дык назва кааператыва мяне зацікавіла.

Тым часам пад'ехалі мы пад гару, і ўсе вылезлі з калёс. Вазы паціхеньку паўзлі наверх, падводчыкі ж сабраліся ў вадзін груд і заняліся кручэннем папіросак, каб, уз'ехаўшы і сеўшы, шпарчэй паехаць і курыць.

Аж неўспадзеўкі пытаецца ў мяне Кузьма пры ўсіх:

— А што цяпер з Беларуссю пасля таго леташняга з'езду?

— Якога з'езду? — яшчэ балей здзівіўся я, што землякі мае нават і пытаюцца аб Беларусі, бо прызвычаіўся раней да поўнай несвядомасці. Думаў, што ў нашай старонцы толькі наша ваколіца трохі ведае цераз мяне аб сваіх нацыянальных справах.

Хлопцы ж паглядзелі на Кузьму і засмяяліся.

— Мы пасылалі яго летась дэлегатам на з'езд у Менск рабіць сваю рэспубліку, — сказаў адзін байчэйшы.

— Чаго ж, дурні, смяіцёся? — дабрадушна загневаўся Кузьма.

— А чаго ж ты ўцякаў са з'езду? — пажартаваў другі.

— Ці я казаў вам, што ўцякаў? — абурыўся Кузьма і потым з гонарам дадаў: — Як леў, бараніўся, а яны — «уцякаў»…

Бойкі хлопец прыжмурыў вока, ссунуў шапку на патыліцу, добра ўдаўшы Кузьму, і ягоным казліным тэнарком, махаючы па-ягонаму сухой рукою, раптам зацягнуў:

Спрадвеку мы спалі, і нас узбудзілі,
Сказалі, як трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі-і-і…[1]

Нават я не мог удзержыцца ад смеху. Смяяўся й сам Кузьма.

— Вот-то дурань, — плачучым галаском загаварыў Кузьма, — думаець, што з мяне смяецца… Ты, браце, сам над сабою смяешся!

— А дзе вы наўчыліся пяяць нашу марсельезу? — спытаўся я ў хлапца.

— Ды ён жа, ён усю воласць навучыў, — увідзеў я палец, выстаўлены штыхам у грудзі Кузьмы.

Кузьма ўдарыў яго па руцэ, хлопец засмяяўся:

— Гэта ж наш герой! Рэспубліку сваю рабіў!

— Вот-то цемната! Божухна-бацюхна, вот-то наша цемната! Што з вамі з такімі зробіш, — лямантаваў Кузьма, шукаючы ў мяне спагады.

Калі мы селі на вазы, ён закурыў, забыў на жарты і спакойна сказаў:

— А я хоць трошкі іх усведаміў. Самі захацелі назваць кааператыў наш «Беларусам»…

Усё чутае было для мяне незвычайнай навінаю. Нічога падобнага не чакаў я сустрэць у глухім закутку Смаленшчыны, ад якога бліжэйшая жалезная дарога за сто вёрст. Я не пазнаваў сваіх сялян.

— А дзядзька даўно… такі? — спытаўся я.

— З леташняга, браце, году, пасля таго з'езду.

— Цікаўны быў з'езд? — прыкінуўся я нязнайкам, каб пачуць большую беспасрэднасць.

— Ці ж вы нічога не ведаеце? — з захованым дакорам павярнуўся да мяне Кузьма. — А я, прызнацца, падумаў, што вы з «народных». Вучоны, з Смаленску едзець і па-беларуску гамоніць, — верна, думаю сабе, народны чалавек…

— Каго вы прaзываеце народнымі людзьмі?

— А гэтых жа, што хочуць, каб наша ўсё было, каб, значыцца, на ногі паставіць Беларусь.

— Га! Чаму ж дзядзька аб тое не спытаўся?

— Ждаў, можа, вы што скажаце. Дый цяпер… — патупіўся ён, — відзіце… свае ж смяюцца.

— Ну, хлопцы жартавалі, на іх няможна крыўдзіцца.

— А ці ж я думаў крыўдзіцца?! Вядома, хлопцы маладыя, ім абы з чаго дурэць. Дый яны не такія, як вы, можа, падумалі… Дружныя хлопцы… З мяне яны смяюцца, але каб вы ім, браце, што сказалі супроць беларусаў… пачулі б што іншае.

— А як на вас глядзяць бальшавікі вашае воласці?

— А хай сабе глядзяць як хочуць, я іх не баюся! Якія там бальшавікі — гора адно. Я добрых бальшавікоў яшчэ не відзеў. А таго п'янага чарнамазага падлу[2], што з'езд наш разагнаў, каб дзе злавіў, то зараз бы яму каюк зрабіў, хоць душагубства не люблю.

— За што ж такая злосць?

— За тое, браце, што ён біў нашых людзей, дэлегатку біў. Дзяўчына такая, што ён і ў падмёткі ёй не варты, а ён біў яе выспяткам, ботам, таптаў нагамі…

Кузьма ўздыхнуў.

— Як жа так? — паддаў яму ахвоты апавядаць.

— Быў гэта астатні дзень з’езду. Позна ўжо, ноч, а ў нас у тым тэатры ну вось якраз, як на вялікадні ў царкве. Нeяк і радасна, і смутна, і хто ведае, што з табою робіцца, хрыстосавацца хочацца з усім народам. Гэта ж не жарты: рэспубліку сваю, Беларусь няшчасную, на ногі ставім, зараз правіцельства народнае выбіраць будзем… Аж тут і крыкні нехта: бальшавікі прыехалі нас разганяць. Што за ліха, — думаем сабе, — здаецца ж, супроць іх нічога не пастанаўлялі, контррэвалюцыянераў сярод нас няма: усё мужыкі, салдаты, народныя людзі з мужычкоў. Хочам, каб усё пайшло народу, і зямля, й лясы, і ўласць, — за што ж яны разганяць нас будуць? Па-іхнаму ж хочам, толькі каб, знацца, без непарадку, без глуму. Мы ж на сваёй зямельцы, а сярод іх — усякія прыблуды, што чужога краю не шчадзяць, без патрэбы нішчуць, вядома, за вайну сабралася іх на фронце розных, не столькі добрых, як нягодных. Не! крычаць: выхадзі! стрэльбамі пагражаюць, прысыпала іх да дзвярэй, як нячыстае сілы. І ўсё народ не нашскі, дзёрзкі, не панімаючы. Крычаць, гоняць, а чарнамазы, начальнік іхны, узлез наўперад і нешта п’янае там бруздзіць. Відаць, што чалавек упіўшыся і не разумеець, куды залез. Не дадзімся, думаем сабе! Загарадзіліся лаўкамі, хатылькамі сваімі харчавымі. Дзе ж там, хіба ж з голымі рукамі абаронішся супроць такой навалы. Віджу я з бліжэйшымі каля сябе, што кінулася гэтае звяр’ё, каб забраць нашых народных людзей. Кінуліcь і мы наўперад ратаваць. Аж там цэлая бойка! Схапіліся нашы салдаты з тымі, што з’явіліся разганяць. Тузгаюцца, цягаюцца. Віджу я, што тут жа, дзе прадстаўляюць тэатры, наўперадзе бароніцца тая дэлегатка, бойкая дзяўчына, такія прамовы на з’ездзе казала, што прост за сэрца хапала. Тады падходзіць да яе чарнамазы падла і нешта, пасміхаючысь, ёй кажаць, відаць, зняважлівае нешта для яе. Раптам шчуп яна сабе ў кішэню, выцягнула маленькі чорны левальверчык і наставіла на яго, — аж мае сэрцайка замлела, кляпсь, — асечка. Тады яна тым левальверчыкам як тахнець яго па санках, аж пахіліўся. І што тады ўзнялося там, то й пераказаць мне трудна. Кінуліся яго салдаты на дзяўчыну і з ім разам. Павалілі, б’юць чым пападзя, прыкладамі, нагамі, за валасы цягаюць. Насілу нашы вырвалі бяднягу з іхных рук. Бараніў трохі і я, не стаяў рукі злажыўшы. Але зараз дастаў сабе такі ўдар у спіну, ці не прыкладам толькі, што думаю: хоць бы жывым ад гэтых бесцій вырвацца. Гляджу, а ўжо вядуць некаторых народных людзей пад канвоем ды на двор. Прапала наша справа, трэба ратавацца, уцякаць. Бягу ў дзверы: стой, кажуць, і ты там біўся? Я, доўга не думаўшы, шмык назад,

схапіў на галаву нечую вялікую чорную папаху, пад нагамі валялася, і йду назад. Стой! — крычаць, і ты там біўся? — Не, кажу, таварышы, я не той, я не біўся, той з другімі разам выскачыў у заднія дзверы. Паверылі, не пазналі і пусцілі на вуліцу. А там уздоўж дзвярэй поўна грузавікоў-аўтамабіляў з кулямётамі, з салдатамі, і па вуліцы поўна салдатаў, не разабраць, хто свой, хто не. Тут мяне злавілі і пагналі з другімі арыштаванымі ў нейкі склеп. Праседзелі мы ноч. Крэпка ўзяло ўсіх за сэрца: вот табе, Беларусь няшчасная! — думаем сабе: біў цябе цар з панамі, а цяпер простыя прыблуды за тое ж узяліся. Не падняцца табе на свае ногі, бедная. Плакалі мы, браток мой, седзячы там, шчыра кажу — плакалі…

— А цяпер жа дзядзька спадзяецца, што будзе Беларусь?

— Цяпер! Цяпер, браце, уся наша воласць, як адзін, паставіцца грудзямі за яе. Як жа ёй не быць? Не мы, дык нашы дзеці паднімем-ткі яе на свае ногі.

Кузьма змоўк, гэйкнуў на каня і пагнаў яго, як бы хацеў ляцець — захоплены, узварушоны, смелы.

*1922*

## ПАД’ЕЗД

*(Раман у дарозе)*

Я доўга ішоў яла́нямі — гладкім роўным полем з высокаю густою травою, спаміж якой там-сям відаць былі засевы жыта, ярушкі і аўса.

Сонца прыпякала, я змарыўся, хацелася адпачыць, але ніякага жытла нідзе, ні блізка ні далёка, не было відаць.

Як змерыць вокам — цягнулася тая высокая рудаватая трава з зелянейшымі лапікамі засеваў і кустоў. Дзе лапік зялёна-бледны — там засевы, дзе зялёна-гусцейшы — там кусты.

Уздоўж усяе дарогі гарэлі, як агонь, нейкія буйныя жоўтыя краскі. Яны нагадвалі палявую гваздзіку, але яны былі такія пышныя, такія незвычайна яскравыя, што аж непрыемна і страшна рабілася ад іхняе буйнае дзікасці.

У кустах і ў траве пырхалі сініцы і яшчэ якіясь дробненькія птушкі. Пырхалі даволі рэдка. Яны ціха і непрыкметна папісквалі свае просценькія песні і толькі павялічвалі маю дарожную нуду.

І нават цвіркун, нават ён, званчэй і весялей, чым яны, цвірчэў сваё бразгатлівае: цыррр!.. цыррр!

Настрой у мяне быў дарожны, задумлівы, сумны.

* * *

Я нават не пачуў, калі так блізка наехала адзаду фурманка. Азірнуўся, неспадзявана ўбачыў, што яна пад’язджае, і ўсцешыўся, што пад’еду.

Але разгледзеў, што едзе там жанчына, адна, без нікога, і калі яна зусім дагнала мяне, я не ведаў, ці прасіць яе, каб падвязла, ці не прасіць. Адступіў убок з дарогі ў нерашучасці.

— Замарыўся? Хадзі падвязу! — крыкнула яна сама здаровым звонкім голасам, толькі нібы трошку з наўмыснаю жартліваю вясёласцю ў тоне, і паказала багатыя жыццярадасныя белыя зубы.

Каня яна не спыняла і, калі я ўскочыў у фурманку, схапіла і падцягнула мяне за пінжак каля пляча на спіне. Была яна яшчэ маладая і вельмі здаровая, і, відаць, смелая і простага характару.

Зараз, гэтаксама проста і вясёла, пачала са мною гаманіць. Я пахваліў яе каня, што бяжыць так слаўна, і яна, нейкім спосабам пазнаўшы, што я не тутэйшы, пачала казаць мне пра сваіх сібірскіх коней. Коні ў іх бягуць 40–60–100 вёрст не еўшы, толькі пастаяўшы. Коні невялікія, але бягуць як сабакі, вёрст 10–15 у гадзіну, толькі не трэба карміць раней, як гадзіны цераз 4–5 пастаяўшы. І ядуць мала. І дужа ласкавыя — як цяляты. Морду ў акно — і просяць у дзяцей хлеба.

Я ўявіў сабе яе сібірскі двор, пад адным дахам з домам, адчыненае акно з хаты на падворак, і конскую морду ў акне, і яе дзяцей у хаце на лаве, што кормяць каня хлебам праз акно… І нават уздрыгнуў, калі яна раптам тарганула мяне рукою за плячо, павярнула да мяне твар і блізка-блізка паглядзела мне ў вочы сваімі вялікімі і плоцкімі здаровымі вачыма і вясёла крыкнула:

— Чо, паря, невясёла думаш? І не слухаш, што цібе баю… Ха-ха! — і засмяялася звонка ў грукаценні колаў і тупаніне конскіх ног.

* * *

Зірнуўшы на мяне яшчэ раз, збоку і ўжо нібы крыху ўкрадкам, мацней пагнала каня і з наўмыснай безуважнасцю спыталася:

— Ты, мусіць, з Расеі-матушкі? Хадак, ці што?

— Настаўнік.

— А ходзіш пехатою? — здзівілася яна, і ў голасе чулася троху нявера.

Троху памаўчаўшы, яна сама, без маіх пытанняў, пачала апавядаць пра сябе. Жыве яна адна, без мужа. Муж яе загінуў праз соль. У часе ваеннага камунізму не было ў іхнай мясцовасці солі. З прыкладу іншых людзей, муж яе павёз у Маскву пуд мукі, а там за гэтую муку набыў пяць пудоў солі. Вярнуўшыся, мяняў пуд солі на дзесяць пудоў мукі. Забагацеў. А потым, як паехаў другі раз, дык вось і дагэтуль не вярнуўся — шэсць гадоў няма ні слуху ні духу. І яна засталася жыць, з двума дзяцьмі, адна, без яго. Нічога, жыве добра. Але вось едзе з розглядаў, з пасёлка вёрст за сорак, дзе ёй параілі добрага прымака.

— Ну, і што? Высватала? — як бы з якою мімавольнаю зайздрасцю пацікавіўся я спытацца ў яе і бліжэй паглядзеў на яе здаровае цела, высокія грудзі, на яе даволі прыгожы і яшчэ такі малады твар.

— Не… — працягнула яна ў раздум'і. — Не, не спадабаўся. Бліжэй ёсць лепшыя, толькі блізкіх я не хачу браць…

— Чаму?

— Чаму? А таму, што ад блізкіх, з свайго пасёлка, цяжэй, калі што, адчапіцца… Не ведаеш? — і ўзноў засмяялася, грубавата, але проста і вясёла.

* * *

Увесь час казала яна мне ты, нават і пасля таго, калі я сказаў, што настаўнік.

Расказаўшы пра сябе, яна змоўкла, быццам чакаючы, што і я гэтаксама пачну апавядаць пра сябе.

— Слухай! — не то жартліва, не то паважна раптам ізноў звярнулася яна да мяне і ўзноў блізка-блізка нахілілася мне ў самы твар, але глядзела нібы некуды міма маіх вачэй. — Слухай-кось… кідай ты сваё настаўніцтва і йдзі да мяне ў прыймы.

— Што?!

— А нічога… Ідзі, і будзем жыць! — І цяпер глядзела на мяне блізка і ясна. І ў яе вялікіх шэрых вачах, шырокіх ад гэтай блізкасці і яснаты, было поўна жаночага жадання, але асцярож-

нага і прыхаванага, з дапытлівым чаканнем на адказ. З-пад хусткі ў яе цяпер па-дзявочы выбілася жменя русявых валасоў.

І нясмела, трошачку лішнюю хвілінку пачакаўшы, з трошачку лішняю наўмыснаю развязнасцю, яна жартліва, лёгенька падштурхнула мяне плячом у плячо і яшчэ раз спыталася, ціха, цішэйшым жартам:

— Ну?

Я маўчаў, задумліва гледзячы перад сабою ў поле па дарозе.

* * *

— Ах, дурная ж я! — засмяялася яна, адвярнуўшыся: — Я ж нават і не спыталася: можа, ты жанаты?

У мяне шавяльнулася думка зманіць ёй, ды нешта паважнае ў маём пачуцці да яе спыніла мой язык ад няпраўды. І я сказаў ёй усё, як было ў мяне.

Ці мне гэта здалося — толькі нібы нейкі смутак прабег у яе па твары. Скора яна ізноў засмяялася:

— Значыць, ашукалася я! А то еду, бачу — ідзеш ты, і думаю сабе: во, можа, мой суджаны ідзе… Ашукалася!

Я маўчаў, разглядаючы яе збоку. Ёй ад майго погляду зрабілася нязручна. І яна ізноў сказала:

— Дурны ж і ты! Хоць бы зманіў мне, пажартаваў са мною…

— Гэтым не жартуюць, ведаеш сама.

* * *

Калі ёй трэба было звярнуць убок, да свайго пасёлка, а мая дарога ляжала далей, проста ўперад, яна спыніла каня і пасяброўску падала мне руку.

— Бывай!

— Бывай…

Поціск яе быў вельмі моцны, а я адказаў на яго сваім, даволі моцным, але заўсёдным поціскам.

— Можа, ніколі ўжо й не ўбачымся… Ці, можа, будзеш калі і ў нашым пасёлку?

— Мусіць, не…

— Паедзеш назад у Расею?

— Напэўна, так.

— Ну, бывай, мілы!

— Бывай.

І яна пагнала каня дарогаю да свайго пасёлку.

* * *

Я ішоў далей.

Ізноў тыя самыя ялані, трава, і кусты, і рэдкія засевы, і дробныя птушкі.

Потым, над самаю ў мяне галавою, але высока-высока ў небе, доўга кружыла і жаласна крычэла каня: «Піць! пі-і-іць!»

Мне зрабілася ад гэтага крыку сумна.

Сонца прыпякала.

*1926*

## ХОЦІМКА

Шкадую, чаму я не скульптар, каб зляпіць яе вобраз ці выразаць яго — так, як некалі, быўшы малым, ляпіў з гліны ці выразаў з дрэва розныя прыемныя фігуркі.

Толькі цяпер зляпіў бы ці выразаў бы не маленькую фігурку, а вялікую і гордую постаць жанчыны, што не схіляючы галавы ідзе сваім шляхам жыцця.

І яшчэ думаецца мне: якія вы няпэўныя, шляхі нашага жыцця!

Пакуль няма такой машынкі, што змалку прызначала б мяне ісці ў скульптары, я блукаюся па дарогах, па якіх, можа, зусім не варта было б мне ісці.

А нарэшце, і галоўнае: пакуль няма магчымасці ісці шляхамі без камення і калючак, ідзём як трапіцца… І слава хай будзе таму, хто і на гэтых цярнёвых сцежках мае вочы, як у бачанае мною хоцімкі.

* * *

Я бачыў яе ў летні дзень, перад самым вечаровым змрокам, на станцыі Талбагá, за Пятроўскім заводам, у дзікім і яшчэ шмат каму страшным Забайкаллі.

Пачаўся гэты мой дзень хмарна ў паветры і хмарна ў маім сэрцы, быўшы мне ў плацкартным вагоне трэцяга класа, з рознымі інтэлігентамі і гандлярамі, пасля начавое вакзальнае куламесы на станцыі ў Іркуцку і колькіх гадзін язды ў сцюдзёным, але не праветраным купэ.

Спаць было мулка, я варочаўся, нарэшце пачаў глядзець у вакно і залюбаваўся на панурую вадзяную веліч Байкала.

З другога боку — горы. Некаторыя высачэзныя верхавіны іх у хмарах-тумане. Па гарах лес. Пры дарозе часам голыя скалы. Прыгожа.

І так праз увесь дзень у вагоне было нудна і нецікава, і я жыў з прыродаю. Тут усюдых прыгожая, хоць і пустынная мясцовасць. Даліна ракі Селянгі, а вакол горы і горы. Вось пераезд па мосту. Кусты. Тут водзіцца омуль і дарагая рыба сцерлядзь.

Пагода, нарэшце, разгулялася: каб ціха, дык на сонцы, пэўна, градусаў 25–30. Але вецер даволі буйны. А ў нас на Беларусі, калі і павее гэткаю параю, дык ціханькі ветрык.

І зноў горы, толькі ўжо воддаль, у сінім тумане. І аблокі плывуць у іхных верхавінах, толькі рэдка.

З боку ад дарогі, далёка на аблонні, убогія бурацкія ўлусы-зімоўнікі. І бедныя дзяўчаткі, ці то дзеці перасяленцаў, ці то работнікаў на чыгунцы, прадаюць ягады, суніцы, зусім яшчэ белабокія і дробныя-дробныя.

Так ехаў я гэты дзень.

* * *

Станцыя Талбага́. Ад вечара. Сцюдзенавата. Пуста на станцыі. Толькі адна баба, на бедным століку, з убітымі ў зямлю ножкамі, нешта прадае.

Усе туды бягуць і бачаць, што прадае нейкіх смажаных лінькоў, ці што, і дзве ці тры бедныя ляпёшкі.

І паглядзелі, і адходзяцца…

Яна высокая, з загрубелым і чырванаватым тварам. А на гэтым твары… на гэтым твары — такая жыццёвая горкасць, толькі ж незлавімая, і пад такою ж моцнаю пячаткаю цвёрдасці і быццам пагарды!.. Галава, узнятая высока, і невялікія, але глыбокія і жудасна-разумныя вочы пазіраюць не на блізкіх, а на далёкіх.

А ля спадніцы два дробныя хлопчыкі, як звераняткі каля маці. Худыя дзеткі, і вочы ў іх не па ўзросту: шмат ужо бачылі.

Ніхто ў яе не купіў ні лінькоў, ні ляпёшак. Дый просіць яна за такога невялічкага і не самавітага лінька 20 капеек. Тут усё дарага, і кожны гэта ведае, толькі як купляць, дык нікому не хочацца плаціць. А яна яшчэ і не дужа набіваецца сваімі лінькамі.

Цягнік зараз пойдзе, ля століка застаўся адзін я. Лінькоў я з сваёю нерашучасцю, напэўна, ужо не куплю, калі дагэтуль не купіў. Але мне хочацца сказаць ёй што-небудзь ласкавае…

Я чую ў яе акцэнце нешта роднае, хоць гаворыць яна даволі добра па-расійску, і я пытаюся:

— А вы не з Магілёўшчыны перасяленка?

— З Хоцімску я… калі, можа, ведаеце, — адказала па-беларуску.

— Ведаю, ведаю! Сам адтуль недалёка…

— Ну як там цяпер жывуць людзі?

— А нічога… Патрошку папраўляюцца…

— Добра, хоць папраўляюцца. Збіраюся і я паехаць назад… Можа, як-небудзь… — і пагладзіла мужчынскаю, загрубелаю рукою, але далікатна, як жанчына і маці, пагладзіла мімаволі, не бачачы, меншага хлопчыка па галоўцы.

І хлопчык яшчэ больш укруціўся ў спадніцу.

Цягнік крыкнуў, і я пабег, шкадуючы, чаму не купіў хоць аднаго лінька ў зямлячкі.

* * *

8 ліпеня, чацвер. Мой другі дзень пачаўся ў тым самым вагоне, у тым самым купэ і на той самай вышняй задняй паліцы, таксама даволі рана, але ўжо далёка на ўсход, каля станцыі з такою любаю назваю: Яблыня.

Я адчыніў акно і пазіраў праз яго на свежую раніцу. Прыслухаўся: зязюлька гдзесьці кукуе: ку-ку! ку-ку! ку-ку! Але шум цягніка заглушае зязюльцы голас.

Перавал цераз Яблыневы горны хрыбет, а бачу — пасеяна бульба. Ну ці так уяўляў я сабе некалі гэтую веліч прыроды!

Не, кажуць, перавал мы праехалі начою, гэта было кіламетраў 15 на ўсход ад станцыі Сахонда, а цяпер мы з’язджаем.

Сонейка, цёпла і ціха, кукуе зязюлька, а суровы вобраз хоцімкі стаіць мне ўваччу.

І сум і радасць змагаюцца ў маім падарожным сэрцы.

***1926***

## АШУКАНЫ ПАЛІТРЭДАКТАР

Усю зіму, кожны вечар, кожную хвіліну, вольную ад бягучае працы, сядзеў паэта Трышка Ласы над зборнікам сваіх вершаў.

Самым бязлітасным цэнзарам самому сабе быў ён, складаючы гэты зборнік. Змесціў толькі такія вершы, якія напэўна мог

прапусціць палітрэдактар і галоўліт. І з гэтага напэўнага яшчэ павыкідаў кожную мясцінку, якая магла як-небудзь зачапіцца ў самым шырокім ідэалагічным праходзе.

Перад тым, як здаць зборнік, ён шмат думаў, якому палітрэдактару аддаць яго чытаць.

Неяк выпадкова ўбачыўшы на вуліцы т. Двубокага, ён раптам адважыўся, падышоў і папрасіў, каб т. Двубокі даў згоду чытаць яго зборнік.

— Буду прасіць у выдавецтве, каб яны паслалі вам, т. Двубокі. Толькі прашу вашае згоды, калі ласка, т. Двубокі.

— Добра, хай прысылаюць… — з неспадзяванаю лёгкасцю згодзіўся Двубокі, спяшаючыся ісці.

— Бо каб усе ў нас былі такія палітрэдактары, як вы, т. Двубокі, дык для беларускае літаратуры было б шмат карысці… — радасна лепятаў яшчэ Ласы, бегучы збоку за Двубокім.

* * *

На другі дзень ён панёс зборнік здаваць у выдавецтва.

Сам загадчык выдавецкага аддзелу т. Затыкевіч паэтаў у гэты дзень не прымаў. І паэта Ласы пайшоў да яго правае рукі, т. Крыўлякі.

Таварыша Крыўляку нядаўна аблаялі ў газеце, ён шукаў спачуцця і з гэтае прычыны, нядоўга ламаючыся, дакляраваў Ласаму, што зборнік яго аддадуць чытаць палітрэдактару Двубокаму.

І паехаў на курорт.

…Прыехаўшы з курорту, Ласы ізноў забег на вуліцы пад ногі т. Двубокаму і салодкім голасам спытаўся, ці прачытаў ён яго зборнік.

— Прыслалі шмат матэрыялу на перагляд. Ёсць там і пра быкоў, і пра кароў, і як карміць дзяцей, і як сцерагчыся ад пранцаў, ёсць тры апавяданні пра ловы на кітоў, ёсць зборнік вершаў Сідара Беспрытульнага, але вашага, здаецца, яшчэ нічога няма. Не прыслалі… — спяшаючыся адказаў ласкавы т. Двубокі і пакінуў беднага Ласага з разяўленым ад збянтэжання ротам.

Ён зараз пайшоў у выдавецтва да Крыўлякі.

— Што ж вы мяне абдурылі? — горка спытаўся ён, нахіліўшыся збоку над Крыўлякам, бо Крыўляка быў так заняты, што не меў часу павярнуць галавы.

— Як? Хіба ваш зборнік паслалі не Двубокаму? Спытайцеся там у дзелавода… — раўнадушна адгукнуўся Крыўляка, ізноў не паварачваючы галавы. Сёння ён быў ізноў у сваёй звычайнай

самаўпэўненасці, бо даведаўся, што газетная пісаніна пра яго нічым яму не пагражае, як зусім не ўгрунтаваная на фактах.

Ласы пайшоў да дзелавода.

— Каму вы паслалі мой зборнік? — спытаўся ён у гэтага ціхага натураю і чорнага з выгляду чалавека. Ціхі ён быў таму, што шмат рабіў граматычных памылак, і гэта гняло яго.

— Каму вы паслалі мой зборнік? — спытаўся ў яго Ласы.

— Таварыш Затыкевіч забараніў мне казаць аўтарам, каму мы што пасылаем, каб аўтары не дакучалі палітрэдактарам, — адказаў ціхі чорны дзелавод і ўкрадня згарнуў рассыльную кніжку, каб Ласы і там чаго-небудзь не падгледзіў.

* * *

3 верасня, аўторак. Маладзік настаў.

У гэты час на адным з курортаў Чарнаморскага ўзбярэжжа, у вадным добрым санаторыі, у вадзін прыгожы дзень, люта паспрачаліся адзін камсамольскі працаўнік з Менску, на прозвішча Сумленны і адна доктарка з Гомля, на ймя і прозвішча Агата Корк (Балбатуха).

Камсамолец ператаміўся ад вялікае і напружанае працы і няўпрыцям для сябе самога зрабіўся нервовы і дражлівы, хоць яшчэ і захавалася ў ім яго даўнейшая стрымлівасць і знешняя вытрыманасць.

Доктарка таксама была даволі зморана сваёю працаю, іначай жа камісія не паслала б яе на курорт, але галоўнаю прычынаю яе хваравітае няроўнасці характару было тое, чаго камісія не ўлічыла, а менавіта: доктарка колькі год таму разышлася з мужам і на працягу гэтага доўгага часу не мела ў сваім жыцці тэй салодкасці, якая патрэбна ў пэўнай порцыі для здароўя і добрага настрою кожнаму чалавеку.

Спрэчка пачалася пасля чытання фельетонаў у «Камсамольскай праўдзе» аб беларускім нацыянал-дэмакратызме.

— Малайцы камсамольцы! Смелы народ! — сказала Балбатуха і паглядзела на т. Сумленнага з усёю жаночаю падманлівасцю, якая толькі яшчэ засталася ў яе пасля ўсіх няўдач жыцця. Яна разлічала гэтымі нявіннымі лесткамі спадабацца камсамольцу, бо ён хоць і быў цяпер вельмі худы і зморany, але меў маладое цела і даволі прыгожы твар.

Таварыш Сумленны, паводле свайго перакананння і па партыйнай лініі, павінен быў бы падтрымаць доктарку ў пахвале камсамольцам за артыкулы ў іхным цэнтральным органе. Так

т. Сумленны і хацеў ужо зрабіць, але раптам яго нібы ўкусіла нервовая муха, і язык яго павярнуўся ў другі бок.

— Тут шмат фактаў перакручана, а ўвесь тон пісаніны выдае аўтара-русацяпа, ворага беларусізацыі, — нечакана для доктаркі, нечакана і для самога сябе буркнуў Сумленны і пачаў шыбка хлябаць гарачы суп без хлеба, бо гэта было ў час абеду, за сталом.

Тады доктарка, як і ўсе нервова-хворыя, сама не ведаючы, чаму так робіць, пасыпала з сябе сваім языком — усё тое і ўсё так, каб было яе субяседніку непрыемна.

— Як пачалася беларусізацыя, — сказала яна, — усе лепшыя сілы ўцякаюць з Беларусі, медыцынская думка зусім заглохла, і наогул нічога добрага ад беларусізацыі няма.

Таварыш Сумленны пачаў даводзіць ёй адваротнае, што ўцякаюць ад беларусізацыі якраз не лепшыя сілы, а горшыя, і спрэчка скончылася тым, што Балбатуха гістэрычна крыкнула (хоць яшчэ й старалася нацягнуць сабе на твар відзімасць вясёлага і насмешлівага спакою):

— Ваша літаратура? Ды я дванаццаць год жыву ў Гомлі, а пра Купалу і Коласа, з якімі вы носіцеся, як дурні з пісанымі торбамі, я ніколі і не чула, хоць амаль што ўсяго Надсона ведаю напамяць, во!

— Можна і дваццаць год пражыць ідыётам і не паразумнець! — канчаткова раздражнёны, не стрымаўся і бухнуў ёй т. Сумленны.

З тэй спрэчкі яны перасталі вітацца, хоць жылі пад адным жыватворчым паўднёвым небам, у адным салодкім курортным паветры, у адным добрым санаторыі (ці, як кажуць, — пад адным дахам, і нават на адным калідоры, у пакоях амаль што побач). А вітацца перасталі.

* * *

А на той самы курорт прыехаў адзін знаёмы т. Сумленнага, на прозвішча Пярун, студэнт з Горак, батанік.

Ён прыехаў лячыцца ад нейкае хваробы, якая зусім не перашкаджала яму быць з жанчынамі ласкавым і прыемным.

Даведаўшыся ад Сумленнага аб тэй яго спрэчцы з доктаркаю і пагаманіўшы з ёю самою, ён сказаў Сумленнаму так:

— Да ўсякае жанчыны, як і да ўсякага чалавека ці студэнта, трэба ўмець падысці. Тым болей жанчына — гэта кветка, панімаеш, якую трэба палівацьз лейкі, калі яна смягне. Дагледзь

добра кветку, і яна расцвіце так, што ты будзеш, панімаеш, з прыемнасцю, тым болей, любавацца на яе.

Пярун скончыў рабфак і таму не ўмеў гаварыць гладка паграматычнаму. А ўлюбёныя прыказкі ў яго былі: «панімаеш» і «тым болей». Ён падсыпаў іх да свае мовы, як падсыпаюць часнаку ў каўбасы. А сам дзяціна быў здаравенны, спакойны і даволі практычна разумны. Розум яго відаць хоць бы з таго, што быў ён сын заможніка, а каб паступіць на рабфак, кінуў бацьку, паўтара года папрацаваў у с.-г. камуне пад Магілевам батраком і такім чынам зрабіўся ў сваіх паперах рабочым.

— Дык вось, тым болей, панімаеш! — сказаў ён Сумленнаму і зарагатаў, як конь.

Яшчэ раз пабачыўшы доктарку, увечары, на пляжы, пагаманіўшы з ёю, як рабфакавец з савецкаю жанчынаю і, апрача таго, па душам, т. Пярун сказаў на другі дзень перад абедам т. Сумленнаму яшчэ так:

— Гэтая кветка вельмі запушчана і з гэтае прычыны, панімаеш, здаецца вельмі дзікаю і няпоўнасочнаю. Але я бачу, чым яе трэба лячыць, і тым болей ручаюся за добрыя вынікі…

* * *

Мінула ўжо месяцы два, праходзіла лета, набліжалася восень, а паэта Трышка Ласы ўсё яшчэ хадзіў па Менску, не ведаючы, хто чытае яго зборнік, заходзіў у выдавецтва бясплодна пытацца, ці не прачыталі ўжо, але ўсё яшчэ нічога не было.

З другога боку паглядзеўшы, два месяцы — надта кароткі тэрмін, і дасягнутыя ў часе яго вынікі — тым болей эфектны.

І вось т. Сумленны, ужо вярнуўшыся з курорта ў Менск, атрымаў ад т. Перуна, які таксама ўжо вярнуўся, але толькі што вярнуўся з курорту ў Горкі, атрымаў т. Сумленны ад т. Перуна з Горак ліст, да якога быў далучаны ліст тае доктаркі Балбатухі да Перуна, і не з Гомлю, а з Менску.

У лісце сваім яна пісала Перуну:

«Мілы Перунок! Не выпадала б мне болей пісаць табе, бо я ўжо не Корка, а Пупок, бо знаёмства маё на курорце з т. Пупком вылілася ў шлюб, і я цяпер пераехала да яго жыць у Менск. Можаш мяне павіншаваць, але толькі не рабі гэтага на пісьме, і мой гэты ліст таксама знішчы. Досыць будзе, калі мы зрэдку калі ўбачымся. Ну, я пішу табе гэты ліст, каб ты ведаў. І яшчэ пішу для таго, каб ты мог павіншаваць мяне і з поспехамі ў беларусізацыі. Наогул пасля курорту я чую ў сабе поўна сіл і імпэту да жыцця. Ужо працую ўва ўсю. Між іншым, сёння вы-

ступала на сходзе і казала, што хаця беларусізацыя ў нас так-сяк праводзіцца, але тэмпы яе нельга прызнаць здавальняючымі, трэба іх узмацніць. І вось бачыш, я ўжо й сама пішу табе гэты ліст па-беларуску. Я ж ведаю, што гэта будзе прыемна майму слаўнаму Перунку, які ўва ўсім любіць моцныя тэмпы. Ах, мой дарагі, я ўжо даўно забылася на свае нервовыя спрэчкі, і з вялікаю насалодаю ўспамінаю, як…» і г. д.

* * *

Няшчасны зборнік усё яшчэ быў у невядомага палітрэдактара, імя якога выдавецкія пацукі трымалі ў самай вялікай таямніцы ад Ласага.

А хто?

Нехта сказаў Ласаму, што ў выдавецтве часам робяць так: пакладуць зборнік у архіў і кажуць аўтарам, што чытае палітрэдактар.

«Можа, яны ўдралі такую штуку і са мною?» — падумаў Ласы і пайшоў у выдавецтва з самым рашучым выглядам. «Я пастаўлю пытанне руба», — пацяшаў ён сам сябе сваёю рашучасцю.

Гэтым разам пайшоў ён да т. Гурочка-Сысуцкага, белазубенькага хлопца, сакратара выдавецкага аддзелу.

— Т. Гурочак-Сысуцкі! — сказаў Ласы. — Ну, вы ж ткі заляцаецеся да мае зямлячкі, т. Тарабаркінай, якая працуе ў выдавецтве, як броня з маладняка. Дык няўжо ж вы не падштурхнеце як-небудзь майго зборніка, каб ён не валяўся ў вас у архіве.

— Дзядзенька! — ласкава асклабіўся белымі зубамі далікатны Гурочак-Сысуцкі. — Хто гэта вам сказаў, што зборнік ваш валяецца ў архіве? Яго скора ўжо дачытвае палітрэдактар, казаў, хутка прыедзе з дачы і прывязе.

Ласы ўсцешыўся.

— А можа, палітрэдактар казаў, ці шмат ужо ён там прызнаў вершаў годнымі для друку? — спытаўся ён.

— Усё вам хочацца ведаць… Як прышле, даведаецеся. Палову, казаў, выбраў… — адказаў Сысуцкі і зноў прыемна паказаў белыя зубкі.

— Толькі палову? — апала сэрца ў аўтара, але ён не паказаў віду і пайшоў з пакою нібы зусім спакойна.

* * *

Ён сеў у цемнаватым, але цёпленькім выдавецкім калідоры на вузкую лавачку і задумаўся ў мінорным імпэце.

«Хто ж гэта мог быць маім палітрэдактарам?» — ламаў ён галаву.

Ён успомніў метад рэштак і скарыстаў яго ў сваіх доследах.

«Двубокі адпадае. Усе, хто цяпер не на дачы, адпадаюць. Барадач, Бязбожнікаў, Трысьціна, Сіпайла і Правіцкі казалі, што ў іх майго зборніка не было… Семакоў і Алесь Паніка прызналіся б мне самі, калі б яны бралі. Астаецца тры чалавекі, на якіх можна падумаць: Какошкін, Гансеўскі і Васьмярыкоў…»

У гэты момант міма яго па калідору, у дзверы выдавецкага аддзелу, прайшла жанчына з тоўстым, набітым паперамі партфелем. Ласы прыгледзеўся і пазнаў, што гэта жонка камісара Пупка, што нядаўна зайшла за яго, а дагэтуль была доктаркаю ў Гомлі. Пра яе казалі, што раней, у Гомлі, яна была страшэннаю русацяпкаю, а цяпер, зайшоўшы за Пупка, зрабілася беларускаю і прыхільніцаю беларускае літаратуры. Ніхто не ведаў, чаму яна так крута перамянілася, і думалі, што яна гэта для кар'еры мужа.

— А што, калі мой зборнік трапіў да Пупка? — стрэліла ў голаў Ласаму. — Не можа быць, бо ён жа ніякіх адносін да мастацкае літаратуры не мае, а бліжэй стаіць да сельскае і лясное гаспадаркі.

Але яго як што падмыла, і ён ускочыў назад у выдавецкі аддзел.

Пупчыха выкладала паперы перад Гурочкам-Сысуцкім. Гурочак-Сысуцкі, убачыўшы, што Ласы ідзе назад, чамусьці сканфузіўся і хутчэй закрыў усе рукапісы.

— Дзядзенька Ласы, я ж вам казаў, што яшчэ няма вашага зборніка, — сказаў ён Ласаму.

Пупчыха, пачуўшы прозвішча Ласага, так асабліва паглядзела на яго, што Ласы адразу ўпэўніўся, што зборнік яго ў Пупка.

* * *

25 жніўня, у нядзелю, праз увесь дзень стаяла гарачае надвор'е, як бывае перад дажджом.

У вагоне было вельмі душна і страшэнна пыльна. Пасажыры сварыліся, з якога боку адчыняць вокны, і то зачынялі, то адчынялі, а пыл цэлымі хмарамі ляцеў вакол цягніка, прабіваўся ў кожную шчыліну ў вагоне і засыпаў лавы, рэчы, адзенне і твары пасажырам.

Ехаць было нецікава, але адзін беларускі паэта, на імя Трышка Ласы, які ехаў з вёскі з-пад Магілева ў Менск, на сваё шчасце, неспадзявана сеў у Воршы ў той самы вагон, дзе ехала адна даволі яшчэ цікавая і не вельмі старая жанчына, жонка камісара Пупка.

Каб з ёю пазнаёміцца, Ласы адчыняў і зачыняў усе тыя вокны, што яна хацела, і даваў ёй глядзець ілюстраваныя часопісы, што накупіў у Воршы.

Так, патрошку, яна зрабілася з ім ласкавейшая, потым яны разгаварыліся і ад Барысава стаялі ўжо ўвесь час побач пры вакне, у канцы вагона, дзе нікога не было.

Калі ён дагаварыўся да таго, што хацеў бы з ёю часцей бачыцца ў Менску і часам пагуляць з ёю ўвечары, яна сарамліва нагадала яму, што ён яшчэ не сказаў ёй, хто ён.

— Я думаў, што вы ведаеце, — сціпла адказаў ён. — Трышка Ласы… Можа, чулі? — з пахаваным эфектам назваўся ён і гэтаксама сціпла чакаў, што яна на гэта скажа.

— Трышка Ласы! Няўжо вы — Трышка Ласы? Я адразу заўважыла, што вы нешта такое, не такое, як усе… Як я рада… Але мне цяпер трошку сорамна, што я з вамі была такая лёгкадумная.

— Дарагая! — смела пайшоў тады ў наступ Трышка; ён азірнуўся, прыпаў да яе вуха і з заўчонаю салодкасцю, але нібы жартам, прашаптаў:

— О, дарагая! Няўжо шкадуеш паэту ласкі?

А потым голасна і ўзноў перайшоўшы на вы спытаўся:

— А хто ж вы? Якое новае імя ўвайшло сёння ў маё жыццё навекі? (Ён прыкідаўся, бо добра ведаў, хто яна.)

— Агата Пупок… Мой муж… пэўна ж таксама ведаеце?

Яна не даказала і змоўкла. А Трышка Ласы прыкінуўся неспадзявана аглушоным:

— Які Пупок? Той што… камісар?

— Так… — таксама з эфектам паглядзела яна на Трышку.

Ён не ведаў, якім быць з ёю далей, і ўзяў яе за потную руку і пацiснуў. Яна прытулілася да яго правым плячом і трошку грудзьмі. Значыцца, усё ішло далікатна і паэтычна, хоць і была яна жонка важнага чалавека, а ён — вядомым пралетарскім паэтам.

Калі пад’язджалі пад Менск, яна сказала, каб ён не йшоў на перон з ёю разам, бо яе будзе спатыкаць муж, таварыш Пупок.

— Значыцца, усё кончана? — уздыхнуў Трышка.

— Пабачым… — усміхнулася Агата і паглядзела яму глыбока-глыбока ў вочы.

— Скажыце… — працягнуў Трышка, — здаецца, таварышу Пупку даюць рукапісы на палітрэдакцыю? Можа, якраз у яго мой новы зборнік паэзіі.

— Ну, і што? — засмяялася яна.

— Зборнік мой чытаюць штосьці вельмі доўга… Пэўна ж, з пункту погляду такіх людзей, як таварыш Пупок, ідэалогія там не на ўсе 100%. Баюся, забракуюць. Хоць ваш муж, маючы такую жонку, павінен умець цаніць хараство ўва ўсіх яго формах, у тым ліку і ў паэтычных вершах.

— Дзякую за камплімент. Але праўду кажаце: нашы палітрэдактары часам разбіраюцца ў паэзіі, як свінні ў апельсінах.

— Значыцца?..

— Значыцца, калі ваш зборнік у Пупка, ён будзе надрукаваны, але я сёння цэлую ноч буду сама яго чытаць.

Трышка не ведаў, што сказаць, нахіліўся і цмокнуў ёй у руку.

— Якое мяшчанства! — сказала яна, не адбіраючы рукі і гледзячы толькі, ці не дужа брудная ў яе ад пылу рука. — Ай, ай, ай! Вы — пралетарскі паэта, а трымаецеся такіх буржуазных звычаяў, — дадала яна жартліва.

— Важан змест, а што да формы, дык мы павінны вучыцца і ў буржуазных класікаў, — адказаў Трышка і падумаў: «У такога паскуднага Пупка і такая разумная жонка».

І ўспомніў сваю даўганосую чупірадлу, з валасамі, як мачула.

* * *

Уночы пайшоў дождж.

Таварыш Пупок ляжаў побач з жонкаю здаволены і думаў ужо пра свае службовыя і партыйныя справы.

— Які гэта рукапіс ляжыць на стале ў тваім пакоі? — спыталася Агата і дадала: — Як добра, што пайшоў дождж. Я ў дарозе так змарылася ад духаты і пылу, а ехаць было так нудна, ніводнага цікавага чалавека.

Яна павяла рукою па мужавых вуснах тым месцам, дзе цалаваў Ласы.

— Рукапіс? Вершы гэтае свалаты, Ласага, — адказаў муж. — Я павесіў бы ўсіх гэтых паэтаў.

— Якая нуда чытаць табе ўсякую дрэнь. Я не разумею, чаму цяпер так носяцца з беларускімі паэтамі.

— Ну, цяпер ужо якраз не дужа носяцца, — сказаў муж. — Цяпер наша баявая задача — рашуча ўдарыць па беларускім шавінізме.

— І ты ўжо ўдарыў? Ці, наадварот, дазваляеш друкаваць?

— Думаю забараніць. Гэты Ласы калісьці зачапіў мяне на літаратурным дыспуце. І наогул цяпер такая лінія ў партыі, чыстка… Лепш забараніць. Але няма да чаго прычапіцца, ёсць вершыкі з ідэалогіяй.

— Няўжо ты ўвесь зборнік прачытаў?

— Дзе там! Ён, халера, намараў цэлую гару паперы. А я — толькі пачну чытаць, зараз клоніць на сон. Збольшага прагледзеў. Можа б, ты яшчэ перачытала?

— Буду я мазгі выкручваць! Хоць я чула, што беларускія паэты цябе вельмі паважаюць. Яны ж лічаць цябе добрым беларусам.

— Дык ці ж мала я прапусціў іхнае пісаніны, амаль што не чытаючы, пакуль партыйная лінія ішла на іх падтрыманне. Але Ласы — гэта свалата першае маркі. Шавініст, толькі ўмее падлізвацца і выкручвацца, таму і праслыў пралетарскім паэтам.

— А я чула, што ён лічыць цябе самым разумным і адукаваным палітрэдактарам.

— Ды ну? — усцешыўся Пупок. — Дык, можа, прапусціць гэты яго зборнік?

— Калі баішся, выкінь кожны дзесяты вершык, каб можна было, у разе чаго, адпісацца, а ўвесь зборнік прапусці. Хто там дужа будзе прыглядацца да яго зборніка? Ласы нідзе цяпер не выступае, і ніхто да яго не чэпіцца. А забароніш — толькі лішняга ворага нажывеш.

— Ну, чорт яго бяры, прапушчу. Заўтра адашлю ў выдавецтва. Хай друкуюць.

— Самае лепшае, — сказала Агата і пацягнулася ля яго ўсім целам.

— Хіба табе яшчэ не спіцца? — здзівіўся Пупок.

— Нервовы ўздым з дарогі, — адказала яна.

І яна павярнулася ад яго на другі бок.

Ён не зразумеў, чаго ж яна хацела. Але яму хацелася спаць, і ён рад быў ужо заснуць.

А над Менскам грымеў гром, білі перуны і ліло як з вядра.

*1929*

## ЮБІЛЕУШ

> На юбілеуш ксяндзы казалі,
> Што будзе ездзіць вогненая печ...
>
> *Восіп Арлоўскі*[1]

Жонка мылася ў лазні хвілін сорак, хутчэй прыбегла дамоў і сказала, што чаргі ля касы амаль што ніякае няма. Лявон з сынам пачалі шату-бату рыхтавацца, і ўпопыху забыліся ўзяць рушнік.

Месяц быў у поўні, дрэвы былі прыгожыя ад сярэбранага інею, і скрыпаў пад нагамі звонкі маразяны снег. Але Лявон выбраў самую кароткую дарогу, і адказваў на сынаву гутарку скупа, каб там, пакуль яны ідуць, не набралася чарга.

Аднак жа ён успомніў, што дваццаць год таму назад, гэткім самым вечарам, ішоў ён у сваю цёмналескую лазню, думаў тады, як цяпер сын, што там на гэтым месяцы, і мроіў аб усім лепшым (сын так яшчэ не мроіць, бо яшчэ малы, але ўжо пачынае мроіць).

На іх шчасце, чаргі ў лазні не набралася, і яны зараз апынуліся ў раздзявальні. Лявон быў здаволены, што сёння набыў-ткі валенцы, дык скарачаецца разуванне-абуванне, паміма таго, што і нагам цёпла і прыемна. Валенцы троху мулілі, але павінны разнасіцца, дык муляць не будуць.

Мыліся добра. Людзей вакол было мала. Вядома, людзі былі ўсе чужыя, незнаёмыя, і ніхто ні з кім не размаўляў. Сын сёння быў маладзец, сам мыў сабе галаву і не казаў, што вада дужа гарачая.

Лявон мыўся і маўкліва ўспамінаў свой юбілей. Парнога аддзялення ў лазні ўжо не было (з сёлетняга году), але ён не вельмі цяпер з гэтага цешыўся і супроць былога цёмналескага пекла нічога ужо не меў. Мікіта Шопік памёр даўно, а Лявон за гэты час не запанеў, а распанеў. Не было таго прыгожага юнацкага смутку, што здаваўся некалі Лявону пакутаю ад бязладдзя ў цёмналескім жыцці, не было і шмат чаго.

І мімаволі ўздыхнулася яму.

* * *

Дзядзька Якуб даўно дамяў сваю пяньку і даўно спачывае на новым цемналескім могільніку. І як і хто паліць цяпер у цёмналескіх лазнях, — Лявон не ведаў: «драконы», мусіць,

асобна, а «нехацімцы»[2] асобна. А можа яшчэ мыюцца і ўсе разам, як табун ваўкоў у лесе.

Лаўрынька парыцца у канцлагеры[3], а Раман папарыўся троху ў ізалятары і з'ехаў у Паўночную Пальміру[4]: чаго і як, Лявон таксама нічога не ведаў.

Даўно памёр стары салдат Захар Какста, а ў школах БССР вучацца па-беларуску.

Усё гэта думалася яму, пакуль мыліся, усё гэта не выходзіла з галавы, калі і выйшлі ў раздзявальню і абціраліся, замест забытага ўпопыху рушніка, падраненькаю сынаваю кашулёнкаю.

Усё ішло сваім ходам, сваім торам, усё было ў парадку.

Вогненая печ праехалася моцна, і сам Лявон загартаваўся ў яе агні.

«А што будзе далей?» — пытаўся ён сам у сябе ў часы раздум'я, і хацелася яму вярнуцца у Цёмналессе. Яно ўжо не тое старое, яно ўжо новае, непазнаванае. Але ён там ізноў лішні...

І хоць струны яго сэрца не дрыжэлі ўжо тым вялікім жалем, якім дрыжэлі дваццаць год таму назад, бо за гэты час значна пагрубелі, але ён яшчэ раз мімаволі ўздыхнуў, бо цяжка было яму ад думкі, што разлучаны ён з Цёмналессем надоўга, і што хто ведае, калі ён убачыцца з тымі, ад каго некалі так рашуча і так неабдумна ўцякаў.

Вогненая печ праехалася моцна, і розум прымаў яе ход з задаваленнем. Жаль і крыўда адсуваліся ўбок пры аналізе таго, што было.

Але да канца ён яшчэ не загартаваўся, яшчэ хацелася яму вярнуцца у Цёмналессе, яшчэ хацелася напіцца пасля гэтае гарачыні, напіцца прахалодлівае вадзіцы з цёмналескіх новых крыніц.

* * *

«Дык вось ён мой дваццацігадовы юбілеюш», — мільгала горка-пасмешная думка, калі ішоў ён з сынам дамоў з лазні і думаў, што на вячэру будзе тушоная капуста з алеем і цэлы самавар гарбаты.

І мімаволі ўздыхнуў ён трэці раз.

А малы сынок яго шкрабаў валеначкамі па маразяным тратуары і ўголас развіжаў, чакаючы бацькавых заўваг, што было б, каб не зямля каля сонца, а сонца круцілася б каля зямлі: якія былі б тады ў нас дні і ночы?

Лявон нешта адказваў, а сам сабе думаў свае думкі. «Добра, што ўдалося памыцца без чаргі. Вогненая печ праехалася моцна, — добра. Пад'ядзім капусты, нап'ёмся гарбаты, пасядзім... Мінулася дваццаць год. Маці, бацька, Лаўрынька... Крутагорск і Цёмналессе... Ідзі сваім торам... Ідзі, ідзі...»

І ён ішоў.

Месяц быў у поўні. Дрэвы былі ў сярэбраным інеі. Скрыпаў пад нагамі снег. Быў вечар. Было прыемнае, ціхае, спакойнае марознае надвор'е.

І ён ішоў, і з матэматычным, акуратным задаваленнем, і з ціхім і наўмысля спакойным сэрцам спраўляў свой юбілей.

*[1932–1933]*

## ЯК УДАВА

Заўсёды смутныя, бы ўдовы,
Яны найбольш адны стаялі,
І так маркотна пазіралі
Іх задуменныя галовы

*«Новая зямля» Я. Коласа*[1]

Калі муж і дзеці павячэралі і пайшлі у свой асобны пакойчык, што быў у закутку за кухняю, яна ўзялася мыць пасуду, стаяла ля століка, высокая, з рушніком у руцэ, і задумліва пазірала перад сабою.

Акно замерзла ад нізу да верху, і нават ніжняя балонка нутранога акна была сёння амаль уся замёрзшы. Лямпа з трэснутым і замурзаным шклом цьмяна свяціла. Яна падумала, што трэба б яго перамяніць на новае, але хай патрымаецца пакуль зусім не патрэскалася, бо і новае можа хутка трэснуць ад капак, што падалі з акна на стол, калі ў хаце рабілася цяплей.

Яна мыла пасуду і рыхтавалася зараз сесці за стол працаваць. На падаконнік ужо нацякло ізноў вады, трэба выцерці трапкаю, — ну, гэта можна заўтра, адным заходам, бо часу так мала. Вось трэба хутчэй крыху папісаць дый класціся, бо і стамілася за дзень і заўтра ізноў уставаць а сёмай, ізноў разводзіць прымус, скобліць бульбу, гатаваць гарбату, карміць мужа і дзяцей і спяшацца, каб не спазніцца ў дзіцячы сад.

І так — дзень за днём...

Ужо даўно муж не быў з ёю ласкавы. Ува ўсіх нястатках і жыццёвых непрыемнасцях ён бачыў яе віну. Ён дакараў яе

за неэканомнасць, за непрактычнасць. Яму не падабалася яе гаспадаранне. А ў яе ўкралі спярша працоўную кніжку і 10 руб. грошы, потым бідончык, потым ізноў 20 руб. І ўсё гэта давала яму повад ставіць яе ні ў грош...

Яна задумалася, і ў яе прапала ахвота садзіцца за стол працаваць.

От, лепей легчы і ляжаць. Усё роўна.

Яна тут адна, зусім адна на свеце. Жыве з мужам, як сумная ўдава. І нават дзеці ўзялі моду крытыкаваць яе так, як крытыкуе бацька. Яны часта гавораць ёй грубасці і не слухаюць яе.

Толькі праца ў дзіцячым садзе, з малымі дзеткамі, захапіла яе апошнім часам. Там, сваёю працаю, яна таксама будуе сацыялізм, і ў гэтым знаходзіць сваю маленькую радасць жыцця.

І яна падумала: «Жыву, як удава, што пазнала цану жыцця...»

Але класціся і ляжаць ёй ужо менш захацелася, яна выпусціла з рук загорнуты канец коўдры назад на пасцелю, падышла да століка і ўзялася за паперы.

Пасядзець, папісаць, асабліва, калі адна ў пакоі, калі ніхто не перашкаджае, таксама прыемна.

І яна падумала: «Пэўна і ў адзінокае бяздзетнае ўдавы ёсць якая-небудзь свая прыемнасць у штодзенным жыцці, ну хоць бы тое, што яна можа ціха-спакойна сесці за шытво і памыць сабе новую кашулю...»

Але ёй зрабілася нібы крыўдна ад гэтага параўнання... Хіба ж яна ўдава — пры жывым мужу, што жыве з ёю разам, толькі што не ў адным пакоі? Хіба ж яна не мае дзетак, што не толькі ж з ёю сварацца і гавораць ёй грубасці, а і любяць жа яе і, бывае, ласцяцца да яе?

Дык чаму ж так выходзіць, што жыве яна, як удава? Можа яна і сама крыху ў гэтым вінавата?

Яна шыбкім лётам думкі агледзела ўсё сваё мінулае жыццё, агледзела, як бы збоку, саму сябе у сваім жыцці, з сваімі роднымі, у сям'і, і спаміж людзей — у школе, калі ўчылася, у гулянні, калі была дзяўчынаю — вясёлаю, сінявокаю, і потым на працы, калі жыццё патрабавала ад яе шмат сіл і шмат часу за хлеб штодзенны. Ішла яна ў гэтым сваім жыцці, здаецца, нягорш за іншых людзей, ішла старанна і спраўна... Дык чаму ж так усё склалася, што вось, урэшце, жыве яна так, як жыве цяпер? Як смутная ўдавіца...

Ёй зрабілася шкада самой сябе.

Слёзы нервовасці накруціліся на вачах. Ніхто не бачыць і не знае гэтых слёз.

Ну, няхай. Трэба класціся, бо ўжо позна. Заўтра трэба рана ўстаць, каб паспець усё зрабіць дома і не спазніцца на працу ў дзіцячы сад. Там ужо будуць чакаць гэтыя малыя дзеткі сваю цёцю Мілу, што выхоўвае з іх новых людзей, людзей сацыялістычнае грамады. Яны і сваволяць, і з імі такога шмат клопату і часам і непрыемнасцей. Але там — і яна таксама будуе сацыялізм, і гэта цяпер яе радасць жыцця, гэта цяпер той яе вузельчык, што звязвае ўдаву з яе мінулым і дае ёй моцы жыць у сучасным.

І яна супакоеная пачала класціся адпачываць.

*[1932–1933]*

# АПОВЕСЦІ

## ДЗВЕ ДУШЫ

### I

Памешчык сярэдняй заможнасці пан Абдзіраловіч заўдавеў у 1890 годзе дужа трагічна.

У адну душную, цёмную летнюю ноч варочаўся ён з жонкаю дамоў з балю, на якім гуляла шляхецтва з усяго павету.

Баляванне было вялікае. Шампанскае лілося, як рака. Клум, гоман, грыменне прывезенага з N. аркестра далёка нясліся з ярка асветленага панскага палаца па старыннаму заглохламу парку, насаджанаму рукамі падданых за каралём Панятоўскім, пераляталі заплытае возера з шумячым чаротам і трапетна шэпчучым уночы трасніком, каціліся, засмутнела слабнучы, цераз сонны фруктовы сад і каналі на дварах спячай вёскі.

Сярод агульнай несудзержнай весялосці і скокаў, пад налязаннем начы і музыкі, маладую нервовую паню зняцейку агарнуў нез'яснімы сум, і яна вельмі напужала мужа, настойліва бажала зараз а зараз ехаць дамоў, дзе астаўся іх першачок, трох месяцаў Ігналік.

— Але ж, дуся, — уставаў з-за картэўнага століка, прабаваў рассеяць прадчуцці аб няшчасці агорчаны пан-муж, — яшчэ гэтак рана… Усё спакойна… У нас сышлася добрая партыя…

Паня раптам уся задрыжэла. Слёзы пырскнулі з воч і апяклі яго руку.

— Ігналік мой!.. Ігналік… Барзджэй дамоў, да яго…

Дзіўнай трывозе і клопату маладой жонкі баляваннікі надта не падзівілі і без думак гулялі аж да шэрай гадзіны ранння, калі мужыкі, схапіўшы косы, беглі ў макраватай імгле золку па сенажаць і прыкра чулі на хаду слабнучыя гукі панскай гульні.

А накававанае прадчуццё не ашукала яе: сярод чорнай цямноты, у Чартовым Барку, апоўначы на іх без меры смела напалі імслівыя людзі і без следу ўцяклі.

Коні паціху і асцярожна пераступалі па дарожнаму лесавому карчэўю, вадзілі вушмі і, чуючы, пырскалі. Фаэтон гоцаў і гутаўся. У няцямлівай дрыготцы прытулілася да мужа паня.

Нешта крэхнула, штосьці зашумела… І блізюхтанька ў лесе, каля дарогі, дзіка гэйкнулі, схапілі коні за паводдзе і першы раз дзіўна і голасна вухнулі ў лесавой нямой цішы калом па будцы фаэтона, прабілі яе.

Другі раз меркавалі пану і далі ў вісок яго жонцы.

Коні ірвануліся на дыбкі і быццам шалёныя паляцелі. Жудасна, як звер, роў здурнелы пан, сціскаў ліпкімі ад крыві пальцамі халадзеючы бязвольны труп. Хурман знямеў ад страху і сударжна ўпінаўся нагамі, намагаўся, каб не зваліцца з казлоў, не адарваць абкручаных вожкамі рук.

Сонныя птушкі неспакойна, нездаволена трапыхалі крыллем у макушках сярод нявіднага ў чарноце вецця.

…Ігналік астаўся нядужы сірацінка. Пан Абдзіраловіч атупеў з гора і злабы на падазраваных забойцаў з вакалічных сялян, забіўся пасля хаўтур у габінэт з каньяком і цыгарамі, здаецца, зусім забыўся аб быццю дзіцёнка.

Верныя слугі ўзялі ў панскі двор мамку з далёкай вёсачкі, а з ёю і яе дзіцёнка-хлопчыка, панічовага блізка што аднадзённічка.

У дзяціным пакойчыку паставілі яшчэ адну калыску, наспех збітую дваровым сталяром і надта невыгодную побач з прыгожанькай люлечкай паніча. Але ж абодва дзіцянёткі былі амаль неадзначныя і абодва — у поўным загадзе мамкі.

— Еш, пі, ні аб чым не клапаці! — сказаў неяк раз пан мамцы, — толькі аднэй прашу ласкі ў цябе: не рабі няроўнасці ў дзяцёх, калі будзеш карміць і даглядаць.

Сказаў і ўзноў забіўся ў габінэт.

Маланья была ціхая, маўклівая, але разумная і рахманая баба, жонка здадзенага ў салдаты і ў скорым часе памёршага там мужыка, і прыйшлася якраз да новага жыцця.

Добра гадаваліся хлопчыкі. Ігналік падымаўся на ногі дужым і харошым мальцом. Трошку слабейшы і цішэйшы быў Маланнін Васілёк.

Дзеці дружылі, бавіліся разам, гулялі, як браткі, слухалі Маланніны казкі і не хацелі спакідацца, калі прывязлі ў двор паважнага настаўніка ў даўгім чорным сурдуце і акулярах, каб вучыў паніча пісьменству.

Нянька любіла свайго панічочка незвычайна. Здавалася, яна любіць яго болей, чымся роднага сына.

І дзіўныя чуткі папаўзлі былі ў далёкай вёсцы, але, добра, да пана ніякае дзейканне адтуль не дахадзіла.

І ён гардзіўся Ігнасём, чуў у ім сваю белую костку і сінюю кроў, сваю пароду.

Толькі адзін раз, адзін нядобры мамент быў, здалося Маланні, як быццам пан занадта доўга і пільна а пільна ўглядаецца ў Ігналіка і на вялікую карціну на сцяне, дзе быў намалёваны сам і з нябожчыцаю жонкаю…

Васілёк, каб хацеў, мог бы выйсці на панскага лакея, кухара ці нават аканома, адылі матка, як слова наўмысля, выдаляла яго ад сябе, і як дайшоў сямёх гадкоў, хлопчык бегаў падпаскам у старога Яромы, пасвіў авечкі.

Яна давала яму, сустрэўшыся, смачныя гасцінцы з панскага ўжывання, але была стродкая. Яна не любіла, калі ён вельмі часта залучаў у панскі дом, і ўважала бачыць яго ў людской хаце або ў будцы ў дзеда Яромы за фруктовым садам на папасе.

## II

Поезд прыйшоў у Маскву са спазненнем, і прапаршчык Абдзіраловіч быў здаволены, што прыехаў уранні, а не ўночы.

Нават шкадаваў пакідаць зацішнае купэ.

Ноч мінулася так добра. Ехалі яны толькі ўдвух, у купэ першага класа, куды і яму дазволілі сесці як хвораму; унізе — грэбліва маўклівы, панскае пароды гвардзейскі афіцэр, а на спальнай паліцы — ён, «прапаршчык армейскі».

Шпарка імчаўся поезд сярод ціхой ліпнёвай начы. У расчыненае вакно blішчэлі далёкія, далёкія, рэдкія зорачкі з чорнага густога і цёплага бяздоння. Унізе за вакном хапаліся ўцячы назад курганкі і лагчыны з паснулымі кустамі, прыніклым нанач да зямлі жытам і араматнаю травою; сунуліся, аставаўшыся, цёмныя стаўбы з дратамі, што плывуць патроху ўгару, то раптам скідаюцца ўніз і ўзноў то паволі, то барзджэй усплываюць з мёртвым бліскаennем ад святла ў вакне.

Некампанейскі папутнік Абдзіраловіча паважна зняў з сеткі падарожную лазобачку, звонка адамкнуў яе, дастаў пакуначкі з ядою, расклаў на століку, выцягнуў бутэльку і чарачку, не ўважаў на троху нясціплы пагляд суседа з паліцы, і пачаў апетытна, са смакам есці вялікі кавалак пражонага парасяці, — хрупаў зарумяненай скурачкай, — потым — нейкую дзічыну, тварожнічкі,

піражкі. Доўга ачышчаў жоўтую, прыгожую, надта вялікую ігрушу і чмокаў, ад'ядаў буйныя, сакавыя кускі.

Абдзіраловіч пашуршэў газетаю, каторая тхнула свежаю друкарскаю фарбаю, зморана паляжаў нейкі час у нерухомых моўчках з выцягнутымі ўздоўж цела рукамі і неадназначнаю думкаю.

Гвардзеец выцер чырвоны, мяккі і губасты рот (на верхняй голенай губе, збоку, чорная барадавачка) салфеткаю з вялізнымі на ёй ініцыяламі пад каронаю; потым ручніком — пульхлыя, холеныя рукі і пачаў усё класці назад у лазобачку.

Абдзіраловіч меў ваўчыны апетыт за ўвесь час лепшання пасля хваробы і цяпер надарма з ім змагаўся, глытаў слюню, чуў нейкую знялюбеласць да гвардзейца, што сам не можа гэтак пад'есці.

Закурыў папіроску і высунуўся ў вакно пад прыемны халадок лёгкага дзьмухання ночы.

Пасля месяца цяжкой хваробы ў дывізійным лазарэце, пасля мучэнняў і турбот на пазіцыі, дзе быццам у захвіцэнні быў даўнейшы, маладых лецяў, дух яго, пасля прыкра-надакучлівай маруднасці на пунктах і вакзалах, доктарскіх камісіях, ён з радасцю і бясклопатным чуццём лёгкасці і спакою ў ачунялым целе ўглядаўся ў соннае поле і дыхаў араматам сена і красак. Яму здавалася, што ізноў адраджаецца да жыцця… Заварочаліся ўспаміны аб далёкіх гадах маленства, калі аднойчы ўцёк з двара ў поле, глядзеў, як косяць сена, абедаў з касцамі і качаўся на свежым пахучым сене, бегаў басанож па колкай сенажаці.

Ах, як гэтыя думкі і гэтая прынадная ноч сярод палёў, у грымячым поездзе, на мяккіх, зыбкіх падушках, ах, як ізноў захвалявалі яны сэрца, што ўзята ад зямлі і вечна туды, да яе цягнецца, ёю вабіцца і да яе гукае сярод чужога і непрыемнага.

Гвардзеец выняў коўдрачку, падушачку, пазваніў праважніку і з яго памаганнем асцярожна здзеў бліскучыя, кволыя боцікі; потым, адпусціўшы яго, раздзеўся, склаў сцеражліва фрэнч, скінуў з яго пухавінку, лёг, увінуўся і заснуў з маленькім свістаннем у носе.

З грыменнем налятаў поезд на масты, пáціху сіпеў пад гару, лёгка імчаўся па раўнядзі сярод чорных кучак хат і садоў, дзе там а там блішчэлі жоўценькім і ціхім вясковым святлом вакенцы, а далёка, у розных канцах, чуваць было, гаўкалі сабакі ў невядомым рускім сяле.

Летуцелася аб працы ў вольнай староньцы, аб дзеяльнасці…

# ЦІХАЯ ПЛЫНЬ

## Забыты край

З левага боку Дняпра, за дзень летняе хады ад яго, абнятае з трох бакоў балотамі ды хмызнякамі беднай Плёскі, прытулілася тое Асмолава пры вялікім некалі шляху з Вялікага княства Літоўскага на Масковію.

Мялее і нядужае стары нябога Дняпро. І потым таго выбілася з духу Плёска. Дзе зусім парвалася, усохла, кінуўшы знак калішняй магутнасці — глыбокі замуравелы равок-рэчышча; дзе расцяклася даліною, зрабілася багнам, вязкім і непраходным, зарасла купнікам і вербалозам; троху-троху блішчыць яна абы-дзе рудым, як помаз, іржавеннем спаміж зялёнай асакі, залатога балотнага казельцу і кураслепу. На высокіх купінах — багун, медуніца. Тхне жалезам… У цёмную восеньскую ноч страшыць Плёска нямою глухатою адзіноту-падарожнага; быццам нешта чорнае з купніку вылязае, стаіць… — так здаецца яму.

Заглушэў зусім вялікі стары шлях. Размыты з бакоў веснавымі ручаямі, пакарбачан даўнымі засохлымі калюгамі; дзе вышэй — парос калматай муравою, дзе ніжэй — шурпатай маці-мачыхай. Спустошыўся і змоўк. Дзень і ноч, зіму і лета маўкліва-патаённа думае думы, якім борздым лётам ляціць усё ў вечнасці. Пабіты перунамі прыдарожныя бярозы. Дагубілі іх сваімі вогнішчамі начлежнікі і пастушкі. Якія ж неяк яшчэ ацалелі, — быццам сіроты маячаць яны, бедныя, старыя, дупло на дупле, каржавыя. І яшчэ болей наганяюць пустэльнаму шляху смутных успамінаў; ціхім, роўным векавечным гоманам веццяў свайго яшчэ болей дадаюць тут глухаты, пустэльнасці і маркоты.

У кутку крутой дугі, якою выгнулася Плёска, спіць гара, а на гары там — гарадзішча. Нейкія курганкі і могілкі; заімшэлыя каменныя крыжы, раўнабокія, грубыя, са сцёртымі ад даўных часоў нейкімі літарамі і ўсякімі зусім незразумелымі насечкамі; яны ўехалі ў зямлю, а вакол іх валяецца пакрышаная цэгла, чырвона-бураватая, старая, чорны аскялёпак дрэва; дзікае зелле з былінкамі, у якіх глуха звоніць вецер, — і больш няма нічога.

Ніжэй, на шырокім зялёным сухадоле, ужо ў пазнейшыя часы паставілі шчырыя цёмныя людзі над крыніцаю каплічку. У ільінскую пятніцу бывае тут адправа. З усяе акругі з'язджаюцца спаленыя летнім сонейкам сяляне. Увесь лог, з лёгкім і прыемным водарам пакошанай травы і пахам дзёгцю, уся дарога і

гарадзішча застаўлены вазамі, конямі і белымі шатрамі, поўны людскога натаўпу з ягоным вясёлым і гуллівым, а разам жа і сумным гоманам і шумам. Да трох дзён грымеў тут некалі кірмаш з бойкім торгам і ўсякай весялосцю… Апошнія гады ўсё меней збіраецца народу, цішэй гудзіць дуда і цішэй галосяць дудкі-пасвісцелі (так завуцца тут падвойныя жалейкі); не так дужа і не так шчыра пяюць сляпыя старцы пра таго Божага ўгодніка Лазара і толькі дзеля гадзіся пагражаюць пякельным агнём грэшнаму люду. Пагрыміць часам новенькі венскі гармонік; не зважаючы, пройдзе сярод барвіста прыбраных дзевак і сапрэлых хлопцаў разудалы гарманіст у лакіраваных бліскучых ботах, троху запыленых; там яшчэ пакажацца музыка ў шэрым жупане нараспашкі з скрыпкаю пад пахаю і азука-хлапчук, музыкін памагачы, з бубнам у адной руцэ і булдавешкаю ў другой. Не даючы веры, падзівіцца моладзь на тры-чатыры столікі з убогімі, занадта сходнае цаны, ласункамі, і, мінаючы Асмолава, усе пацягнуць надвечар у Лугвенева, дзе ёсць гасціныя каморы з прыемнай прахалодаю і не дужа цёплым «баварскім» півам для вясковых госцікаў.

Старыя граматы і акты гаспадарства, у кругабегі вялікіх разбурэнняў пазаглабаныя ў бібліятэкі чужых краёў, нямала пішуць пра вялікае Лугвенева ў сівой мінуўшчыне. Цяпер яно забыта шумным светам і ціха спіць… Разбурылася старыннай архітэктуры сінагога з дахам, падобным троху да цікавых дахаў на азіяцкіх пагадах і куміpнях, — яе зняў на фатаграфію сваім чорным кадаком даўгі, як прасла, з нагамі, як у бусла, сухапары ангелец у гетрах, што гасцяваў у князя ў палацы. Патрошку разбураецца, за рэчкаю, на ўзгорку, у ліпах і клянах, стары аблуплены палац дурнаватых князёў Кандыб-Лугвенічаў, недалужненькіх патомкаў лугвенеўскага заснавальніка, князя Лугвеня, пра якога пішуць хронікі, што быў гэта выдатны розумам і вайсковым спрытам князь. І сумятлівая яўрэйская галота, з адубелым або ж і па-гандлярску ахіжаным біблейным сумам уваччу, і п’янаватыя, у беленькіх магерках, падобных да турэцкіх фесак, мужыкі з Асмолава, Гарадца і ўсяе воласці, з такім самым застыглым смуткам у ціхім або і пахавана-злосным выглядзе няўважна месяць гразь на вуліцах Лугвенева, чвякаючы дзіравымі бацінкамі і калматымі лапцямі-атопкамі або шалёпаючы падкованымі ботамі; а то ўздымаюць шэры, важкі пыл з пахам поту і дзёгцю, уздымаюць там, дзе некалі, як пішуць вучоныя гісторыкі, шумела вольная рада магутных і ганарлівых продкаў нашай белай косці, там, дзе гудзеў звон рады і бразгала гострае

шабелле. Можа, і так! У самым пасяродку Лугвенева прысела, быццам квакуха, памалёваная летась, як ездзіў архірэй, царква; вакол яе — усцяж крамы з дзвярмі пад агульнаю паветкай-галерэяй, і там гнілы памост, увесь у дзірках, і тыя дзіркі якраз перад дзвярмі. Ля крам туляюцца галодныя рабрыстыя сабакі і ходзяць або бегаюць, збіраючы раструшанае сена і ўцякаючы ад пугі ў руках пакрыўджанага дзядзькі, спрытныя і хітрыя старыя козы і такія ж, але яшчэ спрытнейшыя малыя козкі. Яшчэ ж далей зляпіліся адною кучаю розныя будынкі, манаполька і шаўцова хата. Шаўцова хата — без варот, з адною шулаю, і адтуль хлопчыкам вельмі зручна кідаць з-за шулы шубінаю ў сабак і коз.

Прыязджаў яксьці па вясне, з даўганогім сябрам-чужаземам, князь; прадаў нейкім наезным з Смаленску ці адкуль яўрэям і ў кампаніі з імі лугвенеўскаму Лейбе Бруднаму кавалак лесу паміж Асмолава і Гарадца, што завецца Зуброў Загон; а яшчэ скінуў старога аканома-латыша, пасадзіўшы на яго ваканцыю новага чалавека, нейкага эстонца; паклаў у садзе, на магіле свайго дзеда, новы плінтус з напісам па-польску і па-латыні; і пасля першага пад восень холаду з'ехаў ізноў у свет, адкуль быў прыехаўшы.

Скрозь цэлае лета, як толькі святы дзень, хадзілі да князя асмолаўцы, каб дабром дайсці да ладу з несправядлівымі абрэзамі і выпрасіць палёгку на пашу і на ўругу. «Навёз ваш аканом каморнікаў ды грабароў, — з жалем выкладалі яны князю сваю крыўду, — прырэзаў вокрайкі нашых шнуроў да лесу вашай светласці і па ўсёй новай лініі канавы пакапаў… дык дзе ж тут якая праўда?» — «Пачакайце, — ласкава казаў ім князь, аглядаючы новенькую, прывезеную з чужога краю стрэльбу ці лезучы з тым чужаземам на даўгія дрожкі і балбочучы з ім па-чужаземнаму (а стаенныя коні тупалі і не стаялі), — пачакайце…» Даведаліся асмолаўцы, што князь ізноў (надоўга, мусіць) з'ехаў, — і без ніякай цырымоніі, узлаваныя, пасунулі будзённым мокрым днём, такою хлюпаю, у кантору гаманіць з эстонцам. Зазлаваўся і эстонец, новы аканом, пачырванеў, вяхнуў: «Будзем пачакаць!» — і пайшоў па гаспадарцы: на стайню і ў абору. Ці за ім ганяцца?

А ганей за двое ад палацу, за клянамі і ліпамі, у старых вялікіх вербах, што параслі над Плёскаю, высачэе над нізкімі будынкамі закураны, высокі-высачэнны цагляны комін — тут князеў бровар.

Усю зіму асмолаўцы і гарадчане пояць ля бровару, у шырокай студні пад круглаю гантоваю павеццю, сваіх дробных, калматых,

замардаваных коней, ускачваюць на сані па дзвюх дошках важкія бочкі з спіртам і скідаюць парожнія. І на старым шляху ўзімку троху тлумней і весялей. Інагды цягнуцца даўжэнныя абозы з хлебароднай Амсціслаўшчыны. Вязуць людзі, апрануўшыся ў вялікія шэрыя армякі з шырокімі каўнярамі, падбітыя белымі і нават чорнымі аўчынамі, вязуць ад месцячковых скупшчыкаў сваю і панскую пяньку, лён, канаплі і семя і з нейкім грэблівым, зняважлівым падзівам паглядаюць на кароткія, «на вілачках», белыя світкі ў асмолаўцаў; яны пільнуюцца свой свайго; а калі едуць назад, лёгкімі вазамі з бакалейнымі і краснымі таварамі, дык не варочаюць з дарогі перад цяжкімі вазамі асмолаўцаў: ім карціць, каб сцебануць даўгою пугаю чужую кабылёнку; а на заезным двары ў Лугвеневе яны жартуюць і дурэюць, маюць сябе запанібрата з самім Ёськам, гаспадаром заезду, п’юць гарэлку цэлым грудам, ядуць сала і драчаны з салам; яны са смехам міргаюць той таму, калі высокі, худы і белабрысы асмолавец, з дзвюма-трыма валасінкамі замест людскай барады, і ў сваёй світцы — «на вілачках Божы страх», і ў сваіх жыдзенькіх, не па сцюжы, пасконных штанах, туляючыся і хаваючы вочы, адзінцом вып’е сотку, згрызе сухі таран, прымасціцца рачыкам у дзіравых «копаніках» (санках, з не гнутага, а копанага ў лесе, з крывых карэнняў, вобаддзя) — і патурыцьударлявую сваю кабылку, з белымі ад шэрані бакамі і выпнутым калматым брухам, па дарозе на паснулае Асмолава… Міргаюць і смяюцца.

Тое, што блізка Лугвенева з яго корчмамі і броварам, — губіць асмолаўцаў. Стары «літоўскі» шлях можа пасведчыць, колькі змёрзла на ім нядбалых спіртавозаў, едучы з Хароша-га — станцыі за Дняпром, куды цягаюць спірт. Бацька Дняпро можа пасведчыць, колькі залілося іх на пераправе, залілося з якоюсь хмельнаю пагардаю і няўважнасцю да жыцця і да ўсяго на свеце.

Дзікай травою красуюць палеткі. Гніюць і правальваюцца стрэхі. Хлопцы едуць у шахты і на фабрыкі і наогул «у свет», але шлюць яны адтуль часцей лісты з уклонамі старому і малому, чымся пяць, тры, а то хоць бы адзін рубель. І штогоду наязджае валаснoе начальства спаганяць нядоімкі, наязджае з грудам асмолаўскіх махляроў рабіць продаж мужыцкай маёмасці з торгу. І смяюцца начальнікі і махляры: прадаваць бо не дужа чаго ёсць. А тыя асмолаўцы возяць а возяць князёў спірт, болей а болей нялюдзеюць і хаваюцца самі ў сабе. Ат, ліха з ім, са светам, тлумным і незразумелым… Хаваючыся адзін перад адным, усё шчыльней лезуць яны ў дружбу з лугвенеўскімі

шынкарамі, кажучы ім у хмялю: «Ат, пыні, і вашая доля не лепшая. Згнецены вы тут, як селядцы ў цеснай селядцоўцы. Трэба ж і вам хлеб прамысляць…» Усё смялей ідуць старыя дзеўкі і салдаткі ў месцячковыя ваданоскі і няньчыць дзяцей у заможных яўрэяў. Але, мусіць, дрэнна няньчаць іх, бо не пяюць іхныя гадунцы аб долі-нядолі тутэйшага краю, змалку думаюць яны аб іншых, светлых, чыстых і багатых старонках, а тутэйшая паэзія для іх — мужыцкая, цаны не мае… А старэнькія, белабародыя законнікі, у круглых чорненькіх ярмолках, з акулярамі над «бублііяй», чакаюць абяцанае гадзіны, калі пакіне іх народ «чужыну», дзе гасцяваў ён соткі год, і пасунецца за горы і за моры, у сваё спрадвечнае панства, што па волі грознага, але і праведнага Егавы[1] мае паўстаці з мёртвых. Пагаманіўшы з законнікам, дзівуецца, падвыпіўшы, стары асмолавец. Як жа гэта будзе, калі не будзе тут яўрэяў? А хто ж будзе прадаваць усё, што патрэбна чалавеку: махорку, сернікі, соль, і селядцы, і газу? Хто ж тады пашые боты і хамут і зробіць вакенныя асады ў новай хаце?

Усё пільней кукобяць думку асмолаўцы аб нейкім дзіве — ці то аб зямлі, ці то аб волі. Вось нехта аб'явіцца і прынясе дзіва з сабою.

Аб'явіўся год пяць таму назад у Гарадку «прарок», начытаны ў Бібліі і Брусавым календары[2]. «…І пройдзе, — казаў ён, — слых пра Лугвенева па ўсенькім свеце. Тут будзе асяродак правае веры, сюды з усіх старонак і ад усіх народаў пойдуць пабожныя людзі на ўклон Святому Духу. Разрасцецца Лугвенева, святое месца, ува ўсе бакі, да Асмолава і за Асмолава, можа, пад самы аж Дняпро. Многа-многа, без ліку будзе ў ім збудована будынкаў, там, дзе цяпер, у полі, расце палын ды кукаль. На гарадзішчы ізноў падымуцца, як у старадаўны час, вялікія муры, а святыя людзі, што жылі там за часы нашых даўных-даўных прадзедаў, будуць пяяць ужо не толькі ў купальскія[3] або рабінавыя ночы[4] пад зямлёю, але наяве будуць жыць спаміж жывых людзей…» Усё гэта будзе, казаў мужыкам «прарок», трэба адно з належнымі малітвамі… забіць дзіцятка мусіяша[5], што нарадзілася ў яго суседа! Бо той сусед, як і «прарок» — яго таварыш, рабіў сам з сабою блуд змалку і да жанення, і жонка такога чалавека магла прынесці сына хіба толькі ад нячыстай сілы… Задурыў «прарок» людзей! Улетку ўвечары, з поля з працы вярнуўшыся, мужчыны і бабы ў белых да пят кашулях, наўмысля на тое пашытых, маліліся ў «пракокавай» хаце па старой, воскам закапанай кнізе, пяялі псалмы, плакалі-гудзелі і набіраліся духу на вялікую спра-

ву. А бедная маці, нічога ні ад каго не ведаўшы, але ўжо чуючы нешта нядобрае, сядзела тады адна ў хаце, калыхала маленькага і пяяла яму: «Люлі-люлі-люлі, прыляцелі куры…» Не куры, а коршуны прыляцелі ў хату, адабралі маленькага — «прарок» і сам бацька, адурэлы, адбіралі, — раздушылі, разадралі яшчэ не аднятае ад грудзей дзіця, у мяшок завязалі, да конскага хваста прывязалі і ў поле пусцілі… Узлез тады «прарок» на гумно — ляцець на неба — і споўз, як дурань. Забрала паліцыя і яго і яшчэ многіх. Гады тры бавілі па судах, па астрогах. Наязджалі вучоныя прафесары, абмяралі чырвоным матузком і бліскучым цыркулем «прароку» і выдатнейшым гарадчанам калматыя галовы, глядзелі ім у рот… Тым справа абышлася. Усіх пусцілі-ткі «на волю».

Нехта бавіцца вякамі і не прыходзіць.

Адылі ж і тут бываюць гульні і смех, ігрышчы і вечарынкі. Трасе «трасуху» на старой, дрынчатай скрыпцы дзядзька Цімох. Як сарамлівая дзяўчынка наўчаецца скокам на гумне за асеццю, так і асмолаўцы, свае сярод сваіх, вясёла гоцаюць «трасуху» і «Лявоніху»; як праўдзівыя камары, таўкуць «мак»; мітусяцца ў «мяцеліцы». Пяюць сумныя, ціхія песні, даўныя-даўныя, і самі складаюць новыя прыпеўкі. Гэтак бесклапотнае дрэўца ціха зелянее, хаця ж злыбедная машкара выела яму сэрца.

## Герой гісторыі

Ці даводзілася вам праязджаць па вёсцы ў канцы лета, калі нітачкі прыгожага засмучэння ўжо снуюцца нявідна і незлавіма ў цёплым паветры, ужо вяшчуюць восень?

Ціха ўсё, бязмоўна і бязлюдна. Шэрым ціхамірным пылам пасцелена пустая вуліца. На гародзе, за абціснутым плятнём схіліў на сонца жоўтую, з махрамі кружэлачку высокі сланечнік. Абсыпае чырвона-чорныя пялёстачкі добры мак, ужо запозны, і звініць даспелымі мачынкамі ў зубкавых карунках, буйнейшымі і дробнымі, на тонкіх шызых сцебялінках.

Дзеці за доўгі дзень насеклі з макрыцы і крапівы сечанкі свінням; споўзалі ў чужую рэпу і ў яблыкі; пакачалі кацёлку і няўмысля пабілі ёю шыбу ў кутнікавым акне; паскрыгаталі, аглушаючы, калёскамі па вуліцы, возячы малога; пабіліся, улашчыліся; дапалі да паніклага сланечніку і няўзнаку выскублі паўкружэлачкі. Зрабілі з паловак мачын «лыжачкі» і будуць гуляць «у госці»: натрусяць у прыпол запэцканых кашулек маку і пачнуць ім частавацца. А яшчэ будуць есці госцейкі «перапе-

чы» — семя праскурак, што густа параслі на вуліцы пад плотам і пад сцяною разам з конскім шчаўлюком і сабачай мятаю.

Мляўкім і гострым нечым пояць каноплі паветра. Уссунуў дзед-даматур, што нічога няварты ні ў касе, ні нават з граблямі, а пільнуе двору, дзяцей і пчол, уссунуў доўгую плашку на худыя, сагнутыя жыццём плечы ў дзіравенькім жупане і панёс яе па канаплянай сцежцы на гумно — сушыць асець жыта, першую сёлетнюю асець. Гэты дзед — паэт у душы і вельмі ўлюбіў пару года між лета і восені, калі надыходзіць пярэкрут у прыродзе на зіму, калі ўсё расліннае даспявае, сыпле семя, дбаючы аб сваім жыцці ў патомстве, і з ціхаю пакутаю ці то пакораю спрадвечнаму закону жоўкне, схіляецца, ападае. Любіць дзед ісці аб гэтай пары па сцежачцы сярод зялёнай пушчы канапелек, якія тхнуць сваім п’яным пахам і патроху прадзіраюць вочкі. Любіць любавацца на фарботы залаценькай павуціны, што бліскаюць на сонцы, цягнуцца, быццам плывуць і быццам сцелюцца ад поля (дзе пажата і пусцее), на гароды (дзе густа і поўна, а ўжо смягне і ўсыхае) і дальш на чорныя гоні (дзе незабавам зачырванее рунь). Любіць дзед, расклаўшы цяпло пад асеццю і паплакаўшы ад ёлкага, з пахам прэлай гуменнай зямлі, дыму, доўга-доўга сядзець і бавіць час ля палыхаючых агнём плашак і грэць старыя косці. Карціць старому пакласці ў попел колькі бульбін і, углядаючыся на агонь-векавечнае, успамінаць, як быў маладым хлапцом (як цяпер во ўнукі), пасвіў коні ў позную пахмурную восень, клаў пад лесам з пасохлага вербалозу і бярозавых пянькоў велічэзнае цяпло і пёк бульбу, а калі было сала, дык і сала прог на кіёчку, крутка падстаўляючы скібку хлеба, каб не сцякаў дар на зямлю. Успамінае дзед і часам глыне сліну, але мае на думцы, што стар, і тады пільнуецца паважнасці. Ат, усё роўна: нявестачка ніколі не забудзецца схаваць ключ ад клеці, дзе і сала таго толькі на затаўку для стравы. Як быў дзед у самай моцы, а жылі замажней, дык ужываў і ён уволю хлеба з салам, змалаціўшы да рання асець жыта. Была пара! Але дзед — паэт у ціхім сэрцы, і не надта яму цяжкі раўнаванні розных часоў свайго жыцця; во балазе ёсць печаная бульба і можна сядзець супакойна пад асеццю каля агню і думаць аб жыцці і чакаць, калі палахлівы ўнучак затупае па таку босымі ножкамі, падбяжыць бліжэй і захныкае: «Дзед, а дзед! Ці ты тутацька?» Дзед памаўчыць, адылі ў часе пакашляе і, нібы сярдуючы, адгукнецца: «Павошта, пыні, хлапчук-галуза прыбег? — пільнаваў бы саду і боб ад кур, усе струкі здзяўбалі, гадаўкі». Тады здойме яго да сябе на спод і дасць крупянай, сыпкай, белай і гарачай бульбачкі. І пачне без концу пераказваць

унуку, як жыў ён, дзед, у пана пасэсара ў парабках, вазілі яны сала на продаж аж у Вязьму; у дарозе пяклі бульбу ды варылі кулеш пад чорнаю нявіднаю дзяругаю летняй ночкі дзе-небудзь на ўскрайку лесу.

Сонца борзда закоціцца, а дзеці ўздумалі «пірагі» пячы. Накапалі ў ямачцы гліны, у чарапочку замясілі і на ўслончыку наляпілі шмат вялікіх і маленькіх «пірагоў», на сонейку, дзе будуць яны пячыся. Дзяўчынкам прыкра, што ў бабскую справу ўбіўся хлопчык. Ён не лепіць вялікіх і невялічкіх піражкоў, як тое вядзецца ў добрай гаспадыні, а пачынае галузаваць, ляпіць ні то конікаў, ні то цюцек. І дзяўчаткі ўсякім спосабам псуюць яму работу.

Ах, гэтыя перашкоды ў вольнай творчасці паэта ў лепшую пару яго жыцця, пару маленства!

Пара, на якую не варта забывацца. Хто счарсцвеў, пагінуў у будзёншчыне, — у дзіцячыя гады быў вялікім музыкаю, граючы на скрыпачцы з лучынак і са струнамі з нітак. І даўлела яму, быў змысел і была радасць. Хто зрабіўся тупы, як палка, — у гады маленства з палкі вырабляў мастацкія для яго мастацкіх пачуванняў штукі: птушачак, звяроў і прост харошы кіёчак-папірашку. Надышлі гады жыццёвага амбарасу і бясконцага дурнога клопату — і знішчылі творчую радасць, растапталі дыямант у пабітым шкле, з паэта зрабілі быдліну.

Жыццё, жыццё! Мы ўсе прыходзім на свет хто песняром, хто разьбяром, а хто і тым і сім патроху. Мы ўсе ў гады прачнавання нашага розуму — рэфарматары нягоднага старога, будаўнікі лепшай сацыяльнасці, славутыя настаўнікі ці добрыя разбойнікі, але часта-часта жыццё нічагусенькі не пакідае нам і робіць жаласнымі старцамі без пары.

Ці траплялася вам бываць на вёсцы ў гэткі час, калі пуста ў ёй пад пякучым сонейкам, усе людзі на полі сярод аўса і лёну, што жаўцее і галубее?

Ціха вясковая вуліца. Паснулі сланечнікі і макі. Аніводным пазалочаным лістком не варухнуць яблынькі ці сліўкі. У галлі і лісці бялеюць і чырванеюць яблыкі, а паспелыя сліўкі густа спляліся і віснуць, чорныя, да долу.

Ці здаралася вам у гэткі пагодны спаміж лета і восені дзянёк быць у вёсцы і трапіць на ўскрай хат, туды, дзе хацінка галяка ўехала ў зямлю, вокны яе з пабітымі шыбамі запхнуты наспех лахманамі і сядзяць на самай прызбе?

Блізка хаткі тырчыць убогая вясковая верабінка з рэдкімі пучкамі чырвоных ягад. На верхавіну дрэўца звісае раскудлачаная вятрамі салома з стрэшкі. Комін напалову разбурыўся і

скрануўся набок пад цяжарам шчарбатага гаршка і рыхтуецца рассыпацца зусім.

Прадавілася на пуні стрэшка, і ніхто яе не падыме і не паправіць, як бы няма каму паруп іцца аб тым. Мо ў шынку загуляўся гаспадар? А можа, б’ецца, як тая рыбіна аб лёд, здабываючы штодзённы кавалак хлеба, але няма яму ўдачы! Прадраліся плятнёвыя сенцы, і скрозь іх відаць касыя дзверы, падпёртыя знадворку каромыслікам і таўкачом. Значыцца, нікога ў хаце няма. Але паглядзім… Калі вочы вашы паслабкі, калі яны, апрача свайго ўласнага адбітку і зялёнае цямноты, нічога ў акно не ўбачаць, — вы не грэбуйце, не бойцеся запэцкаць рукі і ўпіхніце лахманы. У дзірку бухне з хаты цяжкаватае смуроднае паветра. Адхіліце на хвілінку голаў і ізноў зірніце: можа, цяпер вам не ашукацца ў цемні шкла?

Што можна ўбачыць у хаце гаротнага мужыка-беларуса? Высокі, пад самыя абразы, стол, вузкі і хісткі; на ім — падаўна нямыты абрус, што збіты комам ці звісае ражком на лаву. Зірніце на пол. Не, гэта не логава свінні, не птушатнік, куды садзяць кур ды гусак несці яйкі. Гэтая ўсклычаная канапляная сувалка і салома, гэты чорны ад бруду, збіты, сплямлены і смярдзючы сяннік, гэта груд усякага шкумацця, засыпанага смеццем, з параю кінутых пялёнак, усё гэта — самая звычайная ложа для зманежанага працаю, спацелага мужыка, яго неахайнай жонкі і яго шалудзівых дзяцей. Чаго вам дзівіцца на закураныя шосцікі і палічкі, дзе бабскія сховы? Нічога, апрача такога ж самага рыззя і смецця, там не ўбачым. Нецікава і старавечная наша бабулька-печ, аграмадная, са шчэрбамі ў чалесніку, з выкрышаным загнетам і подам, з разварочаным пяколкам, наша на ўсе патрэбы адпаведная печ, паўнюткая гаршкоў з ежаю, што пракісае на вячэру, і шырокіх донцаў, на якіх сохнуць добрыя баравікі на продаж і гнілое, чарвівае карэнне ў сваю капусту. Асела яна, старая, на струпехлых і паточаных шашалямі грубых балясінах, прыгнёўшы хваросце ў падпечку і нейкія мётлы і гальні; і калі вы доўга прамучыце яе пад сваім урачлівым культурным поглядам, у якім нявера і крытыка, дык яна, ох, ліханька! — загрыміць цэглай і падавіць усё, што ў ёй і пад ёю: хваросце, і крупеню, і баравікі. Там, далей, у місачным куце тырчаць лапатачкі-лыжкі, нямытыя міскі і даёнкі і ўсякі гломазд. Але ўсё гэта, калі не зважаць на чорны рой мух, усё гэта — нежывое, не мае болю, і даўно прыйшла часіна шпурнуць адгэтуль многія рэчы, гаспадарнаю бабскаю рукою, за плот ці ў яму з-пад старога пограбу,

што тры гады кідаюць у яе ўсякую дрэнь і кладуць мялле, а яна ўсё яма ямаю.

А вы зірніце на жывое. Яно сярод хаты, на земляной падлозе, збітай у ямкі і залітай памыйкамі, сядзіць на кучы кійкоў і бляшанак, сядзіць, па-турэцку падтуліўшы ногі, сядзіць ля місы, у якой рулі з пастаялкі[6], хлеба, мух і смяцця. Круглыя дзіцячыя вочачкі, зарумзаныя і пахмурныя, з безнадзейным подзівам уталопяцца на вас. І патроху з'яўляецца свядомасць: чаго вам трэба? Бо вы — не маці, што зачыніла яго, не маючы большых дзетак-нянек, і сышла на дзень-год у поле жаць авёс, сышла і не ідзе пакарміць яго і абцерці носік. Вы разважаеце: хлопчык гэта ці дзяўчынка? — Ці не ўсё роўна: доля ж аднакава.

Гэта — герой нашае гісторыі Хомка.

Гэта — яго дзіцячая пара.

Безнадзейны подзіў пачынае паволі знікаць, даючы месца тужліваму расчараванню: не, не маці, а чужынец, незнаёмы, безуважна пазірае на бяду малога. Пакутна ападае ручка, брудненькая і худзенькая, на якой толькі трошку-трошку цьмянажоўтай дзіцячай пухласці, і апяшала кідае лыжку ў міску з малаком. Адылі сціскаецца ў кулачок, падносіцца да воч — і ізноў бясконцае, роўнае, ужо аплаканае за доўгі дзень, галосіць гора:

— Гу-гу-гу… Ма-ма!..

Безвыходнасць страшная і пакора лёсу апошняя, крайняя — чуецца ў тым плачу, у тым восенным дажджы, у той музыцы бяссільнага.

Гэта ўжо не плач — гэта песня роспачы…

І навучаюцца той песні ў забытым краі яшчэ пад сэрцам матак. Яна снуецца тут вякамі. Яе шумяць тут панскія дубровы, гудзяць пяскі ў мужыцкім полі, жабы кумкаюць вясну і лета ў выгарах-балотах. Яе тут шэпчуць гнілыя стрэхі вясковых хат, скуголяць свінні ўзімку ў дзіравым хлеве, рыкаюць вясною галодныя каровы. Яе крычыць тут кожны бацька, калі цягнецца з карчмы да хаты па калюгах ніколі непаладжанай дарогі, сярод абы-як, абы толькі, абы з рук уробленых палёў.

І гэтую песню бацькоў сваіх выплаквае цяпер тут перад вамі герой наш Хомка.

Вось узняўся ён на крывых ножках пад мокрым падалом. Уздыхнуў глыбока, цяжка — і зноў прысеў.

Узяў кіёк і аглушона барабаніць па бляшанцы, што была калісь пад газу і што падаравала яе Малка Лейзарыха яго маці за бабскія паслугі.

А пхэ! Нецікавае дзіця — герой наш. Увесь у соплях, і нямыцька, і худы, а жывот — як той бубен: так выпнуўся ў дзіцяці ад пушнога хлеба і бульбы.

## Горкая прамудрасць

### I

З вялікім трудам кіруецца Хомка няцца кораню навукі. Дрэнна вучыцца Хомка. Даўно адабраў бы ў яго кніжку і пратурыў бы яго вон са школы настаўнік, каб не дзіўная натура ў Хомчынага бацькі.

Асаблівы чалавек яго бацька. Ён усё маўчыць, як рыбіна, ён заўсёды нейкі хмуры. Ён і працавіты, як пчаліна; болей трывалага ў рабоце чалавека знайсці цяжка, а мала ў яго ладу ў гаспадарцы, няма прыбытку. Узімку болей за ўсіх паставіць ён шурак у лесе; ён жа і плотнік і падзённік, але што заробіць — усё і пойдзе, як вада скрозь рэшата, немаведама куды. Будынкі яго гніюць і валяцца, статак не вядзецца. І злосны ж ён бывае часам страшна!

Уп’ецца і шалее чалавек. Зазвычай ціхі, ён, упіўшыся, пярэ сваю нешчаслівую жонку Домну мала не досмерці. Кідае з усяе сілы гаршкі і міскі і кулаком, адным махам, крышыць вокны — толькі пасыплецца ды зазвініць… З дубцом у руцэ выходзіць сварыцца з кім-небудзь за свае крыўды.

— Юрка ўпіўся! — разлягаецца вестка, і ўсе разбягаюцца, бо нікому не даруе, у кожнага знойдзе грэх і да кожнага мае сваю прычэпку.

І настаўнік баіцца п’янага чалавека з дубцом.

Позна-позна, пасля Пакрову, прывёў Юрка свайго Хомку ў школу — прывёў, калі скончыўся ў яго сына самы позны пастухоўскі і канюхоўскі тэрмін. Калі б у гэтакую позную пару прывёў бы свайго хлопца заможны гаспадар з гарнушкам масла ці капою яек, дык і яму, бадай, адмовіў бы настаўнік. А Юрка прыйшоў без нічагутка, і не канькаў, і не прасіў, а толькі стаяў панура ў школьным парозе. І настаўнік Хомку прыняў. «У часе наезду рэвізора буду выпраўляць яго дамоў, як быццам хворага», — надумаўся настаўнік, з непрыемнасцю ўцякаючы ад Юркавых вачэй і маючы на ўспаміне чаргу хмельных выбрыкаў дзівака.

Наогул, у іхным родзе ўсе нейкія дзівакі. У вялікай злосці яны могуць забіць свайго супарата. Дзед Хомчын смаліў жы-

вую свінку… Доўга ганяўся ён па двары з даўбнёю і аніяк не мог уцэліць, каб бэцнуць рухавай свінцы якраз за вухам, каб адразу асвяжылася. А ткі ён накінуў ёй на шыю пятлю з грубой вяроўкі, і, хоць скуголіла страшэнна, выцягнуў ён паланянку на канаплянішча, прыкруціў да каляка, глыбока ўбітага ў зямлю даўбнёю, і наваліў усю салому. І запаліў… Свіння крычала, плакала, шалела, ірвалася на дыбкі, ёрзала азадкам па зямлі, возячы на сабе вялікае вогнішча, урэшце, схапілася за каляк зубамі, як злы сабака. Дзікі свіны плач сабраў на тую камедзь усё Асмолава… Вось які быў у Хомкі дзед.

Дрэнна вучыцца Хомка.

Зіма, сцюжа, куты ў будынках покаюць ад лютага марозу. У невялічкай хатцы, аддадзенай паводле прыгавару грамады пад школу граматы, малюпаценькія шыбы ў акенцах пазамярзалі на цэлую цалю, ажно маразяны хлоп вісіць. Хата цесненькая; у ёй — аграмадная і нават пабяляная печ, шырокія палаці над усім полам, дзе часам начуюць, на воку ў настаўніка, пакінутыя ім за дуронства хлопцы. Толькі курчына — бэлька ад печы да супрацьлежнае сцяны вешаць вопратку, толькі яна вынесена. У парозе на калодзе стаіць вядро з вадою; у вадзе іншым разам плаваюць ільдзінкі, што іх прыемна бывае схапіць у рот і смактаць, абпякаючыся холадам. Ля вядра — вялікая драўляная конаўка, пастаўленая пасля таго, як пабілі настаўнікаў кубак. Вакол вядра, у парозе, дый скрозь мокра і брудна, нанесена лапцямі і разліта з вядра.

На печы, у кажуху, высунуўшы на хату з-за коміна галаву, з кніжкаю ў руцэ паварачваецца настаўнік. А за дзвюма даўгімі партамі, на высокіх лаўках, сядзяць у кажушках, світках і жупанах, з шалікамі на шыі, толькі без шапак, вучні — хлапцоў з дваццатак. На асобным канцы, збоку, сядзіць некалькі дзяўчынак. Носікі пачырванелі, пара вылятае з роту. Другое аддзяленне асцягла плюе на грыфельніцы і шмаруе па іх рукавамі, высалупвае з натугі языкі, пахіляе і крывіць галовы, цісне ад старання грудзьмі на парты і выводзіць дрыжачыя кіі і крывулі. Першае галосіць па лемантару:

— Б, л, а — бла! в, л, а — ўла! г, л, а — гла!

Трэцяе крычыць:

— Скворец известен всем! Скворец известен всем!

Дзяцём цесна, але затое цяплей. Ногі іхныя баўтаюцца, да парты ім ад лаўкі вельмі далёка («каб вачэй не сляпілі», як тлумачыў настаўнік), а меншанькіх дзяцей і зусім з-за парты не відаць, толькі тырчаць іхныя галоўкі.

Пасля магутнага настаўніцкага покрыку: «Ці-і-ха!» — ад якога ажно мякіна сыплецца скрозь няшчыльную столь з вышак, школа нямее. Адылі чутно слабенькае, першых дзён вясны, гудзенне пчалінага вулля. Троху-патроху яно пераходзіць у шум, узнімаецца вышэй, нагадвае гоман на вяселлі, далей вальную зборку ў Лугвенеўскай воласці і, нарэшце, вялізарны кірмаш… Усё вышэй-вышэй перакідаецца ў выццё, пяянне, скогат самых страшных шалёных. На якія толькі ёсць тоны і паўтоны, на розныя галасы і мелодыі скігочуць, скуголяць і гаркочуць, аж настаўнік усміхаецца троху з подзівам: як гэткае вяселле гукаў вылятае з малых грудак у кучачкі яго выхаванцаў.

— Га-га-га! Го-го-го! Гі-гі-гі! Б, л, а — бла! В, л, а — ўла! Скворец известен всем! Скворец известен!.. Известен всем!.. Всем!..

— Ці-і-іха!

Ізноў звіняць пчолы…

— Чарцяняты! — дабаўляе ціханька настаўнік і смяецца сам сабе.

А на вуліцы грымнулі балабонцы, з раскату астатні раз піскліва прастагналі палазы, і вазок палягчэў, калі з яго выбраўся нечаканы рэвізор, айцец благачынны.

Адчыняюцца дзверы, лятуць лёгкія камы сцюдзёнае пары, і ўвальваецца здаравенная, грубая і даўгаполая папоўская постаць. Спалоханы настаўнік кумільгам злятае з печы і кідаецца з далонямі, падстаўленымі жменькаю, атрымаць блаславенне. Але айцец-рэвізор спачатку моліцца на абраз і тады ўжо бласлаўляе настаўніка. Настаўнік цалуе яму ў руку і асцярожна-асцярожна, баючыся смялей даткнуцца, сцягвае з яго за рукаў футра. Дзеці не ўлучылі ўсхапіцца разам, як муштраваў іх загадзя, у сваім часе, настаўнік, і цяпер стараюцца кожны па-свойму паправіць бяду.

— Здрасця! Здрасця! Здраствіця! — падпырхіваюць і выкрыківаюць па адным, збітыя з раўнавагі няўдачаю і страхам.

— Скворец известен всем… — апалым голасам ірве свой разгон адзін хлопчык, узнімаючы галаву ад раптоўнай цішыні.

Калоцяцца дзіцячыя калені, і тыхаюць сэрцайкі. Ціша…

— Ага, скворец известен всем… добре, добре! — хрыпатым басам кажа айцец благачынны, расчэсваючы вялікім белым грабянцом свае доўгія валасы і па-мужыцку выбіраючы ільдзінкі з барады. — Добре, добре… ну, а ты, мой друг, бачыл скворушку?

Тебе-то скворушка известен? — тыкае ён пальцам неўспадзеўкі якраз у нашага беднага Хомачку.

— Первагоднік гэта, ваша высокапрападобіе! — забягае наўперад устрывожаны настаўнік і з нянавідасцю паглядае на свайго няўдалага вучня.

Хомка сапе, пазірае з-пад лобу і пачынае дрыжэць дробнай дрыготкай, як высілены конь у аглоблях.

— Эх ты, брат, труса гоняеш… не бойся, не б'ю! — жартліва кажа яму рэвізор. — Ну-тка, этава да, што ты там чытаеш? — б, л, а — бла? Ну, прачытай жа мне, мой друг, б-л-а — бла!

Яго друг невыразліва шэпча заўчонае «назубок» бла, вла, гла, ускабіўшы невідушчыя тым часам вочы ў бязмерныя прасторы разгорнутае кніжкі, а дробныя капачкі поту ўсё гусцеюць на яго пабялелым носе.

— Ну-тка, уразброд чытай! Ну, ну! Чаго ж маўчыш? Не бойся, не б'ю, ну вот што гэта за буква за такая, этава да, ну?

А хто ж яе ведае, што гэта за буквіна. Хомку здаецца, што такой ён і ў вочы ніколі не бачыў. Хомка з вялікім жахам пераконваецца, што на той старонцы ў кнізе, якую ён можа без запіні адцэрабіць на памяць, якую ж ён неяк даўней чытаў, якую заўчыў ад таварышаў, што цяпер на той старонцы ўраздроб ён ні словейка не прачытае… Як гэта сталася, чаму так выйшла, ён сам не разумее, і страх яму вялікі. І забіце яго цяпер, — ён не вымавіць ні слова, будзе маўчаць і дрыжэць у пакорным, няўхільным, немінучым страсе.

— Што ж гэта такое? — з дакорам звяртаецца начальства да настаўніка. — Гм, што ж гэта такое?

І ізноў прыступае да Хомкі, чэпіцца да яго, як смала, бярэ яго на мукі:

— Як тваё, братуля, імя?

— Хомка! Хомка! — падказвае нехта, шэпча, але ў Хомкі рот запячатаўся нясходанай нямотаю.

— Хомка ён! — раптам і бойка гаворыць адзін хлопчык, павесялеўшы, і бегае сваімі смяшлівымі бакулкамі.

— Ідзі-ка стань на калені! — ласкава кажа гэтаму хлопчыку благачынны, і сам настаўнік паслушна памагае пакаранаму вылезці з-за парты і хутчэй выканаць загад.

— Ну, то як тваё, братуля, імя? — яшчэ раз пытаецца благачынны ў Хомкі, але ўсё роўна адказу як няма, дык і няма.

— Ну, кажы мне, Фама, «Царю нябесный»!

Маўчыць Фама…

— Охо-хо-о! — уздыхае бацюшка. — Слухай, я табе прачытаю, — і кажа ўсю малітву ад пачатку да канца. — Ну, а цяпер ты, Фама!

Не, маўчыць Фама!

— І маліцца ты не ўмееш, і чытаць ты не ўмееш, і скворчыка ты не бачыў… Скверно, брат, скверно!

— Пра скварца чытаюць у трэцім аддзяленні, ваша высокапрападобіе! — адважваецца сказаць настаўнік.

— Нет, брат, скверно! — кажа яму ўзлаваны благачынны, а тады пытаецца ў Хомкі: — А што такое шпак?

— Птушка… — ціха шэпча Хомка, і весялее, і ўжо апынуўся думкаю ў цянёвым лесе, дзе ўлетку шныхараць у ляшчынавым гушчарніку шпакі і дразды.

І ўжо ізноў не чуе, пра што ў яго яшчэ пытаецца і што яму яшчэ тлумачыць страшны рэвізор.

— Ведай жа, браце, што скварэц па-вашаму, па-простаму і завецца шпак… Гэта і ёсць той самы шпак, — чуе толькі нарэшце Хомка, бо айцец благачынны злёганька пстрыкае яму пры гэтых словах па носе. — Эх, і сам ты добры шпак! — кажа ён на Хомку і адступаецца да другіх вучняў.

Ну, а потым — пабыло і паехала начальства. Гукнуў узлаваны настаўнік Юрку і, быццам-то па загаду рэвізора, сказаў яму, святкуючы вызваленне, каб забіраў сына, а прыводзіў бы яго, калі надумаецца, на налецце, разам з усімі, без апазнення.

— Хомка! Шпак! Хомка Шпак! — дражніліся цяпер дуроныя хлопчыкі з Хомкаю, адстаўленым ужо на гэты год ад школы і навукі.

Ну, нічога: падрасце, паразумнее Хомка, дык, можа, лепей будзе ўчыцца хоць на другі год. Корань навукі горкі, затое плод яе салодкі…

## II

На слова «бірка» цяпер забываюцца, а даўней яго добра ведаў кожны непісьменны аканом, войт ці ляснік і кожны панскі падданы-мужык. Біркаю называецца палачка ці кавалачак шчэпкі з нарэзкамі, якія сведчылі, хто колькі прывёз коп сена ў панскую сянніцу ці вазоў жыта ў панскае гумно, хто колькі вывез калод з лесу ці паставіў у лесе шурак. На самым пачатку цяперашняга веку бірка ў нашай старонцы блізу што зусім звялася. Яна баўталася яшчэ толькі пры кавалку сукна ў сукнавалцы, пры аўчынках у дубільніка ці пры бабскіх матках у лугвенеўскага

сінельніка Іршы, каб па ёй, па нарэзах, пазнаць, чыё сукно, аўчынкі ці маткі.

Можна ўважаць, з цяперашняга пункту гледжання, за пэўнае дзікунства выдумку новага асмолаўскага настаўніка завесці бірку ў школе, але ён, сам родам асмолавец, былы унтэр-афіцэр, хадзіў падскокам, калі яму прыйшло гэта ў галаву, і ажыццёвіў свой план з належнаю стараннасцю.

Пёкшы бульбу ў позны піліпаўскі вечар, настаўнік, пры гарачым святле, ад жару ў печы, выстругаў ножыкам брусочак з паўлокця ўдоўжкі і з палец угрубкі. На брусочку зрабіў ён дванаццаць нарэзаў і проці іх напісаў дванаццаць самых нялюбых яму слоў: «як, дык, хай, ці, ё, няма, трэба, добра, сёння, учора, дабрыдзень, казаў».

Уранні на другі дзень, як пачалі прыходзіць вучні, настаўнік стаяў ля дзвярэй і чакаў.

— Дабрыдзень! — сказала акуратная леснікова дачушка, беленькая-беленькая дзяўчынка, вучаніца з трэцяга аддзялення.

Настаўнік нічога не адказаў і прапусціў яе міма з пахаваным смехам.

Калі ўсе дзеці сабраліся, калі дзяжурны прачытаў «Цару нябесны» і ў класе зрабілася ціха, настаўнік выйшаў на самы пасяродак хаты, падняў бірку і сказаў гэткую прамову:

— Слухайце, дуб'ё! Як я ні ўчу вас гаварыць правільна і чыста, вы ўсё якаеце і дыкаеце. Во, прыкладам, Маша леснікова… Бацька яе пры панох часта бывае, у свеце быў, гаворыць нішто сабе і сам прасіў, каб я Машу навучыў-ткі гаварыць чыста. А тым часам яна сёння прыйшла і бухнула мне «дабрыдзень!». Як трэба? — грозна падступіўся ён да збялелае ад страху леснікоўначкі.

Тая маўчала.

— Ну?!

У яе накруціліся слёзы, яна ўтупіла вочы. Увесь клас яшчэ болей сціх.

— Мама па-простаму гаворыць… — прашаптала Марылька і заплакала.

Яна баялася, што за яе няўмельства гаварыць па-панску настаўнік не дапусціць яе да экзаменаў.

— Ах ты, дура паласатая! — сказаў на яе настаўнік. — Слухайце ж далей, дуб'ё! — ізноў звярнуўся ён да ўсіх дзяцей. — Вось вам будзе добрая цацка! — і пакруціў бірачку ў руках з усіх бакоў. — Пакуль што я вызначыў тут дванаццаць самых

нягодных вашых слоў. Хто першы скажа ў класе адно з гэтых слоў, таму даю бірку. Калі ён пачуе, што нехта яшчэ скажа якое-небудзь дрэннае слова, няхай таму аддасць бірку. У каго бірка застанецца да абеду, той будзе пакінуты без абеду; у каго застанецца да канца дня, таго я пакіну сядзець у класе да познага вечара. Зразумелі?

— Зразумелі! — вясёла адказалі бойкія хлопчыкі.

— Ну дык добра. Цяпер навучыцеся тых слоў, якіх трэба высцерагацца. Для ўсіх аддзяленняў тры словы: як, дык, хай. Скажыце ўсе па колькі разоў гэтыя словы. Ну!

— Як, дык, хай! Як, дык, хай! — зашумелі зацікаўленыя вучні і некаторыя нават смяяліся ад такое пацешнае забавы.

— Як, дык, хай, якдыкхай, якдыкхай, якдыкхай!.. — усё шпарчэй і галасней чулася ў класе. Адны хыкалі, быццам кашляе авечка: дыкх, дыкх, дыкх!.. Другія гаўкалі, як ганчакі ў лесе: яўк, яўк, яўк!.. Трэція разагналіся на ўсю сілу, як тыя колы пад вагонамі на ўсёй хадзе цягніка: дыкхта, дыкхта, дыкхта!..

Настаўнік пагульваў сярод класа з прыемнасцю і ледзьва хаваў смех. І хлопцы раздурэліся.

— Смірна-а-а! Усе змоўклі…

Тады настаўнік падышоў да першага аддзялення і спытаўся ў Хомкі:

— Ты бег, как заяц… Ну, скажы гэта самае па-правільнаму.

Настаўнік спадзяваўся пачуць жаданае «как». Хомка скокнуў з лаўкі, троху падумаў, не ведаючы добра, чаго ад яго хочуць, а потым з некатораю няпэўнасцю ў голасе, але даволі цвёрда адказаў:

— Ты бег, як заяц, гаспадзін вучыцель!

Усё трэцяе аддзяленне і частка хлопцаў з другога — зарагаталі. Настаўнік зморшчыўся.

— Ах ты, ёлуп! — злаяў ён Хомку за яго адказ. Паглядзеў на яго з глыбокаю пагардаю і непрыязню і ізноў спытаўся: — Ну, якія простыя словы забараняюцца ў вашым аддзяленні? Пералічы, га?

Цярпліва і доўга чакаў настаўнік адказу ад Хомкі, а Хомка з няменшаю цярплівасцю і цвёрдасцю маўчаў. Настаўнік пакруціў яго крыху за вуха і кінуў.

— Ну, ты? — звярнуўся ён з тым жа пытаннем да Марылькі-лесічанкі.

— Як здыхаў, — адказала Марылька.

Была яна страшэнна затуканая дзяўчынка і зусім атупела.

Цяпер ужо ўвесь клас зарагатаў, і мімаволі сам Хомка пасміхнуўся, зараз паспяшыўшы ізноў дзеля гадзіся нахмарыцца.

Калі троху сціхла, настаўнік абвёў вачыма дзяцей, і шмат рук пад яго пытлівым поглядам узнялося ўгору ў знак ведання. Але настаўнік не пытаўся. Ён паклікаў колькі хлапцоў з трэцяга аддзялення і даручыў ім навучыць першагоднікаў тых слоў, якіх не трэба казаць, каб не схапіць біркі ў рукі, а сам заняўся з тою ж мэтаю з другім аддзяленнем. Бірку аддаў, для пачатку, беднай Марыльцы за «дабрыдзень».

* * *

О, бірка, бірка! Колькі за цябе пралілося горкіх дзіцячых слёз, колькі выдзерта хахлоў, пабіта рук лінейкаю, намулена бедных каленяў і колькі пасварылася самых блізенькіх сяброў! Здаецца, так усе стараліся гаварыць па-правільнаму, але кожны дзянёчак у нечыіх руках заставалася «дудка», як з горкім смехам празвалі бірку школьнікі. Кожны хацеў спіхнуць яе з сваіх рук, і часта ішлі нават на подлую зраду, або, як цяпер кажуць, на правакацыю. Дастаўшы ў рукі бірку, зраднік заклікаў у куток таварыша і наўмысля пачынаў размаўляць зусім без панскіх слоў. Не паспяваў той, не сцяміўшы, сказаць «добра» ці «нічога», як зраднік радасна крычаў: «Ага! Маеш бірку! Ты сказаў «нічога», а па-правільнаму трэба казаць «нічыво». І ў руках прастака ўжо тырчэла бірка. Асабліва здацен быў на гэтыя штукі Лявонька Задума. Дзеля таго, што ён шмат чытаў расійскіх кніжачак, якія бацька купляў яму на кірмашах, ён рэдка меў у руках бірку і ўмеў лёгка ад яе адчапіцца. Часта нават для забавы ўводзіў ён у спакусу тых сваіх таварышоў, якія старанна вучыліся панскае мовы, старанна адвыкалі ад мужыцкай, але ніяк не маглі адвыкнуць. Дастаўшы наўмысля бірку, ён туляўся і падслухваў, як размаўляюць гэтыя «паны» (так звалі іх у школе), а рабіў гэта дзеля таго, каб аддаць бірку на канец заняткаў самаму заядламу «пану», каб настаўнік пакінуў яго з біркаю сядзець у школе да цёмнага.

І хто б мог разлічаць, што бірка згіне гэтаксама неўспадзеўкі, як і звалілася на бедныя дзіцячыя вучнёўскія галовы, што канец яе будзе няслаўны, а для настаўніка нават дужа прыкры?

Найбольш цярпеў ад біркі Хомка Шпак. Выпадалі такія дні, калі бірка не выходзіла ў яго з рук. Хомка зрабіўся папіхачом нават першагоднікаў, асабліва тых, чые бацькі пабывалі ў свеце,

а гэта значыць — самых свавольных дзетак. Нават Лявонька колькі разоў усунуў Хомцы дзеля смеху праклятую бірку, пакуль не пераверыўся, што смеху ў гэтай справе мала, бо Хомка горка-горка плакаў, што ўжо і Лявонька яго пакрыўдзіў. Што ж! Не кожнаму так, як Лявоньцы, могуць прывазіць з кірмашу кніжачкі з размалёванымі дужа прыгожа, у розныя колеры, вокладкамі. Вучнёўскі натаўп разумець гэтага не хацеў і сваім рогатам патураў настаўнікавай выдумцы, калі бедны Хомка стаяў ля печы на каленях з біркаю ў руках, як пабожны пан у касцёле з свечкаю. Хомка быў адзін з сваім горам, і сэрца яго краілася ад крыўды і жалю. Бацька ў хаце — і той крычаў на яго, што дрэнна вучыцца… Каб яны самі ведалі, каб яны самі спрабавалі, як гэта лёгка навучыцца гаварыць па-панску! Толькі адзін абраз, не спагадны, не, але разумны, стаяў уваччу Хомцы ў часе яго пакут. Гэта быў абраз старога дзядзькі Тамаша, які на зборках зазвычай маўчаў, але меў сваю асобную ад усіхнае думку, калючую і дасціпную. Усе мужыкі ведалі, што настаўнік жа павінен выбіваць з вучняў простую мову і ўсё дурное, — на тое ж ён і настаўнік. І толькі дзядзька Тамаш, стоячы збоку, пыхкаючы сваю ўбогую піпку і раз па разу плюючы, толькі ён адзін першы здагадаўся сказаць — ці то пра настаўніка, ці то пра яго навуку: «Ат! Не дай Бог свінні рог, а хамуйле панства». І хоць за ім першым і другім пачалі наракаць на унтэр-афіцэра за яго «свецкі форс» і «дужа ўжо панскую мову», але толькі Тамашовы дзядзькавы словы мёдам ляглі на сэрцы ў Хомкі. Настаўнік і не любіў Хомку за тое, што Хомка ніякім чынам не хацеў прызнаваць ні таго форсу, ні тае далікатнасці ў размове — быў самы мужыцкі паростак з самага дурнога мужыцкага карэння. А Хомка не любіў унтэр-афіцэра за яго бліскучыя боты, за яго чырвоныя наплечнікі і жоўтыя гузікі на чорным мундзіры, за яго панскае ламанне языка — і чырванеў, калі мусіў казаць, як і настаўнік, «как», а не «як»…

На тым грунце і адбыўся бунт, пасля якога пагінула бірка.

Пачалося з драбніцы.

— Да свідання! — казалі вучні, ідучы дамоў. І ў сваім рухавым грудку жартавалі: «Да свістання! Да снядання!»

Таго дуронства унтэр-афіцэр не чуў. Але Хомка ці то жартам, ці то здуру бракнуў, троху астаўшыся пад самым настаўніцкім носам:

— Да снядання, гаспадзін вучыцель!

— Застанешся да цёмнага, — схапіў яго настаўнік, — бяры бірку!

— За што? Я ні ў чым не абмыліўся! — захныкаў спалоханы Хомка. Вучні прыстоілі.

— Ну, ідзі ды болей не дурэй! — наўздзіў змякчыўся унтэр-афіцэр гэтым разам і пусціў Хомку.

Як на тое ліха, быццам чорт улез у хлопца. Ён выскачыў з таварышамі з падворку на вуліцу, забыўся аддаць бірку і тут прыставіў яе сабе старчма да лобу, скрывіўся, дужа ёмка ўдаўшы унтэр-афіцэра, і сказаў, як дзядзька Тамаш:

— Не дай Бог свінні рог, а хамуйле панства!

А не ўгледзеў бедны, што не ў класе быў настаўнік, а выйшаў следам паглядзець, як будуць яны разыходзіцца. Пабачыўшы, як дражніцца нялюбы яму вучань, ён счырванеў аж на каліну, раптам рынуўся да Хомкі і даў яму ў каршэнь. Хомка зарыўся носам у снег.

— Давай кніжкі! Давай кніжкі! — хрыпеў настаўнік і выдзіраў кніжкі з яго абпэцканай торбачкі.

Адабранне кніжак азначала тут, што дзверы ў навуку назаўсёды зачыняюцца. Калі аб кім казалі: «Настаўнік адабраў у яго кніжкі», гэта азначала, што нешчаслівага пратурылі са школы без павароту.

Хомка, як скрозь туман, зразумеў, у якую вялікую бяду, сорам ад людзей і страх ад бацькі ён так неспадзявана трапіў.

Сэрца яго зайшлося… І тут Хомка быццам здурнеў — першы раз у жыцці сваім…

Ён усхапіўся з снегу на ногі, паставіў бірку якраз пасярод, на паднятае калена — і з шалёнай, як у бацькі, злосцю — рраз! — пераламіў яе… Раскінуў канцы ў розныя бакі і паглядзеў, нічога не бачачы. Аж ізноў кінуўся і падхапіў адзін адломаны кавалак біркі, пачаў ламаць рукамі, а дробныя кавалачкі — нават памог зубамі, патрышчыў-патрышчыў — і кінуў, спакайней і па-гаспадарску, у той бок, дзе пад страхою, ля пуні, ляжалі дровы.

Усе скамянелі. Сам настаўнік не ведаў, што сказаць.

А Хомка заплакаў гаручымі слязьмі і паплёўся дамоў з пустою, без кніжак, торбачкаю, аддаліўшыся ад усіх вучняў, якія таксама засмуціліся і не ведалі, чым яго добрым пацешыць.

## Школа жыцця

### I

У родзе героя нашае гісторыі было колькі, ад бацькі-дзеда і далёка-далёка ўгару, слаўных выпівак; былі аж, на свой лад,

знамянітасці ў той справе, слаўныя на далёкую мужыцкую ваколіцу — значыцца, вёрст на дзесяць і на пятнаццаць па радыусу, да тых межаў, за якімі разлягалася слава сваіх ужо для той сумежнай ваколіцы знамянітасцей.

Дык, мусіць, вырадкам, на просты погляд, удаўся герой нашае гісторыі, бо на погляд людзей наўчоных такія прыпадкі бываюць. Ён душыцца (праўда, яшчэ малы, не прызвычаены), ён прост душыцца ад гарэлачнага паху. Ён мімаволі ад галавы да ног не раз здрыгнецца, як у трасцы, калі стаіць сярод спіртовых вазакоў, ля броварнага складу, і калі ў паражняковых, якім ужо заплочана, смярдзіць з роту, як з самае паганае бочкі.

О, гэтыя жалезныя спірытусовыя бочкі! Маленькі Хомачка чуе смярдзючае душэнне ў глотцы не толькі тады, калі хоць у думцы бачыць іх, — не надта ж і смярдзіць ад іх, а калі запячатаныя, дык і зусім нічога не смярдзіць, — не, яму робіцца мляўка і цесна ад тых ужо гамонак, што «ў суботу ізноў павязуць на станцыю спірт». Мляўка ад паху п’яных, цесна ад бочкі на маленькіх, голых і сцюдзёных санках. З якога боку ні прыткніся — бочка разляглася шырока, як карова, цяжка і няўважна, як калода.

Закапцелі чырвоныя мураваныя сцены бровару — круглы год, зіму і лета, а найболей, аднак, узімку копціць у паветры вялізны, высачэзны, закураны і з цікавым чорным драцяным калпачком цагляны комін. Гоняць там гарэлку з бульбы і жыта.

Спацькі б дый спацькі пад цёплым кажухом, а трэба ехаць разам з бацькам, трэба цёпла абувацца, апранацца ды ісці на сцюжу дый садзіцца на чужыя сані (на сваіх, горшых, едзе бацька сам).

Да бровару ад хаты блізка, і сцюжа, хоць дужа прыкрая малому пасля цёплай хаты, нядоўга цягнецца, каля бровару можна пагрэцца.

Тады — бровар. Шум, лаянка. Пояць коні. Яму трэба іх трымаць, пакуль бацька з мужчынамі ўскоціць па дошках на кожныя санкі па бочцы.

А потым ехаць — далёка, нудна, у страшэнным холадзе…

Маўчыць на пярэдніх санях бацька. Баіцца, каб не астацца ці не заехаць як-небудзь дрэнна, хлопчык. І так бывае часта-часта… І ў мароз, і ў замятуху… Сядзі ў сцюдзёных поцемках ля праклятай, з двума рагатымі абручамі бочкі, што пячэцца, як агонь, сваім марозным жалезам, калі не хочучы даткнешся да яе. Вялікая, грубая — распірае ўсе санкі.

«Скрып-скрып… скрып-скрып-скрып… чжык-жыжышшш… гоп-чык!.. скрып-скрып…» — пішчаць на снезе пры-

даўленыя бочкаю палазы. Шкода каня, хоць і чужы, — цяжка яму. А свае кабылы — яшчэ жалчэй: яна ж слабейшая, і баіцца яна бацькавага пугаўя па ваччу, як Хомачка баіцца яго крыку і балючай пугі.

— Гэй ты, варона! Не зявай! — крычыць на яго нехта, абганяючы; вязе двух у чорным — паноў ці гандляроў.

А зусім цёмна, і снег сыплецца ў вочы.

— Не засні! — крычыць і бацька спераду. — Злезь, прабяжы, ну!

Хлопчык выскаквае з санак і бяжыць ля іх збоку, не трапляючы, топячыся ў кучках снегу. А ззаду бегчы — баіцца астацца.

— Ну, тут гладзенька: паедзем шыбчэй! — ізноў чуваць бацькаў голас.

Коні пабеглі. Хомка доўга не можа аддыхацца, патроху адпачывае, прытуліўшыся ў передку саней да пучка тырчастае саломкі.

Снегавая бягучая дарога ўцякае, бы нейкі бягучы паласаты змрок уваччу; уцякае з-пад саней, з-пад вока назад, туды, дзе бярозавыя прысады і нейкія кусты белазаснежыліся з усіх бакоў і зліваюцца з шэранню ночы.

Ён не спіць, а толькі дрэмле, але сніцца яму нешта такое ж цёплае, слаўнае…

* * *

Вось прывялі яны, вярзецца яму, пасвіць коні ў Боцікі. (Так празвалі ў іх балота за тое, што, выходзячы з яго, кожны меў на нагах чорныя боцікі з гразі, як з лепшае гамбургскае скуры.) Вось саскочыў ён з кабылы, добрай кабылы, што-ткі разжыліся і купілі яе на кірмашы на праводніку ў Горадзе. Трэба ж яе дobranька, прыгожанька «путаць. А яна махае ад зыку хвастом, як ачмурэлая, проста сячэ яму ў вочы і па шыі, б'е сябе нагамі пад бруха, дзе смалою ліпнуць вялікія смелыя авадні і дробненькія, ды ўедлівыя, злыя мушкі. Кусаюць аж да крыві. Сцёбае кабыла па баках і пад ногі хвастом, вось балюча сцебанула і яго, кончыкам хвосту, па саменькаму ж вуху — не стаіць ніяк, няможна яе спутаць. «Гэй ты, варона! Не спі, змерзнеш!» — крычыць нехта, абмінаючы. А нікога няма, толькі здаецца. «Не, не змерзну», — шэпча ў адказ ці то сабе, ці то няведама каму. «Нагу! Нагу! Каб ты здохла!..» — крычыць ён на кабылу, сагнуўшыся і баючыся, каб яна не ўдарыла яго няўмысля капытом, і цягне за пута адну спутаную нагу да другой, яшчэ простай нагі. А пута аніяк жа не

даходзіць, бо не стаіць кабыла. Не-ткі, удалося зашпіліць пута… «Ваўкарэзіна! — закрычаў ён, як крычыць на яе бацька, — у балота! Нэ-э!» — і турыў яе ў самую патапечу. І ўсе хлопчыкі, звязаўшы аброці ў пукі, гналі коней у балота аж да купніку з высокаю маладою асакою. Коні скубуць там яе, вязнучы па самае бруха. Нікуды яны адгэтуль не ўцякуць, панскі лес і ўсякая шкода адгэтуль далёка, дык смела можна справіцца схадзіць у ракі… Пайшлі ў ракі, а цёплае паветра абдавала проці ветрыку, быццам першым душком у лазні. Краскі — белы рамон, мякенькая ліпкая смолка, нават жоўты казелец — быццам пасмяглі пад сонцам і толькі зрэдку пакорна калыхаліся пад тым гарачым абдаваннем ды ізноў ніклі ад мляўкае знямогі ў такі гарачы дзень. Конікі, ці, як іначай завуць іх — кавалі, і яшчэ нейкія скакунцы без концу звінелі, звінелі і тоненька бразгацелі сваім нябачным рассыпаным хорам, быццам многа слабых бразгучых кос пад кляпцом на бабцы ў касцоў. Ракіты і альшэўнік, а і пагатоў таго, ніцы лазняк туліліся ніжэй з берагу да вады, цёплай і ленаватай у закруцістай Плёсцы. Хлопчыкі адбеглі далёка ад Боцікаў, аж пад самыя вíркі, дзе ў пячурах, пад карчамі, сядзелі, пахаваўшыся ў холадзе, старыя ракі. Беглі хлопчыкі навыперадкі, а ўгледзеўшы вірок, з якога была рада пачынаць, паддалі духу ў бягні. Бегучы, расшпільваліся, распяразваліся і здзявалі кашулі. Хомка троху астаўся. Яму, прызнацца, было страшнавата лавіць ракі, бо яго напалохаў бацька, што з пячуры, замест рака, можна выцягнуць слізкую вужаку, а яна ўкусіць — і можна памерці. Ды ўсе лавілі ракі, і цікава іх лавіць: запусціўшы голую руку, гэтак па шыю, у сцюдзёную, у пячурах яшчэ сцюдзянейшую ваду, пад самае альховае карэнне, зашчупаць у каравым карчэўі ў пячурцы, у зямлі, каравага, цвярдога, старага рака, схапіць яго за броню, каб не сціснуў пальца кляшнёю, і цягнуць… выхапіць з вады і кінуць на бераг, на траву-мураву, дзе рак будзе шавяліцца і паўзці! І Хомка раздзеўся і звязаў кашулю і штаны паяском у камочак, паклаў ля сябе з аброцяю і сеў на беразе. Ногі спусціў у ваду, каб патрошку абышліся ў халодненькім. Сцюдзенавата левай назе… З-пад пазухі тхне трошку-трошку чутным, але войстрым пахам поту; гарачае паветра аблівае цела, з маленькаю радзімаю плямкаю на баку, аблівае сваім непякучым цяпер павевам, авадзень гудзіць дый цікуе сесці хлопчыку на голую спіну. Нагам так добранька, ды нешта ўсё халадней і халадней, чым усяму целу. Вось зараз ён кінецца ў ваду і паплыве…

— Не спі ты, дурань! — крыкнуў бацька і балюча тарганууў: — Ці змерзнуць хочаш? — і выкінуў яго адным махам з санак. — Прабяжы троху, зараз абагрэемся ў заездзе.

* * *

Чорныя будынкі высоўваюцца з шэрай і снежнай начавой плямы, — як добра, што ўжо прыехалі сюды, дваццаць вёрст уехалі, а цяпер, мусіць, толькі першыя пеўні прапяялі на курасаднях пад страхою. На вуліцы гэтага ці то малога мясцечка, ці то выселак з капліцаю, манаполькаю, крамаю і заездам, на вуліцы тут цяпер ціха, сонна і снежна; толькі ў хаце заезнага двору яшчэ відаць слабенькае святло скрозь замерзлыя, чырвона-бліскучыя, незвычайна прыгожыя, дзіўныя шыбы; на падворку яшчэ тупаюць коні, скрыпаюць санкі і чуваць прастуджаныя мужыцкія галасы. Але вароты і надворныя дзверы — усё зачынена, замкнута, бо позная пара, позны вечар, ноч.

Хата ў заезным двары падзелена: у чыстай палавіцы жывуць гаспадары, у чорнай — начуюць вознікі. З чыстае каморы далятае аднатонна і далікатна дрыжачы голас старэнькага законніка, у якога вялікая беленькая барада, шырокая да плеч і даўгая на ўсе грудзі. На дробненькай, у параўнанні з барадою, галоўцы сядзіць чорная шапачка-ярмолка. Стары моліцца Богу. Ён і бубніць, і плача, вые, і гаркочыць, і енчыць, і пяе, і жаліцца, і сварыцца… Толькі сам грозны Егава, Бог іудзейскі, можа разабрацца ўва ўсіх пералівах гэтай гарачай, ярай і жудаснай малітвы. А з чорнай палавіцы ў чыстую, з чыстай у чорную, адтуль сюды і ізноў назад ходзіць гаспадыня — старая і таўстая, неахайная, незвычайна цярплівая семітка, жонка таго далікатненькага, чысценькага, белабародзенькага дзядулі. Яна супроць яго — маладая, бо трэцяя ці чацвёртая, здаецца, у яго па ліку. Ходзіць з ключамі пры поясе, бразгае, мякка, аднак, ступаючы валенцамі па радняных посцілках-дарожках у чыстай палавіцы. Калі стары богамаленнік троху сціхае, тады байчэй цікае ціхі гадзіннік на сцяне і цяжка сапіць за драўлянаю пераборкаю, закапаўшыся ў кучу пярын і падушак, маладая пара — зяць і дачка старых. У старых — дзяцей без ліку, але ўсе яны рассыпаліся па ўсіх краях, блізкіх і далёкіх, знайшоўшы хто лепшую, хто горшую долю: музыканта, каваля, дантыста, крамніка, студэнткі, капялюшніцы… І жывуць старыя ў сваім доме толькі з адной гэтаю дачкою і зяцем-прымаком. Зяць — бойкі чорнабародзенькі чалавек, які пакуль што жыве ў цесця і займаецца абы-чым, нават стаіць над кароваю, калі яна п’е пойла, але ён пэўны ў сваіх здольнасцях і цвёрда ведае, што будзе багацейшы за свайго бацьку, і дзеда, і прадзеда і будзе мець капіталу на сотню гэтакіх кароў. За другою пераборкаю дзікае і грубое стварэнне, батрачка Матруна, калыша дзіця

маладой пары. Калыша і ўвесь час бурчыць, як злосны сабака над косткаю: усіх яна груба лае, усіх, і дзіця нават, груба кляне, на ўсіх і на ўсё груба бурчыць… У чорнай жа хаце, на лаўках, па застоллю, на печы і на запечку, на падлозе, загарадзіўшы старой гаспадыні праход, ляжаць у сваіх цяжкіх і з прэлым духам, як ад мокрага надвор'я, вопратках, сярод розных лахманоў, збруі, торбаў і хамутоў, ляжаць мужыкі-возвікі. Найбольш тут спіртавозаў, але ёсць і што вязуць пяньку ці лён, красны тавар ці бочку селядцоў. Сапуць і хрыпяць, спрасонку цмокаюць і балмочуць, паганяюць ува сне коней і лаюць немаведама каго. Два чалавекі разляглiся на голым засмечаным стале, на селядцовых хрыбцінках і крошках хлеба. А каля іхных ног у вялікіх лапцях селі-прымасціліся таксама двое, гэта спозненыя: слабенькі дзед і здаровы, мурласты і шырокі ў плячах яго пляменнік-хлопец; не хапаючыся, а са сціплай, павольнай паважнасцю, як усе сяляне, ядуць яны селядца з хлебам, дастаючы той хлеб раз па разу з торбы, адкрайваючы па скібцы і ізноў хаваючы краец у торбу. У парозе ж, у даўгую, настаўленую ў комін чорную бляшаную трубу грымеў-грымеў, пыхаў-пыхаў і супакоіўся-ткі нанач, не прычакаўшы новых начлежнікаў, запэцканы пузаты самавар.

Так позна, што ўжо нікога болей да самага свету можна не спадзявацца.

Аж не: шумяць на вуліцы сані, шаруюць па снезе і заціхаюць ля варот. Сталі… Пахадзіўшы там ля коней, ля варот, тупае чалавек на ганку і потым стукаецца ў дзверы: тук-тук-тук!

— Во, ты казаў: дужа позна! Яшчэ некага і пасля нас Бог нясе, — гаворыць спакойна пляменніку ціхенькі дзядок, абціраючы рукі ад селядцовага соку аб анучы на нагах.

А знадворку ўжо: ту-ду-ду-ду-у!.. — дужэй. І глуха чуваць пазяблы голас:

— Адчыніце! Адчыніце!

Шлёпае гаспадыня з чыстае каморы бліжэй да чорнае хаты, але не выходзіць, бо, мусіць, ужо яна раздзеўшыся, і шукае чалядку:

— Матруна! А Матруна! Ці ты гэта аглухла?

— А яна сабе спіць, закалыхаўшы бахура, дый нічагусенькі! — кажа вознік-дзед, не зірнуўшы на пераборку. Затое туды паглядзеў яго пляменнік-хлопец.

— Матруна! — крычыць ён раптам, як у полі…

— Ой, як ты крычыш! Ой, як ты крычыш! — гневаецца гаспадыня замест падзякі за помач. — Ай ты думаеш, хлопец, што ты ў стадоле? Усіх узбудзіш сваёю дурною трубою, а на-

што?.. Матруна, Матрунка! Ну дос табе ўжо не чуць, пачуй ты ўжо хоць раз ды ідзі пытайся, хто там лезе, ну!

З неахвотаю выпаўзае касалапая Матруна з-за свае дашчатае пераборкі. Сонна пацягваецца, чэша сцягно, пасля карак, а тады праціраe свае буркалы і кляне:

— А мамачкі! Усю ночачку едуць а едуць, каб яны жыватом паехалі. Дню з іх мала, каб ім яго даў Бог не прыждаць болей ніводнага…

А ткі пайшла.

Скрозь хатнія дзверы далятае з холаду, з сенцаў, размова. Гамоняць з абодвух бакоў зачыненых надворных дзвярэй. Матруна сварыцца, каб спагнаць злосць, што яе патурбавалі сосну.

— А хвароба на вашу галаву! — крычыць яна, а што кажа там той за дзвярмі, няможна разабраць за яе голасам. — Прыйшоў на вас чорны год! Спі-і-ірт? Хадзяйка сёроўна ня пусця! Што? А дзе хоця! На вуліцы дык і на вуліцы… Было не браць малога, а мне што? Ды кажу ж табе, што ўжо няма куды… поўна вас, чарцей-д'яблаў! А мамачкі, во прыліп, як смала да Піліпа. Пайду спытаюся ў хадзяйкі…

— Матруна! — гневаецца гаспадыня. — Каб ты ўжо там анямела. Што ты там гамоніш, ой, што ты там гамоніш?

Матруна варочаецца назад.

— Два вазы з спіртам, — рэферуе яна гаспадыні, няхораша скоблячы то зад, то перад, — хлопчык там акалеў, ці што: напрамілы Бог просяцца.

— Кудой я іх пушчу?! Хай едуць у Слабодку.

— Ну, Пэся, — уступаецца align-дзед, — як-то не пусціць чалавека? Невялікія мы паны, змесцімся, а плоха-то яму яшчэ на Слабодку валачыся, калі хлопчык акалеў.

— Ты здурнеў, стары! Кудой жа ж я іх пушчу? — гневаецца гаспадыня, а тым часам знадворку ізноў пачалося: ту-ду-ду-ду-у!

А дзіця за пераборкаю варушыцца ў сваіх пялюшках ад гоману.

— Ой, Божа мой! — стогне гаспадыня, — ой, Божа мой! Матрунка! Ідзі ты пратуры іх ад нашае хаты, каб не тлумілі галаву… ці ўжо — пусці ты ўжо іх, пусці ты ўжо іх!

І цераз нейкі час бэхае аб сцяну завал, сані скрыпаюць на падворку. А яшчэ цераз нейкі час паказваецца ў дзвярах камок лахманоў — хлопчык, а следам за ім, з мёрзлымі вусмі і барадою, запарошаны снегам, — бацька.

— Добры вечар! Хлеб ды соль! — кажа ён.

— Добрае здароўе! Хадзіце вячэраць! — адказвае дзядок.

— Вячэрайце на здароўе! — канчае прынятыя звычаем прывітанні бацька.

— Авёс браць будзеш? — падступаецца зараз Пэся.

— Свайго трохі ёсць… Сена хунтаў дзесяць дай, — трэба ж табе зарабіць.

— Зарабіць?.. З вас заробіш… А селядцоў?

— Не, якія там селядцы: ці мы не вячэраўшы паехалі, ці што? А во сотку, калі маеш, дай — пагрэцца.

Гаспадыня дае сотку і ідзе спаць. Матруна ўжо даўно схавалася. Толькі дзед яшчэ мусіць распытацца: хто, адкуль, што вязуць і чаму так позна? І свае справы дзед хоць каротка, але пераказвае, бо як жа не сказаць чалавеку, не пагаманіць з ім? Ды вось, што трэба — сказана, і пара спаць. За паўгадзіны ўсё сціхае. Не моліцца старэнькі законнік, не кугакае малое… Толькі акалелы герой наш, перастаўшы-ткі дрыжэць, даволі часта, аднак, кашляе на печы, кашляюць патроху і другія вознікі, а на сцяне, пад самай столлю, бойка цікае гадзіннік, хоць старэнькі і ціхі, а цяпер такі звонкі: цік-цік! цік-цік! — і аж у ім звініць. Смярдзючая капцёлка ледзь асвятляе сваім маркотным гарывам яго рагаты цыферблат, некалі беленькі, з зялёнымі красачкамі. Спяць…

## II

Спіць хлопчык, як забіты, і кашляць перастаў. Вярзуцца яму сны ўсякія. Сніцца яму, сніцца яму, што спіць ён у сваёй хаце, на палу ля сценкі. Прачнуўся ён удосвецця, уздыхнуў і расплюснуў вочы. Агледзеўся і прыслухаўся, лежачы ціхенька ў цёпленькім. Светач вісіць на шосце ля полу. Лучына гарыць невясёла, як заўсёды. Угару ідзе ад яе палавы дым. Часам яна дыміць, часам дужа разгарыцца, часам стужачкаю жоўтаю ўбок пяе пра зіму, пра маркоту: джжж… На мост валіцца чорнае вугалле. Адтуль, дзе гарыць лучынка, цягне цяплом у сцюдзёнай, сумнай хаце. Ціха. Матка сядзіць на палу і маўкліва прадзе, толькі верацяно трынкае. На калодцы сярод хаты сядзіць бацька; дастае з чыгуна, з цёплай вады кружкі лык, раскручвае іх на руку ў другі бок і кроіць, адкідаючы тонкія, даўгія акраўкі, з якіх малыя дзеці плятуць лапці, каб наўчыцца плесці, не псуючы добрых лык. «Кату лапці», — скажа незюклівы бацька на тое няўмельства. Паправіць матка лучыніну, адаб'е вугаль, каб яна не дыміла. Тады возьме верацяно ў складзеныя далонямі рукі, як складаюць

іх каталікі, молячыся, і раптам цярне іх адну аб адну… Верацяно, павіснуўшы на нітцы, доўга-доўга круціцца, аж пакуль матка не падхопіць яго. А падхапіўшы, яна шыбка-шыбка наматвае нітку спярша збольшага на руку, а тады зараз, ужо як мае быць, — на вераценца. І скубе, і скубе яна леваю рукою мычку, часам дужа скоранька наслiньваючы аб язык самы працавіты палец. І хлопчык мімаволі варушыць сваім такім жа пальцам. А яна цягне і цягне рукою ад сябе, круцячы верацяно, — убок, убок — і далёка наадмах, аж пакуль хапае той рукі. Ад яе працы (любая мамачка!) вее ў сэрца з асцюдзянелае хаты цёплым сумам. Гэтак цягнецца і вее сумам нашае жыццё… Ад яе верацяна звініць нудны і слабы, як камарыны, гук, даўгі, безупынны і жаласлівы, як гэтая даўгая, цёмная, сумная зімовая ноч, з познымі вечарамі і раннімі досвіткамі: трынь-трынь-трынь!.. І ўсё ціха і ціха сапуць, сплючы, дзеці, і рэдка-рэдка ціхенька сакатне пад печчу курачка, паварушыцца там і змоўкне. А на вуліцы шугае вецер, а тут лучына гарыць сваім вагам, і хочацца ляжаць доўга-доўга. Але трэба ўставаць, варушыцца, брацца за работу, за розныя бягучыя справы. Вось шугнуў за сцяною злюшчы вецер, сыпнуў у замёрзлае акно снегам — і сціх. Э, толькі трэба раптам, доўга не думаўшы, падхапіцца, і не будзе шкода вылязаць з цёпленькага на халоднае. Але ж так не хочацца… «Будзі-тка ты яго! — кажа бацька матцы. — Хай устаець, у дровы паедзем. Ну-ка, Хомка, уставай!» — крычыць ён сам.

* * *

— Уставай! — сапраўды кажа бацька над ім, торкаючы за плячо, але не ў сваёй хаце, а ў чужой, у нялюбым заезным двары. Цела ные, ломіць косці, ляжаў бы, ляжаў, але трэба ўставаць…

Некаторыя візнікі сядзяць, ужо апрануўшыся, і кураць. А той візнік, што вязе крамніка і што спаў з хлопчыкам на печы, падлажыўшы хамут пад галаву, стаіць цяпер сярод хаты, зусім гатовы ехаць, падперазаўшыся, у рукавіцах, пуга ў руцэ, і голасна бурчыць:

— Што такое? Дзе ж ён мог дзецца: быў прывязаны да гужа, а цяпер няма…

Справа ішла, як зразумеў герой наш, аб церассядзельніку (інакай кажуць — падпінак).

З чыстай каморы выходзіць і сам крамнік, таксама гатовы ехаць, высокі і шырокі, з чорнаю барадою. Ён злуецца, што

не ўсё гатова ехаць, каб зараз ехаць, і насмешліва кідае падазрэнне:

— Раменны… Мажа, хто захацеў пазычыць?..

І хлопчык і бацька напранаюцца. Хлопчык баіцца, каб не падумалі на яго, што ён украў: бо ён жа спаў на печы, ён жа мог адчапіць сабе раменны падпінак.

— Што такое? Нікога на печы не было, апрача гэтага хлапца ды мяне з хамутом, — бубніць і знік на крамнікаў здагад.

На гоман узбіваецца з прыспанымі, нездаволенымі вачыма гаспадыня, узнімаюць калматыя галовы і тыя візнікі, што яшчэ спалі.

— Гм, падпінак укралі! Каб на заезным двары ды красці, ні разу гэтага не было, — устаўляе сваю ўвагу адзін з іх, што без барады, але аброс мохам і худы-худушчы дзядзька.

Хлопчык бялее, сэрца яго б'ецца рэдка-рэдка, але страшэнна дужа, і ў нагах — прыкрая мляўкасць: «Як яны могуць думаць на мяне?» Але і бацька глядзіць на яго, быццам спытуючы: мог зрабіць гэтак яго сынок ці не?

— Эх, хлопчык, ты часам як-небудзь не ўзяў на печы церассядзельніка раменнага? — з насмешліваю пэўнасцю, што не хто — хлопчык украў, пытаецца ў яго крамнік.

— Божа мой! — бядуе, апрытомнеўшы, гаспадыня, — век у нас гэтага не было, каб зладзейства… Не такі ж у нас заезд.

— Не, я не браў, — неслухмяным языком кажа хлопчык.

— Ану, распранайся, пашукаем! — смяецца нягодным, прыкрым смехам крамнік.

— Не, ён не возьме! Што вы гэта, добрыя людзі? — уступаецца-ткі за яго бацька.

Візнік тым часам яшчэ раз узлез на печ, адсунуў пустую скрынку з-пад яец, мяшок з нейкім жалеззем, бляшаную трубу, кійкі, усё, што там ляжала, абмацаў усе куткі, — няма! Абгледзеў сябе самога з усіх бакоў, паравярнуўся колькі раз і пашчупаў сябе перад усімі, — няма!

— Што ж, трэба трэсці, — кажа тады худушчы безбароды дзядзька.

І крамнік смела падышоў абшчупваць Хомку… Шчупнуў пад пахамі, за пазухай, ля лапцей… Бацька глядзеў, як каменны, гаспадыня глядзела з жалем, дзед той, добранькі візнік, глядзеў з крыўдаю, і ўсе візнікі глядзелі з паганаю цікавасцю на беднага малога хлопчыка. Як баяўся ён, каб ногды нейкім дзівам не знайшлася прапажа якраз у яго. Ён ужо сам не быў у сабе пэўны: браў ці не браў? Мажа, узяў як скрозьсоння… А крамнік быў

незадаволены, здзіўлены, што нічога не знайшоў, і падазрона кінуў вокам на самога бацьку…

І тады ў хлопчыка высахла ў роце, як у самы гарачы жніўны дзень, не чуў ён ні ног, ні рук: барані Бог, знойдуць у бацькі… мог бацька ўкрасці сабе на сотку.

— Трэба ўсіх трэсці, — кажа крамнік, — чаму аднаго хлопчыка? Аднаму — крыўда, усім — не крыўда.

— Усіх дык усіх, — нездаволена, але шчыра згаджаюцца вознікі, — усіх дык усіх…

— Трэсці — справа гэта прыкрая, але зладзейства — справа таксама дрэнь, — кажа худушчы дзядзька і ўжо расшпіляецца.

— Чаму гэта ўсіх? — разважае гаспадыня. — Пасля гэтага, што прыехаў апасля ўсіх, ніхто на печ не лазіў. Чаго табе было лезці? Пра што ты гаманіў там з сваім хлопчыкам? — пытаецца яна ў Хомчынага бацькі.

— Браточкі! Чым-чым, а злодзеем не быў яшчэ, — шукае спачуцця бацька. — Але трасіце сабе… трасіце… — расхінае ён свае лахманы.

Крамнік і яго вознік бяруцца за бацьку, і хлопчык, сагнуўшыся, глядзіць, як яны лезуць у бацькаву кішэнь, шчупаюць ля пояса, пасля кажуць: «А дай-ка торбу», — і глядзяць у беднай торбе.

— Можа, ты на санёх забыўся? — пытаецца гаспадыня ў таго возніка.

— Ды не ж, кажу табе: прывязаўшы быў пры гужу, — сварліва адказвае той, але ідзе на двор, каб паглядзець яшчэ раз.

І болей нікога не сталі трэсці.

«На нас толькі думалі», — цяміць хлопчык, і цяпер ён ведае, што бацька будзе злосны, будзе сёння ўвесь дзень біць коней і крычаць на яго. А за што?..

Падводчык зараз, але марудна ідзе ў хату.

— Ё, — вінавата і панура кажа ён адно слова, маючы падпінак у руцэ.

— Дзе ён быў? — пытаецца крамнік. — У чыіх санёх?

— Неяк утаптаўся ў снег ля возу пад павеццю.

— Дурны ж ты, дурны! — лае яго, павесялеўшы, гаспадыня.

— Яшчэ злодзеем не быў, — важна аглядае ўсіх і бацька. — Ну што, сынок? Людзі думалі, што зладзеі, ажно і не! — жартуе ён з сынам так, што Хомка баіцца яшчэ болей.

— Дарма пакрыўдзілі чалавека, — уступаецца тады і добранькі вознік-дзед.

Хлопчык, аднак, ужо меней любіць яго цяпер, бо раней і дзед, як і ўсе, маўчаў, не заступаўся.

— А ў цябе хто пытаецца? — гыркае на яго, мужыка, крамнік. — Усе вы добрыя!

— Яно і спаміж вашага брата бываюць гэрцыкі! — не баіцца яго дзед.

— Што? Што ты мне тут лезеш? — падступае з вялікім запалам шырокі той, чорнабароды крамнік…

— Спалохаўся цябе, як кабыла зайца! — зняважліва жартуе дзед і дадае: — Перш самога б цябе патрасці, каб цябе лысыя трэслі…

Крамнік плюецца і выходзіць. Вознікі рагочуць.

— А дай-ка, Пэся, яшчэ сотку, на дарогу пагрэцца, — просіць бацька і ўкрадня пазірае на хлопчыка.

Хлопчык утупіў вочы.

— Што табе тут… манаполька? — гневаецца гаспадыня.

— Ну, ну, дай…

— Матруна! Прынясі ўжо яму сотку, хай ужо ён спакойна едзе ад нас, — згаджаецца гаспадыня.

Матруна бурчыць, сапіць, скобліцца, кляне і прыносіць сотку. Яны выходзяць.

Пад павеццю бацька выпівае, чамусьці адвярнуўшыся да сценкі, і трошку недапітага падносіць сыну.

— Пагрэйся, сынок, на дарогу.

— Не хачу я…

— Ну! Не дурэй!

Хлопчык з агідаю дапівае. Ён цяпер ведае, што ўвечары бацька нап'ецца на станцыі, дамоў нічога не прывязуць, бо нічога не заробяць пасля той выпіўкі. Бацька будзе злосны, будзе крычаць, біць коні…

Хлопчык здрыгаецца ад гарэлачнага паху, а бацька голасна разважае:

— Чым-чым, а злодзеем яшчэ не быў…

І ў яго словах ужо чуецца вялікая злосць.

Ды вось санкі заскрыпелі, і пачынаецца ізноў дарога…

## Млявыя сненні

### I

Жніво. Ранне.

Спелае жыта схіліла каласы. Блішчыць раса і буйнымі круглымі слязьмі капае і з коласа, і з тонкага залатога сцябелля. Тхне свежасцю зямелька…

Там-а-там сінеюць чароўна-прынадныя галоўкі-красачкі ціхіх васількоў. Трыпутнікам, гугалем і мышыным гарошкам парасла высокая мяжа.

Падзьме цёплы, і густы, і лёгкі ветрык — і ад жытняе сцяны льецца і плыве пах упрэлай палявой зямлі і ціхамірнай непрыкметнай румянкі, сыплюцца ў сем колераў вясёлкі росныя перлы, дыхаючы ўгору духам цеплыні.

Шырокая а далёкая жоўтая ніва! Там, пры далёкім лесе, у дымнай імгліцы, мусіць, канчаецца яна.

Шарпае пад лёгкімі лапцікамі колкае і яшчэ поўнае соку іржышча. Грубыя, туга звязаныя снапы разлягліся, як купцы, бавячы погляд. Не хочацца думаць, што там, на ўзгорачку, на пясочку, ёсць і рэдзенькае, жыдзенькае, дробненькае жытца з малюсенькімі каласінкамі. Сумна там… Затое ж тут, дзе яно буйнае, дзе яно густае, — надта хораша! Дзятліна зелянее патройнымі лісцінкамі. Клякоча скакунец-каваль. Гудам гудзіць сіне-пазалачваная муха. Трапыхаецца і снуе туды-сюды над жытам жоўценькая мятлушка.

А нечыя жнеі прыйшлі ўжо на пастаць — пад самы лес. Лётаюць па-над жытнім морам каласяныя жмені і хаваюцца ў ім. Уздоймецца галава ў белай намётцы, блісне на плячы гібінка сярпа, тонкія рукі круцяць вязьмо. І зрок задумана стаіць на дальнім ускраі паласы-шнурочка… «Відзіць маё вочка, што край недалёчка! Відзіць жа і другое, што яшчэ ганей двое!..» Схавалася белая намётка, — узмятнулася чырвоная хустачка дзяўчыны… І дзве жмені, гнуткія, шумацяць, мятаюцца і мятаюцца.

Вуха з радасцю ловіць аднастайную музыку-іграннe сярпоў: хруп! хруп! хруп! І шамае жыта…

Подаўна час маленькаму канюшку прахапіцца ад смачнага сону і бегчы дахаты, несці адтуль снеданне касцам на сенажаць. Подаўна час яму прачнуцца і вылезці з-пад куста: гняды конь узбіўся на чужую пожню і выскуб тым часам ужо добры лапік.

Нейкая няўцямная сонная трывога сціскае сэрца, і няма сілы ачуняць. Сненні, поўныя бясконцага змагання, надзей і перашкод, паглынулі ўсю ўвагу, скавалі розум…

* * *

Сніцца яму…

Калядныя святкі. Вечар. На вокнах — маты, а за імі, за сцяною, на вуліцы і на падворку — снег, лютая сцюжа, дробная мяцеліца і цёмна, цёмна. Вось то самая ваўчыная пара ў паха-

ваных снегавою дзяругаю, мутных і нямых, страшэнна пустых палях.

Прытульненька, хаця і скупавата, слабенька дае на святочную хату святло падвешаная на шосціку лямпачка. На палу паселі бабы і гамоняць аб драбніцах жыцця свайго.

Там і Хомкіна маці. Хомачка цярэбіць у руках абадраную, з аблезлымі штучнымі баранькамі, шапку; пераступаючы растаптанікамі, горнецца да матчынай спадніцы і пільнуе фартуха. Ён узіраецца на Лявоньку, што сядзіць за сталом і чытае кніжку, прыхінуўшы яе стаяком да вялікай булкі хлеба пад абрусом. Чытаннік нездаволена ўзнімае галаву на асяродак хаты, дзе з кійкамі і косткамі (ад святочнага абеду) гуляюць дзеці. Дзеці тлумяць галаву, але не падходзяць блізка да чытанніка — хай сабе ён чытае свае кніжкі і не злуецца на іх. Хомачцы страшэнна карціць падысці да столу і ўзяць кніжку ў самыя рукі. Але нешта прыкавала яго: чуецца адзаду нейкае патаёмнае хрупанне… (А гэта авечка, узятая акаціўшыся з сцюдзёнае пуні ў цёплую хату, хрупае сянцо пад палом.) Дзеці поўзаюць рачыкам, равуць: «Ай, воўк! Ай, воўк! З’ем! З’ем!» Потым едуць конна — той на тым… І ўрэшце спраўляюць такі вэрхал і гармідар, што трэба супакойваць іх спачатку крыкам, а потым матузом ад фартуха. Ціхае сумаванне ахапіла хлопчыка: чаму няможна падысці і ўзяць у самыя рукі кніжку? У іх у хаце няма ніводнай кніжкі, а шматок газеціны, што прывязлі з соллю з Лугвенева, бацька разгладзіў, добранька злажыў і схаваў сабе курыць. Нельга паглядзець кніжкі: Лявонька злуецца — і не дазволіць. І гэты патаёмны хрупат адзаду страшыць… У задуме глядзіць Хомка на галузванне і дуронства малых, і калі іх пачынаюць біць за тое, што адураюць галаву, ён палахліва прыліпае ў куточку і жаласна самотнічае ў ім. Дзівуецца адтуль, што навакол ад святла лямпы — зялёны персцень і ўва ўсе бакі — залатыя касулькі. Прыплюшчыць адно вока — каснічкі растуць, бягуць далей, як жывыя. Чаму яно так? Ну чаму? Няма адгадкі, чаму… І яшчэ гэты патаёмны хрупат адзаду… І вось яшчэ: чорныя сцені скачуць па сценах і кутах — як бы і людзі, толькі нямыя, хоць і рухавыя, — яму страшна, ён палохаецца, але ніхто не спагадае яму. А сцені, быццам спуджаныя нейкім зданнём, усё бегаюць і ківаюцца. І раптам скончылася патаёмнае хрустанне, страшная чорная морда з агнявымі, каціннымі вочкамі зірнула з-пад полу… (А гэта авечцы дакучыла там і захацелася выйсці з-пад полу на волю.) Жах абуяў хлопчыка, і ён валіцца наскрозьдоння, глыбей, глыбей… Высака, хто ведае дзе, крычаць бабы: «Хомка! Хомка!..»

* * *

Крычаць бабы наяве:

— Хомка! Хомка! Шпак дурны! Коні ў панскі лог ускочаць, — забрытаюць леснікі! Дзе ты праваліўся, Хомка? Ага-ту! Ага-ту! Спіш пад кустом, абуза, і не бачыш! — крычаць на полі жнеі.

«Прачніся, а прачніся! — шапочуць яму кусточкі лазовыя. — Табе сніцца твая дзіцячая пара, але не тады — цяпер крычаць бабы, каб ішоў ты зганяць коні. Прачніся! Агу, будзе бяда!»

Сон скаваў хлопчыка, замардаванага надмернаю працаю летняе пары. І няма ніякае магі парваць хваравіты ланцуг сненняў — і трывожных, і тамуючых, і супакойных…

* * *

…Вясна. Парыцца зямелька. Буры лес пукацца пачаў, і ўжо раскідаецца, і ўжо ўкрываецца рунню ліпкіх лісточкаў. І поўныя вадою абарачкі разліліся. Па вадзе шалёпаюць басанож малыя дуронікі, закасаўшы нагавіцы, задраўшы кашулі.

Цягаюць бабы па вадзе шэра-белыя суровыя палотны, па першых стужачках сёлетняй травы; гулка хлэпаюць пранікамі, галошачы воддаль вясёлым гоманам. Настаўнік, ужо трэці ў Асмолаве на Хомчыным веку, сын лугвенеўскага царкоўнага старасты, узглабаўся на высокую дульку, поверх новай жоўта-саламянай школьнай стрэшкі, абразаць пілкай-аднаручкай глухое галлё. Настаўнік гэты, кажуць, добры, але Хомка ўжо не ўчыўся болей, як яго сюды прыслалі. Настаўнік добры і добра адукаваны: скончыў настаўніцкую школу. Аднак у яго загана: страшэнны п’яніца. Ён носіць акуляры, і акуляры яго зваліліся з дулькі, і ён, няўзоркі, смокча сваю цікавую куплёную трубачку з чырвоным цыбучком і пазірае адтуль, з высакосці, на бедную пакуль што, ды ўжо вясёлую, харошую вясноўскую відаль палёў, лагоў і лесу. Снудзяць сохі і бароны людзі па ўсіх дварах. І прыкра Хомцы, што бацька яго, гаспадар няспраўны, у такую пільную часіну, калі трэба выхадзіць на працу ў поле, сабраўся-ткі лён церці, ляпае адзін у лазні мяліцаю. А нічога! — не ўсё дрэнна робіць бацька: к вясне кабылу во купіў, а то каторы год без свайго каня жылі. Ганарыстая купілася кабыла: не хоча хадзіць на папасе, ліха нясе яе на жыта, — у самахоці адкуль ёй і тая шпаркасць у бягні бярэцца? Як запрагуць, дык хоць кіем лупцуй яе — шыбка не бяжыць, а тут во ляціць і ляціць на жыта. Разоў колькі бегаў бацька з лазні зганяць яе са шкоды. «Вось, мусіць, злуецца, — разважае Хомка. — Пасобіў бы яму

пасвіць кабылу, ды гаспадарская работа не дазваляе батраку». Ішоў нехта міма, па шляху ля жыта, закрычаў: «Юркава кабыла ізноў у жыце! Абы забагацеў на каня, дык і пачаў чужы хлеб травіць». Лягчэй Юрцы скрозь цэлы дзень разу хлеба не ўкусіць, як пачуць такое ад каго. Кінуў вобзем раскірэку-мяліцу, рынуўся кабылу лавіць. А яна, дурніца, не ловіцца і ўбрыкнуць яго ягліцца. Але-ткі забрытаў, сціснуў ёй храпы нахрапнікам і прывязаў за повад да разложыстай вярбы. Выкрышыў у плоце падгнілы знізу, але здаравенны кол, сцяў аберуч і ну бастоліць дурнаватую жывёліну. Заб'е! Авохці! Дадушы, заб'е! Дрыжыць усё ў Хомцы, як струна. Штосьці во-во парвецца… І вурзнулася аб зямлю падбітая кабыла. Выцягнула, як дылда, свае нязграбныя ногі. Бяжыць туды, выючы, матка, бягуць на гвалт людзі. Трахнуў Юрка кулаком і жонку па галаве. Куламеса і выццё! Усе пачуцці зліліся адным комам і распінаюць кволую Хомачкіну душу: сум і жальба, злосць і боль, і нейкая глухая пакора паняволенага перад няўхільнасцю… «Ён думае, калі яму ні ў чым не ручыць, дык можна кабылу да смерці забіваць, можна маму біць, — з надарванасцю кажа некаму Хомка; не жаліцца, не, так проста сабе кажа: — На кірмашы ўмаўляла мама, каб не купляў гэтае кабылы, не верыў цыгану, няладная кабыла… не паслухаў! Калі ж ён з цыганом больш уважаецца, як з намі». І горкае гора, як тая вада праз грэблю, прарвалася і залівае ўсё чыста буйнымі, гаручымі слязьмі. І рыгае, і сударжна хліпае: «Забіў кабылу… гы… гу…»

Ці не дзіўна вам, што герой наш плача ўва сне па скалечанай кабыле, а не па маці, жорстка зняважанай бацькавым біццём? А ці ведаеце вы, што мець сваю кабылу было найсаладзейшаю думачкаю ўсяе сям'і цераз доўгі час? На тое, каб ужыццёвіць гэтую салодкасць, пайшлі недаспаныя раніцы дзяцей, што бегалі ў грыбы, збіраючы іх на продаж і рызыкуючы трапіць пад бізун панскага аб'ездчыка. На тое пайшла яешанка самага вялікага свята, бо дзеля грошы на кабылу яйкі ехалі на Зэлікавым возе ў Оршу ці ў Смаленск. Той жа думкаю палягчалася гарката дзіцячых слёз і выццё і кляцьба маткі, калі Юрка ўпіваўся: слова «кабыла» спыняла лішнюю чарку ў паветры край самага роту і ставіла яе назад на стол. Дык ці ж можна раўнаваць з кабыліным калецтвам матчыны слёзы і матчына выццё пад бацькавымі кулакамі — такія звычайныя з'явы ў штодзённым асмолаўскім жыцці? Ці ж не сын свайго бацькі, ці ж не сын свае маці герой наш, калі найгарчэй плача ён ува сне па сваёй скалечанай кабыле?

* * *

Шумацяць над яго ўпоенай сонам дробненькай постаццю лозы і веюць трывогу. «Прачніся! Прачніся! — шапочуць яму лісточкі. — Сонейка высака-высака, гаспадыня кляне цябе на чым свет стаіць, а гаспадар, не бачачы і не чуючы батрачка са снеданнем, варочаецца з сенажаці з касою і граблямі на плячы і клянецца выбіць з цябе тваё батрацкае гультайства і нядбальства».

«Прачніся, прачніся, Хомачка: гаспадар блізка», — шапоча яму і ляшчына, цікуючы, што з гэтага ўсяго будзе.

Я хацеў бы прахапіцца, я хацеў бы стурыць гнядога з патравы і бегчы дамоў, але цела маё не слухае мяне: яно разморана, яно прыкута нечым да зямлі…

* * *

Сніцца яму цёплая раніца ўлетку, але не будні, а свята… Такая ж цёплая, чыстая раніца! На падворку, дзе сонейка цалуецца з залатою саломкаю, порскаюць парасяткі рабенькія і чарнюсенькія, бы жучкі, і пярэсценькія ды ржава-рудзенькія — усе з гладзенькай шэрстачкаю, з маленькімі, дзяцінымі чысценькімі лычыкамі. Жартуюць, клычуць саломку. Піскнуць, брыкнуць, схопяць жменьку ў зубы іківіль-ківіль! ува ўсе бакі, круцькруць! дробненькімі закруцістымі хвосцікамі. Рохкае матка іхная ў свінарцы, каб ішлі туды, дзе яна, а ім хочацца гуляць на сонейку. «Вуль-вуль-вуль…» — чуецца пад страхою прыемнанегае галубінае вульканне. Дзяцей сваіх песцяць галубы, на волю іх гукаюць, лятаць іх навучаюць. То ў пуню, то з пуні ды на хату, на страху шпурхаюць галубы ды ўсё вулькаюцьбрукуюць: і ў катухах, і на страсе пад сонейкам. Вулькаюць і мыюцца, насок аб насок точаць-смычаць, цалуюцца-мілуюцца, пёркі слабенькія выкідаюць. Голуб за галубкаю з ласкаю тураецца, раздзьмухваецца-дзьмецца і грозіцца: вурр-вурр-вурр… Павурчыць ды ізноў салодка завулькае, нега і тамуча — сам шызенькі, галоўка пазалачваная. Гострым лётам рэжуць чыстае, лёгкае, сіняе бяздонне ластаўкі, вырабляючы неспадзяваныя петлі і паваροткі. Раптам ныраюць яны ўніз, а тады стрэлкаю кідаюцца ўбок аж і ізноў угору. Перабіраюць гострым шылястым крылейкам ці распусцяць яго і шыбка плывуць, як бы і не ведаючы, куды яшчэ кінуцца. Зморацца, пасядуць на вільчыку на страсе, на дзядзькавай сяніцы — і шчабечуць белагрудыя шчабятухі, круткія, шыбкія пяюшкі-ластаўкі: «На моры была,

за морам была, не бачыла такога хлапца Хамца: спіць-спіць дый падсві-і-істывае…» Ах, ужо высока сонца! Высока сонца — добры сцень даюць яблыні ў гаспадаровым садзе на грады, дзе сагнулася гаспадыня ў баразне — бацвінне на абед ламаць. Буйнае, густое парасло ў іх сёлета бацвінне. Яшчэ не абсохла тут раса, яшчэ макравы мак, — не расправіў па-дзённаму свае ляпёстачкі, аксамітавыя, чырвоныя ў добрага маку і бледна-блакітныя, з цямнейшымі плямкамі пры ложакветніку ў мака-самасейкі. Яшчэ на тых ляпёстачках павісла брыльянцістымі капачкамі слязлівая роска. Ды ўжо прабіўся скрозь лісці на сліўцы сонцаў ход — і зайграў вясёла ў тых капачках… І харашэе мак, узносячы тут і тут, густа на густым, шызым і квола-крохкім свежым сцябелейку буйныя і дробныя мачынкі і груд цвету; панік сланечнік кружэлкай жаўтацветнаю, загадзя пакутна асмягаючы. Асцярожна з-пад шурпатага лісту выкаціў свой бачок на ранішняе халадкавае сонца малады гарбуз. А гарбузінне, пазаняўшы завуголле і кожны закутачак, абходзячы, ды ўсё ж глушачы тую моркву, рэпу і цыбулю, пнецца кручанымі вусінамі на плот і жаўцее сабе бліжэй да сонейка. Бачыць яркая пчолка яго жоўты цвет — і звініць і паўзе на яго, набірае жоўтага пылу на свае бахматыя ножкі. Яшчэ не адцвіў на сонцы зялёны боб з чорна-белым цветам. Віецца фасоля з павіслымі стручкамі-лапаткамі. Пасля ранішняй расы вайстрэй пахнуць галаваценькія канапелькі. І бульбовая націна не зважае на бясконцу паспешную ў разрастанні макрыцу і на прычэплівую, заблытаную бярозку, а бялее і жаўцее, колькі можа, сваім нядужым простым цветам бульбовым. Лёгкай, светлай хмаркай вылятае дым з коміна, там і там над хатамі… А ў тых хатах святочных — дзе бліны, дзе скварачкі, а дзе і яечня на снеданне, бо не ўсе ж і асмолаўцы такія незаможнікі, каб хоць у свята не з’есці скваркі. Гуляе срэбранымі касякамі і бліскучымі зайчыкамі сонца па лавах, па застоллю і на абрусе. Яшчэ не справілася зусім ля печы гаспадыня, і стаяць некаторыя гаршкі і міскі на лаве і на судніку. Бралася ўжо месці хату, а за нечым там пабегла — уздумала яшчэ — і пакінуты галень супакойна чакае на яе пасярод падлогі. Мухі без клопату лётаюць над крошкамі па ўсёй хаце, а найболей за сталом і ля судніку, туды і назад. Часам другая зычна зазвініць з радасці, як той авадзень. Хомачка вярнуўся з начлегу і спіць, бо свята, не хапацца на работу. Тармасілі яго разы два, што блін гарачы ёсць, з ячнае мукі (блін ячны — смачны), ды адбіўся, пацмокаў трошку і ізноў заснуў. І кацянё сцёплілася ў яго пад бокам. Вось як слаўна! Праўда, збіў ён дзяругу з гарохвіны;

часам моршчыцца ад сонца, сонны, адхінаецца; раскінуў рукі карослівыя, ніколі ўважна не памытыя; нагамі, пстрыкатымі ад цыпак, брыкае скрозьсоння, бо мухі — ай, што за дакучлівыя мухі! — ліпнуць, аж у рот і ў нос лезуць… Ах, што за дакучлівыя мухі! Не даюць хлопчыку спаць…

Але ж ёсць і ў Хомчыным маленстве залаценькія дзянькі; і яму ж порскалі парасяткі на сонейку на саломцы; і яму ж галубчыкі вулькалі, а ластаўкі ў сінім, чыстым, цёплым бяздонні купаліся; цвілі ж і яму тыя добрыя і простыя макі… Ды еў жа і ён салодкія яблычкі!

* * *

Восень. Уранні дзеткам не так смачна і доўга спіцца, як увесну і ўлетку. Цяпер, як толькі блісне па хаце, скрозь акно, яшчэ нясмелыя ранішнія сонечныя зайчыкі, дзеці ўсхопліваюцца і бягуць насустрэчу новаму дню. Босенькія выбягаюць яны з хаты на ганак і, чуючы холад у ногі, дзівяцца, зірнуўшы на стрэшку: уся яна белая — белая ад маразянага налёту. Мароз асеў на страсе. Там, дзе сонейка ўжо дастала, мароз растаў, і мокрая страха блішчыць роснымі капачкамі, а над ёю ўзнімаецца ў ядранае паветра пара, як лёгкі дымок. На двары, на саломе — тая ж маразяная бель, толькі слабейшая; вось пратапталі ўжо па ёй сцежачку да клеці і ў пуню. І жывёлу выпушчаюць цяпер у поле позна: маўчаць у хлявах каровы і авечкі, і толькі свінні рохкаюць і рвуцца на волю, каб бегчы на бульбоўнік на цэлы дзень.

У паветры нейкая ціхая восеньская дума. Быццам віхаецца яно: ці даць сонцу распаўсюдзіцца, абагрэць зямлю, узвесяліць дзетак і ўсё жывое і нежывое, ці то ўжо прыціснуць як мае быць гэтым восенным марозам — шэранню і пусціць зіму, снег і сцюжу, бо ўсё роўна аслабела сонца — свеціць, стараецца, а не можа абагрэць, як грэла ўлетку.

З суседскага гумна чуваць пуканне цапоў: пук-пук-пук! та-та-та! Там ужо дамалачваюць запыленыя, закураныя малацьбіты. З ціхім здаволеннем ад зробленае працы паглядаюць яны: ці не ідуць ужо гукаць іх снедаць?

Выкаціў Хомчын бацька калёсы на сярод двара, выпусціў аглоблі з рук, і яны брыкнуліся на зямлю. А маці сабрала большыя і меншыя кошыкі і цяжкія, з наліплаю зямлёю мяхі і ўскладае на калёсы, каб пасля снядання не марудзіць і зараз ехаць у поле капаць бульбу.

— Бяжы, Хомачка, па каня, — кажа ён сыну.

* * *

— Каня! каня! каня! — крычыць хтосьці дзесьці… Чуе Хомачка праз сон, а прачнуцца не мае сілы.

Сніцца яму, сніцца яму… Цішэй шапочуць лазовыя лісточкі: «Прачніся, прачніся!..» Няма надзеі: спіць хлопчык, як забіты. А пара б і выспацца!

Аднатонна звініць яму над вухам авадзень. Мятлушка з рабенькімі крыльцамі снуе над ім свае нябачныя ў паветры ўсновы.

* * *

І ўжо сніцца яму, сніцца, быццам хлопам валіць снег і стогне завіруха. Зіма. Грудам сыплюць па вуліцы хлопчыкі-вучні з торбачкамі на плячах. Гарадчанцы кідаюць снежкамі ў асмолаўцаў. Хомка ціха, але ўпорчыва ваюе за сваіх… Прыціснулі іх гарадчане, трапіў Хомка ў глыбокі сумёт, праваліўся — і тоне глыбей, глыбей… А нейкі гарадчанін шпурляе і шпурляе ў яго балючымі крамянымі снежкамі, няўпрыцям узлаваўшыся ў гульні. «За што? — са слязамі і так ціха, што нячутна і сабе самому, пытаецца Хомка. — За што?!» І глыбокая, распачлівая крыўда кроіць яму сэрца…

* * *

Над ім стаіць гаспадар, і грабяльнішча са злою раз’юшанасцю стукнула па разамлелым, зняможаным, прыспаным целе.

— За што?! — выстаўляе рукі спуджаны сосну Хомка… Усхопліваецца, цяміць… — Дзядзечка, не буду! А родненькі, не буду! Баліць!.. — галосіць бедны Хомка.

— Яшчэ пытаешся, за што! Вось я табе спаганю сон! Ах ты, нягоднік! Гультай, батрацкая натура! Вось я табе пакажу сон!..

## II

І дзень — як дзень… Снедалі, потым хадзілі разбіваць сённяшняе і падварачваць учарашняе сена. Абедалі, потым награблі тры вазы сухога на балоце і пакачалі ў кучкі вык. Вярнуліся, потым Хомка занёс бабам на жніво гляк сцюдзёнае вады, а гаспадар раскладаў пад асеццю і падмятаў гумно. Баяліся, каб не нахмарыла, і, схапіўшы па кавалку хлеба і па кусту цыбулі, коні ў аглоблі — і зататарахалі, затарахцелі, закурылі пылам па шляху на поле па снапы.

І дзень — як дзень… Толькі болей пільнуецца Хомачка паказаць рупнасць сваю ў рабоце, болей дагадзіць, каб забыўся гаспадар на яго сон і што спозніўся з начлегу.

Яшчэ яны мімаездам напаілі коні ля калодзежа, і не з жолаба, а з вядра, а што засталося ў вядры, тое вылілі каню, кожны свайму, пад бруха.

Яшчэ той галуза, што ўчапіўся быў за Хомчыны калёсы пад'язджаць, сеўшы абенаж на жэрдзь*, ухапіўшыся за наклеску, каб не зваліцца, і перабіраючы нагамі, быццам едучы, як яму хацелася, на «лі-са-пэ-це», — яшчэ ён, саскочыўшы ад Хомчынай пастрашкі пугаю, сонна пляцецца назад да свае хаты і лукава паглядае скрозь плот у чужы гарод і цераз леску ў чужы сад: ці ё хто ў будцы, ці няма нікога?

Яшчэ доўга боўтаецца пасля іх ля калодзежа вага, а дзяўчынка з чужога поля ловіць яе паднятаю вышэй за галаву худзенькаю і цьмянаю ад сонца праваю рукою, а леваю абцірае дзіцячы пот з лобу і вачэй, шыбка і хораша нахіляючы русявую галоўку наводмах, набок. Харошая дзяўчынка! Круглы носік і шэрыя вочкі. І чырвонаю гурынаю вышываны палічкі на кашульцы. Злавіла. Закруціўшы почапку, каб не ўвалілася вядро, глыбока топіць яго з канцом вагі — і цягне сцюдзёнае-сцюдзёнае вадзіцы… Прагавіта п'е з вядра сама, прыпаўшы да яго засмяглымі вуснячкамі і абліваючы няўмысля саматканую спаднічку, а тады цэдзіць у дубовую круглую біклажку. Цяжка ёй наліваць… Аблілася дужа! І сарамліва іншы раз азірнецца, ці не пройдзе міма які хлапец з гэтай чужой вёскі, — быццам таму хлопцу дужа яна ў галаве, такая малеча. Бачыце, міравыя пасрэднікі і старасвецкія каморнікі, наразаючы сялянам ад паноў зямлю, зрабілі так, каб дзяўчынка мусіла бегчы ўлетку па ваду з свайго жніўнага поля ў чужы калодзеж, бо да свайго дужа далёка.

Яшчэ ідуць з поля нечыя дзеці, хлопчык і дзяўчынка, і нясуць наповірку, на кіі, пустыя абедачнікі-спарышы ў махрастых раскарачах. І сварацца, што заблыталіся недзе ў жыце, забавіліся ў красках на някошаным аборку, а ў іх жа яшчэ і свінням не сечана, і цялушку, выходзячы з абедам, забыліся выпусціць з пунькі на атаву і там на колiку прывязаць, каб не лезла ў капусту, бо можа паламаць і вывернуць качаны. І пакутуе цялушка ў пуні.

Яшчэ яно быццам да вечару дужа далёка.

---

* Ці, як кажуць у іншых мясцовасцях нашае прасторнае бацькаўшчыны, рубель.

Ды неўзабаве кіне сонейка над лесам чырвоныя заходнія касулі, што з прыгожага, але трывожнага святла. Сплывуцца светленькія болачкі ў бліскуча-хмарныя з краёў грудкі і вялікія сярэбраныя кучы. Асвеціцца закат ціхім, супакойным, роўным полымем — і лягуць прахалодлівыя сцені. Звалчэе троху на дарогах пыл… І пасядуць куры на шасты і дошкі пад цёмнаю і цёплаю страхою.

І вось ужо сабака бяжыць з поля, ад жней і ад касцоў; шчэміцца скрозь няшчыльна зачыненыя дзверы ў хату — хоць жа да свінога цэбра з мешанкаю і малою скарынкаю хлеба. Эх, не да канца ты паэт, сабака! Падаў цалюткі дзень на палях, лясах і сенажацях, радуючыся хараству прыроды і сабачага жыцця. А цяпер во забыўся ты на ўсё і, падцягнуўшы, як хорт, бруха, шукаеш скарынкі хлеба ў брудным свіным цэбры, глыбока макаючы і пэцкаючы разумную сваю морду…

## Кірмашовыя прыемнасці

### I

У цяньку, пад павеццю, ля дрывотні, яшчэ не растаў халадок ліпнёвага рання. Але ўверсе, над пуняю, ля самага вільчыку, ужо ліецца-пераліваецца жывое срэбра з нагрэтага паветра, дакляруючы кірмашоўцам гарачы дзень на кірмашы ў Лугвеневе. Дрыжыць яно і мітусіцца і ўжо патроху знікае з воч, і ўжо няма… скрозь — сіняе, блакітнае, бы лёнаў цвет, вялікае цёплае неба.

А ўнізе, пры сценцы пад хатаю, на саменькім прыпёку і пад тым святочным блінным пахам, што так прыемна тхне з напята расчыненых дзвярэй, ляжыць кудлатая Курта. І ўжо дужа прыпякае Курту, і ліпнуць ёй, як восвы, на з’едзенае ў больку вуха бязлітасныя мухі з гною. Размарыла сонейка гультайку, і яна з прысілу, хаця б мала-мала шавяльне сваім кудлатым, як каўтун, хвастом і з крайняе патрэбы схавае раскрываўленае вуха ў лапу. З цярпліваю няўмешкаю ўва ўсякія звычайныя, і часам незвычайныя, людскія справы бокам плюшчыць Курта вочкі ад бліскучых Петраковых ботаў, якія Хомка давёў да глянцу, што аж можна паглядзецца ў іх, як у люстэрка, і выставіў на ганку.

Недарма стараецца так Хомка: ён сёння пойдзе з гаспадаровым сынам на кірмаш. Пара, пара схадзіць і Хомцы! Сёлета ў касе ідзе ён з Петраком плячо ў плячо, як зусім вялікі хлопец. А Пятрок, праўда, што гаспадарскі сын, другі ўжо год шукае-выбірае сабе жонку, ездзіць у сваты. Абы свята — ён на ігрышчах, на кірмашах. Пятрок ездзіў у Смаленск, разы два

пабыў у Магілёве, а Оршу, дык і лічыць яму няма чаго! Пятрок хваліўся, што ехаў у Смаленску на трамваі. На параходзе і то ўжо плыў ён, калі з хлапцамі і дзяўчатамі хадзіў у Бялынавіцкі манастыр. Хомка ж, блізу роўны яму ў рабоце, нідзе далей Лугвенева і станцыі не быў і свету бадай зусім не бачыў.

А балазе — Пятрок! А то ж і сёння павёў бы Хомка пасвіць коні. Ды вось, за колькі дзён да кірмашу Пятрок надумаўся, дакляраваў і пастукаў сабе кулаком у грудзі, што зводзіць на кірмаш хоць раз і Хомку. Ужо ж вялікі, брат ты мой, хлапец! Дзеўкі лупаюць вачыма на яго пушок пад носам, хоць і пад кругленькім яшчэ, дзіцячым носам. Калі няма ім большых хлопцаў, дык лезуць да яго, чапаюцца, жартуюць… А ён — як і не хлопец; бацька забірае сабе ўсё, што ён заробіць, і не пашыў яму яшчэ ніводных ботаў, не справіў сыну аніякіх ні разу ўбораў… Пятрок сказаў, што дасць Хомцы на кірмаш свае старыя боты, а ў свайго бацькі папросіць яму чорныя штаны і саламяны брыль. Брыля гаспадар не шкадаваў, бо той брыль быў надта ўжо стары, запэцканы і ў дзірках: дастаўся ён гаспадару шмат год таму назад ад старэнькага дзяка-нябожчыка за нейкія паслугі. Але штаны нарабілі нямала клопату. Даў бы Пятрок свае старыя, дык дужа вялікія на Хомку. А гаспадар упёрся, што не дасць сваіх новых штаноў. Зло брала старога, чаму Юрка не справіць сыну чорных штаноў, бо сын жа ходзіць па людзях не першы год і зарабляе… Чаму ж ён яму не справіць хаця з чортавае кожы? Нешта аднаго разу, пасля спрэчак старога з Петраком, усё за гэтыя штаны, Хомка неяк украдня шуснуў за парог і пабег у пуню. Гаспадар выйшаў за ім следам і неўспадзеўкі дапільнаваў там, што Хомка горка плача, схіліўшыся ў куточку на сцяну. Бачыце, лагодная Хомчына натура, узгадаваная ў старых звычаях, забараняла яму выказаць свой жаль на бацьку пры чужых людзях, і ён схаваўся краіць сэрца ў пуню. Стары ад такога ўчынку расчуліўся і сказаў Хомцы, што дасць яму надзець штаны, каб толькі ж уважаўся, каб не падраў, каб не запэцкаў дзёгцем ці ў зеляніну, лежачы на траве. «Глядзі ж, Хомачка, глядзі, шануй іх, бо яны ж новыя!» — настаўляў яго стары, калі даваў штаны.

На кірмашах Хомка, блізу таго, ніколі і не быў. Гаспадаровы дзеці пойдуць, а ён, служка, астаецца пасвіць коні. І толькі цьмяна-цьмяна засталося ў памяці, як вазілі яго хворага ў Лугвенева, у больніцу, калі якраз быў і кірмаш. Ён пралежаў тады цалюткі дзень на сваіх калёсах, сярод голага лесу ўзнятых і падвязаных аглобляў, мноства коні і кароў, натаўпу людзей. Ён бачыў там чорных цыганоў, крыклівых, газардоўных.

Яны таргавалі ў мужыкоў коні і ўсё плёскалі тым мужыкам па далонях. Яму тады балела галава, яго дужа нудзіла, і не карціла яму, хвораму, браць у рукі паліванага коніка, у зялёныя і жоўтыя шнурочкі, што купіла яму матка. Так і ляжаў прыгожы конік без увагі. А гасцінцы: вялікая цукерка ў залатой, з прыгожымі махрамі паперачцы, вясла дробненькіх жоўценькіх бублікаў і кухан, ліпкі ад нечага салодкага і з паколенымі згары дзірачкамі, — усе гасцінцы тады, неспадзявана, згубілі ўсякую прынаду. Да калёс прыходзіла худая і лупавокая Малка, Лейзарава жонка, таго Лейзара, што некалі меў у Гарадцы, а потым у Асмолаве кузню. Цяпер яны пераехаўшы ў Лугвенева. Маці і Малка гаманілі, казалі адна адной, бабскім звычаем, пра ўсе свае злыдні і нястаткі, уздыхалі, жаліліся, адылі пакорна жартавалі і смяяліся самі з сябе. Калі хто бачыў, як смяюцца цяжкахворыя або скачуць сухотнікі, дык гэты смех быў тое самае ці нешта надта падобнае. Малка гладзіла шурпатаю рукою Хомку па галоўцы; і хаця было непрыемна, ён дараваў ёй. А яна чамусьці, відаць, забыўшыся, звала яго не Хомачкам, а Хвядоськам і пыталася, ці ён яшчэ не забыўся на Іцыка і Ханку, яе дзяцей: бывала, гуляў з імі ў Асмолаве і не біўся, як другія дзеці, дужа дружыў з Ханачкаю, ды неяк аднойчы ўкінуўся з ёю ў глыбокую ямку з вадою, і ўсе тады надта спалохаліся — думалі, што яны там зальюцца. Хомка троху прыпамінаў, але невыразліва баўтануў галавою, бо не меў ахвоты размаўляць і аж дзівіўся, адкуль гэта ў іх, у маці і ў Малкі, бярэцца столькі чаго зюкаць. Ну, пагаманілі б троху — і даволі, дык яны гамоняць, і гамоняць, і гамоняць… Малка ж гладзіла яго негенька, як тады Іцыка, і казала вельмі жаласна, што бедненькі Іцык цяжка хварэў на шкарлятыну і памёр у яе на руках і на вачах у самога пана доктара Квяткоўскага. А весялей казала, што яе разумную, уф якую разумную, Ханачку заможная бабуля ўзяла да сябе ў Смаленск і адукуе там у такой школе, у якой вучацца толькі паненкі, дочкі заможных людзей.

Эх, калі тое што было! Цяпер Хомка — дарослы і пойдзе на кірмаш як мае быць. Боты, брыль, чорныя штаны і белая вышываная кашуля! А коні папільнуе сёння гаспадар: дзеля вялікага хлапца, як цяпер Хомка, здаўся стары на такую ласку.

— Баржджэй, Хамец! — гукае Пятрок. — Баржджэй, бліны ўжо на стале.

Ды Хомка і сам хапаецца, каб ногды не спазніцца. Не рана ўжо… Над страхою пчолы гудуць ужо па-дзённаму. Кулямі дзвінькаюць яны цераз пуню з саду, а ў тое замор’е, што сінімі мядовымі краскамі зацвіло. Вулькаюць галубы на вільчыку,

пішчаць галубяняткі ў падвешаных пад стрэху катухах, ціўкаюць на плоце і на пуні верабейкі. Разгулялася пагода. Хыкае, высалапіўшы язык, Курта і стамавана і па-гультайску віляе на Хомку кудлатым сваім хвастом. Пахне блінным пахам… Добра будзе на кірмашы…

— Слухай, Хомка! — казаў дарогаю Пятрок. — Слухай, братка! Я там сёння буду гуляць з гарадчанскаю Аўдуляю, а гарадчанскія хлопцы, ліха іх ведае, можа, зачэпяцца біцца… Дык ты пільнуй! Як якое што, дык ты мне міргані, а сам зараз гукай асмолаўцаў.

— Добра, добра, — патураючы, адказваў Хомка, але нешта трывожлівае і непрыемнае скаўзанула яму краем пад лыжачкаю. Нашто гэта біцца? Вось яму так добра… І ўсім павінна быць добра. Хаваючыся ад сябе самога, сарамліва аглядае сябе ён: боты бліпічаць… праз саламяны брыль падзьмухае ветрык. І так ён здаволены, так радасна дыхае лёгкім паветрам у полі, з такою ўлюбёнасцю аратая лашчыць вокам ніву, што пра бойку яму і думаць не хочацца. Да ўсіх казаць нейкія найласкавейшыя словы, усім рабіць нешта найпрыямнейшае жадаецца яму.

Хто пазнае ў ім парабка? Сына заняпалага п'яніцы Юркі? Ён, кажуць, хлопец як хлопец: можа, і не дужа прыгожы, а ўсё ж ткі троху прыгожы. А цяпер жа так прыбраўся! У Лугвеневе збярэцца шмат харошых дзяўчат, вясёлых і хораша ўвабраных, — і Хомка будзе любавацца на іх, колькі яму захочацца. І яны будуць з ім, як з роўным. Ніхто не падумае пра яго што благое: гуляе хлопец на кірмашы — ну і гуляе!

— А ведаеш ты што, Пятрок, — кажа ён, калі ў дарозе параўняліся з гаем, — скіну-тка я тут боты… Нагам лягчэй, і боты на карэнні збівацца не будуць… а?

Пятрок усміхаецца: надта ўжо клапоціцца батрак аб гаспадарскае дабро.

— А як сабе хочаш, — кажа ён.

Пакуль Хомка разуваўся, іх нагналі другія асмолаўскія хлопцы, і са смешкамі і жартамі пайшлі ўсе гаманлівым і вясёлым, смелым грудам.

## II

Няўпрыцям прыйшлі ў Лугвенева, знайшлі знаёмых, і яшчэ знаходзілі з усіх бакоў, і разглядаліся па ўсіх баках, а глядзелі так, быццам яны зваявалі гэтае мясцечка або нейкую радасць прынеслі яму, што прыйшлі кірмашаваць…

Хомка тут яшчэ раз паслухаў Петраковыя наказы, як рабіць у магчымай вайне з задзірлівымі гарадчанамі, а тады неяк адбіўся і адзін удаўся ў натаўп. Ён ведаў, што Пятрок спачатку будзе шукаць Аўдулю, — а пакуль то яшчэ знойдзе! — потым з ёю паходзіць, пагуляе і будзе, мусіць, частаваць яе півам, а вайна калі і пачнецца, дык жа не зараз. Хомка быў адзін спаміж мноства людзей, і немаведама чаго — нейкі сум агарнуў яго… І грошы ё ў кішэні, можна купіць салодкае вады і пражаных сланечнікаў і можна пакатацца на драўляным кані ў крузе пад музыку. Аднак ён меўся ў адзіноце, нясмеласці і яшчэ ў прыкрасці ад вагання: патраціць на сябе гэтыя грошы, якія даў Пятрок, ці не патраціць? Другія хлопцы скакалі да знямогі, а Хомка некалькі разоў памыкаўся запрасіць на польку маладзенькую дзяўчынку з Гарадца, просценька, але міленька ўвабраную, маўклівенькую, але харошую, ды аніяк не мог насмеліцца. Калі вялікі груд глядзеннікаў раптам шухнуў у бок ад заядлых скакуноў, што быццам азялелі і не бачылі нікога і нічога каля сябе наўкола, яна мімаволі схапілася за яго руку, каб не заваліцца, і ён, наш бедны, сарамлівы Хомка, асалавеў ад радасці і, сам не ведаў што, залапатаў ёй нешта, а сэрца ў яго буйна-буйна затыхала.

— Ганутка! — крыкнула ёй яе таварышка з кругу, думаючы, што яны ў пары. — Чаму ж ты з ім не скачаш? — і засмяялася.

— Пойдзем, калі хочаш! — коратка кінула яму Ганутка, і не паспеў ён абдумацца, як нязнаная сіла скранула яго рукі-ногі і пакруціла яго з ёю ў польцы.

Скакаць Хомка не дужа ўмеў, і скакаць было нязручна: пара налятала на пару, цяснота, а ногі збіваліся з тахту, бо кірмашовы гук і галас глушылі музыку… Вялікі пыл абняў тут усё чыста. Хомка, апрача таго, саромеўся сваіх потных, ажно мокрыя былі, далоняў… І ніяк не мог сябе прымусіць, каб не глядзелася няведама куды міма Ганутки, а каб глядзелася троху пад ногі, атроху ж і на Ганутку. Дык жа не: кінуць вочкам ёй на плечка ён сяк-так яшчэ мог, а вока ў вока — аніяк! І не меў ён таго здаволення, аб якім так летуцеў.

Па скоках ён сарамліва ёй падзякаваў, а яна шчыра ці няшчыра, але з дзявочай ласкаю прамовіла:

— Як ты добра скачаш… З табою дужа лёгка…

І трошку з ім прайшлася. Апынуліся ля будкі з салодкаю вадою. У будцы таргавала якраз Малка. Яна прыглядалася-прыглядалася, але ў такім вялікім і прыбраным хлопцу нізашто б не пазнала Домнінага Хомачку. Калі ж ён падаў руку і сказаў

ёй, недамыслівай: «Я — Домнін сын», — Малка паставіла яму і яго дзяўчыне самую вялікую пляшку салодкае вады і два гліняныя кубачкі, хаця другім парам давала толькі па адным, насыпала дзве шклянкі падсмажаных сланечнікаў, паклала два пернікі (якія тут завуцца папраднікамі) і пахваліла Ганутцы Хомку, нібы нейкага свайго радню. Хомка трошачку вагаўся: ці купляць тыя пернікі? Але Ганутка, адчуўшы гэтае ваганне, так прыхільна сказала дзіцячым поглядам сініх вочак: «Не трэба, до і без іх», — што яму раптам незвычайна забажалася канечне ўбачыць пернік на яе чырвоненькіх, мякенькіх вусначках.

Калі ж яны так сядзелі і частаваліся, падышоў сюды дзед з цэлым бярэмам дудак-пасвісцелей. Дзед перакінуў бярэма на левую руку, узяў адну пару, прадзьмуў іх, абцёр і зайграў вясельную песню, каб прывабіць на свой тавар купцоў. Усе — і Хомка, і Ганутка, і нават заклапочаная сваім убогім торгам Малка — з прыемнасцю слухалі, як ён іграў. Груд моладзі абступаў усё цясней старога дудачніка, аж вось нейкі паніч, мусіць, паповіч ці малады настаўнік, захацеў выбраць у яго адну пару. Перабіраючы ўсё бярэма, якое стукала, як стукае ўсё пустое з тонкімі і звонкімі сценкамі, ён сказаў аб адной пары:

— Эта пара нікуда негодна!

— Нягодна, малады чалавек?! — вясёла звярнуўся да паніча дудачнік, узяў гэтыя дудкі з бярэма і, не адвязваючы іх, а толькі троху да іх нахіліўшыся, зайграў… Ды так зайграў, што вялікі груд людзей адразу сцішыўся, слухаючы.

— А што: нягодна, малады чалавек? Во і бярыце за тры капейкі ды грайце на здароўе, пацяшайце сябе і добрых людзей… Толькі вы на іх так не зайграеце.

Тады Хомка нясмела пахваліўся сваёй дзяўчыне, што і ён умее іграць на пасвісцелі, толькі, пэўна ж, так, як дзед, ён не зайграе… А дзяўчына прыхільна слухала.

Тым часам недалёчка адгэтуль у Петрака пачаўся з гарадчанамі вялікі неспакой. Гарадчане, наругаючыся, махалі грушавымі тросткамі, абступіўшы з усіх бакоў сваёю вяткаю яго і Аўдулю. І ўвесь разбойны натаўп марудна рушыўся да Малкінае будкі. Пятрок шныхаў вачыма, шукаючы Хомку і асмолаўскую граmаду. Малка, пачуўшы нядобрае, штосьці шапярнула Хомцы на вуха. Ён ускочыў і меўся кінуцца туды, дзе скачуць, бо там былі бязмаль усе асмолаўцы. Аж у той жа момант, на ваччу, як зміргнуць вокам, бусайла-гарадчанін перацягнуў Петрака па плячах сукаватаю папірашкаю і распаласаваў яму крамны чорны пінжак. Ганутка ўхапілася з вялікага ўпуду за Хомку так,

што яму няможна было вырвацца. Беглі на падмогу асмолаўцы, уцякла некуды Аўдуля, загаласіла Малка ў небяспецы за свой тавар. Другі нейкі гарадчанін, п'яны-п'янюсенькі, убачыў пры будцы асмолаўскага батрака з сваёю гарадчанкаю — і ані з тога ані з сёга дыргануў суножку пад Малкіным ятком-услонам… Усе цукерачкі, сланечнікі і бедныя мудрагелістыя асушачкі пасыпаліся ў пыл, вакамгненнем трапляючы ў кішэні ласых свавольнікаў-малечы, што тут як тут былі. Хомка на ўсю сілу, з абурэння, штурхануў п'янага буйлу ў грудзі, але неяк зачапіўся ботам за калячок ад будкі, адарваў абцас і сам шлёпнуўся і расцягнуўся ў пыле. На яго хтосьці заваліўся, хтосьці наступіў нагою, а белая вышываная кашуля жаласна запэкала і ўпэцкалася. Падбеглі асмолаўцы і зараз зваявалі гарадчанаў і аправілі Малкін гандаль, даўшы троху ў каршэнь гарэзлівай малечы і шчодра заплаціўшы за салодкую ваду, якой цяпер, пасля слаўнага бою, выпілі многа. Малка збольшага змятала ніткаю Петракоў пінжак, а Пятрок, у адной кашулі, стаяў героем сярод дружыны, рагатаў на ўсю глотку, смешна паказваючы, як была прыгода, і шкеліў з гарадчанаў, з таго, як яны ўцякалі пабітыя.

— А дзе ж наш Хомачка? — пачалі пытацца хлопцы.

А Хомка, збіўшы з сябе крыху пыл, уцёк за будку шукаць Ганутку… Сэрца яго зашчымела: дзяўчына сядзела з адным сваім гарадчанскім хлопцам, якраз браценнікам таго п'янога, што абярнуў услон. Хомка прыстоіў за рогам будкі, каб не кінуцца ім у вочы, і ўбачыў, што Ганутка смяецца, а той ёй нешта кажа. Хомка прыліп, калі пачуў: «Батрак… хварсіць у чужых ботах і ў гнілым брылі». Хомчыны рукі адразу асцюдзянелі. Яму нястрымана хацелася кінуцца на ворага, і кінуўся б, каб толькі не было тут гэтае Ганутки. Добрая ж і яна! Ды гостры гнеў хутка зацьміўся цяжкім прыгнётам, роспаччу і злосцю да ўсяго на свеце — так, як бывала і ў яго дзеда і ў бацькі, алкаголікаў. Яму цяпер было так, быццам ён — гэта не ён. Нехта другі, а не ён цешыўся з харошага жыцця яшчэ сёння раніцою. Нехта другі, а не ён, а калі ён, дык не ўчора надвечар, а даўна-даўна, як у тумане, сядзеў на раллі, скарадзіўшы жыта… Праляцела, як сон, і з нейкім болем і цяжкасцю вялікаю, што гэта ж ён сам сядзеў учора на раллі… адпачываў у чырвоным золаце сонца на захадзе… смакаваў сала з халодным блінам… радасна пазіраў на роўненькія слядкі ад кляцоў… на сваю добрую працу… І быў тады шчаслівы, здаволены жыццём — жыццём аратая, бо ў тым была праўда жыцця… І думаў тады салодка аб лугвенеўскім кірмашы, пагуляць на якім меў права за сваю працу… Хто ж

гэта перамяніў яго, зрабіў яго іншым, адабраў у яго радасць і супакой і апаскудзіў яго? Чаго цяпер жыць? Адно… памерці! Але і думка пра смерць праходзіць безуважна… Усё на свеце нічога не варта… А бадай жа яно проклята было!

Хлопцы знайшлі Хомку, пацягнулі з сабою і ўпаілі нейкаю бурдою — мешанінаю гарэлкі з півам і салодкаю вадою. І ўсё рагаталі, рагаталі… А потым, пабраўшыся пад пашкі, а іншыя, абшчапіўшыся з дзяўчатамі, пабрылі з песнямі, і ўсё з рогатам, з дурным гоманам у сваё Асмолава.

Хомку валок Пятрок — і ўсю дарожачку строіў жарты з яго першага вялікага кірмашу, з яго першых заляцанняў да дзяўчыны і з таго адарванага абцаса. Ён выцягнуў абцас з Хомчынай кішэні, шпурляў яго далёка наперад па дарозе, станавіўся ракам, станавіў і Хомку так жа сама ракам — і абодва паўзлі па траве, курняўкаючы, як каты. Паўзлі да таго месца, дзе шпякнуўся абцас, знаходзілі яго, і Пятрок ізноў кідаў, і ізноў яны, п’яныя, вытвараліся катамі…

Хомку было ўсё ’дна. Тупое і цяжкое адурэнне пайшло на яго, прыціснула яго, згняло яго…

Ён пакараўся Петраку, ішоў, поўз, смяяўся, крычаў, і пяяў, і хацеў плакаць… І з такім жа тупым подзівам заўважаў патроху, што няма ўжо дзённай духаты, што ўжо распаўсюдзілася прыемная вечаровая прахалода і налягае змрок з цёмнаю начою…

## Парогі

### I

Выйшлі роднай вёскі дзеці
Паміраць на белым свеце,
Рассяваць па свеце косці
Праз кагосьці, за кагосьці.
Засталіся нівы, сёлы
На той сум-жаль невясёлы,
Засталіся, ой, сіроты
З горкім горам, з адзінотай.

*Янка Купала*[7]

Вайна заспела раптам: каго ў полі, каго на сенажаці, — і адгукнуліся на страшную навіну неяк легкадумна і вясёла. Запаснікі папакідалі косы, цалюткі вечар пілі і елі, быццам

вялікім святам, гаманілі дужа многа і абы-што, і ўсё з адбіткам незразумелай хваравітасці, быццам усіх схапіла трасца.

А рана-параненьку па ўсіх дарогах пацягнуліся ці вельмі гаманлівыя, ці зусім нямыя фурманкі з мужыкамі і жонкамі, братамі і сёстрамі, бацькамі і сынамі — на зборны пункт у горад.

Так пачалася тая страшная вайна, і ўва ўсіх тады была толькі адна пацеха: вайна, як пішуць, будзе вельмі кароткая, скончыцца яшчэ нават, можа, да зімы.

Ды вось была ўжо і зіма, ішлі бясконцыя наборы некрутаў, і запасных, і ратнікаў, за новыя і новыя гады, прыйшла вясна, другое лета, — і здавалася, канца гэтай нудзе не будзе…

Людзей паменшала, дзяўчаты пасмутнелі без хлапцоў і вясёлых кірмашоў, старыя ж былі ўсе раздражнёныя і цераз сілу ўстрыманыя, як перад споведдзю ў вялікі пост.

Тужлівасць і нуда запанавалі ў хатах. Зацяглая і безнадзейная вайна, як хмара, павісла кожнаму, і пад яе шэраю заслонаю не хапала даўнейшага сонейка і вясёлых яго кос.

Не давала рады прысілёная пабожнасць дзядоў і бабулек. У царкве было пуста на мужчынскім правым баку і засмучона на дзявочым левым. Не карціла цяпер і дзяўчатам хадзіць сюды: там цяпер кожнае свята адпраўлялі малебны за здароўе, а часам, і ўсё часцей, і паніхіды.

Дзяўчатам прыямней стала хадзіць у воласць і на пошту, дзе было можна хоць што-небудзь пачуць аб іхных судольніках даўнейшага жыцця.

Дзяўчаты мяталіся цяпер з лістамі, як бы ўсе яны былі пісьменныя… Але штораз, то горшыя прыходзілі навіны: гарадчаніна Хвядоса, што некалі разбурыў торг у Малкі, забіла дзесьці бомбаю з аэраплана. Петраку трохі пашчасціла, бо трапіў у палон здаровы (Аўдулю дражнілі векавухаю); пра многіх жа хлапцоў не было ніякіх вестак па цэлых месяцах — мусіць, яны былі ўжо забітыя.

Хомка цяпер рупліва спраўляў усю гаспадарскую работу: за сябе, за Петрака і за старога. Як забралі адзінага сына, стары на ўсё махнуў рукою, не дбаў аб гаспадарцы і здаўся на парабка. І Хомка чуў на сабе павіннасць дагледзець усё чыста, як сваё.

Яшчэ два гады аставалася да Хомчынага году, аж вось аднойчы ўвечары прыйшоў да ягонага гаспадара ўстрывожаны, аж пахудзелы, бацька і сказаў, што і Хомку запісалі.

Усе людзі наракалі на парадкі ў воласці: як можна гэтак памыліцца, каб запісаць хлапца раней на два наборы? Усе казалі, каб Юрка сам схадзіў у воласць.

— Як жа ж так? Яны самі павінны агледзіцца, нашто ж яны вучоныя? — жаліўся Юрка, цягнуў-цягнуў і ткі сабраўся неяк сходзіць.

— Усе ведаюць, пане пісар, — з не яго мяккасцю і ўпрослівасцю казаў Юрка, — усе ведаюць, калі радзіўся мой сын Хама…

— Ах, што мне да ўсіх? — адганяўся, як ад мухі, лысы пісар. — Ну, дзе ж ты быў дагэтуль? Памеціў бацюшка пад 1896 годам, дык што я вінават? Трэба ж было казаць! Во са спіскамі не ўпраўлюся, бадай яно трыкраты сацьмела на чыстым полі… Адкасніцеся вы, дзеля Бога, ад мае беднае галавы! Не лезьце ў канцылярыю, чакайце ў зборнай! — крычаў ён на ўсіх мужчын і баб агулам.

Калі Хомка пакідаў гаспадара, каб дні са два пажыць у бацькі, стары адпускаў яго не горш, як некалі выпраўляў свайго сына Петрака. Усё ён нагінаўся да подалу даўгой кашулі абціраць слёзы. Даў Хомцы сярэбраны рубель, пацалаваўся — і зараз маўкліва паплёўся на гумно трэсці салому. Безгаловая малеча дапільнавала дзеда, што ён там немаведама і з кім брахаўся, крычаў, як баба, біў саху мятлою. Малеча кінулася ад гумна ўцякаць, каб з радасцю пераказаць у хатах, што дзед, мусіць, здзяцініўся. Але маткі не патуралі іхным навінам, прыстрашылі іх матузамі і, самі невясёлыя, маўчалі.

Два дні прагуляў Хомка ў сваёй хаце. Маці спрагла яму яечню, наўмысля для яго, і Хомцы было надта сорамна, што яму такая чэсць. Ён падзяліў яечню на сем роўных частак: як сабе, так і бацькам, і меншым брацíткам і сястрычкам. Пакаштаваў трошку — і аддаў і сваю частку малой Тацянцы.

Начаваць ён пайшоў у сяніцу, на свежым сене, пад бацькавым кажухом.

А ўжо звечара надвор'е пачало хмарыцца; курыў і пыліў дожджык.

Хомку не спалася. Дождж аднастайна, ціха і прыемна, безупынку шуршэў па страсе, зрэдку пыхала нядужая бліскаўка, і шугаў рабінаю вецер. Вада сцякала цурочкамі і бурбоніла ў падстаўленую маткаю даёнку. І Хомка слухаў, слухаў — і думаў.

Ён меўся абмеркаваць усё з усіх бакоў, усё ўцяміць, што і як… І сам не ведаў: жаль яму ці не?

І толькі лезлі ў галаву ўспаміны, як раней здалося б радасцю не весці ў такую хлюпу гаспадаровых коні на начлег у поле, а ляжаць пад стрэшкаю на сухім сянцы, акрыўшыся цёплым

кажухом, і пад гоман дажджавых капак думаць, што наша доля яшчэ не дужа дрэнная.

І вось ён у бацькоў; дзеля яго праглі яечню, як для дарослага і паўнапраўнага; ён слухаў сабе спакойна, лежачы ў сухім, як ідзе дождж… Але даўнейшай радасці зусім няма.

Ён цяпер прыбярэцца ў прыгожую «форму», штодня, як кажуць, будзе есці любовае мяса, убачыць вялікія гарады, шмат усякіх паноў з іхнымі штукамі, убачыць трамвай і электрычнасць. Ды нейкае «ўсё роўна» ахоплівае думку… Няма цікавасці. «Усё роўна» ахоплівае думку аб сваім хатнім, дарагім і любым, ды як падумаць — жалкім і ўбогім. «Усё роўна» звязана і з будучыняй — невядомай, страшнай, а цяпер неяк і мала ўжо цікавай.

Калі ж Хомку выпраўлялі, надвор'е і дарога папсаваліся ўканец, было гразка і сцюдзёна. З неба то лілося як з вядра, то сыпаўся дожджык, дробненькі, як пыл. «На добрую долю вяшчуе», — сказаў нехта аб пагодзе Хомчынай маці, але маці яшчэ болей засмуцілася.

А за гаем, ужо на ростанях сустрэлі мокрага настаўніка. Спыніліся. І настаўнік цалаваўся з усімі хлопцамі і з Хомкам. Ён упусціў заплаканыя непагаддзю акуляры з рук у лужу, і Хомка падняў іх яму. Усе глядзелі сёння ўбок, і настаўнік глядзеў таксама ўбок, міма Хомчыных воч. Можа, ад жалю, а можа, дзеля свае няўзоркасці.

Паехалі. Пабрыў у школу настаўнік, паставіўшы каўнер ад дажджу, а яны паехалі.

Домна галасіла на цэлае Асмолава, і гэтае матчына выццё гучэла Хомцы ўвушшу, як нешта непатрэбнае і прыкрае, да самага горада. Не выходзілі з галавы Нупрэіхіны словы: «І Хомачку бяруць — саўсім пісклёнка. Ці здолеець ён стрэльбу, бедненькі, насіць…»

Казарма і муштра заглушылі тое выццё і тыя словы. Ат, што! Тут жа было ў сто рэдзь горай, чымся ў батраках. Кормяць горш, як гаспадар Курту; заўсёды нечага не хопіць: порцыі мяса ці кашы. Спаць хочацца незвычайна. Цела ные і свярбіць, як бы што па ім беспярэч глабаецца. Палаці, або нары, — нязручныя і брудныя. Цесна — у невялічкім бараку дзвесце з гакам чалавек. «Восьмая рота, літара Б, барак № 29», — мармыча сабе Хомка. Асмолава — як сон. Не імецца веры, што было яно ў яго жыцці. Яно балюча прыходзіць у галаву толькі тады, калі заможным таварышам прысылаюць з дому грошы і пасылкі. Хомка нікому не шле лістоў, і яму ніхто не шле. Шыбка пісаць ён не ўмее, а

лежачы на палацях, упоцемку, пісаць — дужа нязручна і марудная справа.

І думак не збярэш, калі навокала гыркаюць: не так сеў, не так крутнуўся, не так адказаў. А гэтыя жудасныя, на кожным кроку, зняважанні маткі крояць сэрца. Здавалася, ніхто не разумее, не спачувае. Аднак, нешта аднаго разу, навабранец другога ўзводу, нязграбны, сутулаваты і з тварам у рабацці яўрэй з Дуброўны, што некалі прыязджаў у Асмолава скупліваць яйкі і баравікі, екатліва закрычаў у адказ аддзялённаму: «Мая маці не сучка!» — загуў і выскачыў з строю. Хомка ўцяміў, што ён не адзінокі ў сваіх думках. Хлопчык-прапаршчык, сам ужо добра заўчоны на тую лаянку, пры гэткім выпадку пачырванеў і засумяціўся, а Хомка здаволена зразумеў, на чыёй старане праўда.

Дні здаваліся тыднямі, тыдні — месяцамі, а калі адбілі ў полк тэлеграму з Рыгі, здавалася, працёк адзін дзень — даўжэнны, але парожні. Хомка з таварышамі ўсцешыўся, што паедуць на пазіцыю, — было цікава, хоць троху і страшнавата. Увечары ішлі яны ў новенькіх, з пахам дзёгцю ботах, у шынялях з пахам молі ці больніцы, ішлі з песняю па мокрай брукаванай вуліцы, і было надта дзіўна, што вуліца мае звычайны выгляд — снуюцца экіпажы і хапаюцца пешаходы, як быццам то маршавая рота на пагулянцы, а не ідзе на вайну. Усю ноч гармідэрылі на вакзале, а ў золак пад іграннe палкавога аркестра цягнік пайшоў. Камандзірша ў жоўценькіх гладзенькіх скураных пярчатачках махала беленькаю насатачкаю; нейкая цётка ў стаптаных лапцях, прыпаўшы на плячо збялелай маладусе, раўла і смаркалася, а з цяплушкі няслося «ўра», шматкі прыпевак і зык гармоніка. Міналася спусцелае поле і голыя гайкі, і мільгалі на спатканне тэлеграфныя слупы. Міма надта адлеглых хатак плыло бліжэйшае, зважаючы на сябе Хомчыны вочы…

І так паехалі.

## II

> Вазьмі, маці, пяску жменю,
> Пасей, маці, на каменю:
> Як прыжджэшся пяску ўсходу, —
> Тады верне сын з паходу…
>
> *З народнай песні*

На трэці дзень прыехалі на глухую невядомую платформу з незразумелаю назваю і чарапковымі дахамі на будынках.

Вёрст пяць ішлі па шашы да баронскага двору, дзе знаходзіўся штаб корпусу. Там пасілкаваліся. Выходзіў корпусны і прамаўляў да іх, кусаючы канцы жаўтава-сівых вусоў. Ён віншаваў іх, што малайцамі прыехалі на фронт, і жадаў ім стойка бараніць веру, цара і ацечаства…

Потым ізноў некуды пацягнуліся, і ноч мінулася ў дарозе, сярод вялізнай цёмнай пушчы. Збіваліся ў каўдобінах, з'язджалі па коўзкіх убочынах дарогі ў глыбокую канаву. Там-сям у лесе цьмелі чырвоныя вогнішчы, акамянелі прыкручаныя вуздзечкамі да дрэў казачыя конікі, цямнеліся фурманкі, кухні. Хомка знямогся і ледзь пераступаў нагамі. На прывалах ён валіўся на памоклае лісцё, як забіты, і каб не ласкава-насмешлівы покрык і лёгкі выспятак таварышаў, ён бы не ўзняўся. Хомка меўся абмеркаваць усё з усіх бакоў, усё ўцяміць, што і як, што і як… жаль яму ці не? І толькі лезлі ў галаву ўспаміны, здавалася вялікім шчасцем, як некалі ляжаў на начлезе пад густою елкаю, калі буйны дождж шамацеў у яе лапах… Цяпер хатыль і амуніцыю да нуднага болю гнялі яго. І толькі халадок рання крыху ўзбадрыў. Развіднелася. У шэрай імгле паветра чулася глухое дрыжачае гудзенне матора. «Аэраплан! Аэраплан!» — пракінулася па радах. Задраліся галовы. «У хлябу і то каланіца яго носіць», — прабурчэў нехта. Хомка насілу згледзеў у небе плямку самалёта і падумаў: «Во падзівіліся б асмолаўскія бабы і дзяўчаты на такую штучку — не далі б веры». Пад абед дайшлі да штабу палка, дзе іх аглядаў палкоўнік і таксама павіншаваў, што нарэшце дабраліся да яго, і прамовіў сур'ёзна: «Ну, хлопцы, покуль што ў нас заціш, а скора, скора будзе гарачая справа… прывыкайце!»

Пачалася гарачая справа раней, чым тое думаў сам палкоўнік.

Яшчэ новенькія воіны не агледзеліся ў акопах і бліндажах, начальства не ведала іхных іменняў. Толькі Шпака прыкмеціў фельдфебель, звярнуўшы ўвагу на яго мізэрны выгляд, і спытаўся:

— Ты з хахлоў?

— Не, — адказаў высіленым голасам Хомка на начальніцкую блізкасць і меў ад свайго ўзводнага дакор, што трэба казаць: «Нікак нет!» — і не забывацца на вайсковую навуку. Рыхтаваўся Хомка дадаць: «Магілеўські», ды яны ўжо пакінулі яго.

Ён улез у нізенькую, цесную зямлянку, прытуліўся ў куточку на зямлю і, адпачываючы, зусім шчыра і здаволена падумаў: «Казалі, што будзе дужа дрэнна… А тут як пад асеццю: і цёпла, і прытульна, ні ветру, ні дажджу…»

Ён задрамаў, але, нягледзячы на зморанасць ува ўсім целе, ніяк не мог заснуць глыбока.

Бясконцаю і хваравітаю чаргою заварушыліся не то ўспаміны, не то сненні…

* * *

Зіма. Досвіткі. Авечкі трэба рэзаць…

З лучынкаю пад гарцам ці ў гарлачы, каб вецер не згасіў, ідуць па двары ў пуню. Чорна… У хляве карова стаіць і жуе жвачку. Авечкі ляжаць грудком ля сценкі. Вось адна жуе саломку, шыбка ўбіраючы яе смешным ротам. Павярнула галоўку на святло. Вочы блішчаць, як у таго ката ў цямноце, як быццам у іх гарыць крывава-бліскучае святло. Трэба лавіць: расставіўшы рукі, трэба хапаць за бакі, за воўну… Уцякаюць… Шурай іх! Злавілі. Б’ецца ў руках, ірвецца… Вядуць, ушчаміўшы шыю праміж ног. Ці ведае-то яна, што на смерць вядуць? У хаце тупае капыткамі па масту, бляе. Дзеці прачынаюцца. Яны хочуць глядзець, а на іх крычаць, і яны лезуць на печ, дзе можна ляжаць на цёпленькім і глядзець, як будуць рэзаць. Нож нагостраны. Карытца падстаўляе матка пад шыю. «Бяры за пярэднія ногі», — трывожна кажа бацька. Адагнуў галаву авечцы крута назад… Адхінаецца на печы Хомачка: цяпер глядзець няможна… І ўжо трапечацца зарэзаная бацькам авечка слабей-слабей… Ледзь-ледзь… Пусцілі: асвяжылася авечка. Галава з парэзанай глыбока шыяй адхіснулася, ногі дубеюць, выцягнуліся. Бацька стаіць з закасанымі рукавамі, з нажом, абпэцканым у кроў. І пальцы ў яго ў крыві — як які душагуб, нават насупіўся і сапе носам.

Узяў за нагу, за капыток, і абрэзаў скурку колцам, як хлопчык абразае кару на лазіне, знімаючы дудку. І другую ножку так, і ўсе ножкі. Потым закасаў на нагах скурачку. Мяса белае… Прасадзілі палку ў заднія ногі пад жылы, прывязалі вяроўку да палкі, закінулі на курчыну і пачалі цягнуць. Падцягнулі авечку за ногі высока, галавою крываваю ўніз, — вышэй, ніжэй, каб зручней лупіць. Прывязалі. Галава баўтаецца і крывяніць. Бацька падперазаўся матчыным фартухом і разразае скурку па бруху ад шыі аж да хваста. Потым падсаджвае ножыкам, пальцамі і кулакамі паміж скуркі і мяса. І скурка ўсё болей адлупліваецца, як адсачалая кара вясною. Тады яна зрабілася смешная — аблупленая авечка.

Яшчэ ж трэба патрашыць… Маці падстаўляе ночвы…

— А-я-я! Акотная! — лямантуе бацька.

— Як жа гэта ашукаліся? — дзівіцца маці.

Бацька дастае з нейкім пузыром разам і выкладае на зямлю, дужа асцярожненька, парачку слізенькіх ягнятак. У іх чорная, прыгожая, як у паноў на каўнярах, кароценькая, курчавая шэрстачка. І дужа вялікія, буйныя галоўкі. Разглядаюць іх, і бацька кажа:

— Бараны былі б… не шкода!

* * *

— Што вы, братцы, разляглiся спаць, як бараны? Жыцця не шкода? — кажа трывожным голасам узводны, будзячы і выганяючы ўсіх людзей з зямлянкі. — У госці вы прыйшлі, ці што? Бяжы хутчэй у акопы… Немец наступае!

Быў ужо вечар, было цёмна.

Затукалі недзе з бакоў кулямёты, і пачалі бухаць гарматы.

Загудзела ў паветры; першая граната з страшным трэскам, глушачы ўсё, разарвалася ў драцяной загарадзі, раскінуўшы подалек камы зямлі.

У Хомкі затыхала сэрца, ён машынальна прысеў і прытуліўся ля бойніцы. «Нічога, нічога, браткі! — казаў з мімавольнаю пярэрваю ў голасе ротны. — Будзем адбіваць атаку, не бойцеся, дасць Бог, прывыкнеце… Нічога, нічога…» Чорнабароды туляк бурчэў, калі ротны троху адышоўся: «Табе нічога, нічога, як у цябе ў Расіі, можа, маёнтак ёсць, а ў мяне — што? Галодная баба і пяцёра малых». Ніхто не падтрымаў тульскага, ніхто не асудзіў, а ўзводны зусім не ўзлаваўся, а толькі буркнуў: «А, брэшаш, не ведаючы: наш ротны сам з мужыкоў». — «Пасля вайны нарэжуць зямлі», — сказаў другі. «Нарэжуць тры аршыны, можа, каму яшчэ сёння», — не маўчаў тульскі, адварочваючы ўвагу ад страшэннай кананады.

Яшчэ некалькі снарадаў, адзін па адным, вухнуліся блізка за акопамі. Хомка адхіснуўся ў куток і зрабіў крыж дрыжачаю рукою, трасучыся ў гнятучым чаканні.

З глухім гулам ляціць яшчэ. І на момант раптам усё змоўкла. «Міма, міма!» — здавалася ўвушшу. А грымотны крэх захістаў бярозы і зямлю, задрыжэлі і пасыпаліся зямлёю акопы, калаціліся і тыхалі рукі і ногі, а тады знямелі. Хомка прыціснуўся, прытуліўся, а нешта балюча таўханула яго ў жывот. «Што гэта такое?» — падумаў ён, спалоханы. Яго ўкінула ў пот, замлявіла, бажалася вады. Прамільгнуў воблік маткі, Ганукі,

завіляла хвастом Курта. Ён трапіў у глыбокі сумёт, праваліўся ў снег — і ўсё глыбей… А ўзлаваны гарадчанін шпурляе і шпурляе ў яго больнымі крамянымі снежкамі. «За што? — са слязьмі і так ціха, што не чуваць і сабе самому, пытаецца Хомка, — за што?!» — шэпча ён усё цішэй. І глыбокая, распачлівая крыўда кроіць яму сэрца.

Жах абняў хлопчыка, і ён валіцца наскрозьдоння, глыбей і глыбей. Высока, хто ведае дзе, крычыць на краі фельдфебель: «Насілкі!»

І змоўкла ўсё, няма нідзе ані гуку.

— Нашто тут насілкі? — кажа ротны. — Ён забіт. Падбірайце толькі раненых!

У чорнай імгле блішчаць, іскрацца гострыя іголкі, тупеюць, знікаюць і зліваюцца ў нішто…

*[1917–1930]*

# ДАКУМЕНТАЛЬНА-МАСТАЦКІЯ ТВОРЫ

## НА ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЕ
*(Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы)*

### Лагер

Тэрмін службы для вальнапісаных пачынаўся ў расійскім войску 1 ліпеня. Дык у самым канцы чэрвеня 1914 года ехаў я ў бязлюдным вагоне трэцяга класа па знямелых ад пякоты і пылу і такіх убогіх жмудскіх палях у N-скую артылерыйскую брыгаду, што кватаравала ў глухім і невядомым мястэчку недалёчка ад нямецкае граніцы.

Запякло на сэрцы, калі цягнік падходзіў да станцыі нуднай, быццам тая ўжо казарма. Вакол — жоўтыя, голыя пустыры. Усё заліта нуднаю гарачынёю. Усё соннае, пыльнае, ціхае. Выхадзі — як на пакуту.

Але ў пустых і засмечаных казармах, у цёмным і непрыветным канцылярскім пакоі даведаўся я толькі ад сухога і цьмянага чарнавусага кашчэя-пісара, што мог сюды я і не ехаць: брыгада была ў лагеры, у суседняй губерні, вёрст за сто адгэтуль.

— Чаму ты не ехаў проста туды?

— Куды мяне паслалі, туды я і прыехаў, — адказаў я кашчэю са злосцю, што ён гаворыць мне «ты» і што такія ў іх парадкі.

Кашчэй толькі ўсміхнуўся, ціха загадаў другому пісару: — Напішы яму пасведчанне да лагеру, а білет хай купіць на свой кошт…

— Чаму так? — не ўмоўчаў я.

— Таму, што па прыказу цябе ў нашай брыгадзе яшчэ няма… Спаганяй з свайго вайсковага начальніка.

Усё тут было па-казённаму груба і неахайна. Толькі адно акно трошку адчынілі, а там прыемна, па-жывому шавяліў шырокім зялёным лісцем густы клён. І ў мяне супроць розуму з’явілася жалкая, дзяціная пацеха, што хоць жа троху, да лагеру, пабуду яшчэ на волі. Узваліў скрыначку на плечы і ізноў пацягнуўся на станцыю.

У лагер я прыехаў познаю і цёмнаю начою. Начаваў у канцылярскіх сенцах, на вузенькай лаўцы, што сядзець. Было вузка, мулка і сцюдзёна, а на сэрцы — страшэнна брыдка. Не супакойвала наўмысная пакора і цярплівасць.

Гоман і шум у лагеры пачаўся дужа рана. Але я паспеў і ўстаць, і пахадзіць, і пасядзець, і з’есці кавалак драчоны і колькі медунічак — і ўсё яшчэ доўга-доўга мусіў чакаць. Сядзеў на канцылярскім ганачку, на сонцы, — быццам спаў без жывых думак, без усяго.

Аж прыйшоў-ткі фельдфебель, высокі рыжаваты дзяціна, гадоў пад трыццаць, і з маленькімі і рэдкімі залатымі вусікамі. Узяў мае паперы, сказаў пісару запісаць. Гаворачы, ён клаў два пальцы на ніжнюю лупу, мачыў іх, бздрынкнуўшы па ёй, і падкручваў залатыя вусікі. На мяне стараўся не глядзець.

Раптам недалёка ад канцылярыі пачуўся шум і голас. Разлягласяя дужая каманда-крык: «Смірна-а-а!» Гэта ішоў камандзір батарэі ў канцылярыю. І ў канцылярыі ўсе заварушыліся як ашпараныя. Фельдфебель крыкнуў:

— Устаць! Смірна-а!

Усе ўскочылі, выцягнуліся, скамянелі. Паказаўся высокі і быццам задуманы афіцэр, з вусамі і падстрыжанаю бародкаю.

— Здарова, братцы! — сказаў ён ціхавата і вугнава.

— Здраў-жлаў, ва-скродзь!!! — вякнулі ўсе на ўсю сілу і як адзін.

Фельдфебель, як чытаючы па кніжцы, злажыў рапарт і сказаў пра мяне. Камандзір з нейкаю няласкаю ці пагардаю павёў галавою ў мой бок.

— Здраўствуй!

— Здраўствуйце!

Ува ўсіх прабег смех, а ў фельдфебеля і прыкрасць. Хоць я быў яшчэ ў вольнай адзежы, для іх такі адказ камандзіру быў смешан і дзік.

— Ты праваслаўны?

— Праваслаўны.

— Абстрыгчы і выдаць абмундараванне! — прамармытаў ён, ужо не гледзячы на мяне.

— Слухаю, ва-скродзь! — крыкнуў фельдфебель, і абодва пайшлі з канцылярыі ў абход. У канцылярыі ўсе павесялелі і загаманілі.

Змясцілі мяне ў адной палатцы з другім вальнапісаным, на прозвішча Шалапутаў, нейкім шапялявым і, відаць, дурнаватым юнкерам, прысланым у батарэю з вайсковае школы ці то за благія ўчынкі, ці то за няздольнасць у навуках. І на пачатку мае службы найгорш мне было цярпець яго размовы і манеры, жывучы з ім разам у адной цесненькай палатцы. Вечна ён або жор, як у якую прорву, так у свой вялікі лантух, каўбасу з салам і сітны хлеб з батарэйнае крамкі, або малоў усякую лухту. Вось аднойчы гострыць ён галяк скрабсці сваю тлустую і ўсю ў чырвона-чарвівых скулачках шыю; неяк умеў гэта рабіць: сам сабе галіў шыю, нават намыльваў і нават без люстра. Я ляжаў на койцы і чытаў вайсковы статут. Касалапы, потны, падходзіць ён на сваіх кароткіх нагах-тумбах, круціць нада мною нагостраны галяк і шапялявіць:

— Які шысты халяк! Гляджыча, шэры: халяк на яч!

«На яць» — было ў яго ўлюбёным выразам, а «шэрым» ён зваў мяне як навабранца.

Не ўгледзеўся я ў яго пальцы-абрубачкі з уціснутымі і вывернутымі кіпцікамі, як галяк скаўзануў з іх мне на грудзі ля самае шыі.

Калі я пярэчыў яму ў чым-небудзь, ён казаў без усякага жарту: «Вы яшчэ шэры, а я стары юнкер і ваш старшы». — «Ну і што?» — «А тое, што вы не салдат, а індык, бо вы ўсё нешта думаеце, як індык… Чорт вас ведае, аб чым вы ўсё думаеце». Калі я купляў яму каўбасу і сітны хлеб, ён рабіўся ветлівейшы, менш лаяўся, бо я гэтага не любіў, і даваў мне рады: «Кідайце, калега, сваё інтэлігенцтва! Ведаеце, што з інтэлігента салдат, як з гразі куля». Лаяўся ён ціха, але так паскудна, што я думаў — ніхто больш у брыгадзе гэтак не ўмее. Аднак я памыліўся. На другі ці на трэці дзень пачулі мы крык на галоўнай дарожцы перад палаткамі. Выбягаем… Маленькі, з чырвоным носікам, але з вялікімі і разлеглымі бурымі вусілямі, фарсісты афіцэр страшэнна лае салдата нашае батарэі. А лае такімі брыдкімі словамі і так іх камбінуе, што куды там дурному Шалапутаву… Салдат стаіць, выцягнуўшыся ў струнку, і маўчыць — маўчыць, як анямеўшы, толькі тарэшчыць вочы і цягнецца яшчэ болей.

Пытаюся ў Шалапутава: «Хто гэты паршывы афіцэр? Няўжо з нашае батарэі?» Шалапутаў паглядзеў на мяне з гневам, а тады са смакам адказаў, што гэта — камандзір адной батарэі нашае брыгады падпалкоўнік Гноеў, найлепшы афіцэр у брыгадзе і «шырокая руская натура».

Мне было прыемна, што хоць камандзір нашае батарэі не любіць лаяцца. Наогул, мне адразу кінулася ў вочы, што ён нечым выдзяляецца спаміж афіцэраў. З выгляду ён быў высокі і плячысты мужчына, злёгку пахілены, яшчэ малады, але з вусамі і барадою, падобна як на партрэтах у цара — «каб і з выгляду быць падобным да свайго імператара», як вытлумачыў мне Шалапутаў, мусіць, са слоў нейкага афіцэра. Але вочы ў яго — глыбокія і тужлівыя. Відаць, чалавек з нездаровымі нервамі, дужа дражлівы. Я думаў, што, мусіць, ён пагарджае людзьмі — і салдатамі і афіцэрамі, — але сэрца ў яго баліць, ён заўсёды аб нечым тужыць, нешта яго турбуе без адчэпкі. І я заўважыў, што ўся батарэя дужа яго баіцца, але што цішком з яго ўсе пасміхаюцца. Чуў я пра яго дзівоты: вялікай набожнасці, драбязлівай прывязнасці да парадку і ахайнасці. Казалі, што ён дужа пасварыўся з адным афіцэрам за тое, што той паклаў на яго ложак сваю шапку і газету.

6 ліпеня — першае свята, як я быў у лагеры, — усіх пагналі ў лагерную царкву. З людзей, незанятых дзяжурствам, толькі я адзін сядзеў у палатцы; балазе ніхто мне нічога не сказаў, дык я і не пайшоў. Камандзір з Хітруновым (гэткае прозвішча было фельдфебеля) абходзіў палаткі і пачуў мой кашаль.

— А гэта хто там такі?! — грозна спытаўся ён у фельдфебеля.

— Новы вальнапісаны, васкродзь! — вінавата адказаў Хітруноў.

— Чаму ён не ў царкве?!

— Не магу ведаць, васкродзь, — ухіліўся ад праўдзівага адказу Хітруноў, а каб яшчэ лепей вывернуцца, дадаў двухзначна: — Не захацеў пайсці…

Можна было зразумець і так, што мяне пасылалі, ды я спрацівіўся і не пайшоў.

— Як яшчэ «не захацеў»?! — гняўліва і ў злосці крыкнуў камандзір. — Чаму вы не па-сла-лі яго?.. Вымаўляю вам, фельдфебель! — крыкнуў і шпарка засігаў даўгімі нагамі далей.

Мне было дужа прыкра і цяжка. Я сядзеў тады ў палатцы, як паняволены, і баяўся яго крыку. Але ён мяне не зачапіў, а накрычаў за хітрыкі на Хітрунова — і я адчуў, што пры ўсёй сваёй нервовасці ён умее думаць і разбірацца.

Затое другім разам зрабіў ён са мною нечаканую для мяне штуку… Раніца пачалася дужа добрым надвор'ем, а потым стала горача і парна, а перад абедам пайшлі па небе дажджовыя хмары, адразу пахаладнела. Я сядзеў у палатцы і пісаў ліст. Аж прыбягае адзін наш батарэец і кажа, каб я зараз бег у арудзійны парк, бо камандзір мяне кліча. Мяне?!. Здзіўлены, я схапіўся бегчы, выскачыў не апрануўшыся, а дождж вось-вось хлыне. З парку разыходзіліся ўсе салдаты, толькі пры адной гармаце двое нешта рабілі, і над імі стаяў камандзір. Я пабег, і ён сказаў мне: «Стой тут». Я стаяў і глядзеў, нічога не разумеючы, што яны там робяць, і чакаў дажджу. Зараз дождж і пайшоў, і буйны… Тады камандзір загадаў салдатам апрануцца (шынялі іх ляжалі тут жа), а сам не апрануўся і мякнуў на дажджы, хоць тут жа на пяску ляжала і яго накідка. Мяне ў адной летняй гімнасцёрцы за хвілінку прамачыла наскрозь, а я ўсё мусіў стаяць, — камандзір нават не паглядзеў на мяне. Нарэшце ён адпусціў іх, ускінуў на руку накідку — і пайшоў сабе моўчкі з парку, ізноў жа нічога мне не сказаўшы. Тады — што ж мне стаяць? — паплёўся за ім следам, троху астаўшыся, і я, і па дарозе стараўся дадумацца, навошта ён мяне вымачыў і навошта сам без патрэбы мокнуў, калі і накідка ляжала…

— Бягом!! — знянацку аглянуўся і крыкнуў ён на мяне. — Бягом!.. Прастудзіцца хочаш?! — І столькі ж было дражлівасці і хваравітага злавання ў яго словах.

Я пабег, смешны сам сабе і дужа пакрыўджаны.

І так блізу два тыдні жыў я ў лагеры, як астрожнік. З лагеру мяне нікуды не пускалі, а па лагеры я і сам хадзіць баяўся, пакуль не ўмеў аддаваць чэсці афіцэрам. Я завучваў на памяць прозвішчы ўсіх сваіх начальнікаў, ад вайсковага міністра да ўзводнага і аддзялённага. Чытаў нялюбыя мне статуты вайсковае службы. Сотні раз станавіўся «ўва фрунт» перад бярозавым калом замест начальніка, сотні раз «казыраў» — і ўсё было яшчэ нядобра, усё яшчэ не ўмеў.

У палатцы днём было душна і пыльна; ліплі, як злыя чэрці, конскія мухі. Начою было сцюдзёна і непакойна: увесь час на вадапоі ці на стайні хто-небудзь стукаў, бразгаў, крычаў на коні, лаяўся. Паднімалі ўсіх а пятай гадзіне раніцы, і выспацца было немагчыма.

Толькі яда была не дужа дрэнная, прынамсі, не горшая, чым у звычайнага, сярэдняга гаспадара ў нашай вёсцы. Адно што — мусіць, у цэлым свеце не было больш неахайных салдатаў, як у нашай батарэі (так мне тады думалася). І я еў з усімі разам, але

не з агульнага баку, а з свае асобнае місачкі, як елі і некаторыя салдаты татары і яўрэі дзеля сваіх рэлігійных звычаяў. Бакаў ніколі не мылі; добра, калі хоць абдавалі перад ядою сцюдзёнаю вадою з калодзежа. З аднаго баку елі і варыва і кашу. Лыжкі толькі аблізвалі і насілі іх за халявамі ў ботах, пры потных анучах.

Час праходзіў ад каманды да каманды. Я хадзіў на малітвы і цягнуў з хрыпаватымі басамі і тэнарамі «Отча наш…» або «Спасі, Госпадзі, людзі Твоя…» — цягнуў ці маўчаў і горка пасміхаўся. Хадзіў у парк глядзець, як робяць гімнастыку ці вальтыжыроўку, хадзіў на абед і на вячэру, піў з Шалапутавым гарбату і ўсё дзівіўся на яго сабачую жарлівасць — так многа паядаў ён каўбасы і сітнага хлеба! — вучыўся аддаваць чэсць і чытаў нудныя статуты. І так жыў. І так, можна сказаць, жылі тут усе.

Увесь час мне было цяжка на сэрцы. Лісты ні з дому, ні адкуль не прыходзілі, і ад гэтага мне было яшчэ болей цяжка.

Газет, як прыехаў, я і ў вочы ні разу не бачыў. Я ўжо не ведаў, каторы я тут дзень і які цяпер дзень: можа, субота, можа, пятніца…

Я са страхам думаў, што мушу так жыць цэлых два гады*. Мне шкода было загубленага часу, загубленых маладых сіл. І калі па вечарах у пяхотнай частцы лагеру прыгожа і вясёла іграла вайсковая музыка, мяне так хапала нуда за сэрца, што слёзы мімаволі накручваліся на вачах. Я пачынаў нервавацца.

## Пачатак

13 ліпеня, якраз у нядзелю, гадзіне а чацвёртай раніцы, калі мы яшчэ спалі, да мяне скрозь сон даляцела дужая каманда: — Абамунічвай!

Першы крыкнуў фельдфебель Хітруноў, а потым паняслося ад дзяжурнага да дзяжурнага, ад палаткі да палаткі:

— Абамунічвай! Абамуні-і-ічвай!

Шалапутаў выскачыў з палаткі ў адной кашулі — даведацца, што такое, і вярнуўся збянтэжаны, не ведаючы, жартуюць з ім ці кажуць праўду.

— «Гарох» кажа, што вайна… — прамармытаў ён, спалоханы.

---

* Звычайныя салдаты служылі на цэлы год болей, і я пайшоў вальнапісаным, каб скараціць гэты тэрмін.

«Гарохамі» салдаты завуць звыштэрмінова служачых, укладаючы ў гэтую мянушку шмат знявагі да ахвотнікаў цягнуць вайсковы хамут за казённы гарох. Шалапутаў назваў цяпер так фельдфебеля Хітрунова, і гэта было знакам дужа папсаванага гумару, бо зазвычай у іх былі жартаўліва-прыязныя адносіны.

— Вайна? Адкуль? Якая? Мусіць, нейкае непаразуменне, — праўдзіва быў здзіўлены і я, але зараз прыпомніў сабе словы свайго віленскага знаёмага, вядомага беларускага дзеяча Я. Л., які яшчэ год таму назад казаў з пэўнасцю, што вайна будзе не пазней, як цераз год-два.

Шалапутаў не размаўляў, крактаў і злосна брынкаў банькамі* і шашкаю.

Калі мы выбеглі, уся батарэя збіралася на галоўнай дарожцы перад палаткамі. Адзін па адным падыходзілі афіцэры, якіх я дагэтуль і не бачыў, а цераз хвілін пяць, як усе пастроіліся, прыйшоў і камандзір батарэі. Прыняўшы ад дзяжурнага рапарт і паздароўкаўшыся з батарэяй, ён паглядзеў на выстраеных маўклівых людзей, памаўчаў, а потым сказаў сваім троху вугнавым, але гучным камандзірскім голасам:

— Вось, братцы! Прокляты наш вораг — Нямеччына захацела пакрыўдзіць адзінаверную з намі, рускімі, невялічкую Сербію. Але наш бацюшка-цар гэтага не дапусціць… Мы першыя не пачнем, але калі Нямеччына палезе, мы разаб’ём ёй морду ў квас. Яна, пархатая, зажырэла, бо ўжо сорак год не ваявала. Дык мы ёй пакажам! А пакуль што, братцы, трэба пераехаць на зімовыя кватэры, каб быць бліжэй да ворага. Н-ну, р-расходзісь!

Вось дык навіна!..

Адны маўчалі, задумаліся, другія з выгляду павесялелі, зашумелі. Але ўсё гэта было толькі звонку… А што рабілася ў сэрцы кожнага?

Я спачатку не мог сабраць думак, уцяміць усяе важнасці пачутага, але неяк мімаволі ўсцешыўся, што не трэба мне будзе цягнуць астрожнае жыццё цэлых два гады, што жыццё пойдзе ўжо цікавейшае, што я трапіў у кашу лоўка…

Потым стаў сам сябе сароміць за гэткія думкі: быццам я радуюся вайне.

І сорамна прызнацца, але мне хацелася, каб яна была, каб прыйшла нейкая перамена.

Я задумаўся і над прамоваю камандзіра. Няўжо ж можна намовіць салдата ісці на вайну з уздымам пачуцця, каб бараніць

* Шпорамі.

нейкую Сербію? «Адзінаверную», калі яна далёка не для ўсіх нашых батарэйцаў адзінаверная, бо ёсць мусульмане, іудзеі, каталікі. І якія непрыгожыя словы «зажырэла», «пархатая», «морду ў квас», што я нават і не чакаў ад нашага камандзіра.

Захацелася пісаць лісты дамоў і знаёмым. Сеў пісаць — і не пішацца. Лепей пачакаць яшчэ троху, пакуль справа не зробіцца святлейшаю.

Ну і трапіў у завіруху!

Цэлы той дзень і палову другога дня мы складваліся, пакаваліся, пераязджалі на станцыю і разам з другімі вайсковымі часткамі лагеру — пяхотай, артылерыяй, сапёрамі — грузіліся, суяцімiліся, куламесіліся…

Цалюсенькую ноч гарэлі вогнішчы, гаманілі і крычалі людзі, тарахцелі фурманкі, порскалі коні, а па-над усім гэтым нудна-дражліва галасілі ў ядраным паветры зорнай ночкі свісткі цягнікоў.

Я пасабляў пакаваць канцылярыю, начаваў на даўгой дашчатай скрынцы з батарэйнымі паперамі. Пісары, Беленькі і нейкія мне незнаёмыя салдаты-«арыстакраты» пілі ў баковачцы гарэлку, елі мяса з гурком і сітным хлебам і гневаліся, што я не іду ў іхнюю кампанію, а лёг спаць. Яны гаманілі ўвесь час пра вайну, пілі і елі як перад вайною, нічога сабе не шкадуючы.

Доўга ў лагеры стучэла, гручэла, ляскала жалеззем, часам чулася салдацкая песня — і ўсё гэта да познай ночы, аж пакуль я не заснуў, і начою, калі будзіўся ад гоману і свае нутраное трывогі.

Эшалон наш пайшоў на другі дзень а пятай гадзіне па абедзе.

Я быў рад, што еду, — куды, усё роўна, абы еду… Цікаўней жа наглядаць, што тут творыцца навокал, чым сядзець у тым лагеры-астрозе.

Ужо з вагона, перад адходам цягніка, я бачыў, як паміж усялякага громазду, наваленага адпраўляць, там, дзе было троху вальнейшае месца, перад вакзальным будынкам прахаджвалася пара. Ён — стромкі, харошы афіцэр, з дужа крывою шабляю, што валачылася па зямлі, яшчэ зусім маладзенькі. Яна — тож маладая, ды грубенькая, мусіць, цяжарная, пані, уся чырвонаружовенькая і з вопраткі, і з твару. Ён усё ёй нешта казаў і казаў, нахіляючыся да яе галоўкі і ізноў ідучы проста, у задуме, а яна ўзяла з яго рук хлысцік, маўчала, сціскала хлысцік і, здаецца, плакала ціхімі слязьмі. Так мне зрабілася іх шкода, хоць і не любіў я афіцэраў і паноў. Тут — шчырае каханне і разлука…

А нашы батарэйныя «гарохі» бегалі заклапочаныя, хаваючы цяжкія думкі, бегалі, насіліся, рассаджвалі па забітых усякімі скрынкамі і сёдламі вагонах сваіх жонак і дзяцей, падавалі ім у рукі свой спакаваны скарб, а рабілі ўсё так, як панскія слугі, лёкаі: каб не дужа каму кідалася ў вочы. І брыдка, і жаласна было глядзець на іх бацькоўскі клопат у паднявольных людзей, і шкода было бедных «гарохавых» дзяцей.

Вольныя людзі прапускалі нас на станцыях як на вайну. Апраненыя бедна жанчыны выносілі вёдры вады, бегалі па колькі раз, не шкадуючы турбацыі, каб толькі мы ўсе напіліся. Беленькія паненкі, калі такія, што гаманілі па-расійску ці па-яўрэйску, а не па-польску, кідалі нам у вагоны краскі, а як цягнік адыходзіў, махалі хустачкамі і крычалі нешта вясёлае.

Начою ў вагоне пісары нашы і з пару «гарохаў» ізноў пілі гарэлку — быццам бы гарбату, з кацялкоў, — але ў вайну ўжо не мелі веры, казалі, што вайны напэўна не будзе, і шкадавалі, што без пары скончыўся лагер. Страшэнна лаялі за гэта як немцаў, так і сербаў.

А газет я так і не мог нідзе дастаць.

Прыехалі мы на другі дзень раніцаю. Цяпер ужо я станцыю не разглядаў, і яна не была нудная, апаленая сонцам… Пачалося выкладанне рэчаў, пераезд і ў казармы, і ў склады, і ў арудзійны парк. А быў пыл, а бруд, а лаянка! Куды ні сунься — крыкі, громазд, куламеса…

На мяне ўсе забыліся, і я быў рад, што магу не лезці ў вочы без патрэбы.

Кінуў я ўвесь клопат і пайшоў на бераг Нёмну. Шчыпаў там у кустах арэхі, знайшоў колькі ягадзінак, спозненых сунічак, любаваўся з высокага берагу на прыгожую Нёмнаву вадзіцу. Было тут ціха і супакойна — і не хацелася ні аб чым думаць.

Па абедзе загадалі мне схадзіць у акалодак — больніцу для хворых салдат — на медыцынскі агляд, што бывае кожнаму навапрыбыламу ў батарэі.

Ідучы туды, я разважаў, як малое дзіця: «А вось знойдуць у мяне якую-небудзь загану ў грудзёх — і забракуюць… Паеду назад! Якое шчасце!»

Там я доўга чакаў у невялікім пакоі, дзе на жалезных ложках, на голых сенніках і на падушках з сена, без посцілак і наўлачак, ляжала чалавек пяць нядужых. Пад ложкамі валяліся кінутыя боты і ўсякія транты, а на шафках, што служылі і заместа столікаў, я ўбачыў у адной кучы і шапку, і пояс, і кубак піць, і пляшачкі з лякарствамі. Мухі так ліплі; рамы былі падвойныя,

з дужа пыльнымі шыбамі, і яны ляцелі адтуль, абнялі крошачкі цукру, садзіліся хворым на нос і ў вочы. Хворыя ляжалі моўчкі, заплюшчыўшы вочы, — спалі, ці што.

Жаль агарнуў мяне.

Недзе пабегаўшы, з’явіўся салдат-прыслужнік. Ён ні слова не сказаў мне, прыткнуўся на табурэтку, дастаў з кішэні пушачку ад ваксы, дзе меў махорку, і стаў круціць цыгарку. Круціў і пяяў сабе пад нос з самым тупым выглядам:

Ціпер жа нада мною
Та-аварішчы сміютца-а-а…
Зачэм жэ ты мне ча-а-айнік пріпая-я-ала?..

Потым курыў, а курачы, мыском боту пароў у ражку бліжэйшага сенніка… Пільна разглядаў, як сыплецца адтуль дробная, пацёртая саломка. Курыў доўга, а дакурыўшы, паклаў недакурачак на падлогу, напляваў на яго, старанна лучаючы, і расцёр падэшваю аж да чорных шнуроў на брудным цэменце. Тады крыкнуў:

— Сурай, а Сурай! Перавярніся ты на другі бок: зараз камісія прыйдзе аглядаць цябе.

Хворы татарчук скасіў мутныя, пачырванелыя вочы на шырокім, замшэлым ад валосся твары, кінуў у наш бок безуважны погляд, нічога не прамовіў і з трудам лёг на другі бок.

Другі хворы, даўгі і сохлы, збялелы насмерць, нечакана злез з ложка і на маёй роднай мове сказаў прыслужніку:

— Мулка… І пасунь ты сюды…

Ён паказаў, каб пасунулі ложак. Гэта, відаць, былі яго хворыя верадаванні. Ужо насілу стаяў, узяўшыся за край століка; ногі ў яго дрыжэлі.

Прыслужнік слухмяна ўзбіў сяннік, нарабіўшы пылу, тады страсануў убогую салдацкую коўдру, пасунуў дзеля віду ложак, пасобіў яму легчы і ласкава пакрыў яго коўдраю. Калі ўсё ізноў сціхла, прыслужнік падміргнуў мне, ухмыльнуўся і даволі голасна шапнуў:

— Во каму вайна не страшна…

Я нічога не адказаў і горкі жаль яшчэ гаршы ахапіў мяне.

Аж нарэшце прыйшоў фельчар — лысы, рыжавусы і з мяжджэрыстым, але добрым тварам немалады салдат. Першым чынам ён накрычаў на прыслужніка:

— Якога чорта, самдзеле, ты нічога тут не робіш? Прыбраў бы хоць троху… Бяры мятлу, мяці!

Потым запісаў мяне ў больнічную кнігу і сказаў мне:

— Ну і ўсё. Можаце ісці.

Ніякага мне агляду так і не было. Я ішоў назад збянтэжаны і ў брыдкім настроі.

## Мост

16 ліпеня ўвечары батарэя наша (гарматы і частка страявых людзей) выехала на пазіцыю: вартаваць ад нямецкіх аэрапланаў чыгуначны мост на Нёмне, вярсты за дзве ад казармаў.

У казармах не спынялася незвычайнае безгалоўе, не было дзе прытуліцца, і я выпрасіўся на пазіцыю.

Першы раз начаваў я з батарэяю ў полі. Але начаваць было добра, бо мы, тэлефаністы, паставілі сабе нанач маленькую будачку-палатку.

Я дзяжурыў пры тэлефоне і заснуў з тэлефоннаю трубкаю ў руцэ. Спаў… прахапіўся раптам: нехта дыргануў ад мяне апарат! Я спалохаўся, што ён сцягне апарат, і кінуўся бегчы шукаць… Бег, бег… дзе ж парваўся дрот? Быў я ў шынялі, з рэвальверам і кінжалам на паясе; цераз плячо вісела скураная каліта з прыладамі звязваць дрот і абкручваць яго ізаліроўкаю. Я замарыўся — і балазе ўгрэўся, бо спаць было трошку сцюдзёнавата.

Як ішоў ціха назад — агледзеўся. Месяц. Ядрана. Туман у доле. Шуміць цягнік. Машына: пых-пых! пых-пых! пых-пых! А колы грымяць: гру-ру-ру! гру-ру-ру! гру-ру-ру!.. Хораша! Супакой і хараство агарнулі мяне. Варта жыць на свеце!

Потым я ізноў лёг і смачна спаў, без усякіх перашкод і без трывогі ў сэрцы.

Прачнуўся дужа рана і быў рад добраму надвор'ю і харошай відалі, што раскінулася далёка вакол пазіцыі. Батарэя стаяла на высокай горцы. За ганей трое відаць быў жалезны мост на Нёмне, які мы вартавалі. На вялікай узгоркаватай раўніне — хутаркі, дарогі, Нёман, тырчэла вярхамі дамоў і высокімі касцельнымі вежамі мясцечка. Ад Нёмна ўгару, па равах і курганах — лес, лес, далёка, аж пакуль яго зялёная каёмка не ахоплівае ўсю відаль.

Тым часам ліха на свеце расло, і мы штодзень даведваліся што-што новенькае, што гнала думку ад навакольнага хараства ў зусім другі бок.

У той жа дзень, 17 ліпеня, па абедзе прыйшоў з батарэі пасланец і прынёс нам навіну, што абвешчана мабілізацыя.

Дзяжурыў якраз паручнік Пупскі — кароценькі, шчарбаты, насмешлівы і злы, самы нялюбы афіцэр у батарэі. Ён скамандаваў нам усім: «Сюды! Бягом!» Мы збегліся, і ён сказаў прамову аб мабілізацыі — з уласцівым яму чарнасоценным духам. Але салдаты мала чаго зразумелі з яго слоў.

— Дык мы на Сербію? — спытаўся адзін зусім ужо пaдурному.

— Не на Сербію, а на Берлін пойдзем! — не дужа здзівіўся на гэткую няцямлівасць паручнік Пупскі.

— Куды ж гэта, ваша благародзіе?

— На нямецкую сталіцу… разумееш ты, шляпа?

А той аж засмяяўся, што паручнік злаяў яго так па-вайскоўаму ласкава: шляпа!

18-га ліпеня пачаўся пабор запасных, і Гірша Беленькі, які цяпер таксама быў тэлефаністам, пераказваў мне па тэлефоне з наглядальнага пункту ля мясцечка, што ён там чуе і бачыць. «Братачка! За Нёманам у мясцечку бабы плачуць, запасных прапускаюць. Першага ўзялі а пятай гадзіне раніцы. Жонка адарвацца не магла, людзі адарвалі…» — «Дрэнна!» — «Дрэнна, братачка! Але нічога! Цяпер, відаць, лягчэй пайшло: міма мяне многа запасных едзе ў павет на мабілізацыю, дык смяюцца, шапкамі мне махаюць.., Ах, братачка, жывём?» — «Жывём!» — крычу і я яму ў тэлефон. І чую, смяецца ён, — смяюся і я. Беленькі з выгляду зусім не беленькі, а рыжы і незвычайна вяснушчаты. Галава, твар, нос, вочы — усё ў яго круглае і рыжа-вяснушчатае, але ўсё яно ў яго заўсёды смяецца, мілае і сімпатычнае. Беленькі любіць жартаваць і дружыць. Ён першы больш за ўсіх спадабаўся мне ў батарэі.

Потым прыехаў на дзяжурства капітан Смірноў — ціхі, спакойны і, здаецца, добры чалавек і начальнік. Ён дужа сціплы з выгляду, сярэдняга росту, сярэдняе моцы мужчына, непрыкметны, з тварам, якіх многа, з падстрыжанаю бародкаю, з шэрымі вачмі. Першым чынам ён загадаў схадзіць на дзве змены ў лес і насячы там хвоек, каб замаскаваць нашу пазіцыю, бо ўжо можна чакаць у госці нямецкіх летуноў. І я думаў: так проста і так патрэбна — захаваць гарматы на высокай горцы ад вока ворага… А дагэтуль не было зроблена, і ні Пупскаму, ні падпаручніку Іванову, якія дагэтуль дзяжурылі, і ў галаў, мусіць, тое не прыйшло. І чаму, напрыклад, я і сам не дадумаўся, што робяць падобныя хаванкі?

Падпаручнік Іваноў — сыценькі, ружовенькі, як панскі парсючок. Ён быў прыкамандзіраваны ў нашу батарэю з пяхоты, і

гэтая акалічнасць чамусьці абніжала яго афіцэрскую вартасць у вачах нашых батарэйцаў. Ён не знаў у твар усіх салдатаў батарэі; убачыўшы мяне першы раз, ён спытаўся:

— Што ж *ты* гэткі беленькі?

— Не магу ведаць, ваша благародзіе! — адказаў я, усхапіўшыся і аддаўшы чэсць, і быў рад, што выйшла гэта ў мяне зусім добра, як у праўдзівага салдата. А мой бліжэйшы начальнік, старшы тэлефаніст Лапцеў, пасміхнуўшыся, сказаў:

— *Яны* ў нас новы вальнапісаны, вашблагродзь!

Падпаручнік пачырванеў-пачырванеў…

— А-а… Чаму ж *вам* не нашыюць шнуркоў вальнапісанага?

(А я хадзіў без гэтых шнуркоў, бо нідзе іх няможна было дастаць пакуль што.) Мне было тады смешна, што ён пачырванеў.

19-га ліпеня было адно цікавае здарэнне… Прыехала наша кухня, мы паабедалі, я сядзеў пры тэлефоне і любаваўся на шырокі прастор. Вольныя салдаты распаўзліся хто куды. Пупскі лёг спаць. У гэты час па полі гулялі месцячковы ксёндз і яго госць — клерык. З цікавасці яны зусім блізка падышлі да батарэі. Дзяжурны салдат крыкам адагнаў іх. Яны павярнуліся і пайшлі назад, але старшы феерверкер, кастраміч Сакалоў, загадаў дагнаць іх і прывесці на батарэю. Узбудзілі Пупскага, і ён, нездаволены, што патурбавалі, прыспаны і ўзлаваны, выйшаў з палаткі.

— Дзе шпіёны? — наўмысля крыкнуў ён.

Падвялі абодвух, спалоханых, збялелых, у чорных ксяндзоўскіх сутанах. Ксёндз быў кароценькі, грубенькі, ён здзеў перад Пупскім капялюш, і галава ў яго была круглая, чорная, з выгаленым кружком на макушцы. Ён, збіваючыся, казаў нешта перарваным ад хвалявання і абурэння голасам з дужа выразным літоўскім акцэнтам. А клерык, худы, даўгатвары і белавалосы, маўчаў і тарэшчыў свае галубыя літоўскія вочы з балючым выглядам. Паручнік нібыта і слухаць не хацеў, што яны там кажуць, стаў здзекавацца, што іх, як нямецкіх шпегаў, расстрэляць, а пакуль што ім прыйдзецца пачакаць тут з гадзінку, а потым іх павядуць да каменданта ў брыгаду. Бедныя духоўныя асобы ад нечаканае бяды і прыкрасці зусім апалі духам… Аж вось з'явіліся вызваляць іх сяляне з хутару.

— Гэта ж наш ксёндз-пробашч… Вось і дом іхны, і сенажатка, і сад… Іх і земскі ведае, і іспраўнік…

Пастрашыўшы, пакпіўшы, Пупскі міласціва дазволіў ксяндзам «вынасіць свае галовы» (так і сказаў!). Яны закланяліся, а ён зарагатаў, салдаты старанна падхапілі рогат начальніка.

— За вамі цяпер будуць сачыць! — крыкнуў ім наўздагон паручнік…

Белы высокі клерык прымушана аглянуўся і прыўзняў капялюш, потым нешта пачаў казаць ксяндзу, мусіць, каб той павесялеў, а той ішоў, утупіўшы вочы ў зямлю, і, відаць, з вялікаю скрухаю маўчаў.

— На граніцы сямёх ксяндзоў ужо павесілі, — збрахаў Пупскі салдатам, хоць бы ўсміхнуўся, і пайшоў у палатку.

Салдаты, што прыходзілі на батарэю з казармаў, казалі, які ласкавы зрабіўся цяпер Хітруноў. Адзін салдацік, не ведаю прозвішча, нават паказаў, як цяпер «круціць хвастом» Хітруноў. Ён прасунуў скручаны канец шыняля скрозь ногі назад і прайшоўся, круцячы ім і ўдаючы Хітрунова (бздрынкаў пальцамі па ніжняй губе і падкручваў вусікі). Гэты ж салдацік казаў, што Хітруноў цяпер стане трошку воддаль і слухае, пра што гамоняць салдаты. Я зразумеў, што Хітруноў баіцца, што на вайне яго могуць забіць свае ж салдаты за розныя крыўды.

Мяне гэта здзівіла, бо мне здавалася, што Хітруноў досыць добра абходзіцца з салдатамі, самі салдаты не раз казалі пра яго, што ён нічога сабе чалавек… Дык чаго ж яму баяцца?

Пра старшага пісара казалі, што надта «завайстрыўся»: схуд, вочы запалі, нос выцягнуўся — баіцца вайны.

У казармах, казалі яны, ідзе абмундзіраванне, даюць усё новенькае шэра-зялёнага колеру. Даюць і новыя боты — і нашы тэлефаністы вельмі шкадавалі, што ў мясцечку не хочуць плаціць і пятай долі «мірнай» цаны. Але, кажуць, салдатаў на таргу — поўна!

* * *

Начою 19–20 ліпеня Нямеччына абвесціла вайну Расіі… Дачакаліся. А то ўсё яшчэ ішло як бы жартам. Дык вось — цяпер я на вайне! Заб'юць? Лепей не думаць…

Увечары 19-га наша змена пайшла ў казармы на абмундзіраванне. З намі ішоў Шалапутаў. Ён прыходзіў на батарэю па нейкай справе да паручніка Пупскага; хваліўся, што нават піў з ім у палатцы гарбату. На пустой вуліцы ў цямноце ён крыкнуў нейкаму месцячковаму чалавеку:

— Пан! Дай прыкурыць… — і ў дадатак злаяў таго бруднай расійскай лаянкаю.

Я сказаў голасна і дрыжача ад злосці:

— Хуліган! Не чапайце вольных людзей…

Праўда, мы з ім троху засталіся, дык другія салдаты маглі не пачуць, што я так сказаў яму. Шалапутаў знарок нядбайна і быццам уважаючы мае словы за жарт, буркнуў на мяне:

— Шляпа вы, а не салдат.

Але я пачуў, што цяпер я перастаў ужо быць з ім «шляпаю», хоць у мяне аж і ногі дрыжэлі ад злосці…

Быўшы ў казармах, перагледзеў я сваю маёмасць, пералістаў свае кніжачкі… Эх, і навошта я вёз іх столькі сюды? Усё гэта цяпер згіне, як згіну, можа, і я сам, ва славу… на славу… чаго? Вызваленне «малых» народаў? А ці вызваліцца мой народ? Што яму дасць гэтая вайна? Лепей не думаць…

Заходзіў на пошту; ніякіх пасылак не прымаюць. Лісты прынялі, але чамусьці сказалі, што і за дастаўку заказных цяпер не ручаюцца. А здаецца ж, цягнікі ходзяць так, як і раней, — дык чаму ж гэта яны так кажуць?

У мясцечку бачыў многа запасных. І ўсё болей іх прыганяюць.

— Шкандальны запас… Чы пан ест поляк? — спытаўся ў мяне крамнік, мусіць, абпалячаны жмогус, калі я купляў у яго паперу і гаварыў з ім па-беларуску.

— А што? — адказаў я сцюдзёным пытаннем.

— Ніц, прошэн пана… Тшэба модліць-сен Пану Езусу!

І праўда: ужо ўсё мясцечка моліцца, вохкае, стогне — і шалёна спекулюе салдацкімі ботамі, лахманамі і чым «Пан Езус» паслаў.

На гэтым мнагалюддзі я пачуў сябе ў вялікай адзіноце. Думкі мае памкнуліся дамоў да родных. Што там цяпер? Ільля (пішу 20-га ліпеня), свята, кірмаш. Тут я зусім забыўся, што Ільля, а некалі на гэтага самага Ільлю колькі было кірмашовае ўцехі! Не, цяпер трывога і там. Плачуць бедныя людзі. Што гэта будзе, што гэта будзе? Не ведаю, што будзе, і ніхто не ведае.

Перад самым ад'ездам з пазіцыі я ўбачыў яшчэ аднаго афіцэра нашае батарэі, штабс-капітана Дамброўскага. Дагэтуль ён быў дзесь у камандзіроўцы, купляў коні для батарэі, ці што. Здаровы, круглы; твар у яго дужа грубы і дужа чырвоны, вочы заплыўшы салам; гаворыць ён па-панску: сё-сё-сё… Шалапутаў сказаў мне пра яго, што гэта — «абруселы літоўскі паляк магаметанскае рэлігіі». Часам і Шалапутаў лоўка скажа.

Дамброўскі прывёз нам навіны: «Нашы ў Нямеччыне на 50 вёрст… Немцы аж стогнуць… Пасланнік нямецкі, як абвяшчаў вайну ў Пецярбурзе, дрыжэў, аж калаціўся… Дрыжэла папера ў яго руках… Вержбалова і Эйдкунен спалены… Казакам дазволілі рабіць што хочуць, дык яны там!.. Японія забрала Кяо-Чао. Англія з флотам плыве да нашых берагоў, нам на падмогу… Наш конны полк падарваў мост… Дзесь злавілі нямецкага шпега…»

Не шкадаваў навін жыццярадасны пан Дамброўскі, але троху, мусіць, падсыпаў дзеля храбрасці.

— Пасля заўтрага і мы ўжо будзем у Прусіі[1]! — з радасцю, вясёлы, гаманлівы, пацешыў ён нас.

У казармы прыехалі ўвечары.

Тут я пачуў ад Шалапутава, што Франц-Язэп, ад неспакою ў гэткай старасці, сканаў… «Бедны дзядуля!» — пашкадаваў шляхетны юнкер нябожчыка, шляхетнага імператара. А хадзіў ён у гэты час з даўжэразным вожыгам вакол вогнішча, на якім гарэлі кнігі з батарэйнага архіву. Паварушваў абгарэлыя пачкі і важна сапеў — асветлены з аднаго боку, цёмны з другога.

Вячэралі мы ў цямноце, пад асіннікам, што рос пры казармах. Гоман людзей, порсканне коні…

Ужо і казакоў многа прыехала. Пасля вячэры я ўбачыў колькіх і ў нашай казарме: у госці к батарэйцам прыйшлі. Яны прыгожыя людзі, але вялікія брахуны: паважненька вярзуць усякую лухту і лепей, як пан Дамброўскі, бо з жартамі. Спадзяюцца перавярнуць дагары нагамі ўсю Германію. Віхрастыя, з чырвонымі лампасамі, досыць рослыя, самавітыя.

Многа прыгналі і запаснікаў — барадатых гаспадарлівых людзей. Яны паважныя, маўклівыя.

Усе і ўсё перамяшалася ў казарме…

Потым — сон. Салдаты і ляжаць, і ходзяць, лаюцца, крычаць, пішуць на невялічкай шафцы-століку лісты пры адной закапцелай лямпачцы (на ўвесь аграмадны пакой). І няможна было заснуць — будзяць бесперастанку, шукаючы тых, каму ісці ў нарад, на дзяжурства. Крыкі і лаянка.

Яшчэ два дні і дзве ночы прайшлі ў такім жа вэрхале і гармідары.

Шумныя, але пустыя і нудныя для мяне дні!

# Дзённік

*24 ліпеня.*

Выехалі з мясцечка. У паход, на граніцу. Перад тым — малебен. Прамова папа і генерала. Афіцэры ўсе перацалаваліся. Салдаты крычалі «ўра». Я маўчаў.

*25 ліпеня.*

Едзем. Адзін ездавы трапіў пад кола гарматы і зламаў нагу. Кажуць — наўмысна. А што, каб і мне так? — думаю.

Камандзір аддаў загад, каб мы, тэлефаністы, стаялі з сваімі двухколкамі і чакалі. Стаім ля саду. Вісяць над галавою вішні. Прыбягае паручнік Пупскі. «Чаму не адпрагаеце?» — «Камандзір не загадалі, ваша благародзіе!» — «Што вы… дзетачкі? Адпрагаць!» І аблаяў астатнімі словамі, а чорт ведае за што.

*27 ліпеня.*

Два дні робім акопы. Я бачу ўсё гэта першы раз у жыцці. Памагаю, але нясмела. Камандзір заўважыў — і аблаяў мяне.

*28 ліпеня.*

Акопы… Учора памыўся дажджавою вадою, што нацякло занач на брызенты на двухколцы. Сёння зусім не мыўся. Варочаемся ўсю ноч, як сабакі, пад гэтымі брызентамі. Украінец Яхімчык, новы наш запасны, кажа так: «У мэнэ собака… Я ёму будку іздэлаю…»

*29 ліпеня.*

У мяне ўкралі каробку кансерваў. Думаю на Яхімчыка, але маўчу. А ён моліцца Богу, адвярнуўшыся на садок, на вішні.

*30 ліпеня.*

Няма часу. Робім акопы.

*1 жніўня.*

Выехалі. Праехалі Сімна, Красняны. Прывал. Абедаем. Сяляне-жмогусы раздавалі сала і хлеб. Я саромеўся падысці. Вельмі шкадую. З'еў тое, што даў Пякельны, і пайшоў купляць, але не прадалі.

Увечары на прывале Лабкоў палез на вішню. Камандзір пабачыў у акно і выскачыў з хаты. «У морду цябе біць? У паходзе першае: абываценя не крыўдзі!..» І трах! трах! яго то з таго боку, то з другога. Мне казалі, што камандзір наш б'ецца, ды я не меў веры. Бачу. Нервовы ён: зазлаваўся, аж пена забіла з вуснаў.

Мы даўно стаім, а хвост нашае калоны ўсё яшчэ цягнецца міма нас на прывал да розных хутароў. Пяхоты — без ліку. Як яны змарыліся! Балазе я ў артылерыі.

*2 жніўня.*

Выступілі ў 7½ раніцы. На дарозе, выстраіўшыся ў калону, чакалі нечага аж да 9½. А падняліся — па загаду а 6-й, а сапраўды яшчэ раней. Хто гэтаму вінават? Начальнік калоны? Дрэнна…

*3 жніўня.*

У паходзе. Недалёчка граніца. На небе пачынае хмарыцца. Прывал. Даўгая шэрая стужка, расцягнутая па дарозе на колькі вёрст, села на зямлю. Проціў шэрсці гэтай стужцы, ціснучыся з другога боку дарогі, пляцецца нямецкая калымажка з паркаю рыжанькіх стрыжаных коні. Кіруе рыжавусы, збялелы, як палатно, немчык у чорным, хатняга вырабу гарнітуры, у сіняй камізэльцы з доўгім радам бліскучых гузікаў. Побач з ім сядзіць грузны пехацінец-канваір, паставіўшы стрэльбу прыкладам паміж ног. Наш камандзір прапускае калымажку зырка, пытліва і троху пагардліва. Немчык дужа просіць канваіра, каб дазволіў застанавіцца. Той дабрадушна пасміхаецца і не пярэчыць. Немчык вылятае з калымажкі і кідаецца к камандзіру.

— Ваша дзіцтва!! — ловіць ён камандзірскую руку з зямлі, з каленяў, каб пацалаваць.

— Пшоў! — з нейкай зларадаснай нялюбасцю да немцаў вугнавіць горда падпалкоўнік і, адхінуўшыся, задуманы пазірае цераз нашыя галовы ў няведамыя далі.

Падыходзіць артылерыйскі кандыдат і пытаецца ў немчыка па-нямецку. Той зноў ахопліваецца надзеяй і з жалкім агнём у вачах гаворыць, гаворыць, збіваецца і ізноў гаворыць…

— Я не шпіён… Я рускі, хоць і немец… Рускі немец… Не хачу расстрэліцца. Ехаў толькі да касцёла…

Дрыжачымі рукамі дастае з калымажкі, з сена, вялікі румяны яблык і дае кандыдату. Яблык валіцца на зямлю, у пыл… Яго ловяць колькі рук, а гэтым часам салдацюга-кастраміч вокае:

— Попался-то! А кговоріл: нашы вашых-то как мух подавят…

— Зямляк! Ці я гэта казаў?!

— Па ко-онях! — разлягаецца каманда, і кучка рассыпаецца ад калымажкі, шэрая стужка-змяя варушыцца далей…

Неба хмарыцца. Прывал блізка Эйдкунена (Вержбалова, Кібарты). Відаць пажар. Пайшоў дождж. Ізноў вязуць таго немца. Сагнуўся, збедніўся і пакорна кіруе коньмі. Па баках — два

салдаты з вінтоўкамі! «Яго могуць павесіць!» — сказаў нехта з начальнікаў.

Дзесь далёка як бы страляюць?.. Казакі гоняць нямецкую скаціну. Яны хваляцца: «Па нас кулі ум-ум-ум! Старыя немцы просяць, а мы не кідаем, гонім». Падпаручнік Іваноў з прыемнасцю і патураннем у вачах слухае казакоў і глядзіць на гладкіх, чыстых нямецкіх кароў з вялізарным вымем.

— Ты, брат, не рыкай тут у нас! — сказаў на неспакойную карову і пачырванеў.

Следам за казакамі бягуць нейкіх два кані без сёдлаў. Аднаго, добрага, каня з-пад забітага нямецкага афіцэра казакі вядуць на повадзе з сабою. Вось яшчэ казакі — гоняць бараноў і бычка. Рабаваты, віхрасты казак падганяе бычка бізуном. Бычок задзірае галаву і раве благім матам. «Ён чуе незнаёмы гоман… Да непарадку не звычны», — жаласліва ўзіраецца на яго запасны барадаты пехацінец.

— Бу-у-ух!! — першы гарматны стрэл.

Усе троху вясёла, троху трывожна азіраюцца. Усім цікаўна. Пачынаецца нейкая нервовая беганіна. Тэлефонныя двухколкі заязджаюць за хутар. На падворку лямантуе баба-хутарчыха. Стаіць, без каня яшчэ, вялікі воз, бегае заклапочаны гаспадар-жмогус. Зараз яны паедуць у тыл, уцякуць. Вержбалова нам не відаць, але дым сцелецца адтуль у наш бок. Горад запалілі немцы або казакі. Часам выбіваецца полымя. Дожджык сціх, і ледзьва відаць, як сыплецца марасіца. Гаспадар выязджае. Цямнее. Вечар. Ноч. Неспакойнае чаканне.

## Роў

*4 жніўня.*

Добра, пагода, светла…

Ля хаты ардынарац Селязнёў падаваў камандзіру каня і нечым не дагадзіў. Камандзір тыцнуў яму ў грудзі кулаком і нервовым голасам крыкнуў: «Ёлуп!»

Капітан Смірноў кажа малодшым афіцэрам: «Дарма ноч не спалі… Вораг спалохаўся і ўцёк».

Ранне робіцца яшчэ прыгажэйшае. Зараз будзем выязджаць далей у дарогу. А начою быў страшэнны холад, на небе ззялі зоркі. Я начаваў у пуні, на ячменных снапах, пакалоўся асцюлькамі, спаў мала і трывожна.

Відаць, пойдзем у наступленне за граніцу, бо афіцэры кажуць нам, каб нічога нямецкага не елі: можа быць атручанае.

Дзесь далёка-далёка чуваць гарматныя стрэлы. Страляюць, мабыць, немцы. Перад намі на сінюсенькім краі неба хораша расплываюцца дымныя клубочкі: ірвуцца шрапнелі. Настрой падвышаецца.

Праскакаў міма нас казацкі генерал-маёр. «Гэта распуста! Тут плетухаецца гэты абоз!» — крыкнуў на ўсім скаку. А дзе гэты абоз — хто яго ведае…

Паехалі і мы.

Едзем паціху, часта спыняемся. Уздоўж усяе дарогі пяхотны ардынарац бегае, шукае нейкага батальённага.

Мы сталі з боку дарогі. Міма нас ідзе пяхота — без концу, без концу… Я ўзлез на двухколку, падняўся, паглядзеў. Штыкі, як шчэць бліскучая, даўгой змяёю ўкрылі ўсю дарогу. Там далей, наперадзе, зварочваюць убок, на поле, сыплюцца ротамі, узводамі…

Цюхае на малой кабылцы той шуканы батальённы, несамавіты пяхотны служака. Глядзіць у планы. Шрапнелі паказаліся значна бліжэй — цяпер відаць, што нямецкія. Дык зараз бой, бой!..

Недзе з бакоў патроху тахаюць вінтоўкі.

Вось першы кулямёт: тук-тук-тук-тук!

«Наш, — кажа мімаезны казак, — нямецкі б’е часцей».

Раптам — наша каманда, і батарэя рухава зварухнулася і з дарогі мякка пакацілася па чорнай раллі да нейкіх кустоў. Прымчаліся к глыбачэннаму і яшчэ болей шырокаму рову. Гэта граніца: з аднаго боку стоўп з расійскім арлом і табліцаю «Расея», з другога — з нямецкім арлом і табліцаю «Нямеччына». З’ехалі ўніз, на зялёную тэрасу. Батарэя строіцца ў баявы парадак…

1 гадзіна 15 мінут дня, зараз будзем паліць «па наступаючым праціўніку»…

Як тут зацішна і прыгожа на ўлонні ў прыроды: лог, травы, кусты, ручай. Берагі рову хаваюць нас ад вока з бакоў, над намі сіняе жнівеньскае неба. Але зараз — бой! Таварышам маім, тэлефаністам, прыкра, што я ў такі момант запісваю ў сваю кніжку. Не лайцеся, чорт вас дзяры!

* * *

*5 жніўня, ранне.*

Ізноў ранне, ізноў дзень… Мы наступілі і адступілі. Крыўда і здзіўленне. Ах, як ірваліся снарады па баках таго рову! Раненыя пехацінцы паўзлі а паўзлі з кустоў к ручаю. «Паганая вайна!» — з

адчаем стогне адзін. «Чаму? Што ты?» — пытаецца другі з абпэцканаю ў кроў шапкаю. «Як жа, калі наша артылерыя з левага флангу палажыла сваіх казакоў і пяхоту». — «Няпраўда… Не кажы так», — сцішаў яго наш артылерыст.

Батарэя, пастраляўшы з рову, пераязджала потым на другую пазіцыю. Няслася па нямецкай зямлі наўскачка. Я бег, бег — і застаўся. Цагляныя хаты і будынкі нямецкіх хутароў, брукаваныя, абсаджаныя дрэвамі дарогі, напісы на ростанях кінуліся мне ў вочы як нешта дзіўнае, панскае. Бягу шыбчэй: збоку ад дарогі рвуцца чорным смярдзючым дымам гранаты. Спярша я не чуў страху. Джжж!!! — над самым вухам асколак. Тады я надта спужаўся, упацеў, ногі саслаблі. Прытуліўся ў канаўцы. Заўважыў у траве курапатку. Узяў яе ў рукі, бо яна не ўцякала. Сэрца яе тукае на ўсю сілу, воле цяжкое, бы камень. Здалёк прабеглі два зайчыкі. А высака-высака круціўся бусел і нічога не баяўся. Я знайшоў батарэю, калі страляніна сціхла. Ніхто не ведаў, што я быў застаўся; думалі, што я ўвесь час быў з усімі разам. Калі я сказаў, агледзеліся, што няма яшчэ двух тэлефаністаў. Неўзабаве батарэя знялася з гэтае пазіцыі, выехала на дарогу і пацягнулася назад, на граніцу. Паказалася ля нас разбітая маленькая рота; я думаў: адзін узвод. Людзі засмучоныя, змораныя, запэцканыя. Доўга-доўга едзем назад, але ўсё яшчэ па нямецкай зямлі, — мусіць, убок куды-небудзь. Не, во той гранічны роў. Знаёмы пераезд. Ізноў у Расіі. Лягчэй зрабілася на сэрцы. Але што гэта: незадача? Адступаем?

«Тады лічыць мы сталі раны…»[2] У нашай батарэі ўсе цэлы, толькі адзін конь падбіт — яго павялі ў роў прыстраліць. Шкада яго, як чалавека. У другіх батарэях ёсць забітыя і раненыя.

Быў позны вечар, калі мы вярнуліся на ранейшую стаянку. Гаспадар вярнуўся таксама. «Хай заб'юць усіх, нікуды не выеду», — бурчыць гэты ўпорчывы жмогус.

Афіцэры ўжо вячэраюць. «Дай каньяку!» — чуем мы скрозь акно іхную гутарку. «Калі ласка», — адказвае капітан Смірноў; потым нездаволена некаму даводзіць: «Няможна ж без патрэбы пасылаць людзей на смерць». Голасу камандзіра не чутно; ён, пэўна, маўчыць і думае сам сабе.

Вячэра наша… Порцый не хапіла. Запаснікі бурчаць, абураны. Галодны Яхімчык злосна калоціць па рэбрах свайго тэлефоннага каня і ўспамінае на прыстрэленага: «Такій гарный буў коняка, а ты… шоб ты околіў!»

Ізноў начлег на ячменных асцюльках. Сцюдзёна было страшэнна. Устаўшы яшчэ ўдосвета, я калаціўся, як у трасцы; зубы: тр-тр-тр…

Балазе ізноў вось сонейка, цеплыня, светла, прыгожа. Напіўся гарбаты і пішу. Учорашні дзень, наш першы бой — як ува сне, як у тумане.

Думкі ляцяць дамоў, да родных. А перад боем я сніў сон… Нейкія столікі, палаткі, людзі, падводы, коні. Мама крышыць мяса — дробнае, чырвонае, сырое — і з гурком. І я хачу адысці ўбок і купіць ёй гуркоў. Не купіў… Не купіў дзеля свае прост недараванае неадважнасці. Мама кажа некаму: «Хваліць Бога, прыждала ўжо і я помачы ад дзетак». А мне сорамна-сорамна і жаль-жаль. Паводле нашых народных забабонаў, сніць сырое мяса і гуркі — дужа дрэнны знак. І я думаю: як незразумела сплятаецца ў чалавеку гэтая спадчына вякоў, перажыванні многіх пакаленняў.

*5 жніўня па абедзе.*

Абедалі хапаўшыся і зараз выступілі, каля першае гадзіны, у паход. З намі і першая батарэя ідзе разам. Сонца паліць — дождж будзе. Ідзём у Нямеччыну ізноў па той жа самай дарозе.

«Старыя» для нас месцы. Вёска завецца Плятэн. Бегаюць кіненыя гаспадарамі коні. Мы злавілі светла-гнядую кабылу на месца нашага забітага батарэйца. Яна не ўмее ісці вагам у гарматнай запрэжцы, дык яе паставілі везці кухню, а кухоннага рабога коніка запрэглі ў гарматную пару вынасам. І неяк дзіўна: злавілі чужую, сялянскую, кабылу па дарозе, і зрабілася яна нашаю.

Пажарышча з краю вёскі. У пагарэлым садзе засталася зялёная дулька з багатым ураджаем фруктаў. Казакі ў часе прывалу, нягледзячы на адданую нам раней забарону, зараз абтрэслі і нас яшчэ пачаставалі, назваўшы за нясмеласць «шляпамі».

Прыкра глядзець на чорныя дымныя галавешкі — балазе выязджаем у поле. Прастор, наўпрэкі цеснай нямецкай культуры, шырокі. Тут, кажуць, і адбыўся самы бой. Поле цяпер пустое, голае, нуднае. У канаўках, з бакоў добрай брукаванай дарогі, там-а-там валяецца ўбогае шкумаццё нашых салдат, быўшых у баі. Вось нейкая ніклая кучачка ля тэлеграфнага стаўпа… Першы бачаны мною труп. Наш забіты. Ляжыць ніц. Чэрап знесены — жах!..

Ізноў кучка дамкоў пад узгоркам, захаваная здалёку ад падарожнага дрэвамі. Завецца тож — Плятэн. Дзядок-немец сядзіць на лавачцы пад домам, друзленькі, беленькі, слязлівы. Болей — ні душы ўва ўсім пасёлку. Вось — нямецкая школа. Слаўны мураваны дом. У гародзе — процьма трусікаў. Ніхто

на іх, нават з казакоў, не галіцца. У сенцах валяецца паламаны веласіпед. У кватэры ўсё кінута так, як было ў звычайным жыцці. На стале стаіць недаедзены абед. На белым блюдзе многа катлет. Так хочацца іх з’есці. А што, як атручаны? Выходзім… У чародным доме чарапковая страха разварочана снарадам. У гародзе на дарожцы забітая качка, а ў кустах шныхараць белыя пушыстыя, як камочак бялюсенькай лёгкай воўны, трусікі; колькі іх тут — а-ей! Пакажа чырвонае вока — і ўцячэ, схаваецца. На градах шмат буйных гуркоў. Не ўцерпелі — і нашчыпалі.

Направа за пасёлкам, убок ад нашае дарогі, дагарвае пуня. У ёй пагарэлі цяжкараненыя, бо там быў лекарскі прыпынак немцаў. Пагарэлі толькі нашы палонныя, бо сваіх немцы паспелі вывезці. Аб гэтым кажуць паўзучыя ракам па канаве два нашы раненыя. І яны былі ў палоне і ляжалі ў той пуні. Яны рады, што не змёрзлі і не памёрлі, кінутыя адны, за мінушчую ноч. Цяпер, калі іх падабралі на насілкі, адзін зараз самлеў, а другі, белы, як з таго свету, усё намагаецца пераказаць сваім аб мінушчай страшнай начы. Хваліць немцаў, што пакуль не кінулі, дужа добра даглядалі. «А мы думалі: прыкончаць нас», — слаба ўсміхаецца ён. Але зараз іх паклалі ў фургон з чырвоным крыжам на белым палатне і павезлі. «У Расеюшку на пабыўку!» — жартуюць нашы батарэйцы.

Тым часам спераду пад’язджае разведка, і батарэя цягнецца далей.

Толькі ўзабраліся на курганок… Груды светла-сініх нямецкіх трупаў! Расшарпаныя вопраткі, прадаўленыя каскі, паломаныя карабіны і вінтоўкі, а ля кожнага забітага — цэлыя горкі гільзаў ад выстраленых патронаў. Самыя розныя, страшней адна за адну, позы мёртвых: скручаныя, ніц, наўзнак з выстаўленымі ўгару, сціснутымі кулакамі. Вось адзін скручаны, як корч, з пышнымі вусамі, абтыканы веццем, — відаць, раненага загарадзілі таварышы ад сонца, і ён памёр у страшных муках. Ці, можа, сам закрыў сябе, страляючы. Дыханне сцінае мне ў горле, не магу глядзець… Можа, работа нашае батарэі!

Я знайшоў новенькі нямецкі бінокль; узяў, пачапіў сабе цераз плячо. Тут жа ў добрай, бліскучай, з вялікім залатым арлом, афіцэрскай касцы знайшоў я недапісаны ліст забітага… Мне запякло каля сэрца, зрабілася сорамна, цяжка. Я ўлажыў ліст у каску і скарэй кінуў яе, але абдумаўся і палажыў на грудзі трупу. І тады яшчэ бачыў, што наш батарэец Талстоў, слаўны хлопец, узяў аднаго забітага немца за руку, патрымаў яе, адубелую, і

ціханька палажыў. Нашто ён гэта рабіў? Мусіць, цікавіўся, што такое мёртвы.

Другія салдаты пруць рыжыя, касматыя нямецкія ранцы, поркаюцца ў іх. Цягнуць адтуль, з нейкай радаснай прагавітасцю і быццам небяспекаю, алавяную лыжку, мыла, ручнічок, кавалачак белага хлеба. Відэльцы і сталовыя нажы выкідаюць набок, як непатрэбшчыну для салдата.

Нехта знайшоў у нямецкім ранцы салодкія жоўтыя сухарыкі. Нехта даў адзін сухарык мне. Я пакаштаваў — і мне прыкра і мляўка, як бы нешта лішняе ў роце, распірае мяне…

## Варшлеген

*6 жніўня.*

Увесь гэты дзень былі ў паходзе. Наша батарэя ізноў у авангардзе. Дагналі абоз нямецкіх мірных жыхароў. Глядзелі на нас варожа і баязліва. Едуць найболей старыя, жанчыны і дзеці. Вазы навалены ўсякім дабром, пры возе — карова з аграмадным вымем. Кожны воз — паркаю. Кіруе коньмі стары, седзячы спераду з піпкаю ў зубах; карову даглядае, седзячы адзаду, старая. Дзеці і дзяўчаты — пасярод, з катом ці з сабачкам. Дзяўчат прыгожых мала. Увесь абоз, па загаду начальніка штабу, павярнулі назад, дамоў, адкуль хто выехаў.

Праязджалі мы пустое мястэчка. На культуру завідасць глядзець! І жаль бярэ за сэрца, што Беларусь, у параўнанні, дзікая-дзікая!

На вуліцы ляжаў у пылу труп маладога нямецкага дзецюка ў залапленым на локцях пінжаку. Пры ім — паламаны веласіпед. Кажуць, гэта — пераапрануты нямецкі разведчык, забіты казацкаю пагоняю. І ўсе мы ехалі міма — так, паглядзеў і адхінуўся…

З аднаго дому выходзіць наш пехацінец. У руках банка мёду і стэарынавая свечка. Нашто яна яму? З-за ганку высунуўся стары немец, знімае перад салдатам віславухі капялюш і нізка кланяецца лысаю, з піпкаю ў зубах, галавою. Салдат гэты радасна смяецца. Агідна глядзець.

Ізноў дагналі яшчэ даўжэйшы абоз нямецкіх уцекачоў. Адна прыгожая немачка смяецца і плача на сваім возе. Старая, мусіць маці, маўкліва аглядаецца на яе і старанна сморгае вяроўку, за якую прывязана вялікая, марудная карова.

Мы ідзём пад Кёнігсберг. Дзесь глуха аддаюцца гарматныя стрэлы. Там, кажуць, б’ецца наш 20-ты корпус. Відаць далёкае і светлае зарыва.

Павялі пад канвоем нашага пехацінца. Што такое? — Арыштаваны за грабежніцтва.

Часам вядуць палонных немцаў. Не глядзяць на нас, але на маленькім прывале я з адным разгаварыўся. Ён умее па-польску — пазнанскі немец, а можа, анямечаны паляк. Калі яго канваір, віхрасты казак, адышоўся, ён сказаў мне:

— Вашы хахлатыя такое звяр'ё… (Так ён казаў пра казакоў.)

— А мы аб вас так думаем, — адказаў я ў тон.

— Нашто вайна? — сказаў ён, памаўчаўшы. — У Расіі і так зямлі няма куды дзяваць.

— Ваш кайзер абвясціў вайну.

— Не, ваш цар. А пан ест поляк? — з небяспекаю ў голасе дадаў ён.

— Не… Але не бойцеся мяне, бо я не хачу вайны.

— Рускі народ добры, а казак бывае розны, — паправіў ён на ўсякі выпадак.

Вярнуўся казак, і я пайшоў к сваім, кіўнуўшы немцу галавою.

Прыехалі на прывал начаваць. Яхімчык раптам спомніў, што пражыў не просты дзень, а спасаўскае свята. «Жывэш, як нэхрісць, на цій войні…» Але раздабыў сабе яблык і, памаліўшыся, разгаўляецца. А Беленькі, наш бязбожны іудзей, дражніцца з ім: «Яхімчык! Ты аддавай мне свае порцыі мяса: табе ж спасаўкі, пост».

«А ты, дурныця, можэ, й сала з'іў бы?» — агрызаецца Яхімчык. Ён яшчэ не ведае, што найсмачнейшая пажыва Беленькаму — якраз сала. «Зараз будзем есці й сала, друг Яхімчык! Зараз свінню закандрычым!» — вясёла бегае Беленькі. Салдаты ўжо ловяць кур, парасят на хутары. Нашы два тэлефаністы цягнуць добрага падсвінка, — недарма ж мы ў авангардзе і тэлефаністы.

Але што гэта? Не паспеў Яхімчык дагрызці яблык, а нашы кухары-саматужнікі абсмаліць таго падсвінка, як усіх нас вялікаю трывогаю гоняць капаць акопы. Годзе пісаць!

*7 жніўня, раніца.*

Устаў у 5½. Батарэя ўся на нагах і гатова к бою. Мы стаім у вёсцы Варшлеген. Трэба запісаць, бо давядзецца, відаць, не раз яе ўспомніць, калі буду жыў.

7 гадзін.

Пачаўся страшны бой. Ці выйдзем жывы?

* * *

*8 жніўня, пятніца.*

Вядуць і нясуць раненых немцаў і нашых. Збялелы, акрываўлены немец ківае галавою. Нешта перабіта ў яго шыі. Аднаго вядзе наш салдат, абняўшы, як дзяўчыну. Другога нясуць пяць нашых на руках. Яшчэ адзін ідзе, шарпаючы па пылу, утупіўшы вочы. Перад афіцэрам — ува фронт. Палкоўнік яму па-нямецку: «Гут морген!» Палонны нешта кажа, але язык не служыць. «Ідзі, ідзі, галубе!» — махае палкоўнік рукою. Пайшоў, скародзячы нагамі.

Што было ўчора? Я жыў, але ранейшага мяне навекі няма.

Я быў з камандзірам на наглядным пункце. Мяне старшы паслаў на вышкі глядзець у слухавое аконца.

Унізе, за дрэвам, стаяў камандзір з вугламерам, а пры ім у акопчыку сядзеў старшы з двума лепшымі тэлефаністамі.

Кулі засыпаюць наш дамок. Вецце на дрэве напалову пасечана. Камандзір толькі хрысціцца пасля кожнае каманды. Батарэя б’е і б’е бесперастанку. Я баюся... Я нічога не бачу скрозь запыленае з другога боку акенца. Згіну без усякае карысці. Кулі пабілі акенца, калі я трошку адхінуўся. Хаваюся за комін, трасуся, атупеў. Над самаю страхою трахнуў снарад. Ахоплены дзікім страхам, засыпаны чарапкамі ад даху, бягу наніз. Каменем валюся ў акопчык. «Смерць прыйшла», — шэпча адзін таварыш. Старшы гняўліва акідае яго вокам. А камандзір за тонкім дрэўцам стаіць, прыкуты ля трубы і вугламеру... Толькі хрысціцца часцей. Гэты чалавек мае нязмерную мужнасць. Я смялею. Кулі як бы трошкі сціхаюць. «Па наступаючай кавалерыі!» — праразлівым голасам крычыць камандзір, хоць мы за два метры ад яго. Жах вісіць у паветры. Батарэя грукоча з перабоямі: штось там папсулася, — о, няшчасце! «Другое аруддзе засыпана снарадам!» — чуем перарывісты голас па тэлефону. «У пятым збіт прыцэл». О, няшчасце, няшчасце! Мы цішэем, а кулямёты застракаталі з усіх бакоў. Наўкол перабягаюць пехацінцы. «На вышкі!!!» — грозна роўкнуў на мяне камандзір, і ўсё ён хрысціцца. Ізноў паўзу на вышкі, як загіпнатызаваны: смерць дык смерць, абы не мучыцца гэтак. О, не! не! Жыць хачу! Госпадзі, памілуй мя, грэшнага! — і хочацца хрысціцца, як камандзір, але рэшткі розуму сцюдзёна шавеляцца. А пехацінцам жа ў сто раз горш... Успамінаю родных. Мыслі блытаюцца. Во яно, акенца-смерць... Разбіваю ўсё шкло са злосцю. Свежая відаль. «Нямецкая кавалерыя ўцякае за горку, снарады кладуцца

па ёй!» — ашалелым, праразлівым голасам крычу ўніз. Чаму я рад? «Злязай, злязай!» — гукае мяне старшы. «Гарыць дом!» Так, дамок захапіўся ад снарада. Дым смярдзючы пхнецца ў рот. Злязаю… Камандзіра і тэлефаністаў няма. Дзіўлюся. Раптам бягу. Наганяю іх. Пад кулямі шыбка ідуць з трубою і вугламерам наўскоса вуліцы к другому дому. «Падбяры футляры, — спакойна кажа камандзір. — Яны засталіся каля акопу». Бягу назад, хапаю футляры, бягу ізноў даганяць іх. А дзе ж камандзір? Забягаю за дом, куды яны пайшлі, за добрыя мураваныя сцены. Іх няма, а стаяць два казакі з адным канём і кураць. Другі конь, мабыць, здохлы ці забіты, ляжыць гарою пасярод вуліцы. «Пабеглі на батарэю», — кажуць казакі. І мне трэба ісці туды, але я баяўся смерці; ах, як хочацца быць за гэтаю сценкаю… Бягу на батарэю, а яна была ў лагчынцы, за хутарам, сажняў дзвесце адгэтуль. Бягу, а кулі над галавою так і гудуць, як пчолы. Сеў я ў канаўку адпачыць трохі. Гляджу: аж у канаўцы, цераз усю лагчыну, шмат сядзіць пехацінцаў. Страляюць патроху, а часам лапатачкамі поркаюцца, з дзірвану перад сабою заслону насыпаюць. Тады я папоўз па канаўцы, мінаючы іх. Калі поўз, дык прыгледзеўся, што некалькі пехацінцаў дужа нерухома прытуліліся к насыпанай зямлі перадам… Забітыя! Страх апанаваў мяне, я ўсхапіўся і, сагнуўшыся, пабег на ўсю сілу. Прыбег на хутар, на двор, аж там поўна батарэйцаў нашых раненых; ёсць і пехацінцы, ляжаць усе на чыстай пасцеленай саломцы. Цяжэй раненых неслі ў хату. Ніхто не мог сказаць мне, дзе дзеўся камандзір, а батарэя ўжо ізноў страляла, значыцца, недзе ён выбраў новы наглядальны пункт і адтуль па тэлефону камандаваў. «Калі ж гэта паспелі кабель к яму працягнуць з батарэі?» — здзівіўся толькі я і пабег к батарэйным тэлефаністам. Каля першага аруддзя мяне пераняў голас белавусага капітана Дыямантава, сядзеўшага ля прыцэлу, прыхінуўшыся задам да сталёвага шчыта-заслоны. Капітана гэтага я рэдка бачыў, бо ён доўгі час быў не ў батарэі, а дзесь яшчэ, у абозе, ці што. «Вальнапісаны! — крыкнуў ён. — Збегайце ў рэзервы: чаму не прысылаюць патронаў, няма ўжо чым страляць». Я кінуўся назад, скрозь сад, туды, дзе стаялі перадкі. Там за капою саломы корчыўся ранены ездавы, а над ім стаялі збянтэжаныя таварышы. Я сказаў ім, што зараз трэба ехаць у рэзервы, а яны сталі даводзіць мне, што чалавека ім не хапае, няма як ехаць. Я, дурны, падбег назад к Дыямантаву і далажыў, што ездавыя кажуць: няможна ім ехаць, чалавека бракуе. «Шляпа ты! — злаяў мяне капітан. — Сам едзь або каго з санітараў пасадзі. Пшоў!» Мне было сорамна і крыўдна, што вымагаюць,

як ад добра абучанага салдата, калі я яшчэ зусім слаба ведаю службу (прыехаў у батарэю месяц таму). Крыўду маю заглушыў страх, бо на мяне згары так і сыпалася адбітае кулямі з яблынак дробнае галлё; лятал і кулі і ніжэй. Калі я прыйшоў, ездавыя ўжо паехалі без маёй помачы. Іх таварыш ездавы сканаў. «Трэба ж яго прыбраць», — падумаў я і скіраваўся ў хату, дзе быў фельчар. Санітар Лабкоў (што камандзір біў яго за вішні) захварэў, дык замест яго з санітарам Фельдманам, нашым беларускім яўрэем, па забітага хадзіў я. Няслі пад свіст куль, кульгаючы між кустоў па садзе, а здаўся ён дужа цяжкім. Фельдман агледзеўся, што нясём не жывога, а мёртвага. Мы быццам згаварыліся і вывернулі яго з насілак пад яблыню; скуліўся ніц, як цяжкі мяшок, а самі шыбка пабеглі… Век сабе не дарую гэтай маладушнасці, калі не сказаць трусасці, дзеля якой зняважылі памяць таварыша. Потым фельчар паслаў нас па раненага нумара, на прозвішча Жукоўскі, к аруддзю падпаручніка Іванова. Падпаручнік бадрыўся і падбадраў сваю арудзійную службу. Убачыўшы нас, ён як бы вясёла кіўнуў мне галавою ад арудзійнага шчыта-заслоны, да якога туліўся плячмі, і нешта сказаў: «Нясіце, нясіце яго скарэй», — ці што другое. Прынеслі ўдачна і паклалі ў хаце, на ложак. Фельчар зрабіў Жукоўскаму перавязку. Тады мы закурылі — фельчар, ранены Жукоўскі і я. А Фельдман ізноў некуды пабег глядзець, ці няма новых раненых. У хаце ляжаў, на ўздзіў мне, Шалапутаў. Месяц таму назад, калі я толькі прыехаў у батарэю, мяне змясцілі ў адной палатцы з Шалапутавым. У той час гэта быў адважны ваяка на словах, хваліўся, што ён бывалы, бо прысланы ў батарэю з Віленскае вайсковае школы за нейкія грахі, велічаў сябе «старым юнкерам», а мяне менаваў «шэрым», «шпаком», «шляпаю». Цяпер ён тут ляжаў. Здаецца, спаў… Ці прыкінуўся? Можа, ранены? А ён пачуў нашу размову і кажа груба самаўпэўненым голасам: «Усіх нас забяруць… Бачыце, абходзяць кругом». Потым устаў, закурыў з намі і пайшоў у дальні кут пакою, адвярнуўся к печы і заняўся там лёгкаю фізіялагічнаю патрэбаю. «Што вы гэта, Шалапутаў?! — застыдзіў яго фельчар. — А яшчэ вальнапісаны…» — «Ды я ў печ, нічога…» — «І на двор не хоча выйсці», — заўважыў яму ранены Жукоўскі.

Пачуўшы аб панадворку, фельчар кінуў недакураную цыгару (усе нашы салдаты шмат набралі іх у разбітых крамах у мястэчку) і пабег з хаты. За ім пайшоў і я. О, колькі ж там было раненых!.. Стагнанні, кроў… Гляджу, ля самае сценкі ляжыць нехта з жоўтымі зубамі, скалячы іх ад мукі. Я адразу не пазнаў

і мне зрабілася так цяжка, што гэта быў слаўны, вясёлы наш Талстоў. Я хацеў сказаць яму што-небудзь, чуў, што трэба нешта сказаць, звычайнае, паўсёднае і таварыскае, але ніводнага гуку не выдавалі мае вусны. Талстоў паглядзеў на мяне… У галаве ў мяне праляцела, як аднаго разу, гуляючы па валу за горадам, я пачуў нейкі хрып у канаве, за кустамі акацыі, злез туды і ўбачыў здыхаўшага сабаку. Вочы ў таго сабакі былі як і ў чалавека, калі ён дужа трудзіцца ад болю і безнадзейнасці, чуе, што канае, смерць… Сабака схаваўся, каб ніхто яго не бачыў, і яму было прыкра, што я турбую яго апошнюю часіну, ён балюча і незадаволена захрыпеў, скорчыўся… Такі ж самы погляд кінуў на мяне цяпер Талстоў, бамбардзір-наводчык першага аруддзя. Я ўлавіў, як і фельчар акінуў яго асаблівым поглядам, як глядзяць на людзей таго свету. Потым фельчар з найвялікшаю ласкаю і далікатнасцю падаў яму закураную цыгарку, бо ён папрасіў курыць. «За паўгадзіны памрэць», — шапнуў мне фельчар, калі мы адышлі ад яго. І праўда, калі я мінут цераз дзесяць ізноў прахадзіў міма, то ўбачыў, што ён, бедны, стаў сінец і памёртваму заплюшчыў вочы. Асколак гранаты пасек яму кішкі. Яшчэ цераз колькі мінут падышоў фельчар, палажыў руку на яго грудзі і потым пераксціў як нябожчыка: «Каб не так быў наеўшыся ўчора рознай зеляніны, то, можа б, і вытрымаў», — сказаў ён. Гэтая смерць зрабіла на мяне гнятучае ўражанне, я нават стаў меней баяцца куль і снарадаў. А яны ізноў пасыпаліся. Адзін пялёхнуўся ў сажалку на самым падворку — і не ўзарваўся. Чорны дым ад снарадаў заслаў паветра і ўкрыў сіняе неба, дзе чыркала крыллем бясклапотная і смелая ластаўка.

Гляджу: гадзіннік стаіць на 11½. Шкло пабіта, стрэлкі пагнуты. Калі і дзе ўдарыў — не ведаю. «Ах, каб ужо барзджэй скончылася гэтае пекла!» — прашу я няведамую сілу. Сві-і-жссь! — куля праляцела над самым вухам. Хаваюся за сценку. «Дзе ж нашы галоўныя сілы?» — стогнуць там запаснікі. Усе яны хочуць жыць, каб вярнуцца карміць свае сем’і і даглядаць гаспадарку. А я атупеў, страціў яснасць думкі і чуццё вайсковае павіннасці. Плятуся, як хворы або п’яны, у хату. Батарэя паліць адзіночнымі стрэламі. Нехватка снарадаў; чакаюць з рэзерваў. У хаце ўсе нервуюцца. Прынеслі яшчэ аднаго раненага.

— Шалапутаў! Уцякай, тут раненага пакласці трэба, — кажуць там.

Шалапутаў ляжыць, як калода.

— Ведаеце, я жаліцца на санітараў буду, — панура пагражае фельчар.

— Ну? На каго? — пытаюся, як бы мне дужа цікаўна.

— Фельдман… зусім не слухаюць мяне. У Лабкова жывот баліць. Лабкоў, — паварочваецца фельчар да Лабкова, — я на вас камандзіру далажу.

— Каллі лласка… — крывіць той грымасаю свой дзяціны, бязвусы твар. Боязнь смерці сцяла яго сваімі балючымі кіпцямі.

Прыйшоў ездавы Марчук, здаравенны мужычынішча з прыгожаю, але грубаватаю беларускаю гутаркаю. Ён кажа:

— Кудой плывець ераплант, тудой ён і шпокае. А ераплант круціцца над намі, як каршун над падлаю.

Ранены Грыгар’янц толькі нешта мармыча па-армянску.

Прыйшоў феерверкер Ціхаміраў і з сваёю кастрамскою грунтоўнасцю ўва ўсякай справе намякае нешта аб палоне. Няўжо палон?

— О, Вільгельма, Вільгельма![3] Бог цябе пакарае, калі ты вінават у гэтай жудаснай вайне, — уголас разважае Ціхаміраў. — Бедныя людзі…

Ад Ціхамірава я даведаўся, што камандзір сядзіць на страсе аднаго дому, недалёчка ад батарэі, і адтуль па тэлефону камандуе. Усе мы змоўклі, пераможаныя тым яго геройствам, і думалі, каб доля бараніла яго ад смерці. І ўжо хочацца верыць у дзівы. На маіх жа вачах адзін запаснік-пехацінец, стоячы ў садзе, дастаў з шапкі кулю. «Як жалудом з дуба шчоўкнула», — сказаў ён з усмешкаю.

Магчыма, што кулю хто-небудзь кінуў на яго, а можа, была надта далёкая, саслабелая, і зачапілася ў шапцы, але ўсе запаснікі-расійцы пераксціліся, як на дзіва… Нехта нават буркнуў, што бываюць людзі, зачараваныя ад кулі, ды ніхто яго размову не падтрымаў, бо сярод шуму і гулу ад бою там было не да вялікае размовы. Усе парупіліся схавацца за рог пуні.

Так цягнуўся гэты бясконца доўгі дзень. Ізноў і ізноў лётаў над намі аэраплан. Пяхота наша, нявідная нам, заядла па ім трэскатала з вінтовак, а ён сабе знай плыве і кідае нейкія гаручыя стужкі над саменькай батарэяй.

Падпаручніка Іванова раніла, і ён прыйшоў у хату на перавязку.

— Запісаць у кнігу прыкажаце, вашродзь? — пытаецца фельчар.

— Нашто ж?.. Я лёгка. А калі трэба, ну-ну, запішы. — І засаромеўся, і «вярнуўся ў строй» з нейкаю ўрачыстасцю, хоць не без трывогі.

Бой сціх увечары. Кажуць, на падмогу нам падышла з левага боку нейкая дывізія.

Арудзійная прыслуга так запрацавалася за дзень ля гармат, што некаторыя нумары з трудам паднімалі рукі і разлівалі страву з дрыжачых лыжак. Працавалі ад 7 раніцы да 9 вечара, без аддыхі і без абеду, то зараджаючы гарматы, то падкапваючы хабаты, то што.

Пасля вячэры прыехалі пяхотныя санітары, і пачалося падбіранне трупаў і раненых па ўсім полі.

Наш камандзір прыйшоў на падворак, стаў ля хаты, дзе ляжалі забітыя на саломе, пераксціў Талстова і сказаў: «Царства нябеснае!»

У хаце ён пацалаваўся з кожным раненым, кажучы: «*Поздравляю, брат, что удостоился пострадать за веру, царя и отечество!*»

Пры гэтым панавала ўрачыстая ціша, у некаторых на ваччу стаялі слёзы. Нават мне было цяжка за сваю варожасць да ўсяго гэтага прыгожага самаашуканства.

Потым здарыўся нягожы выпадак з Шалапутавым. Выходзячы на двор, камандзір убачыў яго, ляжачага ў куце, у сенцах, прымасціўшыся на нейкіх дошках, на пасцеленым шынялі.

— Ранены Шалапутаў?! Шалапутаў! — гукнуў яго камандзір.

— Гм-му-у…

— Ты ранен, Шалапутаў?

— *Никак нет*… у мяне нага…

— Што нага-а? — і схапіў яго цягнуць.

— Баліць дужа… Ударыў неяк.

— Вот яшчэ, задрыпанец, — з глыбокай і сарамлівай пагардаю сказаў герой-камандзір і шыбка, як ад чагось брыдкага, выйшаў.

З афіцэраў у нас ранены яшчэ штабс-капітан Дамброўскі, але астаўся ў страі. А ў трэцяй батарэі забіты камандзір. Здаецца, я яго бачыў; гэта здаровы, дабрадушны мужчына-русак, з вялікімі рыжымі вусамі, на прозвішча Шылаў. Кажуць, канаючы, перад вечарам, ён пажартаваў з сваімі афіцэрамі, абступіўшымі яго: «Вот тебе і Георгіеўскі крыж… Пастаўце хоць драўляны…» Трэба паясніць, што ён сваёй батарэяй нарабіў немцам такой шкоды, што яшчэ ў часе бою генерал па тэлефону сказаў яму: «Віншую вас, палкоўнік, з Георгіеўскім крыжам». Калі памёр, адзін салдат кінуўся яму на грудзі, цалаваў і плакаў. Ніводзін з бачыўшых гэта таксама не мог утрымацца ад слёз. А забіла

яго куля скрозь акно на вышках, калі ён схапіў нейкія дзверы і загараджваў акно, робячы сабе наглядальны пункт. Забіты быў пад вечар, у канцы бою.

Думаю: вось і мяне магло так забіць на вышках, на доміку, што цяпер згарэўшы.

Не маю болей часу пісаць, і галава баліць ад учарашняга грукату і яшчэ болей ад маёй уласнай нервацыі.

Пішу па абедзе, паправіўшы акопчык. Ціха, спакойна. Сядзім удваіх з Воранавым на тым самым наглядальным пункце пад дрэвам, ля згарэўшага дому. Смярдзіць ад пажарышча, вецер узнімае залу і пясок і сыпле на нас. Спаць хочацца, бо цэлую блізка таго ноч, пасля ўчорашняга бою, сядзеў я з Воранавым на гэтым пажарышчы. Ах, як холадна было нам. І скрозь цэлую ноч нямецкія пражэктары свяцілі на нас і сеялі неспакой.

* * *

*9 жніўня.*

Канец учорашняга дня быў для мяне горкі. Старшы, смеючыся, скалоў мяне: «Вы таксама ў хаце хаваліся». Так, хаваўся… Няма як бараніцца. Я пачырванеў і маўчаў. Сёння мне весялей. Сон вярнуў мне сілу, і нейкі голас супакойвае мяне: ну і добра, што хаваўся, — ты яшчэ спатрэбішся для сваёй роднай справы.

Дык у нас, значыцца, сур’ёзная перамога. Немцы адступілі, кінуўшы многа забітых, раненых і зброі.

Сёння я прачнуўся на батарэі, каля ямы тэлефаністаў, ад светлага, цёплага жніўнага сонейка і шумнай спрэчкі ў хаце між афіцэрамі 1-га і 2-га дывізіёнаў аб трафеях.

Нож мой прапаў, і няма чым алавік застругаць для апісання афіцэрскае спрэчкі. Яна ідзе аб тым, хто збіў нямецкую 12-арудзійную батарэю, шалёна выехаўшую на голую пазіцыю, відную ад нас простым вокам. Наўкол пазіцыі гэтай няшчаснай і геройскай батарэі цяпер валяюцца парэзаныя шматы коней і людзей, кучы забітых снарадамі і задаўленых гужамі коней, агідныя і страшныя груды людзей з адарванымі рукамі, раскіданыя рэчы. Зарадныя скрынкі паўзарваны, пагнуты, пакамечаны, як папера ў жмені, некаторыя раскрэмсаны літаральна ў шчэпкі.

Прадстаўнік першага дывізіёну, худы і чорны, вусаты капітан, як відаць, новы, камандзір 3[-й] батарэі, са слязьмі на вачах клянецца, прысягаецца, што батарэя збіта ім, не паспеўшы выехаць і зрабіць 34 стрэлы з 2 аруддзяў.

Афіцэры 2-га дывізіёну, прыйшоўшы ў госці к нашым (я служу ў першым дывізіёне), спіраюцца… Іхныя батарэі стаялі далёка справа і ззаду ад нас, і нават я, нічога не цямячы ў артылерыйскай справе, дзівуюся, як маглі яны, а не мы, разбіць тую батарэю.

Час, лік выехаўшых адначасна нямецкіх аруддзяў, запісы камандаў, пасведчанні пехацінцаў і іншае, усе довады горача разбіваюцца, і спрэчка схіляецца на карысць першага дывізіёну, страляўшага 13 гадзін узапар!

Даслухаўшы спіранне да канца, пайшоў я мыцца, але доўга-доўга шукаў вады і нідзе не знайшоў. Войска ўсю выпіла. У калодзежах на дне засталася адна гразь. Калодзежы тут найболей зачыненыя, з помпамі. Насілу выпрасіў вады напіцца ў камандзірскага ардынарца. Сёння і абед спозніцца, бо паехалі па ваду на рэчку, за колькі вёрст. Хадзіўшы па полі, бачыў многа забітых кароў і коней. Чаму іх не закапваюць? На дарозе бачыў цэлую гару сабраных пехацінцамі вінтовак, шынеляў: светлых, сініх — нямецкіх, і шэрых, грубейшых — нашых; ранцаў касматых, бурых — нямецкіх, і палатняных — нашых; шашак, кулямётных стужак, чаравікаў і іншага. І ўсё нясуць і нясуць…

Раптам пачуўся «венскі» гармонік! Звонкія, вясёла-гуллівыя гукі заліхвацкай полечкі скаланулі мяне. Не магу выразіць таго заблытанага клубка пачуццяў, які падкаціўся мне пад грудзі. Я пачуў мімавольныя слёзы на вачах. Думкі мае паляцелі ў ціхамірнае даўнейшае жыццё ў мілай, роднай Магілёўшчыне. Святочны дзень, скачуць, гуляюць… А тут я бачу жудаснае поле смерці пад сінім, цёплым, безмяцежным небам.

Дый раптам жа гармонік абарваўся. Можа, не даў хто іграць перад памеркшымі вачмі забітых таварышаў… А хай бы іграў перамогу жыцця над смерцю! Не ўсё роўна, што тут рабіць: плакаць ці смяяцца?

Іграннe было чутно з недалёчкага хутара, дужа вялікага, занятага пехацінцамі. Я пайшоў туды. Там на падворку і ў стадоле, на пасцеленай жоўтай саломе, поўна было раненых, абвязаных белым і акрываўленым бінтам, — немцаў і расійскіх. Там-а-там паміж раненых ляжалі непарушныя фігуры памёршых ад ран. Выскаленыя зубы, тусклыя, мятыя вочы, зблытаныя абмусоленыя вусы, — страх глядзець.

Тут і штаб. У садзе я пачуў размову начальніка нашага атраду па тэлефону з некім:

— Няма сілы сабраць. Можа, тыл падбярэць. Не меней як 700 вінтовак. Болей як 2000 чалавек… Але! Ляжаць ланцугамі,

калонамі. Бог ведае, ці яны раненыя спаўзліся і памёрлі кучамі, ці так разам пабіты. Артылерыя і кулямётчыкі работалі на славу! Рад старацца, вашадзіцтва!

Міма нашага наглядальнага пункту па дарозе шмат праходзіць і праязджае розных вайсковых. Нядаўна ехаў п'яны казак. Баўтаецца на сядле. Пад адною рукою пабіты тэлефонны апарат, а ў другой — бутэлька з наліўкаю. Ён папрасіў мяне падаць яму галавешачку прыкурыць і пасуліў мне пацягнуць «трошкі» нагбом з бутэлькі. У яго, п'янога, гора: кажа, быццам «вольныя» немцы (мірныя жыхары) забілі двух яго станічнікаў, а сам насілу вырабіўся з небяспекі.

## Прывалы

*10 жніўня.*

Мы ў далейшым паходзе. Пішу на крутым беразе нешырокай, але паўнаводнай і глыбокай рэчкі. Мост разбіт. Сапёры наводзяць пантоны. Наўкол мяне — і драцяныя загарадкі, і воўчыя ямы. Дзівуюся, чаму немцы пакінулі іх без усякага бою.

Пераехалі. Мястэчка. Разумеецца, бязлюднае. Кірха (а можа, касцёл). Нашы каталікі забягаюць і кленчаць. Ля самай кірхі, на адчыненым акне пустога дому, грамафон, заведзены рукою ворага, пахабным дысанансам у абставінах вайны і смерці раве мірнага «пупсіка». Маладыя пехацінцы сабраліся там, смяюцца, рагочуць, і некаторыя падпяваюць па-расійску:

— Пуп-сік, мой мі-лы-ы пу-упсі-ік!..

Потым завялі неспанараўную мне нямецкую «польку», пабраліся парамі і круцяцца, як дурныя. Старэйшыя невясёла паглядаюць на іхняе выраблянне, абтрахаюць з сябе пыл, абціраюць пот, пераабуваюцца.

У другім доме знайшлі раяль. Бязмальна кожны пабарабаніў пальцамі. Урэшце, дакучыла. Наш ездавы трахнуў шашкаю ўздоўж па ўсіх пішчыках. Пехацінцы адкінулі крышку і паабдзіралі струны. Калі падходзіў нейкі афіцэр, усе ўцяклі хто куды. Забыўся адзначыць: учора нам абвясцілі, што за п'янства будуць розгі, а за грабежніцтва і разбой — расстрэл.

*11 жніўня.*

Учора ўвечары мы, тэлефаністы, абжорліся мёдам. Цэлую пасеку развярнулі. Упоцемку не столькі дасталі мёду, колькі падавілі пчол. Твар у нашага старшага разнясло, як ад скулы. У мяне таксама пакусаны рукі, бо і я хадзіў падладжваць пчол.

Думаў, выйдзе ўсё па-людску, а выйшаў сорам і паскудства. Пехацінцы даканчылі нашу работу. Афіцэрскія дзеншчыкі таксама набралі для сваіх паноў міскі дзве лепшых пляйстраў. Цікаўныя вулейчыкі: сплецены з саломы і ракітніку, як у нас пляцёнкі ссыпаць канаплі. Аж я ўсцешыўся: і ў немцаў не толькі рамчакі.

Шалапутаў з батарэі прапаў бясследна. Думаюць, што ўцёк, бо ніхто не ведае, калі і куды ён дзеўся.

Сёння праязджалі першую нямецкую вёску не пустую, а з жыхарамі. Але хаваюцца ад нас.

*12 жніўня.*

Да абеду ехалі. Страшэнная санлівасць апанавала мяне, бо за гэтыя тры дні паходу дужа змарыўся фізічна (пад'язджаць на двухколцы забараняюць, трэба ісці пехатою). Яшчэ болей змарыўся розумам. Не хочацца ні аб чым думаць і разважаць.

Па абедзе капалі акопы. «Што вам рукі не служаць?» — з пагардаю сказаў мне старшы, гледзячы на маю работу.

Яго нервацыя — знак таго, што заўтра можа быць бой.

Прыходзіць дужа многа свежага войска — пяхоты, разумеецца.

Страты нашы пасля 7-га жніўня, як цяпер кажуць, страшэнныя: 50–60 прац[энтаў].

З'явіліся аўтамабілі з нейкім важным начальствам.

Я заўважыў, што ў мірных немцаў падняўся дух. У адной вёсцы я разгаварыўся з старым немцам, які ўмее па-польску. Казаў стары, што немцы ўжо разбілі Бельгію і Францыю. Няўжо праўда? Можа, наша начальства хавае ад нас? Той стары даў мне хлеба — чыстага, смачнага. Я даваў яму грывенік, але ён кланяецца і ўсё: «Нэйн, нэйн».

*13 жніўня.*

Уранні быў вялікі туман. Абедалі на прывале ў м. Аленбург. Зрабілі налёт на крамы з цыгарамі, вінам і какао. Каб чаго з'есці добрага — нідзе няма. Немкі давалі ваду. Усе яны, хто застаўся, — бедны народ. Самі вадзілі нашых салдатаў к багатым крамам і смешна абхоплівалі перад брухам рукамі, паказваючы, што гаспадары гэтых крамаў, пузатыя буржуа, паўцякалі, а іх пакінулі адных.

Як выехалі з Аленбурга, многія з нашых батарэйцаў былі выпіўшы: смяяліся, галдзелі, і ўсе, нават не курцы, дымілі важнымі панскімі цыгарамі ў залатых апаясачках.

Я тож трошку хлябнуў нейкай смачнай-смачнай і такой прыемна-гусценькай наліўкі, не ведаючы, што яна падманлівая, бо сільна хмельная…

Зараз галава ў мяне сарамліва-вясёла заработала. Аднаго толькі баяўся, каб камандзір не заўважыў, што я п’яны.

Я стараўся ісці як можна раўней і мець сур’ёзны выгляд. Але твар у мяне і вушы, як і ўва ўсіх, быў чырвоны і гарэў.

Калі ж хмель стаў спадаць, паніжаўся і мой настрой.

Тэлефонныя двухколкі ехалі з камандзірам батарэі, троху аддаліўшыся наперад ад усяе батарэі.

З невялічкага гаю да нас даляцела колькі стрэлаў з рэвальвера ці карабіна. Зрабілася троху трывожна…

Аж едзе адтуль п’янаваты казак к нашаму камандзіру і, стараючыся не хіляцца на кані, рапартуе, што ён забіў «пару вольных немцаў-шпіёнаў».

Падаў знятыя з забітых паперы.

Камандзір разглядае і балюча крывіцца на стараннага воіна: з пашпартоў, канвертаў і замасленых запісак відаць, што гэта — расійскія чорнарабочыя, быўшы ў заробках у Нямеччыне, ішлі цяпер назад у Расію.

Казак збянтэжыўся, але не дужа: відаць, не паверыў. А сам непісьменны. І як у яго з імі выйшла, не разабраць: «Пабеглі… пабеглі… крычаў». Ведама, выпіўшы чалавек.

Мала таго: яму яшчэ прыкра, што яго не пахвалілі. Ехаў — і бурчэў на нашага камандзіра.

*14 жніўня.*

Прывал у вялізным двары нейкага барона. На галоўных дзвярах старыннага дому-палацу прылеплен белы аркуш паперы. «Пакідаючы маю маёмасць, прашу ўсім карыстацца, але прашу не паліць. Старая вежа была пабудавана рыцарамі супроць паганых». Я хацеў аглядзець дом, але пры ім стаяла ўжо наша пяхотная варта, і мяне ў пасяродак не пусцілі.

Воддаль, каля флігелю, поўзалі галодныя шчаняты і стагналі. Яны толькі-толькі пачалі глядзець. Сучка ўкусіла аднаго казака, і ён прапароў яе пікаю. Калі я за колькі мінут прыйшоў сюды яшчэ, нехта прыдушыў шчанят. Добра зрабіў.

Наш Яхімчык потым у дарозе доўга апавядаў мне, якая добрая сучка была ў таго штэйгера, пад началам якога быў ён у шахтах: і на задніх лапках станавілася, і смяялася, і забітага ў пяску знюхала і адкапала. А забілі таго чалавека таварышы за гуляшчую дзеўку; іх засудзілі на катаргу. Пра задушаных шчанятак

ён сказаў з сваім украінскім спакоем так: «Мудрый цій чоловік, шчо вбыў: навішчо ж малэнькім бэз маткі страждаць».

Сёння нам чыталі ў прыказе аб вялікіх перамогах хаўруснікаў над немцамі ў Бельгіі. Значыцца, той стары мне наманіў.

Цяпер нам на прывалах у кожнай вёсцы выносяць ваду — старыя немкі, немцы і дзеці. Часам даюць нават малако, белы хлеб, яблыкі. Салдаты пры гэтым паказваюць скандальную прагавітасць.

Пасля паўдня чуецца гул ад гарматнай страляніны. Заўтра бой?

На прывале ў м. Грос Энгеляў я бачыў, як у пакінутай нямецкай хатцы, пад саламянаю страхою (што тут незвычайнае дзіва, бо найболей дахі чарапковыя), салдаты нашай батарэі параскідалі, параскідалі ўсё чыста і кінжаламі ламалі вялікую скрыню, дужа цяжкую, брудную. Ніяк не маглі зламаць замка. Я абазваў іх свіннямі і хуліганамі, марадзёрамі і саромеў іх, а ім хоць бы што. Аблаялі мяне па-расійску і назвалі «вальнашляючым» (ад «вольноопределяющийся» — вальнапісаны). Я кінуў іх і пайшоў з гэтага пярэдняга пакою ў чысцейшы пакой; там на палічцы ляжала грубая кніга ў дарагой вокладцы. Я разгарнуў і на першай старонцы ўбачыў Вільгельма ва ўсёй яго каралеўскай і імператарскай годнасці і пышнасці. Нейкае зло мяне ўзяло, і я ўнізе да подпісу дадаў крыжык і паставіў «1914 год», што мела азначаць смерць яму ў гэтым годзе. Прыйшоў я на батарэю, гляджу — аж нясуць мне мае грамілы тую самую кніжку, каб я ўзяў сабе і ўлашчыўся. Але я не ўзяў. Яны пасмяяліся і аддалі кніжку нашаму кашавару на падтопку.

*15 жніўня.*

Едзем далей. Па дарозе часцей а часцей прыгожыя гайкі. На прыгрэтай траўцы стрыкаюць і звіняць конікі-скакунцы. У халадку прыемная раса…

Урэшце ўехалі ў вялікі нямецкі лес. Шмат вавёрак, птушак. Прабегла скрозь прасеку за ганей двое ад нас некалькі стройных дзікіх коз.

Далятае далёкая глухая страляніна з гармат.

## Фарты

*16 жніўня.*

Учора па абедзе аж да вечару прастоялі з тэлефоннымі двухколкамі ў тым вялікім лесе. Набраліся страху. Пяхотная разведка, як на аблаве, рассыпалася наўкол нас па лесе — і скрылася з вачэй. Пасля даўгога трывожнага чакання мы пачулі далёкую перапалку з карабінаў, потым паказаліся некаторыя разведчыкі, сярод якіх былі лёгкараненыя, з рукамі ці галавамі ў свежых белых бінтах. Раптам прыляцеў з лесу і наш камандзір з батарэйнай разведкаю і раненым пяхотным афіцэрам. Усе прыехаўшыя былі ў прыгнечаным настроі. Некалі было пытацца, мы ў адзін момант звярнуліся, ударылі па конях і шпарка загрукацелі па роўнай і простай, як страла, шашы назад к батарэі. Не паспелі адскачыць і з паўганей, як на тым месцы, дзе мы стаялі, вораг стаў «крыць» цяжкімі снарадамі, незвычайнай, яшчэ не бачанай намі сілы. Лес загуў, напоўніўся гулам, трэскам і звонам. «З фартоў шчупаюць…» — разабраў я пару слоў з нервовай гутаркі камандзіра з нашым старшым тэлефаністам, таксама спалоханым, Лапцевым. З якіх фартоў, я не змог зразумець: няўжо мы паспелі падкаціцца так блізка да Кёнігсберга?

Батарэю сваю дагналі на другой дарозе; яна таксама без нас, завярнулася і пацягнулася некуды ўбок і назад. Калі цямнела, былі мы перад нейкім мясцечкам. Тут, абапал усяе дарогі, стаяў аграмадны табар нямецкіх уцекачоў. Кінулася ў вочы розніца ў настроі мірных. Яны ўглядаліся на нас значна смялей; парадругая вачэй свяцілася захаваным вызавам і злой радасцю. Якаясь рыжаватая дзяўчына смяялася і махала нам рукою, каб мы ехалі назад у Расію. Яна кіўнула галавою да свае засмучонае таварышкі, потым паслала мне рукою пацалунак. Што яна казала, я не мог пачуць за стукам колаў.

Адзін абраз з учарашняга дня пакінуў асабліва цяжкі асадак у маёй душы. Вёрст пяць па шашы ад таго табару, то астаючыся, то пераганяючы, беглі пры батарэі двое старых: грубы тучны немец і яго сухапарая сівая жонка. Немец быў чырвоны як рак і потны, ашпараны, з вытрашчанымі непрыемнымі рачынымі вачмі. Ён прост душыўся ад беганіны. Старая раскудлачылася, зарумзалася, скакала, як падбітая. Яны шукалі начальства, якое забрала іхняга сына, хлапчука гадоў 15. Забралі хлапца за тое, што нібыта нешта дрэннае сказаў аб расійскім войску. Ніхто з нас не ведаў, хто і як яго забраў, а старыя ўсё беглі, высалапіўшы языкі, ува ўсіх нас са слязьмі пыталіся сваім незразумелым жаргонам і заглядалі ў салдацкія вочы па-сабаччу. Хух!

Потым ізноў мы, тэлефаністы і разведчыкі, загрукацелі з камандзірам ад батарэі. Пасля доўга стаялі ў цёмнай сцюдзёнай дарозе і чакалі батарэю. Я ўжо збіўся з арыентацыі, не ведаў, куды, у які бок мы кіруемся. Зноў паехалі. Цёмна — хоць вока выкаль. Забаронена курыць: над намі павіс, кажуць, дырыжабль. Начавалі, стоячы ў дарозе, не разамунічыўшы (коні ў запрэжцы). Холад, не дай Божа. Макравата, прамозгла. Трывожна дрэмлецца.

Ранняе досвецце. Не магу арыентавацца. З усіх, здаецца, бакоў чую гарматную і з вінтовак страляніну. Першы раз у жыцці ўбачыў дырыжабль. Як чорная цыгара, цёмная, непарушная, высака-высака стаіць над намі ў хмурым небе і гіпнатызуе.

Балазе-ткі развіднелася. Сонейка сагрэла нас. Дырыжабль знік няўпрыцям. Мы занялі пазіцыю. Выкапалі акопы.

*17 жніўня.*

Стаім на той самай пазіцыі — каля нейкага Картау, невялічкага пасёлку. Нехта спомніў, што сёння свята, нядзеля. Сталі ўсе галіцца (цэлы дзень ціха, спакойна). Пагаліўся і я. Аж на душы быццам прасвятлела.

Брадзіў бясцэльна наўкол пазіцыі і… знайшоў каля рэчкі знаёмага з нашыўкамі вальнапісанага, быўшага банкавага служачага ў Вільні. Ён браў абеды ў мае кватэрнае гаспадыні — ліцвінкі на Замкавым завулку, якая ўмела пячы незвычайна смачныя наліснікі. Я насілу пазнаў яго. А яму зрабілася сорамна, што ён такі. Сядзеў босы, спусціўшы касматыя ногі ў цеплаватую вадзіцу, панураны, даўна не голены, у дужа бруднай гімнасцёрцы. Гаворыць неахвотна. Пэўны, што жывыя не будзем, у Вільню не вернемся. Смерць стаіць у яго мутных, пагаслых вачах. Яны ажывіліся пакорнай завідасцю, калі ўцяміў, што я служу не ў пяхоце, а ў артылерыі. «Вы, батарэйцы, пэўна, маеце соль. Пазычце мне дробачку, калі ласка…» Я прынёс яму шчэпаць солі, але гутарку болей не пачынаў, бо цяжка было на сэрцы ад яго выгляду. Ён казаў, што ў яго палку пасля бою 7 жніўня мала хто застаўся з другога папаўнення, з якім яго прыгналі.

*18 жніўня.*

Дождж, мокра, сцюдзёна. Пайшоў я з пазіцыі за ганей трое ў пусты дом пагрэцца трошку Дзверы адчынены, пуста, але чую: у задняй цёмнай каморцы нешта робіцца… Схапіўся за кінжал, асцярожна гляджу: аж мізэрны пехацінец, з цыфрай 106 на пагонах, капаецца лапатачкаю ў зямлі. Цягне адтуль вялікае бярэма рознага рыззя, завязанага ў посцілку, і поркаецца ў ім.

Сорамна і гідка: гэта шакал. Я яму нічога не сказаў і павярнуўся на мысічках назад. Аж улятае аграмадны чорны бусайла (таксама 106) і клапатліва, практычна басуе на парозе: «А шчо, нэма часом хусточкы?» Паскудства.

* * *

*19 жніўня.*

У чатыры гадзіны дня бухнулі першыя стрэлы нашае батарэі ў адказ на агонь ворага. Наш трэці бой.

— Трацілавай гранатай! беглы агонь… Агонь!!!

Бух-бух-бух!.. Зашумела, загудзела, паняслося. За колькі секунд: тах, та-ах, тах! — удачныя разрывы.

Запісваю каманду і ў перапынках (у другім аруддзі затрыманне: гільза не вылязае) паспяваю запісваць у сваю запісную кніжку. Нас не абстрэльваюць, і стралянне мне падабаецца: у ім ёсць сваё хараство. І тож быццам радасць чуецца ў батарэйцах, што аднатоннасць астатніх дзён урэшце ажывілася, неазначанае чаканне скончылася. Дождждык троху пакрапіў, сціх.

— Прыцэл 150… Страляць праваму аруддзю… Трацілавай гранатай… — чую з тэлефоннай трубкі. — Гатова?

— Гатова!

— Агонь!!

Няўжо бой разгарыцца? Наглядальны пункт недалёчка: у высачэнным насыпе недабудаванага жалезнадарожнага мосту. За тоўстай каменнай сценкай мосту — акоп пад трыма радамі накатнікаў. Моцная штука! Там сядзець бяспечна. І той акоп капаў уранні і я, бо знаходзіўся тады на наглядальным пункце. Нашто адаслаў мяне старшы сюды на батарэю? Тут для тэлефаністаў не акоп, а яма.

— Падрыць хабаты!

Артылерысты шыбка падрываюць хабаты (заднія канцы гармат), каб джэралы яшчэ вышэй задраліся ўгару. За пільнай працаю знаходзяць час пажартаваць, спрачаюцца, смяюцца і віртуозна лаюцца. Я ўжо звыкся з іхнай мацяршчынай: Беленькі ўламаў-ткі мяне «наплюваць». Дождждык зусім прапаў. Троху бліснула сонейка; хмарныя аблокі разбягаюцца з неба. Трэці наш таварыш, флегматычны кастраміч Пашын, прынёс тым часам поўнае вядро згатаванай з свежаю парасяцінаю бульбы. Кухавар з яго добры. Але есці няма часу: ізноў каманда. Застыне бедная бульба. А без солі, якой ужо няма і ў батарэйцаў, зусім будзе нясмачная. «Братцы, давай напераменку!» — раіць Беленькі.

«Жары!» — жартаўліва падштурхвае мяне локцем, аддаючы пяршынства. Жару, аж санкі трашчаць. «Хавай сваю кніжку, а то прачытаю!» — «Не, браце, дудкі! Схаваю ў халяву». — «Калі-небудзь дабяруся». — «Хіба ў Смаленску». Далей за бульбу бярэцца маўкліва-паважны Пашын. Беленькі будзе есці, калі ўсе наядуцца, — далікатны чалавек!

— Па адступаючай пяхоце! Ровень болей: ноль дзесяць… Батарэя гатова?

Мы маўчым, не ведаем, што адказваць. Пытаемся на батарэі.

— Падрыць! — раве тэлефон. — Батарэя гатова?

— Не, яшчэ не гатова, — адказваем нарэшце.

— Я сказаў падрыць, а яны расселіся! — раздаецца свірэпы голас старшага са словамі камандзіра (усё перадаецца так, як кажа камандзір).

— 6-е, 7-е і 8-е гатовы, — даём адказ.

— А 5-е?

— Не…

— Страляць шостаму. Агонь!!

Ізноў каманда: падрываць!.. Але ўжо няма як: правідла замінае (палка, якою паварачваюць гармату).

— Барзджэй, барзджэй, а то вораг уцячэць… не паспееце даць яму ў патыліцу гранатай, — галосяць з наглядальнага пункту, перадаючы словы камандзіра.

— Агонь!!

Бух-бух-бух!..

А збоку дзесь далікатней троху пяе кулямёт.

Т-т-т-т!..

Б'ём аж на 6 вёрст. Жэрлы гармат глядзяць прост у неба. Гэта ці не першы раз у нашай баявой практыцы.

Але патроху кананада сціхае. Батарэйцы, ажыўленыя, пабаўленыя, адпачываюць. У акопах мокра, гразка. На зямлю сцелецца цямнота. Мінут цераз 20 пасля пальбы прыбягае, высалапіўшы язык, уваўрэлы ардынарац 2-га дывізіёну: камандзір просіць нас не страляць, бо мы… *паражаем сваю пяхоту*. О, пракляты, як плашкаю бахнуў па цемені.

— Чаму ж ты пехатою?! Дзе твой конь?! — гатоў разарваць яго наш заўсёды спакойны капітан Смірноў.

— Пада мною забілі каня…

— Мы, вашродзь, не паражалі… у нас прыцэл і ўравень… не таго… — мармыча арудзійны феерверкер Гладкоў, каб палягчэла хоць троху.

А з наглядальнага яшчэ пытаюцца:

— Батарэя гатова?

Адказваем:

— Мы паражаем сваю пяхоту.

Мёртвая ціша ў тэлефоне.

— Добрую работку зрабілі, калі сваю пяхоту… — крыва ўсміхаецца капітан Смірноў і сам бяжыць гаварыць па тэлефону. «Камандзір пайшлі на батарэю», — перадае старшы.

А можа, дывізіённы 2-га дывізіёну памыліўся? Будзь проклята вайна! Цёмна пісаць.

*20 жніўня.*

Усяго выпусціла наша батарэя ўчора, па маіх запісах каманды, — 1012 патронаў. «Спачатку крылі ўфімцаў, потым перанеслі на ўральцаў», — жартуюць салдаты. Сваіх пабілі…

Сёння цэлы дзень хмарна. Праляцела граза. Быў дужа вялікі гром, маланка свістала бесперастанку. Дождж заліў нашу яму. Рабілі новы акоп. Я з духу выбіўся. У Беленькага забалеў жывот: ці не надарваўся толькі, цягаючы з жалезнае дарогі шпалы? Але ж і акоп збудавалі — «маё пачценіе», як кажа здаволены Пашын.

Увечары — ціха, ціха, як макам сеяў. Месяц поўны. Свежа-сцюдзёны. Жуpавы ляцелі: «Кур-кур… Кур!» Беленькі пачуў іх курканне і заплакаў, зусім расклеіўся наш мілы жыдзе. Кідаем усё і пры свечцы гуляем у новым акопе ў карты. Акоп — як дом. Беленькі ўжо рагоча, цалуе мяне… «Гэта ў мяне ад бульбы жывот балеў дужа, аж да слёз». — «Сказывай бабушкіны сказкі», — бурчыць паважны Пашын.

Яшчэ пара слоў. Сёння я бачыў нашага камандзіра ў іншым асвятленні. Я чуў, як ён сказаў афіцэрам: «Забіты нямецкі салдат абгарэў, троху падсмажыўся. Падышла свіння і выела яму нагу. Адным словам — свая сваіх не пазнаша». К чэсці афіцэраў, ніхто не засмяяўся. Мабыць, і камандзір сказаў не шчыра, а для падняцця патрыятызму. Гідка!

*21 жніўня.*

Цэлы дзень ціха. Адпачываем на той жа пазіцыі. Прыязджаў наш дывізіённы. «Біце немцаў і заўтра так, як білі заўчора, — казаў ён нам. — Дзякую, братцы, за маладзецкую работу! Страты ў нас маленькія, а немцаў пабілі шмат». «Каб ты спох з такою работаю, калі праўда, што і сваіх пабілі», — сказаў Пашын.

Немцы адступілі — «Абамунічвай!». Перадкі ўжо прыехалі на батарэю.

# Аленбург

*22 жніўня.*

Цэлую ноч ехалі, пад заліўным дажджом, на паўноч-усход і паўдзён-усход, але ўсход і ўсход… Што гэта: адступаем ці на адпачынак едзем? Ніхто нічога не кажа. Праязджалі мястэчка… ці не Аленбург толькі? Бо нешта знаёмае. А брудна, цёмна, сцюдзёна, хмарныя аблакі раздзіраюць неба.

*23 жніўня.*

Ехалі-ехалі, нарэшце сталі на пазіцыю недалёка ад Аленбурга. Я не памыліўся, учора начою былі ў ім. Значыцца, троху адступілі? Гм! Але зрабілі акопы, выспаліся.

Яхімчык сёння ў добрым гумары. Пагаліўся маім галяком і разгаварыўся аб сваім хатнім жыцці.

— Усягды я толькі сварыўся з сваім бацькам, — кажа ён.

А сыноў у яго бацькі, беднага хлебароба, было многа — «сыноў як сакалоў», — а падмогі няма. Усе распаўзліся па свеце. Было Яхімчыку 15 год, заманулася і яму ісці ў шахты — «зарабіць на сябе капейку». Бацька плача, кляне яго. Але пашпарт мусіў даць. Вярнуўся Яхімчык з шахтаў, бацька ізноў плача, але з радасці. Толькі ў той жа дзень пасварыліся… Жаніцца задумаў — сварыліся, вяселле гуляў — сварыліся, пажываці сталі — сварыліся, на вайну ішоў — плакалі і сварыліся.

— І як яно тое выходзіць, што заўсёды мы сварымся? — дзівуецца Яхімчык.

Я не ўмею адказаць яму, але бачу, што Яхімчык даў сабе зарок не сварыцца з бацькам, калі вернецца з вайны. І я кажу:

— Ну вось, пабудзеце на вайне, вернецеся — перастанеце сварыцца, дык і не будзеце сварыцца…

— Та воно ж діло такэ…

А я сабе думаю: «Діло такэ, што хіба ўжо не давядзецца табе сварыцца з бацькам, мой мілы Яхімчык, бедны ты незаможнік, шахцёр і царскі салдат…»

*24 жніўня, нядзеля.*

Што-та дзеецца ў нас у дварэ? Даўно не маю ад іх ніякай вестачкі. Івана, пэўна, забралі на вайну як запаснага. Аба мне клапоцяць. Вот-то наплачацца наша бедная мама.

Сяджу ў акопе на прыступачках уваходу і куру цыгару, наеўшыся бульбы ў 8[-м] аруддзі. Там завяліся ў мяне прыяцелі. Я ўсё болей пазнаю сваіх батарэйцаў, хаця многіх яшчэ не знаю па прозвішчы. Усе салдаты са мною добрыя і чым могуць абляг-

чаюць мне цяжар вайсковага жыцця на вайне. Яны думаюць, што мне, як навічку і вальнапісанаму, асабліва цяжка. Між «паноў» няма столькі вялікіх душ, колькі ёсць у «простым» народзе.

Уранні піў дрэннае какава без цукру. Потым перакрылі з Пашыным акоп. Насыпалі болей зямлі на грубейшыя дошкі, пакладзеныя ў тры рэдзі крыж-накрыж. Лёгкі снарад, мажа, і не праб'е.

Крычалі «ўра». Нашым войскам узяты Львоў. За тое, што марудна збіраліся і строіліся, камандзір крыкнуў: «Зажырэлі!» Ён прачытаў тэлеграму Рэненкампа і сказаў: «Спадзяюся, што і мы не застанёмся ад сваіх баявых таварышоў». Значыцца, мы засталіся …ці што? Наіўны і з маладым для афіцэра языком падпаручнік Іваноў, як бы ў адказ на мае думкі, сказаў мне мімаходам у размове: «У нас вось не клеіцца».

Нядобрая трывога чуецца мне ў яго словах.

*26 жніўня.*

Учора рабіў план пазіцыі, не меў часу пісаць. Учора і сёння лятаюць аэрапланы. Пяхота наша абстраляла свой жа самалёт. Лётчыкі мусілі спусціцца.

Рысаваўшы ў канцылярыі батарэі павялічаную копію нашага адцінку пазіцыі з карты 2-вёрсткі, я адным вокам прагледзеў у камандзірскай газеце «Свет» тэлеграму аб тым, што ген. Самсонаў загінуў, страты нашы вялікія… Ці няма тут сувязі з словамі падпар. Іванова: «У нас вось не клеіцца»? Камандзіру, як прыйшоў, не спадабалася, што перад маімі вачмі ляжыць «Свет»! Але ён сёння наогул не ў гумары: дзяншчык згубіў у дарозе яго прастрэлены і падраны ў баі 7-га жніўня мундзір, дарагі байцу як памятка. Планам маім ён не дужа здаволены, бо я рысую, як каморнік, а не вайсковы спецыяліст. Мне гэта надта прыкра, бо я паважаю гэтага нервовага чалавека і хачу дагадзіць яму сваёю работаю.

Цэлы вечар і ноч чакаем бою. Я дзяжуру пры тэлефоне на батарэі. Сон размарыў мяне, сяджу і ківаюся. А легчы з трубкаю баюся: засну як забіты.

* * *

*27 жніўня, ранне.*

Першая батарэя пачала страляць у 7 гадзін рання. Наша — пазней.

Туман, сцюдзёна, чырвонае сонейка з-за лесу выходзіць, гарачы дзень нам дакляруе… Пішу ўвечары.

Доўга мы толькі слухалі, як з правага боку ў нас першая батарэя пушчае залп за залпам беглым агнём. Прыемна было слухаць.

Потым забухалі нашы батарэі з усіх бакоў, паляцелі цераз нас першыя нямецкія снарады і крышылі той лясок, за якім стаяў наш абоз першага разраду і куды я хадзіў у канцылярыю. Там жа, дзесь недалёчка, былі і нашы перадкі. Потым перадкі пад’ехалі бліжэй. Далёка спераду ў нас затрашчэлі кулямёты, зашпокалі вінтоўкі, усё часцей, часцей — і загудзела ўсё, як 7-га жніўня.

Ужо нам было брыдка і цяжка чакаць і не страляць. Нарэшце прамчаўся верхам наш камандзір, знедкуль з поля, на макрусенькім кані, кінуў каня на батарэі, каб вялі яго да перадкоў, пашаптаўся з капітанам Смірновым і шыбка пабег на наглядальны пункт. Цераз мінутку мы палілі і ўжо палілі да вечару. Не было ўжо ні цікавасці, ні захаплення, а толькі — упорчывая, напружаная і якаясь злая праца. Ці што доўга не стралялі перад тым, ці што адпачылі, ці што не хочацца адступаць, але ўсе як бы змовіліся акамянець у гэтай стараннай і злой, напружанай страляніне.

Снарады засыпалі батарэю, цяжкія, незвычайнай, нябачнай сілы…

Асколкі шмат разоў перабівалі нам кабель. Хадзілі злучаць па чароду — усе пабылі на валасіначку ад смерці, бо звязваць прыходзілася на гладкім полі пад страшэнным абстрэлам. З Беленькім пасля пятага бегання злучаць парваны провад была істэрыка. Прыбегшы, ён кінуўся ў акоп на дно, ёрзаў на спіне і як бы хацеў урыцца ў зямлю, галасіў, крычаў, лаяўся. У гэты час аглушаючы ўдар цяжкага снараду за два метры ад уваходу ў наш акоп адабраў нам прытомнасць… Зямля здрыганулася, як жывая. Тэлефон змоўк, трубка выкацілася з маіх рук. Пасыпаліся камкі зямлі, нас абняло курам і густым, чорным смярдзючым дымам. Батарэйцы 1-га аруддзя беглі цягнуць нашы трупы з ямы. Аж мы патроху выпаўзаем самі… Яны засмяяліся і павярнуліся назад. На гэты раз быў мой чарод шукаць, дзе парваўся кабель. Я пабрыў, паглядаючы на дрот, як абрэчаны. Ізноў бухнуў снарад — адзін спераду ў мяне, другі — ззаду, у 1-е арудздзе. Людзей размяло каго куды. Я таксама zаваліўся, але чаго — не ведаю. І балазе так зрабіў: асколкі зазвінелі вышэй, над галавою, а два канцы дроту я ўбачыў перад самым маім носам. Атупеўшы ад страху і быццам трошачку зрадзеўшы, неслухмянымі пальцамі

шыбка, збольшага — скруціў, скруціў… бо вузел не вязаўся. Пайшоў назад. Хачу шыбчэй — ногі як калоды. Пашын радасна махае рукою: тэлефон загаварыў! Няведамая сіла падхапіла маё цела, і ногі, як на спружынах, кідалі мяне бліжэй і бліжэй да ратунку — акопу. Батарэя пачула каманду — страляе. Толькі я ўкінуўся ў уваход акопчыка, як — гкрэх!!! — там, дзе я толькі што вязаў кабель, аграмадны стоўп чорнага дыму і камы дзірвану ляцяць высака ўгару… Флегматычны Пашын збялеў, як палатно. Без слоў перадае мне трубку і паважна сягае спаўняць сваю павіннасць па чароду. «Божа, ратуй яго! Божа, вярні яго!» — незвычайна напружаемся мы ў адным жаданні, не разважаючы, ёсць такая сіла ці няма такой сілы, што магла б уратаваць яго.

— Будзь проклят Вільгельм і кожны, хто хоча вайны! — шалёным голасам, над вухам, крычыць мне Беленькі і перадае з трубкі камандзірскую каманду: — Два патроны, беглы агонь… Агонь!

— Агонь!! — праразлівым, нялепым, дзікім матам крычу я каманду на батарэю.

— Агонь! — спакойна камандуе капітан Смірноў, вымаючы папяроску з зубоў.

Батарэя грукоча. Увушшу звініць, галава баліць.

— Вальнапісаны! Не крычыце так каманду, бо самі заглушаеце свае словы, — спакойна асаджвае мяне капітан.

Нервы супакойваюцца. Пашын вярнуўся. Але ў яго на вачах слёзы: ездавому (не ведаю прозвішча), яго блізкаму земляку, паднасіўшаму на батарэю снарады, вялікі асколак распароў жывот, і выпалі кішкі.

— Дзе ж ён, твой зямляк? — па-дурному пытаюся.

— Ці ж не бачыш?

Ай-ай, ля самага ж акопу фельчар з чырвоным крыжам на рукаве і сам той паранены піхаюць сінія брудныя кішкі назад пад гімнасцёрку. Пашын з сілаю швіргае ў акоп жоўтую скураную торбачку з прыладамі для звязвання кабеля — і хапаецца туды, дзе ў яго земляка вывальваюцца кішкі. Але няшчасны ўжо скаручыў нямытыя рукі на грудзях і відзіма-відзіма сінее, чарнее… Фельчар хрысціцца, Пашын таксама і абцірае слёзы рукавом наодмах, як адганяючы мух. Мне на гэты раз хочацца зрабіць, як і яны, ды рука не паднімаецца: я веру і не веру, што над гэтымі парванымі кішкамі ёсць нешта, што завецца Богам.

Увечары старшы сказаў нам, камандзе тэлефаністаў, пастроіцца. Пастроіліся, чакаем. Прыйшоў камандзір, паздароў-

каўся, падзякаваў за «маладзецкую работу» і, пад канец, асабліва ўрачыстым голасам абвясціў:

— Віншую, братцы! Усе будзеце прадстаўлены к Георгіеўскім крыжам.

Старшы пасля паясніў, што мне, Пашыну і другім тэлефаністам будзе крыж 4[-й] сц[епені], а яму, старшаму, і Беленькаму, прадстаўленым ужо к 4[-й] сц[епені] за 7-е жніўня, будзе 3-я сцепень.

Потым камандзір пайшоў рабіць тую самую цырымонію з выбранымі з усяе батарэі (мы строіліся асобна на наглядальным пункце).

А я сядзеў і горка разважаў: «Якія ж мы героі… Георгіеўскія кавалеры? Каб не баяліся кары, каб не вайсковая дысцыпліна, ніводзін бы з нас, ні я, ні Пашын, ні Беленькі, пэўна, з месца не зрушыліся б. Дый хадзілі па чароду, часам войстра спіраючыся, каму ісці…»

А Беленькі ўжо пабрыкваў, як дзіця, і лез цалавацца. Пашын, як сціплы мужычок, ззяў нутраною радасцю, што ён цяпер будзе георгіеўскі кавалер і такім прыедзе ў сваю вёску ў Кастрамской губерні; толькі часам хмарнеў ён, адвярнуўшыся, хрысціўся і ўздыхаў: «А-ах… царства нябеснае!» І клапаціўся, каб на магілцы сябра паставіць канечне бярозавы, з сырога дрэва, добры крыж. «А вы напішаце на ім», — прасіў мяне. «Добра».

## Уцёкі

*29 жніўня.*

Не давялося нам — ні яму ставіць, ні мне надпісваць… 27 жніўня, аб 11–12 гадзіне ўночы, толькі я сцёпліўся на сон градушчы — трывога: знімаемся з пазіцыі. Ехалі ноч, учорашні цэлы дзень, едзем сёння… Па маім компасу выходзіць: поўначусход, паўдзён-усход, але ўсход і ўсход… Што? Чаму?

Едзем хутка, спыняемся мала, не болей як на хвіліны тры, часам пяць — і зноў едзем, едзем і едзем…

Няўжо адступаем? Едзем, а ззаду ў нас, дзесь далёка, не сціхаючы грыміць кананада.

*31 жніўня.*

Адступаем… Едзем дзень і ноч, з рэдкімі, невялічкімі прываламі. Ай, як жа хочацца спаць. Сіл няма. Хай дагоняць, заб'юць, толькі б легчы і задрамаць на траўцы пад дрэвам… Сіл

няма ісці, а садзіцца нам, тэлефаністам, забаронена. Адзін ездавы зваліўся, задрамаўшы, і трапіў пад колы гарматы. Шчаслівы! паклалі ў санітарны фургон, — там выспіцца ўсмак. Мой добры геній Яхімчык. Калі старшага блізка няма, дазваляе мне праехаць трошку на яго двухколцы, а сам злязае, быццам дзеля фізіялагічнае патрэбы. На прывалах пішу, каб не заснуць. Але рука і мазгі не слухаюць мяне.

Начою свецяць пражэктары з усіх бакоў. Часцей і часцей палыхаюць зарывы.

Глуха гудзіць кананада, але дзе — няможна ўлавіць.

Даганяем якіясь даўжэнныя абозы. Разы тры мы ўжо мусілі абхадзіць іх па полі, па раллі, па канавах. Яны загарадзілі дарогу і цягнуцца, як чарапахі.

З’явілася пяхота. Сыпле ў беспарадку…

Гавораць аб разбітых немцамі абозах, аб кінутых фурманках, зарадных скрынках — і ўратаваных дамскіх шаўковых нагавічках, блюзках, сярэбраных нажах і відэльцах, награбленых марадзёрамі, галоўным чынам, абознікамі.

Занялі былі пазіцыю. Цераз паўгадзіны кінулі і паехалі яшчэ шыбчэй… Мы ўцякаем, мы бяжым… А дзе ж вораг? Яго няма…

Вось і Вержбалова! Граніца. Эх!

З’явіліся масы пехацінцаў-«шатуноў», што згубілі або кінулі свае часці. «Ратуйся, хто можа!» — цынічна кажуць яны і бягуць, бягуць на ўсход. Не армія, а зброд. Камандзір наш то маўчыць, сцяўшы зубы, то кідаецца на «шатуноў» з бізуном. Іх ловяць, збіраюць дзесяткамі, ставяць ім начальніка і гоняць пад даглядам. Яны ўсё роўна разбягаюцца, каб дзе «зарваць» што з’есці.

У Расіі пасля Нямеччыны я чую сябе… быццам выйшаў з нечага душнага і такога, дзе ўсё-ўсё вядома і няма паэзіі, і выйшаў на свежае, вольнае і ўбогае паветра…

Хочацца і ў Расіі, тут, бачыць гэтыя зручныя, з прысадамі шосы, прыгожыя цагляныя хаткі (і іншае і іншае — абраз нямецкага поля стаіць у вачах: дрэнаж, раскіданыя ля свежае канавы дрэны, культура), але каб і наш прастор захаваць, паэтычную шырыню і волю лясоў, лужкоў. Ці гэта прызвычаенасць да свайго? Ці гэта дзве душы ўва мне — усходняя і заходняя? І сумна, чагосьці лепшага хочацца, і здаволены, што вырваўся з духаты.

*2 верасня.*

Пішу ўвечары на біваку. Прыехалі разведчыкі. У аднаго ранен конь. Бачылі непрыяцельскую кавалерыю і ланцугі непрыяцельскае пяхоты за м. Шумскам… значыцца, вёрст пяць ці меней за намі. Гарматы заўзята грымяць. Дзе?

Жыхары-жмогусы выязджаюць. Надвор'е хмарнае. Часта курыцца дожджык. А яны не заўважаюць прыкрай бязгодзіцы. З фурманак валіцца ў гразь дрэнна ўпакаваны ўбогі скарб — паднімаюць як аўтаматы, бо прыдушаны ліхам. Гоняць скот. На вазах варушацца і скігочуць невялікія парсюкі. З мяшка вывалілася булка хлеба.

— Эй, дзядзька! Хлеб згубіў!

Паднімае і, не абцёршы, кідае на воз. Хацеў я купіць у гэтага і ў многіх, — адзін адказ: «Нейра» (няма). Жанчыны плачуць.

Туман, дымна, макрава. Паляцца вогнішчы. У балоце ўтапіўся салдат-абознік з возам. Сам выкараскаўся, а конь, кінуты, захлябнуўся.

Лаянка з жыхарамі за бульбу, за яблыкі. Хлеба не маем 4-ты дзень. Есці хочацца, у жываце нудна.

Бравы чырвоны казацкі афіцэр праляцеў на жывым, як агонь, коніку. Крычыць:

— *Ребята! Немец прёт назад, отступает! Не падай духом!*

Ніхто яму не паверыў.

— Бач, які сыты, нажраўся… Не падай духам, — бурчыць наш запаснік, туляк Ізотаў.

А нейкі пехацінец, ні на кога не гледзячы, закідвае мнагазначныя словы:

— У Расіі людзей многа, трэба іх перагубіць, каб…

Што — каб, ён не паясняе, але і так ува ўсіх расце небяспечная для такіх парадкаў злосць.

Адно праўда: у нас ёсць «*господа офицеры*», ды няма палкаводцаў. Таму такое адступленне.

Уцёкшыя з палону кажуць, што Ваўкавышкі набіты мірнымі бежанцамі, а нямецкія салдаты ўсё ламаюць, усюды шукаюць, у скляпах, у падвалах. «Мы з імі *культурылісь*, а яны з намі свінячуцца», — хто гэта сказаў? Ці, можа, я сам выдумаў? Не ведаю. А ўсе — скаты двухногія. Хай жыве вайна — знішчэнне скатоў скатамі! Мы не людзі, мы — быдла…

Здурнеў пяхотны капітан з нашага батарэйнага прыкрыцця. Стаў лаяцца самымі бруднымі словамі, гэтак жа лаіць Бога, нанасіць сабе раны. Яго звязалі.

Бясконца пруцца абозы. У дактароў і чыноўнікаў у руках рэвальверы: пракладаюць, махаючы імі, дарогу сваім мнагацэнным фурманкам.

— Абоз, ну-ну наперад! Едзь, абоз! Застрэлю, хто загародзіць дарогу! Артылерысты, пасунься ўбок.

Наш камандзір неўспадзеўкі вынырнуў:

— Тут няма германцаў. Нашто ў вашых руках я бачу рэвальвер?

Спалоханы чыноўнік без адказу хапаецца «пад казырок». Дзедка на бабку, бабка на ўнучку, унучка на сучку…

*3 верасня.*

Уцякаем далей на ўсход. Каторыя гэта суткі? Чацвёртыя ці пятыя? Не ведаю таксама, які сёння дзень.

Праязджалі вялікі сумны лес; многа грабу, елкі. Ледзьва чутны тут праследуючыя нас глухія гарматныя стрэлы.

Вялікі прывал! Наўкол — шырокае жмудскае поле, цёмназялёныя хутаркі («калоніі»). Зморaны валюся на зямлю. Хочацца есці. Кансервы старшага не дзеля мяне… Ён жарэ, схаваўшыся, а ў мяне няма. Запаснік-пехацінец нясе хлеб. «Дзядзька, стойце! Вазьміце колькі хочаце, дайце маленькі кавалачак!» — «Вы, батарэйцы, з голаду не здохнеце. Мяне цэлы ўзвод чакае». Ай, што мне рабіць, мне страшэнна хочацца есці. Сёння і ўчора батарэя без абеду. Беленькі раіць смактаць цукар; у яго знайшлося два кавалачкі.

Сонейка заходзіць. Шумяць, адступаючы, масы людзей, вазоў, коні, гармат.

— Вярнуся я ўва Уладзівасток, — раздумана разважае прыгнаны нядаўна з запасу батарэец, быўшы прыказчык гандлёвай фірмы. — Вярнуся я к Шорыну… Абед на тры стравы… Дзве астатнія — налюбкі, выбірай якую хочаш.

— Чорт далікатны, чаго заманулася.

— Калі немец не забіў, лепей застраліцца, чымся так мучыцца…

— Дурная твая гаворка.

— Ідзеш-ідзеш, а есці нечага…

— Змоўкні!!! тты… халера!

А я смакчу кавалачак цукру, што даў Беленькі, але есці яшчэ болей хочацца, і я таксама кажу ў думках на гэтага прыказчыка: «Змоўкні ты, халера, з сваімі стравамі налюбкі!»

* * *

*4 верасня.*

Нарынулі ўспаміны аб сваёй роднай снежнай зіме са скрыпуча лёгкімі санкамі на замеценай дарозе, з зялёным сенам у яслях у пуні, дзе грэюцца, спусціўшы галовы, нашы гнядыя коні. Прыемна яно. На вайне я люблю яго, далёкае, роднае. А тут так цяжка… Чаму? Што хлеба няма? Ці што людзі — не людзі, а быдла? І таму, і таму, і таму…

Недалёка, кажуць, Коўна. Вёрст 15–20. Едзем на пазіцыю. Ізноў круцяцца над намі нямецкія аэрапланы. А дзе ж вораг?

## Нёман

*9 верасня.*

Чатыры дні не пісаў…

Перапраўляемся ізноў з Віленшчыны ў Сувальшчыну. Назад за Нёман. А ў Віленшчыну пераправа была ўвечары ці тое самае што ўночы, з 6-га на 7 верасня. Апішу, як гэта было.

Выехалі з Петкялішак у паўноч 5–6 верасня. Доўга, бясконцу доўга, цялёпаліся ў гразі, пакуль развіднелася. Быў вялікі вецер.

— Куды ў гэтакую процьму?

— За Нёман!

Цераз Мазурышкі, Дарсунішкі — паехалі… «К бесу ў кішкі!» — лаюцца і жартуюць азызлыя ад холаду батарэйцы. Абедалі на прывале.

Увечары пад распраклятым дажджом прыцягнуліся к Нёману. Стаялі… Пасунуліся трошку… Ізноў стаялі… Нейкія хаты пры дарозе; за адною хатаю здыхае конь.

Позна пачалася пераправа цераз Нёман. Круты спуск, гразь, холад, вецер з дажджом — і цёмна, ні ліха не відаць. Загразла гармата — на табе! З сілы выбіліся батарэйцы. Цягнуў і я — па калені ў нейкім жыдкім і ліпкім месіве. Ахрыплы паручнік-мацяршчыннік:

— Цягні, цягні!! — і ўсё лаецца.

«Цягні сам, каб табе скулле ў глотку! Сам на кані гоцаеш ды бізуном трасеш. Во схопім і кінем торчма галавою з кручы ў Нёман, каб ты змоўк навекі. Наўкол чорна, як у тваёй душы: ніякі чорт не ўбачыць».

Мусіць, адчуў нашыя думкі, ад’ехаў, кінуў адных. Балазе-ткі выцягнулі без яго лаянкі. Пяхота шлёпала, шлёпала, учапілася, як саранча, — памагла.

Узлаваны Нёман. Хвалі плешчуць і абдаюць зімовай сцюжаю. На пантонах — апалчэнцы, барадатыя дзядзькі з крыжамі на шапках. На тым беразе — вогнішчы. Нёман тут ушыркі сажняў 60–70. Мераў, ідучы, на сігі.

Абаграванне. Шуканне, дзе б як абначаваць, каб хоць трошку ў сухім. Горкае пачуццё пад дзвярмі вялікага дому, занятага «гаспадамі афіцэрамі». Можна б было дзе-небудзь там прытуліцца — запёрта, не пускаюць… Сон на мокрай зямлі пад дзіравым брызентам, па якім б’юць дажджавыя каплі, як у бубен.

Уранні мясіў гразь па мясцечку, каб знайсці хоць якое-небудзь сабачае едзіва. «Нет!» — «Нема!» — «Нейра!» Салдатаў поўна, не прайсці. Розныя вайсковыя часці, драгуны, конная гвардыя, «арыстакраты». І пяхота, як гразь, заляпіла ўсё. А дождж, балота. Убогія, нешчаслівыя старыя жыды стаяць, як хворыя, ля сваіх зачыненых або і забітых дошкамі крамак… Ой, булкі, булкі!!! Расхапалі… Глядзі ды аблізвайся. Жанчыны-ліцвінкі ідуць і плачуць. І плача-мяўкае на званіцы іх каталіцкі звон. Касцёл. Грудок гэтых жанчын на каленях. Ксёндз — як старэнькі галодны акцёр.

8-га верасня, учора, пісаў лісты. Насіў у канцылярыю і чуў там ад малодшага пісара, што падпалкоўнік Гноеў казаў, быццам вайна працягнецца найболей — два месяцы. А там — мір і на зімовыя кватэры… Якое шчасце!

Усе салдаты казалі, што два тыдні будзем тут стаяць, бо Аўстрыя ўжо просіць міру. Я не верыў, але так хацелася верыць. Ах, каб праўда! Ах, каб так!

А тым часам я шлындаў галодны. Найшоў на нашых батарэйцаў, што гулялі ў карты, схаваўшыся, каб хто не ўбачыў. Запрашалі мяне. Адмовіўся. «Які ён, чорта, вальнашляючы: у карты не гуляе і грошы ні хваробы не мае…»

Увечары, неўспадзеўкі, выехалі на пазіцыю, недалёчка адгэтуль, і да паўночы капалі акопы. Перад тым як спаць, тэлефаністы яшчэ паспрачаліся аб грыбах (побач — магутны лес) і аб цыганах (пехацінцы злавілі нейкага няпэўнага на выгляд цыгана).

Сёння, 9-га верасня 1914 года, у аўторак, уранні, бульбу варылі, накапаўшы ў пустым маёнтку нейкага пана-паляка. І мутную бурду з прасаванае гарбаты пілі. Без цукру, бо яго маюць толькі афіцэры і іхныя дзеншчыкі.

Не паспелі мы аблізацца — «Абамунічвай!».

Ізноў паехалі на той бок Нёмну.

Тады перапраўляліся начою, цяпер — удзень. Памылі ў Нёмне рукі і боты. На беразе, дзе я мыўся, дужа смярдзела ад здохлай цёлкі. Рунь сялянская змешана з гразёю, нічога тут налета не вырасце. Перад намі была незвычайна прыгожая відаль. Унізе — яшчэ макрава ад марозу, а верхавіны дрэў ужо абліты баграю восеннага сонца.

І сёння трапіў я на бунтаўніцкую гутарку нейкага прыгнатага надоечы кудлатага запасніка.

— Дурні мы ўсе, вось чаму нам трудна і мы тут цягаемся…

Салдаты сапраўднае (па-расійску — «действительной») службы з патрыятычным задорам зараз асадзілі яго. Але як бы і сорамна ім было, як бы і чулі троху сябе дурнямі…

* * *

*10 верасня.*

Пішу пасля галоднага абеду галодны і грэюся ля вогнішча.

Начою зараўлі: «Абамунічвай!» Гадзіны ў дзве. А потым прамучылі ў няведамым чаканні і выехалі толькі ў гадзін пяць.

Ізноў назад за Нёман. Нейкае пракляцце турае нас з берагу на бераг. Гэтае пракляцце, урэшце, падае свой голас: вёрст за дзесяць перад намі загрукаталі даўна не чутыя нямецкія гарматы.

Раніца была незвычайна харошая на Нёмне-рацэ… Панарама чыстая, ясная, толькі Нёман унізе дыхае густою, белаю і сцюдзёнаю, параю. Мыцца яго вадзіцаю было дужа прыемна.

*13 верасня.*

Учора, 12 верасня, пасля паўдня, на падворку хутара, ля хаты, гледзячы на ўсход сонца, прыняў я прысягу «на вернасць цару і ацечаству». Даволі мізэрненькі вайсковы попік, немаладых лецяў, пасля кароткай працэдуры, шчыра ці няшчыра, расчуліўся, абняў і пацалаваў мяне, вітаючы «высокім званнем воіна яго імператарскага вялічаства гасудара імператара Мікалая Аляксандравіча, нашага добрага, кроткага цара-бацюшкі…». Калі ён гэта мне ўкладаў, я чамусьці ўздумаў на наш народны погляд на прысягненне, як баіцца наш селянін усякае, самае страшнае, кары за зламанне прысягі. Аднак, бывае, прысягаюць і фальшыва…

Да гэтага часу я служыў без прысягі, як «малады салдат». Учора ж мяне наградзілі і першаю нашыўкаю (быў кананір, зрабіўся бамбардзір).

— Будзь стоек у баі і міласціў к ворагу! — казаў мне добры попік.

«Буду… мне цяпер усё роўна».

Хадзіў потым за камандзірам батарэі з бусоллю. Ён выбіраў лепшую пазіцыю. Калі вярнуліся назад, камандзір убачыў, што батарэйная прыслуга аднаго аруддзя, замест паляпшаць бліндажы, спіць у будцы з вецця пад дрэвам (батарэя стаяла пад лесам). Ён пацягнуў бліжэйшага за ногі і, калі той усхапіўся, заспаны, з усяе сілы бэцнуў яму поўху. Другія паўскакалі самі. Ён даў яшчэ двум-тром і з пенай на вуснах, ад шалёнай нервовай злосці, крыкнуў перарваным, дрыжачым голасам:

— Вораг на носе, а яны дрыхнуць!

Яму было дужа прыкра, што так зрабіў. Я бачыў па яго вачах. Калі ён схаваўся ў сваёй хаце, салдаты дражнілі пабітых і насміхаліся, асабліва тыя, што спалі ды ўцяклі. Але пабітыя, з чырвонымі ад аплявух мордамі, нядоўга былі збянтэжаны і зараз пачалі смяяцца разам з усімі. Дзіўная справа: на батарэі зрабілася як бы троху весялей пасля гэтае прыгоды.

*14 верасня.*

Вайна парушае ўвесь парадак жыцця. І ў святочныя дні бадзяемся мы тут брудныя, вашывыя, нямыцькі. Я і не ведаў бы, што свята, і дзівуюся, як аб гэтым помняць тут другія.

— У царкву схадзіць няма куды, — бядуе Пашын і лае Польшчу на чым свет стаіць.

— Дурны! Тут не Польшча, а Літва, — навучае яго Беленькі.

— Не адно ліха, — не згаджаецца ўпорчывы кастраміч. — Там касцёлы, тут касцёлы — скрозь адна Польшча і паны голеныя.

У мяне радасць: прыйшлі ад родных і знаёмых доўгачаканыя лісты, а з Вільні — некалькі нумароў «Нашае нівы». Камандзір быў якраз у канцылярыі. Ён пакруціў «Нашу ніву» ў руках, з асаблівай цікаўнасцю прыгледзеўся да мяне — і нічога не сказаў.

Радасць маю зняважыў старшы пісар Лебедзеў, калі камандзір выйшаў:

— Ахвота ж пісаць газеты на такой свінячай мове. *Ведь по-русски так легко научиться.*

Задрыжэла ў мяне ўсё ад гневу, але што я магу сказаць гэтаму чарнасоценцу, калі ён гаворыць так не ад цемнаты, а свядома і наўмысля. Пашын так не скажа.

Добра ў хаце, у канцылярыі. А на двары сцюдзёна. Вецер, як узімку. Ішоў на батарэю і па дарозе думаў: ці прыйдзе той час, што не будзе імперыялізму, нацыянальнага ўціску, багатых і бедных, сытых і галодных, цёплых і сцюдзёных, не будзе салдат, вайсковай службы, вайны? Калі наступіць гэты залаты век? Эх, вецер, вецер! Сцюдзёна, браце, жыць на свеце! Нашто і за што гадуем мы тут «звяроў»? Праклятыя казюлькі, на якую хваробу стварыла вас «разумная» прырода? Наіўнае пытанне! І Лебедзеў — казюлька, і я — казюлька, і ўсе мы — казюлькі. І тыя нашы заўзятыя «свядомыя» беларусы, якія заўсёды вытыкалі мне падобныя развагі як слабасць духу, нягожую дзеля праўдзівага адраджэнца-рэвалюцыянера, і яны самі — казюлькі…

А ўсё ж я рад, што родныя мае ўсе здаровы, што ў дварэ ўсё добра! І недарма ж мы тут ваюемся — да нечага ж даваюемся. І калі тут не заб’юць, прыйдзе пара — паваюем і за што другое…

## Паварот

*16 верасня.*

Удосвецця выехалі за Нёман. «Цяпер ідзём наступаць», — чамусь думаюць усе. Цёмна, з поля гудзе сцюдзёны восенны вецер. У лесе зацішней. Там пахне дымам. Між соснаў мітусяцца постаці пехацінцаў. Дождж. З левага флангу далятае далёкая кананада.

Дождж яшчэ буйнейшы. Стаім. Схаваўся пад сасну. Пад ёю было некалькі пехацінцаў і між імі адзін пехацінец — вальнапісаны. Ён сказаў дзіўную навіну: «З левага боку кавалак нашага фронту займае японскі корпус». Зусім нядаўнія ворагі — японцы? Дзіўна!

*17 верасня.*

Цэлы дзень залівае нас дождж, а мы едзем, едзем і едзем. На ганках пустой, кінутай хаткі стаяў вайсковы поп і баслаўляў нас крыжам, і так баслаўляў усю калону, як цягнулася міма яго. Іншыя, старанныя, падходзілі, і ён даваў цалаваць крыж і руку.

Значыцца — ідзём наступаць…

*18 верасня.*

Страшная ноч! Растаропіца непралажая, вецер ёдкі, праразлівы. То адно, то другое аруддзе топіцца. Цягнуць, крычаць, лаюцца. Трэба ўсім доўга стаяць і чакаць, покуль яго выцягнуць. Я азыз і трасуся.

— Злайся, братка, па-мацернаму, — пацяплееець, — дае мне раду старшы.

*19 верасня.*

У нас ёсць ужо новы прапаршчык, маладзенькі, толькі са школы, на прозвішча Кульгацкі. Ён загаманіў са мною па-сяброўску. На маё пытанне сказаў, што ніякіх японцаў на нашым фронце няма, — наіўна было б думаць… Ад яго ж даведаўся, што ішлі мы спачатку на м. Сімна, потым падаліся на Марыямпаль і стаім ад яго за колькі вёрст. Немцаў абходзяць, і яны сёння ў 1 гадзіну дня пакінулі Марыямпаль без бою.

Цэлы дзень ехалі па глыбокай гразі пад дажджом. Сухой ніткі не было на мне.

Праязджалі вялікі панскі двор, дзе памешчык — паляк, арандатар — яўрэй, батракі — жмудзіны. Зусім як бывае і ў нас на Беларусі. Не дзіва, што ні польскія паны, ні яўрэйскія эксплуататары не спагадаюць ні літоўскаму, ні нашаму адраджэнню. Прабудзіцца народ — і зверне ім карак… Толькі ці дажывуся я да гэтае пары, цягаючыся так, як учора? Кашаль мяне душыць, левы локаць балюча ные. І што б мне захварэць як мае быць. Скончыліся б гэтыя мукі. Будзь проклята мая доля, кінуўшая мяне на вайну… І думаю: «Саромся, браце, хоць сам сябе…» — «*Ребята, не падай духом*».

У-у! На каго сціскаюцца мае кулакі.

*20 верасня.*

Стары салдат-пехацінец разважае:

— У японскую вайну было лепей. Сібірскае начальства рупілася, каб салдат быў сыты. Прывал 10 мінут: тут табе, заехаўшы наперад, кашавары гарачую гарбату даюць, кансервы… А тут цэлы тыдзень не еўшы ідзі-ідзі, а заблудзіў у сад гнілы яблык падняць, — афіцэр цябе хлабасцінаю па галаве… гоніць, як свінню. Не даражаць здароўем салдата: як толькі дождж, дык канешне і паход. Ды ўстураць гадзін на пяць раней, чымся прыйдзецца выступіць у дарогу — стой, калей, мучайся, няведама нашто… Ці паверыце: на мне «звяры» шаволяцца, вытрываць няможна…

Веру, бо і ў мяне таксама. Ды і ўва ўсіх чыста. Сёння праязджалі мясцовасці, дзе ўжо ляжыць след гаспадарання немцаў. Мірныя жыхары страшэнна жаляцца на іхныя здзекі і грабежніцтва.

— Усё забралі, пакралі. Гусіну тваю зарэжа, і яшчэ пух ім абдзірай. Бульбы, як нашы, не капаюць: падавай ім чагось далікатнейшага — масла, яек, малака… Рылы — во! Відаць, на добрым хлебе гадаваліся, не то што мы. Усю лепшую вопратку забралі, коні забралі, кароў або парэзалі, або з сабою пагналі. Дзяўчат крыўдзілі…

— Ну, а што вы рабілі, як быў бой?

— Што? Дужа баяліся. У ямах сядзелі.

— Як пачаўся бой, — кажа стары жмогус, — пабег я цераз сад у бліндаж, што немцы нам параілі зрабіць. Бягу, а дрэвы ад трасяніны паветра так і хістаюцца. Сабачку майго забіла… Такі слаўны быў сабачка, цікавы…

— З ружжаў мала стралялі, а ўсё: бу-бу-бу! Ад раніцы да вечара бухалі, а мы сядзелі ці поўзалі, як здохлыя, не еўшы…

— Калі Бог вам дасць зайсці ў іхную зямлю, вы там так рабіце, — гаворыць з горкай злосцю нейкая маладзіца-жмудзінка, змучаная, з мутнымі вачыма. Гаворыць добра па-расійску: відаць, служыла ў горадзе.

Другая маладзіца слухае нашу польска-расійскую размову, нічога не разумее і заліваецца гаручымі слязьмі. Потым нешта з адчаем гаворыць па-жмудзінску.

— Што яна кажа? — пытаемся.

— Кажа: ізноў прыйдуць немцы. Дурная баба! — тлумачыць старэнькі жмогус з голенымі вусамі.

* * *

*22 верасня.*

Учора выехалі ў першай гадзіне ночы. Ехалі па вялікай гразі, пад дажджом, на перанізваючым ветры.

Потым дзень зрабіўся ясны, сонечны, але не пацяплела — сцюдзёна. Ля касцёлу стаялі… грымнулі стрэлы з гармат і вінтовак! Нашы ці нямецкія — не ведаю, але нешта дужа блізка. Слабасць духа, страх смерці апанавалі мяне.

З паўдня адкрылі бой за сялом. Страляніна на ўсім фронце. Відаць, дайшлі да нямецкіх пазіцый. Наглядальнік 1-е батарэі казаў, што ў трубу Цэйса відаць, як на далёкім-далёкім узгор-

ку пагульваюць немцы, але нашы гарматы там не дастаюць. Трашчэлі і кулямёты, але найболей біла артылерыя.

*23 верасня.*

Бой як пачаўся ўчора, так ішоў усю ноч і сёння ідзе. Гэта першы раз, каб уначы так палілі з кулямётаў і вінтовак.

— Пажар! Пажар! — закрычалі нашы тэлефаністы блізка поўначы.

Я загледзеўся на прыгожы абраз: ад снараду загарэўся дом ці стог хлеба, дым палавы, а потым чорны, густы, з языкамі полымя, прэцца ўгару к цёмнаму небу. А гэтым часам па ўсім фронце гудзіць, шуміць, бэхае, свішча, трашчыць. Кулямёты, без ліку іх з усіх бакоў: тр-тр-тр!.. Цяжкімі: гкрэх! гкрэх! — са страшнай сілаю «крые» немец нашы пяхотныя акопы і «шчупае», дзе батарэі.

Надвор'е пацішэла, устоілася; ветру няма, толькі халоднаядрана; нагам сцюдзёна, няможна сагрэць.

Ноч я перабыў у ямцы, што падкапаў у беразе сухой канавы і заслаў лёнам з поля, пакрыўдзіў якогась няшчаснага жмогуса. Пасля прынёс снапок саломкі, як бегаў у канцылярыю на хутар па красін. Красін патрэбен быў у лямпачку для батарэйнай «адметкі» (па ёй начою наводзяць аруддзі).

Як ішоў на хутар, троху немаведама чаго баяўся, бо цёмна і пуста. Каб супакоіцца, даў волю фантазіі. Уявіў сабе, між іншым, што гэтае жмудскае поле яшчэ так нядаўна агалашалася мірнай песняй дзяўчыны-пастушкі, хлопчыкі-канюшкі клалі цяпло, грэліся, смажылі сала на важашках, казалі казкі… А цяпер?

У канцылярыі красіну не знайшоў і адабраў астатні запас у бедных хутаранаў. Гаспадыня аж плакала, але як я мог вярнуцца без красіну? Я прасіў, упрашваў, умаўляў, сварыўся, пагражаў. Самому было сумна і смешна ад свае ролі гэткага рашучага салдата.

Пераязджаем на новую пазіцыю, трошку наперад.

*24 верасня.*

Уначы было надта халодна. На фронце заціш, мы стаялі як бы на прывале, толькі гарматы былі пастаўлены, гатовыя к бою, а я тым часам не мог выспацца. Спаў на зямлі пад брызентам, і хоць сябры мае добрыя пусцілі мяне легчы пасярод, я прост дубеў ад холаду. Калі яны спалі, я колькі разоў усхопліваўся і бегаў па полі, як конь-стаеннік, пад маркотным начавым бліскам месяца. Вартаўнік здзіўлена і трошку пужліва ўглядаўся на мяне: ці не здурнеў часам вальнапісаны? Вучоныя, яны… часта дурнеюць.

— Чаго *вы*? — не ўцерпеў, спытаўся і сказаў не *ты*, а *вы*, што было знакам трывогі ў яго простай салдацкай душы.

А я — гоц, гоц, гоц! і крычу:

— Га? Блохі кусаюць…

— Гі-гі-гі! — супакойна засмяяўся вартаўнік, пачуўшы мой жартаўлівы голас. І сам пажартаваў са мною: — Гі-гі-гі… Даўно яны са страху паздыхалі. *Хіба белыя*? Гі-гі-гі…

А я, запыханы, юркнуў пад брызент і прытуліўся да Беленькага.

Раніцаю хацеў пагаманіць з прапаршчыкам Кульгацкім.

— Ваша благародзіе!.. — А ён з перапуду кашляўся (мусіць, што я да яго так звярнуўся) — і:

— Андрэй! Андрэй! — гукнуў свайго дзеншчыка (майго цёзку), — пачастуй вальнапісанага чашкаю чаю. — І сам пайшоў зараз у хату, нейкую, мусіць, карчму пры заезным двары, бо толькі адна яна тут і ёсць пры дарозе. А белага хлеба ў Марыямпалі мне так і не купіў, хоць сам запрапанаваў купіць, калі ехалі сюды з-пад Нёмну. «Гаспада афіцэры ўсё разабралі», — сонна сказаў мне Андрэй на маё пытанне. Цяпер я падумаў: мусіць, прапаршчык закашляўся таму, што не купіў мне хлеба… Ці якая можа быць яшчэ прычына?

Удзень ляталі два нямецкіх аэрапланы. У гэты час батарэя па камандзе капітана Смірнова, заступаўшага камандзіра батарэі, «лупіла» па нямецкіх акопах мелінітавай гранатай. Разумеецца, хоць і ўдзень, агні з жэрлаў гармат добра бліскалі і курыўся пыл і дым. Калі вярнуўся камандзір, дык быў нездаволены, што капітан сваёю неасцярожнасцю паказаў аэрапланам месца батарэі. Дзеля гэтага, як сцямнее ізноў, здаецца, пераедзем ужо на трэцяе тут месца. А вясёлы арудзійны феерверкер, светлавусы яраславец Салаўёў, жартуе:

— Колькі выпусцілі снарадаў? 317 гранат і 39 шрапнеляў? Нічога… маё аруддзе чалавек дваццаць забіла, хопіць на гэтай пазіцыі…

Аднак жа мы паспелі выкапаць акопы, і пакідаць іх нікому не хочацца.

Ногі мае дужа зяблі ўчора цэлы дзень і сёння зябнуць — няма куды дзецца, хоць ты плач.

Хлеба няма ўжо трэці дзень. І няма дзе купіць нават за грошы, чыстая бяда прыйшла. Аб чым думае наш тыл? А сухары свае мы пагрызлі раней без дазволу.

— Вось цяпер і сядзіце на бабох, — сказаў капітан Фядотаў.

— Дзе ж той боб? Дайце нам, мы яго з'ядзём!

Абеды нашы дужа дрэнныя, адна вада, і тая чорная ад гнілых капусцінак ці то ад сушанай гародніны, што рэдка-рэдка дзе баўтаецца. Ядзім два разы ў дзень, уранні і ўвечары. Адзін раз даецца порцыйка мяса, але такая малая, што і есці няма чаго. Порцыйка — закачаная ў пясок бруднымі пальцамі кашавара і арцельшчыка. Ох, гэтыя пальцы: імі раздзіраюць мяса на порцыі, імі тут жа і смаркаюцца «ў кулак». Звараныя порцыі раскладваюць на падсцелены мяшок, а часам нават на шынялі. Як быццам так трудна прыстарацца якой чыстай дошкі.

* * *

*25 верасня.*

Рукі трэскаюцца ад сіверкі, пісаць холадна. А ноч блізу што і не спаў — так пазяб. Ляжаў каля тэлефоннага апарату з трубкаю ў руцэ ля вуха. Ляжаў — як можна, закрыўшыся сенам, каб было цяплей. Усё роўна праварочаўся да рання з боку на бок у халоднай трасцы.

Сёння не мыўся (другі дзень). Хлеба прывязлі фунты па два (ці меней) на чалавека. Хадзіў «у тыл», шукаць хлеба, яблыкаў. Нідзе нічога… У касцёл зайшоў, бачыў там груд розных лахманоў, знесеных сялянамі на сховы. Салдаты хацелі расцягнуць, але ім не далі сваім гвалтам бабы.

Пры касцёле сярод кучкі старых жмогусаў і салдатаў чуў жудасную гісторыю, як немцы гвалцілі дзяўчат-жмудзінак… Аж не ймецца веры. Нейкі вайсковы пісар, відаць, свежанькі на фронце і чалавек кніжны, з вялікім абурэннем і ўзварушлівасцю лаяў, лаяў немцаў: «Гэтак яны прышчэпліваюць сваю культуру… ах, сволачы!» Потым яго размова перайшла на дужа патрыятычную маскоўскую ноту і нагнала на жмогусаў таскнату, а на мяне прыкрасць. «Ну што: дрэнна вам пад Расіяй? Пад немцамі лепей? Скаштавалі? Вы каталікі, а ў нас вы маеце ўсякае права, а вось вам нямецкая культура… скаштавалі!»

Настрой ува ўсіх дрэнны. Немцы не адступаюць. Па дарозе пляцецца шмат нашых раненых пехацінцаў; трасуцца ад холаду. Яны невясёла пераказваюць, што немцы падманяюць нашых то нібы кінутымі перадкамі разбітае батарэі, то белым флагам, а потым косяць кулямётам, «як капусту». Акопы яны сабе нарабілі з таўсценнага сасновага бярвення і рэек з жалезнае дарогі. Ім там цёпла: паставілі печачкі, нацягнулі пярын ад мірных жыхароў, кажухоў, нават сталоў і крэслаў.

Жывуць, як паны, у сваёй хаце. «Ім хоць бы што… Выбі іх адтуль нашымі свісцёлкамі!*»

Чуецца з усіх бакоў нараканне, што ў нас няма цяжкай артылерыі… і наогул парадку.

Раніцаю троху спаў (на восенным сонейку). Прачнуўся: на зямлі ў лагчынах шараватая пароша — вястуння недалёчкае зімы. Толькі чаму яна не весяліць, як у сваёй роднай вёсачцы, дзе з яе прыходам вяжуцца ў успамінах бліны, скваркі, драная бульба з салам, малацьба ўдосвецце, капанне буракоў, дабіранне канапелек, сечка капусты?..

Ух, капуста нагадала кулямётную «капусту»!

Я пачынаю бунтаваць супроць начальства, што на зямлі і што на небе.

Навіны за дзень:

Елі нясмачную нішчымную бульбу, накрадзеную з поля хутаран.

Пілі цагляны («кірпічны») чай з хлебам.

Прыйшла мне тэлеграма; яна мяне спалохала была страшна і здзівіла. «Вам тэлеграма!» — «Дзе? Якая? Што такое?» — «Сцяпана забралі. Паведамі здароўе…» Аж яна ішла даўжэй за ліст! А я быў падумаў: няўжо каго забілі?

На гэтай пазіцыі маем ужо 4 забітых, 8 раненых і адну папсаваную гармату. І гэта ў батарэі, а што ж у пяхоце?

Кажуць, быццам 10-я армія (ген[ерала] Мішчанкі) абышла немцаў і пагнала. Яны павінны і тут уцячы, і гэтага ўсім нам дужа хочацца, бо чацвёрты дзень стаім у нейкім напружаным чаканні і калеем у дрэнненькіх акопах.

Камандзір N-скае батарэі ехаў ля нас п’яны, чырвоны, з заліхвацкімі буравватымі вусікамі і крычаў:

— Хлопцы! Камандзір корпусу загадаў узяць пазіцыю ўва што б тое ні стала.

Першая батарэя некуды паехала; уначы, мабыць, і мы пераедзем.

Прыехаў у нашу батарэю новы афіцэр, толькі што прайзведзены падпаручнік Сізоў. Маладзенькі, далікатны і сарамлівы, як дзяўчына. Але стройны, высокі, прыгожы. Усё ў яго новенькае. Жоўтае сядло скрыпіць і пахне фабрыкаю. Новенькая шэрая шынель — да пят, з дзявочым станам і выстаўляецца на грудзях кругла і выпукла. Пазнаёміўся са мною — як з роўным. Сядзеў у нашым, тэлефонным, акопе і шмат чаго казаў нам і частаваў

* Лёгкай палявой артылерыяй.

нас цукеркамі і шакаладам. Ён хоча быць для ўсіх добры і даступны. Гаварылі з ім пра дрэнныя салдацкія абеды (ён вінавата зганіў і афіцэрскія), пра нуднае жыццё на пазіцыі, пра лёгкую магчымасць смерці, пра вайну («пасля вайны, і яна скора скончыцца, нас, вайсковых, на руках будуць насіць»), пра 2014 год («рай будзе на зямлі»), пра чалавека, што «як кропля ў моры», і г. д. Калі мы засталіся толькі ўдваіх у акопе (Беленькі пайшоў па абед), гутарка ізноў узбілася на лёгка магчымую смерць, і падпаручнік Сізоў удаўся ў містыцызм. З неспадзяванай блізкасцю прызнаўся ён мне, што ў яго ёсць «маленькі святы абразок ад слаўнай дзяўчыны», з якою ён пазнаёміўся «нядаўна і даволі арыгінальным спосабам». Нядаўна пазнаёміўшыся, яна дакляравала прыйсці на вакзал праваджаць яго на фронт, «прыйшла і прынясла абразок». «Абразок майго ангела», — з пачуццём і маладою сарамлівасцю адзначыў Сізоў. Ён з любасцю намаляваў мне «сімпатычны тып рускай дзяўчыны». «Яна казала, — раздумана спамінаў ён, — калі мне будзе пагражаць небяспека, смерць ці што, каб памаліўся святому, што на абразку, і ўспомніў на яе…» Цяпер падпаручнік піша ёй лісты і з нецярплівасцю чакае водпуску. «Але спачатку трэба зрабіць што-небудзь і на фронце, — канчаў ён размову. — Вось вы ўжо прадстаўлены к крыжу, як я вам зайздрую!»

Стралялі сёння «па непрыяцельскіх акопах» (такая была каманда). Выпусцілі, паводле маіх запісаў, 9 гранат і 381 шрапнель. Увечары паедзем на другую пазіцыю.

## Стаім

*26 верасня.*

Стаім на той самай пазіцыі, не пераехалі. На падмогу нам прыслалі, кажуць, чатыры цяжкіх аруддзі і марціры. Пад’ехалі нібыта к нам начою.

Грымела ўсю ноч. Немцы стаяць. Абстралялі наш наглядальны пункт цяжкімі снарадамі. Разарвалася болей за трыста снарадаў на адной маленечкай горцы, дзе быў гэты пункт. Дрэва пашчапана там на трэскі. Зямлю развярнула — не апісаць. Камандзір і тэлефаністы балазе-ткі ў пярэрве абстрэлу ўцяклі. Абстрэл гэты няма што і раўнаваць да ранейшых баёў: гэта была жудасць неапісальная… Зямля стагнала, і ўсе мы, седзячы збоку, стагналі або нямелі, закрыўшыся далонямі. Батарэя тэрарызавана. Няма ў мяне жадання апісваць, бо думкі і словы

спаралізаваны гэтым дзікім, страшным гулам, што звініць яшчэ ў вушах.

На адну рэч хапае слоў: «звяры», «звяры», «звяры» ці, каб не траціць фігуральных выразаў на паскудства, проста — буйныя белыя вошы. На нагах, на спіне, усюды. Поўзаюць, варушацца. Можна здурнець.

*27 верасня.*

Стаім на той жа пазіцыі. На фронце заціш, вайна з вашмі. Сніў, што чытаю газеты. Ах, каб спраўдзілася.

*28 верасня.*

Цалютку ноч, пазменна, капалі акопы недалёчка ад старой пазіцыі, з якой яшчэ не зняліся. Зрабілі добрыя бліндажы, хоць і дужа пакрыўдзілі будынкі хутарца-жмогуса.

*29 верасня.*

Забіты чалавек, забіты чалавек… Што тут асаблівага? Здаецца, нічога. А як уяўляю сабе тыя страшныя, мутныя, мёртвыя вочы, вывернутыя мазгі, кроў, сцягнутыя сутаргай і пастаўленыя ўгору адубеўшыя рукі са сціснутымі кулакамі, — тады толькі чую значэнне слоў «забіты чалавек». Духовага ж безабраззя ўва ўсёй глыбіні адчуць не магу. Атупеў.

Я лічу па сваіх запісах каманды, колькі патронаў за дзень выпусціла батарэя, раўнадушна дакладваю аб тым капітану Смірнову, перадаю ад тэлефона дужым голасам каманду: «Адзін патрон — беглы агонь!» — і мяне гэта не чапае. А я ж пасабляю, не — не пасабляю, а сам разам з другімі старанна забіваю людзей. Забіваю такіх жа нявольнікаў, як сам. Што гэта я раблю? Пакуль што я не адчуў усяе глыбіні гэтага жаху! Не адчуў, а толькі думаў, што тут — вялікі страх, і жудасную сутнасць гэтага страху я зразумею толькі некалі пасля…

Значок, каторым адзначаюць праўдзівых герояў, — сказана было, як раздавалі Георгіеўскія крыжы. А тым часам…

Седзячы цэлы дзень у акопах, пад страшэнным абстрэлам, 4-га жніўня «праўдзівыя героі» — падпрапаршчык X. і старшы феерверкер Z. — пасылалі па розных справах пад кулі ніжніх чыноў, а самі «рабілі» ў акопе і закапвалі лапатачкамі.

7-га жніўня, у другім баі, падпрапаршчык Ф. С., што яму даюць крыжы 4-й, 3-й і ўжо 2-й ступені і што быў у той дзень арудзійным феерверкам, рабіў тое самае, тое не закапваў, а выкідаў з акопу на лапатачцы. Што ж, з разумнага пагляду так і трэба, калі можна ўратаваць жыццё, не робячы непатрэбнай

рызыкі. Але чаму ж не далі крыжоў тым ніжнім чынам, што павінны былі дзеля службы вылязаць з акопу і бегаць пад кулямі? «На ўсіх не хопіць». Значыцца, усе падобныя «героі», а злашча ў пяхоце, дзе непараўнана болей рызыкі. А ці там гэтак шчодра даюць крыжы?

Мы, тэлефаністы, дасталі іх за той бой, калі зазвычай далёка не па-геройску спіраліся: «Ты ідзі злучаць провад!» — «А сам?» — «А ты?» — «А чарод чый?» — «А я за цябе старшы: мусіш слухаць».

Дык у чым жа праўдзівае геройства і ці шмат пад гэтымі крыжамі герояў? Ці я, можа, нядобра разумею слова «геройства»? На сучаснай вайне — усе героі ці, лепей кажучы, няма герояў, а ёсць болей ці меней дысцыплінаванае быдла.

Можна да крыві грудзі раздрапаць ад паразітаў. Сядзеў у гімнасцёрцы на голае цела і мыў сарочку ў сцюдзёнай вадзе без мыла.

— Пустое, брат, дзела! — сказаў Пашын. — Без вару рады не дасі.

Напісаў тату пісьмо, каб нічога не прысылалі, а толькі парашку «Арагац» труціць гэтых белых бандытаў, і як найскарэй.

*30 верасня.*

Жывеш тут нямыцькай, ваюючы з вашмі і хцівым сабакам кідаючыся на вядро з казённаю бурдою.

Грымяць гарматы, нягледзячы ні на дождж, ні на холад, ні на гразь, ні на цямноту начы. Грымяць…

Нашто і за што?

Тыя сацыялісты, што адразу заявіліся «паражэнцамі», за сваю цвёрдасць духу маюць будучыню. Не баюся ў гэты момант саглядатаяў — хай прачытаюць маю кніжачку і расстраляюць палявым судом. Толькі… ці надоўга ў мяне гэткай смеласці?

За сённяшні дзень батарэя выпусціла 426 шрапнеляў і 114 гранат. Ну і быў дзянёк! Але годзе апісвання баявых прыгажосцей…

Дзевяты дзень бою на гэтай пазіцыі…

Сёння пабіў сваіх вошы. Мыт у мяне і ў Беленькага. Ці не ад бульбы? Ядзім з кухні толькі ўвечары, бо ўдзень пад'язджаць кухні забаронена. Паглядзець згары, дык здасца, што тут — мёртвае поле, нікога няма, ніхто не едзе і не ідзе, нічога нідзе не варушыцца, пустыня… А колькі сядзіць тут людзей, як мышэй у норах.

Прывезлі трохі хлеба. Выдалі па 21 крошцы (кавалку) цукру.

У ногі сцюдзёна. Боты працякаюць.

Выпарыцца б у лазні, надзець чыстую кашулю, павячэраць смачна і легчы спаць у цёпленькім. Нічога болей не хачу на свеце!

Ах ты, доля мая, доля! Доля горкая мая!

І не адна мая: цэлых мільёнаў.

* * *

*1 кастрычніка.*

Сёння прыйшоў ліст ад родных, пасланы 9-га жніўня. Вось дык пошта… Нічога, усё добра. Стахвана забралі, але спадзяецца, што як апалчэнец на пазіцыю доўга, а можа, і зусім не трапіць. Сям'я яго жыве ў нас. Лаўрынька паедзе вучыцца. Ураджай у нас сёлета добры. З Цёмналесся пабралі шмат людзей. Як праваджалі, усе вельмі плакалі. Але гарэлка забаронена, — і ніякіх скандалаў, ніякіх п'яных выбрыкаў. Ціха, спакойна — і мора слёз, усюды поўна плачу і жалю… Прадракаюць блізкі канец вайне…

Нічога, усё добра, і радасць мая, што атрымаў ліст, радасць мая — ціхая і супакойная. А можа, тупая? Тут атупееш.

І калі было тое 9-е жніўня! За гэты час магло быць колькі змен, колькі навін. Ці жывеш ты яшчэ на свеце, мой браце Стахване?

Лепей пра гэта не думаць і вярнуцца да сваіх штодзённых тутэйшых спраў.

Праўда, справы даволі аднастайныя. Што сёння было?

Еў брукшу і мак на голым і нудным гародзе жмогуса, каб хоць троху перастала ссаць пад лыжачкай. Спаў гэтую ноч у хаце на саломе.

Бачыў, як дывізіённы ад'ютант раздаваў крыжы. Героі лаяліся, спрачаліся: «Яму не варта, таму няма за што!..» — «Ён быў-ткі пад агнём!..» — «А я што — пад снегам?»

Чуў, як у сенцах касавокі «халуй» (так салдаты завуць дзеншчыкоў), родам туляк, казаў, што ён, вярнуўшыся з вайны, укіне салдацкую вопратку ў агонь у печы, каб пагарэла «ўся гэтая брыдота». Потым ён ганіў «хахлоў» (а так салдаты завуць сваіх таварышаў, якія родам з Украіны і *таксама з Беларусі*), што яны свой паёк цукру і гарбаты не спажываюць самі, а прадаюць крамнікам, каб зладжыць грошы і вярнуцца з службы дамоў у

лакіраваных ботах, элегантамі. «Гарбаты піць не ўмеюць хахлы: фу-фу-у! — дзьмуць, ды як сабакі: хляўк! хляўк!» Яго таварыш, дзяншчык з беларусаў, спакойна бараніўся:

— А што мне твая гарбата? Калі я добра пад'ем, дык і вады нап'юся смагла. У нас, як касіць ідуць, сала ці сыраквашы з хлебам наядуцца. А ў вас, праўда, як сабакі: жыдзенькае гарбаты сёрб-сёрб! — і пабег хартом-чартом на сенажаць. Якая ў яго можа быць работа? Яму б толькі на гармошцы тады рыпаць.

Цярпліва даслухаўшы спрэчку да канца, я папрасіў у іх вады памыцца, але яны абодва мне адмовілі, сказалі, што няма ў іх вады, і бурчэлі мне ўслед:

— Не вялікі пан, паходзіць і так.

— Вальнашляючы… трэба было даць…

— Чаму не даў? Гэта ж твой хахол.

Тады я пайшоў у хату, дзе месцілася канцылярыя дывізіёну (я быў сёння прысланы сюды для сувязі з батарэяй).

Тут распівалі гарбатку з малаком пісары. Старшы над імі быў вусаты паляк ці апалячаны беларус з Віленшчыны, чамусь з расійскім прозвішчам Маслоў. На грудзях у яго была прышыта георгіеўская стужачка. Пан пісар Маслоў засыпаў мяне *пшэпрашамі, пане-пане, прошэн пана*. Ён чуў, відаць, ад некага, што я паляк. Далікатна ўзвёўшы гутарку на польскую мову, Маслоў моцна бедаваў, што, на жаль, не ўмее пісаць гэтаю «найдалікатнейшаю ў свеце» моваю.

— Па-рускаму так далікатна не напішаш, як па-польскаму. А я друк чытаю, а пісаць не ўмею… О-о, каб я ды ўмеў пісаць па-польскаму!

Што б ён тады зрабіў, ён не даказваў.

Маслоў, відаць, не быў селянін, бо надта непрыгожа абходзіўся з старым гаспадаром хаты, ціхамірным і пакорным жмогусам з сівымі стрыжанымі вусамі і маленькімі вочкамі, і высмейваў яму, што каталік, а па-польску ўмее толькі пяць — дзесяць слоў.

— Гаспадары тут жывуць як свінні, але ўсяго маюць. А вось з вышэйшых хто польскіх (мабыць, сябе Маслоў залічаў да гэтых вышэйшых) — тыя бядуюць. У Расіі ходу яны не маюць… Другі і вялікую адукацыю дастаў, а сядзіць без працы, і ніхто яму не плоціць пенсіі, або ён займаецць зусім нізкую супроць сябе ваканцыю.

Кажучы так, пан Маслоў асцярожна заглядаў ад столу ў мае вочы, шукаючы спагады. Але ў размову ўбіўся ардынарац:

— Вось, прыкладам, як наш пан Маслоў: усяго толькі пісарам!

Маслоў крыху збянтэжыўся, пачуўшы насмешку, ды не падаў віду і прыняў ардынарцавы словы як камплімент сабе.

— Можа, дурню, гарбаты хочаш? — спытаўся ён у ардынарца масляным галаском, пад якім хавалася ёлкасць. — Толькі без млека, бо не хопіць пану вальнапісанаму.

— Я сваёй напіўся! — вясёла адказаў ардынарац.

Адвярнула і мяне ад пачастункаў пісара.

— Як будзе ў Польшчы свой круль, вот тады пан Маслоў сваё здабудзе, — ізноў пажартаваў ардынарац.

Маслоў моцна пачырванеў, ды толькі замест адказваць ардынарцу накінуўся на беднага жмогуса, павярнуўшы свае вусы на яго ў парог хаты.

— Каб гэтыя дурні не забываліся так, што яны ёсць палякі і павінны дабівацца Польшчы, то… то…

Не скончыў і шчупянуўся, ці не сказаў лішняга. Расправіў і падкруціў рыжыя свае вусішчы і абвёў вышэйшымі, але не зусім бяспечнымі вачыма кампанію. Другія пісары моўчкі сёрбалі гарбату і не паднімалі вочаў.

Увайшоў ад'ютант дывізіёну, шчуплы штабс-капітан, таксама паляк з Беларусі, магаметанін. Маслоў перад начальствам дужа «цягнуўся», асабліва ўваччу другіх салдатаў перад гэтым ад'ютантам. Цяпер ён, як спружына, сарваўся з месца і гаркнуў на ўсю хату каманду:

— Уста-аць!! Смірна-а!..

Потым ён закамянеў перад сваёю шклянкаю з гарбатаю, і мы ўсе ўсталі і закамянелі. Гутарка наша скончылася. І гаспадар-жмогус тож устаў і выцягнуў свае рукі ўздоўж ног, як салдат.

Калі афіцэр скамандаваў: «Вольна!» — я, ардынарац і гаспадар выйшлі з хаты ў сенцы. Там ардынарац яшчэ далей талкаваў жмогусу (хоць той нічога не разумеў):

— Гаспадару ўсё роўна: будзе ў Польшчы круль ці не. Падаткі яшчэ большыя за зямлю прыйдзецца плаціць, бо Польшча замалая, каб мець свайго круля… Праўда, ацец?

Жмогус толькі качаў галавою і зрэдку мармытаў нешта ў сваёй, незразумелай нам мове.

Я пайшоў к тэлефону і далей не чуў.

* * *

*2 кастрычніка.*

11-ы дзень тут…

Сёння 2 кастрычніка, але цёпла, сонечна, пагодліва. Ураннi думаў, гледзячы на балота з вадою пры нашай пазіцыі, якое бывае гэтае балота ранняю вясною. Жабы, ці, як у нашай вёсцы кажуць, *люгашкі*, — ква-а, ква-а… — а лаза гаркава пахне.

Страляніна мала чутна, а мы саўсім не страляем.

Хадзіў па гародзе і шукаў маку. Знайшоў усяго некалькі і то падгніўшых мачынак. З'еў іх і адну брукшынку, пару мачынак прынёс Беленькаму. Спамінаў: малым быўшы ў Цёмным Лесе, трос з дзяцьмі мак і еў «лыжачкамі», што мы лоўка рабілі з мачынак.

Дарагі татачка, прышліце «Арагацу» і запісную кніжку.

Тэлефон наш сёння ўночы троху падмок, бо ў акопе на дне макравата ад блізкага балота. Было троху сваркі.

Кажуць, што немцы начою пайшлі ў атаку, але былі «начыста» скошаны нашымі кулямётамі. Нямецкі пражэктар разбіт.

*3 кастрычніка.*

Пухам табе чужая зямелька!.. Прыйшоў ліст з дому, дзе сумная навіна: Ляксей Піліпёнак забіт. Першая ахвяра з нашае вёскі Малоху вайны[4].

«И сколько, сколько их в борьбе за край родной, удалых, молодых…»[5] — зубрыў некалі ў расійскай школе і з расійскай хрэстаматыі.

За які родны край і наогул — за што? Ці ж Беларусь будзе мець нейкую палёгку ад гэтай вайны? А не здарыцца так, што, дастаўшы перамогу на фронце, расійская рэакцыя ўзмацуецца і загне нас у яшчэ горшы рог?

Ляксейка, Ляксейка! Спакой вечны табе! Бедная матка твая.

Прыйшла і «Наша ніва» за 25 верасня. Колькі радасці прыносіць мне наша друкаванае «мужыцкае» слова! Нервы мае распускаюцца… Але чаго мне саромецца, што я тут, на гэтай проклятай вайне, з нежаданымі спазмамі ў горле і прыкрымі хваравітымі слязьмі на вачах цалую лісты з дому і «Нашу ніву» з Вільні? Чаго саромецца мне? Эх вы, слёзы, слёзы, дурныя вы слёзы: не засцілайце мне вачэй. І ты, дурное сэрца, не сціскайся болем і жалем.

У нумары — «Летапісцы» З. Бядулі[6]. Яны мне тут душу перавярнулі. Шкода мне цябе, мая бедная, убогая, невучоная і

такая багатая творчым духам мужыцкая бацькаўшчына. Плач, выпісвай, як летапісец, свае няведамыя шырокаму свету і такія, можа, малаважныя, на яго шырокі погляд, мукі свае. «Волат»[7] — незразумела; відаць, што аўтар не сядзеў у акопах. Перадавіцы К-лы — пераліванне з пустога ў парожняе.

Прабаваў сёння ўсведамляць аднаго салдата-беларуса з нашага пяхотнага прыкрыцця. Прачытаў яму кавалачак з «Летапісцаў».

— Вот саўсім па-простаму, дзеравенскі язык. Як яго? Маларасійскі завуць, ці што?

— А ў вас як гавораць?

— І ў нас так: ні па-польску, ні па-руску.

— Вы каталік-беларус?

— Але… Мы польскай веры, польскія.

Чытаю яму: «Даражэнькі сынок!..» — і далей з апавядання.

— Так у вас гавораць? Ці, можа, што не так?

— Вот, вот… Зусім так… Ха-ха-ха!

Трагічны смех!

Але нарэшце ён зразумеў мяне і сказаў:

— Калі так, як кажаце, дык Беларусь павінна быць. Што ж, ці мы чым горшыя за другіх? Гэта добра, гэта справядліва: «Што трэба свабоды, зямлі чалавеку…» Гэта лоўка! Толькі… — ён стаў муляцца ў сваіх развагах, спыніўся.

— Што ж «толькі»?..

— Толькі аднаго баюся: як застанемся самі па сабе, без расійскіх і польскіх, жыды нас зусім заядуць.

— Чаму заядуць? Як будзе ўсім воля, усе будуць роўныя, дык нашто ім нас заядаць? А вы ведаеце, што вось гэта, што я вам чытаў, напісаў наш беларускі жыд?

— Ці праўда?! Не можа быць!

— І праўда, і можа быць…

А ўсё ж на пункце аб жыдах мы не пачулі поўнай еднасці. У яго вачах так і засталася нейкая нявера, нешта няпэўнае, хоць ён і казаў, як бы патураючы мне:

— Што ж… На мой век жыдоў выстарчыць (хопіць). І нічога, апроч добрага, сам я ад іх не бачыў.

А я ўжо мусіў ісці на батарэю.

Пра падпаручніка Сізова салдаты кажуць: «Чуць не плача ў акопе». Яму хочацца «нешта зрабіць на фронце, каб не сорамна было, прыехаўшы ў водпуск». Яму хочацца руху, дзейнасці, прыгожае вайны, а тут сядзі і сядзі ў гнілым акопе. Як ён быў рад,

што камандзір батарэі даручыў яму зрабіць бліндаж на нашым наглядальным пункце ў пяхотных акопах, на самай пярэдняй лініі. Як ён цяпер цешыцца, што зрабіў гэты бліндаж, — пэўна ж, не сваімі, а салдацкімі рукамі. Вось ён вярнуўся. Сіняе, хоць і блізка вечар, восеннае неба, лятуць галкі і вароны. Ціха. Падпаручнік з захапленнем апавядае, што немцы абстралялі іх з вінтовак, але нічога: бліндаж зроблены, і сам ён, падпаручнік Сізоў, «адзінаццаць куль у іх выпусціў». Гаворыць, і язык у яго тоўсты, мясісты і чырвоны; моладасць і здароўе… Сам прынёс салдатам лісты з канцылярыі і радасна-ласкава раздае іх.

*4 кастрычніка.*

13-ы дзень тут… Ночаю згарэў ад нямецкага снарада хутарок, дзе мы абаграваліся. Цяпер няма дзе абагравацца. Пазіцыя гэтая страшэнна знялюбела. У часе пажару ўзлаваліся мы і жарнулі па нямецкім акопе «два патроны, беглы агонь». Страляніна па гэтай камандзе, калі ўся батарэя дружна грукоча, мне найболей падабаецца.

Беленькі дастаў пасылку, і мы ўсе паласаваліся, смакавалі: ляндрынкі, шакалад, курылі папяроскі. Адным разам усё з'елі, і сам Беленькі, усё гамонячы і гамонячы ад радасці, дужа вясёлы, з'еў найменей. У яго аж румянец на шчаках разліўся і вочы заблішчэлі, як выпіўшы. Наеўшыся, кінуўся мяне цалаваць, крычаў: «Жывём, браце Лявон!» Увечары ён троху апаў духам, але, разгаманіўшыся, ізноў павесялеў, прызнаўся мне, што ўтоіў ад кампаніі адну плітку шакаладу, і мы з'елі яе ўдваіх з ім. Елі па малым кавалачку цэлую ноч, бо дзяжурылі.

*5 кастрычніка.*

Пісьмо з дому. Бедная ты, мая мамачка! І ўсе маткі больш маюць за дзяцей гора, чымся ўцехі. Разважаў на тэму: ці можна было б зрабіць так, каб знішчыць любоў родных? Чалавецтва было б шчаслівейшае. Сумна!

*6 кастрычніка.*

15-ы дзень тут… Цяжка.

Перабег да нас нямецкі салдат. Гаворыць, што ім чатыры дні есці нічога не давалі. Паляк-пазнанец. Я ў расійскім войску — як той паляк у нямецкім. Значыцца?..

Хлеба другі дзень няма. Купіў у жмогуса гнілых дулек на 15 к. Папсаваў бруха. Не хочацца пісаць.

*7 кастрычніка.*

За дзень батарэяй выпушчана 37 гранат і 93 шрапнелі. Усё на свеце дрэнна.

*8 кастрычніка.*

Сённяшняй начою на дрэве ля пажарышча (дзе быў раней хутарок і мы хадзілі абаграваецца) задавіўся на рамні ад карабіна яўрэй, дабраволец з пяхотнага прыкрыцця нашае батарэі. Ува ўсіх цяжка і брыдка на душы. У прыкрыцці чалавек пяцьдзесят, і я гэтага дабравольца раней, на жаль, не заўважыў. Ды яны ж там і мяняюцца часта. Салдаты наогул страшэнна не любяць дабравольцаў. Заўсёды дражняць: «Дабраволец… за дзень да прызыву запісаўся». Можа, і тут здзекі таварышаў былі адной з прычын самагубства? Ніхто нічога не ведае. Адзін наш батарэец-кастраміч злаяў беднага самагубцу так: «Лахудра… вошы заелі». Беленькі маўчыць, і я маўчу. Яшчэ зусім малады хлопец, з інтэлігентным, як відаць, тварам, а цяпер страшна і брыдка на яго глядзець. Згінуў. Шкода, цяжка, непрыемна… Не хочацца болей пісаць.

Ужо 17 дзён стаім тут.

І абрыдла мне гэтая пазіцыя страшэнна.

*9 кастрычніка.*

18-ы дзень тут… Учора ўсё гаманілі, што замірэнне скора будзе, не пазней 25-га гэтага месяца. Ну і даў немец замірэнне, што і языкі ў гаманіўшых сцяла… Змрокам, калі наш камандзір раз’юшыўся і стаў пускаць «два патроны, беглы агонь», немец падгледзеў, мабыць, бліск ад стрэлаў і схапіў кірунак на батарэю; або раней, удзень, са змяйковага аэрастату прымеціў, што людзі тут ходзяць, бо хадзілі пехацінцы з батарэйнага прыкрыцця і нашы батарэйцы насілі салому ў зямлянку «гарохам». Раптоўна, ані з тога, ані з сёга, толькі канчаўся дзень, толькі ўжо цямнела — бухнула па нас першая граната… Блізюхтанька ад батарэі, у самае балота. Зараз яшчэ, яшчэ, пералёт, недалёт, узяў «у вілку», засмаліў…

— Намяры ў равочкі!! — крычыць першы раз такім аглашоным голасам капітан Фядотаў.

Намярамі завуцца салдаты пры аруддзі, бо праца іхная размяркована па нумарах. І я заўважыў адным вокам, збоку і знізу, бо ўжо ўкінуўся ў акоп, як і капітанавы ногі беглі хавацца. Мусіць, усе тым часам пахаваліся, бо капітан Фядотаў заўсёды хаваецца апошні. На батарэі стала мёртвая ціша, свая, наша, а ў ёй гкрэхала чужое…

Мы сядзелі ў акопе — я і Беленькі, а Пашын не паспеў і ўкаціўся недзе ў акоп першага ці другога аруддзя, бліжэйшага да нас, — сядзелі і са страхам прыслухваліся, як дрыжыць пад намі зямля ад удараў. Ізноў чуем, як некалькі снарадаў лягло перад батарэяй, некалькі адзаду ў яе. «Папраўляе вілку», — варушыцца прыгнечаная думка. Потым страшэнныя разрывы абы-дзе, а ўсё на батарэі. Грукат жудасны і безупынны. «Беленькі, што ты цяпер думаеш?» — неўспадзеўкі для сябе самога пытаюся, каб хоць трохі развеяць страх. «Думаю: сюды, сюды, у нас кахнець», — адказвае Беленькі, і вусны яго варочаюцца не так, як заўсёды. «І я таксама думаю». — «Ггэта… уссе ттак». Няма слоў і вобразных параўнанняў, каб выказаць усё гнятучае чуццё чакання смерці ад кожнага гудзячага снараду.

Перастала-ткі… Ох, уздыхаем, як пасля хваробы.

— Ці ёсць раненыя і забітыя на батарэі? — пытаецца камандзір па тэлефону.

Забегалі, засуяціліся.

— Ёсць ці не? — выпаўзаюць з акопаў, азіраюцца.

— Здаецца, усе жывы-здаровы, — разводзіць ува ўсе бакі рукамі асабліва ласкавы цяпер капітан Фядотаў.

— Вот смаліў, дык смаліў!

— У душу б яго так смаліла! — хрысцяцца, і лаюцца, і смяюцца салдаты.

А кругом нас паразварачваны ў зямлі страшэнныя ямы, на дне якіх зямля як бы абпалена, як бы пабялела. Аглядаюць гэтыя ямы, супакойваюцца, жартуюць. Гэтак шчасліва абышлося: праўдзівае пекла было, а ніхто ні ранен, ні забіт, і ўсе акопы, і ўсе аруддзі цэлы.

Раптам бяжыць ад сваіх убогіх акопчыкаў пехацінец з нашага батарэйнага прыкрыцця*. Хрыпіць спуджана і дзіка:

— Хвэльчара! Насілкі! Двох параніла… Кісяля забіла… Можа, і яшчэ ёсць: развярнула ўвесь акоп.

Падпаручнік Іваноў пайшоў з санітарамі туды. Аднаго раніла ў шчаку, адарвала палову языка, другога — у патыліцу, а трэці, той самы нешчаслівы Кісель, якому я чытаў «Летапісцаў» З. Бядулі і які баяўся жыдоў, яшчэ каўкнуў ротам разы два, як мы прыйшлі з санітарамі, і быў гатоў. Усе гэтыя людзі — з запасу, немаладыя.

---

* Чалавек пяцьдзесят, сто ці і цэлая рота, што пасылаецца быць пры батарэі на выпадак неспадзяваных нападаў ворага, асабліва ў паходзе.

Стаім тут 18 дзён…
Колькі ж яшчэ будзем стаяць?
Абрыдла! Усё мне тут абрыдла!

*10 кастрычніка.*
Раней некалі салдаты прарочылі замірэнне на сённяшні дзень. Цяпер адкладзена да 25-га гэтага месяца. Хто ведае, што будзе гэтага 25-га? Ці дажывём мы да яго? А калі дажывём і міру не будзе, салдаты яшчэ далей адкладуць, — «пакуль збярэцца музыканцкая каманда ў пехацінцаў, а то няма каму іграць адбой». Так у нас тут жартуюць.

Сёння — сцюдзёны вецер, дробненькая мрось, хмары са ўсіх бакоў. Усё нешта прымоўкла, не страляюць. Салдаты найболей сядзяць у акопах. Што ім рабіць? Узводны выйграў у карты некалькі рублёў і паслаў нумара на хутары па гусіну (купіць, а калі ўдасца — украсці) і будзе частаваць сваіх. А што будзем есці, калі тут доўга пастаім — і ўсё купім, і ўсё тут пакрадзем? Сёння мы елі нішчымную бульбу, «і то балазе».

Учора ўвечары адзін снарад нямецкі трапіў у штаб палка, узарваў ракеты і спаліў хату. Надта хораша выглядала, як сноп ракетаў рассыпаўся па цёмным небе!

Ах, каб нам гэткая цяжкая артылерыя, якую маюць немцы. Добра хаця, што немцы горш за нас страляюць, а то была б нам лазня.

Пехацінцы з прыкрыцця астатнімі падзеямі тэрарызаваны. Ува ўчорашнім няшчасці бачаць кару боскую за смерць жыда-дабравольца. Сваімі вечнымі прычэпкамі: «Дабраволец… казённая шкура… запісаўся за дзень да прызыву» і да таго падобнымі — давялі да самагубства. Я думаю, што каб і наш Беленькі чуў сто разоў на дзень: «Жыд, жыд-балавід, табе зад, а мне від», дык і не чуючы зняваргі, а толькі ад аднаго ідыёцкага паўторвання кінуўся б у пятлю.

Па абедзе мы выкапалі сабе талакою (за табаку Беленькага) новенькі тэлефонны акоп, дужа добры, з акенцам, ну — як бы зямлянку. Стаіць на сухім грудку, і вада пад нагамі, як у старым, не чвякае.

Змрокам паклікаў мяне ў сваю хату камандзір. Я пайшоў з яго пасланцом-ардынарцам. Толькі падышлі да хутара, як страшэнна «цяжкі» (вялікі дужа, мяркуючы па сіле ўзрыву, «чамадан») бабухнуў у дрэва ля пуні… Гкрэхнула так, што затраслося ўсё. Мы ўскочылі ў сенцы і адтуль, калі чарэпкі разляцеліся, убачылі вялізны куль дыму, зямлі — месца ўзрыву. А ў сенцах Дзікан

(беларус з Міншчыны, які некалі спрачаўся з другім дзеншчыком у справе піцця «хахламі» гарбаты), памыўшы талеркі ад афіцэрскага абеду, іграў на скрыпцы сваю вечную кадрылю. Ён так «злякаўся», што аж скрыпку ўпусціў з рук. Засаромеўся нас, падняў скрыпку, і аглядаў яе з усіх бакоў і да вуха прыкладаў: ці не пабілася, бо «ўраніў неяк няўмысля…». Выбег спуджаны камандзір: «Дзе? Дзе?» Але болей немец не страляў. І чаму быў пушчаны гэты адзін, такі вялізны і такі дарагі «чамадан»? Я не разумею. Калі сціхла і камандзір гукнуў мяне ў хату, я першы раз убачыў на яго грудзях нашытую георгіеўскую стужачку. Ужо не раз я чуў, як салдаты казалі, што, убачыўшы камандзіра з тою стужачкаю, трэба яго віншаваць, і казалі, як трэба віншаваць. І я сказаў цяпер:

— Маю гонар радавацца, ваша высокаблагародзіе, бачачы на грудзях…

— Дзякуй! — перабунтаваў ён мяне.

— …доблеснага начальніка заслужоную нагараду!

— Вось, значыцца… — пачаў ён даваць мне працу, быццам хацеў, каб я перастаў казаць сваю рацэю.

— Дай Божа другі! — разышоўся я і раптам спужаўся: мая рука нялёгкая, што, як на маё жаданне будзе яму другі крыж… драўляны? Ах, навошта я сказаў астатнія словы!

Камандзір заказаў мне работу: з 2-вярстовае карты зрабіць 1-вёрстку і, апроч таго, нарысаваць пазіцыю батарэі ў маштабе 1/8400.

Я пайшоў працаваць у канцылярыю, за вярсту адгэтуль, і па дарозе, восеннай, цёмнай, бязлюднай, думаў: каб цяпер ляцеў снарад і адарваў бы мне палец на левай руцэ, — я чарціў бы праваю і паказаў бы рану толькі скончыўшы заказаную мне камандзірам працу. Хай бы ведалі, які я… Зразумела, што я зараз і лаяў сам сябе за падобныя разважанні, і дзівіўся, чаму падобнае глупства лезе ў галаву: ці то пад уплывам чытанай мною раней расійскай літаратуры, ці то яшчэ з якіх прычын…

* * *

*11 кастрычніка.*

Учора, ішоўшы з канцылярыі назад на батарэю, я заблудзіўся, узапрэў ад хады і ад боязні, што не знайду батарэю. Пасля маіх высокіх разважанняў — самая камічная прыгода. А карту я так і не паспеў начарціць, балазе ўзяўся за гэта падпаручнік Сізоў.

Спаў я ў хаце, вошы шукаў, раздзеўся, добра спаў. Хто можа адчуць гэтую радасць і прыемнасць: спаць раздзеўшыся? Толькі той, хто блізу месяц спаў у ботах і ў шынялі… А начаваў гэта я на тым хутары, дзе афіцэры начуюць, толькі ў другой палавіне. Цяпер сяджу ў акопе і ў рукавічках пішу.

*12 кастрычніка.*

Не пішацца. Не ведаю, які сёння дзень, і лянуюся вылічаць. На левым фланзе вялікі бой, а ў нас — толькі з паразітамі бой. Ціха, нудна і цяжка.

*13 кастрычніка.*

Жонка плача, што раса падзе; сястра плача, што ручай цячэ; матка плача, што рака плыве…

Сёння раніца марозлівая. Лог белы ад парошы. У паветры не туман, а густая, цёплая пара. Ногі шыбка ідуць па скрыпучай траўцы.

За кустом выкінуў з дзесятак белых, чарнаватых пасярод, буйных вошын. Палягчэла на душы.

Па абедзе разбіраў і чысціў карабін. Трэба памазаць, а няма чым. Пашын пажартаваў: даў раду *чым* памазаць, але і *гэтага* ў нас мала, бо кормяць толькі ўвечары адною бурдою.

Пад вечар прост замучыла пякотка. Мусіць, ад хлеба. Трымаемся хлебам.

Апроч таго, меў другую прыкрасць. Праходзячы міма камандзіра, не аддаў чэсці, бо думаў, што не дваццаць жа разоў на дзень аддаваць. Аказваецца, яшчэ няважны я салдат: хоць сто разоў праходзіш міма, трэба казыраць і казыраць. Дастаў добрую праборку ад камандзіра, потым ад старшага. Старшаму за мяне была ад камандзіра вымова. Ану вас усіх к чорту!

## Пераезд

*15 кастрычніка, 5-я гадзіна раніцы.*

Сёння апаўночы з’ехалі з пазіцыі, на якой стаялі аж 23 даўгіх-даўгіх і нудных-нудных дні. Яе пасля нас заняла N-ская брыгада.

Куды едзем — не ведаю. Кіруемся на левы фланг.

У дарозе пакалелі. Ноч — як год.

Цяпер затое ем бліны ў цёплай хатцы добрага жмогуса (стаім на біваку). Гаспадар з жалем пазірае на маю прагавітасць і шкадуе салдата: «Салдотус — як сабак…» — «Так, ацец! Салдацкая доля — сабацкая».

Цягнемся далей.

Балота пад нагамі. Скрозь — туман; часам нешта сыплецца мокранькае і драбнюсенькае, туман не туман, дождж не дождж; дзесь варона: кра-кра-кра! Мокрае лісце пад дрэвамі, дым з коміна ў хутарцоў, сабачка: гаў-гаў-гаў!

Куды мы едзем?

*16 кастрычніка.*

На бівак прыехалі ўчора позным вечарам. Некалькі снарадных скрынак асталося ў дарозе, утапіўшыся ў гразі, і прыехалі ўночы. Коні нашы выбіліся з духу, пара ад іх ідзе, як белы дым. Людзі замардаваліся, цягнучы з балота гарматы, фурманкі і коней.

Начуем паміж гор.

Сёння дарога сушэй і туману няма.

Навакол — горы, лагчыны, балотцы. Нямецкі аэрастат, як таўстая кішка ў небе, вісіць і вісіць. Здаваўся далёка справа, цяпер мы едзем проста на яго.

Прывал. Пяхота збірае трэсачкі грэць ваду ў сваіх кацялках і «апраўляецца», дзесяць раз ступіць адтуль, дзе п’юць гарбату і ядуць хлеб. Наш камандзір даў аднаму бізуна па спіне і шалёна крыкнуў: «Свінні!!»

Я надумаўся бегчы на бліжэйшы хутар, спадзяваўся купіць там хоць трошку хлеба. Хлеба я не дастаў, бо там ужо поўны двор салдатаў, але затое ўбачыў незвычайна прыгожых дзяўчат-жмудзінак. Іх было тры сястры. Прыгожая старэйшая, а яшчэ болей — меншанькая. Стройная, лоб высокі і белы, вусначкі крыху ўзнятыя, вочы доўгія і галубыя, дзве пушыстыя касы ззаду — светлыя і трошку кудравяцца, а форма рукі — ну прост класічная, асабліва ў сялянскай дзяўчынкі. Кожны рух, погляд, шаволяцца вусны — з нейкай простай, але харошай дзявочай грацыяй. Салодка было глядзець на яе мілае жмудзінскае і агульналюдское хараство. А сярэдняя — нецікаўная… «І чаму пакрыўдзіла прырода побач з гэткімі сёстрамі?» — думаў я. Меншанькая дужа падобна да старэйшай, але ў старэйшай усё ў пышным, сталым красаванні. Стаіць яна з мычкаю лёну, не апрануўшыся, толькі накінуўшы на плечы цёпленькую хустку (косы выпушчаны поверх), стаіць і з пытліва-сумным чаканнем углядаецца, як салдаты ламаюць палкі ў плоце, крышаць дзіравую карзінку — на цяпло гатаваць у кацялках гарбату. Мне так захацелася пачуць яе голас, што аж сэрца застукала. Я папрасіў:

— Прашам донас (хлеб), сурыс (сыр), пена (малако), кяўшыне (яйкі), яблыкас (гэтае слова стварыў «па-жмудзінску» сам)… Пінегу, пінегу (грошы)! — закрычаў я, каб не падумала, што дарма хачу. Болей не меў запасу слоў.

— Нека нейра… нека нейра (нічога няма)! — адказала яна ветліва, крышку засмучона ціхім, але прыемным гучным голасам. І пайшла ў сад на матчына гуканне.

І я туды падышоў. Там «гаспадарiс» (так тут кажуць) з хлапцом, падобным да сярэдняе сястры, бегалі паміж яблынек, хапаліся то за куфры, вынесеныя сюды з хаты, то за кубел, то за груд убогага рыззя і клапатліва, трывожна гаманілі і крычалі ў сваёй мове.

Я, маркотны, пацягнуўся з горкі, ад хутара, уніз к ручаю, дзе стаяла батарэя.

Ззіў-ж-ж — цю-юў! — злавесча прапяяла раптам неспадзяваная шрапнель і шпокнула на горцы над хутарам. Абстрэл быў гэткі нечаканы, што я ўталопіўся там, дзе стаяў…

Гляджу: пяхота сыпле ўніз, як бульба, бразгае кацялкамі, куляецца з вінтоўкамі ў адстаўленай руцэ — скок! скок! — хто куды, цераз плот, цераз канаву і навакол усяго хутара. З другой хаты хапаюцца ўцячы пяхотныя афіцэры, між іх знедкуль заблукаўся з сваёю скрыпкаю ў руках наш Дзікан. Бяжыць прытка, перагнаў усіх.

— Трывога!

Жжу-жшу-гру-укх! — вагам, з растучымі націскамі ў гуках, як бы вал за валам, яшчэ болей злавесча прагудзела і, раптоўна змоўкнуўшы, а потым глушачы ўсё ў адзін жудасны момант, грокнулася троху воддаль ад хутара першая граната.

Сярод пяхоты ўзнялася невыражоная паніка, закапашыліся, як здзічэлы раскопаны мурашнік, бразгаталі кацялкамі, лапаткамі, цягнулі вінтоўкі за штык і беглі безвач ува ўсе бакі. Спакойны выгляд батарэі і крыкі афіцэраў абразумілі іх. Паваліліся пад узмежкі, прытуліліся пад бераг рэчкі, але бегчы перасталі, зніклі…

— Па конях!! — горда скамандаваў наш камандзір, батарэя рванулася, камандзір паехаў шыбка, а за ім стужкаю-вужакаю, не астаючыся, шыбка папаўзла батарэя наперад па дарозе.

* * *

*17 кастрычніка.*

Усяго я ўчора не дапісаў.

Як мы ад'ехалі ад таго хутара, абстрэл перастаў. Але перад самай ужо пазіцыяй трэба было пераехаць высокае голае месца. Мы пра гэта не ведалі, афіцэры нам не сказалі. А можа, і ведаў толькі камандзір. Выйшла нам гэта новаю неспадзяванкаю. Вораг з свайго праклятага аэрастату ўгледзеў. Толькі галава калоны ўзабралася на горку — гранаты, шрапнелі, гкрах-бух… Батарэя рынулася наўперад шалёным галопам. Потым я бачыў толькі тое, што было перад самымі вачмі. Я ішоў, а калі ўсё паняслося на злом карку, я ўчарэпіўся адзаду за тэлефонную двухколку, адарваўся, адкаціўся. Усхапіўся, пабег… Снарадная скрынка перакулілася, і коні цягнулі яе нейкі час дагары каткамі, кінуліся на дыбкі, убок, зблыталіся, заваліліся. Дзве пары вынасаў (коні), не ведаю, ад каторых аруддзяў, вырваліся з запрэжкі, праляцелі міма мяне па полі, пад свістам асколкаў і грукатам узрываў, цягнучы абарваныя пастромкі, кінуліся на лог, у балота і адразу ўскочылі па шыю. Потым я прысеў на адзін момант пад прыдарожнаю канаўкаю, бачыў, што на дарозе ляжыць шапка, нехта згубіў, мяшок аўса і нашы батарэйныя лапаты адвязаліся і паскідаліся. Батарэйцы і нейкія пехацінцы скакалі па полі, як вераб'і, быццам гуляючы з асколкамі ў хаванкі. Было гэта адзін момант. Пехацінец бег, хаваўся пад быльнік, ізноў выбег, страціўшы ад страху розум, махнуў рукамі і перакуліўся — ранены… І я сарваўся і паляцеў наўперад, бо тут хавацца — смерць… Самая задняя гармата грыміць міма на адным коле, а другое задралася ўгару. У коней грывы задраліся, а людзі абшчапілі іх за шыі — і так шыбка-шыбка едуць. Я ўбачыў, што арудзійныя нумары ўзляпіліся на дула, на ўсю гармату, што зазвычай забараняецца. І я, не ведаю, якімі сіламі, кінуўся да іх і ўскочыў верхам на самы задраны кончык дула. Ніхто мяне не спіхнуў, нехта ж (дагэтуль не ведаю хто) схапіў спераду за гімнасцёрку і цягнуў, каб я не адваліўся набак, так я і ўседзеў. Зараз батарэя паехала з гары, і тут было зацішней, але ўвесь строй збунтаваўся, каб не наехаць на другіх, кідаліся міма, у бакі. І тут ізноў невялічкі пад'ём, на вышэйшым месцы хутар, і на хутар таксама б'юць снарады. Што было, пераказаць і нават уздумаць і разабрацца — трудна. Пярэднія зрабіліся заднімі. Нумары разбегліся, як спуджанае стада курапатак; непрыгожа прысядаюць да зямлі, калі рвецца снарад. Кожнае аруддзе, кож-

ная запрэжка, кожны чалавек ірваўся і пёр наперад сам па сабе галопам, скокам, наўскачка, рассыпаўшыся хто куды. Чорным дымам засцілалі іх гранаты. Свістала і сыпала смяротным гарохам з сівога клубочка-хмаркі шрапнель. Смерць таму, у каго яна клубіцца над самаю галавою. Бягу, бягу — у горле суха, горача, хрыпата. Вось наша тэлефонка — перакульнулася, конь заваліўся, ляжыць: ці жывы, ці забіты? Міма, міма!

Ужо не тое… троху сцішылася… змоўкла! Мы ўцяклі, мы перад высокаю гарою. Тут пазіцыя. Мы ўцяклі… А там, збоку і ззаду, на гэтым проклятым перавале, які мы пераязджалі, стаіць пад смерцю яшчэ адна батарэя, — якая, не ведаю. Чаго ж яна стаіць? Занясло яе пылам-курам і чорным дымам завалакло. Чаго яна стаіць? Жудасна глядзець, як яна там гіне. Відаць: яшчэ бегаюць, капошацца там людзюхны, а па іх усё: гкрэ-эх! Дж-жфю-юў! І раптам гэтая пабітая, памёршая батарэя загрукатала!.. Заблiскалі стрэлы, цераз нашы галовы зашумела, паняслося тое, што яна выстраліла. Батарэя бароніцца! Як радасны веснавы гром, гручыць яна нам увушшу. Яна бароніць сваю пяхоту, дае магчымасць заняць ёй выгодныя пазіцыі. Бароніць, аддаючы сябе ў ахвяру. Я нічога не разумею: адкуль яна там узялася, калі яна там стала? Я думаў, што і яна ехала, як і мы, у адной з намі калоне. Мусіць, не.

Ах — мы ў гарах! Горы, горы! Тут, збоку, лагчына. Хутаркі. Балота, торф капалі, вада. А навокал спераду — высокія горы!

— Скарэй! Скарэй!!! Скарэй!!! — чую, крычыць камандзір, крычыць капітан Смірноў, крычаць батарэйцы.

— Скарэй! Ратаваць таварышаў ад смерці!!

Дурныя слёзы засцілаюць усё перад табою. Батарэя гатова к бою? Не? Ах, чаму не? Мала людзей. Усе, хто можа, на пазіцыю! Першае наша аруддзе ўжо страляе. Пехацінцы гуськом нясуць ад перадкоў, з лагчыны, латкі з снарадамі. Батарэйцы — з імі. Сізоў ласкава шлёпае шашкаю па спінах, падганяе! Страляе другое! Гранатаю, гранатаю! Дзе ж людзі? Збягаюцца спозненыя нумары… Жарнулі б усёю батарэяю, — людзей мала! Скарэй! Скарэй!! Скарэй!!!

Радасць, радасць! З гары крычаць: «Абстрэлены аэрастат спускаецца на зямлю, спусціўся, спусціўся!» Спусціўся…

А калі я бег сюды міма хутаркоў, з бліжэйшага двара выйшлі тры старыя жмудзінкі, ідуць — шалёныя — на другі хутарок.

— Куды вы? Азад!! — памятаю, крыкнуў на іх, як у нас крычыць пастух на кароў. — Заб’юць вас тут, у пограб лезьце, хавайцеся!

Не разумеюць маёй мовы жмудзячкі… Свірэпа махаю на іх абедзвюма рукамі, каб вярнуліся. Пастаялі, паўзіраліся, назад панура папляліся.

Потым мы акопы капаць, тэлефоны правадзіць завінуліся. Уся батарэя страляць пачала.

Да цёмнага стралялі.

Тэлефон наш зараз перабіла (адразу два драты). Чатырох батарэйцаў раніла: феерверкера Абаротава, Пічугіна, Баяшку (цяжка) і запаснага Чысцякова. А якія былі страты ад пераезду — пакуль што не ведаю. Кажуць, аднак, што зусім маленькія: чалавек пяць, ездавых і нумароў, лёгка параніла, і ўсё. І мяне дзівіць: ці гэта шчаслівы выпадак, што мала стратаў пасля такога пякельнага абстрэлу, ці што?

Тут пясок, капаць было лёгка, але акоп наш тэлефонны — «ад сонца толькі», як казаў Чарноў, прыйшоўшы да нас на кароткі час з наглядальнага пункту. Чарноў казаў, што нейкаму беднаму пехацінцу галаву адарвала, ляжыць там у нізінцы, дзе торф капалі. Уцякаў ад абстрэлу, як пераязджалі, і лёг. Ад Чарнова ж мы даведаліся, што тая батарэя, якая страляла з перавалу, — трэцяя батарэя нашага ж дывізіёну і ішла ў адной з намі калоне. У яе дужа цяжкія страты, «але ўсім дадуць крыжы і на месяц — у тыл», — казаў Чарноў. Пад'ехалі мы да нямецкіх пазіцыяў незвычайна блізка: простым вокам відаць была карзіна, падвешаная пад аэрастатам, у якой сядзяць наглядальнікі.

Сёння «каўбаса» (аэрастат) ізноў вісіць, толькі значна далей ад нас.

Кажуць, уночы пойдзем далей. Кажуць, што ўчора наша пяхота забрала многа немцаў у палон і многа пабіла і параніла.

Батарэя страляе. Страляніна на ўсім фронце… Некалі пісаць. Пісаць у вязёнках трудна.

Трошку сціхла. Калі гэта пішу, выпушчана ўжо 807 шрапнеляў і 408 гранат. Нямецкія снарады пералятаюць цераз нас, бо мы за гарою, у «мёртвай прасторы». Усе чамусь зрабіліся надта пэўны, а ў маёй душы ёсць трывога нейкая… Саромеюся нават прызнацца, сказаць уголас.

# Горы

*18 кастрычніка.*

Стаім за гэтымі гарамі, у гэтай «мёртвай прасторы», і я хачу верыць, што можа быць такое месца за гарою, дзе снарады не ўпадуць. Але штосьці тут няпэўнае…

Учора да цёмнага стралялі. Прыйшоў вечар… Мароз бярэцца. Ногі на замёрзлай руні пада мною не правальваюцца. Месяц сярод сівых, панура-сцюдзёных, хмар сунецца і шпарка бяжыць…

Капаем акоп: я, Пашын і Беленькі. Сварымся, няма ладу. Пашын лае нас абаіх «арыстакратамі» і кідае зямлю цэлымі кучамі, як волат. Беленькі — за архітэктара і лае Пашына і мяне за няўмельства будаваць акопы, а сам капне-капне трошку і памінутна садзіцца абціраць пот. Я цягаю з хутара жэрдзі на пакрышку і не бачу толку ў Беленькавай архітэктуры, бурчу. Сварымся затое, што ўсім нам цяжка.

Пайшоў я на адзін хутар. Спакойны гаспадар не дае нічога браць. Таргуецца нават за аглоблі ад саней. Гаворыць па-расійску, а здаецца, немец, а не літовец. Можа, шпег? Да граніцы тут 4 вярсты, з гары ўдзень відаць Вержбалова (казаў падпар[учнік] Сізоў). А я і баюся: ноч, цёмна, я адзін на хутары з гэтым падазроным гаспадаром.

Пайшоў на другі хутар — выламаць якія-небудзь дзверцы; чую, у хаце выюць… Уваходжу: дзеці гудуць, бабы плачуць, рукі ломяць, хапаюць посцілкі, падушкі, кідаюцца. «Арклю, арклю (конь?)… Важой (ехаць)… Ах-ахаей… Дэва, дэва (Бог)!..» Гаспадарас кідаецца да мяне: ці можна цяпер ехаць, ці заб'юць іх нямецкія снарады, ці пойдзем мы далей адгэтуль, наперад? Хлопчык умее троху па-расійску, мабыць, хоча пахваліцца гэтым, кажа: «Нета яйка… Афіцэрас убілі ўсю курыца…» Дурненькі! Я прыйшоў не па яйкі, не па курыцу, мне дошкі патрэбны на акоп. Гладжу па галоўцы, — смяецца. І гаспадарас паспакайнеў. Сказаў я ім ласкавае слова і пайшоў без дзверцаў.

— Арыстакрат! Капайце ж самі, чорт вас бяры! — лаецца Пашын, шпургае лапату, садзіцца на ўскапаны пясок і бярэцца за курыва.

— Вальнашляючы… Дзверцаў не можаце дастаць! — кіпяціцца Беленькі, таксама кідаючы работу, і доўга не можа абцерці ўсяго свайго вялікага поту.

А потым пайшлі ўсе ўтраіх, знялі і прыпёрлі цэлыя вароты з хутару таго падазронага гаспадара.

Акоп так і не выкапалі. Накідалі ў ямку лёну, накрылі яе варотамі — і так начавалі.

Сёння чуў, як адзін пехацінец казаў другому, што снарадам забіла двух «вольных» на хутары ў той час, як гэты пехацінец з другім сваім таварышам куплялі на хутары бульбу.

— Даражыліся, цягнулі душу з цела, а снарад як бэхне! Нас не зачапіла, бо ўжо былі іх кінуўшы і адышоўшы, а яны, глядзім, гатовы… Вярнуліся мы, забралі бульбу так.

Дзіця Сізоў. Усё запісвае, але чытаў запісанае батарэйцам. Напісаў аб тым, як гэтыя батарэйцы частавалі бульбаю галоднага пехацінца, не меўшага нават хлеба. Апавядае салдатам пра сваё хатняе жыццё (ён — адзіны сын старэнькага адстаўнога пяхотнага капітана), кажа, адкуль родам, як вучыўся, як любіць Расію і народ і што гатоў за іх памерці… Салдаты любяць яго, але некаторыя цішком пасмейваюцца. «Пенсію буду пасылаць дамоў, — прызнаецца ён, — а то ногды заб'юць, дык санітары з мёртвага возьмуць». У яго выпаўзла *беленькая* (значыцца, вошына) з-пад пярчаткі, — пачырванеў, як мак.

Страляем ад 2-й гадзіны дня да познага вечара. Дайшло да тысячы ўжо патронаў. Бой не сціхае на ўсім фронце. Чую з трубкі, цэнтральная перадае некаму тэлефанаграму, што наша пяхота заняла фальварак Капсодзе і засела там пад згубным арудзійным абстрэлам… Незразумелая трывога гняце мяне: рука не хоча болей пісаць.

Сёння хлеба прывязуць уночы — адна ўцеха.

*19 кастрычніка.*

Нас моцна абстрэльваюць, вось табе і «мёртвая прастора». Але, праўда, снарады то пералятаюць, то не далятаюць.

Бой па ўсім фронце.

*20 кастрычніка.*

Божа, Божа! Асколкам гранаты забіт падпаручнік П. К. Сізоў. За пяць мінут перад тым гаманіў у нашым тэлефонным акопе і трактаваў нас сітным хлебам… Выйшаў абедаць і не дайшоў да хаты.

*21 кастрычніка.*

Абраз ляжачага наўзнак П. К. Сізова, у новенькім даўгім шынялі, у чысценькіх валенках, з белай хустачкай на разбітай асколкам галаве, — мучае мяне. Вытрашчаныя мёртвыя вочы,

скрыўлены рот, пасінелыя шчокі, на якіх у мёртвага ўжо вырасла брудзь, прабіты чэрап — усё гэта пад хустачкаю. А далей — стройны, як дзяўчына, як жывы, толькі ногі тырчаць адубеўшы…

Сёння прывязалі яго на ложа гарматы (без труны) і з пачэснаю вартаю павезлі ў штаб, хаваць. Каня яго вялі за ім пад сядлом, у повадзе. Вечны спакой!

*22 кастрычніка.*

Учора пераехалі на новую пазіцыю. Пасля смерці падпаручніка камандзіру і ўсім нам цяжка было там заставацца!

*23 кастрычніка.*

Агнём нашага левага аруддзя запалена пуня ў панскім двары Капсодзе (там ізноў немцы).

На батарэі — чатыры лёгкараненых.

Дагэтуль намі выпушчана 260 шрапнеляў і 301 граната. Стралялі па выязджаючай батарэі, па адступаючай пяхоце, па гаўбічнай батарэі, па пяхотных акопах. Прыцэлы нашы ад 54,5 да 150.

Сёння рваліся наўкол нас «чамаданы».

Учора ўвечары і сёння ўранні быў густы сцюдзёны туман. Удзень паказалася халоднае кастрычніцкае сонца. Ногі зяблі. Купіў у падпрапаршчыка Хвёдара Смірнова, шчарбатага чалавека, няма аднаго пярэдняга зуба, смярдзючы казённы кажушок з цёплай баранняй шэрсцю. Заплаціў дарага: пяць рублёў. Цяпер маю толькі два рублі — і ўсе мае рэсурсы.

— Падпрапаршчык, герой, а казённым таргуець, — казаў Пашын і лаяў мяне, што я пераплаціў «гэтаму подламу гароху».

А мне ўсё думаецца пра смерць Сізова. Каб ужо скарэй замірэнне! Хай раняць, толькі каб жывым застацца…

Сёння з 12 гадзіны пачалося, як кажуць, наступленне 25-е дывізіі! Мы тож б’ёмся, пасабляем ёй. Гарматы грымяць, кулямёты трашчаць.

Мы страляем блізу без пярэрвы. Ды ў адной перадышцы я паспеў усё-ткі задрамаць.

Сёння і не мыўся.

Учора, калі Беленькі пайшоў стрыгчы капітана Смірнова, мы (я і Пашын) пры свечцы, якая гарыць у нас у акопе, шукалі ў вопратцы. Беленькі «шукаўся» перад вячэраю. Дужа бедаваў, што еў сваю порцыю мяса, не памыўшы рук. А ў нас вады не было. «Чаму зупаю не памыў?» — жартам даў раду Пашын

пасля вячэры. Беленькі яшчэ болей бедаваў. Елі ўтраіх з аднаго вядра, як заўсёды. Толькі хлеб цяпер хаваем паасобку. Захацеў так рабіць Беленькі — не для сябе, а для мяне, бо Пашын надта многа паядаў хлеба. Я, нізкі чалавек, прыстаў на прапазіцыю Беленькага.

Ад нашае пазіцыі да граніцы цяпер і трох вёрст не будзе.

Штабс-капітан Дамброўскі ізноў захварэў. «Халуі» казалі, што першую ж ноч афіцэрам спаць не даваў. Усхопіцца скрозь сон, як закрычыць на ўсю хату: «Пара! Пара! Уставайце! Снарады валяцца на дом! Уставайце!» Усіх тармошыць — чырвоны, з вялікаю галавою, татарскім тварам. Аж страх. Ізноў адправілі быць пакуль што пры ўпраўленні брыгады. Цікава, ці робіць ён такі гармідар начою там?

За дзень выпушчана 499 патронаў.

Нягледзячы на абстаноўку, мне прысніўся распусны сон. На сэрцы — камень. Трэба дзяжурыць — і не спаць. Ай, як хочацца спаць!

*24 кастрычніка.*

Прыйшоў ліст ад майго меншага, майго мілага браткі. А ліст разламаны «ваеннаю цэнзураю», — гэта што за навіна? Мне прышлюць пасылку… о, радасць!

Прыехалі, палепшаўшы, два раненыя 7-га жніўня. Камандзір з імі цалаваўся. Адзін з іх, Драб, Горадзенскае губерні, заплакаў…

Учора на батарэі — 4 лёгкараненых і ездавога Кучынскага пераехала тэлефонка; скалечан надта цяжка, фельчар баіцца, што не выжыве.

Свеціць чырвонае зімовае сонца. Начою — месяц поўны, месяц ясны.

Было ціха, толькі з левага боку нейкая батарэя нашае брыгады пусціла залпам некалькі чародаў. Рэдка дзе гкрэхалі «чамаданы». Часам іграў кулямёт. Свяціліся ракеты. Ды мала. Трывогі не было.

Бамбардзір-наводчык Валодзін (кастраміч) разважае аб вайне: «Калі ўжо яна кончыцца, звязаліся з дрэнню, трэба нам было лезці за сербаў, яны там штогоду ваююць. Колькі нашага брата выйшла на вайну, а што нам: прыбавіцца хоць па дзесяціне, ай што? Чаго не хапае багатым чарцям, што лезуць у вайну? Здаецца, і сыты і п’яны. З жыру шалеюць, сволачы, а ты за іх жыццём накладай». Казаў разважна і самавіта і хлябаў гарачую спітую гарбату. І мяне частаваў гарбатаю.

## Катастрофа

Пішу па абедзе (24-га кастрычніка). Выехалі… бо аказалася, што нямецкія акопы — пустыя. Начою немцы цішком уцяклі.

Едзем…

Восеннае сонца спакойна гуляе. Ветракі-млыны заснулі. Пустынна. Аднак там-тут пачынаецца сонны рух. Жыхары, як пчолы вясною з вулля, асцярожна выпаўзаюць.

Во, збоку шашы, калдыбае вольны чалавек. Падняў з зямлі каску, раздушаную колам, падзяржаў двума пальцамі і кінуў у канаву. Двое хлопцаў збіраюць гільзы. Паднялі паломаную стрэльбу, але ўбачылі салдатаў, кінулі яе і пабеглі ўцякаць.

На гаці ў яме ляжыць здохлы конь. Раздуўся, як гара, і ўжо смярдзіць. А ў багне пакінута пустая снарадная скрынка. На ўзгорку — доўгая алея старых ліпін, дзеля чагось без жаласці ссечаных.

Цягнуцца акопы немцаў. У іх — пярыны, лаўкі, сталы, бляшаныя печкі, гаршкі з літоўскіх хат. Валяюцца пляшкі, гарахвяныя кансервы, папера ад шакаладу. Пачкі патронаў. Цэлыя кучкі гільзаў. Цягнуцца рады драцяных загародак.

І… знаёмыя мясцовасці! Вось тая горка з дрэвамі, па якой мы палілі 4-га жніўня.

Засмучэнне і трывога на сэрцы. Не пацяшае перамога. Сумныя малюнкі!

Крыжы на полі, на краях лесу, ля дарогі за канаваю. Змывае дождж слабыя карандашныя напісы: «Тут пакояцца рускія воіны, забітыя пры здабыванні г. Сталюпэнена 4-га жніўня 1914 году». Відаць, у адной магіле пахаваны і немцы, бо на адной з іх стаіць другі крыж з напісам: «Тутака пакояцца германскія воіны, забітыя пры абароне места С. 4-га жніўня 1914 года». Яшчэ колькі сігоў і дошка: «Магіла воінаў-яўрэяў».

Іншыя крыжы са звязаных кіёчкаў. І ўжо пахіліліся, і ўжо борзда заваляцца. І згубіцца месца апошняга супакаення воіна.

*25 кастрычніка.*

Учора заначавалі рана, яшчэ відным вечарам. Сёння выехалі ў 8 гадзін раніцы (пішу на прывале).

Прапаршчык Валк (латыш) даў мне ўчора вялікі, фунты два ці болей, кавалак беленькага хлеба. Я даў патроху кожнаму тэлефаністу, сам толькі пакушаў — і кавалачак схаваў у ранец. Цераз малы час шчупянуўся — няма. Хацеў зрабіць скандал,

але раздумаўся, пакінуў так. Думаў на Яхімчыка, думаў на старшага… А хто яго ведае, хто так паджартаваў.

Адусюль на нямецкай зямлі вее на мяне нейкім мёртвым пахам. Чую мярцвячыну, хоць ты што…

Надта спакойна расселіся мы на чужой зямлі на воку ў ворага. Быць жа не можа, каб за намі не сачылі. А мы сабе — душым кур, варым парасяціну — ой, нядобра!

— Начальства ведае лепей за вас! — скалоў за гэткія развагі старшы мяне і Беленькага, але і сам хаваў у голасе нездавальненне справамі і трывогу.

Сёння гадзіне а 10-й пачалося.

Едзем спакойна, раптам ні з таго ні з гэтага — пуухсь! — лёгкая шрапнелька над самай батарэяй.

— Немцы з правага боку!

Тут жа на дарозе зняліся з перадкоў і пастроіліся к бою. Камандзір узлез на перадок і стаяў з біноклем у руках, загарадзіўшыся так-сяк арудзійным шчытом.

Стаім. Нічога не відаць, не чуваць. Пяхота некуды бяжыць з дарогі.

— Ах, гэтыя разведчыкі!

Ізноў колькі шрапнелек расплылося белымі кудравымі клубочкамі.

Мне зрабілася варашна.

— Нас абкружаюць, — сее нейкі пехацінец паніку. — Камандзір нашае дывізіі, нямецкая морда, нябось ведае, што робіць.

Ці ж можа быць? Генерал-лейтэнант N.? Гэткі горды, стройны на кані, з задранаю галавою… Сівая бародка… Няўжо — палон?

Незвычайна яскрава спамінаю ўчорашні сон… Я ў сваёй вёсцы… Чырвоныя-чырвоныя, аж чорныя, сліўкі ля Паўлюковага саду, на зямлі, на вуліцы, ля плоту… Ідзе Максім, салдата Захаронка сын, з ім яго жонка, і ў яе на ўлонні іх «свавольны» дзіцёнак… І нейкі кот драпае яму яго дзяціны твар… Я з імі здароўкаюся, як заўсёды ў нас вядзецца. Але, абмінаючы іх, заўважаю, што адна нага ў мяне як быццам карацейшая?.. Атрымаюся героем! Пайшоў… Сустрэўся з сваёю даўнаю сімпатыяй — Зенаю, сястрою гэтага самага Максіма. Прапусціла мяне пільна вачмі, а я быццам нічога і не заўважыў…

Усё ізноў сціхла. Ніхто нічога не ведае, адкуль і хто страляў, што такое? Камандзір наш нездаволена гамоніць пра нешта з камандзірам дывізіёну. Той разводзіць рукамі…

Строімся, супакайваемся, едзем далей. Тэлефонкі з камандзірам — наперадзе. Перад намі ідзе батальён пяхоты, за намі — таксама.

Ізноў усё спакойна…

Толькі ліха нагнала зайцоў. Адкуль іх столькі? Адзін кінуўся якраз цераз дарогу. Камандзір пераксціўся і дзеля чагось збочыў (адзін, без ардынарца і разведчыкаў) і паехаў далёка ад дарогі ўправа. Мы едзем дарогаю далей. А ён захацеў, мусіць, абмінуць, што заяц перабег дарогу…

Стаім. Ізноў нейкая трывога далёка спераду, на дарозе… Чаго чакаем? Камандзір некуды паехаў з старшым.

Што гэта дзеецца? Нешта ды не так… Трывога, трывога спавівае сэрца тамучым нечым…

(Канец дзённіка.)

* * *

Ізноў пішу. Пішу, калі мінулася пасля таго шмат дзён.

…Троху супакоіўшыся, мы паехалі далей. Наўкола нас усё было ціха. Маўчала пустое восеннае поле, маўчалі бязлюдныя разбураныя нямецкія сялібы, абгарэлыя рэшткі каменных сцен. Заснулі цішою горкі, зрытыя акопамі.

Нехта нам казаў, што абстралялі нас немцы з лёгкай гарматкі, падвезенай на аўтамабільнай платформе па шашы. Такое тлумачэнне ўсіх нас раздражніла: дзе ж была наша разведка? Аб чым клапоціцца начальства?

Ехалі далей…

Неўспадзеўкі ляціць па полі к батарэі, як віхар ці бомба, раз’юшаны казак… Без шапкі, расхрыстаны, мокры ад поту, з абадраным да крыві бокам у каня.

— Дзе начальства? — грозна крыкнуў ён нам, укапаўшы з разбегу каня нагамі ў зямлю.

Камандзір наш сам пасьпяшыў к яму:

— У чым, казак, справа?

— За вярсту адгэтуль наступае нямецкая пяхота!! — як громам выпаліў у нас і паляцеў далей.

Я не магу ўздумаць, як што потым рабілася. Бачыў толькі спалоханыя твары пехацінцаў нашага батальёну, што заляглі пад горкаю, а некаторыя дзяўбалі замёрзлую зямлю лапатачкамі, каб зрабіць сабе ямачкі; чуў нейкія крыкі — каманду, ці што; дзесь з левага боку і спераду разляглiся ў паветры першыя, рэдкія стрэлы з вінтовак.

Батарэя скацілася з дарогі ўніз, к вузкай, але глыбокай і быстрай рэчачцы, за сажняў сто ад дарогі. Перадкі батарэйныя кінуліся ўздоўж рэчкі, каб перабрацца на той бок; ездавыя кінжаламі секлі альшэўнік, каб хоць троху накідаць у рэчку мост-пераправу. Мы не паспелі ні выкапаць акопаў, ні правесці тэлефону ў дывізіён. Батарэя зараз пачала страляць, і я мусіў дрыжачымі ад раздражнёнасці і трывогі рукамі запісваць каманду. Камандзір узлез на передок ува ўвесь свой вялікі рост — і з біноклем у руках камандаваў. Хацелася пакланіцца перад яго геройскай постаццю — гатовай мішэнню для ворага. Над намі закруціўся аэраплан і пачаў кідаць на нас нейкія бліскучыя ў паветры стужкі, паказваючы сваім, дзе мы. Калі я троху абдумаўся, гул ад бою — гарматнага, кулямётнага, вінтовачнага — заглушыў усё. Батарэя апынулася пад абстрэлам. Альшэўнік гутаўся і крышыўся ад снарадаў, галлё сыпалася ў рэчку, з усіх бакоў гудзелі над галавою кулі. Потым зашпэкалі і зларадасна захвюкалі шрапнелі. Пачуў я — стогнуць раненыя, убачыў мімаглядам, гледзячы ў запісы камандаў, што цягнуцца некуды людзі ў крыві, убачыў санітараў з чырвонымі крыжамі на рукавах і палатняныя насілкі.

Да мяне падпоўз бела-сінявы, з мукаю ў вачах, наш старшы тэлефаніст і папрасіў, каб я завёў яго на перавязачны пункт. Я кінуў пісаць («Нашто цяпер пісаць?» — падумаў я) і з вялікім трудам павёў яго ўздоўж рэчкі, не знаходзячы пераправы. Тут, у норках пад берагам, сядзелі пехацінцы з нашага батарэйнага прыкрыцця; некаторыя, быццам тыя страусы, былі схаваўшы галаву ў ямку. Адзін пехацінец пасобіў мне весці старшага, бо старшы ледзьва пераступаў нагамі, ён быў ранены куляю ў спіну, між самых лапатак, і балюча стагнаў. Калі гэтак ішлі, пехацінец заўважыў у сябе на боце кроў, потым закульгаў ад болю, але не кінуў весці старшага са мною далей. Мы ўжо аддаліліся ад батарэі на добрыя гоні, падарожжа здалося страшэнна доўгім і цяжкім, — і ўсё ж мы не знайшлі яшчэ перавязачнага пункту. У другім баку мы ўбачылі, што едзе шпітальны фургон, і скіраваліся туды напрасцень, па полі. На нашу радасць, фургон спыніўся. На ім шалохалася на кійку палатнішча з чырвоным крыжам, і я, чуўшы пра міжнародныя законы вайны, з уцехаю падумаў, што тут ужо нас не абстраляюць. Аж як толькі мы падышлі на сажняў паўсотню ад фургону, побач з ім бухнуўся і страшэнна разарваўся «чамадан», узняўшы гару зямлі ўвелькі з добрую хату, і абняў усё чорным смярдзючым дымам. Зазвінелі, загулі асколкі. Адзін коньazваліўся і задрыгаў нагамі, другі стаў ірвацца на дыбкі. Нам трэ было б зараз легчы, а мы пнуліся на

ўсю сілу да фургону, як бы ратунак быў для нас у фургоне. Потым я агледзеўся, што пехацінца з намі няма: ён ляжаў адзаду. Зараз выскачылі з фургону санітары, схапілі без усякага жалю самлелага старшага і ўкінулі яго ў фургон. «І той варушыцца!» — крыкнуў адзін санітар таварышу і пабег да пехацінца, схапіў яго пад рукі адзаду і, задам бегучы да фургону, прывалок і яго. І яго ўкінулі ў фургон. Фурман адрэзаў раменне на забітым кані, сеў верхам на другога, засморгаў рукамі і нагамі — і вялізны фургон на адным кані шалёна паскакаў ад мяне па полі. А я кінуў туды вокам і пабег назад — колькі меў сілы…

Я бег і перакідаў з рукі ў руку шашку і рэвальвер старшага, каб здаць іх, прытаміўся. Аж недалёчка ад батарэі, у глыбокім раўку, убачыў батарэйнага трубача, з трубою з кутасамі на плячы, якую ён заўсягды насіў пры сабе, але ні разу, ад самага лагеру, не іграў. «Зайграе адбой, як скончыцца вайна», — жартавалі часам салдаты. «Трубач павінен знаходзіцца там, дзе камандзір, чаму ж ён тут хаваецца?» — прыйшло мне цяпер у думку. Аднак я з радасцю, што не адзін ужо, прысеў ля яго і са смакам зацягнуўся цыгаркаю з яго махоркі. Троху пагадзя я сказаў яму, што мы ж павінны зараз ісці на батарэю… Сам першы я не ішоў, і яго таксама быццам што прыкавала да зямлі, хоць ён і чуў нейкі сорам і не глядзеў мне ў вочы. Потым ён больш асмеліўся і супакоіў маё і сваё сумленне тым, што «ўсё роўна мы цяпер там нічога не пасобім, што *батарэя прапала*, дык нашто дарма лезці ў пагібель…». Скурыўшы яшчэ па адной папяросцы, мы, аднак, неўзабаве пачулі страшэнную нуду, нязносную адзіноту і, радыя прычыне, што адзін снарад трапіў і ў наш равок, сарваліся і пабеглі туды, дзе павінны былі быць з усімі разам. Усё ж прыкрасць за тую маладушнасць так і засталася ў мяне на сэрцы.

Падходзячы да батарэі, я заўважыў, што агонь зрабіўся як бы лягчэйшы ці, лепей кажучы, выясніўся і стаў нармальным, прызвычайным. Затое боль сціснуў мне сэрца, калі я надышоў на абрыве рэчкі на два трупы нашых ездавых, са сцятымі ў руках бізунамі, убачыў разбітую пераколеную тэлефонную двухколку, далей — цэлую запрэжку забітых коні, кіненую снарадную скрынку і раскіданыя гарматныя патроны. Пехацінцы з прыкрыцця падбіралі патроны і няслі на батарэю, а з імі хадзіў наш прапаршчык, латыш Валк, маладзенькі белабрысы хлопец, і прасіў: «Насіце, братцы, насіце!» Я прылажыў руку да казырка і па-дурному спытаўся: «Ваша благароддзе! А што мне рабіць?» — «Што хочаце», — безуважна, заняты сваімі думкамі, адказаў ён. Я ўбачыў, як цяжка слабенькаму пехацінцу несці патронны латок — бляшанку з чатырма снарадамі, схапіўся

за другую ручку, і паняслі ўдваіх. Я раней ніколі не насіў і не ведаў, што яны гэткія цяжкія. Мы насілу перабраліся па кладцы на другі бок рэчкі, ледзьва не зваліліся ў ваду… Але я быў ізноў на батарэі. Агонь, значна было, пацішэў. Батарэйцы паспелі, працуючы напераменку, выкапаць равочкі ў пояс чалавека. Успомніўшы на свой абавязак рысаваць план пазіцыі, я ўзяўся за гэта і разгледзеўся, што нашы перадкі стаяць на адным беразе з батарэяй, не дужа воддаль ад яе, у зацішнай нізінцы. Камандзір стаяў, як і раней, на адным кінутым тут перадку, з біноклем пры вачах. Раптам ён саскочыў на зямлю і слабым, негім, першы раз чутым мною ад яго голасам шыбка сказаў капітану: «Антон Антонавіч!.. Бяда з правага боку… Чатыры гарматы стаўце пад простым кутам…» Я быў блізка і пачуў. Словы тыя абпяклі мяне. А камандзір, падхапіўшы полы шыняля, сам кінуўся да бліжэйшае гарматы і схапіўся за кола разам з усімі. Умомант адна палова батарэі страляла, як і дагэтуль, проста к фронту, а другая — у правы бок, пад кутом у 90°. Я ўгледзеўся туды, у правы бок, адкуль мы раніцаю ехалі, а цяпер туды стралялі, і ўбачыў бліжэй як за вярсту калону коннікаў. Спярша можна было падумаць, што гэта едуць нашы казакі, ажно зараз чатыры нашы гарматы засыпалі іх шрапнелямі, і яны зніклі за будынкамі. Гэта была нямецкая кавалерыя, што я са страхам зразумеў.

Калі яна перастала ляцець на нас, агонь нямецкіх батарэй падужэў (ці так толькі здалося), а што далей, то станавіўся ўсё дужэй і дужэй. Нас засыпала снарадамі, якія ляцелі цяпер не толькі проста з фронту, але і з правага боку — і аж быццам трошку справа-ззаду. Кулямётныя і вінтовачныя кулі ляцелі міма нас сляпцом, затое артылерыйскі абстрэл выдаваўся яшчэ страшнейшым. Памятаю: не столькі дзеля праўдзівае патрэбы, колькі дзеля таго, каб некуды пасунуцца, я пайшоў па латкі яшчэ раз. Пад круцейшым беражком шмат ляжала перавязаных раненых — і батарэйцаў і пехацінцаў, санітары ўсё няслі і няслі новых, на санітараў пакрыкваў наш лысы фельчар Лябёдкін, з шапкай набакір і з аблітаю няўмысля ёдам рукою. Я нёс латок удваіх з нейкім старым-старым, барадатым, пехацінцам. Нёс не столькі ён, колькі я, ён толькі цягнуўся, учапіўшыся за ручку, але ішлі даволі шчасна. Заставалася нам да гармат — як хлопчык можа дамахнуць шубінаю, аж тут наляцела чародная бура агню. Латок вываліўся з нашых рук. Дзе падзеўся барадаты, я не заўважыў, бо сам кумільгам рынуўся ў арудзійны акопчык. Там поўна прылягло нумароў, і маё прыбыцце іх не ўсцешыла, бо і так не было там куды дзецца, але — колькі маглі — пацiснуліся. Я прымасціўся з крайчыку, утуліўшы між іх галаву і плечы. Ну-

мары са смуткам шапталіся, што ў некалькіх нашых гарматах збіты прыцэлы, у адной заскапіўся патрон, у другой яшчэ нешта нядобрае, і няма як страляць. І праўда, калі я прыслухаўся, батарэя жудасна маўчала. З правага флангу над самаю нашаю галавою са свістам пранасіліся шрапнелі, аднак пераляталі дальш. З фронту ж гудзелі і па абодвух берагах рэчкі гкрэхалі гранаты: Чаропкі ад гранат і вынішчалі батарэю. «Калі да начы не забяруць — можа, выберамся жывыя», — пачуў я размову. У гэты самы час з гукатам і грукатам ударыўся снарад, блізюханька, на тым месцы, дзе мы кінулі латок, не далей. Балючы момант чакання… і пасыпалася камкамі зямля, зазвінелі меншыя і загудзелі большыя асколкі. Мяне штось дужа стукнула ў правае сцягно, аж троху падкінула мяне. Я падумаў, што ўдарыла адляцеўшым каменем ці мёрзлым камком зямлі. Шчупнуў рукою — мокра, зірнуў — кроў?.. І млявасць пайшла па целе, а крануў нагою наўмысля, каб ведаць, — дык адзервянела, як бывае, што заседзіш і замлее. Я агледзеўся: дзе ж той камень, што так дужа рэзнуў мяне? «Вальнапісанага раніла!» — крыкнуў над вухам адзін нумар, якога я ведаў толькі ў твар, а на імя не ведаў. Нехта зараз адпароў ад маіх штаноў прышыты асабовы бінток, адшпіліў мне адзежу і туга абкруціў мне ім нагу па голым целе (бруднаватым, што мне чамусь было сорамна!). Я нагінаўся набок, каб убачыць рану, ды не мог дастаць вокам, і ізноў мне было сорамна і нібы нейкая крыўда, што ў такое месца трапіла. «Паўзіце, паўзіце!» — загадаў узводны, і я папоўз назад, на рэчку, пад бераг. Зрабілася заціш да чароднага залпу, і я ўзняўся паўзці, а тады пайшоў, цягнучы нагу і папіраючыся з аднаго боку шашкаю, а з другога карабінам. Быў рад, што не забіла і што ранены, паеду з фронту, але мучыўся і корчыўся, немаведама чаго, болей як трэба, — баяўся, каб яшчэ не забіла, не папсавала шчасця, дык наўмысля павялічваў сваю больку немаведама перад кім, што во глядзі, не чапай ужо мяне. Прапаршчык Валк ішоў міма і спытаўся спагадліва: «Вы ранены?» — «Няўжо ж не!!» — па-беларуску і грубіянскім голасам адказаў я, і гэтак было сказана неспадзявана для мяне самога. Валк і не пачуў ці, можа, не зразумеў, што я сказаў, і пайшоў.

Я, мабыць, з гадзіну ляжаў потым пад берагам рэчкі, адзін, зябнучы, і сотню раз, атупеўшы, шаптаў: «Калі гэта скончыцца? Калі гэта скончыцца?» Кананада не сціхала. Галлё з шумам ляцела ў рэчку, часам шлёпаліся ў ваду кулі. Міма мяне адзін раз прабеглі, прыгнуўшыся і гуськом, пехацінцы; адзін зачапіўся за маю раненую нагу, і я дзіка прахрыпеў нешта ад болю.

Батарэя маўчала… Потым радасна і дзёрзка бухнула першая гармата: заскеплены патрон здолелі выцягнуць. За ёю зараз стрэліла другая… Ой, колькі радасці! Батарэя жыве, батарэя б’ецца! Я не ўлежаў: пасмялеў і пацягнуўся туды, дзе фельчар перавязваў раненых. Паўзу… раптоўна батарэя змоўкла ізноў… Маўчыць злавешча… Кінуўся некуды з усіх ног фельчар, за ім санітары… Што такое? Страшна… Нейкае нядобрае маўчанне прайшло скрозь па батарэі, але во батарэя ізноў бухае, толькі патроху, нудна пушчае патрон за патронам. Пляцецца назад фельчар, зусім без шапкі, дужа лысы чалавек. Гляджу: у яго на вачах слёзы? «Вальнапісаны! — панурана кажа ён мне. — Камандзір наш… царства нябеснае!» — і глытнуў, хліпнуўшы, і хрысціцца дробнымі крыжыкамі, абцірае кулаком у ёдзе рыжыя абвіслыя вусы. Я камянею, зразумеўшы страшную праўду. Камандзір быў забіт напавал, шрапнельнаю куляю ў лоб, так што прабіла якраз пасяродку звёздку на шапцы. Гэта адзначыў мне фельчар, і я сам падумаў: герою — геройская смерць.

Што дзеялася далей на батарэі, я не ведаю. Мяне павялі на перавязачны пункт двое нашых ездавых. Потым яны перадалі мяне нашаму тэлефаністу Пашыну і аднаму лёгкараненаму пехацінцу. Перавязачнага пункту мы не знайшлі і зблудзілі з дарогі. Надхадзіла ноч. Пашын страшэнна мацярыўся, лаяў усе перавязачныя пункты на свеце, і я цяпер не меў нялюбасці да яго кастраміцкай натуры. Ён не хацеў, каб аб ім падумалі, што ён наўмысля ўчапіўся ў раненага, каб не быць пад агнём на батарэі, але кінуць мяне не меў духу. Пехацінец гатоў быў весці мяне хоць да Вільні, каб толькі далей адгэтуль, і ён доўга разважаў аб Богу і аб «вялікім граху нашым — мацернай лайбе». «Наша матка — зямля, а мы яе так зневажаем, вось Бог і карае нас».

Была ноч, калі мы ўзбіліся на вялікую дарогу. Неба над намі — цямнява-сіняе, з зоркамі, паветра — ядранае, і хацелася слухаць, успамінаючы ноч і цішу ў родным полі, у спакойным часе. Але, калі я слухаў, мне здавалася, што фронт выцягнуўся дугою і нямецкія снарады бомкаюць дзесь за Вержбаловам, а ляцяць якраз над намі, толькі высока-высока ў небе. Доўга і звонка, ясна, аж прыгожа, як ляцяць… Але — ць! Сорам за такое хараство і любаванне. А галоўнае-ткі — страх…

Пашын далей не мог… Пасадзіў мяне на краі канавы, пацалаваўся са мною і вярнуўся шукаць батарэю.

Мы сядзелі з пехацінцам удваіх, бо я не мог ісці і апіраючыся на яго, і чамусьці ўвесь час чакалі палону. Ён сам баяўся і мяне страшыў, хоць і маўчаў, гэты незнаёмы, няведамы мне чалавек.

Баяліся кожнага руху навакол, баяліся цемні — і рады былі, што цёмна. Мне стала сцюдзёна, часам я ўжо троху калаціўся, і ой як брыдка было, што сядзім… ні туды ні сюды… Каб толькі ён мяне не кінуў! Аж вось пачулі, што нехта едзе, і пехацінец пацягнуў мяне ў бок ад дарогі на раллю. Затаіўшы дыханне, слухалі… Гоман расійскі. Пехацінец крыкнуў: «Братцы! Стойце!!» — і пайшоў на дарогу. Гэта ехалі два казакі. Параіўшыся міжсобку, яны зрабілі так: адзін застаўся пры нас, а другі паскакаў на той недалёчкі адгэтуль хутар, адкуль яны ехалі. Ён вярнуўся з нейкаю дашчатаю, для пакавання, скрынкаю, паставіўшы яе на раскатнік на двух колах і прычапіўшы неяк той раскатнік да свайго казацкага каня. Мяне пасадзілі ў скрынку і, падтрымліваючы скрынку з двух бакоў, павязлі на хутар, што быў далей, наперад па дарозе.

На хутары казакі засеклі шашкаю і зварылі, не абсмаліўшы, добрае завадское парася, такое белацелае, тлустае. У склепе натрапілі на пляшку наліўкі. Толькі я ўжо не мог ні піць, ні есці… Аж нялюба мне было. Потым, калі я ўжо драмаў, слухаючы хваравітае, мляўкае дрыжэнне ў сваім целе, адзін казак, а каторы — я іх не мог разрозніць, стукаў усё ды стукаў па ўсіх кутах, ламаў замкі, знайшоў featherзнае судзінне і між іншым старэнькі мікраскоп. Я чуў, як яны, казакі і пехацінец, гаманілі, што гэта, мусіць, нейкая шпягоўская прылада. Не пашкадавалі, узбудзілі мяне, каб паказаць мне, бо я ўчоны. Калі я сказаў што яно такое, казак, які знайшоў, спытаўся, ці дарагая штука, і шчыра ўсцешыўся, што дарагая. І клапатліва шкадаваў, чаму я не вып’ю налівачкі для здароўя. А я толькі чуў, што мне дужа няладна…

Выехалі адтуль да свету. Цяпер пасадзілі мяне верхам у казацкае сядло таго казака, што ўзяў мікраскоп. Ён ішоў і вёў каня. Быў добры са мною незвычайна, але мне дужа балела, і трасца калаціла…

Навакол там і там гарэлі хутары, асвятляючы нашы, людскія з конскімі, постаці. А дарога была зусім пустая, толькі дзесь па другой дарозе грукатала, адступаючы, расійская батарэя ці, можа, абоз; часам бліскаў нямецкі пражэктар і каротка стракатаў наш ці не наш кулямёт. А мы ўсё паціху сунуліся.

Казакі прывязлі мяне ў палявы шпіталь суседняе з нашаю дывізіі, далёка ўлева, што мяне дужа здзівіла, як мы маглі сюды трапіць, калі ўсё, здаецца, ехалі проста назад. Было вёрст дзесяць ці болей улева ад той дарогі, па якой наступала наша батарэя.

## Абоз

Уранні к хаце, у якой месціўся палявы шпіталь, падагналі шмат убогіх сялянскіх фурманак. Палажылі ў іх цяжкараненых, па два чалавекі на фурманку, пакрылі тонкімі і старэнькімі шэрымі салдацкімі коўдрамі, — толькі белыя твары глядзелі на неба ды бялеліся бінты ў раненых у галаву. Лёгкараненых — шэрую салдацкую грамаду з белымі перавязкамі, найчасцей на руках, пусцілі пеша, разам з санітарамі. І так паехалі. І так пайшлі і паехалі на станцыю Вількавышкі, за трыццаць вёрст.

Надвор'е было добрае: хоць і халоднае, як заўсёды ў кастрычніку, але сухое.

«Каб толькі не пайшоў у дарозе дождж, — думаў я. — Ну, але ж да вечару, пэўна, пастаіць пагода, а мы паспеем даехаць».

Я быў здаволены; я быў рады ехаць на свежым паветры і глядзець, лежачы, на шэрае неба.

Аднак зрабілася неўзабаве троху прыкра, што едуць незвычайна марудна, не болей вярсты ў гадзіну. Часта спыняліся, здымалі некага, перакладалі, ці што. І гэта было яшчэ болей прыкра, хоць тады не трасло.

Фурманкі былі дужа дрогкія, падсцеленае сена зараз злежалася, а дарога рабілася чым далей, тым усё горш, камяністая і няроўная…

Спярша я крапіўся, апіраўся рукамі, сціскаў зубы, жывот і ўсё цела. Потым мімаволі стаў траціць цярплівасць і лагодны настрой.

Скрозь сціснутыя ад болю зубы стаў крычаць, калі дужа падкідала на каменнях:

— Цішэй, цішэй!.. Стойце ж, стойце! Замучыце!

Назе было дужа больна, і так трасло і падкідала на кожным камені і на кожнай сухой калюзе.

Абоз расцягнуўся на паўвярсты ці болей. То тая, то тая фурманка спынялася, аставалася, даганяла пярэднюю, калі тая спынялася. І я чуў і спераду і ззаду на фурманках стагналі, злоснае бурчэнне, жальбу. Толькі санітары і лёгкараненыя вясёла ішлі побач ці ззаду, абганялі, аставаліся, курылі і гаманілі, нават нешта вясёлае казалі і смяяліся.

Мой сусед, што ляжаў побач, з левага боку, нейкі пехацінец, спачатку дужа стагнаў, потым зрабіўся цішэй і нарэшце зусім сціх. Я з страхам падумаў, ці не памрэ ён ужо, лежачы з ім тут на адной фурманцы.

Калі не дужа трасло, я думаў, што такое боль, чаму яго нямożна ўявіць, калі перастае балець, і чаму ён ёсць ува ўсіх жывых

істот. Што такое боль? Раздражненне нерваў — і ён ёсць як бы толькі ў думках таго, каму баліць. Можа, і ў дрэва ён ёсць, калі дрэва сякуць сякераю, толькі мы гэтага не ведаем.

Я кляў вайну, кляў благую медыцынскую помач, горка думаў, што медыцынская навука яшчэ дужа слабая навука, хоць і пішуць у газетах і журналах аб розных незвычайных аперацыях, быццам і ў сэрцы могуць нешта вычысціць, разрэзаць, зашыць — і вылечыць. Я кляў усе дрогкія фурманкі ў свеце, горка думаючы, як проста зрабіць селяніну нешта лепшае, не такое дрогкае, і дзе ж гэта зробяць някруткія, бесталковыя жмогусы-фурманшчыкі.

Мне балела цяпер, калі і не трасло. Да нагі няможна было дакрануцца, няможна было ані колькі яе павярнуць. А здаровая нага зябла, і ўсяму мне рабілася брыдка-сцюдзёна.

Я думаў, колькі ўжо гадзін мы едзем. Можа, дзве? Можа, чатыры?

Сусед паварушыўся і папрасіў курыць. Жмогус не чуў, і я няласкава крыкнуў яму ў спіну:

— Стой! Стой жа ты!

Дзед-жмогус пачуў, нічога не сказаў і спыніў каня. Тады паглядзеў цераз плячо, а тады злез з фурманкі.

— Ён курыць просіць… — сказаў я капрызна.

Дзед-жмогус, з сівенькаю няголенаю шчацінаю на твары, дастаў капшук, скруціў дзве цыгаркі, закурыў спярша адну, потым другую і даў закураную ўжо. Той узяў яе слабою рукою і панёс у вусны.

— Калі ласка, і мне скруціце, — папрасіў я такім капрызным, хворым голасам, што аж самому было сорамна.

Дзед, нічога не кажучы, скруціў і мне, я ўзяў і прыкурыў ад яго папяроскі сам. Паехалі, курачы, але той не многа курыў і кінуў недакураную. Праехалі яшчэ трошку, і я ўбачыў, што ён пераксціўся белаю рукою, нямытаю з таго часу, як ранілі, з гразёю між пальцаў. Я глядзеў на яго з нявераю: ці ён даедзе і не памрэ ў дарозе, ці ён і дужа слабы? Дзед часцей аглядаўся на яго.

— Пастойце… Пастойце… — ізноў папрасіў.

Дзед спыніў фурманку, а я кінуў папяроску ў поле.

— Паміраю, братцы… — сказаў, і горкая грымаса з’явілася на сінім, худым, валасатым твары.

Я нахмурыўся на яго і з жалем і з прыкрасцю, што ён так кажа.

А дзед-жмогус глядзеў спагадна, але не дужа трывожна, як пабочны добры чалавек.

— Даруй мне, браце! — сказаў той, скасіўшы вочы да мяне.

— Бог даруе… — прашаптаў я без ахвоты тое, што зазвычаена казаць, калі так просяць перад споведдзю або перад смерцю. Мяне цікавіла глядзець на сіні твар, і ён лічыў патрэбным усё ж адвесці вочы.

— Даруй мне, дзед! — звярнуўся вачмі і да жмогуса.

— Бок даруйт… — прашамкаў жмогус, і паплыла сляза па яго маршчыне на няголеную шчэць, аж я здзівіўся.

— Санітары! Хадзіце сюды, санітары! — крыкнуў я раптам голасна і ўзняў галаву.

А іх трэба чакаць яшчэ.

Падышоў адзін, падышоў другі з насілкамі, зусім не хапаліся, паглядзелі, ці варта здымаць, а тады знялі, палажылі на насілкі і паняслі назад, дзе ішла лазарэтная лінейка, палатняная буда з чырвонымі крыжамі па баках.

Дзед-жмогус узяў у рукі лейцы і ізноў сеў спераду, а на вольнае месца паказалі санітары лёгкараненаму, і той сеў з прыемнасцю пасля хадзьбы — барадаты рыжы здаровы салдат, толькі рука падвязана і на канцы забінтована, што як падушка.

Я адвярнуўся ад яго і маўчаў. Боль прытупеў, было ўсё роўна як баліць. Заплюшчыў вочы, бо рэзала вочы святло з высокага шэрага неба. Здавалася, што гэта Стахван вязе мяне ў школу, нага мерзне і брат сеў на яе, каб сагрэць. Патроху разлівалася цяпло па ўсім целе.

І было добра, толькі ўсё змагаўся з нейкімі перашкодамі, ніяк не мог мець поўнае ўдачы, каб было зусім добра, некуды ехаў і не мог даехаць, бачыў, што матцы не падабаецца, але яна толькі маўчыць, а я і не хацеў таго, ды калі ж так выйшла… То лягчэла, я бачыў перад сабою неба, вечар, то ізноў горшала, і я не хацеў глядзець. Пакорна чакаў, хоць і марудна цягнулася падарожжа, непрыемна было так доўга чакаць. На ўхабах кідала, баяўся вываліцца — і спамінаў, што я ранены, што мне сніцца, нага ные болем, і лепей спаць, каб не чакаць, калі ўжо-ткі прыедуць на станцыю.

Прахапіўся я ў чорнай цямноце. На твар сыпаліся дробныя капачкі дажджу. Не толькі млела цела, а страшэнны холад забраўся пад коўдру, скрозь па ўсёй спіне было сцюдзёна.

Транспарт стаяў у нейкай вялікай вёсцы ці ў мясцечку.

З левага боку ад фурманкі было святло ў вялікіх вокнах, спераду таксама свяціліся далёкія акенцы, а то ўсё было чорна.

Нікога блізка не было, далей недзе гаманілі, і конь порскнуў там. Нехта пайшоў на ганак, у гэтую хату з асветленымі вокнамі, але не адгукнуўся мне.

Я гукаў, прасіў, стагнаў, каб мяне ўзялі ў хату пагрэцца, бо мяне трасло, як асіну ветрам-холадам.

Ніхто не чуў, транспарт стаяў, ішоў дождж, было цёмна… Дзесь далёка і глуха, як ліхая і мінулая здань, пачуліся гарматныя стрэлы, а можа, толькі здалося?

Я не помніў і не ведаў, якім дзівам злез з фурманкі, узабраўся на высокі ганак, прапоўз у цёмныя сенцы і адчыніў дзверы ў цёплую і светлую кухню. Там гарэлі дровы ў пліце, ляжалі на падлозе салдаты, і я лёг з імі. І хацеў бы ляжаць так вечна, каб толькі транспарт не пайшоў без мяне…

А калі неяк дужа скора прыехалі на станцыю і наяву засвяціліся агні, сінія і жоўтыя, і крыкнула машына, я дзівіўся і не цяміў, быў сапраўды ў кухні ці не і хто мяне адтуль пасадзіў ізноў на фурманку. Тут дождж ішоў парадачны, і так хацелася скарэй быць у вагоне-цяплушцы, дзе суха, цёпла, гладка на нарах і дзе так даўно-даўно я не быў. І калі машына ізноў крыкнула і прашумеў міма паравоз, — радасць ахапіла. Нарэшце адсунуліся дзверы, з святла ў цямноту паказалася ў белым халатоне міласэрная сястра, падышлі санітары з ліхтаром і з насілкамі. Знялі, палажылі, падалі ў вагон. Троху таўханулі, і болем рэзнула ў паху, але што ж: некалі ім, колькі яшчэ там чакае на фурманках. І сорамна трошку, што так шмат са мною клопату, але ж заслужыў. Толькі пашто, пашто ўсё гэта? Колькі дарма траціцца часу, сіл, грошы! Не трэба вайны…

Якая радасць ляжаць у цёплым вагоне! Мяне паклалі на верхнія нары, ля сценкі, як на палаці ў хаце, і было чуваць, як па крышы вагона барабаніць дождж.

Тут ужо ляжала чалавек дзесяць. Сястра была не маладая і не дужа прыгожая, але ласкавая. Два санітары — апалчэнцы.

Раздзелі, накрылі, далі гарбаты ў белым кубку і цвёрды кухан.

Так хацелася — і не елася…

Прыемна пацягнуцца і заснуць. А цягнік пойдзе — і закалыша… Канец мучэнню.

## Шпіталь

Нага сагнута дугою, няможна ёю крануць, каб страшэнна не забалела. Пісаць забараняюць. Дый рукі не слухаюць. Нудна ляжаць у шпіталі, хоць і добра пасля пазіцыі.

Вечная памяць нашаму слаўнаму камандзіру-герою. А хто ж то цяпер камандуе батарэяй? Мусіць, капітан Смірноў.

Так было першыя дні ў шпіталі.

А потым — Божа, як не хацелася паміраць! Чаму ад мяне хавалі, што могуць адрэзаць нагу? Што такое — *глыбокая флегмона*? Дагэтуль жа ўсё было добра. Чаму цяпер так скача тэмпература?

І сорам — гэты вечар перад аперацыяй… Дзікі боль, і дзікі плач, і крыкі дзяціныя, няшчырыя, хваравітыя:

— Дайце мне цыяністага калію. Я не магу так мучыцца! Я не магу! Я не хачу! Ратуйце!

І слёзы пад нацягненаю на голаў коўдраю. Далі не цыяністага калію, а брому. Потым старшая сястра ласкава сароміла:

— Эх вы, інтэлігенты!

Праўда, сорам: мог бы болей быць цярплівым.

І аперацыя… Страшна. Будуць рабіць пад хлараформам. А што, як сэрца не вытрымае? Слухаюць — адзін доктар, другі доктар… Чаго яны маўкліва перакідаюцца вачмі? Сястрыца бразгае аперацыйным начыннем, раскладае нейкія бліскучыя ножычкі і ўсякія штукі. І яна ж нервуецца… дура!

Голы ляжаў на стале, у адной кашулі, без нагавіц. Тут сораму няма. Але ўсё ж брыдка… Сястра маладзенькая, харошая…

Паклалі на твар сетачку, запахла хлараформам, і ўзяла цікавасць, як гэта наступае той сон.

Мне здалося, што я апускаюся некуды, апускаюся, паляцеў…

— Лічыце да паўсотні, — кажа стары доктар.

— Адзін, два, тры, чатыры, пяць… І лічыў, і лічыў: пятнаццаць… дваццаць… трыццаць… трыццаць адзін, трыццаць два… І думаў: «Вось, можа, і не засну… Яшчэ будзе клопат…» Толькі цела некуды ўсё глыбей і лягчэй ляціць, ляціць, ляціць… Прыемны і хваравіты лёгкі туман засцілае думкі… Уніз, уніз, уніз… Сорак два, сорак тры… Шэптам: сорак ча-ты-ры… Ледзьва чуваць: сорак… пяць… Канец.

Няма прытомнасці. Налічыў да 45 — і памёр. Так, мусіць, і паміраюць людзі, з такой жа паступовай утратаю прытомнасці.

Калі цела рэзалі вострымі нажамі, калі перабіралі шчыпчыкамі жылы, калі скрозь дзірачкі ў жывым мясе працягвалі дрэнажныя трубачкі, калі забівалі ў раны тугія тампоны, — мычэў і сціхаў. І слухалі часта сэрца: ці б’ецца?

Потым белага, бескрывянога, але жывога, завезлі ў палату і палажылі на старое месца. Было мляўка, нудзіла — і лёгкапрыемна. Аперацыю зрабілі.

— А дзе ж тая куля? Дасталі?

— Маўчыце, не размаўляйце! Пасля!

* * *

І так дзень па дні… І дзень за днём.

Я лепшаю. Я дужэю. Салодкая пакута на сэрцы і ўва ўсім целе.

Прыходзяць нейкія дамы-дабрадзейкі. Прыносяць гасцінцаў: яблычка, цукерачку, Евангелле. Не, дайце газету! Сумна ў газетах. Дзе ты цяпер, дарагая батарэя? Дзе вы, мілыя таварышы? Не тут, не тут, не з гэтымі дамамі-дабрадзейкамі і сястрыцамі мая душа, а там, там, у акопах. І мімаволі выступаюць слёзы. Трэба схавацца з гэтымі слязьмі. Тут, паміж гэтых ваяўніча настроеных жыхароў тылу, ніхто не можа ўявіць сабе, што перажывае батарэя. Яны пытаюцца і пытаюцца, як там нашым бедненькім салдацікам у акопах, але брыдка гаварыць з імі пра гэта. Адчапіцеся, адчапіцеся!

З дому пішуць: трывожацца, тата хоча прыехаць у шпіталь, Стахван даўно не падае вестак аб сабе, як яго забралі і многіх забралі, многіх, многіх, рады, што аперацыя мінулася, чакаюць дамоў, на Каляды… Ых!

Тэмпература дагэтуль скача. Доктар клапатліва і нездаволена аглядае кожны дзень. Нешта не так зрабілі? Асколку ў назе не знайшлі, а дзе ж ён мог падзецца? Не вылез жа сам?

Я капрызны, дрэнны хворы, але што ж я вінаваты, калі гэткі час ляжу плазам і на 19-ы дзень па аперацыі ледзьва-ледзьва магу крануць нагою?

А гэтыя страшныя мукі на перавязках, калі мне ў жывым мясе працягваюць дрэнажныя трубачкі… Ых!

* * *

Палата невялікая, і ўсе ў ёй цяжкараненыя. Якраз супроць мяне — Саксан, цяжкаранены салдат — немец з Саратаўскае губерні.

Саксан усіх ненавідзіць і пасцелю сабе слаць дазваляе толькі няні ці той сястрыцы, што пісала лісты да яго родных

пад яго дыктоўку. І што яму перасцілаць, і што яму падкладаць паветраныя пузыры, калі ў яго пролежань на пролежні і гніе ў яго мяса, дух цяжкі, аж дыханне сцінае, і толькі падскуранымі ўпырскваннямі, морфіем трымаецца чалавек… Ён памрэ. І ўжо перасталі шкадаваць яму морфію і даюць, абы ён маўчаў.

А ён часта не маўчыць, і як прыйдуць да яго, ён крычыць:

— Уцякайце ад мяне, а то як схаплю стул, дык усіх вас біць пачну…

Паміраў ён начою ў канцы лістападу. Гукнуў няню. І яна прыйшла.

— Што вам? — пытаецца, а сама баіцца, бачыць, што мітусяцца ў яго вочы.

— Прашчай! — хрыпла і няласкава шэпча Саксан. — Я папрашчацца гукнуў… — і падае няні руку з адных касцей.

— Не трэба рукі, — хрыпла шэпча і няня, а сама баіцца ўзяць. — Што вы выдумалі, вы яшчэ будзеце жыць.

— Не, не мані… — і дастае з-пад падушкі два срэбраныя рублі.

— Не трэба мне… Нашто вы мне даіцё?!

— Не дуры, няня… бяры. Дай піць…

— Ну, схаваю, але аддам, як устанеце на ногі, — і падае вады. Налівае з графіна, і графін барабаніць аб шклянку, трасуцца яе рукі.

Я гляджу і думаю: «І нашто яно гэта? І што ж гэта такое? Жыў чалавек — і памірае. Проста ўсё. І няма нічога вышэйшага… І вечная загадка… А я вось папраўляюся, буду яшчэ жыць». І сорамна мне. І чую: хляхоча вада ў Саксанавым горле, — памірае. Ы!

* * *

І так дзень па дні…

Прыходзіць няня, пачынае гаманіць. А на ложку, дзе быў Саксан, цяпер ляжыць хворы на грудзі, надоечы прывезлі з аўстрыйскага фронту.

Няня спамінае Саксана, спамінае два рублі, што даў ёй перад смерцю.

— Як даў, скора і памёр. А перад тым сабака на вуліцы выў. Саксан ведаў, што памрэ. Бывала, прынясуць яму падушачкі дыхаць, дык ён як кінець: «Што вы мне даіцё іх? Усё роўна я памру…» Усе яго дужа жалавалі. І ўсе сёстры дужа плакалі… У старога доктара рука цяжкая, — паніжаным голасам прызна-

ецца няня. — Пасля яго аперацыі то найболей паміраюць. А ў чорнага рука лягчэйшая.

— Мяне рэзаў чорны, а чаму ж няма папраўкі?

Няня смяецца.

— Цераз месяц скакаць на ігрышчы будзеце. Уся ваша хвароба ад думак. Меней думайце.

Потым уздыхае:

— Усяк бывае… Я тут ужо многа чаго нагледзелася. Адзін надоечы на вуліцы памёр, як разгружалі з вагонаў. Другога прыняслі да нас, пажыў мінуты тры, папрасіўся на басон і на басоне сканаў. Я басон дзяржала, — аж страх… Адзін во тут, побач з вашым ложкам, ляжаў. Рука ў яго. Як прысталі, як прысталі: у вас будзе антонаў агонь, ніяк няможна, мы вам адрэжам. І ўмовілі. Памёр пад нажом.

Прыходзіць сястра і далікатна высылае гаманлівую няню з нашай палаты ў «лёгкую».

І так ідзе дзень за днём, ноч за ночай. Нага сагнута дугою, і я ўсё яшчэ не магу ёю крануць без страшэннага болю.

Пісаць забараняюць, дый рукі не слухаюць.

Прыязджаў з батарэі і быў у мяне падпрапаршчык С. Камандуе цяпер капітан Смірноў. Вечная памяць нашаму слаўнаму камандзіру-герою.

Па загаду капітана Смірнова ўсе мае запісы мне з батарэі высланы. Дзякуй яму. Прывёз падпрапаршчык С.

С. мне з радасцю і шчыра пахваліўся, што заходзіў да жонкі аднаго свайго прыяцеля, таксама падпрапаршчыка, які цяпер на вайне. Яна дужа добра прыняла яго, частавала, гарбатаю паіла, прасіла, каб болей казаў пра мужа, пра вайну — і з вялікае ласкі запрасіла яго начаваць у яе і спала з ім, усё гамонячы.

— Слаўная жанчына! На рэдкасць! — казаў С.

І мне гэта не было прыкра і нават падабалася.

Кожную ноч сняцца сны, што я ў батарэі, што нас абстрэльваюць, канец, канец… Тра-та-тах! — над галавою. Кідаюся ў акопчык. Чую: па спіне, па назе сыплюцца палючыя, дробненькія ўдары куль. «Раніла! Ці не ў жывот? Можа, я ўжо паміраю?..» І прачынаюся ў страсе.

Смяротная нуда… Сястра спыталася ў мяне, ці хачу я вярнуцца на пазіцыю. Ад гэтых разумных сёстраў жыцця няма. Здаецца, у газетах, праклятая, піша. Ваяўніча настроена… Ну, ідзі сама, ваюй.

А ў другой палаце гаманлівая няня распусціла язык аб некім: «Памрэць… Няма што гаварыць. У гарачую ваду доктар пасадзіў».

Суседу майму сёння рабілі аперацыю: адрэзалі руку. Усю ноч не даваў спаць, а перад тым ляжаў цэлы дзень як мёртвы. А цяпер: «Братцы!.. За родзіну!.. Асцярожна!.. Кінем ранцы!.. Камандзір палка… братцы!..»

І калі ён крычыць, мне сніцца: страшны грукат ад разрыву снарадаў. Кулі сыплюцца ў нагу, як іголкамі хто коле…

Потым сніў хворую маму. Прачнуўшыся, не мог стрымаць слёз.

Дзесяткі раз сняцца белыя гнілыя яйцы, зялёныя дулькі, чырвона-чорныя сліўкі. Рана яшчэ гнаіцца.

Ездзіў з сястрыцаю ў рэнтгенаўскі кабінет. Свежае марознае паветра ахмяліла мяне.

Людзі бягуць і едуць па вуліцы, там дзесь пяюць, іграюць, спраўляюць Каляды. Цяжка тут уявіць батарэйнае жыццё.

Мой аўчынны кажушок такі брудны і, галоўнае, страшна смярдзючы.

Мяне адпускаюць дамоў! Далоў нуду! Хай красуе жыццё!

Не… нудна. Рана не гоіцца, асколак сядзіць у назе, а я мушу сядзець у шпіталі… Будзь проклята, вайна!

* * *

Пяты месяц вайны. Людскі статак не паспеў яшчэ ацверазець ад патрыятычнага чаду, і шыкарныя N-скія фабрыканціхі і самавітыя купчыхі навыперадкі бавяцца ў дабрадзейнасць. Частуюць «бедных салдацікаў» гасцінцамі з сваіх уласных фабрык і пытаюцца ў іх аб вайне. З асабліваю прыемнасцю слухаюць пераказы аб штыкавых баях. Малапісьменным і бязрукім пішуць лісты. З далікатнаю на выгляд пакораю адукаванага чалавека спісваюць яны салдацкімі паклонамі ажно чатыры старонкі…

Ціха і супакойна ў палатах перад самым вечарам — такім часам, калі з мутнага зімовага надвор'я паўзе ўжо скрозь падвойныя рамы нявідны сумны змрок.

Раненыя спяць або ляжаць бязмоўна ў думах. Прыгожая пустэча ахінае чалавека.

Але паляць электрычнасць, і знікае панурая цямнота, і ў светласці ажываюць гукі. У зале — галасы, і нават смех, і размова аб калядных падарунках.

Зялёная пахучая хвойка ад самага рання стаіць у зале, ды яе не прыбіраюць, бо яна не ёсць дазволена, хоць і не ёсць забаронена нейкім цыркулярам духоўнага ведамства як звычай, пераняты ад немцаў.

Сёстры бегаюць з кісетамі, падобнымі да тых, што ў іх носяць мужыкі табаку і прылады курыць: крэсіва, смолку і трут. Кісеты сцягнуты шнуркамі, у іх уторкнуты невялічкія хваёвыя лапкі, і бакі ваблiва распіраюцца.

Як толькі я выкалдыбаў на сваіх трох скрыпучых кастылях з палаты ў залу, дык і мне сястрычка Пудра паднесла кісецік. І я браў яго, аглядаючы фальшыва-безуважна, а з праўдзівaю цікавасцю да таго, што ў ім ёсць, і дзякаваў для прылікі.

Пакруціўшыся ў зале, я незабавам закульгаў у сваю блізу пустую пасля апошняй эвакуацыі палату. І сеў сабе на сваё ложка, хоць і балела троху нага, калі сядзеў. І адчыніў кісет. Наверсе ляжала кніжачка запісваць, а ніжэй — яблык, салодкія асушачкі, цукеркі і арэхі.

Як заядлы смакунец, зараз узяўся есці. Еў-еў, і ўсё карцела есці. І думаў: «У мяне такая благая натура, што як бачу ля сябе салодкае, дык ніяк не ўцерплю, пакуль не з’ем усяго чыста».

І так праходзіў той дурны святочны вечар: у пустых размовах і ў паяданні салодкага і запіванні вадою.

А потым балеў жывот. І я аддаўся сумным разважанням, што не кожны можа дастаць сёння кісет такі, як гэты, што на пазіцыях сцюдзёна, што край наш бедны, край наш цёмны — хвойнік, мох ды верасок, што ў гэту проклятую, нешчаслівую гадзіну заліт ён скрозь слязьмі, спавіт галечай, абязвечан, абяздолен.

Я думаў аб сваіх братах-сялянах.

— Што вы гэтак засмуціліся? — спыталася сястрыца Пудра, і той жа час пачырванела, і ў дол утупіла свае вочкі, абпушаныя стральчастымі расніцамі. Яна сентыментальная, і часта чырванее, і часта абпраўляе сваю белую намітачку, і, мусіць, хоча замуж.

— Не кожны можа дастаць сёння кісет, а на пазіцыях сцюдзёна, — адказаў я і зморшчыўся і скорчыўся ад болю ў жываце.

— Так… вайна, вайна… жах, — уздыхала і сястрыца Пудра, а я няўважна слухаў, бо ўсё чакаў і думаў, калі ўжо яна выйдзе з гэтае палаты ў якую другую, а я таксама выйду за патрэбай, каб перастаў балець жывот.

А сястрыца Пудра прыхінулася на ўскрайчык майго ложка, паглядзела на мяне смяшлівенька-прычэплiва, гуляючы са мною вочкамі, і паважна заўважыла:

— Вы павінны цяпер запісаць у гэтай кніжачцы фаміліі ўсіх нашых сёсцер.

— Ведаеце, кніжачка такая элеганцкая, што неяк шкода яе пэцкаць… — бухнуў, не падумаўшы, ці можна так казаць.

Сястра пакрыўдзілася дужа. І пайшла. А ў мяне і ў думцы не было яе крыўдзіць. Было прыкра за мімавольнае прастацкае слова. «А… сказаў, дык і сказаў!» Укрыўся коўдраю, падцягнуў пад саменькі жывот здаровую нагу, адвярнуўся ад святла і сцішыўся.

Выхадзіць — не хацелася ўжо турбавацца, пастанавіў, што боль і так пяройдзе, за ноч бруха памякчэе.

На тым і задрамаў, падумаўшы толькі: «А ўсё ж я дужа яшчэ хворы».

— Казак! На вайне быў? Кураціну еў?

У вялікую палату, дзе месцяцца здаравейшыя, хадзячыя, любяць усе сходзіцца з розных палат. Там часта бывае бяседа. Кожны стараецца пераказаць якую-небудзь забаўную гісторыю ці пасмяшыць усю кампанію якім-небудзь жартам. Там жа ляжыць адзін дужа тыповы служака, унтэр-афіцэр з трыма Георгіеўскімі крыжамі, якія заўсёды прышпільвае на халат, і ходзіць і ляжыць у халаце ад самае раніцы да познага вечара, аж пакуль раздзявацца нанач. У яго бравы салдацкі выгляд, валасы на галаве каротка абстрыжаныя і спераду стаяць вожыкам, а бялявыя вусы — старанна падкручаныя, быццам шыльцы. Як і ўсе такія салдаты, герой, між іншым, выстаўляецца перад другімі пехацінцамі сяброўствам з артылерыстамі і сваёй вольнасцю з казакамі.

Калі ў наш шпіталь прывезлі маладога панурага казака, віхрастага бландына з адсечанымі пальцамі на правай руцэ, і калі ён пачаў пасля аперацыі хадзіць у вялікую палату гуляць у шашкі, герой заўсёды, як толькі пакажацца ў дзвярах даўгая віхрастая постаць і перад ёю абкручаная белым рука на падвязцы, голасна і тэатральна крычыць яму:

— Казак! На вайне быў? Кураціну еў?

Казак — маўклівы, пануры дзяцюк, і гэтая акалічнасць трохі асаджвае героя назад на ложка. Аднак, усеўшыся як мае быць для даўжэйшае размовы і паправіўшы адной рукой халат свой і крыжы (другая па локаць адрэзана), ён пачынае столькі гаварыць, што паспявае і за сябе і за казака. Розных гісторый для бяседы назбіраў ён за час вайсковага жыцця вялікі запас. Праўда, некаторыя, што найболей яму даспадобы, пераказаў у

гэтым шпіталі па колькі ўжо разоў, але ўмее, калі хоча, пацешыць граmаду, сплясці заўсёды што-што і новае.

— Казак! На вайне быў? Курацін еў?

З тых слоў пачынае герой сваю размову і тады, калі ў гісторыі фігуруюць казакі.

Слухачы цясней падходзяць да паведача, асабліва апалчэнцы і наогул усякія «маладыя», «шэрыя» і «шляпы», з пачцівасцю глядзяць на героя, а ён, накруціўшы цэлаю рукою свае бяляввенькія шыльцы і па-забіяцку крутнуўшы ўгору галавою, кажа сваёю маскоўскаю скорагаворкаю:

— *Я бумажки в оба кармана… Казак тоже… «Много ли?» — грит… Сочли: у меня 870, у него тоже… рублей 900*.

Быўшы родам з-пад Масквы, чалавек гэты страшэнна брыдка лаецца, або, як кажуць салдаты, «мацярыцца».

— Лоўка! Вось гэта лоўка! — пачціва і радасна хваляць яго з грамады, а ўся салдацкая грамада ў такі момант вельмі рагоча.

— Але чаго ж вы к пану прычапіліся? — чуецца тым часам у канцы ціхі голас.

Панам маскаль кліча паляка і беларуса, а тут, у пераказе, ім быў нейкі крамнік у глухім польскім мясцечку.

— Прычапіліся чаго? — паўтарае пытанне з іроніяй у голасе апавядальнік.

— Ах ты, шляпа! — ласкава, для красамоўства лаіць, павярнуўшыся, таго, хто ў яго аб гэтым запытаўся.

— Вядома, шляпа! — ізноў вялікім рогатам стараецца пасведчыць грамада хворых і раненых салдатаў, што ўсе яны, апроч таго аднаго, не «шляпы». І троху сцішыўшыся, не падбіраючы рассыпаных шашак, ізноў з пільнасцю глядзяць усе на рот і на бліскучыя, два белых, адзін жоўценькі, крыжы.

— Мы і не думалі чапіцца: пан прычапіўся сам да нас! — павялічыўшы іронію, з большай прыемнасцю пераказвае ранейшае герой. — Нас, знацца, сабралося траёх: два казакі і я. Зайшлі ў краму к пану, набралі ўсяго чыста, чаго толькі хацелі: папярос, асушкаў, шакаладу. «Ты не плаці, бо ён за ўсіх заплоціць», — гаворыць мне адзін казак на другога таварыша. А той спачатку ля дзвярэй стаяў, на вуліцу глядзеў. «Добра!» — думаю сабе ды ўсё піхаю ў клумак, абы ўлезла. Падышоў, кінуў той казак на прылавак колькі там капеек… Вось тады наш пан завыў!

— Казак! На вайне быў? Курацін еў? — з вудаллю пытаецца ён ізноў у панурага казака, калі падбіраецца да фіналу гісторыі.

А той маўчыць, толькі для ветласціківае прыхільна галавою.

— Пан наш вые, халяруе! А вось адзін казак як схопіць з похвы шаблю, як замахнецца, — прыпёр пана да сценкі.

«Молчать!» — грит… Заняло ў пана духі. Тады яны ўсё ў мех, у мех, у мех. Адзін сабе на плечы — айда ў сотню. А гэты, што застаўся, як схопіць лом у рукі, як бухне, братка мой, па грашавой касе, аж пыл, аж дым, куды там! Разбілася каса. «Не зявай… … ..!» — крычыць мне мой казак. Палічылі: у мяне 870, у яго таксама рублёў 900. Чуем, нехта ідзе. Кінулі, бяжым на вуліцу. Га! — бягуць нам на падмогу… Чорт вас дзяры, лупіце, а з нас даволі! Ціхім трактам — далей, далей… Дагнаў я сваю часць. А цераз колькі дзён, слава ці, Госпадзі, мяне і раніла ў нагу, першы раз. Лячыўся ў Багародску, выпісаў у шпіталь жану. Пераначавала, грошы аддаў: едзь сабе, галубка, з Богам!..

— Лоўка, вось гэта лоўка!

— Як каму ручыць…

Усе рагочуць.

* * *

А таму хвораму на грудзі, што прывезлі з аўстрыйскага фронту, болей выпадае ляжаць у больніцы для псіхічнахворых, чым тут, у нас. Ляжыць ён на Саксанавым месцы.

Наша палата празвала яго Рускім, бо ён, калі яго забірае хвароба, крычыць шмат разоў бесперастанку:

— Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..

На выгляд гэта ёсць даволі здаровы мужчына. Ён сярэдняга росту, добрага складу, шыракаплечы, і грудзі ў яго звычайныя. На твары ніякай хваравітасці не відаць, — пэўна ж, калі ўважаць на тое, што чалавек прыехаў не з гасцей, а з акопаў. І толькі ў вачах гаротніка ё штосьці такое, што выдае і цяжкую хваробу, і муку, і безнадзейнасць. Вочы ў яго праваліліся, зрабіліся маленькімі. Галоўнае ж, яны страшэнна змарнаваныя, нейкія змятыя, сцёртыя. Трэба прыгледзецца да іх, і тады відаць у іх боль.

Дзіўная гісторыя выйшла з гэтым нешчаслівым чалавекам.

З пэўнасцю можна сказаць, што да вайны ці, лепей кажучы, да мабілізацыі — Рускі быў звычайным земляробам Магілёўскае губерні: быў здаровы, але крышку павольны; здольны ад прыроды, але цёмны, грубы. Апрануты па-салдацку, ён нічым не змяніўся, толькі прытарнаваўся да свайго новага жыцця.

І на пазіцыі, у часе доўгага і спакойнага стаяння ў зацішку малаважнага фронту, болей за другіх сваіх таварышаў любіў Рускі туляцца па пустых, кінутых сялянскіх дварах і поркацца там, шукаючы пажытку.

Увечары, першым змрокам, ішоў ён цягацца па зрытых акопамі палях, знаходзіў пустое бульбянішча — капаўся там сваёю маленькаю пехацінскаю лапатачкаю дзеля якога дзесятку непадабраных гаспадаром і свіннямі бульбін. Хаця яму за гэта дакаралі, не кідаў свайго блукання ў цёмным полі, і тая памаўзлівасць згубіла яго.

Аднойчы Рускі, няўпрыцям для самога сябе, забрыў лішне далёка ў бок аўстрыяцкіх пазіцый, за сваю перадавую старожу, і так забавіўся, шукаючы пажытку, што было ўжо зусім цёмна.

Троху спалоханы, асцярожна плёўся ён назад, заткнуўшы лапатачку за пояс і маючы ў адной руцэ кацялок з накапанаю бульбаю, а ў другой — стрэльбу на ўсякую неспадзяванку.

Толькі ўзняўся ён на нейкі невялічкі ўзгорачак, як знянацку ашаламеў: перад ім стаяў аўстрыяк… Абодва разам прыселі да зямлі: Рускі прысеў ад страху, а той, мусіць, таксама. Дзеялася адзін момант, а здалося дужа доўга.

Аўстрыяк тады першы кажа:

— Руськый! Я маю горілку…

— Я табе нічога не зраблю! — адказаў Рускі зусім лагодна і смела ўстаў і пайшоў да яго бліжэй.

Аўстрыяка таксама падняўся, разы два ступіў і падаў руку. Ворагі прывіталіся, як даўныя сябры. Потым ізноў селі, толькі ўжо побач — і стрэльбы паклалі, кожны пры сваім баку.

Хаця блізу што зусім не гаманілі, бо языкі варочаліся туга, дый мала чаго яны разумелі ў словах той таго, але так выйшла неўзабаве, што выпілі аўстрыякаву гарэлку, заелі яго падсітным хлебцам і закурылі па кручонцы з махоркі Рускага. Гарэлкі было — адно толькі званне: па чарцы, можа, ці па дзве на брата. Пілі нагбом — спярша аўстрыяк, а тады Рускі. Калі зрабілі ўсё і трэба было расходзіцца, пачулі нейкую прыкрасць. Ды аўстрыяк падбодрыўся і сказаў:

— Чы веды менэ до Русіі, чы разойдэмся.

Рускі паскроб ля вуха, як бы й запраўды разважаў, што тут рабіць. Паглядзеў, задраўшы галаву, і адказаў:

— Не, братка, ідзі сабе да сваіх.

Аўстрыяк быццам трохі, нябачна, замаркоціўся. Але падаў руку. Рускі пацiснуў яе. І завярнуліся ў свае бакі.

Аўстрыяк адыходзіў шпарчэй. Рускі павалюхаў марудна і няскладна, як мядзведзь. Яго прыціснула тое, што не меў часу падумаць, як гэта што было. Ён хапаўся ўцяміць, ці ўсё добра ён рабіў. І раптам блiснула яму ў галаве, і ён, каб не спазніцца і каб пасля не шкадаваць, што быў варонаю, ён, ужо ступіўшы разоў дзесяць, сказаў сам сабе: «Э, што ж я за ваяка». І не сказаў, толькі

бліснула яму так у галаве… Павярнуўся, зложыўся стрэльбаю і без дум паціснуў пальцам:

— Тах!

Гул быў глухі і невялікі. Аўстрыяк спачатку зарыўся носам і бразнуў бляшанаю пляшкаю, з якой пілі гарэлку, аб сваю стрэльбу. Потым перавярнуўся тварам дагары — і вельмі жалосна і з працягам застагнаў.

Калі Рускі падбег і нахіліўся над яго чубатаю шапачкаю і даўна падстрыганымі вусамі, дык у цямноце мала чаго ўбачыў, але пачуў, як ён яшчэ дадаў, гаворачы быццам аб нейкім трэцім:

— Шчо ж цій москаль наробыв… Зостанэцьца моя жынка й діты…

Безнадзейная крыўда чулася ад яго; апошнія словы ледзь выдыхнуў, бо ўжо канаў. Раскінуў рукі і ногі. Рускаму здалося, што смяротная пялёнка, як у той курыцы, засцілае яго жаўтавыя бялкі.

— А колькі ж іх маеш? — з апалым сэрцам спытаўся Рускі і мімаволі, выглядаючы сабе падмацаванне, агледзеўся наўкол, у ночным змроку.

— Ді-ты…

Забіты яшчэ раз пацягнуўся, замкнуў паволі вочы і быў гатоў.

Рускі перахрысціўся над мёртвым і палез у яго кішэню ў штанах. Выцягнуў адтуль пакамечаны ад доўгага часу і замаслены ліст у канверце. Болей нічога не было, і ён расчаравана ці нездаволена падраў яго на колькі частак. Абдумаўшыся, падняў іх з зямлі, каб пасля скурыць. І зноў кінуў. Аж рукі трохі дрыжэлі, і было брыдка, што так блазнуе, быццам не ворага забіў, а якога свайго. Смялей памацаў у яго за пазухаю, ува ўсіх кішэнях і ў шапцы і зноў нічога добрага не знайшоў. Аглядаючы яго боты, ці варта здзіраць, глянуў незнарок у цямноту ночы, спалохаўся… Схапіў кацялок з бульбаю ў адну руку, дзве стрэльбы за рамення — у другую і пусціўся бегчы што ёсць духу да сваіх.

У роце яму не далі веры, што забіў аўстрыяка, і думалі, што прост у полі дзе знайшоў гэтую аўстрыяцкую стрэльбу. Але, праўда, была яна нядаўна ношаная, «цёплая» і пачышчаная. Можа, і забіў?

Толькі чалавек з таго часу перамяніўся. Быў дужа маркотны, кінуў брадзіць па дварах і бульбоўніках, упадабаў ляжаць на зямлі з раскіненымі нагамі і рукамі… Урэшце зазябіў сабе грудзі, і яго адправілі з пазіцый і прывезлі спярша ў нейкі паўднёвы горад, а потым у наш шпіталь, глыбей у тыл.

Тут не ведаюць, як яго разумець. Доктар Гэрмэер, немец з Дзвінску, якога мы ўсе не любім, лічыць Рускага за прыкідаку, іначай не заве як «сімулянтам» і нават у вочы яму кажа:

— Ты, прахвост, прыкідаешся! Ты ўсё гэта выдумаў! Падлечым табе грудзі, і ўсё роўна паедзеш ізноў на фронт.

Другі доктар, старшы, на прозвішча Квяткоўскі, а родам, як кажуць, з-пад Баранавіч, старанна лечыць яму грудзі рознымі ўдыханнямі і паветранымі ваннамі, а на яго нервы зважае мала і быццам не чуе, калі таго пачынае забіраць хвароба:

— Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..

— Ну-ну-ну, гэта не столь важна, — гаворыць старшы доктар Рускаму, пераходзячы да другіх хворых і раненых.

«Не столь важна! Не вельмі важна, гм!» — думаю сабе я.

Я на свае вушы чуў ад Рускага аб тым, як ён забіў беднага аўстрыяка, і спярша таксама не паверыў: ці мала хітрых бестый бывае паміж салдат. Аднак я на свае вочы бачыў, у першую ж яго ноч у нашым шпіталі, як ён горка плакаў і жаліўся, што яму ўсё нешта здаецца. Няшчасны, нягледзячы на бром і падскурнае ўпырсківанне, заліваўся слязьмі так шчыра і жалосна і так доўга, што ніяк не можна было яму не верыць…

## Пабыўка

Дробны снег марудна сыплецца, а я стаю ля пуні і гляджу на снег і на ўсё ў задуме.

Яшчэ і месяца няма, як вярнуўся дамоў, і вось ізноў такое звычайнае, нуднае жыццё, як быццам не было ані тых акопаў, ані той аперацыі. Ізноў нудна і нецікава…

Прахапіўся ад задумы, агледзеўся пад белым снегавым смуткам і паціху пайшоў на вуліцу.

Благі вецер з убогім скогатам ціснецца скрозь шчэлкі ў надворных будынках. Ціхім мычэннем жаляцца каровы, цягаючы сувалку з тых шчэлак. І болей — ніякіх гукаў. Бесперастанку круцяцца дробныя сняжынкі ў памутнеўшым ад вечару паветры. З-за рогу хаты прэцца гусцейшая замятуха.

Няма чаго рабіць і няма куды ісці… «Ну што? Ну куды?» Узыходжу назад на падворак. Ля павеці ўзяў сякеру, пакруціў у руках і паклаў назад. Буян раптам падхапіўся з належанага месца на санях, заківаў хвастом і з буйнаю ласкаю скакнуў на грудзі.

— А, цццябе ваўкі!

З усяго маху даў яму выспяткам пад бруха. Бедны сабака заекатаў каротка і сціх. Гледзячы на яго, зрабілася сорамна, але не хацеў паддавацца.

— А, ццябе ваўкі… Усцешыўся!

З сенцаў паказалася маці, прыстоіла ў дзвярах, гукнула:

— Ча ты ўсё на сцюжы калееш? А ішоў бы ў хату пагрэўся.

— А што табе? Прыйду…

І здалося, што і яна паглядзела такімі ж скрыўджанымі вачмі, як Буян. І яна зараз маўкліва схавалася за дзвярмі.

Пайду да Самусёвых, дзе зазвычай гуляюць у карты і так збіраюцца пасядзець.

Па дарозе разганяю сваю прыкрую злосць, але ніякай цвёрдасці не маю. Думаю, што злосць такая таму, што маці стаіць уваччу пакорная і няшчасная, а люблю яе, і шкода, што яна ў такіх растоптаных, калматых лапцях.

І так трэба жыць усё жыццё і мучыцца — няведама на што…

У Самусёвых плавае шызы дым ад махоркі. У застоллі, у жупанах і хто ў шапцы, сядзіць колькі чалавек гульцоў, заняўшыся картамі, а на палу і на лаўках — за грэбнямі бабы. Па нячыстай, зашумечанай зямлі, у холадзе, поўзае галаногі, саплівы, замурзаны хлопчык і бавіцца сваімі цацкамі-паленнямі.

— Рэдка, рэдка залучаеш да нас, галубок! — вітае з запечку вечна добрая і супакойная Самусіха.

— Хоць бы зманіў нам што пра вайну, — ласкава пажартаваў і Самусь, запрашаючы бліжэй да столу.

— А то і не ведаем, як там нашы хлопчыкі ваююцца з праклятым германцам.

— Што ж я вам скажу: вайна, ну і вайна… — стараюся быць ласкавым і звычайным. Прыхінуўся к лаўцы — і не маю ніякай ахвоты гаманіць пра тое, што так далёка засталося ад мяне, як бы і не было ў памяці зусім.

— Ці праўда гэта, кажуць, што яны вочы нашым выкалваюць? — нібы безуважна, але з пахаванаю трывогаю па мужу пытаецца Самусёва нявестка, хоць яе мужык і не на фронце яшчэ, а стаіць дзесь у Сібіры.

— Сам не бачыў, а бывае ўсяго.

— Так.

— Ат, мала што плятуць бабы! — адгукаецца за картамі Панаська Арцямёнкаў, што заўсёды цэлае лета служыць дзенебудзь падпаскам ці батраком, прыходзячы да бацькі толькі перад Калядамі. І дзіўна мне, калі ён паспеў так вырасці, што і гаворыць ужо як вялікі.

— Пажджы, пажджы, Панаська! — ківае старою галавою Самусіха. — Пажджы… казалі, што і на цябе рыхтуе пісар абротку.

— Дык што? Нячым я тут буду лаіцца штодня з братаваю ды бульбу есці нішчымную… Гы! Там два разы на дні ялавічыны салдатам даюць.

Сказаў дзёрзка і адважна, ды неяк пачулася ў голасе, быццам збянтэжыўся хлапец, што гэтак гаворыць.

— Пад'ясі, дзеткі… Ць! Без ялавічыны, ды на сваёй печы, то лепей, мой ты Панаська.

Але яе словы толькі болей раздражнілі яго.

— Дык што?!

І з злосцю хлэпнуў, гэткі яшчэ блазнючок, карцінай. А чые карты, Трахім Цішчанок, бурчыць на яго:

— Ну, ты не дужа… не сваімі…

— Дык што?! Гаршы не будзе… Праваліся яна тут наскрозьдоння, свая печ!

* * *

Нецікава ў Самусёвых. Выходжу на вуліцу… Зімовая ціша, замятуха, завеяныя, маўклівыя, з замёрзлымі малымі акенцамі хаткі… Непрытульнасць і нуда… А-ах!

І тады ўздумаў на тых, што там, на пазіцыі, засталіся яшчэ, калі я паехаў, і вось цяпер, у гэты самы момант, сядзяць у сцюдзёных ямах, чакаючы з нецярплівасцю то раніцы, то вечара, то калі прыедзе кухня, то калі прывязуць хлеба. Шкода іх, шкода… Бедныя, любыя!

Але з самага споду душы вылязае тое, што мучыць тут, удаму. Так, думкі іхныя лятуць у гэты момант сюды, пад родныя стрэхі, на сваю цёплую печ, да гэтых шчаслівых ціхамірных дзён, дзе ёсць святло і цяпло ў хаце. Лятуць з поля смерці, з тых сцюдзёных ям, з бясконцага няшчасця дзён. Лятуць… Яны там цяпер толькі і думаюць аб гэтым, болей ні аб чым…

Ну, дык жа і няхай сядзяць, няхай калеюць… Няхай, няхай!..

Зайшоў на двор, узяў пад павеццю рэзгіны і пайшоў на гумно.

Адтуль, з-пад варот, кінуліся ўгору галубцы. Але, падбегшы, убачыў, што на таку іх некалькі засталося. Вулькаюць, тапыраць ад холаду пер'ікі, перавальваюцца на чырвоненькіх, шызенькіх лапках, дзяўбуць зярняткі, убітыя цапамі ў ток.

Ціханька прасунуўся на ток, узяў ля старany адну мятлу і другую — і заткнуў дзіркі пад варотамі. Тады падняў лапату, схаваўся за саху і свіснуў на іх раптам з усяе сілы, аж задрыжэў.

Пур! пур! пур! — як людзі перад страхам, замяталіся, пакінулі найлепшую яду і ў смяротнай тузе кінуліся пад вароты, біліся крылкамі, каб вылецець.

Шубнуў лапатаю ў самы груд — і ўбачыў аднаго з паломаным, абвіслым крылкам. Схапіў яго і сударжна сціснуў у руцэ. Адчуў, як б'ецца сэрца і ў галуба і ў самога.

Размахнуўся і з дзікім імпэтам трахнуў яго аб саху галоўкаю, як толькі ножкі яму тут не адарваліся. І брыдліва кінуў, як напхануюапілкамі і пакромсаную дзяціную ляльку.

А тады зірнуў на апаскуджаную такім учынкам руку і пайшоў накладаць ношку.

Узяўся за вілкі — рабіць струшанку. Рухава і высока падкідаў салому і сена, чуў нейкую лёгкасць на сэрцы і запяяў паціху, а што далей, то дужэй:

> А ты, скрыпка, іграй шыбка,
> А ты, дудка, іграй жудка…[8]

Эх, перавозы ціхае маладосці мае!

Гэтую песню пяюць у нас карагодам, пяюць прыгожа, і я заўсёды любіў яе. Цяпер пяяў не ўсю, а толькі гэтую зваротку, і не столькі зваротку, колькі прыпеў, што можна цягнуць яго як хочаш доўга і як хочаш у сэрцы.

Эх, перавозы ціхае маладосці мае!

Зрабіў струшанку, узваліў рэзгіны на плечы, замкнуў гумно і, здаволены, паплёўся з ношкаю дамоў.

Ноч, зімовая, цёмная, даўгая ноч спаўзае на зямлю. Цішэе надвор'е. Замятуха перастала, і паваліў вялікім і густым хлопам снег. Усё пабялела і пачысцела.

І ў пуні, калі клаў сена пад драбінкі, а конь замінаў сваёю вялікаю конскаю галавою, з прагавітасцю і смакам хапаючы сена з рук, — не ўзлаваўся на яго. Абшчапіў тую галаву за гладкія санкі і прытуліўся да шыі.

— Канёк мой! Гнядзенькі мой! Усё добра будзе!

А конь хрумстаў сена і трос вушмі.

Калі прыйшоў у хату, святла яшчэ не запалілі. Сам узяўся за лямпу і стаў шукаць серчыкі.

— Ніколі ў вас нічога не знойдзеш на сваім месцы.

— Яны, здаецца, над чалеснікам ляжалі, — бароніцца сваім сварліва-пакутным голасам нявестка.

— А ты, калі ведаеш дзе, дык узяла б ды сама запаліла… Шкло во хоць бы трошку пачысціла.

— Ці яго начысцішся…

— Каб ты хоць раз яго чысціла.

І мне шкода і прыкра… Яна тужыць па Стахвану, а я з ёю няласкавы і грубы.

Лямпа асвятліла скнарым святлом хату.

Стол наш высокі і дрэнны, абы-як пакрыты нячыстым абрусом. Зэдлік ківаецца на няроўных ножках. На акне, дзе пабіта шыба, змякла скомканая старая кохта. На лаўках валяюцца крошкі ад хлеба, дробнае рыззё і ўсякае шумецце. На падлозе насмечана і наліта, валяюцца кійкі, стружкі, дзяціныя цацкі і брудныя ашмёткі, — як дзеці гулялі, так і засталося. На палу — склычаныя і незасланыя пасцелі. А ўздоўж сцяны там — усякая адзежа грудам, — навалена, як трапілася. Над дзвярмі, на калках, пара хамутоў, каб раменныя гужы на дварэ не замярзалі і не псаваліся; і вісячыя канцы заўсёды б'юць па шапцы на парозе, як быццам хто наўмысля іх адкідае. Ад дзяцінае люлькі і з печы, дзе сушацца абмочаныя сеннікі, цягне цяжкім смуродным духам. Цэбар з памыйкамі, кадушка з лугам, абвязаная маміным фартухом і абсыпаная залою і попелам, ночвы з мукою і свіны жолаб з мякінаю, зялёны, ніколі не чышчаны самавар з пагнутым бокам і без ручкі, глёк з дзёгцем, пляшкі з красінам, рэшата ў муцэ, атопак з канцом аборыны… а наліта, не сцёрта… Прусы абгрызлі на сцяне газеціну, прылепленую мякішкам, вылезлі і шаволяць вусамі, бегаюць!..

Як гэта ўсё далёка ад таго, ад той культурнасці, якую бачыў я ў сялянскіх хатах ува Усходняй Прусіі.

І як кожны вечар, і цяпер мама дастае гаршкі з печы, а тата ўнёс сабе вады ў карцы з сянец і, набраўшы ў рот, лье з роту на рукі, мые перад вячэраю. Нявестка корміць на запечку малога, схіліўшыся абвіслымі голымі грудзьмі, а большыя дзеці скрыпаюць на печы, усадзіўшы лучынінку ў шчэлку ў бэльцы. Забава! І я некалі так забаўляўся…

— Выганьце ж Буяна вон… — кажа мама, калі тата садзіцца за стол.

Буян круціўся ля столу, а цяпер хаваецца пад стол.

— Пашэў вэн! — вякнула з запечку нявестка.

— Хлебам яго паманіце, — параіў я на злосць.

— Во, яшчэ хлеба яму даваць, — лагодна пярэчыць мама, хапае чапялу, падсунула яе пад стол і забарабаніла Буяну пад мордаю. А той там сядзіць і вухам не вядзе.

— Пусці-тка ты, во я яму! — борздзенька выхапіў тата чапялу з яе рук. І грозна закрычаў: — Пашэў вэн! Каб ты здох! Во я табе!

Буян яўкнуў ад чапялы, як даў яму тата па баку, з сабачым упудам праскочыў па-над лаўкаю да зачыненых дзвярэй і аж запішчэў, паглядаючы на клямку і назад.

Тады тата трошачку прыадчыняе дзверы і так грукае па яго задку чапялою, што бедны Буян раве і кумільгам коціцца на двор.

— Ты заб'еш яго так, — кажа мама на татаву злосць.

— А глядзець на яго? Спатварылі сабаку, а цяпер шкадуеце, — дрыжача адказвае тата і стараецца супакоіцца, бо аж трасуцца ў яго рукі.

Селі вячэраць.

Усе ядзім з аднае міскі драўлянымі лыжкамі. Тата, укусіўшы хлеба, збірае кусанікам і крошачкі на стале (прыцiскае кусанік да стальніцы) і падстаўляе пад лыжку, каб не капала на стол. Дзяцём далёка даставаць, дык яны дужа разліваюць, льюць сабе на грудзі, абліваюцца… Брыдка глядзець, як у дзяўчынкі паўзуць саплі, а яна скрозь увесь час чмыхае носам і наводмах сморгае пад ім рукавом кашулёнкі. Яна пялёскаецца ў місцы, выбірае з капусты лепшы грыб. Выцягнула адзін, пакаштавала яго на зубах, пашчупала пальцамі і плёхнула назад у міску.

Трах! — стукнула ёй матка лыжкаю ў лоб…

— Ты ж еш, калі выцягнула, паскуда!

Дзяўчынка захлібнулася, завыла і пацiснулася пад стол.

— Ніяк без гвалту не абойдзецца, — кажу скрозь зубы, і зараз пашкадаваў, што сказаў, бо яна пасля гэтага загаласіла яшчэ дужэй.

Тады нявестка ўзлавалася, што дачка не сціхае, выйшла з застолля, кінула дзіцёнка ў люльку так, што і той заплакаў, схапіла атопак з аборынаю, выцягнула яе з-пад лаўкі за ручку і больна секанула канцом аборыны, і ўзняўся звычайны для кожнага абедання і вячэрання плач і крык.

— Сціхнеш ты ці не?! — крычыць нявестка.

— У-у-у! — румзае малая і ніяк не сціхае.

Тады матка бярэцца ізноў біць яе.

— Ну дос ужо, дос! — ратуе нарэшце ўнучку баба, калі бачыць, што кары ўжо досыць. — Хадзі ж ка ты ка мне, мая ж

ты любенькая! Хадзі ж ты ка мне, мая худзенькая румзачка! Не плач жа, не плач, а то матка ізноў будзе біць… Цыц!

— Не бярыце яе, на боскую міласць! Гэтак чыста паспатворым дзяцей… — з блізкімі слязьмі крычыць нявестка.

— А ўжо ж… я вінавата: я паспатворыла… — І ў голасе мамы досыць прыкрасці.

Так пачынаецца сварка.

— Калі ішоў на вайну, хай бы з сабою браў, як мне тутацька… ні разачку… спакою няма…

І нявестка заплакала. Спачатку ўсё ў хаце прыціхла, толькі яна плакала. Але яна потым скляла дзяцей:

— Каб ужо хоць пагібель на іх ад мае галавы…

— Цыц! — узвышае тады голас тата. — Што ты дзяцей кленеш? Яны чым вінаваты?

— А праваліся ён і паёк разам з імі, як за яго мяне грызуць а грызуць.

На дзяцей выдаюць ад казны паёк, па рублю, два і тры рублі ў месяц, але грошы нявестка не аддае ў гаспадарку, і ў гэтым хаваецца прычына сварак.

— Хто цябе грызець і за што? Ці мы сабакі якія, га?

Нічога не адказвае нявестка на татавы словы, каб сваімі моўчкамі яшчэ болей усім дапячы; узяла дзіцёнка, захліпала слязней і палезла на запечак, не еўшы крупені.

«Так і заўсёды, так і заўсёды, — разважаю я, сёрбаючы пракіслую ўжо крупеню з бобам. — Дзе ж тут скажаш, каб прыбіралі ў хаце…»

— Я не буду жыць удаму… Я паеду служыць ў горад… — неспадзявана для сябе нават самога кажу я, не паднімаючы вачэй, ціха і цвёрда.

— А ча табе ехаць? *Ай заскучаў па гарадской жысці?* — адгукаецца тата вінаватым, але наўмысля спакойным голасам, як бы нічога асаблівага не было. — Ну, ча табе ехаць? Месяцу яшчэ з намі не пабыў, не адпачыў пасля раны… Што ж, перагародку рабі ў хаце, як казаў… Хто без цябе зробіць? Мы так, як тыя свінні, увесь век у балоце жыць будзем. А ты ж свету пабачыў, табе чысцей хочацца…

— Згары яна! — само сабою выскачыла з вялікаю злосцю. — І праўда, жывём па-свінячаму. Да нас запрасіць нікога няможна, бо сорамна за нашы парадкі.

— Хваліць Бога, дагэтуль людзі не абходзілі, а жывём па дастатках, — пакрыўдзіўся і тата. Памаўчаўшы і голасна сёрбаючы крупеню з самага ўжо дна, ён дадае: — Мы, сынок, не паны і

не жыды, каб кожнаму пад нос талерачку падстаўляць… Мы і з аднае міскі дастанем, абы даваў Бог што дставаць…

— А на хваробу мы гадуем дзвюх кароў, калі абедзве ялаўкі, як падлы, — крычу я мімаволі. — Дзяцём малака няма!

— А для пагною, сынок! — з наўмыснаю пакораю і цвёрдасцю адказвае тата. — А што ялаўкі — бык летась трапіўся маладзенькі зусім…

Потым моляцца нанач Богу і кладуцца спаць.

Тата з размахам ксціцца, і кланяецца, і шэпча то дужэй, то цішэй. Мама горача дробненька мармыча, але ўсё бегаючы, бо і памаліцца не мае часу. Яна прыпыняецца толькі, каб пераксціцца, а то — сцірае з лаўкі, прыстаўляе к ёй зэдлік, як мурашка, валачэ сяннік рабіць мне пасцелю. Нявестка, супакоеная той парою, ксціць на палу дзяцей, згарнуўшы дробную ручку ў сваю руку.

— Забарані, Божухна, тату на вайне…

— Забалані, Бозухна, татку на вайне, — паўторвае хлопчык і пытаецца: — А ці далёка, мамацка, вайна?

— Маліся, а не пытайся… Усё табе ведаць, малому… Прасі во Бога, каб нашы кароўкі малочныя былі.

А мая мама пытаецца ў мяне здалёк і далікатна:

— Мусіць, ты і ўчора не маліўшыся лёг? Надта ж неспакойна спаў, мармытаў, зюкаў, стагнаў…

Мне ж не хочацца нават гаварыць. Яны мяне з такою радасцю чакалі, а не прынёс я ім весялосці ў хату. Так, мала смеху ў нашай хаце. І я ў тым нямала вінават… Няхай сабе!

Моўчкі спамінаю свой учорашні сон. Мне так ясна, так выразна снілася ўчора, што я на пазіцыі, што немцы наступаюць… Шрапнелі рвуцца над нашаю хатаю, тут, у нашай вёсцы, і я прытуліўся да надворнае сценкі, ля якое сплю, і чую, як шрапнель над комінам: тра-ах! Кулі па страсе, па вуліцы: пук! пук! пук! І ля саменькае спіны, і во ў спіну, аж горача, горача… Хачу ўцякаць, — нага мёртвая, не скрануць, ніяк не магу ісці… І думаю: як мне жыць такому, з такою нагою?

Нехта барабаніць у акно:

— Адчыніце!

— А во… — узнімае галаву тата. — Хто там? — падыходзіць ён да акна.

— Я… ці ж не пазналі?

— Ці не Сцяпанька? — спрасонку крычыць мама.

— Ну, што ты йта?! — родненька-родненька і ласкава адгукаецца нявестка.

І ўва ўсіх няпэўна-радасная, сумна-трывожная надзея, нават у мяне: «Ці не Сцяпанька (старэйшы брат) нейкім дзівам трапіў з вайны ўдвору?» Аж халадзее пад сэрцам.

Ды не: голас сватаў, нявесткінага дзядзькі.

Тата адчыняе і варочаецца з ім разам. Мама паліць святло.

— У воласці быў. Мімаездам завярнуў. Нейкая паперына табе, сваток… — падае мне з-за пазухі пакет.

Я ўжо мімаволі баюся ўсякіх паперын. Неспакойна рву пакет, лаўлю вачмі літары…

— Ну? Што там? Што ж нічога не кажаш?

— Гэта… ад воінскага начальніка, — адказваю няроўным голасам. — Дзеля нечага гукаюць на тую сераду. Можа, па білет…

Усяе праўды не кажу ім адразу. Там напісана, што выйшаў новы закон і ўсе белабілетнікі павінны з’явіцца на доктарскі перагляд.

«Возьмуць ізноў», — пячэ мне пад сэрцам.

— А лістоў, дзядзька, няма? — нібы зусім роўным і спакойным голасам пытаецца нявестка. І раптам хліпае, не стрымаўшыся.

— Не… Пытаўся… Няма… — вінавата адказвае сваёй асірацелай пляменніцы сват і хлопае вачыма. — Не дзіва: цяпер жа так прападаюць лісты ў дарозе, — стараецца дадаць ён весялей і руціцца хутчэй дамоў.

— Нешта не піша наш Стахван, — уздыхае тата.

А мама не кажа ні слова. Маўчыць мама…

* * *

І сват пайшоў, і лямпу даўно ізноў патушылі, і ўсе заснулі, спяць, а я не магу заснуць. Колькі разоў брахалі сабакі за садам ля гумна і па дварах, пяялі пеўні, цурбоніла пад пол з-пад малога Васілька, пляменніка майго. Думаў я, што будуць яго, беднага, заўтра біць за тую бяду. І думаў аб сваім жыцці. Уздумаў, як сам быў малы, і часта здавалася тады, што дужа мне цяжка на гэтым свеце, а не ведаў, а не ведаў, што тое гора дзяцінае будзе шчасцем здавацца цяпер.

«Заб’юць цяпер… І к ліху новае жыццё… Ну і чорт яго бяры, такое жыццё, — не шкода…»

Але нейкі ком падкаціўся, і заныла ўсё.

І так пераходамі думалася то лепшае, то горшае. А ўсё наогул — нядобра, прыкра, цяжка…

## Ліст

Дарагі наш таварыш Лявон Задума!

Пішам мы табе, твае баявыя батарэйныя таварышы, з пазіцыі, з Усходняй Прусіі, што мы, дзякуй Богу, жывы і здаровы, чаго і табе жадаем, добрага здароўя і ўсякага поспеху ў справах тваіх.

І паведамляем мы табе, дарагі таварыш, што махорачку і паперу атрымалі, і не так дораг гасцінец, як дарага памяць, што не забыўся там на нас, як мы пакутуем за матушку Расею і за ўсё на свеце. Шчыра дзякуем Андрэю Мікалаічу Сухому і ўсім тым грамадзянам, яго і тваім знаёмым, што склаліся нам на махорачку, каб весялей нам тут было. Пасылаем ім усім наш нізкі паклон, ад ясных вачэй да сырой зямлі.

Таксама і табе, наш баявы таварыш Лявон Задума, пасылаем свой нізкі паклон і прывет і радуемся, што застаўся ты пры назе, а не адрэзалі і што на пабыўку дамоў пусцілі. Гуляй, весяліся там, пакуль можна пагуляць, а калі забяруць ізноў і пашлюць на фронт, ад чаго няхай цябе Бог бароніць, дык старайся ўсё ж ткі, каб ізноў трапіць у сваю родную батарэю, бо могуць паслаць у другую часць.

Яшчэ кланяецца вам ваш добры знаёмы, старшы батарэйны фельчар Сямён Сямёнавіч Лябёдкін, і вашы добрыя знаёмыя, батарэйныя санітары Абрам Фельдман і Мірон Лабкоў і жадаюць вам добрага здароўя і ўсяго найлепшага.

Яшчэ кланяецца вам старшы тэлефаніст Пашын і ўся каманда тэлефаністаў і выведчыкаў, а таксама ўсе батарэйцы, якія вас помняць і не забываюць.

А што вы пытаецеся пра вашага дарагога таварыша Гіршу Беленькага, дык усім нам цяжка на сэрцы, пішучы, што ў апошнім баі пагінуў наш слаўны таварыш і Георгіеўскі кавалер 1-й і 2-й сцепені Гірша Беленькі геройскай смерцю, калі пад смертаносным агнём хадзіў злучаць перабіты провад.

А брат старшага тэлефаніста Лапцева пісаў цяперашняму старшаму тэлефаністу Пашыну з родзіны, з Кастрамской губерні, што памёр Лапцеў у шпіталі ў Маскве на аперацыі.

Яшчэ забілі ў нас яго благародзіе прапаршчыка Вільгельма Георгіевіча Валка, хай будзе яму вечная памяць за добрае сэрца і справядлівасць да ніжніх чыноў.

Яшчэ забілі ездавога ад тэлефоннае двухколкі Яхімчыка і яшчэ некаторых менш знаёмых вам людзей з батарэйнай прыслугі. А то найбольш было параненых, і шмат каго параніла

цяжка, так што старых батарэйцаў цяпер засталося ў батарэі мала, хоць некаторыя ўжо павярнуліся ізноў, але найбольш цяпер новыя людзі, якіх вы не ведаеце. Батарэяй камандуе яго высокаблагародзіе, нядаўна праізведзены ў падпалкоўнікі Антон Антонавіч Смірноў, камандзір баявы і чалавек да ніжняга чына, можна сказаць, справядлівы.

Яшчэ на батарэі цяпер капітан Дыямантаў, што быў раней у абозе. А таксама прыехаў нядаўна з камандзіроўкі паручнік Пупскі, ужо праізведзены за выслугу гадоў у штабс-капітаны. І ні ў чым ён не змяніўся, так што самі ведаеце… (Напісанае далей — густа замазана.) Усіх павысілі ў чыне і далі нагароду. Толькі штабс-капітан Дамброўскі застаўся ў сваім чыне, часта хварэе і знаходзіцца цяпер, можна сказаць, увесь час у штабе брыгады. Таксама там і падпаручнік Кульгацкі, ад’ютантам, даўно ўжо. А паручнік Іваноў захварэў і лечыцца ў Вільні.

Жонка нябожчыка камандзіра батарэі прыслала ўсім нам гасцінцаў на Каляды і кожнаму батарэйцу фатаграфічную картачку нябожчыка камандзіра, вечная яму памяць. Таксама прыслаў на батарэю пуд махоркі бацька нябожчыка падпаручніка Сізовага.

Скалазубага падпрапаршчыка Смірновага разжалавалі ў феерверкеры за продаж казённага дабра і перавялі ў другую батарэю. Фельдфебель Хітруноў быў ранены ў плячо і цяпер знаходзіцца ў абозе. Таксама там і Шалапутаў, простым ездавым, хоць і юнкер, і дзе ён быў увесь час, невядома, а нядаўна аб’явіўся ў абозе.

І ты пытаешся, баявы наш таварыш Лявон Задума, ці былі яшчэ баі і якія змены і навіны. Так што баі былі вялікія, а якія змены і навіны, дык мы табе збольшага апісалі. У тым баі, калі ты быў ранены, кінулі мы дзве разбітыя гарматы, а шэсць, даў Бог, вывезлі і начою адступілі назад у горы. А цяпер ізноў стаім на яго зямлі і спадзяёмся тут перазімаваць.

Яшчэ раз нізка кланяемся і жадаем здароўя і поспеху ў справах і каб добра пагуляў і паправіўся.

Застаёмся твае баявыя таварышы, курым махорачку і ўспамінаем цябе.

За ўсіх пісаў ваш пакорны слуга, старшы фельчар 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады, Георгіеўскі кавалер Сямён Сямёнавіч Лябёдкін.

*[1914–1928]*

# КІПАРЫСЫ

1

Ехаўшы на станцыю, падвёз грамацейку. Апавядала, як цяжка было ёй паступіць, як стараецца яна вучыцца, як летась так была перапрацавалася, што нават мусіла адпачыць у доме для нервовых. На станцыі пазычыў ёй рубель — купіць есці ў дарозе. Увосень, казала, аддасць.

2

На пляцформе, чакаючы цягніка, бачыў бухгалтара Лазобку[1] і касіра Качку, засуджаных нядаўна за тое, што нехта пакраў грошы з касы. Пацяшаў бухгалтара, што неяк абойдзецца. А ў яго на вачох — слёзы… І я глядзеў міма.

3

Да Кміты-Чарнабыльскай ехаў у пляцкартным вагоне Камунацэнтар-Камунары. У гэтым жа вагоне вязлі хворую жонку выкладчыка вайсковых дысцыплін. Казалі — звар'яцела. Чуў, як прасілі, каб у Кміце далі насілкі несці яе. А ў Пячурках вялі яе пад рукі. Вусны пафарбаваныя, твар чырвоны. Ён — малады, прыгожы, стройны. Мусіць, старэйшая за яго, сямейныя нелады.

4

Ехаў і той малады ціхі фэрмскі стараста, з якім я той раз пад'язджаў, зламілася вось і мы абярнуліся. І цяпер ён ехаў з сваім хлопчыкам.

Хлопчык — здароў. І я так усцешыўся, што ён — здароў! Бо як абярнуліся, дык усе на хлопчыка. І ён ножку аб каменне пабіў і абадраў. Я чуў сябе вінаватым: чаго мне было пад'язджаць? Ну, хоць жа ён здароў!

Яны пераязджаюць з Пячурак у Камунацэнтар, зусім; стараста перавёўся на службу ў навукова-даследчы інстытут.

5

Да Кміты-Чарнабыльскай на ўсё купэ быў я і маладая, невялічкая, кругленькая жанчына. Ляжала і чытала.

Я папрасіў у яе кніжку і чытаў — «Английские рассказы» Барыса Пільняка. Жудасная рэч! Якая культурнасць у Англіі і якая дзікасць у Расіі.

Пад'язджаючы пад Кміту, разгаварыўся з суседкаю, скрыўшы, хто я. А яна — працаўніца па бульбе ў навукова-даследчым інстытуце ў Камунацэнтры.

Праца бульбяной даследчай станцыі і паводзіны загадчыка Нудазанудовіча ёй не падабаюцца. Хоча ўцякаць. Сама яна з Пальміры. Муж працуе недзе ў Сярэдняй Азіі.

І я думаў: а чаго цябе, такую, сюды прынясло?

6

На станцыі ў Варне, сеўшы ў буфеце за стол абедаць, апынуўся выпадкова побач з жонкаю Каржа, камуніста, з якім былі мы не дужа даўно на вечарыне ў асістэнта па батаніцы т. Гаршэчніка[2].

Яна ехала ў Мяцісы да мужа, ён там адбывае лагерны збор у войску. Ай, якая яна страшэнна худая і бледная. Настаўніца.

І хоць не дужа даўно было, што спаткаў яе на вуліцы, як ішла расчырванеўшыся з поля, з дзеткамі-школьнікамі, з пукам красак у руцэ, харошая, — а не хацелася мне цяпер ехаць з ёю разам да Мяцісаў.

І ўзяў я пляцкарту і ехаў да Мяцісаў асобна ад яе, у пляцкартным вагоне. І адзін на ўсё купэ.

Не захацеў з ёю ехаць. Нічога не выйграў, ну й не дужа прайграў, што ехаў адзін.

7

У Мяцісы прыехаў увечары, а 9-й гадзіне. Паехаў на трамваі ў Дом працаўнікоў асветы[3].

Там загадчыца інтэрната, вульгарная баба, не хацела пусціць мяне, што загадчыка Дому не было, некуды адлучыўся. Я пачакаў. Прынялі-ткі.

8

Аж якраз у гэтым доме — вечар выпускнікоў педфаку[4]. Пайшоў і я, хоць і не меў білета. Хацеў напіцца гарбаты, а там буфет. У салю слухаць канцэрт не дабіваўся. А ў буфет пусцілі, хоць таксама не хацелі, што няма білета.

Папрасіў аднаго студэнта паказаць мне студэнтаў-балотнікаў. Ён пазнаёміў мяне з дзвюма выпускніцамі. Я ў іх распытваўся.

Яны троху гаварылі і па-балотнаму. Але апрача балотнага гуртка і балотнага ўхілу на аддзяленні рабфаку нічога балотнага ў Мяцiскім універсітэце няма.

[9]

Клаўшыся ў інтэрнаце спаць, у вялікай спальні, пачуў нібы знаёмы голас і пабачыў нібы знаёмага чалавека…

І пазнаў адразу, што гэта ж мой былы настаўнік, славеснік і музыка, Варлам Варламавіч Чалесьнік.

І захацеў паслухаць, як ён цяпер гаворыць і што ён цяпер кажа. Быў ён, як і даўней, толькі трошку пацішэў і прынізіўся.

Увечары я не прызнаўся.

А сышліся раніцою, за сталом, як пілі гарбату. Тут я прызнаўся.

Надта ж міла абышоўся ён са мною. Разыходзячыся, пацаваліся. Ён казаў, што ў ранейшых сваіх лістох жартаваў з балотніны наўмысля, каб выклікаць мяне на гутаркі.

Ён жаніўся з дыяканаваю дачкою ў сяле Анісіменках. І швагерка яго ў Ленінградскай капэле, нядаўна ездзіла з капэлаю па Еўропе, добрая спявачка.

І ён сам і цяпер іграе, толькі цяпер, кажа, і дзетак карміць трэба, і выкладаць у школе цяжэй, і зарабляе меней.

Але гаварыў так, каб выглядала, што ён здаволены ўсім тым, што ёсць.

10

Шукаў радню этнографа Калматага. Знайшоў яго сына. Ён нёс ваду з таго падворка, дзе калісь жыў яго бацька, па Мікольскай вуліцы.

Паслухаў яго апавяданне пра трагічную смерць бацькі і запісаў адрасы людзей, што пісалі біяграфію нябожчыка.

Пайшоў па тых адрасох, па вуліцах і завулках мяціскіх, з ціхімі мяшчанскімі драўлянымі дамамі і садочкамі пры іх.

Хадзіў да аднаго, Лапчынскага, але не знайшоў удому[5].

11

Быў у рэктара універсітэта Энеідскага[6]. Малады белабрысы дзяціна высокага росту, але танкаваты і далікатны.

Ён казаў, што даводзіцца блізкаю раднёю аўтару балотнае Энеіды і мае аб ім матэрыялы. Дакляраваў аб усім напісаць мне.

Ён жа казаў пра балотную катэдру ў Мяцісах. На паперы яна ёсць, а грошы на яе няма. Кучка не дае, а Камунацэнтар даць не хоча. А калі грошы, — катэдра хоць зараз.

12 (Патрыёт)

Тут жа ў яго я пазнаёміўся з прафесарам гісталогіі Брухавецкім-Рыжым[7]. Ён зацягнуў мяне да сябе дамоў. І яшчэ дарогаю казаў, што яго жонка ўмее па-балотнаму, і ён умеў, ды забыўся, але навучыцца, казаў, за 2 месяцы. Дужа хоча ў Камунацэнтар ці хоць у Пячуркі (бо там аклады вялікія). Яго падручнік гісталогіі — адзіны на ўвесь Хаўрус. Кажа, што хацеў бы перакласці на балотмову. Аб яго пераездзе прасіў мяне пагаварыць з Ваўком.

Жаліўся, што пацукі яго з голаду падохлі. І сам мала зарабляе. Двух сыноў хоча ўстроіць асістэнтамі.

Сівы, стрыжаны, рухавы. Курыць. Хлопае сябе па лбу.

— Дурак, што не паехаў! Сербіянін[8] запрашаў. Эх, хоць бы памерці на роднай зямельцы.

Жонка — доўгая, старая. Яшчэ нейкія старыя мошчы, і ўвесь пакой цесна застаўлен мэбляю: шафы, шырмы, столікі, ложкі…

13

Заходзіў на кватэру, дзе жыў дзесяць год таму назад[9].

Каця цяпер удава, ляжала ў больніцы з Галяю Каробачкаю, дачкою засуджанага нядаўна бухгалтара, і ледзь яшчэ ходзіць пасля аперацыі апендыцыту. У яе дзяўчынка Рыта, гадкоў сямі. Муж быў памоцнікам загадчыка мабілізацыйнага аддзелу і застрэліўся ў 1924 г. ад нерваў.

Большая Маруся памёрла ад тыфусу ў 1922 годзе.

Маленькая Маруся вырасла з бегемота і сумуе.

А Зіна замужам у Маскве, за латышом Зэметам. І ў яе было гора: два гады таму назад вываліўся сынок з вакна, з 3-га паверху, гледзячы на Першы май, і цераз 6 гадзін памёр. Было яму 2 гады. Цяпер нядаўна ізноў радзіла хлопчыка.

Пра Ліду Пятрову Каця казала, што, здаецца, замужам у Ленінградзе.

14

Быў у музеі[10]. Багаты аддзел разьбы па дрэву. Цэлыя кавалкі дахаў з паўночнага краю.

І вітрына мажарскіх паясоў.

Але ўсё перамешана, і балотнага не відаць…

Загадчык родам з поўначы, хоць прозвішча Баршчэўскі[11].

Учора на вечары педфаку бачыў рабую студэнтку. І ўздумаў, ці не трэба дзецям прышчапіць воспу?

Яна — тоўстая, камялястая, упэўненая ў сабе, хоць і рабая.

Думка аб рабаценні ніколі, ні на хвіліну, яе не пакіне, але праз гэта яна мацнейшая.

Рабы чалавек заўсёды бліжэй да [нрзб] чым гладкі.

15

За начлег заплаціў 40 нагат[12].

Абед — 65 нагат.

Піва — 40 нагат.

Чарга абедаць. Хлеб — трэба прыпісацца да якой-небудзь крамы, і ўсё роўна — чарга.

А колькі антэн над Мяцісамі![13]

Быў дождж. Цяпер распагодзілася.

9.50 увечары еду на Кучку.

16

Цяпер якраз восем гадзін вечара. Я прыехаў на вакзал загадзя, аж стаіць ужо даўжэнная чарга, і кажуць, што часта людзі застаюцца. І на пляцкарту ўсё роўна чарга. Гарадская станцыя сёння, святам, зачынена.

Патаргаваўся з нашэльнікам. Хацеў ён рубля, за тое, што возьме мне пляцкарту. А я даваў 50 кап. Старгаваліся за 60 к.

Гляджу: стаіць у чарзе Кацярынін. У 1918 г. мы служылі з ім у Кватэрнай канторы[14]. Недаўчоны інтэлігент, сын купца. Пануры, высокі, гаворыць ціха.

Тады бурчэў, цяпер бурчыць.

Тады, гаворачы, азіраўся і цяпер так.

Я і сам часам бурчу, а як паглядзеў на яго — агідна зрабілася, што ён бурчыць.

І сорамна зрабілася за сваё бурчэнне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не паспеў я пагаварыць з ім, нясе нашэльнік пляцкарту. Яны гэтым зарабляюць. Бяруць пляцкарты па знаёмству без чаргі.

Пляцкарта ляжачая ад Мяцісаў да Кучкі 1 р. 84 к. Плюс яму 60 к.

Ізноў хмарна.

Лёг спаць.

[17]

Мінецца ноч і ў памяці табе нічым не застанецца. Раніцою прыехалі ў Кучку.

Ехаў у вадным купэ з бабулькаю з Горадзеншчыны. Акцэнт — як у Вар'юковае мачыхі, гаворыць па-свецку, але троху сімпатычнейшая.

Едзе ад сына-рабочага, з Юрцава, да дачкі, што замужам за чэхаславакам, інжынерам, у Сподні Слаўгарад.

Адзін сын служыць на станцыі ў Лунцы, а ад другога няма вестак другі год, з таго часу, калі дзядзініч ці сястрэніч пісаў аб ім:

— Ляжыць у Горадзе Анткаў у шпіталі пры смерці.

Можна думаць, што яго там знішчылі за тое, што не сядзеў ціха.

Колькі гісторый на свеце, колькі!

І ў маці на ваччу слёзы, але твар у яе колкі.

18

Ад станцыі да трамвая нёс разам з ёю яе пакуначак, пудзікаў на пяць… А гэта, да трамваю, цэлыя гоні, каб сесці на патрэбны нумар. Было горача, я абліваўся потам, бабулька таксама.

І калі мы так неслі, перашкаджаючы людзям ісці па тратуару, падскочыла нейкая жанчына рабочага тыпу, ішла з хлопчыкам, выхапіла ў яе з рук другі канец пакунку і смяючыся паднясла. Вясёлая, жыццярадасная жанчына з цэнтру культуры.

Мусіць, нейкая шчаслівая была ці дужа спагадлівая да свае сястры-жанчыны. Я быў нават здзіўлены.

Жыццё так і буяла ў ёй. І ўцеха брала мяне глядзець на яе і несці з ёю.

А бабулька гэтая, відаць, скупая, бо на вакзале таргавалася з нейкаю беднай беспрацоўнаю жанчынаю, і тая бралася завезці яе на трамваі з нашага вакзалу на Амонти-Кмети за [нрзб] плюс трамвайны білет туды 19 і назад 19.

Бабулька не згодзілася, хоць і я ўмаўляў. Казала:

— Дробных няма… Трэба мяняць 10 рублёў.

А тая:

— Я ж толькі на кавалак хлеба дзецям зараблю. Ніхто ўжо меней не згодзіцца…

19

І сядзеш ты на Букі і заедзеш за восем да Ханскага Пярэсмыку[15]. Там прыме цябе ў канцылярыі жанчына вельмі ласкава. І завядуць цябе ў пакой № 1. Толькі папросіць тая жанчына ў канцылярыі схадзіць на Авэню Анархіста, 16, у канцылярыю Букіністаў[16], каб узяць там і прынесці ёй «падарожную» — дазвол на жыццё ў гэтым далікатным кляштары. А ў Мяцісах вульгарная, дурнаватая баба не хацела пусціць цябе нанач, пакуль не прыйдзе дзяжурны. Якія ўсе розныя людзі.

Сходзіш туды і спішаш лекараў у свой блакнот, каб схадзіць да іх пасля аднэй цямноты ці пасля дзвюх.

20

Потым паедзеш у КДВ, купляць касцюм. Згубіш там дарма час. Добра, што не будзеш дужа дабівацца. Не купіш там ні касцюма, бо няма, ні шапкі, бо не табе, ні кія, бо яны не [на] пячуркінскіх сабак.

А людзей там будзе як на кірмашы на Адзінаццатуху ў Целяпенічах — і таго болей! На чацвертым паверсе знойдзеш буфет. Заадно і паснедаеш і паабедаеш.

Дадуць табе суп-лапшу і карпію ў смятане. І ты іх прымеш, бо яшчэ іншая страва: бужаніна з капустаю, дык яе не возьмеш. Заплаціш 85 к. І пляшка піва 50 к.

Палюбуешся ў вакно на плошчу — пуп гораду, адпачнеш і пойдзеш шукаць хоць пінжака.

Абойдзеш колькі кучкакрамаў і прыватных магазінаў — не будзе летніх касцюмаў. Будзеш хадзіць па Вялікай і па Пярэсмы-

ку Міхалёў. У адным прыватным будуць люстрынавыя пінжакі, але па 30 руб. Насілу знойдзеш і купіш летні сіненькі касцюм за 23 р. 39 к. і шапку за 1 р. 21 к. у магазіне «Аднакарытнік» (Слаўнакваснага т-ва шамнікаў). Тут жа ў магазіне і перадзенешся.

21

Будзеш шукаць півапіўскіх бэцікаў. Зойдзеш навет у «Міжземскую буку». І не знойдзеш. Але тут купіш, каб пераслалі ў сектар у Пячуркі, на 12 р. 50 к. песні Насастага, Радыо, Мар [нрзб] (2 т.), усяго 5 букаў. Параяць табе схадзіць спытацца бэцікаў у Цэстранцоту. Пойдзеш пасля аднае цямноты.

22

Адтуль, пад дожджыкам, да Букі. Заедзеш на Галоўную, дзе т-ва марачнікаў. Але тэлій тваіх не купяць, — дарма і вёз. Насупраць — галярня, пойдзеш туды.

23

Дасіся абскабліцца, як скобляць смаленых парсюкоў.

Скаблярчык раскажа, што было ў пэргамінах:

— Адзін чалавек скабліўся, а жонка адзаду, жартуючы ці не бачучы, вытнула па [нрзб] дык перачыкнуў [нрзб].

— Адзін скоблік скобліў цела адубелага дойліда. Потым сам паскабліўся і ад тэй скоблі набраўся трупнага соку…

24

Адным словам, зробішся ты хадзячым [нрзб] эпасу.

Тут жа чысценькі, важненькі скурупца, гадоў 30, чамусьці ў панскую мову ўставіць «выбачайце» (у гутарцы з панамгрошнікам і не чуўшы цябе).

Ты загаворыш з ім па-балотнаму, і ён, з радасцю:

— А, з нашага Балота! Бывайце здаровы! (Як ты выходзіў.)

25

І вось прыедзеш, будзеш ляжаць, 19. [нрзб].

Чырвоная скрыня. № 3. На беразе мора. Каля Ханскага Пярэсмыку.

Натрудзіў хадуны, адпачываеш.

Хочаш яшчэ даведацца Песняра. Хмарна толькі.

Калі Перавышні выйшаў, Хэрувімскі саркастычна сказаў:

— Французіць і выабражае сабе многа. А ў эстэтыцы нічога не разумее.

Побач з табою Пятроў з Ханскае паўвыспы, малады мазоль у галіне эксперыментальнага душаслоўя. Ён мае 17 друкаванага мазольства. Пераводзіцца ў Кучку.

26

Увечары шукаў Батрачку.

Дождж. Цёмна. Не знайшоў.

Перад цямнотаю пойдзеш да Цесных Вачэй. Але ішоў дождж, пакуль тыя трамваі, і йсці трэба было, — прыехаў каля 20. Пасядзеў да 21.

Жонка яго ляжала ў пакойчыку за дзвярмі і не выходзіла.

Маці і ён дужа прасілі застацца ў іх начаваць, але я паехаў у свой інтэрнат.

27

Тут, у інтэрнаце, убачыў Карацілу і Забялянку, архіўшчыкаў, але ніякіх навін ад іх не чуў.

Казаў толькі Караціла, што ў іхнай Вышэйшай школе хочуць скараціць навучальны план, значыцца, павінны быць скарочаны прафесар Заікін, Гарчыцын і Нітуды-Нісюдыскі.

Аб справе Шакаловіча, да якога ён адносіцца адмоўна, казаў, што за яго нібыта Стараста (?).

28

Лёг я спаць рана і выспаўся добра. Як я клаўся, у пакоі нікога не было, а прачнуўся ад спрэчкі — гамоніць прафесар з Чэрнежа гісторык літаратуры Хэрувімскі з маладым пальмірскім вучоным Соль-ля-рэцкім (Перавышні) аб шэкспіраўскім тэатры.

І той малады Со-ля-рэцкі сыпле французскімі фразамі, як гарохам.

А Хэрувімскі:

— Усё гэта даўно вядома і нічога новага не дае. Загадка Шэкспіра застаецца загадкаю.

Кожны хоча паказаць, што шмат ведае.

29

Па абедзе, калі я ляжаў, прыйшоў той француз-фэрцік, Хэрувімскага не было, і сказаў:

— Якая, усё ж, яшчэ рэакцыйная ў нас прафесура.

Я хацеў бы яму давесці…

Я зрабіў выгляд, што ўжо драмлю.

А як яны пайшлі, надзяваўся я, і педагог Петічкін сказаў пра іх абодвух, азірнуўшыся на мяне:

— Уся іх спрэчка нагадала мне здабыванні вучонымі сонечнае энергіі з агуркоў… Памятаеце ў Свіфта?

Я сказаў, што памятаю.

Ногі ў яго, аднак, дужа смярдзяць потам, хоць ён і вельмі вучоны.

30

Потым я паехаў да Цеснавока.

Напіўся ў іх гарбаты.

Жонка яго не маладзенькая, але даволі сімпатычная, росту высокага, чарнявая. Відаць, разумная. Гаварыла троху пабалотнаму, але больш па-панску. У справах балотных, здаецца, добра арыентуецца. Яна настаўніца, родам з-пад м. Целяпеніч на Галыншчыне. Была ў нетрах паўночных.

31

З Цеснавокам паехалі ў балотны пададдзел Мінімальнага Аддзелу[17] да сябра Вялікадня.

Сядзелі там дужа доўга, а чалавек 10 інтэрэсантаў чакалі за дзвярмі, аб чым я даведаўся лішне позна, калі ўжо выходзіў.

А Вялікдзень жа ведаў, што яны там чакаюць, — і тым часам не спяшаўся кончыць гутарку з намі.

Але не столькі было гутаркі аб справе, колькі спрэчак Цеснавока і Вялікадня аб «Купіне» і «Каганцы» і аб артыкуле Асінкі, якому заказаў яго сябар Вялікдзень для балотнае бібулы, што тут мае выйсці, але ціснуць адмовіўся, бо артыкул прыхільны да «Купіны».

І шмат align="">рознага глупства было гаворана…

Справа: пюпітр у Мяцісах гэтымі днямі разглядае Найвышэйшае начальства; калі зацвердзіць, тады ўсё будзе…

У Далёкай Краіне ёсць 12 балотных школ, мяркуюць, што з восені будзе 31. У Аляксандра-Неўшчыне адчыняецца балотны тэхнікум выхавацеляў.

Вялікдзень дакляраваў гэтымі днямі выслаць у Пячуркі белабэсціянскія лемантары.

Магазін з літаратураю мінімалаў быў зачынены. У вітрыне ёсць і балотныя кніжкі, і слоўнік Скнарага і Цёмналесца.

32

Адтуль пайшлі па вуліцы і спыніліся каля кнігарні, дзе танныя кніжкі. Зайшлі.

Доўга капаліся там, але я купіў сабе толькі дзве кніжачкі, чытаць у дарозе: «Жыццё ў кветках» А. Франса[18] і «Вучань» П. Буржэ.

33

Потым паабедалі, у прыватнай, на жаль, страўні.

З’еў я шчы з свежае капусты (40 к.) і шніцэль (60 к.), але да шніцэля быў стары, хоць і вельмі добры агурочак. Я не ўцерпіў і еў гэты агурочак[19].

34

Потым мы з Цеснавокам галіліся і фатаграфаваліся[20]. Ён зацягнуў мяне па дарозе, хацеў выбраць негатыў, што здымаўся з жонкаю, а потым і мы сфатаграфаваліся.

35

І калі рассталіся, я паспеў толькі з’ездзіць ў інтэрнат, пакінуць кніжкі. Пачаў пісаць ліст, але не скончыў і зараз паехаў у тэатр (1-шы). Білет, яшчэ перад тым, як ехаць у інтэрнат, дастаў выпадкова каля дзвярэй, ад нейкае, мусіць, настаўніцы, якая дастала сабе другі, дзешавейшы білет. Стаяла, казала, доўга ў чарзе. Білет аддала мне па сваёй цане, 2 р., бельэтаж, левы бок, 4 рад, 2 месца.

36

Пачалося а 7½. Добра, што я не спазніўся.

Ішлі «Дні Былых»[21].

П’еса нагадвае п’есы Міровіча: «Кастусь Калін.», «Перамога» і інш. На сцэне ёсць і гетман, і немцы, але столькі, колькі Мураўёў у «Каст. Кал.». Ёсць і пятлюраўцы.

Аб’ектыўнасць таксама чыста міровічаўская, але найбольш сімпатыі з’яўляецца да белых Былых [нрзб], як інтэлігентных расійскіх афіцэраў.

У п’есе шмат юнкяроў, пятлюраўцаў, афіцэраў, але жанчына толькі адна, сястра палкоўніка і юнкера Чурбана, Алёнка.

Афіцэр Пацукоўскі, тып Ваські Дзянісава з «В. і м.» Талстога, канчае прымірэннем з бальшавізмам.

З літаратурнага боку п’еса слабая, але скалочана лоўка і глядзіцца з цікавасцю. Іграюць добра. Але я пэўны цяпер, што балотны тэатр меў бы значны поспех у Кучцы.

Людзі каля мяне сядзелі ўсё чужыя, і ніводнага знаёмага твару я не бачыў.

Тэатр чысценькі, прытульны, мяккі, з вялікім парадкам.

37

Скончылася пасля 11½. Сеў я на тэатральным пляцы на № 24 і заехаў да Ханскага пляцу. Там купіў у бабулькі два баранкі і свежую ватрушку, але з дрэннае мукі. Тым і павячэраў. Прыйшоў і лёг спаць. Балазе вароты былі адчынены.

Прачнуўшыся і лежучы а 7½ раніцы, узяўся дапісваць ліст, і ўчорашні агурочак нічога, усё добра.

Праф. Хэрувімскі дужа храпіць.

38

На вуліцах жабракоў бачыў я цяпер меней, але ёсць, і ходзяць па страўнях, па вагонах трамваю.

На вуліцах ёсць п’яныя.

Аднаго ўчора ўвечары высадзілі з вагона са скандалам міліцыянеры, бо ён упіраўся.

39

Уранні гэтага дня паехаў на магілку. Трамвай № 12 да канца. У Прад [нрзб] купіў красак і чырвоныя макі, сінія незабудкі і іншыя.

Па дарозе, у Страшным Бары, дзеці прасілі красак, кучкоўскім сваім дыялектам. Хлопчыкам не даў, бо яны канькамі, а дзвюм дзяўчынкам даў, бо яны трымаліся добра, а старэйшая і ўгадала:

— На могилку несет…

Аказваецца, гэтыя дзяўчаткі, сёстры, ішлі ў б. кляштар, дзе яны цяпер жывуць. Бацька іх «литьё таскает» і зарабляе 175 рублёў у месяц. Маці — «ткачиха», зарабляе 85 р. Дзяцей — 8 чалавек, і гэтай старэйшай, сама казала яна, 11 гадоў. Я здзівіўся. Удому ў іх нянька.

40

Разбіраюць на цэглу кляшторную сцяну… І я даў на аграду 1 р. А з аднаго боку могільнік ужо даўней быў абгароджан высокаю драўлянаю агарожаю.

Могілка ў парадку, але ўсё гусценька зарасло травою: пырнік, казелец, незабудка… І бярозка разраслася.

Зводаль шуміць запушчаная алейка ясакараў, зусім як асінак. Літары мала знашны на каменю.

Пастаяў я, паклаўшы на траву свае кра[скі]…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер ён на трэцім курсе Ідэал. універс.

Я пытаўся ў яго, ці робіцца што, каб вызваліць заходнікаў. Ён казаў, што правадыры, мусіць, вызваляцца, але трэба пачакаць, а звычайныя бедакі, пэўна, будуць пакутаваць.

Падмаўляў я яго, каб стараліся абараніць пюпітр у Мяцісах. Ён казаў тое, што я ўжо сам ведаў. Але казаў ён, што сябар Вялікдзень не карыстаецца аўтарытэтам, і яго трэба зняць з пасады.

Потым перайшла гутарка на літаратурныя тэмы. Ён стараўся трымацца аб'ектыўна ў адносінах да «Купіны» і хваліў іхную бібулу.

43

У яго ж я мімаходам пазнаёміўся з тым сябрам Дзюшкам, што жонка яго забрала некалі сваіх дзяцей з балотнага каледжа.

Але гаворыць ён, хоць і няправільна, а па-балотнаму.

Вусаты, як Ігнат Гусак, толькі вусы танейшыя і вісяць уніз. І гэткі самы тоўсты. А казаў «дагукаліся», у сэнсе дагаварыліся, і «ксёнжкі» замест кніжкі.

Ён быў калісьці ў Балоце адным з першых актораў, гуляў у п'есе «Пошта і тэлеграф», ды нешта выйшла, і цяпер ён ці то ў «Далёкай краіне», ці то ў «Гарачыні».

## 44

Iksnie wor

Тут жа пазнаёміўся я з нашым маладым канструктарам, сябрам Ікснe-Вор. Невялікі і несамавіты малады чалавек, але робіць добрае ўражанне.

Зрабіў ён з нічога брыгаду, якая абслужвае балотнымі канструкцыямі ўсе вялікія калектывы ў Кучцы.

Казаў, што зацікавілі яго некаторыя сарты ў яе матэрыялах, — будзе канструяваць.

## 45

Потым з с. Пацуком паехалі мы да с. Цеснавока.

## 46

Хэрувімскі храпіць. Я пэўны, што вы яшчэ ў жыцці сваім не чулі такога душу раздзіраючага храпу. Здаравенны мужчына.

Зір! Уночы ўсіх абакралі. Злодзей улез праз адчыненае вакно. У мяне нічога не ўкраў. Усе страшэнна скандалілі: хто адчыніў вакно. Хто **забыўся** зачыніць? Гэта **розніца**! Быў яшчэ немец. Прыехаў з-за меж, застаўся спакойны. «Я затыхалься от ваш атмосфэр из ваша цел…»

Немцу заплацілі, а сваім — фігу.

У мяне — касцюм, бацінкі.

## 47

Устаў а палове сёмай, надзеўся, памыўся і зараз паехаў. Ад 7 да 9 стаяў у чарзе, спярша на вуліцы, а потым перад касаю № 26.

Жабракі ўсё хадзілі.

Хадзіў стары з дошчачкаю на грудзёх, што ён севастопальскі салдат і радзіўся ў 1830 г. І я даў яму адну ці дзве капейкі. А потым, казалі, павёў гэтага старога міліцыянер, бо ён заняў першае месца ў чарзе і прадаў некаму гэтае месца (не білет, а толькі месца).

Толькі троху сядзеў на поручні каля вакна. Весела было. Чарга за рог дому і хвост цягнуўся яшчэ ўгару, каля сцяны, што вышэй яе пайшоўшы стаіць помнік скарынічу.

І ўзяў я білет з ляжачаю пляцкартаю (адзін такі і быў) ехаць сёння ўвечары, 8.50, з паштовым № 3, на Пляваў.

48

Потым я не ведаў, як лепей выкарыстаць час.

Ісці да доктара надумаўся — не еўшы абеду. І зайшоў каля Пупа, за Святою, у страўню. Аж яна абісінская і напісана па-абісінску. З'еў там смашны і здаровы вялікі амлет за 45 к. і выпіў шклянку гарбаты за 5 к.

Купіў блакнот, хацеў ісці яшчэ шукаць белабэсціянскіх лемантароў, бо Вялікдзень можа забыцца, але раздумаўся і паехаў у Палову мастака Леанарда да Вінчы.

Дайшоў да самага таго завулка, аж ідзе назад вучн. эксп. і кажуць, што там у чацвяргі і панядзелкі зачынена.

49

Тады я пайшоў у клініку вучоных (Г., 37). І тут чарга. Ну, тут можна было сядзець.

Прымаў мяне хірург Вужака. А заплаціў я 1 р. 90 к., скідка сябручочкам 25 %. І было ў яго людзей мала, я апошні.

Быў ён некалі, у вайну, у Камунацэнтры, дык доўга гаманіў са мною.

Мацаў і мяў мой лантух і так і сяк. І… о, радасць! — ніякага апендыцыту не знайшоў, толькі нешта пачатковае ці гемаройнае. Адростак у парадку і ніякае аперацыі не патрабуе.

Пытаўся, ці бываюць запоры, і сказаў, што, каб зусім наладзіць жывот, трэба часам, нанач, чытаючы кніжку, пакласці на гэтае месца грэлку, часам зрабіць клізму з румянкі, цёплую, заварыўшы жменькаю да колеру гарбаты і паставіўшы «таміцца».

А не есці нічога з «бляшанак» (так і сказаў), значыцца, кансерваў, а таксама высцерагацца перцу, гарчыцы, беф-строганава з гостраю заліўкаю і засмажанымі вялікімі кавалкамі бульбы, наогул усяго, што дрэнна травіцца.

А піць, казаў, пры выпадку з ½ бут. можна, і нават добра гэта, не шкодзіць, а нельга, казаў, рэгулярна піць, па чарачцы перад абедам.

І даў аналогію: не выспацца кожны дзень і не выспацца раз ці два ў дарозе.

На ўсякі выпадак параіў яшчэ салол 0,3 — прымаць у разе патрэбы, парашкі 2–3 на дзень. Прадаюцца яны без рэцэпту.

50

Потым пайшоў я паабедаў у страўні Вучоных (вул. Анархіста, 16). Прыйшоў у інтэрнат, ляжу і пішу гэта. Нікуды больш ісці не захацеў.

Цяпер палова шостае, памыюся, збяруся, па дарозе заеду да Цеснавока, можа ё эпістолія, і на Кмецкі вакзал[22].

За інтэрнат заплаціў за тры дні 4 р. 50 к.

51

Не ведаючы добра, на якім трамваі ехаць, ехаў я доўга, бо доўга чакаў на перасядцы, на Кучаравым пляцы (цяпер, здаецца, пляц Выбуху), бо прапусціў тут, не ведаючы, адзін Ге, а другі быў дужа поўны, і я паехаў толькі з трэцім (да пляцу Курбы). Ад Ханскага пляцу ехаў на Бе.

52

Дабраўся да Цеснавока, аж ён якраз сабраўся выхадзіць, ішоў у Балотную кантору гаварыць з Пераскокам, бо дачуўся, што яго, без яго, хочуць перавесці на працу ў Камунацэнтар, шукаюць яму там пасаду.

Дарогаю ён казаў, што на яго пасаду (перакладчыка) хочуць, здаецца, пасадзіць Буркайлу ці Шаўцовіча і што гэта будзе вельмі дрэнна, бо, па-першае, праца сур'ёзная, а па-другое, — трэба ўсё ж быць паважным прадстаўніком балотных труждэльнікаў.

53

Далей, пакуль ішлі да траму, я хваліў яго, што ён адружыўся, і што дружына яго можа быць добрым яму таварышам у жыцці, і што добра, што ён кінуў піць і нават курыць.

Ён сказаў, што да такой жонкі ён якраз і прыглядаўся.

54

Потым мы развіталіся, сеў я на № 11, які ідзе аж да самага Кмецкага вакзалу, і паехаў.

Нумар гэты праходзіць па ўсім цэнтры Кучкі, і я, едучы, дзівіўся на горад, яго чыстату, шматлюднасць і шум.

Праязджалі Мяцiскае торжышча, потым цераз Галоўную, каля помніка Арапаву, потым Бядулеўку, Глядзельны пляц,

Лыкавы пляц (і тое месца, дзе здарылася няшчасце з ёю), Гавядную і далей[23].

55

Між іншым, ехала нейкая жанчына, белая, маладая і ўжо змучаная, з 4–5-ці гадовым дзіцянём, гэткім самым шэравокім і беленькім, як маці.

Я думаў: дзяўчынка, аж гэта хлопчык. І яна казала, што ўсе лічуць яго за дзяўчынку.

А я сказаў, што і майго хлопчыка таксама часта прымаюць за дзяўчынку.

56

Прыехаў я загадзя, яшчэ паспеў павячэраць. З усяго прэйскуранту выбраў толькі свежыя шчы за 1 рубель.

Дзівіўся, чаму так дарага, аж падалі мне вельмі добры боршч, з вялікім кавалкам смашнага і пажыўнага мяса і асобна ў салатнічку смятаны.

Так што насілу гэта з’еў і другой стравы браць не захацеў.

57

Месца ў вагоне мне трапілася самае апошняе, 40-е, каля вакна, вышняя паліца.

Але як лёг я спаць, як заснуў, дык не чуў, што й сабака начою брахаў, і сварка за гэтага сабаку была, не чуў, што ў цягніку, які ішоў насустрэчу, казалі, чамусьці шкло з вакон пасыпалася на нашы вокны, нічога не чуў.

І як прачнуўся а 8-й раніцы, дык жанчыны, якія ехалі, дзівілі мне і гіранічна пыталіся, ці выспаўся я за 12 гадзін.

58

І ўдзень яшчэ спаў, ато чытаў газеты, ілюстраваныя часопісы і «Юнасць» Рамэна Ралана.

Цікавых спадарожных не было. Жанчыны гэтыя — адна дужа непрыгожая, а другая — нецікавая.

Нецікавая ехала з сынам. Казала, што 40 гадоў жыве на свеце, але не бачыла такога нахала, як той з сабакам.

Нейкая жанчына праходзіла міма і кусліва заўважыла: «А вам 40 гадоў?»

Я маўчаў і ў гутаркі не ўступаў.

А жанчына тая, хоць 40 гадоў, выглядае вельмі молада.

А такая цёмная, што калі мы ехалі Кметчынаю, казала, што гэта мы едзем па Балоту.

59

Пада мною ехаў хлопчык. А на другой вышняй паліцы — нейкі малады чалавек, які ўмее па-кітайску.

Ён быў у Кітаі, дык троху чаго цікавага апавядаў.

Казаў, што забінтоўка ног у кітайскіх жанчын даўно зрабілася такім перажыткам, што хіба толькі ў самых глухіх вёсках яшчэ можна знайсці.

Казаў, што замуж ідуць і цяпер зусім маладзенькія і што вялікая беднасць там і г. д.

60

Белыя мазаныя хаткі з гладкімі саламянымі стрэшкамі пачынаюцца далёка-далёка, ад Наплявава, але там жывуць, як відаць, казлы, а коржыкавыя напісы на станцыях пачынаюцца толькі кіламетраў за сто ад Наплявава.

У Напляваве на вакзале, на вуліцах коржыкавы шчэбет я тым часам не пачуў яшчэ. Але напісы ў горадзе, шыльды, афішы — блізу выключна коржыкавыя, і на прыватных крамах.

61

Паехаў я спярша на аўтобусе, на Саўлаў пляц, у дом Кампанейца.

Там у будачцы, за ваконцам, сядзеў малады чалавек някоржык і размаўляў па-панску, і каля яго, як відаць, яго таварышы — таксама размаўлялі па-панску.

Месц там не было.

Спытаўся адрас будынку святла і пацягнуўся па Арапаўскай вуліцы на завулак Сеўры.

І там месц не знайшлося. Тады я назад, спярша на адным фурмане, да гасцініцы «Эўстэрыя», за 40 к. Там 5 р. нумар, не застаўся.

Тады на другім фурмане, таксама за 40 к., у «Гэткую Кучку». І там не застаўся.

Тады сеў на трам. за 10 к. і прыехаў у гатэль «Хрушч». Далі за 3 р. нумар. (А заўтра будуць, можа, казалі за 1½–2.)

62

І тут усе па-панску гамоняць.

А гасцініца вялізарная. Пакой мой № 80, пасярод калідора, на другім паверсе.

Нікуды не пайшоў, а сеў пісаць гэта.

Тым часам папрасіў зрабіць ванну (1 руб.). І вось памыўся, хоць і не дужа добра, бо вада была халаднаватая.

Перадзеўся і запісваю гэта.

Горад вялізны, чысты, як Кучка. Але і хурманы гаманілі па-панску. У аднаго я спытаўся, ці ўмее коржыкам, — казаў, што не, а родам тутэйшы, малады хлапец. Ціха ўсё, пакой чысты, добры. Кладуся. Дабранач, ж.! Дабранач, дз.!

63

У гэты дзень гром ударыў па Слабадзе, маланка павыбівала вокны ў аднэй хаце, паскакала і выскачыла, а ў другой хаце, насупроць, праз адчыненае вакно ўдарам аглушыла двух чалавек: мужа і жонку. Ляжаць цяпер у больніцы.

64

Яшчэ гісторыя. Стаяў чалавек у чарзе па хлеб. Тры дні стаяў і ўсё хлеба не даставаў, а дома чацвёра дзяцей галодных. Ён з бяды ўкінуўся ў рэчку, але людзі ўбачылі і выратавалі яго. Іншыя кажуць:

— Навошта цягнулі. Памёр, лягчэй бы было, усё роўна паміраць трэба, а ад добрага жыцця ў ваду не кінешся.

65

Геолаг і жонка ездзяць, нічога Альжбэце і Сла не пішуць[24].

Пытаецца Альжбэта, ці не ведаем мы, дзе яны? А ў канцы дадае:

— У нас ужо і денег нету.

Мадам Хлюпка паслала ёй 10 р.

— Дзіўныя людзі гэтыя малодшыя Хлюпкі.

63 А

Як устаў, адразу пайшоў на мескую чыгуначную станцыю. І тут вялікая чарга. Але я выхадзіў у кандытэрскую снедаць.

З’еў кубак сыраквашы (15 к.), дзве булкі (па 10 к.) і выпіў шклянку гарбаты.

Потым узяў білет, але толькі з пляцкартаю сядзець. Дастану, можа, на вакзале пляцкарту ляжаць.

64

Потым пайшоў на пошту, але лістоў яшчэ не было. Паслаў тры кніжкі і дзве запісныя кніжачкі — Г. і Л.[25]

Адтуль пайшоў па месту шукаць рэд. «Гэткага кірунку». Быў у кнігарнях, каб паглядзець адрас, але трапіўся той нумар, дзе адрас якраз не паказаны.

Хадзіў у адно месца, ездзіў у другое, а прыпякала і забалелі ногі.

Нарэшце сказалі мне правільны адрас (Торба, 31), і я прыйшоў у рэдакцыю.

65

Там быў Былка і гаманіў з нейкім аўтарам.

Калі той пайшоў, ён вельмі ласкава распачаў гутарку са мною.

На картачках ён мне не падабаўся, здаваўся нейкім семінарыстам, а сапраўды ў яго дужа інтэлігентны і прыгожы твар. 35 гадоў яму, а каля вушэй сівізна. Нос з невялічкаю ледзь прыкметнаю гарбінкаю, нармальны і пастаўлены гостра ўперад. Шатэн, майго росту. Гаворыць няголасна і мякка.

Балота яму вельмі спадабалася. Шкадаваў ён, што неяк так выйшла, што не трапілі яны ў Пячуркі. Пытаўся пра Гаршэчніка, з якім, казаў, пазнаёміўся ў вагоне. Між іншым, сказаў нешта прыемнае па адрасу «балотнага жаноцтва», а я заўважыў, што, на жаль, ён не пабачыў яшчэ нашага жаноцтва і ў Пячурках.

У баллітаратурных справах разбіраецца зусім добра. Высока ставіць Цеснавока, ніжэй Босага. Хваліў Манастырскага. Аб Слабадскім казаў, што сімпатычнае ўражанне робіць, і што рэч, якую чытаў (мусіць, у Напляваве) — добрая рэч, але наогул твораў яго прачытаць не паспеў і меркаваць аб іх не можа. Пра Шаўцовіча і Валыншчыка казаў так сабе. Аб іншых гутаркі, здаецца, не было.

Аб баллітаратуры казаў, што яна мацнейшая за сучасную абісінскую і за іншыя літаратуры ў сучасным моманце, бо дэманская і стэпанянская літаратуры, казаў, зараз у заняпадзе.

Адзначыў суседства балотнікаў з белабэстыянамі і ўбачыў у гэтым чамусьці пэўны момант у магчымасці для баллітаратуры выйсці на шырокую фіёрдскую дарогу.

Ён едзе з панядзелка ў водпуск, і я не захацеў доўга сядзець, хоць ён некалькі разоў прасіў пасядзець яшчэ, але, мусіць, з далікатнасці. Даў мне 5–6 нумар «Гэткага кірунку», дзе надрукованы мой артыкул. Аб ганарары гаварыць я пасароміўся. Калі не вышлюць з канторы, дык тады напішу.

66

Адтуль, па яго прапазыцыі, я пайшоў у будынак многаглаголанія, дзе пазнаёміўся з сваім цёзкаю Кузьмою Тонкашыем і яго дружынаю. Але пасядзеў трошку, бо ён сказаў, што ўвечары будзе яшчэ той-сёй.

І я паехаў у гатэль «Хрушч», паабедаў за 60 к. + піва бут. 35 к., і лёг спаць. Чытаў «Гэткі кірунак».

Прачнуўся а 8-й ці а палове 9-й, паехаў у будынак многаглаголанія.

67

Там ужо сядзеў, дачуўшыся аба мне, т. Белабэстыянаў, што быў на Пачатку Канца ў Камунацэнтры два гады таму.

З ім яшчэ сядзеў малады і вельмі жартаўлівы гісторык Марат, крытык Краска, а падвёў мяне да іх Тонкашый.

Яны закусвалі і мяне пачаставалі.

Потым падышоў прыезны сябар з Шаканастады, здаецца, Падлаз, ці што. А пазней падышоў сябар Казелец, які раней плюхаўся па Балоту і прызнаўся мне пад вялікі смех усіх, што садраў з мае кампіляцыі на колькі чарак гарэлкі.

Так мы і сядзелі, гаманілі, жартавалі, елі і, на жаль, троху залішне пілі.

З цікавага адзначу, што Казелец чытаў «Цёкі дзеўнасці», але не дачытаў і кінуў, бо нудна. Але ён жа вельмі захоплены вершамі Валыншчыка.

Тонкашый, наадварот, найвышэй ставіць Цеснавока.

Я ім сказаў, што ў «Гэткім кірунку» ёсць рэцэнзія на «Норы-Норкі» з пажаданнем, каб раман быў перакручаны для коржыкаў. Яны рэц. яшчэ не чыталі, нумар толькі што выйшаў, але прыхіліліся да пажадання. Наогул, як я заўважыў, Слабадзкі ім падабаецца.

Ну, і так розныя былі жарты і анекдоты, аб цудзе святога Антонія, аб побыце балотнікаў у Каржох і коржыкаў у Балоце.

Успаміналі Сяргея Рэчыцкага і далі мне адрас с. Будзяка, які з ім жыў. Падарылі мне кніжку Чарэшні[26]. Я гаманіў з Белабэстыянам пра Шакаловіча. Ён глядзіць зусім так, як у Балоце.

Разышліся а 1-й гадзіне, умовіўшыся спаткацца на абед, а 3-й. Краска завёў мяне да самага «Хрушча». Я быў троху азяліўшыся, але трымаўся ўвесь час, як думаю, добра.

Мусіць, адну толькі бястактнасць зрабіў, што хацеў плаціць за сябе, на што Белабэст. сказаў: «У Камунацэнтры будзеце плаціць», а Казелец, комік, прыгадаў, як у Камунац. балотнікі за спробу раз заплаціць за сябе пагразілі, што «паб’юць морду». Наогул, некаторыя з іх у выразах, а ўсе ў жартах і рогаце, не сцясняюцца.

У гэты вечар м-ме Хлюпка памыла дзяцей, вышаравала іх губкаю, «як парасят» (яе параўнанне), і паклала спаць.

Дзень сёння быў ладны, яны і адгулялі яго на дварэ.

68

Устаў я пазнавата і з прыемнасцю, што азяленне і аб’ядзенне зусім мінулася.

Запакаваў «Гэткі кірунак» і кніжкі Чарэшні і паспяшаўся на пошту. Аж радасць: атрымаў ліст, хоць і не дужа вясёлы, але спакойны.

69

Потым, ішоўшы па вуліцы, забрыў у касцёл Ліка, у цэнтры.

На абразох прыгожыя тканіны, вышытыя коржыкамі, і напісы вышыты: «Пане, хавай нашы Коржыкі!» і інш.

Пяялі штось прыгожае: «Почуй, мене, Пане!»

Потым выйшаў сябар [нрзб] чорны чалавек, і нязвычайна добра, вучоным коржыкавым голасам сказаў, каб пасля адправы засталіся на лямант аб здароўі хворага архіайца і на прычыт па нябожчыку айцу Яноўскім, што нядаўна памёр, паехаўшы на новую службу.

І тут у іх коржыкоўе. Усе хорам адказалі таму чорнаму: «Дзякуй».

70

Цяпер я заехаў у парк вялізны, але яшчэ малады, і пішу гэта.

Чуецца і тут голас коржыкаў, але шмат гавораць па-панску.

Цікава, што шмат жанчын-бландзінак, — чаму гэта?

Народ усё даволі рослы, здаровы, стройны.

71

Прыйшоў у будынак многаглаголанія імя айцоў базыліянаў васільковых а палове трэцяй гадзіны, хацеў пабачыць артыкулы Сяргея Рэчыцы ў газ. «Ветравыя коржыкі».

Але бібліятэка кніжніка была зачынена, пакой загадчыка, с. Тонкашыя, таксама быў зачынены, і я пайшоў у страўню, яна змяшчаецца ў ніжнім паверсе.

Яшчэ нікога з знаёмых не было. Я сеў абедаць. З'еў зупу з картоплі і катлеты. Абед дужа смашны і пажыўны. Заплаціў 1 р. 15 к.

Да стала, дзе я сядзеў, падышлі абедаць два маладыя хлапцы. Яны гаманілі коржыкамі. А спісаны стравы замежнымі назвамі і па-панску, таксама прыслугачыя гаманілі па-панску, і іншыя сталаўнікі, чуў, размаўляюць па-панску.

Пакой-страўня прыгожа прыбраны ў коржыкавым стылю. На сцяне вісіць малюнак мастака Дзікага Яблычка: партрэт яго жонкі, як сказаў мне адзін з тых хлопцаў. І нейкія невялікія малюнкі, мусіць, з старадаўнага ці сучаснага вайсковага жыцця коржыкаў. На парт'ерах рысункі ў коржыкавым народным дусе (падобна да ўзораў на мажарскіх паясох ці на коржыкавых рушнікох).

72

Зараз прыйшоў с. Казелец, а потым і Тонкашый. Потым падышоў і с. Іоган Навізіф (якога я ўчора няправільна назваў, а сёння быў яго артыкул у газеце, і я пішу правільна). Аказваецца, ён едзе пасланцом з Шынакадасты[27] на вяселле Сусвету. Я прасіў яго, каб ён сказаў на вяселлі, што трэба паслаць на той свет балотніка. Ён запісаў у кніжачку. Пасля, у садку, гаманілі з ім троху аб тым баку Балота. Ён справы ведае.

Потым падышоў на абед жартаўлівы гісторык Марат (Наброг) і яшчэ адзін с. Лікос.

Усе яны абедалі, а я сядзеў, курыў і чытаў нармандскую газету. Там было напісана аб прыездзе нашых балотнікаў і аб тым, што казаў аб жыцці з таго боку балота Лізагуб.

Далей я пайшоў з с. Тонкашыем у яго пакой і перагледзілі рочнікі «Коржыкавай халупкі». Я выпісаў, што знайшлі з твораў і жыцця С. Рэчыцы.

Калі ўсе сабраліся ў садку, с. Казелец нас змаляваў. Адзін малюнак быў без жонкі с. Тонкашыя, а другі без с. Казельца, бо яны цягнулі за вяровачку. Потым с. Казелец змаляваў мяне аднаго.

73

На вакзал мяне праваджалі, півам там частавалі і рукамі й шапкамі махалі, калі цягнік адходзіў, с. с. Казелец, Наброг і Лікос.

Даволі хутка ўдалося мне ўзяць пляцкарту ляжаць.

У «Хрушчы», на жаль, заплаціў шмат: за два дні, з ваннаю і з 15 % нейкім зборам — 8 руб. з капейкамі.

74

Ехалі ў нашым аддзяленні да Закамення: якаясь картавая дзяўчушка з Кучкі, немец — выкладчык ідэалогіі ў белабэстыяльным доме выхавання выхавацеляў і земляблытанік-коржык, што мае голас коржыка толькі з-пад кія, на службе.

Былі гутаркі аб Белабэстыніі, многаглаголаніі (гэтая дзяўчушка вучылася ў Кучцы і шмат бачыла жывых многаглагольцаў), коржыках і г. д.

Дзяўчушка і белабэстыянін былі самаўпэўненыя і абмежаваныя да глупасці, а земляблытанік — не сімпатычны, і я пакінуў іх размову, папрасіў у белабэст. вышнюю паліцу замест свае ніжняе і лёг спаць.

Заснуў хутка, і памятаю толькі, што кніжка звалілася ў мяне з рук на падлогу і яе паднімала тая дзяўчушка і гаманілі яны ў той час пра земляздрыгі. Яна пажартавала, што і ў мяне з кніжкаю земляздрыг. Але я нічога не адказаў і толькі скрозь сон думаў, каб заснуўшы не гукнуць непрыстойна ці не зрабіць ціхага выхаду газаў.

І доктар у Кучцы, мацаючы мне бруха, угадаў, што мяне часам апаноўваюць газы. Выбачайце за нізкі стыль. Чую, што душа ў мяне робіцца, аднак, лепшаю, здаравейшаю.

Дачытаў сёння, уважна чытаючы, «Жыццё ў цвеце» А. Франса.

75

Ноч?

Калі яны сышлі, не чуў, бо спаў. Цяпер пасажыры ўсё мяняюцца.

Спярша была роўная, нецікавая стэпавая прастора.

Ад Галоўнага [нрзб] ужо горы. Горача. Напісы на станцыях па-панску і па-шахметаўску. На станцыях і ў вагонах пракідаюцца ўжо шахмецікі і іх голас. «Але, пэўна, ніякава яшчэ чуюць яны сябе ў гэтых кутках, мы — дужэйшыя», — думаў Кузьма Мышка.

Едзе нейкая бабуля, якую водзіць за спіну дзяўчына. Маці носіць хлопчыка гадоў 8–9 з крывою ножкаю.

Стаяць у пасёлках, як зялёныя свечкі, дрэвы высокія, а ніжэй — усякія наскія кусты. Хаткі пад чырвонымі дахамі. Беднае збожжа. Але гаралі ў адным месцы трактарам. Косяць. Культуры, аднак, здаецца, — мала.

Цяпер 3.20 дня. А 4-й будзем у Пачатку Распаду (Сын Гаршэчніка і Буржэ).

76

***25 пчал.***[28]

У С.-Буржэ прыехалі 4.20 у дзень.

Зараз, каля вакзальнага ганку, селі ў аўтобус Туткурсо і ў палове 5-й паехалі ў Кіпарысы. За праезд бяруць з чалавека 6 рублёў. Ехала нас чалавек 15. Нікога знаёмых.

Мясцовасць незвычайна прыгожая, асабліва за Брамаю Міцкевіча (Даштайстадары, Баядзерка). У Браме паўгадзіны прыпынка. Я з’еў абед за 75 к.

Бажніца на стаяку, стаяк над бяздоннем… Выехалі — сінь, гладзь, да Кіпарысаў… Санеты. Свяціла. «Смутно мі, Божэ!»

Недалёка за Брамаю зламілася вось у аўтамабілі. Ізноў з ½ гадзіны стаялі.

77

*25-га пчалінца*

Прыехалі ў Кіпарысы — агні ўжо гарэлі, а 9-й з хвілінамі, у Тут. Адст. — Кантор.

Тут якіясь абісінцы ці шахметы прапанавалі гатэль, завялі ў «Кучку». Але там прасілі за нумар 2 р. Я не спыніўся, не спадабалася.

Павялі ў другую. На вуліцы перахапіў мяне камісіянер і завёў у прыватны дом, за 1 р. у суткі. Камунальная, 16, І. Т. Бодня.

Але тут шумна на вуліцы. Я рана прачнуўся, а 6-й, кусаліся мухі і нечым пахла, — можа, ад язміну.

78

«У Пячурках дажджы і дажджы, штодня. Троху сонца выгляне, зноў бягуць хмары і ліюць ваду на зямлю» (М-ме Хлюпка).

79

Устаўшы і пачаўшы пісаць, але не кончыўшы, пайшоў у кантору Туткурсо, каб запісацца на цяганіну.

Там дзяжурыў змучаны чалавек з доўгімі чорнымі валасамі і ў белай лямцавай шапцы. Мы разгаварыліся, і ён аказаўся балотнік, прыхільны да балотніны і ўмее коржыкам і троху балотцам, з Бадэн-Бадэну, с. Мельнікаў, здаецца.

Ён — былы начальнік саматужнага загону, з якім хадзіў у раёне Дунайчыка — Бадэн-Бадэна — Вілашніка. Умовіліся, што ён шмат чаго будзе мне апавядаць аб загоншчыне, а я запішу.

Ён даў мне чычэроне, і той павёў мяне паказваць лецішчы, супольскія і індывідуальскія, хоць не было яшчэ і 8-й гадзіны.

На вуліцах ад рамонтаў — пыл, бруд, грук, і наогул неахайнасць.

Завёў у некалькі прыватных гармонікаў і ў супольскі, мескі гармонік «Гэткі Золак». Нідзе мне не спадабалася.

У «Гэткім Золку» бяруць у дзень 5 руб. Загадчык па часці набівання лантухоў нейкі сівавусы чалавек з паноў, з чырвоным вокам. Яго памоцніца ці жонка — з адным зусім заплюшчаным вокам. А камендант, калі прыйшоў, пачаў казаць мне чамусьці

«ты». Потым, калі я зрабіў увагу, ён папрасіў выбачэння, сказаў, што «забыўся». (Значыцца выгляд у мяне — авечы…)

80

Вярнуўся я назад, але Мельнікава ўжо не было.

Тады я пайшоў у Гуляцкую Кантору. Там сказалі, што на кароткі тэрмін у дамы гуляцтва не бяруць.

І я надумаўся ехаць у Фуз-Ружэ, на лецішча Сун-Рюуб, дзе дом гуляцтва баламутаў-коржыкаў.

* * *

Тады яшчэ мой гаспадар звадзіў мяне ў два індывідуальскія гуляцтвы. Там і не дорага, 3–3.50 у дзень за ўсё. Гэта на Кучкінскай вуліцы, ля самае сіні.

Але хатні быт іх быў мне не дужа да спадобы, хоць і буржуазна-мяшчанскі быт. (Значыцца, я йшчэ не зусім пратух ці загніў.)

81

Напіўся я ў кавярні гарбаты (45 к.), схадзіў пагаліўся.

Галяр хацеў садраць з мяне 40 к., бо бачыў, што я прыезджы. Праўда, не толькі галіў, а й шыю падчысціў, і мяцёлачкаю пудру з плеч змятаў, ласкава пытаўся, дзе я спыніўся.

Аднак жа, я сказаў яму, што бяруць і тут за галенне 20 к., а што ён мяне падчысціў, дык я даю яму не 20, а 30 к. Ён засмяяўся, брадзяга…

82

Узяў я білет (75 к.) і ў палове першае гадзіны паехаў на параходзе-катэру ў Фуз-Ружэ (гадзіна язды ад Кіпарысаў).

Публікі было мала. Берагі прыгожыя, хоць і мала культурныя. А сінь незвычайна прыгожая, аквамарынавая, і я ўспамінаў верш Максіма, «сінюю бухту».

Доўга ўздумваў, як жа гэта ў яго сказана, і нарэшце надумаўся, што так:

> У белым доме, дзе я ўміраю,
> У белым доме, ля сіняй бухты,

Я — не самотны, я — кніжку маю
З друкарні пана Марціна Кухты[29].

Здаецца, не зусім так. У яго неяк лепей. Божа мой, усё ж, як, пэўна, сумаваў ён, паміраючы. І ніякая зязюля шэрая не закукуе яму сумным гукам у бары…

83

Па вуліцах шлындае шмат усякага народу, шмат тут і такіх, як Калюжны, Міла, а шмат і такіх «чычэроне», як мой гаспадар, былы швейцар у аднэй кіпарыскай гасцініцы, і яго таварыш па няшчасцю, былы паштавік, што ловяць прыезджых, каб зарваць якую капейку. А на рынку — шум, гвалт, чарга па хлеб…

84

Між іншым, спаткаў тут на вуліцы с. С. Я. Гейчыка, таго, другога, несімпатычнага. Аказваецца, ён жыве тут у брата, брат тут служыць. Жаліўся, што дрэнна паправіўся…

85

Як пішу, у адчыненыя дзверы на балкон бачу прыстань і чую мацерны крык хлопчыка: спусціўшыся з памосту па драбінках, два хлопцы ў белым трымаюць яго за ногі, робячы замер упусціць яго галавою ў ваду, а ён крычыць. Пусцілі, адбегся, смяецца, а яны цяпер другога так. І рагочуць!

Выбачайце за гэтае лірычнае адступленне…

86

Між іншым, каб не забыцца: той таварыш майго гаспадара ў Кіпарысах (Такарэнко, здаецца), калі я пачаў казаць, што хачу схадзіць на могілку, адразу сказаў:

— А, ведаю! Там помнік з дзікага каменя і па-напоўказельску напісана, вершы нейкія, што нешта аджылося ці ўзышло…

Тры разы папраўляў я яго, што па-балотнаму гэта напісана, а ён усё памыляўся. А могілку добра ведае!

87

І плылі мы па дзіўнай сіні, — сіняй, вольнай, светлай. Як лёгка, як добра, як прыемна!

Бабуля павінна была выйсці ў Нупраёнкаў сад. Там пад’язджае човен ад парахода да катэра, і яна казала мне, што хоць і ведае, што ніякае небяспекі няма, але мімаволі баіцца, бо, кажа, нервы ў яе і ўспаміны, што даўно-даўно ехала так па мору ў чоўне пад час шторму, і хвалі пералятаті цераз човен, дык з таго часу баіцца ездзіць. Казала, што яна ўмее плаваць, а дачка яе, з якою тады, маленькаю, ехала, не ўмее, дык і цяпер, едучы з гэтаю дачкою, мае думкі, як у «дурной бабы». Казала:

— Схаплю хоць зубамі за касу, буду сама плыць і яе, хоць мёртвую, выцягну.

Сімпатычная бабулька.

88

Яна ж казала мне, калі на моры, водаль, вынырала штосьці чорнае з вушмі, што гэта — морскія свінні (дэльфіны?), што ёсць вялікія, але не больш за 6 пудоў, і што яны голыя, мяса ж у іх салодкае, і гэтае брыдкое салодкае мяса яна ела ў цяжкія гады. А цяпер іх ловяць толькі на лякарства.

89

Ехалі тры дзяўчынкі, што размаўлялі па-шахмецку, гадоў па 7–10, у чырвоных гальштуках, піянеркі, а па-панску яны не ўмеюць.

90

На краявідзе бела-чорныя чаіцы махалі крыламі, лунаючы над вадою.

Стаялі два-тры паруснікі, далёка!

91

Шкода, што хутка прыехалі ў Руг-Фужэ.

Катэр зараўеў.

З правага боку — Бакачыо, скаліна, з прыкметнымі руінамі старадаўнага муру. Кажуць, гэта — рэшткі калішняе бокачыоўскае цытадэлі. Падзівіўся я арлам Бакачыо.

Невялічкае мястэчка, прыгожае, усё ў зеляніне: стройныя кіпарысы, шырэйшыя тувы, нейкія кусты, і падобныя да яблынь у цвеце магноліі ў красках, як вялікія краскі латаці.

Менш шуму, пылу і гаму. Мала людзей.

92

Доўга не хадзіў. Пазваніў па тэлефону ў Сун-Рюуб, бо ён на гарэ, і за лінейку прасілі 1 р.

На жаль, там поўна, няма ніводнага ложка, дык я спыніўся ў пансіёне ля самае прыстані, — гэта добрае чыстае лецішча, у арэндзе, ад супольства, а належала раней маляўніку Каро.

За паўганей адгэтуль, пад Бокачыю, другі ад краю, ад каменя — домік, мізэрная хібарка — домік Славака. І вуліца завецца — вуліца Славака (Жартліцкага).

Цяпер тут жыве яго пляменнік, скамарох Рэпінг, з жонкаю, а хутка прыедзе, казалі, жонка Славака, прыстаўлянніца Рэпінг[30].

Дакляравалі мне яшчэ паказаць платан ці кіпарыс, што пасадзіў Нікшуп.

93

За ўсё ў пансіёне 4 р. у дзень. Я сказаў, што пабуду дзён пяць, але заўтра хачу ўжо ехаць у Кіпарысы.

Сямейныя, з дзяцьмі, абедаюць па сваіх пакоях, а іншыя ў агульнай страўні.

Пайшоў абедаць. Некалькі жанчын (але ніводнай цікавай!) і адзін мужчына. Зараз запыталіся ў мяне, адкуль і ці не доктар, бо гэты адзін быў доктар.

І аказалася, што адна, настаўніца, ведае аб Пячурках, бо туды раіў ёй ехаць праф. Свішч (а якая ж морда ў яе, крый ты Божа!).

Другая запыталася, ці там яшчэ Ходар і Таленты («хотели выехать из-за ламака»). Гэтая тут найболей сімпатычная, толькі, мусіць, хваравітая.

Трэцяя, маладзейшая, пыталася пра Ёзку Евінага Мужа і казала, што жонка яго — «редкая женщина».

А доктар зараз папрасіў перадаць вітанне доктару Кадзінскаму, бо сам быў загадчыкам аддзелу здароўя ў Кміце. Між іншым, ведае Перальмана, якога ён і залучыў у Пячуркі. І вельмі хваліў прыроду ў Кміце і Пячурках, казаў:

— Ніколі б адтуль не выехаў, каб не ламака.

Дык вось, здаецца, адразу знайшоў я сваіх людзей, але — ламака…

Я мусіў падаць дзве-тры такіх рэплікі, што яны мусілі ўзяць іншы тон, бо, бачыце, доктар яшчэ не спатыкаў «настоящих» балотнікаў, я першы.

94

Па абедзе хадзіў я ў горы, на возера, адкуль Фуз-Ружэ п'е ваду.

Але гэта не возера, а зусім наскае балота, з чаротам, і жабы кумкаюць, як у нас улетку, і, пэўна, здохлыя кошкі ці сабакі ў ім ёсць, бо хлопцы ракаў тут лавілі.

95

Увечары я зараз лёг спаць, без святла, каб не наляцелі маскіты. І купіў шкіпінару, намачыў кончык рушніка, так мне параілі.

Спаў пры адчыненых дзвярох на балкон.

Пад раніцу, пасля цяжкога снення, пакрыўся пальтом — і заснуў смачней.

Безупынна і раўнамерна шухала ціхая, але шырокая хваля на бераг…

Снілася мне, што Кааператара ўжо няма, а Гандляр у П'янаве ці што неяк пагінуў. Палянкаўскі сват, Кухар з гора п'яны, мая думка: «Як жа мы гэта дапусцілі? Вось ужо няма Марынкі, і Кааператара, і Гандляра…»

Але я ўспомніў, што ў Добрых вестках, здаецца, я сніў, што Матуля памёр. Падумаўшы так і закурыўшы, я супакоіўся і заснуў добра.

96

Прыходзіла пралля, я адмовіўся ўжо, бо тады ж, пасля сну, надумаўся ехаць заўтра ж у Кіпарысы, што ў гэтым пансіёне невыгодна, у Кіпарысах буду плаціць толькі за пакой, а абедаць у страўнях, так выгадней.

Лістоў у Кіпарысах яшчэ не было. Перад ваконцам «да затрэбавання» — чарга, як па хлеб. Тэлеграму паслаў учора па абедзе, а сёння перад абедам атрымаў, і так жа быў рад!

Хочацца мне хутчэй да парасткаў, да вачэй, вуснаў і ложка, і да свае працы, якую перапыніў.

Працу гэтую ўсё больш люблю, усё больш цаню і ўвесь бліжэйшы час хачу аддаць ёй. Аб усім гэтым думаю з любасцю, якой даўно не меў у такім прыемным адчуванні. Здаецца, я ізноў знаходжу самога сябе.

97

Сёння, паснедаўшы, хадзіў на пляж, заблудзіў быў да доміка Славака і ўспамінаў лірызм яго апавяданняў, мусіў вярнуцца, абысці скаліну, прайсці праз парк ці сад, і тады знайшоў пляж.

З якой прыемнасцю паляжаў голы на сонейку, патрымаў гарачы камень на жываце і пакупаўся ў летнай, прыемнай, як само здароўе, вадзе.

Але казалі, каб першы раз не злоўжываў, бо зашкодзіць.

98

Потым пайшоў да шаўца, і сядзеў у яго, пакуль ён ладзіў мне боты.

Жаліўся ён на сёлетні год, мала заробкаў, чарга па хлеб, частаваў мяне сваёю табакаю, незвычайна добраю, і шмат апавядаў.

Ён — шахмет, высокі, прыгожы. Быў на вайне, даволі развіты. Першая жонка была ў яго з коржыкаў, мелі дзіця, памёрла, разышліся «па глупасці».

Цяпер жанат другі раз, хлопчык тут яго бегаў, жонка цяпер, казаў, шахметка, але каханне, мусіць, меншае.

Казаў, што надоечы ён хадзіў за колькі кілометраў у мястэчка па хлеб, пёр на сабе паўпуда па такой жарышчы…

— І каб жонка яшчэ мною камандавала!

Узяў у мяне ўсяго 1 р. 50 к.

Казаў мне пра даўнейшых курасаднікаў. Аб іншых яго апавяданнях — пасля!

* * *

Плаваюць у чаўнах па мору піянеры ў белым і пяюць дружную песню, вясёлыя, жывыя.

99

*Чацвер, 28 пчал.*

Меўся выехаць з Фуз-Гужэ ў Кіпарысы сёння, але застаўся да заўтрага, бо сёння не ходзіць катэр, дзень адпачынку. І гаспадыня сказала, што ўжо абед на мяне пачалі варыць.

Учора, паслаўшы ліст (у двух канвертах), нейкі час ляжаў на сонейку, на балконе, потым пайшоў на пляж, што за скалiною Бокачыю.

Ісці трэба туды праз троху запушчаны парк, што на пакаце гары. З гары я ўбачыў, што на пляжы нікога ўжо няма, позна, толькі чалавек купае каня, якраз там, дзе купацца жанчынам.

Я пахадзіў па ціхім парку. Тут прыгожая алейка з кіпарысаў. Кіпарысы — высокія, зялёныя дрэўцы з густою і цыліндрычнаю (кацелаю?) хвойнаю кронаю, быццам вялікія шчоткі, што чысціць лямпавае шкло.

Гэтае параўнанне не такое паэтычнае, як калі назваць іх свечкамі, што кадзяць у неба фіміям. Але затое яно больш дакладнае.

Што я заўважыў: няма тут таго вяселля і радасці ад птушак, як у нашых лясох, хоць верабейкі ёсць і тут. Пэўна, з тэй прычыны, што ўсё тут разморанае і знясіленае ад паўднёвага сонца. Дый спажыва птушкам тут, мусіць, невялікая. Сеюць тут толькі табаку і вінаград. Збожжа не сеюць.

100

Між іншым, учора той шавец казаў мне, якая гэта цяжкая тут праца — табакаводства. Устаюць людзі а 3-й гадзіне раніцы і ўсё робяць рукамі.

Але, па-мойму, шавец сам троху гультай. Майстар ён добры, а робіць дужа памалу, не спяшаючыся.

І на вуліцах сядзяць мужчыны на кукярэчках ля сценак, у халадку.

Жанчыны іхныя — худыя, непрыгожыя, бедныя. Дзеці таксама.

101

І сёння за сняданнем я чуў, як адзін куратка апавядаў, што гаманіў ён з адным садоўнікам, які пражыў тут трыццаць гадоў.

Дык той казаў яму, што слабагрудыя тут хутка папраўляюцца, але здароваму тут жыць цяжка, што нібыта ў Фуз-Гурэ няма ніводнае здаровае жанчыны-жыхаркі.

102

Увечары ўчора, павячэраўшы, некаторыя нашы куралеснікі пайшлі на вечар самадзейнасці. Запрашалі і мяне, але я думаў, што там трэба браць дарагія білеты, і адмовіўся.

Пасядзеў адзін на пляцыку, потым пайшоў, — аказваецца, там гэта ўсё дарма і на адчыненай сцэне, на вольным паветры.

Вечар ладзілі камандзіры. Тут іх прыпынак на ўсю Прастору, і шмат іх ходзіць тут у белых штанох і белых кашулях.

Агульны тон вечара і праграмы — даволі нізкі па стылю, паваяцку прымітыўны. Ну, было некалькі цікавых нумароў, калі камандзіры хорам пяялі розныя песні на тутэйшы «крык дню»: што ім мала даюць есці, што ўвечары пасля званка зачыняюць дзверы, што нудна, што нецікавыя дамы, што небяспечна ад аліментаў і г. д.

Публікі было не шмат, бо ў Фуз-Ружэ яе наогул мала.

Адна аматарка, міласэрная сястрыца, скакала: выбрыквала «баярышню», «сербіянку», потым, у сялянскім касцюме, у партыі з камандзірам, што быў у псеўдасялянскай вопратцы, паказвала скокі і любоў сялян Цэнтральнае Прасторы.

Каб у нас, у Балоце, паказвалі так сялян, дык артыстаў гэтых бы, мусіць, сцягнулі б са сцэны, а тут гэта быў баявы нумар, падабалася біццё далонню па спіне, калупанне ў носе, смарканне ў пальцы і г. д.

Адзін нумар быў — сатыра на тое, што ў курзале тут можна пачуць яшчэ слова «панове». Ці праўдападобна гэта? А гэта быў адзіны нумар, блізкі, т. ск. да сучаснасці па сваёй ідэалогіі.

### 103

Спаў нішто, хоць нешта, вось ужо колькі дзён, прачынаюся прыблізна а 5-й гадзіне. І ўстаў у дрэнным настроі.

Хваля шумела — як дзень, так ноч. Яна нагадвае шум ад паласкання ў вадзе шырокіх палотнаў: шалохае і шалохае.

Уранні, паснедаўшы, хадзіў на пляж. Паляжаў на сонейку, падстаўляючы розныя бакі, хвілін 10 і ў вадзе пабыў хвілін пяць. Болей, кажуць, шкодна першыя разы. Вада сёння была сцюдзянейшая, але прыемная. А смак яе горка-саланаваты. Колер — сіні, сіні.

Потым, пагаварыўшы з гаспадыняю і застаўшыся да заўтра, я лёг на балконе на сонца і троху заснуў, закрыўшы галаву газетаю. Потым перабег у пакой.

### 104

Перад абедам пагаліўся, заплаціў 30 к.

З’явілася ў нашым пансіёне, «з мае лёгкае рукі», шмат новых курацёпаў. Хто яны — хто іх ведае, але цікавых ці сімпатычных няма.

Трымаюцца з вымушанаю ласкавасцю і наогул не падабаюцца мне. Я ведаю, што сяляне ці рабочыя (хоць рабочых я ведаю менш) трымаюцца, сабраныя ў кучку, куды больш натуральна і добра.

І я нават думаю, што ў гэтае аблезлае інтэлігенцыі нашага часу запраўды мала людскасці і інтэлігентнасці (аблезла яна, калі была калісьці). Ці, можа, мая ўласная інтэлігентнасць якаясь «шыварат-навыварат», і таму я ўсё бачу не так, як трэба.

105

А 6-й гадзіне пайду з іншымі ў Гэй-Гуржэ.

Пойдзе той доктар.

Ён ужо казаў, што будзе зноў пераваздзіцца ў балота, у Кепска. У яго хворыя почкі, а яшчэ малады зусім.

Настаўніца (тая, што «морда, прасці госпадзі») усё дзівіцца, чаму балотнікі і коржыкі не хочуць быць казламі.

Доктар сказаў мне «камплімент», што наехала шмат новых, але толькі адзін я дзеля кампаніі надаюся. «Кат сімпатызуе сваёй ахвяры».

А яна, здаецца, не пойдзе, чаму рад і я і доктар, бо яна страшэнна дакучыла яму сваімі паводзінамі.

Пойдзе муляжыстка (гэта, што робіць з пап’е-машэ чалавека і розныя падобныя рэчы). Яна — вусатая, вусы як у с. Гаршэчніка, калі ён доўга іх не голіць. Але яна найбольш тут бойкая і, аднак жа, не дакучлівая.

106

А тая, што пыталася ў мяне пра Ёзку Евіна Мужа, аказваецца, была ў Англіі, яе муж, кампанеец, быў там нечым у прадстаўніцтве Прасторы.

Яна **ўчора** расстроілася: гуляла з камандзірамі ў тэніс, і выйшла спрэчка, адзін («грубіян, хам») сказаў на яе таварышку: «наглая баба», і штось там яшчэ было.

Тут усё больш жывуць мужы і жонкі або мужы ў казённых пансіёнах, а жонкі ці жонкі і дзеці — у прыватных.

107

Чую сябе добра. Стараюся час ад часу падыхаць глыбей, каб расправіліся грудзі, бо я думаю, што ў сваім сідзячым жыцці, пішучы, я не дыхаю поўнымі грудзьмі, і толькі ў гэтым уся мая загана ў грудзёх. А так — я здароў.

Доктар гэты — таксама хірург, спец па апендыцыту.

108

Пайшлі ў Гэй толькі ўтраіх: доктар, вусатая муляжыстка і я. Як збіраліся шмат хто, дык аказаліся на ўмоўленым месцы толькі трое.

У Гэй-Гуржэ пілі віно «Алікант». І вылецела ў мяне ні з тога, ні з сёга 1 рубель грошы.

Апрача таго, не падабалася мне, што і доктар і муляжыстка казалі шахмету ў будцы, сімпатычнаму і жартаўліваму чорнасіваму, шчаціністаму, спаленаму сонцам дзядзьку, «ты».

Па дарозе бачыў, як шахметы, бацька з хлопчыкам, абкапвалі табаку, выбіралі каменне. Цяжкая праца земляроба. І хоць бы ж над чым добрым, ато над табакаю. Абрыдла мне курэнне.

Па дарозе ж доктар апавядаў шмат гісторый з свае практыкі. Ён казаў, што жудасныя рэчы трапляецца бачыць доктарухірургу.

109

А ўвечары, калі сядзелі на пляцыку перад пансіёнам, гутарка збілася на антысемітызм.

Старая настаўніца, таварышка муляжысткі, заўважыла мне, што я лішне выдзяляю Балота, перайшло на інтэрнацыяналізм, на сялянства, і г. д. і г. д., — нарэшце, антысемітызм.

Доктар паспрачаўся з гэтаю настаўніцаю. Зараз яна пайшла, а потым пайшла і муляжыстка.

І ён апавядаў мне аб страшэннай пашыранасці антысемітызму ў Пальміры і Кучцы, хацеў давесці мне, што антысемітызм ёсць і ў Балоце, у Кміце.

Ён прапаведваў асіміляцыю, як ратунак ад антысемітызму!.. Я быў проста здзіўлены тэй балючасцю, з якою ён усё гэта перажывае і ўспрымае. Але ўсяго не апішаш, а злашча што гутарка была даволі беспарадачная.

110

Ён апавядаў, што быў курортным доктарам у Туг [нрзб]. Лячылася там дужа вучоная, высокаінтэлігентная жанчына, педагог, ведала шмат моў.

Ён яе лячыў, і яна, у падзяку, запрапанавала яму ехаць у Пальміру, што яна там выведзе яго на дарогу.

І ён наймаў у Пальміры, у яе кватэры пакой. Спярша ішло ўсё добра, у яе два вучоныя сыны, і тыя спачатку не заўважалі, што ён — яўрэй.

Але месяцы праз тры ён збег ад іх, бо неяк пачалася за сталом гутарка аб антысемітызме, перайшла ў жорсткую спрэчку, ён пачуў здзек над сабою, яна пачала казаць яму, што ў яго яўрэйскае выхаванне, — і ён збег.

111

Другі выпадак.

У часе яго дзяжурства прывозіць хуткая дапамога маладую і незвычайна прыгожую жанчыну. Яна выкінулася з трэцяга паверху пасля сваркі з мужам, бо муж набраўся венерычнае хваробы і быў пэўны, што толькі ад яе мог набрацца. Яна раздрабіла косці правага пляча. Убачыўшы гэтага доктара, яна пачала крычэць:

— А, жыд! Усюды жыды, жыды! Ну, мучайце, рэжце!

Ужо без сувязі з антысемітызмам, я спытаўся, які быў канец гэтае жудаснае гісторыі. І ён казаў, што муж яе кінуўся яму ў калідоры пад ногі, прасіў, маліў ратаваць. Спярша доктар сказаў, што трэба адрэзаць руку, але потым выклікаў галоўнага хірурга, і пастанавілі скласці косці і загіпсаваць.

На другі дзень праз асвятленне рэнтгенам убачылі, што сышліся косці добра і рука можаць застацца. Між іншым, яна хацела цалаваць доктару ў руку, прасіла выбачэння, што лаяла яго ў непрытомнасці. Ён сказаў, што не гневаецца, і ў знак таго, што гэта так, будзе прыхадзіць да яе два разы на дзень, хоць яна і не ў яго аддзяленні.

Прыйшоў на другі дзень, раніцою ў нядзелю, глядзіць, а яна ўжо… памёрла. Аказваецца, пры ўсякіх такіх выпадках, па закону, трэба рабіць прышчэпку ад стаўбняка, а яны не зрабілі, бо рука была ў блюзцы і наогул у адзенні. Але ж неяк трапіла ў рану зямля ці пыл, і яна памёрла ад стаўбняка.

Але ён казаў неяк няпэўна, што можа быць — і ад заражэння крыві.

## 113

*(Ноч мінулася) 29 пчал.*

Паглядаю на мора, зараз (аб 11-й г. дня) прыйдзе параход, і я паеду ў Кіпарысы.

Начаваў тут тры начы. Заплаціў за трое сутак 13 р. (4 р. у дзень — пансіён, 1 р. — бялізна пасцельная). Мала застаецца грошы.

З нецярплівасцю думаю, што сёння атрымаю ў Кіпарысах лісты і што там пісана.

Чуюся добра. Толькі ўчора на вячэру далі дужа тлустае вятчыны, дык начою быў цяжкі жывот і дрэнныя сненні.

Але выпіў сёння за сняданнем кавы, потым схадзіў пакупаўся, паляжаў 10 хв. на сонейку і чуюся нішто сабе.

Парахода нешта няма. Пайду даведаюся дакладна, калі ён прыходзіць…

## 114

Не паспеў я выйсці, як убачыў на далёкай сіні мора параход. Паспеў яшчэ аправіцца, схапіў рэчы і пайшоў. Мімаходам крыкнуў доктару:

— Бывайце здаровы! Папраўляйцеся!

А ён мне:

— Auf wider sein![31]

І я яму:

— Ауфвідэрзайн!

І за руку не развітаўся: усё ж ён вораг балотнасці.

## 115

На параходзе гэтым разам публікі было больш. Пятніца — мусульманскае свята, ехалі сяляне — шахметы.

Калі ў аднае падарожніцы высыпаліся белыя круглыя аблатачкі (я не ведаў, што гэта — цукеркі) і яна адну падняла і кінула ў мора, старая сялянка па-шахмецку злаяла яе, што лепей бы дзяцём аддала.

Мне пераклаў шахмет-настаўнік. А дзеці глядзелі пад лавамі і, знайшоўшы, прагавіта елі гэтыя аблатачкі. Потым яны селі на палубе і гулялі, кідаючы нейкія палачкі-пруцінкі. Адна дзяўчынка і адзін хлопчык былі нямыя.

Шахметкі — непрыгожыя.

Бацька-шахмет, селянін, быў у суконнай зношанай рыжай пары.

Мой сусед (яшчэ адзін шахмет з Фуз-Гужэ) казаў, што ў гэтага селяніна 10 дзяцей (і гэтыя нямыя — яго) і што цяпер робяць яму крыўду абрэзкаю зямлі. Шмат трэба пакласці працы, каб на камяністай гары зрабіць поле, а цяпер абразаюць.

Тут шахметы кажуць «нэма», і ад рабочых часта можна пачуць гэтую мову.

116

Прыехаўшы ў Кіпарысы, я спыніўся ў «Мендзынародувцы», 1½ рубля за нумар, але нумар не праветрываецца, і выходзячы я мусіў зачыніць вакно, бо яно выходзіць на агульную веранду побач са сходамі: украсці што — можна мімаходам.

І пайшоў я шукаць могілку.

117

*30 пчалінца*

Не ведаў добра, на якім могільніку, а потым троху зблудзіў. А трэба туды ісці па вуліцы й Акцуа. Могільнік завецца — Брацкі.

Мясцовасць прыгожая, але могільнік вялікі, бедны, недагледжаны.

Знайшоў могілку не адразу.

Яна ў бліжэйшай да горада часці, на паўночны захад, на схоне гары.

Вее вецер з-за гор, з Балота. На могілцы маладзенькі кіпарысік баўтаецца, калыхаецца дзесяць убогіх каласкоў жыта (васілёчкаў няма) і шэсць кусцікаў касаціка.

Вакол бедныя могілкі. Побач валяецца крыж Елены Іванаўны Можайскай, што памёрла ў 1916 г., дваццаці год.

Два чалавекі павязлі на кані труну.

— Хто?

— Рабочы.

— Чаго памёр?

— Ад хваробы.

І ўсё. Пуста. Сумна. Густы, цёплы вецер. Горад у даліне.

Я пасядзеў, мімаволі слёзы выступілі на вачох. І ні красак, нічога не прынёс я яму.

(«Трэба будзе, каб у Кіпарысах хадзілі сюды экскурсіі і каб прадаваліся адкрыткі з фатаграфіяй помніка і ў кружку — фатаграфія паэты». Усё гэта я падумаў. «А можа, калі-небудзь трэба перавезці яго прах у Балота, у Камунацэнтар».)

118

Назад ішоў не блудзячы, але гэта далёка, кілометры тры ці болей.

Прыйшоўшы, паабедаў у страўні «Камэрад». З'еў боршч (бо бульёну ўжо не было) і кісялю з чорнае смуроды з малаком. Бо ўсё йшчэ баяўся за жывот. Але нічога.

Спаў да 11 вечара. А потым выйшаў прайсціся па вуліцы. Пакой мой быў затхлы.

119

На вуліцы было цяплей, як у нумары. Было ўжо пуста. Рэдкія парачкі і самотныя гульцы. Смяццё і вар на бруку, заліваюць вуліцу асфальтам.

Купіў салолу і выпіў бутэльку нарзану. Прайшоўся па ўзбярэжнай. Сеў на лавачку. Закурыў. Глядзеў на цёмнае мора.

Падышла да мяне прастытутка. Села да мяне. Цемнавата, ліхтар высокі, слабы. З постаці зусім здаровая сялянка, што пабыла троху ў горадзе. Скуластая, моцная.

Яна хацела спакусіць мяне, каб зарабіць грошы. Не ведала, што цікавая гісторыя мне прыямней за яе жаночую ласку. Я сказаў:

— Мне гэта не ў галаве, бо я запрацаваўся і выбіўся з сіл, адпачываю. А дам вам 50 к., і вы мне раскажаце сваю гісторыю.

Яна не здзівілася майму жаданню. Ізрекла:

— Так мала? Мая гісторыя цікавая. За рубля скажу.

— Добра.

Нудна і нецікава, і вельмі каротка пераказала яна мне:

— Муж памёр, галадавала, хацела тапіцца, плакала на беразе, двое падышлі, такія, як бы вось і вы, дапамаглі грашмі, і адзін выкарыстаў, начавалі разам, а потым і пайшло.

Сялянка з Мухусу. Ёсць сын 5 год. Тут пачулася цеплыня ў яе ў голасе. Займаецца, казала, «асцярожна».

120

Потым падышла яе таварышка, якая згубіла партманецік з дакумантамі і нервавалася.

Азіралася на міліцыянера.

— Все она врет, а вы слушаете развесіўшы вушы, — сказала гэтая ціха, калі тая адвярнулася.

Пасядзелі і пайшлі.

Пэўна думала, што не дам нічога. Запрашала да сябе. Казала, займае асобны куток у гаспадыні.

— Акуратна платім, так і держіт.

Адмовіўся.

— Ну, да вас пойдзем у нумар.

— Не пусцяць.

— Ваш швейцар мой знаёмы.

— Не…

Даў рубля за апавяданне (аб чым цяпер троху шкадую) і развітаўся.

Яна без работы браць не хацела. Вельмі запрашала.

Як відаць, было ёй непрыемна.

121

У нумар свой з дрэнным паветрам ісці мне не хацелася.

Пагаманіў яшчэ з швейцарам.

Старая песня: селянін, малазямельны, горад, вайна, сям'я, чарга па хлеб і г. д. і г. д.

122

Спаў добра. Раніцою сонейка ў нумары. З'еў яешню. Чуюся добра. Пішу ў садзе. Пайду пакупаюся, схаджу на пошту, вазьму білет на параход да Зімэсі, потым Зімэсі — Сын-Гаршэчніка-Буржэ, і заўтра ўвечары я ў вагоне.

123

У Пячурках пуста. Усе павыязджалі хто куды мог. А хто застаўся — ходзяць, заплятаючы ногі.

Скарацілі Ракама і Локалока.

Мадам Ракам у ажытацыі, на балотніну глядзіць з-пад ілба. А балотніцы што?

Локалока самога няма, выехаў на з’езд, а Бядуль Федаравіч так узяў да сэрца гэтае скарачэнне, што адурэў і пачаў загаварывацца. Учора ўсе бегалі ля яго. Сягоння, кажуць, адышоў троху.

124

Параход «Драпежнік».

Едзем паўз паўдзённы бераг Паўвыспы. Параход адышоў а 2-й дня, у Сын-Гаршэчніка-Буржэ прыедзем гадзіны праз чатыры. Параход нікуды па дарозе не заходзіць, і калі б я захацеў заехаць на катэры ў Акпулу, дык трэба было б ехаць назад у Кіпарысы.

На прыстані каля параходу я ўбачыў у аднаго чалавека балотны пояс і запытаўся, якая экскурсія. Ён кажа:

— З Камунацэнтру. А вы ці не Хлюпка?

Але потым ён думаў, што я — малодшы Хлюпка. Гэта — настаўнік Вайдалотка, з ім яшчэ — настаўнік Рабец і колькі вучняў (з чыгуначнае школы). Настаўнікі гаманілі са мною балотнікамі, але каб не паясок, я і не ведаў бы, што экскурсія з Балота. Шкадавалі, што не пабылі на могілцы, — не ведалі, дзе яна.

125

На бераг я ўжо не дужа гляджу: нагледзіўся. Гэй-Іртеп у аблоках.

Качаемся не дужа, параход вялікі, на 379 чалавек.

Горы непрыгожыя, бо часта голыя. Але будынкі на беразе ёсць прыгожыя. Брама з мора — зусім не тое, што з берагу: як ехалі ў аўто, у мяне прост дух захоплівала.

Б’ецца хваля, веяў вецер, цяпер прыпякае сонейка. Гуляюць нейкія рыбы. Шчаслівыя! Ім няма клопату ў цёплай вадзіцы пад сонцам, ля прытульнага берагу…

126

Зрабілася качка. Некаторых ірвала. Некаторых, што былі на пярэдняй частцы каўчэгу, абліло вадою. Было смеху і жартаў. А я чуў сябе — як і на зямлі.

А едучы думаў я вось што. Вязуць людзі з Кіпарысаў кіёчкі, скрыначкі з ракавак і хто-што. І я ўявіў сабе, як яна на Хрыбце

прыглядалася да розных рэчаў і думала, што ж бы яму купіць, і купіла пяро… Цяпер я вельмі добра яе разумею і ганьбую сябе за тую нячуласць і грубасць, з якою прыняў тое пяро. Даруйце мне!

127

І я хацеў што-небудзь купіць, але мала грошы, — куплю ў Камунацэнтры. Грошы я траціў ашчадна і, па-мойму, зрабіў толькі два недарэчных глупствы: рубель прапіў (у Гэй-Фуз-Ружэ) і рубель, ліха ведае чаму й нашто, аддаў тэй жанчыне.

Але я пэўны, што вы мяне зразумееце: дурное, наіўнае пачуццё на момант і непрактычнасць будуць жыць ува мне, мусіць, заўсёды.

128

У Сын-Гаршэчніка-Буржэ на прыстані запрашаюць у гатэлі і ў прыватныя дамы. Я пайшоў і спыніўся ў прыватным доме за 50 к.

Вулачкі, дамы з натуральнага камення, цесныя фортачкі, дрэўцы, козы.

Голая гара.

Бойкі ў мінулым.

Зямля, палітая крывёю людзей з усяго свету.

129

Схадзіў у страўню, а тады паехаў на трамваі ў горад.

Уз’ехаўшы на крутую гару — перасядка, але ўвесь білет 15 к. Галоўная вуліца — шырокая, бліскучая, шмат вялікіх магазінаў, маса публікі, матросаў, размалёваных жанчын. Яшчэ ў Кіпарысах бачыў я шыльду: шмэн-дэ-фэр, а тут: рулетка! «Разгорнуты НЭП». Каля саду розныя будкі — з вадою, кіёчкамі (на жаль, я не знайшоў кіёчка без напісу, усе маюць напісы: Паўвыспа, Кіпарысы, Сын-Гаршэчніка-Буржэ і г. д. Здзівіў я людзей: усе хочуць з напісамі, а ён хоча без напісу).

130

У страўні каля вакзалу я не наеўся, бо з’еў толькі талерку рысавага супу, узялі з мяне 30 к. Я спытаўся, чаму так дорага,

а чалавек, што падае, кажа: «А хлеб дарагі». Ён і цану на хлеб сказаў, ды я забыўся. Белага хлеба ў страўнях не падаюць.

На галоўнай вуліцы выстаўлены былі апошнія тэлеграмы, а ў самым канцы тэлеграм напісана: з 1-га ліпеня ў Сын-Гаршэчніка-Буржэ будуць выдаваць па 2 фунты чорнага хлеба на дарослага і па ½ ф. белага хлеба на дзіця.

131

Прайшоўся я па вуліцы. Бачу: на рагу страўня гарадская. Зайшоў. Вялізная і высокая саля. Каля касы чарга. І падаюць у касу нейкія білецікі. А ў аднаго пытаюцца пасведчанне. Ён муліўся, але-ткі нейкае дастаў. Тады яму кажуць:

— Вы бачыце, што робяць вашы таварышы з білецікамі? Стыд, страм!

Я не зразумеў, у чым тут справа. Мусіць, нейкая падробка. Узяў я два білецікі: 2 яйцы — 15 к., і шклянка гарбаты — 5 к.

Падавала нізенькая, тоўсценькая, круглавідая, вельмі рухавая грамадзяначка, мусіць, з коржыкаў. Я падзівіўся: якая цяжкая ёй праца і колькі трэба мець у памяці, каб не збіцца.

132

За адзін са мною стол селі два маладыя чалавекі, што гаманілі незнаёмаю мне моваю. Я спытаўся, якая гэта мова, і адзін адказаў: па-чаржынску, а другі патлумачыў: па-шахмецку. Устаўлялі яны ў сваю гутарку шмат і панскіх слоў.

Пагутарыўшы з імі, я зразумеў, што шахметызацыя Паўвыспы ідзе з вялікімі цяжкасцямі. Ёсць шыльды, г. чын., на гэтакіх установах, часткаю і на прыватных крамах і да т. п., дзе побач з буйным панскім тэкстам ёсць і шахмецкі тэкст.

Між іншым, у вагоне траму тэкст з нейкае абавязковае пастановы займае два слупкі па-панску і ажно тры гэткіх самых слупкі па-шахмецку. Мусіць, альфабэт шахмецкі не вельмі практычны.

Казалі яшчэ гэтыя два маладыя чалавекі, што ёсць шахмецкая гадавальня выхавальнікаў і ёсць шахмецкія аддзяленні, ці што, на ука-фбары, у лок-штране. А газеты выходзяць выключна па-панску (у [нрзб] сталечным месцы гэтае дзяржавы — «Гэт. Паўвыспа»).

Ці ёсць якая бібула ў тутэйшых шахметаў, яны не маглі мне сказаць што-небудзь пэўнае і параілі зайсці ў магазін бібулы (сёння субота, заўтра нядзеля — будзе зачынены, не ўлічыў).

Гаварылі яны троху з сумам.

Тут тая самая гісторыя, што і ў Балоце, але яшчэ горшая: горад у іх казельскі, вёска — шахмецкая (але не выключна, як у Балоце), гулявых разумцоў мала.

Гаманілі яны яшчэ аб справе бандыта Ялэв'і Вамі-Гарбі (Wami-Harbi) і іншых, — вядома, тут гэтая справа дужа галосная, у кніжных крамах выстаўлены аграмадны раман аб ёй і цэлы рад аднакіх, пудовых экземпляраў: «Справа Jalewi Wami-Harbi і іншых», «Справа Jalewi Wami-Harbi і іншых», і так шмат разоў, чорнае па беламу.

Бандыт гэты — «нацыян. герой», «крык дню».

## 133 (Звярынец)

Развітаўшыся з імі, я пайшоў назад па вуліцы. У сад не пайшоў, бо там опера ці што, трэба браць білет, а білеты засталіся толькі вельмі дарагія.

Накіраваўся ўжо дамоў, як убачыў вялізны плакат, асветлены рознакалёрнымі, сінімі, жоўтымі, фіялетавымі лямпамі, і напіс: «Звярынец».

Зайшоў, хоць і шкода было грошы на глупства, колькі разоў бачанае ў грандыёзных размерах, а не ў такой мізэрыі.

Каля касы, пры вакенцы, пхаліся проста надзетыя людзі, і я падышоў і ўзяў білет за 35 к.

Бедны вандроўны звярынец. Але — досыць шумна, людскі гоман, піскі малых звяроў, крыкі, гаганне птушак, рыканне хіжнікаў, як у вялікім звярынцы.

Найбольш усім было цікавасці каля вялікае высокае дратовае клеткі, пасярод звярынца, што была з малпачкамі.

Малпачак у ёй поўна. Бегаюць, скачуць, гутаюцца на арэлях, што ім наўмысля ў клетцы падвешаны, і на дроце з званкамі, чапляюцца па драцяных сценках і версе клеткі, пішчаць тоненька, вельмі праразліва.

У некаторых голы, чырвоны зад і высунутае гадкае байковае прыладдзе.

Адна, самая большая малпа, увелькі з худога невялікага сабаку, злая-злая, пахаджае важней і наганяе страху на меншых, апрача дзвюх-трох, з якімі яна, мусіць, у ласцы.

Якое падабенства з нервовымі людзьмі! — падумалася мне.

Праз сетку супакойна бяруць з далоні сланешнікавыя семячкі і ядуць, як людзі… Раптам тая вялікая цап! па руцэ, і, мусіць, абскрабала.

Доўга я дзівіўся — і знайшоў тут пэўную навуку сабе: якім не трэба быць, каб не мець падабенства з гэтаю жалкаю і агіднаю малпаю, што дыбае з голым задам, загнуўшы ўгору аблуплены худы хвост, і кусае за спіну піскучых, ашчэраных меншых. Фу, брыдота і жаль.

134

Зараз я паехаў на траме на кватэру. Спалі ў адным пакоі ён і яна, прыезныя з далёкае правінцыі Лару, і я. Я раздзеўся, як патушылі святло. Ён яшчэ завешваў вокны ад месяцу і доўга валаводзіўся з фатаграфічнымі пласцінкамі, — ніяк не мог «зарядзіць» (начыніць), нешта не ўлязала. У яго ёсць і куртка як у мастакоў, з чорнага мошасту. А хто яны — не ведаю.

135

Сон-асада Буржэ

Паснедаўшы.

Раніцою пілі гарбату, з гаспадынінага самавару. Я ўзяў 5 сырых яечак, масла, солі, кавалак хлеба і дзве шклянкі гарбаты і дзве шклянкі казінага малака. Заплаціў за ўсё гэта 70 к., а за начлег — 50 к.

Яны з сабою мелі булкі, масла і што… Калі яны так будуць ездзіць, дык ім падарожжа будзе каштаваць зусім не дарага, калі не лічыць білетаў на чыгунцы.

Выходзячы, на падворку раніцою я чуў, калі хлопчык, меншы за Нелю, хадзіў з кавалкам белага хлеба, чуў, што на рабочых будуць даваць па 2 ф., на ўтрыманца па 1 ф. і на дзіця па ½ ф. (белага толькі дзецям).

Гэта сусед нашага гаспадара казаў мне пасля жарту з хлопчыкам: «Што, паёк свой аддаём Жучцы?» А тут і маленькі брахлівы Жучка круціўся.

136

Паснедаўшы, я пайшоў міма бухты на крутую гару, дзе бульвар «Змагання Народаў», помнік пашы «Нэбел-Тату» і дзіўная рэч — Фокус Рацi. Уваход у Фокус Рацi — 35 к.

Гэта — «амерыканка», як капліца, толькі з гладкім пакатым дахам. Унутры, па сценцы, кальцом, без пачатку і канца — рубо: крытычныя хвіліны Ружэ.

Пасярод пляцык і ад пляцыка да рубо яшчэ ёсць адлегласць, на якой натуральныя бліндажы, гарматы, мяшкі з зямлёю, закрыты труп з быццам натуральнымі, голымі, бруднымі, мёртвымі нагамі, самавар з двума крантамі, дошкі і да т. п.

Святло з гары, але з паза краёў вялікага палатнянага занта, што над пляцыкам. Уявеце сабе, быццам вы стаіцё на Кургане нябожчыка Мікалаенкі (што памёр ад голаду) і гледзіцё з яго вакол сябе ўва ўсе бакі, на ўсім краявідзе. Праз аптычны фокус і вельмі добрае рубо — відаль незвычайная, быццам гэта сапраўднае, далёка, далёка.

І вось што тут ёсць… Мора. Эскадра пеўняў і львоў. Бліжэй, у Бухце, два рады нейкіх кончыкаў тырчаць з вады — гэта затопленая эскадра казельцаў, каб загарадзіць уваход.

Потым — першая бастылія. Бягуць воіны, гараць будынкі, валяюцца забітыя коні, цэлыя батарэйныя ўпражкі.

Побач, управа, Курган Мікалаенкі. Страшны бой, дым, узрывы, страляюць з стрэльбаў па наступаючых пеўнях у сініх мундзірах і чырвоных штанох. Раненыя… Супакойны паша Вомі-хан (Womi Chan). Абраз, перад ім свечачкі, і па зямлі, перад абразом, плячо ў плячо, радком забітыя. Жанчына трымае на плячох вёдры з вадою, воін смагла п’е. Стары вусаты воін трымае руку, з якой б’ецца кроў (мой дзед). Далей — батарэя: адны гармату набіваюць, у другой ужо цягнуць кнот, трэцюю накачваюць. На каменных сходах — штаб. Ніжэй — ранены афіцэр, над ім міласэрная сястра, і бяжыць з крыжам валасаты чалавек у асірыйскай даўгаполай вопратцы. А яшчэ ніжэй ляжыць і трымаецца рукою за галаву, усю разбітую, у крыві, просты воін… Ён без дапамогі. І г. д.

Вось батарэя Еврэж (знамянітая Jewrež). Пеўні былі захапілі ўжо яе, уваткнулі свой сцяг, павярнулі адну казельскую гармату на казельцаў. Ды хан Вёлурх (Wio-Lurch), у чорнай касматай шапцы, на белым кані, перахапіў ішоўшых з працы цвесаў («cwiesy») і кінуўся з імі на выручку аслабелым цватлопам («cwatlopy»). Рукапашны бой, пеўні падаюцца…

І яшчэ бастылія: штурмуюць яе ільвы ў чырвоных [мундзірах]. А ўсюды ўсё гарыць, выбухі, жуда…

Рубо ўдоўжкі 57,5х3:1,4 метраў і ўвышкі 7х3:1,4 метры.

Сапраўды, ё што паглядзець.

137

Потым быў я ў садзе, на прыстані, хацеў ехаць у Геркуланум, дзе раскопкі[32], але параход туды не ходзіць (толькі дзеля экскурсій, а аднаму паймаць лінейку — дарага).

Паабедаў, ізноў пасядзеў на бульвары, пагаманіў з якімсьці жмогусам, што жыве тут 20 год, і пайшоў на кватэру.

138

Там ужо — два маладзенькіх фіны і дзве курносых фінкі, з Чэмер-Форсу. Фінкі ляжалі на пасцелях, укрыўшыся коўдрамі, а фіны сядзелі.

І ўвесь час усе яны дружна балбаталі сваёю моваю: дзеля Хлюпкі гэта выходзіла сярэдне між татарскаю і латышскаю мовамі.

Я пагаманіў з імі троху і пайшоў на вакзал пісаць ліст. Прыйшоў цягнік з Кучкі, 7 гадзін вечара.

139

Быў і ў галярэі малюнкаў. Шмат малюнкаў з былых палацаў дожаў. Найбольш каштоўнае — малюнкі старых італьянскіх майстроў.

Пры выхадзе — кніга распісвацца знатным. Яна нагадала мне кнігу жальбаў Славака (Wocheča).

140

Ну, 8 гадзін!

Праз дзве гадзіны я выязджаю з Буржэ на паўдзён. Падарожа мая пойдзе назад. Хутчэй дамоў.

Цікава, хто будзе ў гэтым вагоне Буржэ-Ксенем?

Грошы засталося якраз 6 р. 95 к. (Дарога аплачана, білет да Ксенему.)

141

1 цвет ад прастуды

А 10-й гадзіне вечара выехалі з Буржэ.

У адно аддзяленне са мною трапілі ўсё маладыя людзі, што варочаюцца з гулятства.

Спярша я ніяк не мог вызначыць іхныя прафесіі. Гаманілі панамі, потым са мною — і балотнікамі.

Але на другі дзень, увесь дзень, гаварылі найбольш панамі, часам, некаторы, балотнікам.

Мяне ніхто не ведае і, мусіць, лічуць за якога нізавога каапinduced ператара.

Я наўмысля пра агранамію, каб — а, аграном!

142

Цяпер я ведаю, што адзін спаміж іх — пачатковы настаўнік з Краіны Баброў, бо ён апавядаў, што да яго прыязджаў знамяніты педагог-паэта-этнограф-непрытомнік Нішаві (псеўданіму Нішаві-«Абруж», ён, мусіць, ніколі не чуў).

Настаўнік гэты мае даволі добры, хоць і прымітыўны, твар, але ідэёвасці ў ім ніякае няма. Гаворыць ён і па-балотніцку, але найбольш па-казельску. Любіць апавядаць коржыкавыя фацэцыі (як мужык прыязджаў на кангрэс у Напляваў — у стылі апавяданняў рэакцыянера-капэтаўца Акло-Чыша, толькі што з гэтае сучаснасці). (Да іх падліпае, ён спаміж іх — меншы, вытрыманы хамік.)

143

Апавядаў ён цікавую гісторыю, як у іх там, у Краіне Баброў, мужняя жонка пакахалася з другім настаўнікам, што паступіў у балотніцкі каледж, як кахала абодвух, як той каледжанін хацеў адчапіцца ад яе і, прыкідаючыся, парэзаў сабе грудзі нажом, як яна, калі вязлі яго ў больніцу, кінулася яму на грудзі і пры ўсіх цалавала і плакала і як сяляне таго ж дня сабралі сход і пастанавілі прасіць, каб узялі ад іх усіх гэтых настаўнікаў…

— Ато яны і дзяцей парэжуць!

Яшчэ ён казаў, што сяляне ў тэй мясцовасці кажуць на таварышку-дзяўчынку — «гейка». Слова гэтае запісаў у яго Нішаві.

144

Другі спаміж іх працуе ў Яме. Ён найбольш сімпатычны. Між іншым, ён некалі з паўгода вучыўся ў Пячурках, ведае чорнага сіпатага Новага Крутагорскага-Тех-Нарука. Казаў, што гэта яго таварыш.

Гаворыць ён па-балотніцку даволі прыгожа. Чалавек добрага, відаць, характару, але таксама малой інтэлектуальнасці. Бландзін з маршчынкамі ля воч; здаецца, хворы на тбц і на сэрца. Працэс тбц у Паўвыспе спыніўся.

145

Трэці — з тонкімі перакрыўленымі вуснамі, з глыбокімі вачмі, найбольш моцны інтэлектам, але, відаць, тыповы сучасны служачы ці, хутчэй, асобнік. Працуе ў Яме. У балацізацыі «трымае лінію».

Чацверты — падобны да гэтага трэцяга, але даволі невыразны.

Пяты прыходзіць да іх з суседняга аддзялення — сволач невысокай катэгорыі, якіх цяпер шмат. Трошку добры, трошку цынік, наогул — павярхоўны, больш практык і г. д. Мусіць, пісец з хапайлаў (ахронца парадку).

146

Яшчэ едуць нейкія, мусіць, чыгуначнікі з сем’ямі, хлопчыкі нейкія.

Пераказваюць гісторыю аб адным вучні, што скончыў 7 клас і паехаў у экскурсію ў Хана-Паўвыспу, а там пасварыўся з настаўнікам і сказаў: «Буду я ездзіць з такімі дуракамі».

Калі ехалі праз Закаменне[33], я думаў, ці не спаткаюся часам з Геолагам.

Цяпер у Напляваве вагон наш павінен адстаяць 6 гадзін, і толькі заўтра аб 11-й гадзіне ўвечары прыедзем у Ксенем.

Такая нуда! Ні цікавых людзей, ні цікавых уражанняў.

У дарозе пыл, але па абедзе, пад Наплявавам, быў троху дождж.

147

На другі дзень, пасля Чамхаба[34].

Той, што з Ямы, лысаваты, стрыжаны, з худым тварам і са скрыўленымі ў часе гутаркі, тонкімі вуснамі, аказваецца — старшыня такіх, як я, у Яме, камрад Чывок-Мілк (Čywok-MiĬk).

Той, што з Ямы, бландзін — канавал у Трапвасе 2, мой цёзка Кузьма, на прозвішча Вокінг-Чырал (Woking-ČyraĬĬ) ці Вок-Чынрал (Wock-ČynraĬĬ).

148

Вок-Чынрал (канавал) апавядаў цікавую гісторыю.

У б. дырэктара Вечагорскага каледжу для сярэдніх мазгавікоў Кінеша (гадоў 45 яму) была жонка гадоў 32–35, здаровая, і ёй карціла да шпанацыі.

У каледжы быў канавал рэлігійных пакладанняў, у якога жонка была ў ціжарным стане, і яму карціла да шпанацыі (так казаў гэты апавядальнік).

Яны скоопуляваліся, а пан Кінеш і жонка таго рэлігійнага канавала нічога не ведалі.

А якраз Кінеша пераводзілі на службу ў Бадэн. Не паспелі яны туды пераехаць, як прыехаў з Вечагору ў Бадэн і той рэлігійнік і зайшоўся да свайго былога патрона начаваць.

Патрон, вядома, добра прыняў, і ляглі спаць. Уночы патрон Кінеш захацеў выйсці да ветру. Чыркануў сернік, глядзіць — жонкі ля боку няма. Ён пайшоў у суседні пакой, аж яна там з тым госцем на кушэтцы…

Ён даў яму і ёй разы тры па мордзе і вытурыў іх з свае кватэры.

Яны паехалі ў Вечагору, і рэлігійнік сказаў усё цяжарнай жонцы. Яна разрадзілася і радзіла хлопчыка-ідыёта.

Галава ў хлопчыка цяпер увышкі з вяршок, а доўгая і шырокая з далонь. Лячылі, бралі ў лубкі, але нічога не пасобіла…

Між іншым, жонка гэтага рэлігійніка дапамагала яму выўчыцца на канавала, а бывала, на работу яму ў мазгаўню прыносіла какао, ён раз'еўся, як парсюк. І ўжо да гэтага хлопчыка было ў іх дзіця, і расце. Цяпер яна жыве з дзяцьмі, працуе сама ў мазгаўні і атрымоўвае аліменты.

Кінеш пабраўся з другою. У яго ё сын 16 год. Толькі я не зразумеў, ці ад гэтае жонкі, што яго кінула, ці, можа, ад ранейшае, калі была.

І апавядаў ён, а яны слухалі, і ні ён, ні яны не ведалі, што я добра ведаю Кінеша і спагадаю яму, а не ім.

149

Трэці, настаўнік з Краіны Баброў, таксама асобнік, едзе ў Руды Абрыў, завуць яго на ймя Курыла. Ён ездзіў лячыцца ад неўралгіі.

Казаў, што начою, калі засынае, звальваецца на зямлю, або дужа здрыгаецца, або сніць, што памірае і не можа ніяк прахапіцца ці хоць скрануцца.

Гэта, казаў ён, ад таго, што перапрацаваўся. Я падумаў, што і ў мяне нешта падобнае бывала.

150

У каго моцна развітыя або ненармальныя спінныя мазгі, той моцны фантазёр або вялікі бабнік.

Калі ж у яго яшчэ няправільны кругазварот крыві, дык яму сняцца розныя страхі.

Таксама — накурыўшыся.

151

Чывок-Мілк і Вок-Чынрал казалі, што кніжка Любіма перакладзена літаральна, шмат недакладных месц, немагчыма карыстацца. Кніжка Грышына ў балотнай мове ў 2 разы даражэй. У балотным яе перакруце ёсць такія месцы: «Камунізм (замест «імперыялізм») ёсць апошняя ступень капіталізму». Календары балотныя ў Яме прадаваліся па 6 кап., і іх раскупілі парыкмахеры на тры гады ў запас абціраць галякі. Казалі троху і пра літаратуру — у тым жа дусе, і блыталі Гару і Раку.

Чывок-Мілк успамінаў аб далучэнні да Балота Лепшаўшчыны[35]. Там асобнікі ездзілі па вёсках. Сяляне казалі: «Былі мы балотнікамі і памром балотнікамі».

152

Навін у Хлюпкаў няма. Ніхто да іх не ходзіць, хоць мадам Хлюпка часта стыкаецца са знаёмымі; улетку ўсе на дварэ.

Хадзіла яна раз у тэатр. Прыехала трупа з Пальміры (пішуць у афішах). Ігралі сярэдне. Ставілі «Девятая жена».

«П'еса пабудавана на новай маралі: ультрадабрадзейная моладзь, дзе і прастытутка азначаецца высокімі якасцямі, а старыя — распуснікі і нахабнікі». (Разважанні мадам Хлюпкі.)

153

Пасля Бадэну ў адным вагоне са мною ехала да самага Ксенема толькі настаўніца з Глебаўшчыны.

Я перайшоў да яе у купэ, і мы доўга гаманілі.

У Ксенеме яна паехала на кватэру да сястры, а я пайшоў да Геолага.

154

На вуліцы хлопчыкі-балотнікі хацелі біць хлопчыка-абісінца. Я разагнаў іх.

Зайшоў у крамку купіў цукерак.

У Геолага жыў Войкал, жонка Войкалава лячылася цяпер на цёплых водах.

Калі я прыйшоў, сядзелі Геолаг, Селекцыя[36] і Войкал.

Селекцыя была не ў гуморы. Цукерак маіх есці не захацела, бо яны былі простыя і запыленыя.

Але я быў з ёю асабліва ўважлівы, бо яна насіла ў сабе Плод.

155

Селекцыя мелася ехаць на 10-дзённыя бульбяныя курсы ў Кучку. Назад едучы (15–16 цвету ад прастуды) мелася заехаць да м-ме Хлюпкі ў Пячуркі.

Геолагаў тэрмін адпачынку яшчэ не скончыўся. Геолаг хацеў правесці яго ў хаце і чытаць Біблію.

Але шмат людзей хадзіла да яго. Адзін Morde-Wilko, самаробны паэта, што ўмеў рычаць па-львінаму, сядзеў па 6 гадзін узапар і мармытаў, як неразбярыха.

На другі дзень я пакінуў іх гасцінны дом.

156

У гэты час у Аквак-ца-Габе паспелі ягады.

І мяне запрашалі прыехаць есці іх.

*1928*

# ФІЛАСОФСКА-АЛЕГАРЫЧНЫЯ ТВОРЫ

## ЛЯВОНІУС ЗАДУМЕКУС

### VI

### 25

І выйдзеш ты з муру на сонца, на вольнае паветра, на ясны свет.

Зялёныя дрэвы зашумяць табе лесам. Прыгожыя кветкі зацвітуць табе лугам.

Ступіш ты крокаў пяць. І раптам усміхнешся… Гэта — рэфлекс. Так і птушка, калі вылеціць на волю, дык сядзе на першым суку і цілікне ад радасці, як дурная.

* * *

Не дзівіся смеху радасці, блазенны! Не называй яго дурным.

Выйдзеш ты за браму з хатылямі, як жабрак. Будуць яны табе вадзіць і муліць. І пойдзеш ты па незнаёмых вуліцах чужога гораду, як бяздомны валацуга. Не будзеш ведаць, дзе прытуліцца, дзе знайсці табе невядомы прыпын.

Але будзеш ты ісці, як усе людзі ходзяць. Ніхто ўжо не будзе муліцца табе адзаду. Радавацца будзеш мімаволі. Бо якая ж табе радасць?

Не, радасць сваю не змяншай.

Толькі будзе яна ў цябе цяпер ціхая і супакойная — ад пражытых гадоў і ад пражытых дзён.

* * *

Пойдзеш проста, завернешся налева, міма торжышча, што направа, і што сёння ўжо пустое.

І прыб'ешся, нарэшце, да гэтага дому, што будзе так прыемен сэрцу, асабліва ў гэтым тваім стане. Падходзячы, паднімеш вочы вышэй і заўважыш, што нават напіс на ім за час твае летаргіі ўжо змяніўся.

Дзе было напісана: «Дом самапаса», — цяпер напісана: «Дом кампанейца».

І будзе табе ізноў і радасна і сумна. Жыццё бяжыць і не чакае. Таго, хто застаецца…

Але гэта — добра. Хай яно так і будзе.

Хай жа ціха ляжыць, хай не варушыцца — прытоенае ў сэрцы засмучэнне.

* * *

І будзеш ты зусім упэўнены, што прымуць цябе там, як і даўней прымалі.

Будзеш ты стаяць, будзеш чакаць, хатылі свае на дол спусціўшы. І будзеш ты цяпер вельмі цярплівы. Жыццё цябе наўчыла.

* * *

Чаргі свае прычакаеш. Мандаты свае прад'явіш. І будзеш ветлівы і ціхі.

А голас, голас сухі, непрыветны, раздзельна і з націсканнем прагалосіць, табе, табе прагалосіць:

— Нямых, хітрых, наглых, непрытомных, а таксама і блазенных у нашым, гэтым нашым доме, «Доме кампанейца», не пры-ма-ем!..

І зваліцца табе яго прамова на галаву гарою.

І звянеш ты ад пякучага жалю, як кволая травіна.

І дужа многа паразумнееш.

* * *

І аднак жа вышыня духу твайго ў гэты дзень не ападзе.

Вернешся туды, адкуль выйшаў. Складзеш путы свае ў дальні кут. Пойдзеш па свеце з вольнымі рукамі.

Зямля павернецца далёкім бокам. Трэба табе спяшацца. Сонца для цябе аднаго не стаіць.

Мазгі паставіш на задні ход. І пабяжыш.

Шукае прыемнасці кожны чарвяк.

І ты яе шукаў, і шукаеш, і шукаць будзеш.

* * *

Ішоўшы, разгоніш думкі, адгоніш усякі клопат. І паспяшыш згары ўніз і знізу ўгару.

І прыйдзеш ты ў дом размовы на адлегласці, каб пачуць там блізкі голас.

Убачыш стройную, шэра-гранітную, аграмадзіну. Індустрыяльнага стылю. З шырачэзнымі вокнамі. З залатымі напісамі на франтоне.

І ўсцешаны будзеш, што ў гэтым горадзе ё такі дом.

І ўвойдзеш у яго з заміраннем сэрца.

* * *

Яшчэ не будзе позна. Запытаешся — і паслухаюць цябе. І дадуць табе папяровы мяшэчак. Напіс на ім пісала рука Цярплівае Ласкі.

Ты спадзяваўся, што будзе табе ад яе болей эпістолій. Але рад будзеш і гэтай дужа.

Сам жа сабе падумаеш: «Я ні дужа ўсцешыўся, ні дужа засмуціўся. Раўнавага мая — ад пражытага жыцця».

І ўсё там будзе табе ўжо вядомае. А што? — пра гэта думаць цяпер не захочаш.

* * *

Піша Лявоніус (Мізэрыус) адказную эпістолію Цярплівай Ласцы:

— Вось я ўжо выйшаў з лесу на поле…

Тон бярэ спакойны і лагодны.

І піша Лявоніус паведамленне цёмналескаму дубу і белай бярозцы:

— Вось я ўжо выйшаў з лесу на поле…

Тон бярэ цёплы і радасны.

Каб усцешыць іх. Каб думалася ім, што лепей яму, чым ёсць.

* * *

З волі свае здымае замкі блазенны…

Ідучы назад, трапіш на нізкае торжышча. Там падшывальцы і дарослыя біндзюкі прадаюць папяросы, па пяць капеек штучка.

І пачнеш ты вагацца: ці рабіць гэта ці не? І купіш адну, і скурыш, хоць і вельмі будзеш вагацца, перш чым закурыць.

Папяросы ўзрушаюць думкі. Толькі не куры іх многа, а то забаліць галава.

* * *

Таксама — добрая рэч піва. Яно весяліць сэрца. І бывае такі час, што хочацца ўведаць яго смак.

Але як жа ты ўведаеш яго, калі ў кішэні ў цябе так мала капеек, а за кубак трэба выдаць іх семдзесят пяць.

З волі свае здымае замкі блазенны…

Трэба ўзвесяліцца. Трэба мабілізаваць імпэт да жыцця. Можа, яно так, можа, іначай.

* * *

І будзе шумна там ад жыцця.

І нават каханне будзе там, за рамаю вакна, у цёплай цямноце начы.

І ўсё — як заўсёды.

Толькі ў цябе яно — у мінулым.

І будзеш ты наіўна і жаласна думаць: «Няўжо ж яно так? Няўжо, няўжо?»

* * *

Будзеш ты ляжаць на падлозе, як сабака.

І спачынуць косці твае, лепей чым на пышным ложу.

І будзеш ты не адзін. Цесна будзе тут ад мноства людзей.

Радуйся блазенны, што хаця ты між іх, што хаця ты — як усе. І ўзрадуецца цела тваё і дух твой у целе.

На гэтую ноч.

І будзе гэта — вялікая таямніца навекі…

26

Выйдзеш на торжышча рана і будзеш чакаць купца на вынесеную табою рэч.

Productive

Становішча нібы новае для цябе. Але ўспомні: яно ўжо здаралася ў жыцці тваім.

І трапіцца табе купец малады і энергічны. І дасць ён табе восем тысяч грошаў, за тваю рэч, за похвы на заднія канцавіны.

І пойдзеш ты ўсцешаны. Але троху жалю ў сэрцы будзеш мець.

І будзеш думаць, што прыйдзе такі час, калі нічога гэтага не будзе на свеце. І будзеш ты жадаць гэтага часу. Але ведаць праўды не будзеш.

* * *

І ўбачыш ты памост, доўгі і шырокі.

А з двух бакоў яго будуць прыстоллі. За прыстоллямі стаяць людзі, як на вяселлі, і частуюць усіх, хто захоча.

Многа-многа на прыстоллі ежы: ярýшаткі, малако ў розных бутэльках, малых і вялікіх; масла камкамі ў вадзе ў вядры, пад мокраю трапачкаю; алей; цукеркі; яйкі; рыба-маласолка, званая вобла; тутунь, папяросы.

І падумаеш ты: гэта не малако, гэта — белая вадкасць з цыцак рагатае жывёлы, што завецца ў гэтай краіне — карова.

І падумаеш ты: гэта не масла, гэта — тая самая вадкасць, збітая мудрым спосабам у жоўтую густую кашу камкамі.

І яшчэ будзеш думаць, ды нічога не прыдумаеш, бо мала фосфару ў цябе ў галаве.

* * *

Масла хунт — 6 руб.
Малака чвэрць — 2 руб.
Махоркі васьмушка — 2 руб. 50 кап. і 3 руб.
Блаславёны край!
Параўнальна з Камунацэнтрам, тут усё дзешавей.

* * *

Убачыш шыльду, якая прывабіць цябе. І пераступіш парог дому гэтага.

Пакой вялікі. Сталы стаяць у пакоі, чырвоным фарбаваныя. За сталом людзі сядзяць. І паўдзённыя кветкі будуць стаяць перад імі на стале, пыльныя і занядбаныя.

Ваконца ў сцяне, як у турме ў дзвярох. І бак з вадою ў кутку. Кубак на ланцугу пры ім, як сабака.

* * *

Пры сцяне — арган. Пры аргане — прастол, абведзены загарожаю з дрэва і шкла.

На шкле белая грамата. У той грамаце пісана рукою першабытнага кронікера:

Суп вегетарыянскі — 50 к.
Каша з малаком — 35 к.
Суп з мясам — 80 к.
Біткі — 1 р. 10 к.
Вінегрэт — 35 к.
Кава — 30 к.
Малако — 30 к.
Гарбата — 10 к.

* * *

Пойдзеш па шырокай вуліцы на паўдзён.

І ўбачыш за горадам гару, а на ёй шлях з роўным строем бярозавых прысад і з бакоў шляху — поле. І пацягне цябе туды.

І будзеш ісці міма вялізарнага пляцу, умуравелага травою. А вакол яго ўсякія дамы. І чырвоны будынак налева, і белы будынак направа.

І будзе табе радасць, што ўбачыў іх, і смутак ад успамінаў.

Сышоўшы ніжэй — піўная. Там п’яны шум. І той шум разгоніць табе сум.

* * *

Жанчына саб’е цябе з тропу, блазеннага.

Сышоўшы ўніз, пойдзеш направа. А яна спаткаецца табе, і ты спытаешся ў яе, куды табе ісці.

І скажа табе невядомая жанчына:

— Ідзі на тую гару, на той шлях, і шукай дому супроць могільніка. Там знойдзеш тое, чаго шукаеш.

І пойдзеш ты па шырокай вуліцы далей на паўдзён.

* * *

І будзе табе рэчачка і мост.

І будзе табе налева, пад вялікую раку, царква. А на самым скрыжаванні вуліц — мураваная капліца.

Дарога пойдзе пад гару.

І ўжо хаткі будуць малыя, і ўжо поле і гароды.

Усё гэта — радасць твая з малых дзён.

* * *

І будзе табе ветрык курортны. Цёпла, лёгка.

Ад радасці ледзь не заплачаш. Будзеш дыхаць-дыхаць… Ад утомы на бервяно сядзеш.

Зеляніна, гароды. Малако нясуць жанчыны на продаж.

Сонца цябе пячэ. Ногі твае прысталі, рукі памлелі, усё цела звяла. Размарыла цябе ўсяго.

Не захочаш устаць, не захочаш ісці.

Сядзеш.

Хлеба з’ясі. І будзе табе хлеб твой горак і салодак.

* * *

І знойдзеш той дом.

Страха над дваром дашчатая, нізкая, закрывае ўсё, да самага ганку. Цёмны сібірскі двор.

Хата. У кухні нізкія палаці. Цесненька, але чыста.

І ўбачыш ты за сталом у другім пакойчыку: цэлая сям’я, сядзяць, п’юць гарбату, са сподкаў, дзьмухаюць. І хлеб ядуць.

І калі скажаш слова сваё, тады возьме сабе слова гаспадыня:

— Вось прыехалі госці дарагія, з вёскі, жыць да нас.

І раскажа яна табе, як жылі ў яе блазенныя з далёкае паўночнае краіны.

А малады мужчына накіруе цябе да Хведасеіча, што хоча прыстаць у прымы да ўдавы і пакідае дом свой.

І пойдзеш ты, блазенны, шукаць Хведасеіча.

* * *

Хведасеіча там не будзе. Будзе толькі цяжарная ўдава, босая, і арава народжаных ёю дзяцей.

Яна ласкава табе ўсміхнецца і скажа прыйсці змрокам, калі верне Хведасеіч з работы.

І пойдзеш ты ніякава.

А неба нахмарыцца. Запырскае дождж.

Куды ісці табе, куды, блазенны?

* * *

Куды ісці табе, куды, блазенны? Будзеш хадзіць цэлы дзень і нічога не знойдзеш.

Будзе сонца і дождж, дзень і ўжо вечар, а ты ўсё будзеш хадзіць, усё будзеш шукаць і нічога не знойдзеш.

— Не, няма.

— Не, тут не прымаюць.

— А хто ты гэткі?

— Хто паслаў цябе?

Так толькі будуць адказваць табе на твае пакорныя і ласкавыя запытанні.

Нудна апавядаць пра ўсё гэта. Як гэта выказаць каротка?

* * *

І калі прыйдзеш увечары да Хведасеіча, убачыш у куту пад абразамі, каля столу на табурэтцы, хмельнага разбойніка, з кудлатаю русаю барадою і гнеўным тварам.

І скажа ён табе:

— Ідзі адгэтуль вон, брадзяга!

І выйдзеш ты на пусты мокры ганак і на пустую мокрую вуліцу.

Дождж будзе ліць. Цёмна будзе.

Цёмна будзе ў цябе на сэрцы. І хатыль жыцця твайго будзе табе цяжак, як камень тапельніку.

* * *

І ўбачыш ты дом абгарэлы, што гарэў і не згарэў, і вочы свае засланіў пляцёнкамі з шырокіх лучынін.

І пераступіш парог яго.

* * *

Будзеш ляжаць на падлозе ў кухні, як сабака, каля кухоннага стала, каля брудных ножак яго.

Пад бокам пасцелеш сабе свой чорны хітон, а пад голаў пакладзеш клунак з рэчамі. Той рэчы там ужо няма. Цяжар твой лягчэйшы.

* * *

І будзе табе спаць душна, і цяжкое паветра будзе душыць цябе. А вакно будзе глухое. Толькі ў шчылінку ў шыбе будзе павяваць пранізлівы ветрык.

Часта будзеш прачынацца, змагаючыся ўва сне.

І будзе сніцца табе рай і пекла.

І ўстанеш рана.

27

Будзеш хадзіць па вуліцах і дзівіцца: дзе той стары губернскі горад?

Будуюцца новыя фабрыкі і заводы.

А колькі тэхнікумаў! Медыцынскі, сельскагаспадарчы, гарбарны, меліярацыйны, ветэрынарны, педагагічны, індустрыяльны, тэкстыльны.

* * *

А побач — спадчына буржуазнага ладу жыцця.

Гаспадар новага дому на Акцябрскай, 63, чыгуначнік, запросіць з цябе 50 руб. у месяц.

* * *

І ўбачыш ты драбязлівую спекуляцыю на рынку. Махорка, вобла, папяросы, папера, цукеркі — прадаюць, што атрымалі ў каапелатыве.

* * *

Устанеш вельмі рана, збярэш лахманы свае і пойдзеш на тую ваду, што прыкмеціў учора.

Сходзячы ўніз, утопішся ў балота, як нязграбная карова. І сагнешся над вадою з болем у сярэдзіне.

Мутна будзе табе вада твая, блазенны. Сівая твань, і зялёная твань паплыве табе на сэрца.

І надвор'е над табою нахмарыцца. І людзі каля цябе будуць ісці рэдка. Толькі самыя раннія рабочыя, у брызентавых пільчакох і штанох. І брызент будзе запэцканы ў гліну ці замаслены брудным маслам, і чорнаю смалою, і карэлым дзёгцем. І будуць яны ісці маўклівыя, нямыя. Ні слова табе не скажуць і нават не паглядзяць на цябе.

І сабака прабяжыць па мастку каля цябе шыбка, і не вяхне, і хвастом не кіўне, і не паглядзіць. Пабяжыць сваёю дарогаю.

А калі будзе ісці міма цябе першая жанчына, з малаком і цыбуляю на продаж, у кошыку за пахілымі плячыма, — падзівіць яна ўголас рабоце тваёй, што не за сваё ты ўзяўся. І пашкадуе цябе, блазеннага, што, мусіць, няма ў цябе жонкі.

І ты ўспомніш тады Цярплівую Ласку і будзеш думаць пра яе і пра ўсё сваё жыццё.

* * *

І калі будзеш ты круціць лахманы свае, дык пабаішся, каб не перакруціць дужа, каб не нарабіць дзірак.

І ўспомніш маці сваю на падоле і сябе — маладога і здаровага.

І калі будзеш ты вешаць лахманы свае на вышках, на гаспадаровых вяроўках, дык пабаішся займаць шмат месца, каб не сказалі табе што за гэта.

І ўспомніш бацьку свайго, як віў вяроўкі, і сябе — вясёлага і бесклапотнага.

І калі возьмеш ты ў гаспадыні паўчвэрці малака і будзеш піць яго з хлебам, дык пабаішся, каб не выпіць болей паловы, каб палова засталася на вечар.

І ўспомніш тады малако ў хаце сваёй і сябе — у мінулым…

* * *

І прыйшоўшы ў гэтую першую ўстанову, убачыш ты загадчыка, што падобен да мышкі ў пенснэ. Будзе ён у рабочай кашулі, падперазаўшыся чырвоным паяском з кутасікамі.

Смешны ён табе будзе.

* * *

Усцешаны выйдзеш ты ад яго на вуліцу, і сонейка на цябе бліснe і прыпячэ цябе цяплом сваім вялікім.

І ад радасці захочацца табе пайсці ў дом набівання жыватоў, што ў доме гасцінным на другой падлозе.

Там каля дзвярэй, на чорнай дошцы, убачыш ты спісак прыемных табе спажыўных матэрыялаў, што пісаны сіваю крэйдаю і рукою студэнта ці студэнткі лікнепіса.

І прыхіліцца душа твая да нішчымнае крупені, што завецца па-тутэйшаму вегетарыянскаю. Кошт яе — 50 к. І шклянку вару з засыпкаю зелля ўпада[ба]еш ты. Кошт яе — 10 к.

І пастаіш крыху за спінамі папярэднікаў, чакаючы дробязяў жыцця.

* * *

А тады пойдзеш на бераг мора. Убачыш агароджаную плошчу. І зразумееш, што на ёй будуць змагацца зялёныя і сінія бізантыйцы, калі агароджу дабудуюць.

* * *

І прыйдзеш ты на высокі-высокі і вельмі круты бераг мора. Сядзеш там на лавачку і будзеш глядзець і думаць.

Якое хараство!

Шырокая вадзяная гладзь разляжацца перад табою. Параходзік «Змітрачок» запыхкае, залапаціць і пацягне на даўгім канаце паром з людзьмі.

Убачыш прыстань і баржы.

Убачыш шмат купальшчыкаў. Увесь бераг будзе ўсеяны імі.

І табе захочацца пакупацца, ачысціцца вадою.

Але сіл не будзеш мець падняцца, скрануцца.

Сілы твае ўсыхаюць. Мазгі твае плеснеюць.

Якое хараство! Любуйся: плаціць за гэта не трэба ні капейкі.

* * *

І з сабакамі размаўляць будзеш. І каяцца, што біў катоў.

* * *

І ўбачыш ты з свае высокае гары, глянуўшы ўніз, сцэну жыцця.

Чатыры слабыя жанчыны ў белых хустачках будуць несці на насілках мяшок. Адзін мужчына будзе несці два такіх мяшкі проста на плячох, на «казе».

Там тваё грамадства, Лявоніус, бедны…

* * *

За морам справа лес. Злева, далёка — фабрычныя будынкі, трубы.

І падумаеш ты: «Каб гэтак у Камунацэнтры!»

З цікавасцю і прыемнасцю будзеш дзівіцца на ўсё гэта перад сабою.

І будзеш думаць аб будучыні краю, аб працоўным імпэце рабочае клясы, аб пяцігодцы, аб жыцці ў капіталістычных умовах, аб сваім лёсе.

І радасна і горка будзе табе.

І сядзець так будзеш доўга.

* * *

Гуляннікі пачнуць гуляць. Парачкі пачнуць хадзіць. Дзве жанчыны будуць весці чараду дзетак («дзіцячы сад») праз дзірку ў плоце.

* * *

У вялікую круглую альтанку ты зойдзеш. На тоўстыя аблупленыя калоны будзеш глядзець. Дошкі пагнілыя ў падлозе будзеш абхадзіць.

І будзеш думаць: тут некалі балявалі, хмельна пілі і смачна елі, і па-панску весяліліся тутэйшыя паны, купцы, чыноўнікі. Мінуўся тут іх час. Каго паспеў Максім Горкі апісаць, а хто і так са сцэны збег, ці сышоў, ці скаціўся.

Думай сабе на здароўе, блазенны. Гэта не шкодна ні з якага боку.

28

І будзе табе дзень, калі папросіш ты міласціны ў пацука, кароткага і таўставатага, з лысінаю на круглай і тоўстай галаве.

Гаворыць пацук ціхім голасам, але не збіваецца. І бегае нячутна, але шыбка.

І не скажа ён чалавеку проста: «Ідзі ты ўжо ад мяне, абрыд ты мне», але спярша пачне мала гаварыць, потым мычэць і перабіраць свае паперы, а нарэшце змоўкне і ўглыбіцца ў работу.

Не чакай ты міласціны ад гэтага добрага чалавека, блазенны.

* * *

І будзе табе дзень, калі пачуеш ты, што напіліся п'яніцы з вечара п'яныя і таму не з'явіліся раніцою на работу, як было ўмоўлена.

І пачуеш ты, што чакаюць іх ужо да 12-й, а іх усё няма.

Вось якія будуць справы, блазенны.

І падумаеш ты: «І нічога ж яны не баяцца, гэтыя п'яніцы. А што ім за гэта будзе? Няўжо так і абойдзецца? Якія ж яны працаўнікі ў наш час і ў нашых умовах?»

О, блазенны! Ты не піў, не гуляў, а ў балота трапіў. Трапіў навекі.

Вось якія бываюць справы, блазенны.

* * *

І будзеш ты доўга чакаць, пакуль прыйдзе твая чарга папрасіць міласціны.

Будуць перад табою істоты, што кормяць увесь свет, а самі ходзяць самапасам. І будуць перад табою істоты, што носяць паперу ў мяшэчках, падобных да мяшэчкаў, у якіх пасылаюць эпістоліі, толькі значна большых памераў. Гэтыя другія істоты ў гэты час і ў гэтай краіне складаюць кіраўнічую частку істот.

* * *

І насунецца на цябе гарачае сонца і пачне пячы цябе.

Ты будзеш глядзець на шкляную пасудзіну з шырокім задам і вузкім жэральцом, у якой вада. Але доўга не адважышся прычасціцца.

* * *

І будзе ў чарзе па міласціну налпа самка з дзіцянём на ўлонні і з дзіцянём у тоўстым жываце.

І ты падставіш ёй падстаўку апусціць заднюю часціну цела, каб меншы ціжар ціснуў ёй на ногі.

І налпа вельмі здзівіцца твайму ўчынку, таму што яна нідзе за межамі свае краіны не бывала і іншых звычаяў, апрача сваіх родных, не бачыла. І не знала.

* * *

І будзе ў чарзе па міласціну налпа самец з малою налпачкаю-самкаю з беленькім шматком таннай матэрыі на галаве.

І паглядзіш ты на малую налпачку ласкава і ўсміхнешся ёй.

І яна табе ўсміхнецца, як чалавек.

І напоўніцца сэрца тваё радасцю, самотнае сэрца радасцю жыцця.

* * *

І вось наступіць твая чарга прасіць міласціны ў гэтага лысага пана.

І захочаш ты казаць як мага карацей і ясней, каб не адабраць у яго ні аднае лішняе хвіліны для свае ўбогае персоны.

Але язык твой за час твае доўгае летаргіі зробіцца адзервянелы і непаслухмяны, і думкі твае не будуць ісці прыемным для гэтага лысага пана рытмам.

І ён зморшчыцца і скажа: «Напішы».

* * *

Ты будзеш доўга пісаць.

Папера будзе самая кепская за ўвесь час цывілізацыі.

Пяро будзе самае кепскае ўва ўсім сучасным табе свеце.

І атрамант будзе расплывацца мутным брудам, як п’яная сляза.

І рукі твае будуць як дапатопныя граблі.

І думкі твае будуць як пнеўе і карчэўе ў нетрах цёмнага лесу.

І ты будзеш доўга-доўга пісаць.

І змучышся вельмі.

* * *

А напісаўшы і падаўшы лысаму пану прашэнне сваё на высачайшае імя, спытаешся ў яго наіўна і шчыра:

— А як вы думаеце? Дадуць мне міласціну?
— А чаму ж не? Дабрадзействы нам патрэбны. Вялікі план па дабрадзейству сярод блазенных.
І ты абнадзеены выйдзеш на вуліцу.
І пойдзеш ізноў шукаць месца для свае магілы, для магілы целу свайму.

* * *

Убачыў гэты стары казённы будынак.
Узышоў на другі паверх. Увайшоў у рысавальню. Там, каля стала налева, была нейкая нарада, ці што. Ён нясмела звярнуўся да некага, той паказаў яму галавою да таго стала налева, і адтуль аддзяліўся і падышоў да Лявоніуса малады, панаваты чалавек з апохлаю шчакою.
— А вы ж нас не падставіце? — спытаўся ён у Лявоніуса, даведаўшыся, чаго ён прыйшоў, і Лявоніусу было і смешна і горка…
Сказаў зайсці дні праз два-тры.

29

І калі прыйдзеш ты зноў да мышкі ў пенснэ, з чырвоным паяском і з кутасікамі збоку, будзе яна, як і заўсёды, акуратненькая і спраўная.
І сядзе яна важна ў дубовае крэсла за вялікі стол, завалены паперамі, згрызенымі і яшчэ не згрызенымі.
І скажа яна табе важна, але незвычайна мякка і ласкава, як самая вучоная мышка:
— Не, план нашых дабрадзействаў на катэгорыю блазенных яшчэ не пашыраецца.
І выкаціцца вялізарны гнілы гарбуз табе перад вачыма.
Мышка скажа табе: «Еш яго, ён вельмі смашны».

* * *

І выйдзеш ты з тым гарбузом на вуліцу.
Ён будзе вельмі смярдзець табе.
І ты сілаю імпатэнцыі свае адкінеш яго ад сябе.
І зробіцца табе лёгка і весёла, як пасля мінушчае хваробы.

* * *

А потым пойдзеш у трэст, што ў гэтую тваю эпоху завецца трэстам «Самапасаўпарадкаванне», а ў эпоху камунізму ў гістарычных доследах будзе называцца трэстам «Пераліванне з пустога ў парожняе».

Гэтак ты будзеш думаць аб яго назвах, але ні да чога не дадумаешся, бо не будзеш ведаць, ці будуць у тую салодкую эпоху гістарычныя доследы, ці, можа, й не, як і ўсякая непатрэбшчына.

І ўспомніш доктара літаратуры Антэка Варшаўскага, што меў ты з ім гутарку па справах літаратуры ў Камунацэнтры.

* * *

І калі прыйдзеш, нікога там не будзе, затым што ў іх выхадны дзень.

Толькі ўбачыш дварнягу адну, што ўжо прыўчаецца насіць мяшэчкі з паперамі.

Дварняга гэтая будзе ў простай кашулі і з простым тварам, дапасаваным да кашулі па прастаце.

І гаварыць [дварняга] будзе проста, толькі зрэдку ўстаўляючы малапашыраныя словы.

* * *

І спытаўшыся ў цябе і даведаўшыся, скажа табе тая простая дварняга, з кудлатым хвастом, скажа проста:

— Хадзіў я туды. Учора хадзіў. Адмовілі.

І ўбачыш ты, што гаворыць ён праўду. І ўспомніш, што заўважыў яго ўчора, сядзеўшы ў больнічнай пачакальні на лавачцы.

І ўсцешышся гэтай праўдзе, быццам скаштуеш мёду, а не перцу.

30

І пойдзеш ты ў гарод пана свайго.

Там грады з цыбуляю, а за градамі — жыта, буйнае і ўжо высокае.

І васількі ў ім. Як у полі.

* * *

Зайдзеш у самы зад, аблюбуеш мясцінку ў густой высокай траве, пад дрэўцамі.

І разасцелеш хітон свой чорны.

І ляжаш. Будзеш ляжаць.

Сонейка будзе цябе грэць. Ціха будзе вакол. Травы калышуцца шумам бясшумным.

І добра будзе ляжаць табе, добра будзе нікуды не йсці табе, не рухацца. Ляжаць і думаць.

* * *

І будзе адна палова душы твае ў гэтым ціхім спакоі і радасці, крышку меланхалічнай, але прыемнай.

А другая палова душы твае пачне дакучаць табе сваім вечным прыкрым клопатам:

— Як жыць? Што рабіць?

І будзе яна калоць цябе шылам сваім тупым:

— Трэба ўставаць!

* * *

І захочацца табе ад яе прычэпак есці.

І падумаеш ты пад яе ўплывам:

— З'еў бы я таго, з'еў бы я сяго…

— Вось на градах цыбулька. А чужая…

— Малако смашнае. Але рубель кварта…

— Як жыць? Што рабіць?

* * *

А другая палова душы твае зашэпча ў экстазе:

— Васількі мае, васілёчкі! Дзе вы?..

— Дзе вы, мае сіненькія, ціхія, сумныя?..

— Няма ўжо вас у жыцці маім…

— Загналі мяне ў аджываючую клясу, для якой васілёчкі не цвітуць…

— Васілёчкі не цвітуць.

— А калі й цвітуць, дык толькі сумам вялікім.

Так будзеш ты ляжаць. І так будзеш ты думаць.

* * *

Будзеш хадзіць, будзеш шукаць і нічога не знойдзеш.

Прыцягнешся ў логава сваё і па драбіне ўзлезеш на дрэва, на памост, у буду, у гняздо сваё[1].

Пасцелеш свой чорны хітон і ляжаш.

Але не заснеш.

Будзеш ляжаць і думаць.

І думкі будуць усё сумныя.

Крыўды многа і жалю многа будзе табе.

* * *

Шмат шчылін у жыцці і ні ў водную не пралезеш.

Праб’ецца ў тыя шчыліны сонца і зробіць духату.

І яна ж пакліча цябе на прасторы.

І не ўлежыш.

Устанеш, складзеш барахло сваё, спаўзеш з гары на дол і пойдзеш торнымі людскімі дарогамі, у канец іх, у дзікае поле.

* * *

Замест кветак убачыш капусту.

І палезеш на высокую наспу.

Сядзеш з беражку і будзеш сядзець нерухома.

Перад табою — сонейка на заходзе, дзе твой дом, дзе твой род, дзе шляхі твае мінулыя.

Адзаду ў цябе — паселішча крывічанскіх каланістаў, усё ў бясплоднай зяляніне і з разбуранымі кумпаламі старых бажніц.

* * *

Страшнае чудзішча закрычыць праразліва і набяжыць шыбкаю вужакаю на ўсе ўчуцці твае, і будзе яно выгнута дугою, доўгаю-доўгаю бясконцу.

Падляціць блізка, шух! і пабяжыць, і загрукаціць каля цябе.

А ты не адсунешся, толькі галаву крыху павернеш, каб паглядзець, ці не ўбачыш блізкіх табе істот, што паглынула яно.

* * *

І ўбачыш ты мёртвае цела белых зялёнакудрыкаў.

І ўбачыш ты налпіныя твары, самцоў і самак, у вышыванні чырвоным і чорным па беламу полю.

І будуць яны глядзець круглымі вачыма праз непрыгожыя шыбы.

І зробіцца табе сумна ад думак і заключэнняў.

* * *

І купіш ты сабе на вялікім торжышчы, каля круглай белай бажніцы, вельмі вялікай[2], лапці за рубель і 20 кап.

Бажніца — мадэль яшчэ большае бажніцы. Прыязджаў Навухаданосар і загадаў блазеннаму зрабіць яе тут і там.

Рубель — ад слова рубіць.

Сцяна і вал — ад інародцаў. І гэта скажа яна патомкам тых інародцаў і папросіць белабрысага вучонага сказаць ім гэта ў іх роднай мове.

* * *

Лапці — бацінкам тваім будуць падтрыманнем. Веку бацінкам яны прыбавяць.

У іх можна хадзіць каля гароду і пайсці ў дзікае поле. Будзеш думаць у калгас на падзёншчыну пайсці. Там аднавокі рахункавод.

Яны — як пантофлі табе.

* * *

І будзеш ты ісці з торжышча ў логава сваё, па зямлі, па траве, па каменню і па дрэву.

І некаторыя налпы дзівіцца будуць на цябе, на ногі твае і на цябе ўсяго, блазеннага.

* * *

І будзеш ты ісці дарожкаю ў яравым полі. Новыя будынкі будуць вабіць цябе дахамі сваімі недалёка перад табою.

І налпа самка дагоніць і перагоніць цябе і потым, азірнуўшыся, скажа табе прамову, каб ішоў ты да тых будынкаў будаваць но-

вае жыццё. Не будзе яна ведаць, хто ты. І не падумае яна, што размаўляе з хворым, блазенным.

Яна ўжо гэтаю дарогаю пайшла.

Яна ўжо ўвесь імпэт свой на гэтую дарогу скіравала.

Яна маленькая. Імпэт яе маленькі.

І яна вялікая ў малым. І імпэт яе вялікі ў межах малых.

* * *

На дарозе тваёй будзе навалена бярвенне, каб табе не прайсці.

Пад нагамі тваймі будуць трэскі, каб пакалоў ты імі ногі сабе.

Але ты будзеш ісці адважна і рашуча. І ўсе цяжкасці адалееш.

І прыйдзеш да самага пупа тутэйшага жыцця і будаўніцтва. Налпаў убачыш. Аднавокага пісьменніка пачуеш.

Рахункавод ім патрэбен.

І з конямі ездзіць можна, калі ўмееш. Рубель і 80 к. за 10 гадзін працы заробіш.

І кожны дзень пагулянку вялікую, туды і назад, меці будзеш. Блазенны!

* * *

Поле сваё рабіць не забывайся, блазенны!

Поле — гэта хараство.

І вольным часам пагуляць па ім можна.

Асяроддзе тваё — далёкае ад цяжкай індустрыі, ад вялікіх вытворчых працэсаў, ад кіпучасці новага жыцця.

Пакуль што — гэтак.

Потым будзе, можа, і другое.

Чым багаты, тым і рады.

Жыццё трэба ведаць з усіх бакоў. Можа, яно так, можа, не зусім. Падумаеш потым.

Спяшайся — час твой кароткі.

# Рэфлексы блазеннага імпатэнта Лявоніуса Задумекуса (Мізэрыуса Монуса)

## Частка сёмая

### 1

Дзень будзе цёплы. Будзе стаяць пагода.

І пойдзеш ты ў больніцу і ўбачыш на вуліцы і ў пачакальні хворых.

І пакажа табе налпа са страшнымі сківіцамі налпу з маладым яшчэ тварам, але са страшнаю барадою. Такія бароды носяць налпы самцы, маючы налпаў жонак старэйшага за сябе веку.

І будзе тая барадатая налпа з усімі жартаваць, шыбка паварачвацца, жвава гаманіць. На тонкіх, але моцных нагах. І боты ў яе з халяўкамі.

І скажа табе тая барадатая налпа:

— Вас кепска прывіталі ў маім гняздзе. Жонка не ведала. Мяне не было. Але, як там ні было, вось мой новы адрас. Заходзьце.

І зразумееш ты, што гэта муж Залатога Пярсцёнка.

* * *

І будзе стаяць тут яшчэ адна налпа, вельмі высокая і шырокая ў плячох, і чорная-чорная, і з аграмадным носам, як усе налпы з паўдзённых і ўсходніх краін.

І пры ёй будзе маладая налпа, таксама з тых краін, і, як відаць, сябар насастай налпе.

І яшчэ будзе даўгавязая налпа з чупрынаю і з семінарскімі манерамі.

І яшчэ будзе налпа жылістая, цягучая, з балячкамі на носе.

І яшчэ нейкія.

* * *

І пачнуць яны пытацца ў цябе, адкуль ты з'явіўся і на якую хваробу ты хворы.

І ўспомняць вар'ятаў з твае краіны, што былі тут раней за цябе.

І будзеш ты рад, што не адзін ты на свеце.
Але сэрца тваё не будзе хіліцца да іх.

* * *

Дзікун пойдзе з нейкаю налпаю, а ты завернешся і пацягнешся ў логава сваё.

Позна ўвечары, калі ты ўжо будзеш драмаць, прыйдзе адтуль Дзікун і скажа табе, што заўтра раніцою пойдзе ён на новае месца, але цябе з сабою не возьме, бо сорамна яму будзе піць белы напой паасобку.

А ты не пакрыўдзішся і нават рад гэтаму будзеш. Бо ўлюбіў ты адзіноту, блазенны.

2

І пераспіцё вы ноч, і прыйдзе раніца. Надвор'е будзе сумнае, але без дожджу. Яно тут часта мяняецца.

Дзікун будзе рад, што прахадлівая будзе яму дарога.

Збярэ манаткі свае ў адзін вялікі мяшок, злезе з дрэва і пачне рахавацца з ненасычанаю.

І словам падколіць яе за хцівасць, але так тонка, што стрэл яго будзе халасты, бо нічога яна не зразумее.

І пойдзе ён сваёю дарогаю.

А ты застанешся адзін.

* * *

І пойдзеш у дом, дзе многа гуляшчага народу, якому дакучыла гульня.

І праб'ешся да вакенца. А потым пралезеш і ў дзверы.

І скажа табе там налпа, па твару якой ты пазнаеш, што яна сукаватая, скажа яна табе:

— Блазенных пасылаем толькі на бераг мора.

І напіша на паперы: «Пасылаецца вам злодзей».

Слова тое сколе табе вочы. І ты запішчыш: «Я ж не злодзей, а вар'ят, і пры тым — асаблівы».

І ён закрэсліць слова «злодзей» і напіша слова «вар'ят», але дадатку «асаблівы» не зробіць.

* * *

І калі будзеш ты ісці на бераг мора, дагоніць цябе замардаваная вечным лётам пчала і дасць табе раду:

— Прасіся да машыны, вінты падкручваць: работа па табе.

* * *

І прыйдзеш ты ў пуп гэтае зямлі.

Будзеш чакаць галоўнага д’ябла. Галоўных д’яблаў заўсёды трэба доўга чакаць.

І калі прычакаеш і пакажаш яму свой мандат, скажа ён табе прыйсці заўтра рана.

І з гэтым пойдзеш ты ў логава сваё.

Каля лугу.

Каля лугу зелянога…

* * *

Цэлы той вечар будзе іграць у садзе музыка.

Ты будзеш ляжаць і будзеш чуць.

Будзеш рыхтавацца на новы бой.

І аплаківаць прайграныя баі.

І будзеш то паднімацца, то апушчацца на хвалях думання свайго, і адчування свайго, і жыцця свайго.

3

І калі трэба табе будзе ўставаць, тады будзеш ты хацець спаць.

І калі трэба табе будзе ўзяць з сабою хлеба і цыбулькі куст, тады будзеш хацець чаго смашнейшага.

І калі трэба будзе табе ісці гразёю, у тумане дажджавым, тады захочацца табе сонца і сухой дарогі.

Заўсёды так.

* * *

І ўбачыш ты налпу самку, што будзе плакаць няўцешна, галасіць голасам вялікім.

Лісткі свае згубленыя аплаківаць будзе.

Права сваё на хлеб, неаглядна згубленае, аплаківаць будзе.

* * *

Пасадзяць цябе лічыць фактуры трупаў для продажы на мяса ў розныя канцы зямлі.

Сядзеш ты і пасядзіш хвілін пятнаццаць.

А болей не ўседзіш.

Пойдзеш да галоўнага і скажаш:

— Не ўмею на костках іграць.

— Дзяўчаткі з танцкласаў лічуць, а вы не ўмееце, — скажа ён недаверліва і гіранічна.

* * *

І пойдзеш ты вазіць трупы.

Нацягнеш свой мокры хітон, уссунеш на заднія канцавіны разбітыя гумы і пойдзеш пабітым сабакам, што не страціў яшчэ, аднак, надзеі на кавалак хлеба.

Будзеш стаяць і глядзець.

І скажа табе голас з неба:

— Змена мінулася. Прыходзь па абедзе.

* * *

І прыйдзеш ты па абедзе.

Выпадкова спаткаешся з налпаю са страшнымі сківіцамі.

І захоча нехта ўпрэгчы вас у пару.

І ты пабяжыш уцякаць, задраўшы полы хітона свайго. І будзеш бегчы каля лугу, каля лугу зеляного, сямімільнымі крокамі, без аглядкі, ад яго сківіц, ад тэй трупярні, і ад таго свайго маладушша.

І будзеш пяяць з оперы «Ні пава ні варона» забытага кампазітара Осіпа Навадворскага.

Знаёмства тваё з ім было там, даўно, калі яшчэ не ведаў ты ўсіх салодкасцяў вялікага жыцця.

Збяжыш ганебна.

І разумна.

* * *

Ізноў будзеш ты хадзіць, не зачапіўшы рук ні за што.

Куды цяпер ісці табе?

Што рабіць?

Сумна будзе табе на тваім блазенным сэрцы.

4

І прыйдзеш ты ў вялікі, прыгожы белы палац[3]. Многа ў ім светлых вакон. Многа ў ім вялікіх пакояў.

І поўна-паўнюсенька ў ім мёртвых і жывых мудрагельцаў і плетуноў.

І для кожнага адчынены там дзверы. Госцікі, прыходзьце.

* * *

І пачнеш ты туды хадзіць.

За гасцяванне плаціць нічога не будзеш.

І будуць там да цябе падхадзіць і з табою гаманіць мудрагельцы і плетуны, а часам і круцялі з усяго свету.

За гутарку з імі плаціць нічога не будзеш.

* * *

І падумаеш ты, гамонячы з адным:

— Розум — вялікая рэч. Але колькі гора бывае ад яго.

І падумаеш ты, гамонячы з другім:

— Сані — вялікае вынаходства. Але не ў свае не садзіся.

І падумаеш ты, слухаючы трэцяга:

— Які ён контра. І сонца свеціць яму.

* * *

І будзеш ты піць. Многа, як конь. І часта, як шалёны сабака.

І зморышся ты, як у момант цвіцення.

І пацягнешся ў логава сваё.

І йшоўшы будзеш думаць невясёла: «Ну, прыйду — і што рабіць?»

І йшоўшы будзеш пытацца, дзе шукаць патрэбнае?

Дарэмныя роспыты…

5

Вуліца жыцця твайго абарвецца. Нумару далейшага не будзе.

Праз шчыліну ў плоце пралезеш.

На той свет пойдзеш. На той свет заходзіць ты любіш.

* * *

Пустэльня мёртвая будзе вакол цябе.
І ўсё будзе пакрышана, паламана, павалена.
І розуму ў цябе не хопіць, каб зразумець.
Розум твой задні. Свет тут пярэдні.

* * *

І ўбачыш ты паэму, парваную, патаптаную, у бруд кінутую.

Загаловак на ёй прачытаеш: «Свенты покуй Кулеша».

Патомкі яго там, далёка, дзе [нрзб] Красуня. І можа, думаюць яны, што ўсё тут вечна. Вечна над целам іх, пахаваным так ад іх далёка.

А тут нічога не вечна.

* * *

Налпа самка будзе ісці. Ногі ў яе тоўстыя, здаровыя. Грудзі выпнутыя, цяжкія. У развалку ідзе. Рэпу жарэ.

І спытаешся ты ў яе:

— Хто тут паламаў, пакрышыў, паваліў?

І яна выкажа здогад. Але гэта будзе праўда.

І налпа самка будзе спакойная, як рэпа.

Ты з ёю пойдзеш. Троху з ёю пагамоніш.

Чаму не болей?

* * *

І пойдзеш на свае вышкі.

Заляжаш там, як сабака, што пад’еў мяса, хоць еў бы і яшчэ.

* * *

Шляхі яны будуюць.
У шкляным доме жывуць.
Пах цвітучай акацыі нюхаюць.
Цябе да сябе не прымаюць.

Кароценькі гурочак. Як Лойка. Спрытны. Хітры. Далікатны па форме, эгаістычны па зместу. Ласкавы.

— Цяпер на кансервацыі. Праз месяц разварот.

Чакай, блазенны, чакай!

10

І там, дзе жыў святар, там будзе жыць налпа. На адну ноч пусціць налпа святара да сябе. Прыйдзе святар п’яны ўдрызг. П’янымі слязьмі плакаць будзе.

* * *

І будзеш ты хадзіць калідорамі вузкімі і цёмнымі. Там злыя сабачкі будуць хапаць цябе за лыткі. Спярша будуць хапаць. А потым будуць гаркатаць. Хай бы спярша гаркаталі, а потым хапалі.

І што гэта за дом, што поўна ў ім дробненькіх куслівых сабачак?

Дзе ж тыя вялікія сабакі? Спакойныя, лагодныя.

Дзе той дом?

* * *

І будзе табе ліпа пад вакном.

І прымус на вакне.

І памост. І драбіны.

І роў. І дрэвы.

І лёгкі вецер. І віднае-віднае святло.

* * *

А потым ляжаш на падлозе і з прыемнасцю выцягнешся.

І заснеш салодка.

Але хутка прачнешся.

11

І спытаецца ён цябе раніцою:

— Ну, як спалася на новым месцы?

— Дзякую. Нічога. Вельмі добра, — так ты яму ветліва адкажаш, за яго ўважлівасць да тваe асобы падзяку скажаш.

А сам сабе думаць будзеш:

— Чаго мяне сюды нясло? Чаго?

Сківіца ў налпы страшна заходзіць. Голас яна ўзніме. Нервы свае не стрымае. Гістэрыку сваю пакажа.

І пачне яна паказваць фігі ў кішэні. І з свае адважнасці будзе цешыцца вельмі.

І заверашчыць на ўвесь голас.

«Ах, уцякаць ад яе далей, уцякаць», — падумаеш ты.

* * *

І спытаецца ў цябе падкуслівая Налпа:

— Ці праўда, што па-балотнаму стул — падзаднік?

Ты аслупянееш.

— Вы… жартуеце? — спытаешся нясмела.

— Я не ведаю. Так мне казалі, — насмешліва яна адкажа, і морду ўгару задзярэ, і ноздры свае раздуе.

«І гэтая налпа нарадзілася і вырасла ў балоце. Жыла там, калі праводзілася балацізацыя», — горка і маўкліва падумаеш ты.

І яна паважней скажа:

— Накідаюць балотную мову згары. Мая самка мусіла балацізавацца. Ніхто яе навучыць не мог. У нашай губерні хіба ёсць балотнікі? Я іх ніколі не бачыў, мовы балотнае не чуў. Патрэбен мемарандум. Як насельніцтва само захоча. Давайце падыспутуем.

А ты дыспутаваць з ёю не захочаш.

Падумаеш: «Ну цябе ад мае галавы».

## 12

І будзе ясны дзень. І паголіцца Налпа. Да суседкі заляцацца будзе.

І ўспомніць сваю самку.

Яна мне піша: ці ходзіш ты ўжо на работу? А я ёй адказаў: каб хадзіў, дык выслаў бы ўжо табе грошы.

* * *

І пачне Налпа пералічаць свае хваробы. У яго міякардыт, неўрастэнія, малакроўе.

Але й чорт яго не бярэ.

Працаваць на цяжкай рабоце не хоча.

Да круцельства прывык.

* * *

І будзе ціхі вечар, калі Налпа закрычыць:

— Вы — прававерны. Не ведаю, нашто вас сюды загналі.

А ты яму спакойна адкажаш:

— Няма нам пра што гаварыць.

І пачне ён паказваць усяму свету фігі ў кішэні. І будзе ён страшна крычэць:

— На аблігацыі падпісаўся!

— [нрзб]

А потым захрыпіць:

— Ніхто аба мне не паклапаціцца…

14

І будзеш ты ў лазні.

15

І ўбачыш ты былога слугу Навуходаносара на беразе мора голага. Сын яго там. І сын яго тут.

І грошы ў яго ёсць.

І пакой у яго вельмі добры.

Не зайздруй, блазенны, не зайздруй.

17

І будзе ў таго начальніка выхадны.

І некаму будзе падпісаць табе мандат.

А казаў жа ён табе, казаў: «Заўтра абавязкова буду».

18

Налпачка цябе паратуе.

І прыйдзеш ты ў жоўты дом, на горцы.

І спаткае цябе таксама налпа.

І ўбачыш пакой белы.

І дадуць табе тапчан.

І белага напою суліць табе будуць.

І ляжаш ты на чыстай падлозе.

І скажа табе яна: «Столік можа пастаяць у вас дні два, пакуль сабе купіце».

19

І будзеш ты цэлы дзень шыць. Ніткамі яе. Пашкадуй яе ніткі дарагія.

І мыць.
І ўзноў будзеш ляжаць на падлозе.
Але ў ціхай радасці, на свежым паветры.

20

І пойдзеш ты ў Круткамбуд.
Убачыш кадушку з вадою і буду з касірам.
Вялікая цяснота будзе там ад сталоў.
З набіральнікам рабсілы пагамоніш.
На пабудову пойдзеш.

* * *

Дом там муруюць. Матэрыялы носяць. Кладку вядуць.
Бочкі там стаяць. Цэмент. І дошкі.
Мужчыны і дзяўчаты.
Прараб будзе высокі, тонкі, аляганцік. У чысунчовай кашулі, з раменьчыкам тонкім, і кончык бляшаны, баўціль-баўціль каля калена.
— Ваша блазенства нас не цікавіць. Нам патрэбна ваша работа.
Хлапчук аднавокі. У пільчаку і ботах. Гэта — дзесятнік.
Прыхадзі сюды заўтра.

* * *

Успомні, уздумай, прыгадай сабе, Лявоніус Янус, як сядзеў ты ў страшнай вежы, з забаронаю глядзець у вакно, і здалёк бачыў работу па пабудове.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сонца такое гарачае, дзень такі цёплы!
Воблакі на небе — як светлыя верхавіны далёкіх гор у белым бліскучым снезе.
Зеляніна дрэў грэецца на сонцы… (Гэтак ты ўжо некалі думаў і казаў. Але тады быў ты ў іншым становішчы і настроі. Няхай сабе…). Зеляніна дрэў грэецца на сонцы.
Белыя і чырвоныя камяніцы, і чырвона-бурыя фарбаваныя дахі камяніц і вялікіх драўляных дамоў, — прыгожае жыццё чалавека…
Паглядзі, палюбуйся, падумай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Лячы ж яго, лячы, Лявоніус Задумекус! Табе даецца магчымасць, — лаві ж яе за хвост, блазенны імпатэнце, бо, можа, яна апошняя ў цябе…

Апошняя, як у папа жонка.

Звёў музыку на быкі…

2

Найлепей будзе праходзіць табе час на рабоце, хоць раніцою вельмі цяжка будзе ўставаць.

І будзеш ты капаць роў: на 2 метры ўглыбкі, на 1,2 метра ўшыркі, а ўдоўжкі зоймеш покуль што на 4 метры.

І трапіцца табе «лап» — цвярдая, як камень, пластаватая гліна. Ад удару яна рассыпаецца камкамі, і камкі тыя нязручна браць на лапату.

І будзеш ты ваяваць ломам. Часта будзеш курыць і часта будзеш хадзіць пад крант піць.

Нарэшце здзенеш кашулю, застанешся да пояса голы, і сонейка будзе ўліваць у цябе цяпло сваё без жаднае перашкоды. І не будзе ўжо яно напякаць табе скуру: скура твая ўжо абышлася.

І будзеш ты абціраць чало сваё ад поту.

І будзеш ты радавацца жыццю, што ты спраўны рабочы і што добра заробіш, калі налпы не ашукаюць цябе, не возьмуць пад увагу «лапу».

* * *

Пасля работы будзеш ты ўвесь мокры ад поту. Будзеш ісці пад крант і ўвесь да пояса абмывацца і мыць галаву.

Здзенеш лапці, абуеш бацінкі. Пачысціш рукою і троху змочыш вадою чорныя штаны свае ў выцвілых мясцінах.

Яшчэ раз нап’ешся вады з-пад кранта і, здаволены, лёгкі, хоць і вельмі змучаны, пойдзеш і будзеш ісці дамоў.

3

І будзеш ты капаць сабе той смяротны дол тры дні, калі не лічыць, што вышні пласт зняў ты яшчэ ўвечары перад гэтымі днямі.

Цяжкі грунт дадуць табе пад магілу тваю. Але балазе не мокры. Ляжаць будзеш у сухім, — можа, яшчэ зробішся машчамі прападобнага айца нашага Лявоніуса Задумекуса (Мізэрыуса Моніуса) Крутагорскага.

І будзеш ты вылічаць, што выкапаў ты 9,6 кубаметра. І калі заплоцяць табе па 2 рублі за кубаметар, дык выходзіць 19 р. 20 к. Так што ў дзень зарабляў ты па 6 руб. з капейкамі. Чым дрэнна? Каб і кожны дзень гэтак табе…

Але, думаў, аблічуць блазеннага, аблічуць. Хто іх ведае, колькі заплоцяць. Як палічуць тыя дні, што хадзіў на разбіўку? І што гэта за мода — не казаць цаны, а ўхільна адказваць: «Да не ізабідзім». Быццам не савецкае прадпрыемства, а якое прыватнае, дзе работнік пытаецца пра цану, а гаспадар адказвае: «Не ізабідзім». Так адказваў дзесятнік Кляксін, малады хлопец і, мусіць, камсамолец. Ну, добра. Цікава, колькі заплацяць. Сам жа ты, Кляксін, не даваў мне земляной работы ці зрываў з дадзенае і цягнуў на сваю разбіўку. Цікава, як ты абойдзешся са мною.

* * *

Увечары пойдзеш па грошы. Але там ужо было пуста, — грошы не хапіла, сказалі прыйсці заўтра.

На ганках спаткаў Яўсея. Ад яго троху пахла гарэлачным перагарам. Ён таксама прыйшоў па грошы. Пасядзелі на ганку, закурылі. Яўсей прыстаў, каб пайсці выпіць — ён пачастуе, хоча купіць каньяку, у яго госці, і троху сам з Лявоніусам вып’е.

Лявоніус згодзіўся, бо хацеў быць цяпер з усімі добрым і простым. Дый як адмовіць Яўсею? — яшчэ пакрыўдзіцца.

Зайшлі ў магазін. Пакуль Яўсей стаяў у чарзе, Лявоніус разглядаў на сценцы плакат з фатаграфіямі…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Лявоніус насілу ўмовіў яго зайсці лепей у піўную і выпіць па шклянцы піва, а гарэлку несці дамоў. За піва заплаціў Лявоніус. Не было дробных, і было на заклад 4 руб. за два кухлі.

Так гэта было ўсё брыдка, што і піва яму не смакавала.

Потым праводзіў п’янога да самага яго дому, а сам, нібы вінаваты, хутчэй вярнуўся, каб расказаць усю прыгоду Ласцы.

## 5

І калі прыйдзе працаваць арцель Гароха, ты далучышся да яе.

Арцель тая будзе невялікая: сам Гарох — худы, жылісты, з чорным тварам і шызым носам; малады чалавек, на прозвішча Далакоп Магільны, чарнявы, прыгожы, украінска-яўрэйскага

тыпу, з чорнымі сумнымі вачыма і ласкавым ціхім голасам; чалавекі два нейкіх «былых» людзей; і далучышся ты.

І ўмовіцца Гарох з прарабам Аляганцікам, што арцель звязе вырытую на пабудове зямлю і выкапае катлаван пад кацельню, а за ўсю тую работу атрымае агулам па 2 р. 50 к. за кубаметр.

І мінецца дзень у працы. Ты першы раз у жыцці сваім возьмешся за тачку. І пераканаешся, што трэба трымацца роўна, каб не абярнуць, высыпаць спрытна, каб не заваліць.

— Жыве, блазенны, жыве! — шаптаў ён сам сабе, гледзячы на перадок тачкі, каб прыходзіўся пасярод дошкі. Працаваў ён у пары з Магільным. Насыпалі зямлю разам, а вазілі па чарзе.

Дзень прайшоў ніштo.

І ў сталовую схадзілі. Вантробаў з’елі. Абед хвалілі.

* * *

У часе ж перапынку на абед пабяжыш ты ў кантору атрымаць грошы. Чаго баяўся, тое і здарылася: яго аблічылі… Ён не меў у руках разрахунку і таму не ведаў, як і за якую работу яму паставілі цану, але агулам выходзіла рублі па 3 у дзень. Было крыўдна… «Нічога не зробіш. Трэба маўчаць. Такое маё становішча», — пацяшаў сябе блазенны, паспяшаючы назад на работу.

6

А на другі дзень прыйдзе прараб і скажа Гароху…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І пастанавіў адмовіцца. Два пачуцці змагаліся ў ім: застацца, не застацца? Адпрацаваў гадзіну і пастанавіў адмовіцца. Пайшоў…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Я вам ніякіх закідаў не рабіў, — казаў яму Гарохаў, — я гэта на Магільнага, што не трымаецца дысцыпліны. А вы дарма баіцёся, што не здолееце. Патрошку ўцягнецеся.

Лявоніус пайшоў.

* * *

І пойдзеш ты ў трэст «Пераліванне з пустога ў парожняе», хоць ведаць будзеш, што яшчэ вельмі рана і нікога там не будзе.

Але будзе табе ў гэтыя хвіліны вельмі сумна, і цвёрда пастановіш ты пайсці хоць пераліваць з пустога ў парожняе, і таму пойдзеш цяпер у гэты трэст.

Прыйшоўшы туды, ён убачыў замок на дзвярох, а каля дзвярэй, на вакне, Недарэку…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Лявоніус спакойна паслухаў яго і пайшоў.

VI

Усталі вельмі рана. Надвор'е было хмарнае, сумнае. Яна пакавала свае рэчы…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І ўсю дарогу гутарылі мала.

Прыйшоўшы, даведаліся, што цягнік спазняецца на дзве гадзіны. Стаялі, сядзелі. Людзей было многа. Усюдых было цесна і брудна ад натаўпу. І на падлозе сядзелі і ляжалі цеснаю кучаю людзі, з сваімі мяшкамі, кошыкамі, пакункамі, малымі дзяцьмі.

Потым Лявоніус запрапанаваў ёй пайсці і сесці за сталом у буфеце. Так і зрабілі. Бралі па шклянцы гарбаты, каб тут сядзець, і памалу пілі яе. Лявоніус дастаў з кішэні хлеб.

Лявоніус і Ласка, схаваныя ад людзей, сядзелі ў закутачку, пры вакне, то маўчалі, то нешта гаманілі. Потым развіталіся, каб ён прабіўся праз такую гушчэчу і не застаўся ў вагоне. Пацалаваліся. Яна заплакала.

Ён яшчэ доўга стаяў на пероне, да адходу цягніка, шкадаваў, што парупіўся выйсці, глядзеў на тое вакно, у якое магла яна паглядзець, але каля вакон клаліся на вышнія лавы, ніхто не глядзеў. Спозненыя, пазасталыя пасажыры енчылі каля замкнутых дзвярэй перад праваднікам. Дожджык усё марасіў. Цягнік усё яшчэ стаяў.

Машына крыкнула. Вагоны крануліся. Паехала Ласка…

А блазенны пацягнуўся назад адзін. Наставіў каўнер, закурыў і марудна шлёпаў разбітымі калёшамі па брудным тратуары, — квартал за кварталам, той самаю дарогаю, дзе яны ішлі на вакзал удваіх.

На другі дзень ён не пайшоў на работу, затым што на пабудове быў выхадны дзень.

Ізноў ліў дождж.

Набіўшы жывот ядою, Лявоніус пайшоў у школу школ.

І ўбачыш ты тоўсценькага парсючка ў рагавой аправе. І будзе той парсючок рохкаць: «Каб пашыць боты, таксама трэба быць прававерным». А ты пра яго падумаеш: «Пэўна ён цалуе сваю жонку ў кожнае месца», і пойдзеш ад яго.

* * *

І прыйдзеш у трэст, што размякае ад дажджу.

І дадуць там табе добрую раду: «Тут жа ў канцы калідора новы трэст, Вірсталь».

І пойдзеш ты ў Вірсталь.

* * *

У Вірсталі скажуць табе: «Разгортваемся. Падавайце прашэнне на высачайшае імя і прыходзьце кожны дзень глядзець нам у вочы». І ты падасі.

І пойдзеш.

* * *

І ўзноў пойдзеш у «Пераліванне з пустога ў парожняе».

Ісці табе будзе мокра. На душы ў цябе будзе сумна.

Ужо дваццаць ці болей разоў схадзіў ты туды. Дык сёння будзеш ісці, каб высветліць ужо канчаткова, ці тое ці тое.

Калі прыйшоў, дык убачыў таго новага начальніка, твар якога паказаўся Лявоніусу неспагадным. «О, блазенны!» —думаў ён сам сабе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Начальнік сядзеў за тым самым сталом налева і гаманіў з нейкімі паненкамі. Было яму гадоў пад трыццаць, і відаць было па ім, што чалавек убіраецца ў сваім жыцці ў самую сілу, і, пэўна, часта лашчыцца з жонкаю, і твар у яго себялюбны і да людзей, яму непатрэбных, неспагадны.

Ціха прысеў на крэсла Лявоніус, а начальнік заўважыў яго і зрабіў ветлівы твар для гутаркі. Крыху памаўчаўшы, ён сказаў спакойна, роўна і крыху нібы падбадрываючы субяседніка:

— А, гэта вы прыйшлі даведацца наконт свае заявы… Вынік, ведаеце, адмоўны.

— Чаму? — мімаволі, хоць вельмі ціха, вырвалася ў Лявоніуса.

— Самі ведаеце…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І паненкі тыя слухалі, глядзелі і маўчалі.

Лявоніус устаў, пачціва развітаўся і выйшаў.

Атрымаў канчатковы і вялізарны гарбуз. Было ўжо не столькі сумна, колькі сорамна і брыдка.

* * *

Ішоўшы міма друкарні, сам сабе казаў: не заходзь, атрымаеш гарбуза і там…

Не, зайшоў. Гэта ж мімаходам. І ліе дождж, — можна пабыць пад дахам.

Ізноў той самы прыветны загадчык ці які кіраўнік за адгародкаю. Прыветна кажа:

— Не, не трэба. Узялі ўжо тых, што былі на йспытах.

— А… ну, добра. Бывайце здаровенькі! — таксама прыветна і вясёла адказвае блазенны і выходзіць.

* * *

Дождж ліе. Добра — скуртрэст недалёка. Блазенны заходзіць.

Нейкі старынны цёмны дом. Вялікая саля з нізкаю столлю. Шмат сталоў і служачых. Каля печы за столікам — знаёмы чалавек: Чупрына! Сядзіць, доўгія ножкі выцягнуў пад стол, алоўкам па сталу барабаніць, забаўляючыся, і размаўляе з нейкім прыходжым ці, можа, тутэйшым чалавекам.

Прывіталіся.

— А вы чаго сюды? — здзівіўся Чупрына.

— Працы шукаю.

— А… Ну, пачакайце, а то яшчэ лепей — зайдзеце другім разам, бо сёння ўсё начальства ў дырэктара на паседжанні.

Крэселка блазеннаму падставіў. Пасядзелі, пагаманілі. Чупрына тут 300 руб. у месяц зарабляе.

— Яму можна, а мне нельга, — размысляе сам сабе Лявоніус, — хоць ён які, а я які…

Пагаманіў, пайшоў.

* * *

Калі выйшаў на вуліцу, дожджык перастаў. А покуль дайшоў да паўночна-ўсходняга, нават блінула сонца.

І тут усё застаўлена сталамі і столікамі. І нават яшчэ гусцей. Усюдых натыкана служачых, — што яны толькі тут робяць.

У пакоі светла, чыста. На сценах карты, дыяграмы, плакаты, партрэты правадыроў.

Кожны год даваў гэты трэст дзяржаве мільённыя страты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Схадзеце ў Круткамлес, можа, там падойдзеце, — раіць тоўсты глаўбух і ўжо адварочваецца ў свае кнігі.

* * *

Круткамлес. Балазе, па гэтай жа вуліцы, недалёка.

На падворку. Цесна. Убога. Паўтара чалавека. Рэшта, начальства, за дзвярмі, у дырэктара на нейкай нарадзе.

Нейкі служачы слухае блазеннага. Блазенны змірэнна кажа…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Служачы слухае. Ідзе за дзверы пытацца. Мусіць, баіцца, што прапусцяць такога спецыяліста.

А выйшаў адтуль і кажа:

— Не, не трэба.

Чацверты гарбуз за паўдня.

* * *

Ізноў марасіць дожджык.

Над варотамі шыльда: «Гармонная майстэрня».

Блазенны спыняецца, каўнер паставіў, рукі рукаў у рукаў, стаіць, разважае:

— Навучуся я рабіць гармонікі, вярнуся ў свой край, буду вучыць землякоў рабіць гармонікі.

Заходзіць. Склеп. Цесна. Абрэзкі, пілавіны. Каробачны цэх. Побач кантора.

Прынялі ветліва. Пасмяяліся, што захацеў гэты стары дзядзя гармонікамі заняцца. Прымаюць у вучні толькі маладых.

— Але зайдзеце дзянькі праз тры-чатыры. Параімся тым часам.

Так. Вучнем быць ён ужо стары. А вучыцца — год. Плата 50 руб. у месяц.

А што рабіць?

* * *

Ужо позна. Час табе дадому, блазенны.
Сумна табе аднаму. Сумна з няўдачамі. А што зробіш?
Ласка там недзе едзе-едзе…
Ёсць радасць: ізноў пойдзеш капаць зямлю…

* * *

Прыйдзе чалавек. Абмерае тваё логава 10,08 м$^2$ — 0,8 (печ) = 9,2 м$^2$. Да 140 руб. па 40 к. Праходны — скідка 30 %. Плаціць 2 р. 58 к.

10

Першы дзень уз'едзеш ты з цяжкім возам на крутую гару на круцяшчых калёсах семдзесят разоў.

Заморышся вельмі.

* * *

Ішоўшы з працы, убачыш на вуліцы малую дзяўчынку. І будзе яна несці на ўлонні ў прыгоршчах тысячу маленькіх бутэлечак, і будзе яна горка плакаць.

А нейкая інтэлігентная асірыянка будзе паднасіць ёй малое дзіцянё, і дзіцянё тое таксама будзе заходзіцца ад плачу, а яна будзе яго супакойваць.

— Хто цябе паслаў? Нашто ж ты яго брала з сабою? Хто ж у вас застаўся ўдаму? — будзе пытацца асірыянка ў дзяўчынкі.

А дзяўчынка анямее ад плачу і няўдачы і не прамовіць ні слова.

І ўбачыш ты, як распух яе тварык ад слёз, якая ўся яна сплаканая, няшчасная.

І памагчы ёй захочаш, але патрэбы ўжо не ўбачыш. І кроку паддасі.

І ўспомніш сваю вечную рану ў сэрцы… Вяночак на чужыне. І ўспомніш таго, каго няньчыў, а цяпер твой гадунец такі няшчасны.

Спазмы сціснуць табе горла і не стрымаеш сольнае вадкасці ў ваччу.

11

І ўз'едзеш ты на другі дзень з цяжкім возам на крутую гару на круцяшчых калёсках каля сотні разоў.

Працаваў з усёю стараннасцю, з усіх сіл, хоць не ведаў, колькі заплоцяць, і нават спадзяваўся, што напэўна ізноў аблічуць. «Арцель» Гарохава, працуючы побач, падсмейвалася і кпіла з яго, што ён так працуе, быццам на здзельшчыне.

І чуў маральнае здаваленне, што так працуе, бо гэта ж робіць ён для вялікага сацыял. будаўн. Працуе, як гаспадар, як на сваім, але без усякага ўласніцкага нахілу…

«Жыве блазенны, жыве! Будуе новае жыццё… Дом для венікаў жывым з помнікаў мёртвых…»

12

І будзе дзень трэці.

І прыйдзе табе на дапамогу жанчына, на ймя Маня, кіпяцільшчыца, бо кіпяцільнік папсуецца і яго аддадуць ладзіць.

І ўз'едзеш ты за гэты дзень адзін, да яе прыходу, 28 разоў, і з ёю 20 разоў. Гэта апрача ручной адвалкі.

* * *

Маня мала гаманіла, але каротка сказала пра сябе, што яна шмат гадоў працавала на фабрыцы, што муж у яе п'яніца, дзяцей няма, і яна нават рада, што за такім мужам — бяздзетуха.

Прыходзіў і яе муж, заносіў ключ, кінуў яго здалёк, і ключ трапіў ці ў пясок ці ў канаву. Потым і сам шукаў, і яна шукала, і дзеці, і нават Лявоніус паглядаў, каб знайсці. Знайшла сама Маня, каля перапынку на абед.

13

Сівыя хмары паплывуць. Зробіцца сумна. Будзе дождж і гразь. Вада паліецца на галаву блазеннаму. Вецер сцюдзёны будзе яму веяць, вецце на дрэвах будзе шумець.

* * *

І падумаеш ты: няўжо восень прыйшла?

І пачнеш свой абход.

Сходзіш у школу школ. Парсючок запіша твой адрас.

* * *

Адтуль завернеш у Вірсталь.

— Зайдзеце праз дзён пяць, — скажуць табе там.

* * *

У аддзел мясцовае безгаспадарчасці прыйдзеш.

З дзіваком-сакратаром пагамоніш. На Дубаўцову, на стрыжаныя віхры яе, паглядзіш.

І скажа табе дзівак:

— Рэзалюцыя: адмовіць. Я ж вам казаў.

Нібы радасць яму вялікая, што невінават жа ён перад табою.

* * *

І ў ўправу ядраў прыйдзеш.

Дадуць табе адрасы ўстаноў, дзе патрэбны блытаводы і сімулятары.

Запісвай, блазенны, але ці здолееш ты блытаводзіць, ці ведаеш ты, што такое сімуляцыя?

Блытаводу 70–80 нагат. Сімулятару 110–130.

Дождж ліе. Заўтра ў іх выпаўзны.

Чорны чалавек. Потым акажацца — кульгавы.

* * *

Ідзі ў белы дом. Даведайся, што такое сімуляцыя.

* * *

Прадай карыя штаны.

1½ прасмакуй. Цукеркі, пернікі, піва.

Трэба табе кінуць курыць. Ато надта ўжо разышоўся.

Ты — непрактычны. Ты — няўстрыманы.

Падлічы нагаты свае, — што ў цябе засталося?

* * *

Цяжкая індустрыя трапіцца табе на шляхох тваіх.

Хмарнае надвор’е. Вецер вялікі. У паліце ён быў. Вуліца — як поле. Новыя хаткі. Выган. Станцыя недалёка.

Барак. Пабітыя вокны. Больніца. Рамонт. Пералез праз плот. Лясок. Пні.

Завод. Крамка. Цукеркі. Пернікі.

Кантора. Асабовы стол. Буфет. Стол кадраў. Загадчык. «Не траплялася такіх выпадкаў у маёй практыцы». Чаканне «пам-дырэктара па працы». Ён пайшоў у горад. Стаяў ля дзвярэй. Не дачакаўся. «Не возьмуць мяне тут». І дужа далёка хадзіць.

І пайшоў блазенны ад цяжкой індустрыі назад.

14

Грыбоўніцу чорную есці будзеш. Вантробы.

15

Вакханалія.

Учора ў сталоўцы быў вельмі благі абед, і таму сёння Лявоніус не пайшоў абедаць. Узяў у Яўсеіхі бутэлечку малака і з’еў з хлебам.

Увечары — пачалася вакханалія…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У яго быў канец пяску. І ён думаў, што трэба пакласці канец рабоце ў Круткамбудзе. Вазіў угару. Цяжка. Гэта не тое, што ссыпаць уніз. І баяўся: зноў аблічуць…

Увечары спаткаўся на вуліцы з Гарохавым. Абвестка ў «Кру-тагор. праўдзе». Патрэбны рысаўнікі.

16

Камгас. Аддз. мясц. гаспад. Выясненне.

— Усё роўна, хто паклаў рэзалюцыю. Пішэце новую заяву, — сказаў сакратар.

— Нічога тут не выйдзе, — падумаў Лявоніус.

* * *

Майстэрню муляжоў убачыш. Планы свае, што былі яшчэ ў дарозе, успомніш.

І пойдзеш туды.

Дзяўчыну знаёмую ўбачыш, вучаніцу тутэйшую. І скажуць табе: «Куды ты, стары, прэшся?»

* * *

І тады пойдзеш туды, дзе робяць прылады для навучання фокуснікаў твае эры. На другі паверх узойдзеш. Баранчыка спаміж сезоннікаў убачыш.

Атэстат свой пакажаш.

І скажуць табе: «Добра. Схадзіце ў ядры».

* * *

Прыйдзеш у ядры. Атэстат свой пакажаш. І захочуць зрабіць цябе фокуснікам зямлі. А ты закрычыш ад страху. І нарэшце адчэпяцца ад цябе. Напішуць табе мандат і пашлюць назад туды, дзе робяць прылады для навучання фокуснікаў твае эры.

* * *

І на ўсякі выпадак зойдзеш ты ў шкляную буду. Там будзе тоўстая вучоная налпа ў белым жупанку. І за плячо цябе грызне і радасна рыкне: «Прыйшоў, прыйшоў наш жаданы».

І другая вучоная налпа, у шэрым брыльку, пойдзе з табою ў тутэйшыя ядры гадзіць. І нагадзіць хутка.

І зноў назад прыйдзеш.

І тоўстая рыкне: «Заўтра, а хоць і сёння, наш ты жаданы».

«Заўтра! Як неспадзявана!» — радасна падумаеш ты.

* * *

Яшчэ да аднавокага, як той дзесятнік, сходзіш.
У другі пакой выйдзеш. У кнігу ўлезеш.
На гару сходзіш, у карты ўлезеш.
«А ці воін ты?» — спытаюцца ў цябе.
І пабяжыш ты без аглядкі ў жоўты дом.
«Нічога табе не трэба!» — скажуць табе там.
Вернешся. І ўсё будзе скончана.
Пагінуў, блазенны, пагінуў…

# Скокі блазеннага імпатэнта цёмналескага

## 17

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У залатым чоўне на выспу Патмос. Успаміны маюць вялікую моц. Пачуў сябе блазенны абагрэтым. Успомніў маці сваю. Гэта яе радасць.

* * *

А Лявоніус прыходзіў на новую работу, вешаў нумарок («марку») у скрыначку і йшоў у сваю кантору.

Гатав. дакляраваў прынесці інж. у брыльку (прозвішча яго Бляянькоў). На другі дзень забыўся прынесці. Вусаты рысаўнік даваў цыркуля на час.

Не сходзіліся цыфры. «Няўжо так і робяць? » — сам сабе ціханька думаў Л.

Рысаўнікі ішлі і йшлі. Паненкі з тонкімі нагамі, пані з тоўстымі нагамі. Маладыя людзі з тоўстымі і тонкімі насамі. Былі простыя і ў капелюшох. Горад рысаўнікоў.

Абед 12+13+13+15?

Балела вельмі спіна.

Суботніка за дажджом не было. Заўтра.

## 19

— Рада за вас. Там паёк добры.

Восень. Дождж. Сумна.

Суботнік а 6-й гадзіне ўвечары. Густа ад людзей. Разнакалёрныя хустачкі. Чорны мурашнік. Белыя лапаты. Гальку адсыпаць ад дарогі.

Цяжка, наеўшыся, блазеннаму. Спіна баліць. Што такое? Як хворы.

Працаваў, стараўся з усіх сіл.

Дождж ідзе.

20

«Купон за грошы мы атрымалі даўно…»

Спалася дрэнна. Прастудзіўся. Мусіць, як выходзіў увечары на вуліцу, разагрэўшыся ад кавы. Прачынаўся. Чуў, як гадзіннік у кватэры Кажуховых біў пяць.

Ляжаў да шостае. Выйшаў у ўборную, ведаючы, як цяжка туды праслізнуць, калі прачнецца жаночы народ і пачне хадзіць па кухні.

Ізноў ляжаў. Устала Еўфрас. Аляксандр. Наставіла самавар. Загаманіла з нейкаю жанчынаю ў сваім пакоі, — аказваецца, у іх начавала яе прыяцелька з двума хлопчыкамі.

Устаў каля сёмае. Косці баляць. Ныркі баляць. Благі настрой.

Схадзіў па ваду. У галёшах. Разлівалася.

Напіўся кавы. **Даеў гарохавую кілбасу**.

Узяў дамавую кніжку, пайшоў выпісваць Ласку. Рана. Чаканне. З гадзіну. «Сёння выхадны». Абвесткі ж: штодзённа. Да начальніка. Не паслухаў той. Непрыемн. размова. Успомніў сябе, хто ён цяпер, і змоўк. «Вучыся маўчаць, блаз.!»

У магаз. Шкло 8 к. **Аграмадная чарга па хлеб**.

На рынак. Лямпа **3 руб. за дрэнь**. Б.-доны — **5** руб. за дрэнь. Дамоў (са шклом і кнігаю).

**Кілбасы няма**. Шуканне бідон. Вядро ў ЦРК, невял., **2 р. 40 к**. У адчыненую пасуду газы не даюць.

Ножык — **70 к**.

Ізноў на верхні рынак. Гарэлка **20** к. Кнот, чвэрць 10 к. Дамоў. Абед. **Два баршчы** [нрзб], дзве шклянкі гарбаты па 5 к. Кашы забыўся купіць.

Дамоў. Ляжаў.

«Грошы за купон атрымалі даўно…»

Прачнуўся ад кашлю.

Дзеці бегаюць, сваволяць. Бутэльку купіў (50 к.) і прадаў. Раней вядро так (за 3 р. купіў), за столькі ж прадаў. Куды ўзяць газу?

Дамоў. Стукаў паўгадзіны. Улез праз вакно. У лазню. 25 кап. Добрая лазня. Гэта сапраўды дасягненне.

Лямпа прынесена.

Гурочак. Спаць…

І будзеш абдумваць, колькі маеш грошы і што табе есці. Чарцёжная работа таксама цяжкая — баліць спіна. Ёю многа не заробіш. Масла кароўскага больш не купляць. Есці гарохавую

каўбасу. Бульбу з алеем. Купіць бы кацялок. І будзеш думаць, ці можна варыць на прымусе ў місцы. Добрая сталовая на фабрыцы, трэба там больш есці за абедам танных страў. Там жа браць і шклянку малака (**15 к**.). Малака на рынку не купляць.

І пастанавіў схадзіць у партамойку. Раненька.

І развесіць памытае на плоце. Табе ўсё можна. І падумаеш, што трэба табе схадзіць у лазню. Рамонт скончылі, адчыняецца дзён праз пяць.

Душна будзе табе ляжаць. Хоць вакно будзе адчынена і пойдзе дождж. Ты ўстанеш і закурыш. І пачуеш, як гадзіннік б’е 11. А раней таксама налічыў 11. Значыцца, тады біла 10.

Ляжаш і ўзноў будзеш думаць, успамінаць родных. Жыццё бацькоў тваіх канчаецца. Маці тваёй лягчэй у калгасе, — не надрываецца на рабоце. Аксёна патроху хварэе[4].

І яшчэ доўга не заснеш ты ў гэты вечар, хоць галасы на вуліцы ўжо сціхнуць, аўтамабіль некуды пойдзе, і ўвесь дом даўно ўжо будзе спакойна, ціха спаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Куры будуць сакатаць гдзесьці пад плотам, на суседнім падворку. Малады певень кукарэкне там ранішні крык. І далёка запяюць пеўні. Адзінокая фурманка пратарахціць па вуліцы.

Так пачнецца табе гэты дзень твой. І ўспомніш, як казалі старыя людзі: «Дзён у Бога многа». А ты яшчэ не будзеш мець адпаведнае формулы, замест гэтай старой.

Мікалаўна будзе ісці ад варот. Тоўстая Вера-Магдалена крыкне ёй ад варот: «Мікалаўна! Там ідзі, там!»

— Аў! — адгукнецца Мікалаўна. І пойдзе на вуліцу.

Тысячы замкоў і запораў у гэтым доме.

Што сёння рабіць? Што рабіць зараз?

Дзверы ў кухні заскрыпаюць. Скрыпучыя дзверы.

Усюдых тут, скрозь, скрыпучыя дзверы.

Нічога, жыві, блазенны.

Трэба жыць.

«Трэба жыць, як набяжыць», — казалі старыя людзі.

Ты цяпер не маеш свае формулы.

Але ты будзеш мець.

Жыві!

## 23

Лявоніус сабраўся ў партамойку. Пайшоў з торбаю. Хатка ў рове. Чарга. У карыце жанчыны палошчуць плацце. Пасядзеў, паглядзеў, пайшоў назад.

Увечары да Дзікуна. Яго няма. На вуліцы сядзіць гаспадыня. Кусашчы сабака кідаецца з-за хворткі. Хлопчыкі трымаюць фортку.

Гутарка пра цукеркі. У яе дачка такая, што не ўтрымаецца і паесць усё скора. Нявыгодна цукеркі купляць (пры яе натуры).

Прыйшоў Дзікун. Прайшліся па тратуары. Ён пацее, працэс развіваецца. Чакае адмовы ў педінст. Сала яму яшчэ не прыйшло. Сумны настрой у яго. Нелады з гаспадыняю (апісаць, як яна крычэла на яго: «Злодзей! Разбойнік! Контра! Сядзеў! Я яго карміла, паіла!..»).

24

Будзеш есці капусту, кашу, вінегрэт. І на службе яшчэ раз — капусту, кашу, і вып’еш шклянку гарбаты з цукрам. І будзеш як барабан.

Выйдзеш з страўні на вуліцу і трапіш пад буйны дождж. Схаваешся каля ўваходу ў склеп, дзе дзверы з драўлянаю кратаю. І падумаеш: краты, краты! Дождж хлыне вялізны, густы.

Возьмеш у Еўфрас. Крутагорскай бідончык і чвэрць і пойдзеш па газу. Чарга вялікая. Не знойдзеш тых, каго прасіў, каб прымецілі. Уваб’ешся каля століка. Не будуць пушчаць цябе. За рамень смаргаць будуць. Інтэлігентка ў пенснэ злая. Дзяўчына ў чырвонай хустачцы добрая.

І выпішуць-такі табе квіток, і пойдзеш заплоціш у касе. А тады станеш у чаргу — атрымліваць.

Доўга прыйдзецца там пастаяць табе. Пачынаючы з зямлі, каля ганкаў. Як узбярэшся на ганкі, сонейка прыпячэ табе шыю. Будуць стаяць жанчыны і мужчыны. І смаленскі чалавек з-пад Хоцімску. Машыніст. Цяпер на пенсіі. З войска тут застаўся. Ездзіў 30 гадоў. Цяпер яму 69 гадоў. Чатыры сыны з вышэйшай адукацыяй. Два доктары, геолаг і інжынер. Два дамы нажыў. Сівавусы, брухаты — гэты мужычок з-пад Хоцімску. Мужычок-кулачок.

Накачваць будзеш газу. Атрымаеш. Пойдзеш.

Увесь вечар полькі, кракавякі.

Гаўкаюць сабакі.

Вакно адчынена. Цёпла. Толькі шапку надзенеш на лысіну. І коўдрачку падкладзеш пад косці.

Адзін. Як там родныя твае? Ты — адзін.

Частка дзевятая

**Верасы**[5]
Верас шалясны

I будзе яно добрае, яснае, але ўжо халаднаватае.

I будзеш ты старацца з усяго жылля свайго. I абдумацца табе не будзе часу.

I будзеш ты мыцца і думаць пра дасягненні.

4

Пагода. Сонца. Ныркі.

I будзеш ты выпаўзны. I будзеш класці на рыззё сваё знакі забаронныя. З мяшэчкам будзеш цягнуцца на ўскрай свету. I пра ступень дасягненняў думаць.

I выбегуць з цырульні вар'яты, каб адабраць у цябе вострае тваё[6]. Малады вар'ят пацягне за сабою. Старую вар'ятку там убачыш. Старыя размовы пра старое пачуеш. I будзе яна казаць: «Мы людзі парадачныя, хоць у каго спытайцеся; муж быў доктарам у Замір'і. I гэта свой дом, усе нас ведаюць». I скажа малады вар'ят: «Чалавек у нястатках, а мне патрэбна добрая рэч, дык чаму не памагчы». I будзе ён здаровы, чырвоны, спрытны.

Цэлую ноч будуць балець табе ныркі. I будзеш ты думаць: «А можа — хрыбціна?» I не разбярэш, што гэта такое.

I прынясе табе Марыя-Магдалена шаньгаў. I ты пажрэш іх, як галодны сабака мяса.

* * *

I ў справе электрычнасці будзеш хадзіць.

* * *

I ў пайнікі такіх блазенных не прымаюць.

I калі йшоў блазенны з працы, убачыў дзяўчынку гадоў 12-ці, бегла сагнуўшыся, узяўшыся рукою за шчаку. Галава абвязана белаю трапкаю. I кроў заўважыў засохлую блазенны. I худзенькая спінка. I бедная спаднічка, і растаптаныя бацінкі.

Плакала ад гора няўцешна. Свету не бачыла. Сполах і непрыемнасць прыгнялі яе рассудак.

Бегла ў амбулаторыю.

Аб падлогу…

Ай! Слёзы на ваччу ў блазеннага.

9

Ты праcтудзіўся, у цябе кашаль, катар. Цягаешся ў восенскім паліце-халатоне.

Ходзіш да пракурора, слухаеш суды, як скандаліла п'яная і яе пабілі, плоціш авансы, бярэш цукер, мыла, гарох і рыбу. Колькі неспадзяваных багаццяў!

Прыходзіш дамоў і знаходзіш пасылку ад бацькоў. Сала, мёд, яблычкаў трошку. Добрыя да цябе.

Надвор'е сцюдзёнае. Было хмарна. Па абедзе бліснула сонца.

10

Вокны запацелі. На двары восенскі ранішні холад. І сонца блішчыць на крайку даху.

А няма горшае пакуты, як галіцца тупою брытваю. Блазеннаму ж некалі, шкада часу нават навайстрыць брытву.

Надвор'е такое прыемнае.

Прыемна несці поўныя вёдры вады ад мястовае студні. Ідзе, блазенны, хуценька, дробненькімі сіжкамі, — не будзе разліваццa. Людзей спяшаецца на рынак яшчэ мала, — мала размінанняў на тратуары.

Хто дасць гэтай старэнькай жанчыне цукерку? Каму патрэбна бедная старэнькая жанчына!

Яна патрэбна толькі насіць ваду, па 20 кап. за суды. За паўтара квартала.

А «працоўныя інтэлігенткі» самі не пойдуць.

Яны часам ушчуваюць яе. Азіраюць падазрона.

А яна піхае яго пальцам у спіну, шэпча: «Бяры вар у кубак, бяры!»

* * *

Праектаваць лесапільню будзеш. Ён пра сябе скажа: «Я не магу. Мне трэба ў псіхіятрычную бальніцу».

* * *

Золь і туман, восенскі холад і цямнота. У летнім лёгенькім пільчачку пабяжыш. Прыйшоўшы ў логава сваё, пра святую інквізіцыю чытаць будзеш.

14

Прыемна адчыніць вакно прахалодлівым восенскім днём, хоць і хмары на небе павіслі, хоць і дождж усё сыпле і сыпле. Прыемна.

Сядзі і глядзі ў вакно. І думай. Няма куды йсці.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Табе хочацца, каб цёмным восенскім вечарам сядзець у цёплай хаце, пры спакойным святле, і каб гадзіннік цікаў на сцяне, і самавар гудзеў пры кухоннай печы. Ціхая будзе вячэра.

Кажуць, гэта — мяшчанства.

— Ціхі сум увайшоў у душу, — кажа блазенны.

15

І пачнецца дзень твой сцюдзёным восенскім раннем. На двары будзе гразь і холад.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І пасыплюцца з неба на гразь белыя крупкі. Снег і дождж. Холад.

За дзвярыма тваімі госці. «Хросны».

У пачакальні быў.

17

Працаваць яму было вельмі цяжка. Балела сярэдзіна, ныла левая нага. Усе косці ламіла. Думаў трывожна: што гэта? Старасць, ці што?

19

Дзень будзе сушэйшы. З вуліц будуць саскрабаць гразь. А гразь-гразь!

І махорка пачка 1 р. 50 к.

І будзеш ты думаць: ці не пачаць лепей піць гарэлку, чым курыць?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І пайсці ў поле? Развітацца з летам…

А там — восень, холад, вецер, дождж… Зіма — лютая, маразы, снягі, завея…

Хоць бы даўжэй пратрымацца яму на гэтай службе.

Учора быў зусім разбіты, хворы.

І дужа забаліць табе галава.

І пойдзеш. З'ясі нішчымнае крупені і кашы з малаком. І пойдзеш за горад.

Міма пабудовы лазні. Старыя знаёмыя. Маня. Аднавокі. Лішэнец. Практыканты. «Па вашай разбіўцы…» Ах ты, жулік!

Поле. Капуста. Рэпку, што ў кішэні нёс, з'еў…

Куды ісці?

Гуркоўнік пусты. Дзеці шворацца.

Елкі. Адзін ён тут…

Кашка ўвышкі з чалавека. Стада коз. Шумацяць.

Камбінат. Дарога. Людзі. Масткі.

Могільнік. Пабітыя помнікі. Каровы.

Стары могільнік. Сум. Успаміны. Помнікі. Напісы. Буржуазная культура.

* * *

*19/IX*

Піўная. Бойка. Міліцыя.

Кааператыў. Кілбаса. Гурок.

Вечар.

У залатым чоўне на выспу Патмос. Труна невялічкая. Жанчына века накладае. Дзяўчаткі прабягалі. Спевы. Выхад. Гразь. Цямнота.

Сон. Звальненне з службы.

Гразь невылазная.

22

Мяса конскае. Вусаты з чорнымі вачыма, гаворыць прадмову нацдэмам, смяецца ён з іх, нічога ім не дасць. Звальненне з службы. «Я толькі для цікавасці сеў у човен, я ж пісьменнік, мне трэба ведаць геаграфію…»

29

Шпаклёўка вакна. Пацяплела ў хаце.
Снег. Мокра.

## Частка дзесятая

Падаюць лісты…[7]

Спакой грамадзяніна Лявона Задумы.

1. Годзе быць табе блазенным імпатэнтам. Час табе быць грамадзянінам, хоць і дэфектыўным.

«Цёмныя» ходзяць па вуліцах. Бываюць у магазінах, у сталоўках, на пошце, на рынку, у лазні. Працуюць у майстэрнях.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але ўсё ў парадку.

І сонца восенскае свеціць ім, як усім. І гразь восенскую топча Лявоніус Задумекус, як усе.

Маці з сваёю цёткаю белабокаўскаю, нябожчыцаю Агатаю, едуць па чыгунцы ў госці.

— Куды?

— У Кішанькоў, — лагодна адказвае Лявоніусу маці.

«У Кішынёў… А яна не ведае добра і вымаўляе: Кішанькоў. Што там ім, хто там у іх, у Кішынёве?» — дзівуецца Лявоніус.

— А як жа, там ё радня ў мяне, — адказвае баба Агата.

Ён дапамагае ёй з прыступачак сысці.

* * *

*3/X*

Ныркі турбуюць блазеннага. «Што гэта за хвароба? Але, спакой, спакой, грамадзянін Задума! Жыццё тваё пражыта. Каму патрэбна тваё здароўе».

Усе дрэвы пажаўцелі. Жоўты ліст густа сыплецца на брудны дол. Восень прыйшла, позная восень.

Хай не свярбіць твая галава. Памый яе хінным мылам з бутэлечкі. Па бялізну схадзі, — месяц канчаецца. Няма табе часу.

І апостал Навум доўга сядзеў у цямніцы, а потым падвергглі яго баніцыі ці астракізму.

Прыпынак для падарожных.

Гразь страшэнная. Калёшы дзіравыя.

Зморанасць. Сон.

Гразь страшэнная. Калёшы дзіравыя. Бацінкі прамяклі. Шлёпае блазенны трэці раз.

Адна ездзіла па бабулю, другая завязла да дзядзькі цёцю, трэцяя ездзіла да мужа.

Адна апавядае, як 12 жанчын просекам ішло, другая апавядае, як бабуля дамоў ішла і ўночы пад сваё вакно падышла, кавалак хлеба і ягад прынясла, трэцяя кажа пра ўсё жыццё [нрзб].

Няма раз, няма два, няма тры.

На вяселлі гуляе блазенны.

Жыццё пражыта. Ці варта ратавацца?

5

Стучыцца блазенны пад вокнамі і пад дзвярмі соннага дому. Рана свет засвітае. Пеўні крычаць.

Шапку перавярнуў казыром назад. Рукі сашчапіў. Ногі прамяклі.

Марфа-Магдалена зжаліцца над блазенным. Пракопанік будзе шлёпаць босымі нагамі ў аднэй сподняй адзежы. Будзе шкадаваць і вымаўляць.

Сон кароткі. Вочы чырвоныя.

Сала кавалачак даедзены. Па ваду сходзіш.

Ідзі, спяшайся, блазенны.

10

Даручэнні пасланы.

Сербіянін апавядае пра дальнія краі.

Жанчына разбіла галаву, звалілася з сходаў і аб скрыню ўдарылася.

Граф Сэн-Сымон казаў: «Трэба пабыць у розных становішчах, каб пазнаць жыццё».

Сям’я падтрымлівае. Сям’я будзе.

Сялянская цямнота ў аднос. да калгасаў.

Кабыліч. Кабыляціч. Конская галава. Парода такая. Трус. «Сколькі Богу ні маліўся».

Соплік па глупству казаў.

11

І ўбачыш ты Стахвана з бародкаю. Некуды едзе, ці што.

Блазенны цалуецца з дубком маладым, а рэзанік не пацалаваўся.

Зайца ядуць, гарэлку п'юць; а яго не запрашаюць.

«Няўжо дойдзеш ты да самагубства». Нашто думаеш пра гэта?

А ён вешаўся. Знялі з пятлі, — сербіяніна гэтага нервовага.

12

Па абедзе ўвечары раптам вельмі сумна зрабілася блазеннаму. Што рабіць, за што ўзяцца?

Паласа няўдач і цяжкога настрою. Няўжо блізка смерць? Разгадка тайны… Сляза сплыве з вачэй перад смерцю, без слоў, з адною тугою маўкліваю, у думках.

14

Дзве дзяўчынкі і маці[8]. Дзве цукеркі і два яблыкі. Цяжкі кош. Бледныя дзяўчаткі. Усе іх хваляць. Большай шэсць год, яна ўжо дапамагае маці.

## Прароцтва

XI

І паедзеш ты ў залатым чоўне на выспу Патмос.
Успаміны маюць вялікую моц.
Пачуў сябе блазенны абагрэтым.
Маці сваю ўспомніў.
Гэта — радасць яе.
І ты будзеш шукаць згубленую радасць жыцця свайго.
І знойдзеш, і не знойдзеш.

Дакучыла мне валаводзіцца з табою, блазенны!
Думаю я пахаваць…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*1931–1932*

## СКАРБЫ ЖЫЦЦЯ

1. Браму скарбаў сваіх адчыняю: падходжу і так, падходжу і гэтак, пасяджу, адсапнуся — і зноў адчыняю, псую сабе гумар.

2. Цяжкаватая брама, панурая вельмі, завесы на ёй паржавелі, замок папсаваўся, ключ у замку не хоча круціцца, — замардавала мяне.

3. Падазрона гляджу па бакох, асцярожна рыхтую запас тлумачэнняў: можа, госці залучаць, а хто яны будуць?

4. Чакаю спагаднага, блізкага сэрца, але ж брама адчынена ўсім… Хай заходзяць! Прыняць іх гатоў. Цярпліва, пакорна прымаю: добрым манерам я добра наўчыўся…

5. Госці будуць ці не — сам пацешу сябе. Зраблю парад дасягненняў. Набыткі злічу. Новай сістэмы замкі на ўсе тайнікі панавешу.

6. Дабра прыхавана нямала: залатога смутку багатыя скрыні, самацветнай бяссільнасці доўгія нізкі, бясцэннае роспачы буйныя зерні…

7. Адчыніся ж ты, брама, нарэшце! Іржа цябе ела — не з'ела, і замок можна паладзіць, і ключ падабраць…

О мой край! О мой шлях!

Пагляджу я не рамантычнымі вачыма…

Вялікая пустэча стаіць мне ўваччу…

Там пушча, там гай; там бор, там хмызняк; там балота з рэдкім лесам, там сыпучы пясок; вось — стужка вадзяная, вось — голы плех; вось — шэрстка нівы і травы, вось — кучкі, хаткі…

Раўнядзь. Троху-троху пакарбачана…

* * *

Бачу я поле, нуднае поле…

Аднастайнае, шэрае, няўробленае поле разляглося на абедзве старонкі ад крывой, вузенькай калюжыстай дарогі.

Хударлявыя каровы, і калматыя, заезджаныя коні, і вастралычыя, ашмурэла-галодныя, вісклівыя свінні, і слабыя духам авечкі — таўкуцца на ўбітай, як ток, чорнай зямлі, дарма шукаючы сабе пажывы: ці травінкі, ці карэньчыка, ці гнілое леташняе бульбінкі, каб толькі нешта з'есці…

* * *

А каля статку хадзіў я згаладнялы, у бруднай сярмязе, увесь распайсаны, увесь у дзірках, і ў пажаўцелай маргелцы, і ў разбітых лапцёх з мокрымі абпэцканымі анучамі, з урэзанымі ў нагу ад мокрасці аборамі.

Берасцяная труба і вясла кручаных лык на сагнутых, пакорных плячох; даўгая вузлаватая пуга ў руках; убогая жабрачая торба збоку…

* * *

А спераду, каля свіней, — бледзенькі, худзенькі хлопчык…

З гэткаю ж, толькі троху карацейшаю пугаю; з гэткаю ж, толькі троху меншаю жабрачаю торбаю; і з расхрыстанымі, рудымі ад ветру і загару, худымі грудзёнкамі; жаласна абвісла запэцканая, чорная, адно буйнымі і дробнымі дажджамі мытая кашулёнка…

Братка ты мой, братка!

* * *

А ў канцы поля — лес, абгорнуты сіняю, туманнаю смугою. Перабягаюць цераз дарогу авечкі, шуміць над дарогаю бяроза. І ходзіць тая жоўтая, бялявая маргелка сярод вялікага маркотнага поля…

Ходзіць яна з трубою па полю, па балоце, па лагу, па кустохмызнякох, у пушчу і з пушчы — ходзіць… І ўсё.

— Тру-гу-у… Тру-гу-у… Тру-гу-гу…

Яна галосіць аб вечнасці. Яна пяе вечна аб вечнасці.

— Тру-гу-у!..

* * *

А ў тым полі ёсць узгорак, а на ўзгорку — гай. Шумяць вечныя бярозы, а пад імі — могілкі.

Нудна-шумліва, густа-зялёна ўверсе: шумяць сваімі вялікімі густымі мётламі бярозы ў бязмернасці сусвету. Сумна-кінута, забыта-недагледжана ўнізе: сціраюцца мізэрныя курганкі.

Пагнілі, патрупехлі, паваліліся крыжыкі…

* * *

Рудая, лычкастая свіння, з доўгім, голым, маршчынаватым хвастом, са шчэццю стаяком на хрыбціне, рохкае, рыецца ў сваёй вечнасці…

Вырыла косці — шэрыя, струпехлыя, зямля на іх наліпла; рохкнула і пайшла рыць яшчэ дзе.

* * *

О мой край! О мой шлях!

Бачу я бясконцы спрадвечны шлях у пустым вялікім полі.

І — падарожнікаў…

Палатняныя хатылі на плячох. Сляпыя вочы. І цёмныя потныя крыжыкі на відных з сарочкі худых грудзёх, там, дзе цьмяны ад сонца пасак на целе.

Наўкола — жудасна-ціхая пустэльня. А ў ёй — шарпанне ног крок за крокам. Жудасна-марудны крок. Вечнасць. Хада…

* * *

Бачу я поле, жніво. Узмахі жменек жыта, сагнутыя спіны, нахіленыя белыя галовы.

Чую песню. Далёкую, маркотную — і жудасна-спакойную песню. Вечную песню!

І вечнасць варушыцца ў маёй істоце: ідзі, ідзі! Усе ідуць — ідзі ты.

Стапталіся мае лапці, урэзаліся аборы ў ногі, давяць матузы ад хатыля. Ідуць — іду. Узіраюся ў вечнасць.

Пыл, пот, крыжыкі на грудзёх — як у мангола выразаны з каменя абраз змеяпадобнае свінні, — і марудны, а бясконцы крок, вечнасць… Вечнасць!

* * *

Бачу я высокі, абліты капкамі стол. Драўляныя лыжкі-булдавешкі, нячыстая міска, поліўка…

Мала поліўкі… Пахаваная злосць у грудзёх. Адзін цягне пад сябе, другі — пад сябе. І яшчэ раз, і яшчэ так. Гуляюць у перацяжкі.

Разламілася міска, палілося… Крык, слёзы. Булдавешка стукнула, мокрая ад поліўкі, па тым, што будзе спакойнае, вечнае, непарушна-акамянелае, а на ім — венчык.

* * *

Мёртвая вуліца. Снег налятае.

Нечы конь з санямі, прывязаны да плоту. Ён спусціў галаву і стаіць. Ён будзе вечна стаяць.

А там яшчэ сварацца. Яны будуць вечна сварыцца то перастаючы, то ізноў пачынаючы.

Мёртва на вуліцы. А скрыпнула вага пры калодзежы: нехта жыве…

У сцюдзёнай хаце сакочуць у падпеччы куры… Жыццё, вечнае жыццё!

* * *

Бачу я карчму і ком белага холаду ў дзвярох, слізкую падлогу і начлежнікаў на парозе…

Чую пах селядца і гарэлкі. Чую храп пеpaзяблага чалавека і кашаль яго як у кадушку.

І драмотныя, сціха-клапатлівыя галасы іхныя, спрадвечных жаласных пустэльнікаў, у бязмернай, засыпанай снегам, сцюдзёнай, цёмнай, безбярэжнай і мутнай пустэльні.

Чую хрып, скрып. Капашэнне ў вечнасці. А гэта — адзін этап. І ўсё!

* * *

Бачу я поўную хату людзей. Круг. Скачуць.

Скрыпка, бубен: цацкі, прыдуманыя падарожнікамі дзеля палёгкі ў хадзе… Цацкі… Полька і кадрыля… Круцяцца…

Смех, жарты. Святкі. Гуляюць падарожнікі. Гуляюць, круцяцца ў безуважнай, немай вечнасці.

І ты — круціся! Вырві маркоту з свайго сэрца і круціся, круціся! Музыка варушыць у табе вечнасць — вечна маркотную, часам вясёлую.

Дык круціся ж, круціся! Не зняважыш гэтым вечнасці. Бо і яна ў табе, і ты ў ёй. Не выскачыш — круціся!

* * *

Бачу я поўную хату людзей. А ў ёй — новая, белая труна: фуганкам выструганыя шалёвачкі.

Бачу я жоўтае, вечнае, невядомае. Венчык на чале. Сашчэпленыя, вымытыя да сіняга, працоўныя рукі.

Гэта ж ты сам!

Не бойся, не адхіляйся, прыпадзі пытлівым зрокам колькі хочаш, падумай. Паглядзі на сябе, бо гэта ж ты сам…

* * *

Гоман сціха-пакорны. Пах ладану і мёртвага цела. Полымя ад жоўтых свечачак: у полымі — вечнасць…

Выюць, галосяць. Па ім, па сабе плачуць. Рухаюцца ў пустэльні, у вечнасці.

Адказу няма. Вечнасць, маркота.

* * *

Гарматы грукаюць. Агонь. Перапалка. Галасы. Стогнуць. Смертаноснае коллейка ў руках зверападобных, але двуногіх істот з самым важкім камком у чарапочку.

Лес ад коллейка, лес ад чарапочкаў. Вал на вал… Мора падарожнікаў — хвалюецца, б’ецца, плешча, разліваецца…

Стрыкоча птушачка ў ціхім блакіце светлых нябёс.

І скрыўленыя набок санкі ў крыві; рот вечна смяецца — мёртвы. Скручанае цела. І яшчэ такі, і яшчэ. Наўзнак, на баку, з падвёрнутымі рукамі, з падкорчанымі нагамі, ракам, ніц… Трупы падарожнікаў.

* * *

Вечнасць. Жуда. Тое, што завуць: Бог, любоў, павіннасць, праўда, ідэал — усё яно дробненька круціцца ў вечнасці, і туды і сюды, і так і гэтак.

Забіты гняды конь, як гара, выдубіў ногі, выставіў проста ў вечнасць.

Птушачка ўсё стрыкоча ў ціхім блакіце светлых нябёс.

А гарматы сціхаюць, гдзесьці…

Там далёка, у хатках, чакаюць. Чакаюць, чакаюць… Вечна!..

* * *

У чорнай цямноце віхор вечных прастораў.

Там раскашуюць і смяюцца, і там церпяць і плачуць. І там невядомая здань бродзіць і бродзіць, шэпча і шэпча…

І троху-патроху ўзнімаецца глухі гоман і тупат агромністай грамады людзей… Нехта, як шалёны, з вялікай злосцю галосіць: «Адвеку мы спалі…» Нехта, як непрытомны, ад вялікага імпэту, падпявае: «І нас разбудзілі…»

Гукі ўсё дужэюць, дужэюць…

І раптам разлягаецца песня, дужэйшая за ўсё тое, што было чуваць дагэтуль. Усё заглушае новая мелодыя, бадзёрая і прыгожа-вялікая: «Паўстань, пракляццем катаваны!»

А сумныя вятры вечных прастораў шумяць-шумяць…

* * *

Радзіўся я ў балоце на купінцы, калі чаіцы веснавыя жаласна кігікалі там — кожная над сваім гняздзечкам. Гэты крык маю моц спарадзіў. Што я такою моцаю зраблю?

Праз усе вякі, праз усе эпохі еў я толькі крошкі, што ўпадалі мне са столу паноў жыцця майго. І на гэтых крошках моц мая ўзрастала. Каго ж я такою моцаю адалею?

Убогая родная ніва шаптала мне цьмяныя сненні. Ціхамірныя васілёчкі сінелі мне бедным хараством. Вось тут моц мая красавала. Як жа я такою моцаю свет заваюю?

* * *

Светач жыцця майго гарэў цьмяна. Ваканіцы волі мае былі зачынены глуха. Томна было мне жыць.

Павялыя васілёчкі, што яна любіла, што яна збірала, — рукі нячыстыя чапалі. Ныла мне вечная рана…

Пасохлую ніву маю тапталі, дратавалі, з гора майго кпілі. Была нязносная мне крыўда…

Скарбы мае, скарбы бясцэнныя! Што з вамі робяць! Як жа мне жыць…

* * *

І я пайшоў. Старыя парогі пераступіў. Новыя шляхі рассцілаліся прада мною. Сілам сваім рабіў парад. Зброю сваю аглядаў. На новыя баі рыхтаваўся… вялікія баі!

Чорная заслона з вачэй ужо спала. Прад вачыма нібы пабялела. Слёзы аблягчэння дробна крапілі мяне, асвяжалі. Дыхаць мне было лёгка і прыемна.

Сеў на шумнабежны воз і на крылах шпаркасці яго ў новыя, нязнаныя прасторы паляцеў. Вольныя вятры веялі мне свежым павевам. Новая эпоха мярэжыла ў тумане…

* * *

Колькі там ходаў, колькі там выхадаў, высокіх і нізкіх, шырокіх і вузкіх, светлых і цёмных, ходаў і выхадаў жыцця…

Якімі ж ходамі было мне пайсці?

Лёс мой — на ростанях стаяць, пэўных дарог сваіх не ведаць, у лесе думак і ўчуццяў блудзіць…

Я клін у сабе нашу. Клін у мяне ўвагналі…

* * *

Там буйныя краскі цвітуць: п'яная моц слодыччу ад іх ліецца… І баяўся я самлець ад тэй моцы вялікай, перавышаючай мае малыя сілы…

Там яна маною д'ябальскаю спакусіць мяне хацела. І схапіла мяне, палужывога-палумёртвага, і ў душу маю смяртэльным пацалункам, як вурдалак, упілася.

Хацела выпіць мяне да дна, каб нічога не засталося ад мяне. І так сціснула мяне корцю сваёю, што аж косці мае захрусцелі…

Маною д'ябальскаю атручала мяне. Я ж вялікую моц пачуў там у сабе: у бяссільнасці сваёй спрадвечнай пачуў…

* * *

Судзі мяне, судзі мяне кожны і ўсякі! Судзі мяне судом сваім, і кожным і ўсякім… Карай мяне карамі сваімі, карай…

Толькі прашу цябе: не выбівай з маіх худых і кволых рук гэтага маленькага пучочка васількоў…

А выб'еш — буду азірацца на іх з сумам і жалем вялікім, перавышаючым мае слабыя сілы…

Як мне забыцца на іх, пакінутых там, адзаду, на дарозе, у пыле і ў брудзе, на цярнёвай дарозе, якою народ мой ішоў…

* * *

На баль у хату-пяцісценку я прыйшоў. Сядзеў вясёлы. З правага боку быў у мяне паважаны сват. З левага боку была ў мяне харошая свашка. І сам цымбаліста быў ласкавы са мною.

Па хаце ж, прад вачыма ў мяне, пайшоў пышны карагод. Усе яны былі ў белым, вышываным, у кралях і маністах, у вянкох з каснікамі. Самавітыя, раджайныя… І ўсе — жонкі знатных гаспадароў.

І вось прыгледзіўся я — і скура сшорхла ў мяне ад жаху… Жоўтыя, мёртвыя твары… Мерклыя, згаслыя вочы… Ходзяць — трупы жывыя… І зацягнулі па-вясельнаму жудасную мёртвую песню:

— Зя-лё-ны вя-но-чак!..

* * *

На высокім узвышшы я стаяў. Далёка-далёка вакол сябе балотную даліну і саламяныя вёсачкі бачыў…

Дымы дымяць па даліне… Многа вёсак гарыць… Страшныя клубкі агнявыя з вёскі на вёску пералятаюць… Дзіўна і страшна мне стала.

І пыляцеў агонь да самага жытла майго. Загарэлася пунька ля дому. Гукаў я семядолю сваю і парасткаў сваіх — дарагія рэчы хапаць, дарагія рэчы вынасіць…

І страшныя думкі былі ў мяне ў галаве, што ўсё жывое загарыцца, задыміцца, і дым задушыць усё жывое…

* * *

Страшны бой у мяне быў…

Хлопец худы і доўгі, бедны, з гусінаю шыяю, дроцікам мне ў левы бок, дзе сэрца, моцна кінуў, раніў мяне смяртэльна…

Я за гусіную шыю аднэю праваю рукою яго схапіў, паднімаў, аб падлогу біў, круціў, паднімаў-кідаў, біў — ледзь галаву яму не адарваў, з агідаю канаць кінуў…

Ды сам я — ранены смяртэльна…

* * *

І вось на разку, пад гайком, дзе кусты і магілы, адна, сумная, аслабелая, — маці мая чорнае жыта дажынае, чорныя снапы зносіць… Маўчыць. Тугу сваю чорную хавае.

І вось за белым сталом, пад абразамі, на такім месцы, пачэсны гаспадар, — бацька мой сядзіць: кашулю здзеў, вошы шукае…

І ён, браце мой любы, іншых дрэўцаў не знайшоў, як толькі хвоек убогіх пад вакном на градках садзіць… Што ж ты, мой любы, робіш? Нашто? І хочаш упэўніць, што добра… Мой жа ты вечны аптымісце!

* * *

Цэлую паляну чорнага вугалля я знайшоў…

І ў радасці хціва гляджу: якое б выбраць і ўзяць сабе дамоў, каб вугалля не купляць. Толькі думаю ў сумнай трывозе: чаму гэтак многа чорнага, чаму?

І пнеўе трухлявае знайшоў і пянушкі ламаў, каб выкарыстаць іх. І трухлявасць гэтую рад быў скарыстаць…

О, гора мне, гора мне!

* * *

Божа мой, Божа мой, — што я там бачыў! Ад уваходу направа, налева, і скрозь прад вачыма, на аперацыйных сталах, апушчаных у дол так нізка, — упокат ляжаць мерцвякі… І я з імі легчы мушу…

Цёмна ў яме глыбокай, цёмна! Толькі ўзор павучыны кладзецца на сэрца ярмом нязносным. Роўналежныя лініі — вечнасць. Яны перасечаны тут — гэта моц, што сэрца гартуе…

Гэтая моц сэрцу майму не пад сілу: яно разарвецца…

Я адзін. Іскаркі сыплюцца з воч. У галаве так лёгка, лёгка. Зараз канец, зараз…

Успомні пра выспу Патмос! Там ратунак, збавенне!

* * *

Яблыкамі пахне… Дзяўчынка спявае надарвана. Як сумна! Дарагая! Трагічная! Не ведаеш, як кахаю цябе! Песня твая душу мне пераварачвае…

А піла скрыгоча, скрыгоча… Мучае мяне, мучае…

Далёкія дрэвы на могільніку залацелі. Восень плыла на сэрца, на думкі. Як сумна.

Страшныя гукі чуў я ўначы. І гамонку, і шэпты, і крык. Страшна было мне, страшна…

Шалёны бегаў пад вакном дома майго, задраўшы гострую морду ўгару, як сабака. Божа мой! Ён дзетак маленькіх пагрыз… Дзеткі былі ў крыві… Бедная маці плакала няўцешна, дзетак сваіх нешчаслівых туліць…

* * *

Сцюжна мне, дымна мне жыць! Многа мерцвякоў я ўбачыў. Розачкі нюхаў. Гарбузы еў… З кульгавым павуком на цэментовым павукадроме час свой бавіў.

Снег ільдзісты пасыпаўся на жыццё маё. Люты мароз заскрыпеў на дарогах маіх. І няма краю ходу майму, няма…

Так хочацца ў цёплае, так хочацца на мяккае. І каб не чуць, не бачыць подлых вар'ятаў. Чаго яны крычаць? Чаго галосяць? Чым я ім дапамагу? Вар'яты крычэлі імя маё.

* * *

Направа — чырвоныя кветачкі перад хаткаю невядомаю грудком запякліся.

Налева — страшнае бяздонне… зірнеш — да зямелькі прысядзеш…

Беражком, па самым краёчку, як па гострай брытве, трэба ісці…

На горы высокія-высокія, за тым бяздоннем, з вялікім трудам лезу-лезу… Высока-высока ўзлез! Вялікія-вялікія прасторы вакол сябе ўнізе бачу…

* * *

І з вельмі апалым сэрцам апынуўся я ў склепе пад зямлёю.

І піхнулі мяне ў дзверы другога пакою — цёмнага, пустога…

У жудасці смяртэльнай упнуўся я нагамі на тым страшным парозе…

І ўбачыў, з жахам убачыў, што там пад столлю… ужо… два… чорныя… мяшкі…

З усіх сіл упнуўся, каб не йсці мне на страшны лёс… І нема закрычаў…

* * *

Святло згасне, праўда знікне, крыўда запануе… І ратунку жаднага не будзе, не будзе…

Разбой у цямноце ночнай закіпіць. Пасохлая ніва пасыплецца на чорны дол. Патмосец жаласна заенчыць…

На тым маскарадзе бачыў я страшны хадзячы шкілет. І скамянеў ад жалю…

* * *

Выйшаў я з муру жыцця свайго на сонца, на вольнае паветра, на ясны свет. Зялёныя дрэвы дзён маіх зашумелі мне борам; прыгожыя кветкі ўчуццяў маіх зацвілі мне лугам. Ступіў я крокаў пяць жыццёваю сцежкаю сваёю і раптам усміхнуўся ад радасці па-дурному.

Выйшаў я за браму смутку свайго з хатылямі, як жабрак. І пайшоў я па незнаёмых мне каляінах чужога царства, як бяздомны валацуга.

Я ішоў, як усе людзі ходзяць: нішто не мулілася мне адзаду ў сумленні маім. Дык радасць сваю не змяншаў. Толькі была яна ў мяне цяпер — ціхая і супакойная: ад пражытых гадоў і ад пражытых дзён…

* * *

І ўбачыў я перад сабою высокую гару, а на ёй шлях з роўным строем зялёных прысад.

Там сонца свяціла, там была цеплыня. І пацягнула мяне туды старым магнэсам, змагацца з якім не меў я моцы.

Шукаў я радасць сваю, радасць забытых дзён… І быў мне ветрык цёплы і лёгкі… І шырокія прасторы…

Ад радасці я плакаў у думках сваіх. Ад радасці я дыхаўдыхаў… Ад утомы на зялёную травіцу сеў.

Як там ціха, як там супакойна! Сонейка мне прыпякала. І ногі мае прысталі, і рукі памлелі, усё цела звяла. Размарыла мяне ўсяго радасць мая вялікая!

Не хацеў устаць, не хацеў ісці. Хлебца з кішэні дастаў, укусіў. І быў мне хлебец мой горак і салодак…

* * *

І спусціўся я ў дол, зайшоў у ціхі закутак. Аблюбаваў мясцінку сабе ў густой, высокай траве, так падобнай да мінулых траў маіх, пад дрэўцамі зялёнымі, так падобнымі да мінулых дрэўцаў маіх.

Разаслаў я там свой чорны хітон. І лёг, ляжаў…

Сонейка мяне грэла. Ціха было вакол. Толькі травы калышуцца шумам бясшумным… І добра было мне ляжаць, добра было мне нікуды не йсці. Ляжаць, не рухацца і думаць…

І было мне радасна і сумна. Думаў я: хай жа ціха ляжыць, хай не варушыцца прытоенае ў сэрцы засмучэнне…

* * *

Мусіў устаць. Мусіў ісці. Думкі мае цягнулі мяне ў адзін бок, сэрца маё цягнула мяне ў другі бок…

Пайшоў, хадзіў бязмэтна… А мэта была ў мяне, толькі я не ведаў, што яна ёсць, што яна цягне мяне…

І пайшоў на высокую наспу ўзлез, на беражку сядзеў, сядзеў нерухома… Адзаду ў мяне былі паселішчы далёкіх каланістаў, і ўсё было там у бясплоднай зеляніне, з разбуранымі шапкамі старых бажніц.

А спераду, перад зрокам маім, было сонейка на захадзе — там, дзе мой дом, дзе мой род, дзе шляхі мае мінулыя…

Страшнае дзіва закрычэла праразліва і загрукатала міма мяне шумам жыцця вялікім…

Едуць, едуць паязджане! Едуць, едуць госці дарагія! У кашулях вышываных… Круглымі вачыма глядзяць. Пахам тлену павеяла на мяне.

* * *

І быў я зусім упэўнены, што прымуць мяне там, як і даўней прымалі.

І я стаяў, і я чакаў, хатылі свае на дол спусціўшы. Быў я цяпер вельмі цярплівы: жыццё мяне навучыла…

Чаргі свае прычакаў. Мандаты свае прад’явіў. І быў я ветлівы і ціхі. А страшны голас адтуль прагаласіў:

— Немых, хітрых, наглых, непрытомных, а таксама і блазенных не прымаем!

І зваліласся мне яго прамова на галаву гарою. Звяў я ў пякучым жалю, як кволая травіна. І дужа-дужа я паразумнеў за адзін горкі момант…

* * *

Неба маё хмарамі пакрыта, пырскае дождж. А куды ісці мне, куды?

Было сонца і быў дождж, дзень і ўжо вечар, а я ўсё хаджу, усё шукаю, — і нічога не знаходжу. Нідзе не прымаюць мяне, нідзе не пускаюць мяне…

Хаджу, шукаю, — і нічога не знаходжу. Дождж ліў. Цёмна было. Цёмны шляхі мае. Цёмна ў мяне на сэрцы. І хатыль жыцця майго цяжак мне цяпер, як камень на шыі тапельцу…

* * *

Трэба ўзвесяліцца. Трэба імпэты свае паказаць. Яшчэ ж ты на сонейку не мерзнеш. Яшчэ ж ты не зусім акалеў, не зусім адубеў…

Годзе аплакваць прайграныя баі. Рыхтуйся на новыя!

Пераступі парогі, як жабрак. Кладзіся на памосце, як сабака. І спачынуць косці твае — лепей, чым на пышным ложу. І будзеш шчаслівы. Узрадуецца цела тваё і дух твой у целе.

Пасцялі сабе свой чорны хітон. Пад голаў пакладзі сабе прыемную торбу барахольца свайго… Багацце тваё вялікае, а цяжар твой лёгкі: які ты шчаслівы!

* * *

Людзі хадзілі каля мяне рэдка. І йшлі яны міма мяне маўклівыя, нямыя. Ні слова не казалі мне і нават не глядзелі на мяне.

І сабака прабягаў ля мяне шыбка, і не вяхнуўшы, і хвастом не кіўнуўшы, і не паглядзеўшы на мяне. Сваёю дарогаю бяжыць, а ты як сабе хочаш…

Чаргу сваю ўсюдых я ўступаў. Як трэсачкі на лёгкіх хвалях, адсуваўся перад напорам мацнейшых трэсак.

Так усё гэта было…

І хацелася адвярнуцца [мне] ад гэтых катлоў з мясам, ад гэтых сталоў з пшанічнымі пірагамі і ісці ў пушчы драмушчы, у самыя нетры, на мох, на балота, на дзікую купіну.

* * *

Сонца было такое гарачае, дзень быў такі цёплы! Аблокі на небе — як верхавіны далёкіх гор у белым бліскучым снезе. Зеляніна дрэў грэлася на сонцы.

Белыя і чырвоныя камяніцы, і чырвона-бурыя дахі камяніц[1] і вялікіх драўляных дамоў казалі мне казкі аб прыгожым жыцці чалавека.

Яны клікалі мяне хутчэй далучыцца да іх, хутчэй стаць на тэй дзялянцы, дзе разлічаў я знайсці сваю страчаную радасць жыцця.

І хацеў я хутчэй забыцца на час блазенства свайго. Хацеў хутчэй забыцца на слабасць сваю, што прычапілася да мяне…

Чуў я цела сваё — трывалым ад дзядоў і прадзедаў маіх. Думаў я, што трэба мне толькі лячыць свой дух…

* * *

Сонца лета майго прыпякала мяне. Хацелася выпіць вады…

І калі думалася мне: можа, лепей легчы і пагрузіцца ў нірвану, дык я сам сябе мужна засцерагаў: беражыся гэтага стану! Сцеражыся яго, пакуль жыццё тваё хоць слаба, але пульсуе…

«Яшчэ жыве блазенны, яшчэ жыве. І яшчэ лепей спадзяецца жыць!» — хваліў я сам сябе.

«І якое, аднак жа, шчасце дадзена табе, чалавеча, што залезшы як рыба ў нерат — можаш ты сам сабе зрабіць канец, сваім болькам і пакутам… Слава прамудраму ладу жыцця!» — так разважаў я тады і так хваліў я тады прамудры лад жыцця.

* * *

І я хадзіў, і я шукаў дзялянку сваю. І я хадзіў, і я прасіў, каб далучылі мяне.

Стаяў перад імі пахілены і праслаўляў моц сваю, каб аценілі мяне і далі мне сваю міласціну.

Хацеў прасіць як мага прыгажэй, але язык мой адрантвеў і не слухаў мяне.

Хацеў прасіць як мага мудрэй, але думкі мае былі тады — як пнеўе і карчэўе з нетраў цёмнага лесу.

І нікому мае хітрыкі мужствам не здаліся. І быў я толькі дурань, разжалены самім сабою.

Нідзе і нікому не быў я патрэбны слабы — ні ласкавы, ні суровы. Так спрабаваў я сілы свае, ходзячы прасіць міласціну.

* * *

Сілаю бяссільнасці сваёй адкідаў я кожны гарбуз. І было мне лёгка і вясёла, як пасля мінушчае хваробы.

На бераг мора ішоў.

Якое хараство! Шырокая вадзяная гладзь разлягалася перада мною. Я любаваўся і суцяшаў сябе пакутна: і мае сілы яшчэ не зусім усохлі, і мае мазгі яшчэ не зусім плесняю зацвілі…

А ўнізе, далёка ўнізе, кволыя белыя мурашачкі насілі па марах вельмі цяжкіх паноў. І зразумеў я, што там грамадства маё, што і мой лёс — толькі гэтых паноў насіць…

І ўспомніў я маці сваю на падоле, і сябе — маладога і здаровага. І ўспомніў бацьку свайго, што лёс яго — вяроўкі віць, і сябе — вясёлага і бесклапотнага.

Успомніў малако і кісель у хаце сваёй, і сябе — у мінулым… І ўсё прымаў, прымаў…

* * *

Бачыў я вялізарныя піраміды белых цёртых касцей. Бачыў я каналы, поўныя тухлай крыві. Страшыдлы веку скрыгочуць там страшна, і аглушліва, і безупынна. Налпы абея плоці піхаюць там даўгімі дзідамі трупы нябожчыкаў па крыві.

Бачыў я там налпу саміцу, што плакала няўцешна, галасіла голасам вялікім, какосы свае згубленыя аплаківала горка, права сваё на какосы, неаглядна згубленае, аплаківала ў роспачы нязноснай.

І казалі мне сядзець там і лічыць трупы нябожчыкаў, пасыпаныя на мяса ва ўсе канцы кулі, у вогненныя пасткі страшыдлаў ненажэрных.

І не мог я там сядзець…

* * *

Вапенны пыл еў мне вочы і глотку[2]. Пот ліўся з мяне, як з чэмпіёна свету на цыркавой арэне. Смага мучыла мяне. Піў я многа разоў і ніяк не напіваўся…

Так капаў я смяротны дол мінуламу свайму. І здаволены цягнуўся ў логава сваё, хоць і валочучы ногі, хоць і чакаючы смерці.

Прылятала птушка чорная, узнімалася птушка белая. Усе косці балелі мне, і енчыў я ад болю.

І ішоў і руйнаваў, ламаў і крышыў мінулае сваё, жылля сваё рваў, услаўляючы прамудры лад жыцця. І радаваўся і весяліўся, што гэткі я герой.

А цемнякі, абскуранты смяяліся з дурніны мае, кажучы пасмешна: «Лепшай работы сабе не знайшоў…»

* * *

Ломам ваяваў, як асілак. Здзеўшы рыззё сваё, голы мардаваўся, і сонейка ўлівала ў мяне жыватворчае цяпло сваё без жаднае перашкоды. І пабурэла скура мая, як у вала.

Моцны грунт трапіўся мне пад магілу мінулага майго, і не мокры, сухі, і баяўся я, каб не зрабілася цела маё машчамі вялебнага айца Мізэрыуса Монуса Крутагорскага…

З цяжкім возам уз'язджаў на высокую гару тысячакратна, каб уцішыць усякую хоць сваю. І з радасцю ўслаўляў прамудры ход жыцця.

Сівыя хмары плылі на мяне. Дажджы ліліся на лысую галаву маю. Вецер сцюдзёны веяў на мяне, вецце на дрэвах грозна шумела мне.

Я ж толькі думаў: «Няўжо восень прыйшла?..» І нічога не ўбаяўся…

* * *

На могільнік мінулага свайго пайду. Успомню… Многа-многа чаго ўспомню… Ціхі сум увойдзе ў душу маю. Ные вечная рана…

Усе дрэвы пажаўцелі. Жоўты ліст сумна сыплецца на брудны дол. Восень прыйшла…

Чырвонае восенскае сонейка сумуе сцюдзёна. А потым — і не будзе сонейка. Лісты абсыплюцца, абляцяць. Глыбокая-глыбокая восень запаўзе мне ў душу…

Будзе мне золь і туман, восенскі холад і цямнота. Гразь восенскую буду таптаць. І адчую сябе самотным смяртэльна.

* * *

Белым налётам крыецца бруд. Буду я жыць, каб жыць.

Цяжка мне танцаваць на арэне маёй. Мазгі мае сохнуць, асацыяцыі мае блекнуць. Цяжка аправіцца дрэву з сэрцам усохлым.

На тых берагох валхебнікі вежу збудавалі, а я гоцаю пачвараю…

Людзі цураюцца мяне, каб не запэцкацца аб мяне…

Хто ўспомніць мяне ў ганьбе і выгнанні? Хто прышле мне пару цёплых слоў. Ніхто, ніхто… Хіба гэткі ж баніта, астракіста…

Едзь у залатым чоўне на выспу Патмос. Успаміны маюць вялікую моц. Пачуеш сябе абагрэтым.

* * *

На родным падворку я стаяў, каля хаты старой. Цёпла і ціха мне было, толькі хмарнасць невыразная вакол, і сам я быў у хмарнасці невыразнай…

Аж раптам загрымеў на небе вялікі гром. І ўдарыў страшны пярун, — над самым дваром, над галавою. І ўжо рог страхі загарэўся полымем.

І прымаў я гэты няшчасны факт да свядомасці свае. Маўкліва і пакорна прымаў.

А потым прыглядзіўся…

Пацішэла вакол, і гром не грыміць, і дождж не ліе, толькі трошачку кропіць на ўспамін. І пажар не тут, а гдзесьці далей, гдзесьці там… І туды праняслася граза.

І з роўным сэрцам, і з ціхім сэрцам разважаў я аб сутнасці з'яў жыцця.

* * *

І ў родным садзе я стаяў, каля дулі старой. Стаяў-глядзеў, стаяў-глядзеў… Дзівіўся…

То ж казалі мне, і ведаў я, што змарозіў слаўную дулю вялікі мароз, у тую лютую зіму, пасля майго апошняга пабачання з ёю, і ўсохла яна.

І думаў я, што стаіць яна цяпер сухая, чорная, без жыцця жалкая і разам страшная. А можа, і спілавалі ўжо, думаў я, на дровы ці на што. І няма ўжо дулі старой… Засталося месца пустое, голае… З невясёлым пнём.

Аж вось дзіва прад вачыма ў мяне: стаіць яна жывая-жывенечкая і там-сям ужо зялёненькая! Свежыя пусціла сучкі, патрошку аджываецца.

І было мне прыемнае здзіўленне, нясмелая, ціхая радасць…

* * *

Багатае-багатае кіно было ў мяне перад вачыма. Убачыў я вайну і мір, і смех і жаль, і праўду і няпраўду, і пакапаныя старыя карані, і на іх месцы маладыя парасткі.

Ідуць дажджы, і веюць сухавеі, і чорныя, страшныя градавыя хмары праходзяць над полем. А ніва ціха зелянее.

І было мне радасна і сумна…

Гэта мне — дары! З краіны, якую мала шанаваў. І ад людзей, якіх мала любіў. А такія багатыя дары!

І ўспомніў я салодкасць маленства свайго…

Я, буйвал стары, бязрогі…

* * *

Пакойся і думай: колькі часу і колькі змен!

Добрым словам спамяні яе заўсёды. На шляхох жыцця свайго спамяні. Добрая, паэтычная, нешчаслівая… Спакойная навекі…

На парадах скарбаў сваіх спамяні!

* * *

Будзеш хадзіць, будзеш брадзіць, у невядомым месцы, каля чужых сяліб, каля чужых гародаў.

Дзе маё торжышча было, дзе мае мужчыны хадзілі, дзе мае дзяўчаты гулялі, — там цяпер пуста, нікога…

Жоўтыя білеты падбіраю. З радасцю іх падбіраю. На сваю жоўтую нуду!

Бела-серабрыстыя білеты падбіраю. З радасцю іх падбіраю. На слёзы свае.

Ягады мае даспяваюць. Яшчэ ж яны счырванеюць як кроў.

Хадзіў я, танцаваў я — і ў светлай каморы і ў цёмнай. І ўсюдых былі межы шляхоў маіх. І ўсюдых — быў мой смутак і жаль.

Сэрца маё скамянела. Думкі мае сцішэлі. Дарма сэрца не трывож…

Збялелыя тварыкі, бурыя старэнькія кажушкі, на ножках лапці, на галоўках лінялыя, дзіравыя хусцінкі.

Ігліцы сыплюцца на галаву. Мякне кажух і мука на буйным і дробным дажджы. Салодкая выспа асцюдзянела…

Рукі цалуюць. Аб тым мінулым галосяць. Ратуначку просяць.

Дос табе, гармонічак, не рыпай! Нуду маю табе не разагнаць. Думак маіх табе не ўзвесяліць. Сэрца майго нічым табе не суняць.

Лягу я, скамянею…

* * *

Быў я ў гэтай вялікай стадоле, быў я ў гэтым высокім манежы. Цесна там ад гэтых арганізмаў, ад рэчаў іх і ад лахманоў.

Сядзяць, ходзяць, стаяць, ляжаць. Б'юцца за свой рух. Бо мала ім месца на возе. Жыццё ляціць. Чаканне томіць.

Што скранула іх, зрушыла іх, пагнала, панясло? Чаму не сядзіцца ім на тым месцы прытульным, дзе маці радзіла? Ці яно ўжо ім непрытульна? Ці яно ўжо ім гэтак знялюбела?

* * *

Бачыў я, на сваю радасць і на свой жаль, твары тонкія, далікатныя, вочы сінія, васільковыя.

Помніў жыта, помніў песню.

Буйнасць сваю маладую помніў…

І развітаўся з надзеямі. Рэторта мая трэснула. Тормаз мой страшна засіпеў і выпусціў пару. І развітаўся я з надзеямі.

Пайшоў, валочучы ногі. І захінаючы рот. І быў я адзін, адзін…

Маўклівыя зоркі высока-высока мігцелі.

Вецер веяў сцюдзёны.

Мароз цісную на душу…

* * *

Белаю скрыпучаю дарожкаю ў серабрыстым садзе я хадзіў. На лёгкія плывучыя дымы над палацамі любаваўся. Мароз не цісную мяне, мароз мяне бадрыў.

Ад цямна і да цямна танцаваў я, крукам сагнуўшыся, раскірэкаю прыткнуўшыся ля тронiка свайго фаховага[3], — я, патужны скакун гдзесьці там у балоце сваім.

І было мне лёгка на сэрцы. Быў я ў добрым танцавальным настроі. І быў мне ход мой у каморах гэтых — лёгкі і кароткі.

Выходзіў я на лёгкі скрып. Светлыя пункты ўжо блішчаць. Лётаюць белыя мухі. Сярэбраныя кудравацікі прымаюць сон. Арамат незвычайна свежы. І было мне вельмі лёгка і прыемна.

А куды ж было ісці мне, куды? Гдзе былі шляхі мае, вельмі прывабныя шляхі?

* * *

Помніў я дзень кансультацыйны. На тэрміновы парад ішоў.

Там, у замку гатыцкага стылю, у белай параднай каморы, бачыў я процьму гасцей: вар'ятаў, блазенных і імпатэнтаў. І дзівіўся вельмі: адкуль іх столькі нанясло?

І былі яны ў вопратцы панскай і ў простай, у дарагіх скурах і ў простых вяроўках, тлустыя і посныя, голеныя і барадатыя, з абліччам нацый паўночных светлых і з абліччам нацый паўдзённых чорных, і мова ў іх памяшана…

І сярод такога мноства быў я адзін.

І калі цягнуўся з параду дамоў, у сваё беднае сцюдзёнае логава, — самота, як чарговы прыступ фэбры, ціснула мяне, думкамі маімі валадала, сэрца маё гарчыла, рухі мае вялымі рабіла…

І, аднак жа, думаў я і разважаў, — і быў я рад жыццю, як рад бывае хворы на фэбру, калі пачынае сцёплівацца на ложку сваім у лёгкім хваравітым дрыжэнні…

* * *

І здавалася мне гэтая здань, што думкі мае прыходамі сваімі ўзварушала, трывогу ў сэрцы маім сеяла. Я быў ёй рад, як п'яніца чарцы, хоць п'яніца быў я ўжо невялікі…

І даставаў я свае запыленыя ядры, закладаў іх у свае паржаўленыя катапульты… Але моцна страляць ужо і не хацеў…

Страшным, балючым крыкам здань галасіла: «Быў жа ў мяне адзін Бог, і няма яго! Быў жа ў мяне і другі Бог, і няма яго!»

Я не адгукаўся на той жудасны крык. Замкоў сваіх не кранаў. Браму скарбаў сваіх на крык не адчыняў. А любіў я песню купальскае ночкі. А любіў я і жытні каласок.

Сядзеў, слухаў і моўчкі ўспамінаў, як беглі вар'яты, як яны крычэлі: «Выдыбай, Божа, выдыбай!» Я маўчаў. Бо што я мог сказаць?

* * *

Так замкнуў я душу сваю, замкнуў. Ад усяго свету, ад усіх людзей, і ад самых блізкіх, і ад самога сябе, — замкнуў…

Бачыў я, што для многіх і многіх блазенных і імпатэнтаў, для вельмі многіх зрабілася невядомым: дзе ж тая праўда і дзе ж тая мана, і якою сцежкаю трэба ім ісці і якою не трэба.

Так усё гэта сталася, на згубу ціхім і слабым, блазенным і імпатэнтам.

І я, і я думаў сам сабе: а што я ведаю? І сам сабе дзіваваў: дзе ж мая сіла, дзе ж мая моц? Хто ж я такі быў, чым жа я стаўся?

* * *

І ляцеў я думкамі на гэты ўскраек чацвертае тэрасы. Там я стаяў, там я глядзеў…

Месяц блішчыць на марозе. Ён тут далёкі, ён тут высокі… І сцюдзёны, і таямнічы… Белыя ўборы магічна серабрыць…

А хто ж там ходзіць, а хто ж там бродзіць па гэтых снегавых прасторах на месячным святле?

Мядзведзь ходзіць, Пралеску водзіць…[4]

На гару ўцэла па снезе лезуць. Над вадаспадам абледзянелым стаяць. У глыбінь вякоў дапытліва пазіраюць. Міліённы ход пластоў зямлі ўведаць хочуць…

Каля іх крыніца з крышталёваю нектарнаю вадою, што на самым лютым марозе не замярзае…

Пралеска Мядзведзю там заспявае…

Мядзведзь там радасна зарычыць…

* * *

Лясы мае зацвілі прыгожа. Густымі фіялетавымі кутасамі. Бярозы сталіся бэзам. Цэлае мора красак.

Дом прыгожае архітэктуры на гародзе маім будуюць.

Не было мяне, і вось з’явіўся я — урачысты, маёвы.

І ўсе рады мне…

* * *

Многа дзён мінецца пустых, і пашкадуеш іх, што пустыя. Але павароту назад няма. І калі павернеш, то шляхі будуць ужо не такія.

Свежасць думак і пачуццяў тваіх пакрыецца пылам з дарогі, слоем пылу вельмі тоўстым, і не будзе дажджу, каб змыць той пыл.

Саб'ешся з тропу свайго блазеннага праз амбарасы свае жыццёвыя. Часу не будзеш мець на блазенства…

* * *

Калі гэта было, што з вялікім імпэтам на самае неба, на іншую зорку, у вокамгненне я ўзлятаў, і на зямлі белымі і лёгкімі крыламі сваімі рэяў?

Калі гэта было, што ішоў я, мазурку танцуючы? Калі было гэта, што не хадзіў я, а бегаў, не датыкаючыся нагамі зямлі, шырачэзнымі крокамі? І яшчэ дзівіўся, што другія так не ўмеюць. А гэта так проста: рукамі аб паветра апіраючыся, размахнуўшы іх…

* * *

Есці я хацеў, а не было чаго. Тлушчу не было, салодкасці не было, і куса хлеба сабацкага мне бракавала.

А я ўсё жор бы і жор ненажэрна, як акула. Вінегрэціку хацеў, капусткі хацеў, нават бульбяненькіх камоў хоць зрэдку хацеў. Зводзіў кожны дзень гэтулькі Божых дароў…

Бруха ў мяне разапнулася, як барабан, вольнасць рухаў маіх у мяне адабрала і палёт думак маіх блазенскіх, чакаў, зусім, нарэшце, звяжа. А я радаваўся па-дурному, што — не пустое, што вятры ходзяць, кішкі парусамі надуваюць…

Пякотка мяне пякла.

І шышкамі балючымі, крывавымі я парос…

* * *

Хвароб сваіх не мог я злічыць…

Карак мне балеў. Сярэдзіна мне балела. Ныркі мне балелі.

Грудзі мае запалі і нылі і нылі, а кадрылю сваю гралі а гралі. Кашляў, як у кадушку.

Сэрца маё мазурку танцавала. У цёмных каморах я паміраў. І сон мой не падмацоўваў мяне, а толькі страшыў.

Цяжар жыцця сагнуў мяне дугою. Ногі мае не йшлі. Хадзіў, як зморany конь ступою.

Кара мяне пакрывала. Дзіч мая расла. Агонь яе не паліў. Забыты, згублены агонь…

Лякарства маё трэба было настойваць цэлы век. І было яно такое, што ніхто ніколі ад яго не паздаравеў і ніхто ніколі не паздаравее.

* * *

Валасы ў мяне без пары пасівелі. Лысіна разляглася аж да макушкі. І ўся каробка мая нібы зменшылася, нібы аблезла, і аблезлая — свярбела.

Твар мой зморшчыўся без пары, дзікім валоссем зарос. Пяску насыпалася мне пад павекі. Зубы мае расківаліся ў дзяслах, як у гуме, можна было выцягнуць іх пальцамі, пацягнуўшы.

Сядзець мне было мулка: мала мяса засталося ў мяне. Сядзеў на маслакох, абцягнутых працёртаю скураю. І баўталася агуззе маё, як убогая, апусцелая рэч.

Мускулы мае абвіслі: рукі і ногі станчэлі на спіцы; скура здрабла, як у старэнькай бабулі, — чакаў, што скора прыліпне яна да костак.

Голасам гаварыў глухім і сіплым. Хадзіў, сагнуўшыся дугою і валочучы ногі.

Так усё гэта было: прымаў я заплату за працу сваю…

* * *

Стрэхі мае цяклі. Жытло маё гніло.

Паліва маё хутка згарала. Агонь жа мой гарэў вельмі цьмяна. Дровы мае былі сырыя. Дым ад іх быў едкі. І дзе было мне іх пасушыць? Да якой печы было мне іх прыткнуць? Не было ў мяне ні месца, ні часу…

Сядзеў я ў холадзе, як у склепе. І мароз мой не бадрыў мяне, а марозіў. І буйны вецер мой не асвяжаў мяне, а прахоплівау мяне наскрозь.

Лапці свае насіў я па тры гады. Усе мяшкі мае пападраліся. Хадзіў у лахманох, у лапіках, у дзірках.

І быў я няўдалым краўцом і няўдалым шаўцом: шыў у каморах светлых і каморах цёмных, і ніяк не мог зашыць… Да самае магілы снаваў чорныя ніці ў чорным целе…

* * *

Мухі кусалі мяне з садызмам. Блохі гарцавалі па мне з вясёлым здзекам… Такая падзяка была мне…

На вуліцы першая ж мошка ўлятала мне ў вока. І міргай не міргай — не вылезе, а забярэцца яшчэ глыбей і будзе сядзець там цэлы век. І мусіў я хадзіць з чырвоным вокам, як вядзьмак, панураны і злы, і людзём і сабе самому непрыемны.

Ішоў я ў лес — і лес арамату свайго мне ўжо не даваў. Ад лятучага гнюсу не мог я там абараніцца. І хмары камароў, нават не пазвінеўшы, пілі маю кроў — без усякай літасці, без усякага жалю…

* * *

Не хацелася мне нічога рабіць, ні за што ўзяцца. Санлівасць адалела мяне, а часу выспацца ніяк не мог я сабраць.

Эксплуатаваў сябе, як барбар і тыран. Не ведаў, за што найперш хапіцца. Круціўся без одуму. Замардаваў сябе неразумна. На новы шлях хацеў павярнуць — і не было сілы…

* * *

Дзверы душы свае хацеў я прычыніць… А пакой жыцця майго быў прахадны. І хадзілі па ім, і снавалі праз яго — безупынку.

І сам сабе ляпіў я похвы на думкі і на словы свае — і добра зляпіць не мог.

Сядзеў, як квакуха на яйках. Але яйкі мае былі баўтуны, і не бачыў я сабе ад іх прыплоду.

Лятаў, як пчолы па красках. Але краскі мае пагорклі, і не сабраў я сабе мёду з іх, салодкага мёду.

І брама скарбаў маіх сівым мохам зарастала.

* * *

І націснула на душу маю сцюжа. Ціснула а ціснула. Павеяў на душу маю ледзяны вецер, каб яна зусім акалела. І слёзы мёрзлі ў мяне на ваччу.

І тады пачаў разумець я ўсю глыбіню блазенства свайго, усю моц каталепсіі свае.

Пачаў баяцца я ўсяго на свеце, а веры мне не было. Цёмен стаў мой свет. Цесен стаў мой кут. Канец мне прыйшоў…

І думаў я пра смерць сваю і пра Бога свайго. Смерці прыходу чакаў пакорна і панура, як вол даўбні. І не ведаў: блізка ўжо яна, даўбня тая, ці далёка.

Божа мой! Якая часам была мне нуда… Як цяжка было мне, як цяжка…

* * *

Шукай свой човен залаты! Едзь на выспу Патмос. Даўно там не быў. Духам аскудзеў.

О сонца светлае-прасветлае! абагрэй ты мяне!

Далёкая выспа Патмос! Там прытулак…

* * *

У гаі высокім бярозавым я хадзіў. Абраз маткі-пакутніцы з пахіленаю да дзіцятка галавою бачыў, — высока, сумна, паважна…

Чорныя баравікі там браў…

І не было мне адхлання…

Ніхто не ведаў, што гора ў мяне. Ніхто не ведаў, што цяжка мне. З кім мне было гора падзяліць? З кім мне было цяжкасць аблягчыць? Вакол людзі сцюдзёныя, чужыя… Што ім да мяне…

Горка мне было, што песень хаўтурных не пачую, што гутарак спачувальных не будзе…

І ў гэты час імя маё распіналі, «сабакам пабітым» мяне лаялі — тыя, каму Бог розуму не даў…

Вылі сабакі пад вокнамі жытла майго, вылі…

* * *

Дзяды-прадзеды мае жылі ў цішы, жылі ў глушы. Як жа было мне гэты гоман агарнуць? Круцельства гэтае прыняць? Розумам прымаў, і здольнасці аказаў… Сэрцам — ніколі.

За што яны гнятуць мяне, за што яны мучаюць мяне? Нашто гэта патрэбна?

Чалавек чалавеку — звер. Калі ж тое шчасце будзе? Быць бы мне на грунце сваім, зямлю капаць, па бульбу ў пограб хадзіць: можа, не было б гэтага няшчасця[5]. Тысячу разоў бульбу тую падаў бы.

Няўжо ж я панам хацеў быць? Нашто ж я памылак гэтых нарабіў? У труну ўсіх загнаў, паклаў. І сам лёг…

* * *

Больш яе не ўбачу ніколі. Ніколі не пацалую. Ніколі да яе не прытулюся. Яе ласкаю жывою не сагрэюся…

У зямлі сырой, глыбока, пад снегам, пад мяцеліцаю ляжыць. У госці мяне ўсё чакае. Так і тая сына свайго ўсё чакала. Так усе маткі нашы нас чакаюць, чакаюць…

Ужо колькі разоў я спазніўся, колькі! І яшчэ раз спазніўся. Цягнік мой пайшоў, а я застаўся.

Гэта — беспаваротна. Не дзіця, а плачу. Не маленькі, а прызвычаіцца не магу. Нашто я ашукаў яе? Чакала-чакала, не дачакалася…

А яна пагінула на сваім баявым пасту, і няма ёй награды ніякай. Толькі выспа Патмос сэрца ёй мацавала. Таму сэрца ў яе было такое моцнае.

Нельга было мне туды. Дык хіба ж нельга было ім сюды? Зарыўся, закапаўся, арыентацыю згубіў… Не! Надзею лялеяў. У ласку людскую веру меў. І колькі ні йшоў шляхамі сваімі, — заўсёды памыляўся…

* * *

Божа мой, госпадзі, як было мне цяжка! Не ведаў пачаткаў. Не знаходзіў канцоў. Не ведаў, ці ёй гэта патрэбна ці непатрэбна. Думаў: чаму глядзіць яна на мяне засмучоная, чым яе падвесяліць?

Позна было, позна… Падвесяліць трэба было ў пару. А вось ужо позна. Ведаў жа: сонца яе заходзіць, каротак яе дзень. Аб чым жа думаў? На што спадзяваўся?

І прасіў я ратунку ў выспы Патмос. Словы мае — слёзы мае… Заўтра дванаццатая птушка паляціць. Ідзі, прывітай яе.

* * *

Будзеш на выспе Патмос. Восплачешь и возрыдаешь горько… І паглядзіць яна весялей на цябе. І палягчэе табе.

Усё жыццё праляцела, як адзін дзень. Усё яно — як на далоні. Восплачу и возрыдаю…

* * *

Браму скарбаў сваіх зачыняю.

Цану рэчам пазнаў. Людзей да самых глыбінь уведаў. Жыццём даражыць навучыўся. І да смерці сябе рыхтаваць я ўмею. Каб прыняць яе меч хоць калі, і без пары, і без усякай патрэбы.

Дык слава жыццю!

Слава і смерці!

*1932–1935, 1937?*

## ЖАРТАЎЛІВЫ ПІСАРЭВІЧ

### Дзейныя асобы

П і с а р э в і ч, ж о н к а Пісарэвіча — уцекачы.
М я ш ч а н к а.
Б а б а — злосная, раскудлачаная.
П о п — грубы, гладкі, потны.
П а н і — маладая, досыць прыгожая, але пустая.
Д о к т а р — сярэдняга веку, панкаваты.
Д з я ў ч ы н к а — гадоў 8–9, калматая, худая, абшарпаная.
С л я п ы.
1-шы ў ц я к а ч.
2-гі ў ц я к а ч.
Н е м е ц-ж а ў н е р.
П е р а к л а д ч ы к.
У ц е к а ч ы: мужчыны, жанчыны, дзеці.

### I

Пустая вуліца ў глухім расійскім горадзе. Адзін дом з белымі налепкамі: «Здаецца пакой». Па вуліцы плятуцца змораныя П і с а р э в і ч і яго ж о н к а. Безнадзейна азіраюцца… Раптам утаропіліся ў налепкі, зрадзелі.

Пісарэвіч (*скача на адной назе, паказваючы на налепкі*). Знайшлі, знайшлі, знайшлі! І налепачкі налеплены!

Ж о н к а (*сцішае яго за рукаў*). Апамятайся і людзей пастыдайся. Ледзьве ногі цягаеш, а скачаш, як малое дзіцянё.

П і с а р э в і ч. Гуляй, хата, гуляй, печ!

Ж о н к а. Кінь вырабляцца, прашу цябе! Мне ад тваіх жартаў зусім малая пацеха. Стукай, ды паціху, а то пакрыўдзяцца, як там.

П і с а р э в і ч. Стучыце — і адверзецца вам! Шукайце — і знойдзеце! (*Стукае ў дзверы. Выходзіць мяшчанка*.)

М я ш ч а н к а. А што вам, добрыя людзі?

П і с а р э в і ч. Дзень добры, панічка!

Ж о н к а. Дзень добры вам!

М я ш ч а н к а. І вам добры дзень, мілыя людзі! А чаго ж вам трэба? Мусіць, вы ўцекачы з Польшчы?

П і с а р э в і ч. Блізу таго, панічка… Турбуем во добрых людзей… Кватэру шукаем.

Ж о н к а. Трэці дзень шукаем… З ног збіліся, шукаючы.

М я ш ч а н к а. А-а! Чаму ж вы стаіцё? (*Сядае сама на лавачку на ганку*.) А вы ж хры-шчо-ныя?

П і с а р э в і ч. Абое, панічка! І ў дакумантах паказана.

М я ш ч а н к а. А вялікдзень жа вы святкуеце?

П і с а р э в і ч. Дый яшчэ як, панічка!

Ж о н к а (*хоча быць прыемнай*). Мы ўсе святы спраўляем: і вялікдзень, і каляды, і наогул усе святцы.

М я ш ч а н к а. Дык сядайце ж, калі ласка, — пагамонім… (*Жонка сядае на лавачку, Пісарэвіч абцірае пот*.) А ці многа ж у вас дабра?

П і с а р э в і ч. О, зусім мала: змесцім у адным пакойчыку.

М я ш ч а н к а. Ну, ведаеце, мне гэта не надта падабаецца. Таму што — жылі ў мяне такія… Два месяцы пражылі — і ўцяклі не заплаціўшы. Ім што: усё сваё дабро адным кошыкам перацягнуць могуць.

Ж о н к а (*устае*). Выбачайце, але мы не та-кі-я… І дабро наша ў адным кошыку не змесціцца.

М я ш ч а н к а. Маеце шмат чаго-о? Дык вы мне пакой згноіце, заставіўшы сваім дабром.

П і с а р э в і ч. У нас яго зусім мала, панічка…

М я ш ч а н к а (*перабіваючы*). А вы ж казалі — многа.

П і с а р э в і ч. Ды так… ні многа ні мала: ні кошыкам перанесці, ні пакой згнаіць.

М я ш ч а н к а. Гм! Вас таўкачом у ступе не зловіш… Тут нейкая крутня.

Ж о н к а (*гневаецца*). Хадзем, Алесь! Што тут…

П і с а р э в і ч. Стой, жонка! А вы, панічка, будзьце пэўная, гэта нічога, што мы так кажам. Гэта ад вашага клімату ў нас у галаве круціцца… Горача надта… У-ух… (*Абцірае пот*.)

М я ш ч а н к а. Праўда што — кручаныя! Як у нас мужык, дык ён бараду носіць, а вашы папрыязджалі голеныя. Не пазнаць, ці ён заможны, ці ён убогі! Усе ў сурдутах і без барады.

П і с а р э в і ч. Здасцё нам пакойчык, я запушчу бараду — калі хочаце, няхай расце!

М я ш ч а н к а. Ай, хто вас ведае, якую з вас цану браць!

Ж о н к а. Якую панічка вызначыць, такую заплоцім.

М я ш ч а н к а. Гм! Колькі ў вас гэтага гонару, а толькі як плаціць будзеце? А дзеці ж у вас ёсць?

П і с а р э в і ч. Ой, панічка! Два хлопчыкі… Але болей тым часам не прадбачыцца.

М я ш ч а н к а. А-а! Чаму ж вы мне адразу не казалі? (*Устае з лавачкі.*) Як я магу аддаць свой пакой нейкім кручаным з чужога боку? Бывайце здаровыя!

П і с а р э в і ч. Бывайце, панічка, бывайце! А як жа пакойчык?

М я ш ч а н к а. Не для вас! (*Пайшла.*)

П і с а р э в і ч (*разводзіць рукамі і паказвае ўслед ёй язык*). Вось табе і налепачкі!

Ж о н к а. А ўсё твае дурныя жарты, Алесь! У цябе няма ніякага падходу да людзей… Ну, куды цяпер?

П і с а р э в і ч. Куды? Ці я ведаю? Давай пастукаемся яшчэ во ў гэты, бяднейшы дом. А можа, што і знойдзем. (*Стукае.*)

Ж о н к а. Хоць бы ж які пакойчык… Цішэй стукай, ідуць…

Б а б а (*вылятае раскудлачаная, гнеўная*). Вы хто? Уцекачы? Забілі майго Івана, каб вас Бог забіў! Забілі! Забілі! Што я цяперака параю з аднэю галавою? А-а, вы, немцы праклятыя! (*Кідаецца на жонку.*)

П і с а р э в і ч (*выступае наперад, каб схаваць жонку*). Не бойся, Стася, не бойся! Якія немцы, цётка? Што вы гэта? Мы ўцекачы, кватэру шукаем… Мы ж вам ніколі нічога ніякага, як той казаў… Стасенька, супакойся! (*Жонка трасецца і хліпае.*)

Б а б а. Каб вас паралюш разбіў! Басурманы! Ідалы! Нехрысці! Забілі мне мужыка! Звялі мяне з капылоў! Чаго вам трэба ад мяне, ірады? Якая ў мяне кватэра?

П і с а р э в і ч. Супакойся, цётачка! Чаго ж і вам трэба ад нас?

Б а б а. А чаго вы лезеце да мяне? Нашто вы мужыка мне з свету звялі? А-о, галовачка мая бедная з вамі… (*Пайшла назад у хату.*)

П і с а р э в і ч. Супакойся, Стася, — бывае…

Ж о н к а. Нейкая шалёная: не разбірае, што немцы, што ўцекачы.

П і с а р э в і ч. Не дзіва: адзін муж быў, і той асіраціў бабу, не падумаўшы, што з гэтага можа быць…

Ж о н к а (*нервова*). Ізноў ты вырабляешся, Алесь! Дзеці галодныя, адны на станцыі, а ты тут жарты строіш… Кіну і пайду, шукай адзін, а мы там будзем плакаць… (*Абцірае слёзы*.) Ну, куды цяпер? Ну, куды, кажы?

П і с а р э в і ч. А што я ведаю? Папаў, як у нерат: ні ўзад ні ўперад. А без цябе я не буду шукаць: бывае, знайду, а табе яшчэ не спадабаецца.

Ж о н к а. Ты сам пачынаеш нервавацца. Дажартаваўся! Ну, цяпер паскачы на адной назе!

П і с а р э в і ч. Я і на дзвюх магу… Во стану сярод вуліцы і буду ў кожнага пытацца, ці няма кватэры… Убачыш, як добра будзе.

Ж о н к а. Убачу, убачу… Вунь ідзе бацюшка, пытайся.

П і с а р э в і ч. Дзень добры, бацюшка! Можна спытацца?..

П о п (*грубы, гладкі, потны*). А ў чым справа? Кватэру шукаеце?

П і с а р э в і ч. Так, бацюшка, кватэру! Ці няма?..

П о п (*перабіваючы*). Вы ўцекачы?

П і с а р э в і ч. Відаць жа пана па халявах.

П о п. Не, не па халявах, а так па ўсім… О-ох, горача сёння, а мне яшчэ панахвідку па ўбіенным на полі брані трэба адправіць. А ці няма ў вас прадажнага сабакі?

Ж о н к а (*здзіўлена і пакрыўджана ўзнімае плечы*). Што вы, бацюшка?

П і с а р э в і ч. Застаўся наш Мурзачка ў немцаў, у палоне.

П о п. Шкада! А я купіў бы ў вас добрага сабаку. Ведаеце, столькі цяпер зладзеяў развялося, уцекачоў панаехала…

Ж о н к а (*абурана*). Я не разумею…

П і с а р э в і ч. Скажу вам, як на споведзі, бацюшка: век злодзеем не быў і за жонку прысягнуся.

П о п. Я не пра вас; так, да слова трапілася. Дый няма ў мяне для вас кватэры. Адзін пакойчык для аднае інтэлігентнае асобы, калі матушка згодзіцца, падумаўшы, можа, і можна было б аддаць, але, бачыце…

Ж о н к а. Выбачайце, бацюшка, але мы людзі інтэлігентныя, толькі што, ведама, здарожыліся, пакуль ехалі.

П о п. Але ж, мілая, дзве асобы гэта не адна асоба.

П і с а р э в і ч. Э, бацюшка, якая там у жонкі з мужам матэматыка: адно цела і адзін дух. Лічыце за адну інтэлігентную асобу маю жонку, а я буду як прэмія, бацюшка…

П о п. Я бачу інтэлігентнасць і па духу, без усякай прэміі.

Ж о н к а. Вось як…

П і с а р э в і ч. Стой, жонка! У святым жа пісьме сказана, бацюшка: не ўгашайце духу.

П о п. А хто вам угашае дух?

П і с а р э в і ч. Вы нам, бацюшка, усё ж ткі аддайце гэты пакойчык за якую скажаце цану, і дух у нас не ўгасіцца.

П о п (*паважна*). Уцякач вы, уцякач! Такое глупства, як кватэра, з пытаннем веры звязваеце. За няверу і карае вас Бог. Духу ў вас шмат, але нядобрага духу.

Ж о н к а (*нервова*). Алесь, пойдзем!

П і с а р э в і ч. Паслухайце, бацюшка! Мы трэці дзень на станцыі, з дзяцьмі, і трэці дзень мусім цягацца па такой пякоце, шукаць кватэру. Гэта ж не глупства. Аддайце нам свой пакойчык.

П о п. А ў вас яшчэ і дзеці! Выбачайце, але, на жаль, нічым не магу вам памагчы… Пашукайце яшчэ ў каго… Во там, бачыце, ёсць налепачкі… Бывайце! (*Пайшоў.*)

Ж о н к а. А ўсё ты, Алесь! Зусім не так трэба было гаварыць з духоўнаю асобаю.

П і с а р э в і ч. А як з ім гаварыць? У руку яму цалаваць?

Ж о н к а. Ты і не цалаваў, а ўсё роўна ён падумаў, што мы простыя.

П і с а р э в і ч. А чым жа мы крывыя, каб яму вочы павылазілі!

Ж о н к а. Цярпець не магу тваіх грубых выразаў! Сапраўды, ад твае інтэлігентнасці нічога не асталося. Ну, куды цяпер? Куды?

П і с а р э в і ч (*збянтэжаны*). Чоррт… Хоць бы тут камітэт які быў!

Ж о н к а. Разлічай на камітэты, дык цэлы год на вакзале пражывеш… Ты зусім здурнеў, Алесь.

П і с а р э в і ч. Не клапаці: з вакзалу выганяць. А вось я зараз здурнею — і буду мець кватэру. (*Сядае пасярод вуліцы на зямлю*.)

Ж о н к а. Што ты робіш, Алесь?! Не рабі скандалу!

П і с а р э в і ч. Ты ідзі на вакзал, пакармі дзяцей, а я буду сядзець тут і не ўстану, пакуль мне не дадуць кватэры.

Ж о н к а. Алесь, што ты робіш? Цябе паліцыя забярэ.

П і с а р э в і ч (*смяецца*). Няхай забірае.

Ж о н к а (*тармосіць яго*). Не звадзі мяне з розуму, Алесь! Глядзі, людзі ўжо бачаць, што ты робіш…

## II

Убогі і нудны пакойчык у расійскім мяшчанскім доме. П і с а р э в і ч сядзіць у пантофлях на босую нагу і піша.

П і с а р э в і ч. Дастаў шмат перапіскі, зараблю шмат грошы — і справім мы з Стасяю баль! І хлопчыкаў сваіх з прытулку возьмем: хай дзеткі пацешацца. (*Пяе.*)

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець,
Калі ў маёй хатаньцы
Парадак ідзець…

Не бядуй, Стася! Скончыцца вайна, паедзем дамоў, не будзеш ты стаяць па восем гадзін у чарзе за паўфунтам хлеба на картачку. (*Ізноў, яшчэ весялей, пяе.*)

Ах ты дуй, ах ты дуй,
Мая Стася, не бядуй:
Па маёй галаве
Застанецца ўсё табе!

М я ш ч а н к а (*уваходзіць не пастукаўшыся*). Дзень добры яшчэ раз, пан Пісарэвіч!

П і с а р э в і ч. Ах, Мар’я Іванаўна, Мар’я Іванаўна! Як я рад! Выбачайце толькі, што вы забыліся пастукаць… Я ў хатнім выглядзе. Сядайце ж, калі ласка, прашу вас, Мар’я Іванаўна!

М я ш ч а н к а (*сядае*). Ат! Заўсёды вы з сваім стуканнем, пан Пісарэвіч! Ну, прыйдзіце раз у мой пакой не пастукаўшыся — паквітаемся.

П і с а р э в і ч. Добра вам казаць, а што мне жонка запяе на гэта?

М я ш ч а н к а. Які вы жартаўлівы, пан Пісарэвіч! Вам немаведама што ў галаве.

П і с а р э в і ч. Калі я гляджу на вас, Мар’я Іванаўна, калі я любуюся на вашы нябескія лупаценькія вочкі, дык сапраўды я сам не ведаю, што робіцца ў маёй галаве.

М я ш ч а н к а. Кіньце ўжо, кіньце прасмяхаць — жонцы скажу. А дзе ж гэта пані Пісарэвічыха? Яшчэ не вярнулася з «хваста» па хлеб?

П і с а р э в і ч (*глядзіць на гадзіннік на сценцы*). Не, яшчэ не вярнулася; восьмую гадзіну ў чарзе. Балазе, з услончыкам пайшла: можна пасядзець.

М я ш ч а н к а. Ах, пан Пісарэвіч, я дагэтуль не магу насмяяцца з гэтай вашай выдумкі: услончык у «хвост» з сабою браць. А якія ж цяпер «хвасты» вялікія; сёння я бачыла, на цэлую вуліцу ад харчовай крамы расцягнуўся, аж да рогу і за рог загнуўся. А найболей стаяць уцекачы.

П і с а р э в і ч. Вось каб лісіцу з такім хвастом забіць: шмат грошы можна было б за скурку пабраць, а?

М я ш ч а н к а. А ці ведаеце вы, пан Пісарэвіч, я прыйшла да вас па аднэй важнай справе…

П і с а р э в і ч. Калі па грошы, Мар’я Іванаўна, дык пачакайце: вось я скончу гэты заказ на перапіску…

М я ш ч а н к а (*смяецца*). Але ж не, пачакаю, Бог з вамі, я не аб тое.

П і с а р э в і ч. А-а! Ведаю, ведаю! Аб гэтых новых уцекачах? Так, угадаў?

М я ш ч а н к а. Мне здаецца, яны не будуць плаціць акуратна. Супакойце мяне, пан Пісарэвіч! Вы гэткі вясёлы чалавек.

П і с а р э в і ч. О, я надта вясёлы. Змалку гэтакі. У нашым краі ўсе гэтакія: незвычайна жартаўлівы народ.

М я ш ч а н к а. Дык супакойце мяне, пан Пісарэвіч! Што вы думаеце аб іх, гэтых новых з вашага боку?

П і с а р э в і ч. Ведаеце, Мар’я Іванаўна, як дзеля вас, скажу па шчырасці. Мне здаецца, што яны нічога свайго не маюць, у іх усё крадзенае.

М я ш ч а н к а. Ах, што вы? Не можа быць! Яны мне дровы пацягаюць…

П і с а р э в і ч. О, напэўна, напэўна, пацягаюць. Прапалі вашыя дроўцы, Мар’я Іванаўна!

М я ш ч а н к а. Ах, Божа мой! Парайце, пан Пісарэвіч, што ж гэта мне цяпер рабіць?

П і с а р э в і ч. Не журыцеся, Мар’я Іванаўна! Уздумайце на што-колечы вясёленькае, прыемнае, Мар’я Іванаўна!

М я ш ч а н к а. Вы ж мяне павесяліце, пан Пісарэвіч. Як гэта вы казалі, што ў вас не так, як у нас, — не на дрэве, а на зямлі ігрушкі растуць… Хі-хі!

П і с а р э в і ч. А так, так, у нас там і зімы ніколі не бывае.

М я ш ч а н к а. А матачкі! Ото няшчасце! А як жа ў вас маслянка[1]? — без каўзяля?

П і с а р э в і ч. Чаму — без каўзяля? Го-го! Мы сабе з Масквы снег выпісваем, а з Варшавы саначкі. Так і пакатаемся і паваляемся… го-го!

М я ш ч а н к а. Які вы жартаўнік, пан Пісарэвіч! Скуль у вас што бярэцца? Лацвей такому жыць на свеце — ніколі ён не засмуціцца. Я вас заўсёды з такою прыемнасцю слухаю… Але трэба мне ісці. Задалі вы мне клопату з дрыўмі, пан Пісарэвіч. Пайду пазначу крэйдаю.

П і с а р э в і ч. Крыжыкі пастаўце, Мар’я Іванаўна! Нават нячыстая сіла не падступіцца.

М я ш ч а н к а. Жарцікі вам… усё вам жарцікі, не тое што паспагадаць чалавеку. (*Пайшла, потым вярнулася.*) Ведаеце, падабаецеся вы мне, пан Пісарэвіч, хоць вы і нянаскі чалавек. Я так ужо да вас прызвычаілася, што мне цяжка будзе і расстацца з вамі.

П і с а р э в і ч. Каму я магу спадабацца, гэткі худы і бедны!

М я ш ч а н к а. А мне якраз худыя даспадобы!

П і с а р э в і ч. Мар’я Іванаўна! Я маладзею. Давайце пацалуемся, а з кватэрнай платай, калі ласка, пачакайце…

М я ш ч а н к а. Ціха, ціха, саромцеся. (*Затыкае вушы.*) У мяне дровы там пакралі… Другім ужо разам! (*Радасна засмяялася і пабегла.*)

П і с а р э в і ч. Другім разам — няхай сабе другім разам. Але колькі яна мне часу зглуміла, бараболка, ах ты, нячыстая каланіца! Ну, нічога. Усё добра будзе… Ах ты дуй, ах ты дуй! мая міла, не бядуй. (*Дастае з-за печы чурбанок, бярэ бот, вялікую іголку з ніткаю, насаджвае бот на чурбанок і пачынае залатваць дзюрку.*) Я шавец-маладзец! Я шавец-маладзец!

М я ш ч а н к а (*узнімае галас яшчэ на падворку і ўлятае, ізноў не пастукаўшыся*). Чурбанка няма! Чурбанка няма! Дзе мой чурбанок? Сцягнулі-ткі… Ах, каб гэтых уцекачоў!..

П і с а р э в і ч (*схаваўшы чурбанок з ботам за спіну*). Выбачайце, Мар’я Іванаўна, што вы не пастукалі: я ў хатнім выглядзе і боты сабе рапараваў. (*Скача на адной назе.*) Дылі-дылі, го-ца-ца! Дылі-дылі, го-ца-ца!

М я ш ч а н к а. Кіньце свае жарты, пан Пісарэвіч! Чурбанка няма. Ці не бачылі вы часам?

П і с а р э в і ч. Вядома, Мар’я Іванаўна! Уцекачы сцягнулі, дальбог, уцекачы!

М я ш ч а н к а. Насланнё мне з гэтымі ўцекачамі… Сцягнулі-ткі чурбанок!

П і с а р э в і ч. Яны бачылі, дурныя, і думалі, што гэта кавалак мяса. Дык вось яны схапілі ўночы, а цяпер вараць…

М я ш ч а н к а. Што-о? Не дурыце вы!

П і с а р э в і ч. Вараць, дальбог, вараць, Мар’я Іванаўна!

М я ш ч а н к а. Не сорам вам бажыцца, пан Пісарэвіч? Ці ж гэта можа быць тое, што вы кажаце?

П і с а р э в і ч. Можа, не зусім так, але каля таго; калі не імеце веры, дык вось, Мар’я Іванаўна… (*Цягне з-за спіны чурбанок.*) Трымайце! Я на ім боты рапараваў, а думаў сабе: пасля звару яго ды з’ем. Далібог, так думаў! Але неякс пашкадаваў. Бярыце, Мар’я Іванаўна: мо калі голад будзе ў вашай губерні, — не вам, дык добрым людзём спатрэбіцца замест кавалка мяса…

М я ш ч а н к а. Дык гэта ўсё вашы жарцікі, пан Пісарэвіч? А я спалохалася — дзе, думаю сабе, мой чурбанок? Ну і жартаўнік!

П і с а р э в і ч. Дык бярыце, Мар’я Іванаўна! Толькі добранька схавайце, а то ўцекачы ткі яго сцягнуць.

М я ш ч а н к а. Рапаруйце, рапаруйце боцікі, а я пасля забяру. Ну і жартаўнік чалавек! (*Пайшла, а ён садзіцца за боты.*)

Ж о н к а (*прыходзіць за нейкі час з услончыкам і фунтам хлеба, сядае і моўчкі плача*). Да чаго мы дажыліся, да чаго мы дажыліся…

П і с а р э в і ч (*пяе*).

> Не плач, не плач, мая ты Стасенька,
> Не плач, не журыся!..
> Дый за свайго краўца-шаўца
> Богу памаліся…

Ж о н к а. Да чаго мы дажыліся, да чаго мы дажыліся!.. (*Плача, трасучыся, не могучы стрымацца.*)

П і с а р э в і ч (*кідае бот і ўстрывожаны падходзіць да жонкі*). Стасенька, міленькая, супакойся!

Ж о н к а. Лепей бы нас бомба нямецкая там забіла, чымся тут гараваць на ўцякацтве!.. Да чаго мы дажыліся…

П і с а р э в і ч. Да чаго там дажыліся? Дажыліся казакі — ні хлеба, ні табакі… Бывае горш, вялікая рэч! Супакойся, Стасютка… (*Цалуе ў рукі.*) Паўзірайся, колькі я аркушаў спісаў, — кучу грошай дастану, баль справім. Дзяцей на свята з прытулку прывядзем. Лячыцца я пачну… Вайна скончыцца, дамоў паедзем!

Ж о н к а. Дамоў, дамоў…

П і с а р э в і ч (*пяе*).

Ой дамоў, дамоў,
Бо ўжо не рана,
Бо ўжо не рана —
Расіца пала!

Ж о н к а. Ну нашто ты пяеш, Алесь? Ты думаеш развесяліць мяне гэтым?

П і с а р э в і ч. А ці ж не? Ці ж табе не весялей ад гэтай песні? Памятаеш, мы яе чулі, як ездзілі да майго дзядзькі ў госці ўлетку 1913-га году? Дзяўчаты ішлі з поля і пяялі… Га? Хораша? І пра вайну тады ніхто і не думаў. От, добра, ах!

Ж о н к а (*скрозь слёзы*). Памятаю, Алеська, памятаю… Але ж гэта ўсё даўно-даўно мінулася, і здаецца, што ўжо ніколі не вернецца. Ты добрую пасаду меў, жылі добра… А цяпер, як ні працуй — на кавалак хлеба не заробіш. А стаяць мне ў гэтай чарзе, па восем гадзін за хунт хлеба — Алесь, гэта ж такая мука, такая мука…

П і с а р э в і ч. Нічога, Стасенька, няма хлеба — што рабіць? Усе стаяць, не мы адны…

Ж о н к а. Хто там усе? Парадачныя людзі не стаяць… Самая дрэнь — бабы-маскоўкі ды нашы ўцекачы галодныя. Нашых штурхаюць, б'юць, смяюцца… Кажуць, мы аб'ядаць іх прыехалі. Ой, якая гэта мука там стаяць.

П і с а р э в і ч. Не бядуй, Стася! Глядзі, колькі перапісаў…

Ж о н к а. Ты хворы зусім, Алесь. Табе лячыцца трэба. Што ты мяне пацяшаеш?

П і с а р э в і ч. Я — хворы? Глядзі, які я здаровы! (*Махае кулакамі*.) Го-го! На мяне яшчэ маладзіцы заглядаюцца! Го-го! Ну, смейся ж, Стасенька! Чаго там плакаць? Го-го! Мы яшчэ… о-го-го!

Ж о н к а. Не жартуецца табе, Алесь! Кінь…

## III

Узімку, маразамі, у сцюдзёнай няпаленай кватэры, П і с а р э в і ч займаецца шавецтвам. Ён — галодны, хворы на выгляд, абшарпаны. Ладзіць мужыцкія боты.

П і с а р э в і ч. Ну, нічога! Хутка дамоў паедзем, — недарма ж існуе на свеце «пленбеж»*. (*Кідае бот і робіць гімнастыку, каб сагрэцца*.) Раз-два! Раз-два! Раз-два! Шкада, што ў войску

* Камітэт па эвакуацыі пленных і бежанцаў.

па слабасці здароўя не трапілася быць: дрэнна гімнастыку раблю… Раз-два! Ах, сцюдзёна, трасца ёй у бок. Брр… Усё мне здаецца, што нешта па мне паўзе… (*Шаволіць плячыма.*) Быў конь, ды з'ездзіўся. Ну, нічога! Добра, усё добра! (*Пяе, махаючы ад сцюжы рукамі — ботам і шылам.*)

Хто быў нічым,
Той будзе ўсім!

Таварышы, ратуйце! Гіну! Мушу боты мужыкам за гнілую бульбу ладзіць. Хай вас ліха, хай вас ліха з вашымі парадкамі. (*Чуваць стуканне ў дзверы.*) Калі ласка, можна, прымаю!

П а н і (*яшчэ маладая і даволі харошая, але пустая, выглядае*). Мо-ожна?

П і с а р э в і ч (*устае і падыходзіць да дзвярэй*). Хрышчоныя? Бараду носіце? Сурдут новы? Гаворка людская? Тады можна… Калі ласка!

П а н і. Я вас не разумею… Выбачайце: тут мяшкаюць панства Пісарэвічы?

П і с а р э в і ч. Тут, тут… хоць якое там панства! Быў конь, ды з'ездзіўся. Ну, нічога, нічога…

П а н і. Можна мне бачыць пані Пісарэвічыху?

П і с а р э в і ч. О, колькі ваша ласка! Толькі яна пайшла цяпер на промысел.

П а н і. Промысел? Які промысел?

П і с а р э в і ч. Промысел — чым мы будзем жыць і што мы будзем есці. Але, грамадзянка, не стойце ў дзвярах, праходзьце далей у нашы палацы!

П а н і (*нясмела заходзіць*). А хто вы такі? Ці сапраўды тут жывуць панства Пісарэвічы?

П і с а р э в і ч (*тыцкаючы сябе пальцам у грудзі*). Вы, грамадзянка, бачыце перад сабою грамадзяніна ці, як вы кажаце дзеля старой сваёй прызвычаёнасці, пана, грамадзяніна-пана Пі-са-рэ-віча! Проша! (*З выкрутасамі запрашае сесці.*)

П а н і. Божа! А я вас не пазнала… Як вы змяніліся, пане Пісарэвіч.

П і с а р э в і ч. А вы, грамадзянка, здаецца, — панна Ліхтароўчанка, калі не памыляюся. Можа, тым часам — былая панна Ліхтароўчанка?

П а н і. Так, проша пана, я ўжо замужам, па мужу — Пшэпюркоўская. Мой муж — доктар. Мае прыватную практыку і, апрача таго, служыць лекарам пры бежанскім камітэце.

П і с а р э в і ч. Ах, як прыемна!

П а н і. Прызнайцеся, пане Пісарэвіч: вы мяне адразу пазналі ці не? Як я цяпер выглядаю?

П і с а р э в і ч. Дадушы, не ведаю: ці я вас адразу пазнаў, ці не адразу, бо я тады пра бульбу думаў. Выглядаеце ж вы адменна, пані Пшэпюркоўская, ну, адным словам — адменна!

П а н і (*ахарашваецца*). Праўда, добра? А мне здаецца, я дужа змізарнела. Я сяду… (*Сядае на скрынку*.) Скажыце праўду: дзе пані Станіслава?

П і с а р э в і ч. Што? пані Станіслава? А ці ж я вам сказаў няпраўду? На промысел пайшла. Дадушы! Гэта, знацца, опровізацыйны камітэт дазволіў уцекачам прыходзіць у склад і выпыльваць мяхі з-пад мукі. Дык яна мела ахвоту — пайшла. Ну нічога, зараз вернецца.

П а н і. Ах, як шкада! А якія ж гэта могуць быць для пані Станіславы заробкі?

П і с а р э в і ч. Не заробкі, не, пані грамадзянка Пшэпюркоўская. Уцекачы гэтую выпылку пасля змятаюць і забіраюць сабе на хлеб есці.

П а н і. Ах, ах, ах! Што ж гэта вы кажаце? Вы жартуеце, пане Пісарэвіч! Бедная пані Станіслава…

П і с а р э в і ч. Ну нічога, добра! (*Пяе*.)

Хто быў нічым,<br>Той будзе ўсім!

П а н і. Хіба толькі з вашаю ўдачаю можна пяяць, пане Пісарэвіч, у гэткім становішчы. Скажыце: як жа гэта вы тут апынуліся? Як уцяклі з-пад немца? Здаецца ж, вы меліся застацца пад нямецкай акупацыяй?

П і с а р э в і ч (*бегае і махае рукамі, дзьме ў іх ад сцюжы*). Не, мы не засталіся, мы выехалі, толькі ўсё чакалі на асобнае купэ ў вагоне, дык трохі спазніліся выехаць. Адзін наш бедны Мурзачка застаўся… Ведаеце: зачынілі мы яго ў будцы, дык ён выў і драпаўся, пакуль-ткі не выскачыў. Прыбег на вакзал, знайшоў нас, кідаўся ў вагон — і мусіў застацца ў палоне, начальства не дапусціла яго эвакуавацца. Бачыце, мы ехалі ў цяплушках, а сабачых вагонаў не было. Чула яго сэрца смертухну…

П а н і. А што з ім сталася?

П і с а р э в і ч. А сніцца мне, часта сніцца, што сабачка наш тры дні не еў, не піў і ляжаў у сваёй будцы, як хворы. А па трэці дзень, як бухнуў нямецкі снарад, дык і яго і будачку яго закапаў у зямлю. Як сасню, дык аж плакаць хочацца. А сніцца мне яго смерць вельмі часта.

Завяршаецца разгляд аповесці наступным меркаваннем: «Бялінскі сказаў, што маляваць сучасную гістарычную эпоху вельмі цяжка, як цяжка маляваць выгляд лесу, стоячы ў ім. Трэба, каб пачуцці і погляды сучасніка абстоіліся і выспелі, каб ён мог іх маляваць аб'ектыўна і спакойна […] аўтар шмат болей выйграў бы, каб гэтую повесць сваю «Дзве душы» адлажыў пісаннем на пазнейшы час, не хапаючыся за гарачыя бліны.

Мы спадзяемся, што праз колькі гадоў аўтар прымецца, ужо не спяшаючыся, зноў за сучасную эпоху і напіша раман. У яго на гэта ёсць пэўныя задаткі».

А. Л. (Антон Луцкевіч) у рэцэнзіі на кнігу адзначаў уменне аўтара перадаць настрой чалавека, стварыць жыццёва праўдзівыя тыпы асобных герояў, па-мастацку намаляваць вёску і г. д. Аднак ён зазначаў, што «псіхалагічны стан яго героя (Абдзіраловіча. — *Т. Г.*) не вынікае з «прышчэпкі» на чужы грунт і мае тысячу і адну прычыну зусім іншага характару». Застаўся не раскрытым, на думку рэцэнзента, і вобраз Васіля. Крытычную заўвагу М. Гарэцкаму зрабіў А. Л. і за празмернае ўжыванне дыялектызмаў.

Падводзячы вынік, рэцэнзент пісаў: «Повесць Гарэцкага, нягледзячы на яе недахваткі, цікавая і варта ўвагі. Цікавая галоўным чынам як адбіццё беларускага жыцця ў пачатку бальшавіцкага перавароту. Яна першы раз раскрывае багацце гэтага жыцця, раскрывае духоўнае хараство барцоў за беларускую нацыянальную ідэю, аб каторых шырэйшае грамадзянства йшчэ так страшэнна мала ведае і мо так жа мала іх цэніць… І вось за гэта аўтару яе належыцца шчырае дзякуй!» (Зб. «Наша ніва», 1920.)

У працэсе падрыхтоўкі аповесці «Дзве душы» да выдання высветлілася, што М. Гарэцкі меў намер істотна перапрацаваць твор. Пра гэта сведчыць запіс, зроблены аўтарам у «Плане мае творчасці*» (ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 7. Воп. 1. Адз. зах. 43. Арк. 4), які датаваны 24 ліпенем 1928 г.:

«10. *Дзве душы — Дзве душы+Дзве ідэі. Усебел. з'езд 1917 г. Незадача. Апостал. У 1920 г.+Ашуканец. (І працяг: «Вайна і рэвалюцыя», 1914–1928 г.) У панскай кухні».* Пункт плана *Фантазія*, напісаны перадапошнім, закрэслены.

Як відаць, многія пункты з'яўляюцца назвамі твораў аўтара. Цяжка сказаць, якім чынам пісьменнік меў намер спалучыць іх у аповесці, аднак, як вынікае са зместу твораў, яны паміж сабой аб'яднаны агульным матывам, агульнай ідэйнай сутнасцю.

[1] *«Добрай ночы, зара-зараніца!»* — верш М. Багдановіча (1911).

[2] *«Вясновая ліра, чароўная ліра»…* — радкі з верша З. Бядулі «М. Багдановічу» (1918).

[3] Радкі з верша К. Буйло «Не магу…» (1914).

* План, складзены паводле тэматычных і жанравых адзнак. Далей — «План…».

[4] *А йдзі, коце, у лясок, / Прынясі ты Ірцы паясок… Сядзела котачка на кухні, / У яе вочачкі папухлі…* — беларускія народныя калыханкі-забаўлянкі для дзяцей, варыянты якіх можна знайсці ў зборніку: Гарэцкі М., Ягораў А. Народныя песні: З мелодыямі. Мінск, 1928 (змешчаны ў кнізе матэрыял запісаны М. Гарэцкім ад сваёй маці, Ефрасінні Міхайлаўны).

[5] *Я каханне маё пахаваю ў душы…* — радкі з верша К. Буйло «Не хачу я нічога казаці табе…» (1912).

[6] *Я надоечы нават слоўнік, маскоўска-беларускі купіў.* — Маецца на ўвазе «Руска-беларускі слоўнік», які Максім Гарэцкі склаў разам са сваім братам Гаўрылам. Слоўнік выдадзены ў 1918 г. у Смаленску.

## *Ціхая плынь (с. 243)*

Друкуецца паводле выд.: Гарэцкі, М. Зб. тв.: у 4 т. Т. 2. Мінск, 1985.

Упершыню пад назвай «За что?» апублікавана ў аўтарскім перакладзе з беларускай на рускую мову ў газеце «Известия Смоленского Совета» 1 мая 1918 г. Падпісана псеўданімам *Дед Кузьма.*

Датуецца 1917–1918, 1920–1923, 1926, 1928–1930 гг. на падставе вывучэння гісторыі тэксту.

Першае асобнае выданне аповесці на беларускай мове мае назву «Ціхія песні» (1926). Другое — «Ціхая плынь» (1930). Ад выдання да выдання тэкст твора аўтар пераглядаў і дапрацоўваў. У выніку былі дапісаны новыя раздзелы, зроблены істотныя моўна-стылёвыя праўкі, унесены сюжэтна-кампазіцыйныя змены. З паглыбленнем творчай задумы пісьменніка змянялася і назва твора.

Пасля выхаду з друку аповесць «Ціхія песні» была заўважана крытыкай і атрымала станоўчую ацэнку. П. Б. (П. Бузук) адзначыў, што «Ціхія песні» Гарэцкага — з'ява, безумоўна, новая і свежая ў беларускай літаратуры», спыніў увагу на «яскравых малюнках беларускага быту», падкрэсліў імкненне аўтара аднавіць слоўнік, «ужываючы словы ў новым сэнсе» (Полымя, 1926, № 5).

Крытык А. Лясны (А. Мардвілка) у рэцэнзіі на твор пісаў: «Новая кніжка Максіма Гарэцкага з'яўляецца нібы працягам першых дзвюх, выдадзеных у гэтым жа годзе БДВ. [Маюцца на ўвазе «На імперыялістычнай вайне» і «У чым яго крыўда?» — *Т. Г.*] […] М. Гарэцкі ў апошніх двух апавяданнях апісвае нядаўняе мінулае […] якое яшчэ жыве ў сучасным, як кроплі ўчарашняга дажджу застаюцца назаўтра ў мокрай зямлі. Загэтым яго творы нічуць не пазбаўлены інтарэсу сучаснасці. […] Паасобныя малюнкі ў апавяданні прасякнуты моцным і шчырым пачуццём аўтара, якое надае твору мастацкую суцэльнасць, а іхняя каларытнасць можа захапіць чытача і зрабіць на яго вялікае ўражанне. Стыль кніжкі арыгінальны, добры і лёгкі, а мова багатая і так блізкая да народнай беларускай мовы, як бадай ні ў аднаго з нашых пісьменнікаў» (Маладняк, 1926, № 5).

Аповесць «Ціхая плынь» уваходзіла ў «Зборнік апавяданняў». У «Змесце» яна значыцца 25-м па ліку творам з тымі ж раздзеламі, што і ў апошнім асобным выданні. Размяшчае яе пісьменнік перад дакументальна-мастацкімі запіскамі «На імперыялістычнай вайне» (яны ідуць пад № 26). Такая паслядоўнасць, як і ўдакладненне ў аповесці прозвішча хлопчыка-школьніка Задума, была не выпадковай. М. Гарэцкі імкнуўся стварыць шырокае эпічнае палатно нядаўняга мінулага, паказаць праз лёс двух аднавяскоўцаў (Хомкі і Лявона), што несла імперыялістычная вайна народу, акцэнтаваць увагу на антычалавечым, антыгуманным характары вайны.

Тэкст аповесці ў машынапісе «Зборніка…» адсутнічае.

Паводле сведчання Галіны Максімаўны Гарэцкай, дачкі пісьменніка, прататыпам вобраза Хомкі быў аднавясковец аўтара — Восіп Нажынскі, якога напаткаў такі ж лёс, як і галоўнага героя аповесці.

У «Запісной кніжцы» (1936–1937) М. Гарэцкага (ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 7. Воп. 2. Адз. зах. 19) ёсць запіс: «На імперыялістычнай вайне пагінулі» і дадзены пералік імён, сярод якіх значыцца «Восіп Максімаў», г. зн. сын Максіма Нажынскага. Носьбітамі ўсіх названых у запісной кніжцы імёнаў былі рэальныя асобы, аднавяскоўцы Гарэцкага. Запіс прызначаўся для «Камароўскай хронікі».

У аўтарскім разуменні імя Хомка — намінальнае. У артыкуле «Наш тэатр» ён пісаў: «Беларус — гэта Хомка, што веры не дае. На слове ён быццам-то і згадзіўся, каб не скрыўдзіць каго, а тым часам, пакуль усяго сваімі вачамі не паглядзіць, датуль не дасць поўнай веры, датуль і не пераканаецца».

Без змен у аповесці пакінута імя маці галоўнага героя — Домна.

[1] *…грознага, але і праведнага Егавы…* — Егава́ (Іегова, Яхвэ) — імя Бога ў іудзейскай рэлігіі.

[2] *Брусаў каляндар* — пад гэтай назвай вядомы каляндар з прадказаннямі, складанне якога прыпісваецца Якаву Брусу. *Брус* Якаў Вілімавіч (1670–1735) — дзяржаўны дзеяч і вучоны, паплечнік Пятра І. Сам каляндар, які стаў узорам для ўсіх пазнейшых выданняў з прадказаннямі, быў адгравіраваны ўпершыню ў 1709 г. на медзі і складаўся з 6 асобных лістоў.

[3] *Купальскія ночы* — самыя кароткія і светлыя ночы.

[4] *Рабінавыя ночы* — ночы напрыканцы лета з праліўнымі дажджамі і моцнымі навальніцамі.

[5] *Мусіяш* — антыхрыст. У драматычным абразку «Антон» М. Гарэцкі выкарыстаў блізкую сюжэтную сітуацыю. Герой твора — доктар — прыгадвае падобнае трагічнае здарэнне, якое адбылося на Магілёўшчыне «чатыры гады назад», калі «мужыкі забілі дзіцёначка, быццам народжанага антыхрыста…».

[6] *…рулі з пастаялкі…* — хлеб, накрышаны ў малако, якое адстаялася ў халодным месцы (склепе).

[7] Радкі з цыкла вершаў Я. Купалы «Песні вайны» (1914).

## ДАКУМЕНТАЛЬНА-МАСТАЦКІЯ ТВОРЫ

### *На імперыялістычнай вайне (с. 299)*

Друкуецца паводле выд.: Гарэцкі, М. Зб. тв.: у 4 т. Т. 3. Мінск, 1985, з уключэннем апошняй часткі тэсту раздзела «Шпіталь»: «А таму хвораму на грудзі, што прывезлі з аўстрыйскага фронту, ~ што ніяк не можна было яму не верыць…».

Памета аб дапаўненні тэксту, як і многія іншыя аўтарскія праўкі, зроблена ў кнізе, дзе твор упершыню апублікаваны: Гарэцкі М. На імперыялістычнай вайне: Запіскі. Мінск, 1926 (ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 7. Воп. 1. Адз. зах. 33. Арк. 86. С. 172).

Датуецца 1914–1915, 1919–1920, 1925–1926, 1928 гг. на падставе вывучэння гісторыі тэксту.

«На імперыялістычнай вайне» — твор, напісаны на дакументальна-аўтабіяграфічным матэрыяле. Амаль з першых дзён службы ў царскай арміі М. Гарэцкі трапіў на фронт. Убачанае і перажытае пісьменнік-салдат занатаваў у франтавым дзённіку, матэрыял якога паклаў у аснову дакументальна-мастацкіх запісак. Многае з франтавога жыцця выкарыстана Гарэцкім пры стварэнні шэрагу апавяданняў — «Літоўскі хутарок», «Генерал», «На этапе». У аўтографе «Камароўскай хронікі» пісьменнік таксама згадвае падзеі ваеннай пары, робіць пэўныя пазначэнні аб іх разгортванні пры далейшай дапрацоўцы гэтага твора.

Кніга «На імперыялістычнай вайне» была высока ацэнена тагачаснай крытыкай. Рэцэнзент «Маладняка», Аліг (М. Аляхновіч), справядліва ставіў кнігу М. Гарэцкага побач з такім «чалавечым дакументам» аб імперыялістычнай вайне, як «Агонь» А. Барбюса. Ён падкрэсліў, што вайна ў пісьменніка паказана такой, «як яна ёсць», без «прыгожага самаашуканства…» (Маладняк, 1926, № 9).

К. Гарабурда адзначаў: «…Запіскі «На імперыялістычнай вайне»… ставяць у цікавай, новай для беларускай літаратуры форме (дзённік) перад чытачом пачатак старой вайны з усімі яе праявамі і жахамі. «Запіскі» […] даюць каштоўны як псіхалагічны, так і гістарычны і бытавы матэрыял, чытаюцца лёгка, захапляюць…» (Полымя, 1926, № 6).

У аглядным артыкуле «Наша проза за 1926 год» (Полымя, 1927, № 4) Мікола Крывіч (М. Байкоў) пісаў: «Сярод празаічных твораў ад мінулага года, безумоўна, важнае месца павінны заняць апавяданні М. Гарэцкага «Досвіткі» і «У чым яго крыўда?». Гэтаксама значнае месца належыць «Запіскам» аб імперыялістычнай вайне». Даследчык адзначыў, што запіскі «На імперыялістычнай вайне» «кладуць пачатак сур'ёзным формам беларускай прозы рэальнага кірунку», што «мова М. Гарэцкага, як народная мова… мае значную вагу для сфармавання нашай літаратурнай мовы».

Пры падрыхтоўцы ў 1928 г. «Зборніка апавяданняў», куды М. Гарэцкі 26-м па ліку творам уключыў «запіскі» «На імперыялістычнай вайне»,

іх тэкст быў дапрацаваны. Зроблена гэта на самім выданні: невялікія па памерах дапаўненні напісаны М. Гарэцкім простым алоўкам на палях кнігі, паміж раздзеламі; большыя — чорным чарнілам на аркушах паперы, прыклееных да адпаведных старонак. Імя галоўнага героя дакументальна-мастацкіх запісак — Лявон. М. Гарэцкі канкрэтызаваў адразу на тытульным аркушы кнігі, дзе замест «(Запіскі)» напісаў: «Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы». Да Лявона Задумы напісаны і ліст ад баявых сяброў у апошнім (цалкам дапісаным) раздзеле. Аднак аўтар і ў асобным выданні і пры дапрацоўцы кнігі не звярнуў увагу на выраз «майго цёзку», які выяўляе іншае імя героя: «Андрэй! Андрэй! — гукнуў свайго дзеншчыка (майго цёзку)…» (с. 67).

У канцы раздзела «Шпіталь» М. Гарэцкі простым алоўкам напісаў: «А таму хвораму на грудзі, што прывезлі з аўстрыйскага фронту, болей выпадае ляжаць у больніцы для псіхічнахворых, чым тут, у нас. Ляжыць ён на Саксанавым месцы». Унізе пазначана: («Рускі»). Гэта памета дае падставу меркаваць, што пісьменнік меў намер уставіць адпаведны тэкст. Як высветлілася (ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 7. Воп. 1. Адз. зах. 12. Арк. 7), ім з’яўляецца машынапіс амаль ідэнтычны тэксту, які быў надрукаваны ў часопісе «Полымя» (1925, № 1) пад назвай «На імперыялістычнай вайне (З запісной кніжкі)». Пазней апублікаваны тэкст атрымаў назву «Рускі» (замена зроблена аўтарам на асобных лістках з палымянскім тэкстам). Машынапіс назвы не мае: чорным чарнілам пастаўлены тры зорачкі. Выпраўлены тым жа колерам пачатак супадае з тэкстам, занатаваным у тэксце кнігі з аўтарскімі праўкамі.

Дакументальна-мастацкія запіскі «На імперыялістычнай вайне» і аповесці «У чым яго крыўда?», «Меланхолія», «Ціхая плынь» успрымаюцца як часткі адной кнігі, выяўляюць пачатковы этап у ажыццяўленні грандыёзнай задумы пісьменніка: стварыць шырокае эпічнае палатно, разгарнуць падзеі вакол аднаго героя, адной сям’і, паказаць як чалавек стварае гісторыю і як гісторыя фармуе чалавека.

[1] *Прусія* — у той час — нямецкае каралеўства; з 1918 г. ператворана ў адну з земляў Германіі.

[2] «*Тады лічыць мы сталі раны…*» — радкі з верша М. Лермантава «Барадзіно», перакладзеныя, відаць, самім М. Гарэцкім.

[3] *О, Вільгельма, Вільгельма!* — Маецца на ўвазе Вільгельм II, германскі імператар і прускі кароль, які актыўна садзейнічаў развязванню Першай сусветнай вайны.

[4] …*Малоху вайны*. — Ужываецца як сімвал бязлітаснай сілы, якая патрабуе мноства чалавечых ахвяр.

[5] «*И сколько, сколько их в борьбе / за край родной, удалых, молодых…»* — адвольна працытаваныя радкі, відаць, з верша англійскага паэта Т. Мура «Вечерний звон» у перакладзе І. Казлова. У І. Казлова: «И сколько нет теперь в живых / Тогда весёлых, молодых!..»

[6] *...«Летапісцы» З. Бядулі*. — Маецца на ўвазе першая частка апавядання, яго працяг у газеце «Наша ніва» за 2 кастр. 1914 г.

[7] *«Волат»* — верш З. Бядулі.

[8] *«А ты, скрыпка, іграй шыбка…»* — словы з народнай песні. Яна, як і многія іншыя песні, якія М. Гарэцкі запісаў ад сваёй маці, Ефрасінні Міхайлаўны, увайшла ў зборнік: Гарэцкі М., Ягораў А. Народныя песні: З мелодыямі. Мінск, 1928.

### *Кіпарысы (с. 418)**

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1993, № 2, дзе апублікавана ўпершыню. Публікацыя Г. Гарэцкай.

Датуецца 1928, 1931–1935 гг. на падставе вывучэння гісторыі тэксту.

Тэкст аўтографа захоўваецца ў ЦНБ НАН Беларусі (ф. 7, воп. 2, адз. зах. 15, арк. 1–83), 18-я старонка адсутнічае. Напісаны фіялетавым чарнілам на машынапісных аркушах, разрэзаных на чатыры часткі. На адваротных старонках аўтографа першапачаткова былі надрукаваны на машынцы тэксты асобных апавяданняў. Напрыклад: «Рабфакаўка», «Багатая пчэльня», «Смачны заяц», «Рускі».

Цікавыя і каштоўныя «Тлумачэнні» да тэксту «Кіпарысаў», «Лявоніуса Задумекуса», «Скарбаў жыцця» дадзены Г. Гарэцкай, сведкай тых далёкіх падзей і даследчыцай творчасці бацькі, у палымянскай публікацыі. Адносна «Кіпарысаў» яна сказала наступнае: «Летам 1928 года Максім Гарэцкі з Горак, дзе працаваў выкладчыкам у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, ездзіў адпачыць у Крым. У дарозе і ў Крыме вёў дзённік. Пазней, у вяцкай ссылцы (1931–1935), перапісаў яго, дату пакінуў старую — 1928 год. Першапачатковы тэкст не захаваўся, а новы, пад назваю «Кіпарысы», мусіць, стаў чарнавым матэрыялам да будучага мастацкага твора ў форме дзённіка.

Як і ў «Камароўскай хроніцы», таксама да канца не апрацаванай, Мінск у «Кіпарысах» называецца Камунацэнтрам, Ксенемам, Кепскам; Орша — Варнай, а яшчэ Кмітай, Кмітай-Чарнабыльскай (пэўна, у памяць Ф. С. Кміты-Чарнабыльскага — старасты аршанскага ў 1567–1587 гг.); Магілёў — Ямай; Ленінград — Пальмірай; Масква — Кучкай (можа, ад Кучкова поля — старажытнага ўрочышча на тэрыторыі сучаснага цэнтра Масквы); Горкі Магілёўскай вобласці назваў Пячуркамі, Гомель — Бадэнам, Бадэн-Бадэнам (пэўна, успомніў даўні жарт: «Куды едзеш? — У Бадэн-Бадэн. — Ну а я — у Гомель-Гомель»).

Сябе аўтар імянуе Кузьмой Хлюпкам, у адным месцы дзённіка ён — Кузьма Мышка. Брата свайго Г. І. Гарэцкага, «малодшага Хлюпку», называе Геолагам, што магло быць толькі пасля 1931 года, калі той пачаў працаваць у геалагічнай экспедыцыі на поўначы. Упамінаюцца некаторыя асобы з «Камароўскай хронікі»: Марынка, «кухар, з гора

* Пры напісанні рэальнага каментарыя да «Кіпарысаў», «Лявоніуса Задумекуса», «Скарбаў жыцця» выкарыстаны звесткі з ліста Г. Гарэцкай да Т. Голуб ад 26 сак. 1992 г., а таксама артыкул М. Ількевіча «В “кипарисах” Максима Горецкого» // Гарэцкія чытанні. — Мінск, 2002. — С. 323–330.

п’яны» (Стахван Батура), палянкаўскі сват. На адной старонцы дае параўнанне: «…як на кірмашы на Адзінаццатуху ў Целяпенічах». Целяпенічамі ў сваіх творах называў М. Гарэцкі мястэчка Шамава (паблізу ад роднай яго вёскі М. Багацькаўкі). Адзінаццатуха — 11-я пятніца пасля Вялікадня, калі ў Шамаве бывалі вялікія кірмашы.

Не ўсе сапраўдныя імёны, назвы ў «Кіпарысах» можна адгадаць, устанавіць. Некаторыя раскрываюцца ў кантэксце з рознымі падзеямі, фактамі. А ёсць і такія, што лёгка адгадваюцца, дастаткова прачытаць слова наадварот альбо паставіць на месца асобныя літары, склады. Напрыклад: Нікшуп (Пушкін), Wocheč (Чэхаў), Наброг (Горбань), Лікос (Сокіл), Wami-Harbi (Ібрагімаў), Вомі-хан (Нахімаў), Вёлурх (Хрулёў), Евреж (Жэрве), Іксне-Вор (Ровенскі), Нішаві, Абруж — Івашын, Журба, Чывок-Мілк (Клімковіч); Зімесі (Сімеіз), Аквак-ца-Габе (Багацькаўка), Фуз-Гурэ (Гурзуф) вар’іруецца: Фуз-Ружэ, Фуз-Гужэ; Акпула (Алупка) і г. д. Можа, і не было неабходнасці маскаваць нават вядомыя прозвішчы, назвы гарадоў, вуліц і інш., але так зроблена.

Па дарозе спыняўся Кузьма Хлюпка ў Мяцісах (Смаленску), Кучцы (Маскве), Напляваве (Харкаве). Цікавіўся ўсім, што мела адносіны да беларускай справы: адкрыццё беларускай кафедры ў Мяціскім універсітэце (Педінстытуце? — *Г. Г.*), на якую, аказалася, няма грошы; выданне беларускіх кніг, слоўнікаў у Кучцы; пошукі патрэбных матэрыялаў па этнаграфіі. Не пакідала цікавасць да жыцця, культуры балотнікаў (беларусаў), коржыкаў (украінцаў — у Вятцы быў сусед — украінец Корж), шахметаў (татараў), казельцаў (рускіх; можа, назва ад горада Казельска, які ў цэнтры Расіі).

Рэктара Мяціскага універсітэта называе Энеідзкім альбо Энеідскім, бо ён «казаў, што даводзіцца блізкай раднёю аўтару балотнае Энеіды і мае аб ім матэрыялы».

Уладзіміру Дубоўку даў прозвішча Цеснавок (па знешняй прыкмеце), коратка расказаў пра іх сустрэчы ў Маскве. На жаль, нямала імёнаў, прозвішчаў асоб, з якімі М. Гарэцкі сустракаўся па дарозе ў Оршы, Смаленску, Маскве, Харкаве, пакуль што застаюцца нераскрытымі.

У Напляваве (Харкаве) аўтар «Кіпарысаў» наведаў рэдакцыю часопіса «Гэткі кірунак» («Чырвоны шлях»), дзе ў № 5–6 за 1928 год быў надрукаваны яго артыкул «Білоруська література». І тут, у рэдакцыі, а потым і ў «будынку многаглаголанія» былі ў Кузьмы Хлюпкі сустрэчы, цікавыя гутаркі з Былкам, Кузьмою Тонкашыем, Казельцам, Белабэстыянавым, крытыкам Краскам, гісторыкам Маратам і інш.

Пра Былку аўтар дзённіка кажа, што ён раней «здаваўся нейкім семінарыстам, а сапраўды ў яго дужа інтэлігентны і прыгожы твар. 35 гадоў яму […]. Нос з невялічкаю ледзь прыкметнаю гарбінкаю, нармальны і пастаўлены гостра ўперад». Ёсць агульнае з Паўло Тычынам: рысы твару, у 1913 годзе закончыў Чарнігаўскую духоўную семінарыю, у 1928 годзе быў у складзе рэдакцыі часопіса «Чырвоны шлях», у маі 1928 года падарожнічаў з групай украінскіх пісьменнікаў па Беларусі, пра што ўспамінае ў «Кіпарысах» Былка ў гамонцы з

Хлюпкам. У Напляваве гаварылі з Кузьмою Хлюпкам і пра балотнікаў: Цеснавока, Манастырскага, Босага, Валыншчыка, Шакаловіча, Слабадзкога. Апошняе прозвішча дакладна раскрываецца. У «Кіпарысах»: «Я ім сказаў, што ў «Гэткім кірунку» ёсць рэцэнзія на «Норы-Норкі» з пажаданнем, каб раман быў перакручаны для коржыкаў». У №№ 5–6 «Гэткага кірунку» («Чырвонага шляху») ёсць рэцэнзія Л. Вароніча на раман Міхася Зарэцкага «Сцежкі-дарожкі».

На двух фотаздымках, якія былі зроблены на другі дзень побыту М. Гарэцкага ў Харкаве, дата — 10 ліпеня 1928 года.

У Ханскай паўвыспе (Крыме) адпачываў Кузьма Хлюпка як мог: любаваўся морам, паўднёвай прыродай, плыў на катэры, параходзе, схадзіў у горы. Вядома ж, пабываў у Кіпарысах (Ялце) на магіле Максіма Багдановіча. Быў у Зімесі (Сімеізе), Фуз-Гурэ (Гурзуфе), у Сын-Гаршэчніка-Буржэ (Севастопалі).

Даў у дзённіку кароткае апісанне «Севастопальскай панарамы», якую стварыў у 1901–1905 гадах Ф. А. Рубо (1856–1928). Не ўсё, што ўбачыў М. Гарэцкі ў панараме, захавалася: яна моцна пацярпела ў Вялікую Айчынную вайну, пазней была часткова ўзноўлена і дапоўнена. Глядзеў Максім Гарэцкі на гэтую «дзіўную рэч — Фокус-Раці» вачыма воіна-артылерыста: «Далей — батарэя: адны гармату набіваюць, у другой ужо цягнуць кнот, трэцюю — накачваюць».

У невялікіх памерам «Кіпарысах» змясцілася больш за сотню чалавек: дарослыя ўсіх узростаў, дзеці. А яшчэ ж нямала людзей толькі ўпамінаюцца ў размовах альбо ўзнікаюць у памяці аўтара. Многім дае М. Гарэцкі кароткія, трапныя, часам мімалётныя характарыстыкі, нават сам сабе. Магчыма, некаторыя сустрэчы, назіранні падказвалі яму сюжэты для новых апавяданняў. Так, ён кажа пра шаўца, які ладзіў яму боты: «Аб іншых яго апавяданнях пасля!» І ставіць клічнік. У чарнавіках «Люстрадзёна» (1929) ёсць «курортныя» замалёўкі, але яны амаль не разгорнуты, бо аўтар не меў магчымасці прадоўжыць працу над гэтым сатырычным творам. Пачатак чарнавога накіду замалёўкі «Рабфакаўка» (1929?) амаль поўнасцю супадае са сказаным у «Кіпарысах» пра «грамацейку».

Згадваецца паездка Максіма Гарэцкага ў 1926 годзе ў Сібір і на Далёкі Усход, таксама ў час летняга адпачынку. Частка сабранага ў тым падарожжы матэрыялу лягла ў аснову незавершанага цыкла «Сібірскія абразкі» (Збор твораў. Т. І. Мінск, 1984. С. 302–371). Гэтаксама цікавіўся ўсім, што бачыў, чуў, гэтаксама імкнуўся занатаваць свае назіранні.

Дзённікавыя запісы ў «Кіпарысах» шчыльна сціснутыя, пададзеныя ў алегарычнай форме, далі б Максіму Гарэцкаму нямала матэрыялу для новага цыкла твораў, калі б не загінуў ён так рана…» (с. 121–122).

Зашыфроўка пісьменнікам сапраўдных імён, прозвішчаў, геаграфічных назваў, іншасказанне тлумачыцца тым, што М. Гарэцкі, апрацоўваючы матэрыял у ссылцы, добра разумеў драматычную сітуацыю, якая склалася ў краіне, і баяўся наклікаць бяду на тых людзей, з кім яму даводзілася сустракацца.

[1] *…бачыў бухгалтара Лазобку…* — гаворка ідзе пра бухгалтара Корабава, з дачкой якога сябравала ў дзяцінстве Галіна Гарэцкая.

[2] *…на вечарыне ў асістэнта па батаніцы т. Гаршэчніка.* — Магчыма, у М. М. Ганчарыка (1899–1986).

[3] *У Мяцісы прыехаў увечары, а 9-й гадзіне… Дом працаўнікоў асветы.* — М. Гарэцкі прыехаў у Смаленск 6 ліпеня і спыніўся ў *Доме працаўнікоў асветы* (у той час — вул. В. Савецкая, 18/1), каб уладкавацца на начлег у яго інтэрнаце. 7 ліпеня, пасля многіх сустрэч, паехаў у Маскву.

[4] *…вечар выпускнікоў педфаку. ~ апрача балотнага гуртка і балотнага ўхілу на аддзяленні рабфаку…* — У Доме працаўнікоў асветы праходзіў вечар выпускнікоў педагагічнага факультэта Смаленскага універсітэта. Тут М. Гарэцкі даведаўся, што ва універсітэце працаваў гурток беларусазнаўства, а на рабфаку было арганізавана беларускае аддзяленне.

[5] *Шукаў радню этнографа Калматага. ~ Лапчынскага, але не знайшоў удому.* — Шукаў родных этнографа У. М. Дабравольскага (1856–1920). Сустрэўшыся з адным з сыноў вучонага, ён даведаўся аб трагічнай смерці іх бацькі ў ноч з 7 на 8 мая 1920 г., запісаў адрасы біёграфаў. Прафесар У. П. Лапчынскі (1874–?) жыў на вул. В. Энгельгартаўская, 32, але яго М. Гарэцкі дома не заспеў.

[6] *Быў у рэктара універсітэта Энеідскага.* — Маецца на ўвазе прафесар Смаленскага універсітэта М. М. Равінскі (1887–1953).

[7] *…пазнаёміўся з прафесарам гісталогіі Брухавецкім-Рыжым.* — Маецца на ўвазе прафесар медыцынскага факультэта І. В. Міхалоўскі (1871–1937).

[8] *Сербіянін* — Ул. І. Пічэта (1878–1947).

[9] *Заходзіў на кватэру, дзе жыў дзесяць год таму назад.* — На вуліцу Аўраміеўскую, 8. У Смаленску М. Гарэцкі жыў з канца 1917 да пачатку 1919 г.

[10] *Быў у музеі.* — Смаленскім дзяржаўным абласным музеі.

[11] *Баршчэўскі* — дырэктарам музея быў І. Ф. Баршчэўскі (1851–1948).

[12] *Нагата* — манета ў Старажытнай Русі. У канцы XIII — XIV ст. набывае значэнне «грошы». У «Кіпарысах» аўтар так называе капейкі.

[13] *А колькі антэн над Мяцісамі!* — Магчыма, антэны, устаноўленыя на доме Чырвонай Арміі ці іншых вайсковых збудаваннях, якіх, калі М. Гарэцкі жыў у Смаленску, не было.

[14] *Кватэрная кантора* — жыллёвы аддзел Смаленскага Савета, дзе ў 1917–1918 гг. працаваў М. Гарэцкі.

[15] *І сядзеш ты на Букі і заедзеш да Ханскага Пярэсмыку.* — Відаць, трамвай пад літарай «Б», які ішоў у напрамку Крымскага Валу.

[16] *…на Авэню Анархіста, 16, у канцылярыю Букіністаў…* — магчыма, гаворка ідзе пра вуліцу Крапоткіна і Дом пісьменніка.

[17] *Мінімальны Аддзел* — Нацыянальны аддзел.

[18] *...«Жыццё ў кветках» А. Франса...* — правільная назва твора — «Жыццё ў цвеце».

[19] *...я не ўцерпіў і еў гэты агурочак.* — У 1926 г. М. Гарэцкі вярнуўся з Сібірскага падарожжа з моцнымі болямі ў жываце (захварэў у дарозе) і таму асцерагаўся з ядой.

[20] *...мы... фатаграфаваліся.* — Здымак М. Гарэцкага і У. Дубоўкі змешчаны ў гэтым выданні.

[21] *«Дні Былых»* — «Дні Турбіных» М. Булгакава.

[22] *Кмецкі вакзал* — відаць, Кіеўскі вакзал.

[23] *Праязджалі Мяціскае торжышча, потым цераз Галоўную, каля помніка Арапаву, потым Бядулеўку, Глядзельны пляц, Лыкавы пляц, Гавядную і далей.* — Верагодна, Смаленскі рынак, вуліца Цвярская, помнік Пушкіну, плошча Свярдлова, Тэатральны пляц, Лубянка, вуліца Мясніцкая.

[24] *Геолаг і жонка ездзяць, нічога Альжбэце і Сла не пішуць.* — Гаворка ідзе пра брата пісьменніка Гаўрылу Іванавіча Гарэцкага, яго жонку Ларысу Іосіфаўну, іх сына Славіка і домработніцу.

[25] *Паслаў тры кніжкі і дзве запісныя кніжачкі Г. і Л.* — Хутчэй за ўсё Гаўрылу Іванавічу і Ларысе Іосіфаўне.

[26] *Босы, Валыншчык, Тонкашый, Чарэшня* — відаць, М. Чарот, А. Дудар, М. Рыльскі, А. Вішня.

[27] *Іоган Навізіф... ён едзе пасланцом з Шынакадасты...* — прадстаўнік з Канады. На адваротным баку фотаздымка за 10 ліпеня 1928 г., які зроблены ў час паездкі М. Гарэцкага ў Крым, пералічаны наступныя асобы: «Зліва: Н. Горбань (історик), Биковец, Сокіл, Лебідь, Гарецкі, Навізівський (з Канады)».

[28] *Пчал. (пчалінец)* — ліпень.

[29] *У белым доме, дзе я ўміраю...* — недакладна працытаваны першы радок верша М. Багдановіча «...Ў краіне светлай, дзе я ўміраю...» (1917).

[30] *...жонка Славака, прыстаўлянніца Рэпінг.* — Жонка А. П. Чэхава, актрыса В. Л. Кніпер-Чэхава.

[31] *Auf wider sein!* (ням. Auf Wiedersehen!) — Да пабачэння!

[32] *..хацеў ехаць у Геркуланум, дзе раскопкі...* — верагодна, так назваў М. Гарэцкі раскопкі ў Херсоне (Корсуні) пад Севастопалем. Па асацыяцыі з раскопкамі ў Геркулануме (Італія).

[33] *Закаменне* — Запарожжа.

[34] *Чамхаба* — Бахмач.

[35] *Лепшаўшчыны* — Лепельшчыны.

[36] *Селекцыя* — так М. Гарэцкі назваў Ларысу Іосіфаўну Гарэцкую, якая працавала аграномам-селекцыянерам.

## ФІЛАСОФСКА-АЛЕГАРЫЧНЫЯ ТВОРЫ

### *Лявоніус Задумекус (с. 471)*

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1993, № 2, дзе апублікавана ўпершыню. Публікацыя Г. Гарэцкай.

Датуецца другой паловай 1931 г. — пачаткам 1932 г. на падставе вывучэння гісторыі тэксту.

Тэкст аўтографа, які захоўваецца ў ЦНБ НАН Беларусі (ф. 7, воп. 2, адз. зах. 20, арк. 1–76) за вельмі невялікім выключэннем, перакрэслены аўтарам. Праца над творам не завершана. Але паколькі ён з'яўляецца каштоўным літаратурным дакументам 1930-х гг., яго тэкст узноўлены.

У тых мясцінах, дзе ёсць шматслойныя аўтарскія моўна-стылёвыя праўкі, улічаны толькі лагічна завершаныя і зразумелыя. У астатніх выпадках пададзены першапачатковы варыянт тэксту.

Непасрэдна над «Лявоніусам Задумекусам» М. Гарэцкі пачаў працаваць, відаць, пасля таго, як «Камунараў напісаў», што відаць з яго лістоў да жонкі ад 27.XII.1931 і 19.1.1932 г. Аднак не выключана, што асобныя накіды, тыпу дзённікавых запісаў, у яго былі раней. Пацвярджаюць выказанае меркаванне разрэзаныя кавалачкі рукапісу, якія ўклеены аўтарам у асноўны тэкст.

Праца над задуманым творам у М. Гарэцкага ішла нялёгка. У лісце ад 19 студзеня 1932 г. да дачкі, ён, напрыклад, выказваў шкадаванне: «Гора маё, што не ўмею хутка напісаць, а то прыслаў бы вам пра Задумекуса». А ўжо праз шэсць дзён (25 студзеня) у лісце да сына ён адзначаў наступнае: «Я пісаў пра Задумекуса, ды пакуль што адлажыў, бо не пішацца так, як хочацца». Ці канчатковае гэта было рашэнне, адназначна сказаць немагчыма. У лістах да жонкі ад 3 і 14 лютага 1932 г. М. Гарэцкі называе сябе Задумекусам.

Пра тое, што пісьменнік неаднаразова вяртаўся да працы над творам, выразна сведчыць рукапісны тэкст, занатаваны рознакаляровым чарнілам, простым алоўкам, з шматлікімі ўклейкамі на розных па памеры кавалачках паперы і мноствам правак, памет і варыянтаў. Вось, напрыклад, якія варыянты былі зроблены М. Гарэцкім да назвы твора: «Запіскі блазеннага імпатэнта Мінімуса Агностыка Апошняга, кантужанага ў часе выбуху на выспе Балотнай Жуды», «Прароцтвы блазеннага імпатэнта Мінімуса Мізэрнага, кантужанага ў часе выбуху на выспе Земнаводнай Жуды». У левым верхнім куце гэтай жа старонкі напісана: «Аракул». На вокладцы ж сшытка з тэкстам твора пазначана: «Блазенны».

Вар'ятамі, блазеннымі, імпатэнтамі М. Гарэцкі ў творы называе розных па артыкулу судзімасці палітычных зняволеных. Беларусь і беларусаў ён зашыфраваў пад назвай Балота і балотнікі.

Пад лічбамі VI і 25, у самым пачатку тэксту, М. Гарэцкі схаваў месяц і дату свайго прыезду ў Вятку. Быў у аўтара і яшчэ адзін ары-

янт зашыфроўкі: «Палац трыццаць першы, паверх VI, пакой 25», што абазначае: 1931 год, чэрвень, 25.

Незадаволенасць працай над «Лявоніусам Задумекусам» нарадзіла ў М. Гарэцкага думку аб напісанні на гэтым жа матэрыяле новага твора, толькі са значна пашыраным зместам, большым духоўна-эмацыянальным напалам, глыбокім філасофскім роздумам над мінулым і сучасным, над пражытым і здзейсненым — роздумам «аб сутнасці з'яў жыцця». Гэтым творам сталі «Скарбы жыцця», пра што сведчаць шматлікія тэкставыя супадзенні, аналогіі, а таксама запіс на першай старонцы «Лявоніуса Задумекуса»: «Брама» — гл. асобна». Пацвярджэннем з'яўляецца і той факт, што тэкст «Лявоніуса Задумекуса» быў перакрэслены аўтарам.

Г. Гарэцкая да тэксту «Лявоніуса Задумекуса» дае, напрыклад, наступныя «тлумачэнні»:

«Тым, хто бываў у 30-я гады ў Вятцы, успомняцца праўдзіва апісаныя Лявоніусам Задумекусам вуліцы, па якіх пахадзіў ён, з гары на гару, у пошуках працы. Пазнаюць яны вяцкі рынак, а ў другім месцы — «барахолку», успомняць вялікі роў, які перасякаў горад якраз пасярод, і паром «Змітрачок» (вяцічы звалі яго — «Митенька») на рацэ Вятцы, і прыгожую відаль за ёю, якой любаваўся Задумекус з высокага берага. І новы вялікі дом галоўпаштамта, і вядомы ў горадзе прыгожы «будынак гатыцкага стылю», куды трэба было ссыльнаму Задумекусу чатыры разы на месяц з'яўляцца для рэгістрацыі…

Можна ўявіць, па якой асацыяцыі ўзнікла назва ўстановы «Вірсталь». У лісце за 16 жніўня 1931 года яна сапраўдная — «Амутнасталь». Ад рускай назвы горада металургаў — Омутнинск (омут — вір).

Жонку сваю Максім Гарэцкі называе Цярпліваю Ласкаю, як і ў лістах і ў «Камароўскай хроніцы». Сясцёр-настаўніц, суседак сваіх, Шубіных, заве Кажуховымі.

На свой лад імянуе розных людзей. Можа, чые-небудзь імёны, прозвішчы сапраўдныя: арцельшчык Гарохаў, дзесятнік Кляксін, работніца Маня, Яўсеіч.

Часам словам «налпа» Задумекус называе тых, чыё прозвішча яму невядома альбо не хоча яго сказаць. У пачакальні для рэгістрацыі ссыльных былі налпы «са страшнымі сківіцамі», «барадастая», «з аграмадным носам», «даўгавязая», «жылістая, цягучая, з балячкамі на носе». Слова «налпа» не абразлівае. Так, у другой пачакальні падставіў Задумекус крэсла цяжарнай «налпе самцы». І «малой налпачцы» ён усміхнецца ласкава («І яна табе ўсміхнецца, як чалавек. І напоўніцца сэрца тваё радасцю, самотнае сэрца радасцю жыцця»).

У лістах да сям'і не казаў Максім Гарэцкі пра ўсе свае пакуты, калі прыйшлося яму, знясіленаму перад тым мінскаю турмою, капаць катлаван пад лазню, вазіць на гару пясок у тачцы, галадаваць, працаваць у лапцях, каб зберагчы бацінкі… Пра гэта раскажа ў «Лявоніусе Задумекусе», на жаль, незавершаным, да канца не апрацаваным. На адной старонцы ёсць такі запіс: «Прыйшоў Дзікун. …Сумны настрой у яго.

Нелады з гаспадыняю (апісаць, як яна крычэла на яго…)». Дзікун — беларускі паэт Нічыпар Чарнушэвіч.

У лістах Максім Гарэцкі гаворыць пра сваю літаратурную працу. І ў «Лявоніусе Задумекусе» скрозь душэўныя і фізічныя мукі прарываецца радасць, суцяшэнне ад думкі, што знойдзецца час і для творчасці: «І паедзеш ты ў залатым чоўне на выспу Патмос. … І ты будзеш шукаць згубленую радасць жыцця свайго. І знойдзеш і не знойдзеш».

Адна з кніг Новага запавету «Апакаліпсіс» («Адкрыццё Іаана Багаслова») напісана ў 68–69 гг. н. э. на грэцкім востраве Патмос (у Эгейскім моры). У «Иллюстрированной полной популярной библейской энциклопедии» (Масква, 1990, ратапрынтнае выданне) выказана здагадка, што назва вострава азначае густалістае тэравінфавае дрэва. Вядома, што яно дасягае тысячагоддзя, а потым на месцы аджыўшага з'яўляюцца маладыя парасткі. Можа, з гэтым неўміручым дрэвам параўноўваў Максім Гарэцкі творчую працу, калі пісаў у «Скарбах жыцця»: «Усохлая дуля зялёны сучок паказала. Залаты чавёнчык паплыў па сіняму мору. Хвалі і праслаўляй выспу Патмос» (с. 117–118).

[1] *Прыцягнешся ў логава сваё і па драбіне ўзлезеш на дрэва, на памост, у буду, у гняздо сваё.* — М. Гарэцкі першапачаткова жыў з Нічыпарам Чарнушэвічам. У лісце ад 30 чэрв. 1931 г. ён пісаў: «…жывём часова на вышках, на другім, недабудаваным, паверсе дома А. Ф. Палкіна, № 24, па Хлынаўскай вуліцы, далёка ад цэнтра».

[2] *…каля круглай белай бажніцы, вельмі вялікай…* — магчыма, гаворыцца пра Аляксандра-Неўскі сабор у Вятцы, што быў пабудаваны ў 1839–1864 гг. па праекце А. Л. Вітберга, які знаходзіўся ў 1835–1839 гг. у вяцкай ссылцы. У 1937 г. храм быў поўнасцю разбураны.

[3] *І прыйдзеш ты ў вялікі, прыгожы белы палац.* — Маецца на ўвазе бібліятэка імя А. І. Герцэна.

[4] *Аксёна патроху хварэе.* — Жонка брата М. Гарэцкага — Парфіра (1896–1980).

[5] *Верасы* — верасень.

[6] *І выбегуць з цырульні вар'яты, каб адабраць у цябе вострае тваё.* — З ліста М. Гарэцкага ад 13 верас. 1931 г.: «З рэчаў пакуль што болей нічога не прадаваў, толькі брытву і асялок, за абедзве рэчы разам узяў (у парыкмахерскай) 20 руб.».

[7] *Падаюць лісты* — лістапад.

[8] *Дзве дзяўчынкі і маці.* — Гаворка ідзе пра жонку А. Бабарэкі Ганну Іванаўну, якая разам з дочкамі Элеанорай і Алесяй ехала да мужа ў г. Слабадскі. М. Гарэцкі ў Вятцы дапамог ім перасесці на іншы цягнік.

### *Скарбы жыцця (с. 524)*

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1993, № 2, дзе апублікавана ўпершыню. Публікацыя Г. Гарэцкай.

Датуецца 1935 г. (не раней за сакавік), і, магчыма, 1937 г. на падставе вывучэння гісторыі тэксту.

Тэкст аўтографа, які захоўваецца ў ЦНБ НАН Беларусі (ф. 7, воп. 2, адз. зах. 25, арк. 45, 2–39) не апрацаваны аўтарам да канца. У ім ёсць шматлікія праўкі, выкрэсліванні, варыянты, паметы. Адсутнічае пачатак асноўнага тэксту. Яго варыянты занатаваны пад наступнымі назвамі: «Скарбы жыцця (Лебядзіная песня)», «Скарбы (Лебядзіная песня)», «Плач» і «Брама скарбаў» (апошні захоўваецца ў ф. 7, воп. 2, адз. зах. 20). Паколькі ў трох выпадках, з пералічаных варыянтаў, М. Гарэцкі пачынаў сваё апавяданне з «адкрыцця брамы», то апошні з іх (пад назвай «Плач»; назва закрэслена, арк. 45) пры падрыхтоўцы тэксту для публікацыі ў часопісе «Полымя» пастаўлены ў пачатак тэксту твора. Гэта адпавядае аўтарскай задуме, а таксама пацвярджаецца логікай разважанняў — калі ў канцы твора М. Гарэцкі піша: «Браму скарбаў сваіх зачыняю», то зразумела, што спачатку яе патрэбна было адчыніць.

Увесь астатні тэкст надрукаваны ў той паслядоўнасці, якая пададзена пісьменнікам у першапачатковым варыянце, пачынаючы ад упісанай аўтарам назвы: «Скарбы жыцця».

Шматлікія выкрэсліванні, зробленыя пісьменнікам у тэксце рукапісу, у пераважнай большасці ўзноўлены, выключэнне — тыя, варыянты якіх паўтараюцца. Непаслядоўна зробленыя аўтарам праўкі моўна-стылёвага характару не ўлічаны.

Незавершанасць працы над творам перашкодзіла зразумець і ўлічыць усе ўнесеныя пісьменнікам змены. З гэтай прычыны пры падрыхтоўцы тэксту аддадзена перавага яго першапачатковаму варыянту.

[1] *Белыя і чырвоныя камяніцы, і чырвона-бурыя дахі камяніц…* — тут ідзе гаворка пра педінстытут і педтэхнікум.

[2] *Вапенны пыл еў мне вочы і глотку.* — Гаворка ідзе пра часовую працу М. Гарэцкага на руйнаванні і поўным зносе унікальнага сабора XIV ст., на месцы якога пабудавалі стадыён.

[3] *Ад цямна і да цямна танцаваў я, крукам сагнуўшыся, раскірэкаю прыткнуўшыся ля троніка свайго фаховага…* — праца чарцёжнікам.

[4] *Мядзведзь ходзіць, Пралеску водзіць…* — малодшы брат М. Гарэцкага Гаўрыла Іванавіч і яго жонка Ларыса Іосіфаўна, якія ў той час жылі на поўначы.

[5] *…па бульбу ў пограб хадзіць: не было б гэтага няшчасця.* — Маецца на ўвазе смерць маці М. Гарэцкага. Ефрасіння Міхайлаўна падняла са склепа цяжкі кошык з бульбай, што з’явілася прычынай няшчасця. Яна памерла ў магілёўскай бальніцы 5 сак. 1935 г. Паехаць на пахаванне М. Гарэцкаму не дазволілі.

# ДРАМАТУРГІЯ

## *Жартаўлівы Пісарэвіч (с. 553)*

Друкуецца паводле выд.: Гарэцкі, М. Творы. Мінск, 1990.

Упершыню — час. «Полымя», 1925, № 8.

«Шматок драмы» пад назвай «Жарты пана Пісарэвіча» апублікаваны ў газ. «Наша будучыня», 8 снеж. 1922 г. Падпісаны псеўданімам *А. Мсціслаўскі*.

Надрукавана ў кнізе: Гарэцкі М. Жартаўлівы Пісарэвіч: Сцэнкі і размовы. Мінск, 1928.

Датуецца 1922, 1927 гг. на падставе [«Храналогіі твораў»*].

Г. Гарэцкая, дачка пісьменніка, ва ўспамінах пісала: «Бацька, — знаю ад маці, — вельмі любіў гэты твор. Ёсць у Пісарэвіча і яго рысы: вялікае разуменне людзей, дабрата, цярплівасць, здольнасць жартаваць нават у сумныя, цяжкія хвіліны жыцця». (Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы. — Мінск, 1984. — С. 31.)

[1] *Ма́слянка* — масленіца, старажытнае свята сустрэчы вясны ў славян.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

## *Наш тэатр (с. 579)*

Друкуецца паводле выд.: Гарэцкі, М. Творы. Мінск, 1990.

Упершыню — зб. «Калядная пісанка: 1913 год». Вільня, 1913. (Тэкст артыкула з нязначнымі і нешматлікімі розначытаннямі перадрукаваны ў газ. «Гоман», 1916, 27, 31 кастр., 3, 7 лістап.)

Датуецца годам апублікавання.

Артыкул напісаны, відаць, у сувязі з палемікай аб шляхах развіцця беларускай літаратуры, якая вялася на старонках «Нашай нівы» ў 1913 г.

[1] *Блажэньні алчушчые і жаждушчые праўды, яко ціі насыцяцца...* — словы Хрыста з Евангелля паводле Мацвея (5: 6). Ужыты ў пераносным сэнсе: вялікім жаданні стварэння высокамастацкіх драматычных твораў пра жыццё беларускага народа, якія садзейнічалі б развіццю нацыянальнага тэатра, са сцэны якога можна «гукнуць» беларуса «да новага жыцця», абудзіць яго свядомасць.

[2] *...гл. Ляцкі, Насовіч, Раманаў...* — маюцца на ўвазе працы, у якіх выдадзены беларускія прыказкі і прымаўкі, сабраныя Я. А. Ляцкім («Материалы для изучения творчества и быта белорусов: Пословицы, поговорки, загадки», т. 1 (1898); І. І. Насовічам («Зборнік беларускіх

* Аўтограф без загалоўка, у якім занатаваны назвы твораў па прынцыпе «Храналогіі маіх твораў».

прыказак» (1867); Е. Р. Раманавым («Беларускі зборнік», вып. 1–9 (1886–1912).

[3] *Вярцéп (вяртэп)* — адзін з тыпаў беларускага народнага лялечнага тэатра батлейка, вядомага з XVI ст.

[4] *...як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах.* — Паводле Бібліі (Ісус Навін, 6), непрыступныя сцены горада Іерыхона (адзін з самых старажытных гарадоў у Палесціне, цяпер тэрыторыя Іарданіі) абрынуліся ад гукаў труб і крыку заваёўнікаў-ізраільцян.

[5] *...па якому «шляху жыцця пайсці...»* — Узятыя ў двукоссе словы належаць Я. Купалу. Выкарыстаны М. Гарэцкім, магчыма, паводле назвы зборніка «Шляхам жыцця» (1913).

[6] *...тэатр — дамаская сталь, вострая з абодвух бакоў.* — М. Гарэцкі параўноўвае тэатр са зброяй, якая выраблялася з самага высокага гатунку ўзорыстай сталі (месца вытворчасці — сталіца Сірыі Дамаск), маючы пры гэтым на ўвазе не толькі прызначэнне тэатра, але і яго дзейнасць.

[7] *Ваал (Баал)* — адзін з старажытнаўсходніх багоў, культ якога быў шырока распаўсюджаны ў Фінікіі, Палесціне, Сірыі і ў II—I тысячагоддзях да н. э. пашырыўся далёка на Захад (у Егіпет, Іспанію і інш.). Прызнаваўся як бог урадлівасці, водаў, вайны, грому і г. д.

[8] *Астáрта* — грэцкая назва галоўнай фінікійскай багіні Аштарт, якая лічылася багіняй зямной урадлівасці, мацярынства і кахання, а таксама астральным боствам.

[9] *...а не бруднай стайняй Аўгія...* — маецца на ўвазе старажытнагрэцкі міф пра стайні цара Аўгія, што не чысціліся 30 гадоў і былі вычышчаны Гераклам за адзін дзень: ён пусціў у іх воды рэк Алфея і Пенея.

[10] *...злога бога Арымáна...* — грэцкая назва старажытнаіранскага боства Анхра-Мáйнью, тварца ўсяго злога, варожага, страшнага (смерці, хваробы, засухі і г. д.).

[11] *...паслухайце мову «Кобзаря»...* — мову твораў, напісаных Т. Р. Шаўчэнкам, якія склалі яго паэтычны зборнік «Кабзар» (1840).

[12] *...багаты славесны скарб, што сабралі дагэтуль на нашай ніве шаноўныя за гэткую працу дабрадзеі: Насовіч, Шэйн, Раманаў, Карскі...* — маюцца на ўвазе працы па этнаграфіі, фальклору, мове, культуры, быту Беларусі, якія былі выдадзены І. І. Насовічам, напрыклад: «Слоўнік беларускай мовы» (1870), зборнік «Беларускія песні» (1873); П. В. Шэйнам — «Беларускія народныя песні» (1874), «Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», т. 1–3 (1887–1902); Е. Р. Раманавым (гл. заўвагу 2); Я. Ф. Карскім — «Беларускія песні в. Навасёлкі-Затрокскія Віленскай губерні Трокскага павета» (1889), «Беларусы», т. 1 (1903).

[13] *...у мове штукаркі М. ... (словы Пронкі, «Хам»).* — Гаворка ідзе пра спектакль «Хам» паводле аднайменнай аповесці Элізы Ажэшкі, прэм’ера якога адбылася 21 лістап. 1911 г. Пастаўлены спектакль Беларускім музычна-драматычным гуртком у Вільні па інсцэніроўцы А. Бурбіса. Ролю Пронкі выконвала Ф. Мурашка.

[14] *Валатоўка* — курган, у якім, паводле народных уяўленняў, пахаваны легендарныя асілкі-волаты.

[15] *«Чачотачка»* — беларуская народная песня, якая пачынаецца словамі: «Спарадзіла чачотачка семера дачок, / Спарадзіла невялічка семера малых…»

[16] *...«А хто там ідзе?»... з труднай музыкай...* — верш Я. Купалы «А хто там ідзе?» (1905–1907), музыку да якога ў 1910 г. напісаў польскі кампазітар і дырыжор Л. М. Рагоўскі.

### *Развагі і думкі (с. 587)*

Друкуецца паводле выд.: Гарэцкі, М. Творы. Мінск, 1990.

Упершыню — зб. «Велікодная пісанка: 1914 год». Вільня, 1914.

Датуецца годам апублікавання.

[1] *«Я ведаю толькі тое, што я нічога не ведаю».* — Афарызм, які любіў паўтараць грэцкі філосаф Сакрат (470 (469) — 399 да н. э.).

[2] *...«сярод лядоў, сярод жуды»...* — магчыма, адвольна працытаваныя радкі верша А. Гаруна «Навакол» (1912). У А. Гаруна: «Снягі, ляды, / абраз жуды / на заўсягды / на вечны час / ляглі».

[3] *...і ты, дзядзька Янка, і ты, дзядзька Якуб, і вы, усе другія «парнаснікі» нашы...* — «парнаснікамі» назваў Янку Купалу, Якуба Коласа і некаторых іншых пісьменнікаў Ю. Верашчака (В. Ластоўскі) у артыкуле «Сплачывайце доўг» («Наша ніва», 1913, 5 ліп.).

[4] *...«мазепінства» ўкраінцаў...* — прыхільнасць украінцаў да ідэй С. І. Мазепы (1644–1709), гетмана Левабярэжнай Украіны (1687–1708), які прыкладаў усе намаганні, каб адарваць Украіну ад Расіі.

[5] *Сінедрыён* — Савет старэйшын, вышэйшая дзяржаўная ўстанова з палітычнымі і судовымі функцыямі ў Старажытнай Іудзеі.

[6] *...вучоны акадэмік Северін, так няясна сабе выяўляў істоту Беларусі і беларусаў, што ў сваіх дарожных пісульках (каторыя ён пісаў, ездзячы па нашаму краю)...* — Севяргін Васіль Міхайлавіч, рускі мінералог і хімік, які пасля паездак у 1802 і 1803 гг. у беларускія губерні даў іх прыродазнаўчае і этнаграфічнае апісанне ў «Запісках падарожжа па заходніх правінцыях Расійскай дзяржавы…» (1803) і «Прадаўжэнні запісак…» (1804).

[7] *...вучыцца гісторыі «не па Ілавайскаму»...* — гаворка ідзе аб падручніках па ўсеагульнай і расійскай гісторыі для сярэдняй школы, аўтарам якіх быў гісторык дваранска-манархічнага кірунку Дз. І. Ілавайскі.

[8] *...Бялінскі не зірнуў глыбей у жыццё ў справе адраджэння ўкраінскай літаратуры...* — М. Гарэцкі, відаць, мае на ўвазе памылковую ацэнку В. Р. Бялінскім творчасці Т. Р. Шаўчэнкі, у прыватнасці, яго паэмы «Гайдамакі» (1841).

[9] *...далей пераліцованых Энеід яна не можа пайсці...* — Маецца на ўвазе парадыйная паэма ўкраінскага пісьменніка *Катлярэўскага* Івана Пятровіча (1769–1838) «Энеіда» (1794–1809), якая напісана на сюжэтнай аснове аднайменнай паэмы рымскага паэта Вергілія (70–19

гг. да н. э.). І. Катлярэўскі рэалістычна, з элементамі сацыяльнай сатыры паказаў жыццё і побыт розных грамадскіх слаёў украінскага народа другой паловы XVIII ст.

[10] *...каб нёс ужо ён з рынку не «мілорда глупага»...* — адвольна перdesignated радкі з паэмы М. А. Някрасава «Кому на Руси жить хорошо» (1865–1876) (частка І, раздзел ІІ). У Някрасава: «Когда мужык не Блюхера / И не милорда глупого — / Белинского и Гоголя / С базара понесет?»

[11] *...мачульнае выданне...* — выданне на паперы нізкай якасці.

[12] *Гэта не ёсць езуіцтва, бо хаця тут «цель оправдывает средства», аднак...* — езуіты (члены манаскага каталіцкага ордэна «Таварыства Ісуса», які стварыў у 1534 г. іспанскі дваранін Ігнацій Лаёла) у сваёй дзейнасці кіраваліся прынцыпам «мэта апраўдвае сродкі».

[13] *...«сярод маны, сярод насмешкаў»...* — радок з верша Я. Купалы «Прарок» (1912).

[14] «Шляхам жыцця» — зборнік вершаў Я. Купалы (1913).

[15] *«Языкъ свой наложила она... и пѣснопѣніе церкви». «...пѣснею и стихомъ... народной...»* — цытаты, выкарыстаныя з уступнага раздзела кнігі П. Бяссонава «Белорусские песни» (1871).

## ТЛУМАЧЭННІ НЕКАТОРЫХ СЛОЎ У ТВОРАХ М. ГАРЭЦКАГА*

Або́рак — лужок сярод раллі, саду. Мясціна, якую не аруць.
А́джа — аднак жа, вось жа.
Адылі́ — а пасля, а далей; аднак.
Азу́ка — спрытны, шустры, бойкі.
Азы́знуць — прамерзнуць, празябнуць.
Азялі́цца — выйсці з нармальнага стану, як бы ап’янець (ад зелля).
Амбара́с — непрыемныя турботы, непакой.
Амяга́ць — знемагаць (ад смагі, смеху, жадання чаго-небудзь і г. д.).
Апо́куль — гультай, абібок.
Асцю́лькі — тонкія доўгія шчаціністыя вусікі на каласах некаторых збожжавых.
Асця́гла — заўзята; вельмі настойліва.
Ато́ра — дробная салома з абмалочанымі каласамі.
Багаўня́ — скрыначка ў куце пад абразамі.
Базы́калы — пустасловы.
Ба́нька — вялікае металічнае колца (у дзвярах ці сцяне); шпора.
Бало́нка — шкло ў раме акна.
Баля́сіны — драўляная апора печы.
Бо́лачка — воблачка.
Бру́кша — бручка.
Уса́йла — гуляка, грубіян.
Бяда́ — двуколка, лёгкі вазок.

* Даюцца пераважна тыя значэнні слоў, у якіх яны ўжыты пісьменнікам.

Важáшкі — дубчыкі.
Валéй — лепш.
Вязёнкі — вязаныя рукавіцы.
Вык — віка.
Высакасэ́рдасць — высакамернасць, ганарыстасць, пагарда.
Вя́тка — натоўп, гурт.
Газардóўны — азартны, заўзяты.
Галу́за — гарэза, весялун, непаседа.
Гамавáць — стрымліваць, сунімаць, супакойваць.
Гóні — няпэўная мера даўжыні ў 60–100 сажняў.
Гру́здзілы — цуглі.
Грэ́бні — прылада для расчэсвання воўны і льну.
Гу́галь — куколь, пустазелле, якое расце ў збожжавых раслінах.
Гуры́на — від нітак.
Дамату́р — дамасед.
Дрыжóны — ненаглядны, дарагі, любы, мілы.
Ёдка — балюча ад холаду, марозна.
Ёлка — гаркавата.
Жмóгус (*літ.*) — чалавек.
Жмудзíны — жэмайты, жыхары Заходняй Літвы (Жэмайціі).
Завалачы́ць — забаранаваць.
Захвіцэ́нне — летаргічны сон.
Злáшча — тым больш; асабліва.
Зніз — апранутыя адна на адну вопраткі.
Зю́каць — гаварыць.
Зямéц — пчаляр.
Кабáт — састаўная частка беларускага народнага жаночага касцюма ў выглядзе безрукаўкі (гарсэт).
Кадáк — тып фотаапарата.
Кáіта — каянне, раскаянне.
Калаву́рка — вартоўня пры царкве.
Калю́га — глыбокая каляіна, выбоіна.
Камлы́га — цвёрды ком, глыба зямлі.
Кукóбіць — пялегаваць, песціць, мілаваць.
Кумíрня — невялікая язычніцкая малельня з кумірамі (статуямі язычніцкага бога).
Ку́нігас (*літ.*) — ксёндз.
Ку́рчына — асобная жэрдка (паліца) у хаце пад столлю для гаспадарчых патрэб.
Ку́хан — невялікі салодкі коржык.
Ку́хлік — невялікі збаночак.
Лазóбка — драўляная пасудзіна, выдаўбленая часцей за ўсё з ліпавага абрубка. Служыць для захавання мёду, мукі.
Лáйба — вялікая лодка, барка.
Ланту́х — страўнік.
Лату́шка — гліняная або драўляная міска.

Ле́ска — плеценая агароджа з арэхавых ці яловых дубцоў (пруцікаў).
Ляндры́нкі — манпансье (ледзянцы).
Ляшы́ць — адзначаць пры пасеве следам нагі ці пучком саломы, дзе лягло зерне; пакідаць ляху, след.
Маге́рка і марге́лка — невялікая лёгкая мужчынская шапка з лямцу (воўны).
Мост — падлога ў хаце.
Мы́січкі — насочкі.
Мыт — панос.
Мы́чка — жменя льну, падрыхтаваная для пражы.
Мя́кнуць — мокнуць.
Мя́ліца (церніца) — самаробная прылада, на якой мялі лён, каноплі.
Насну́дзіць — настроіць, наладзіць.
Напо́вірку — несці груз удваіх на палцы.
Наруга́цца — дражніцца, насміхацца, знарок злаваць сваімі дрэннымі паводзінамі.
Наста́ліваць — наварваць сталлю.
На́ўды — нядзіўна, няма нічога асаблівага, няма чаму дзівіцца.
Незюклі́вы — негаваркі.
Падо́л — месца на рацэ, сажалцы, дзе мыюць бялізну.
Пазала́чваны — пазалочаны.
Па́наўка — палонка.
Партпле́дзік — дарожная сумка або чахол для пледа і пасцельных рэчаў.
Па́рыня — папар.
Паско́нныя — з грубай шорсткай тканіны (апошняга гатунку канопляў).
Пасэ́сар — арандатар.
Пасэ́сія (пол. *posesja*) — нерухомасць, зямельнае валоданне.
Пла́жам — пластом.
Пол — ніжнія нары каля сцяны ў сялянскай хаце, якія служылі як ложак.
Праку́да — надзвычайнае здарэнне; свавольнік, выдумшчык.
Праску́ркі — паўночная мальва.
Пратэ́сы — царкоўныя харугвы.
Пу́шачка — скрыначка.
Пы́ні — маўляў, кажа.
Разкі́ — участкі зямлі.
Ру́пата — клопат, турботы.
Рышт — канава.
Са́нкі — ніжняя сківіца ў людзей або жывёлы.
Саха́ — слуп, падпорка ў гумне.
Сіг — крок.
Спамі́н — успамін, памяць.
Стадо́ла — будынак для вазоў на заезным двары.
Су́валка — рэшткі валакна пасля трапання льну або канопляў.

